# АНДРЭЙ МАКАЁНАК

## ЗБОР ТВОРАЎ

# Андрэй Макаёнак

## ЗБОР ТВОРАЎ У ПЯЦІ ТАМАХ

# Андрэй Макаёнак

ТОМ
ПЕРШЫ

П'ЕСЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

# З ВЕРАЙ У ДАБРЫНЮ

У мастацтве і жыцці Андрэй Макаёнак вельмі любіў рамантыку і рамантыкаў, а між тым самога яго нястрымна, неадхільна «заносіла» на сатыру. І ў гэтым не было ніякай супярэчнасці, як не было яе ў пастаяннай мары нашага знакамітага камедыёграфа напісаць лірычны раман. Яркі, квяцісты, звонкі і — толькі самую крышачку — іранічны. І ён напэўна ж напісаў бы яго. Насуперак меркаванням некаторых скептыкаў, якія сцвярджалі, што А. Макаёнак, маўляў,— творчы «аднастаночнік», што ў іншых жанрах ён адчуваў сябе ледзь не бездапаможным. Не, чалавек таленавіты, як правіла, таленавіты ва ўсім. А адказам скептыкам можа добра паслужыць «Уверцюра» да камедыі «Таблетку пад язык». «Хай будзе песня. Хай дзяўчаты яе спяваюць. Задушэўна. Мякка.

> Люблю мой край, старонку гэту,
> Дзе я радзілася, расла,
> Дзе першы раз пазнала шчасце,
> Слязу нядолі праліла.

Кожны раз, калі я пачую гэтую песню, перада мною ўзнікае, як дзівосны міраж, як дзіцячая казка, вобраз майго роднага сяла, і сэрца пачынае шчымець радасцю жаданай сустрэчы... І няважна — даўно я там быў ці толькі ўчора адтуль.

Не, не забыць мне яго ніколі. Там — радзіма. У душы яна. У памяці. У снах неспакойных. У пастаянным чаканні нясна чаго, у спадзяванні на нешта харошае, радаснае. Нібы вясну чакаю з цёплым ветрыкам і дожджыкам. А можа, першых усходаў, якія потым гіпнатычна вабяць твае вочы, твой погляд, аж пакуль бледненькія расточкі паднімуцца сцебялькамі, а з іх ускалышуцца буйныя каласы — падзея і радасць сялянская...

Прыплюшчыш іншы раз вочы, і перад табою ўзнаўляюцца некалі бачаныя ці міжволі падслуханыя вячэрнія сельскія маленькія інтэрмедыі. Яркія. Сакавітыя... Вось яны. Вясна. Вечар. Месячык. У нас яшчэ яго маладзікам завуць. Зорак — поўны кош. А гукаў!...

Здаецца, усе млеюць ад нейкіх салодкіх пакут жадання: і звон-

кія цвыркуны, і галасістыя лягушкі, і камары з далікатнымі скрыпкамі. А то раптам, спрасоння ці ад нуды, ляніва завые сабака ці цяжка-цяжка ўздыхне сумная, журботная карова. А ля самых гародаў плешчацца ў цемені вясенняя поводка. І гракі... Грачыны грай!..

Здараецца і так: раптам на ўсё сяло неспадзявана разносіцца сакавіты, звонкі, галасісты жаночы кліч:

— За-а-ха-а-р! Вячэраць ідзі! А то бульба пераварылася на кісель!.. Дзе ён згінуў?!

І зноў цішыня, да краёў напоўненая гукамі...»

Як добра бачыцца за гэтымі лірычнымі, а таму нібыта «немакаёнкаўскімі» радкамі іх аўтар! Як яскрава выяўляюць яны крыніцу яго любові і гневу.

Хто ўмее так згадваць родныя мясціны, той здольны напісаць любую рэч, у любым жанры, бо душа, акрыленая любоўю да Айчыны, не мае абмежаванняў у сваіх творчых магчымасцях. А Макаёнак да таго ж яшчэ з ранняга дзяцінства выявіў многія мастацкія схільнасці: выдатна рэзаў па дрэве, добра маляваў, вызначаўся не абы-якімі акцёрскімі здольнасцямі...

І ўсё ж, ён стаў драматургам. І не звычайным, а сатырыкам. Стаў працаваць у жанрах і рэдкіх, і па-жыццёваму клопатных. Як гэта атрымалася? Сам пісьменнік сцвярджаў, што не ён абраў сатыру, а сатыра выбрала яго, што наогул лёс не даў яму асаблівых магчымасцей для выбару жыццёвых сцежак-дарожак. Наколькі справядлівае гэта сцверджанне, можна пераканацца толькі адным шляхам: прайсціся разам з пісьменнікам яго жыццёвымі пуцявінамі.

Жыццёпіс такіх неардынарных, творча выдатных людзей, якім быў Андрэй Макаёнак, заўсёды абрастае легендамі, дапаўняецца гісторыямі цалкам прыдуманымі, хоць і з усімі адзнакамі верагоднасці. Зрэшты, яны, гэтыя гісторыі ды легенды, адыгрываюць несумненна пазітыўную ролю, дамалёўваючы воблік пісьменніка, надаючы яму ў вачах грамадскай думкі выгляд завершанасці. Толькі ж не варта дапускаць, каб яны, зафіксаваныя ў друку, набывалі статус дакументальных. Гаворыцца гэта таму, што ў апошніх публікацыях аб творчасці А. Макаёнка не-не ды і прамільгне недакладнасць біяграфічнага парадку. І каб не множыць памылак, пры згадцы аб жыццёвых перыпетыях, лёсу пісьменніка будзем часцей заглядваць у «Аўтабіяграфію», якую ён напісаў па просьбе аўтара гэтых радкоў.

«Нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Борхаў Рагачоўскага раёна 12 лістапада 1920 года. У 1927 годзе ў нашай вёсцы адкрылася пачатковая школа — падзея больш значная для вёскі, чым адкрыццё ў Гомелі універсітэта.

Дружбакі пайшлі ў школу, а мяне не прынялі, і не хапала месяцаў — замалады. Сядзеў пад вокнамі ўсю восень. А калі пачаліся замаразкі, настаўніца зжалілася — пусціла ў клас. І я прыжыўся там. Так і вучыўся, стараўся, каб не прагналі ад дружбакоў.

У пяты клас хадзіць было далекавата — за восем кіламетраў. І калі праз год адкрылася сямігодка ў вёсцы Шапчыцы — бліжэй на пяць кіламетраў, бацькі рашылі: лепей два разы паходзіць у пяты клас, але бліжэй, чым бегаць за навукай далёка. На лапцях эканомія».

Што ж, бацькоў можна было зразумець: суровы час абумоўліваў характар паводзін. І ім хацелася б папеставаць сваіх дзетак, даць ім удосталь нагулянца, нацешыцца дзяцiннымі забавамі. Але ў пачатку трыццатых гадоў з разгортваннем калектывізацыі няўмольную волю дыктавала магічнае «трэба». Менавіта таму будучаму драматургу давялося вельмі рана далучыцца да працы. У адным з лістоў па ўліку кадраў ён запісаў: «1932-33-34 — пастухом у калгасе». Пазней ён неаднойчы ўспамінаў, наколькі няпростай справай было тое пастухоўства. «Асабліва калі прыгадаць, пасля якога сняданку выганяў на пашу свіней: галадуха вымушала маці на такія кулінарныя хітрыкі, як прыгатаванне страў з лебяды, лісця ліпы, а потым бацвіння. Цяпер, запознена магу прызнацца, што даводзілася, азірнуўшыся па баках, спешна выгортваць з баразнаў толькі ўчора пасеяную бульбу. Было. Цяпер ужо за даўнасцю можна прызнацца. А тады — крый бог, даведаўся б мой бацька — пісягоў на спіне панасіў бы.

Ён быў прававерны актывіст.

Свіней з калгаснай фермы пасвіць паслаў ён нас, бо ніхто не хацеў за так ганяць у поле іх. Яны ж не свінні былі, а злыя ганчакі. Такія рухавыя і прадпрымальныя, што нават доўгая пуга была толькі сімвалам улады. А ўладай быў — голад. Ён і гнаў іх у шкоду. За дзень, бывала, так выбегаешся, што засынаў, не даходзячы да пасцелі. А прачынаўся, здаецца, тут жа, так хутка пралятала ноч. Маці, хоць і шкадавала будзіць, але абавязак прымушаў яе шкадаваць да пары. У школу хадзілі з братам праз дзень. Дзень я пасу — ён у школе, а назаўтра мяняліся: я ў школе, а ён пасе».

Лагічна было б меркаваць, што ў такіх умовах школьныя справы будучага драматурга складваліся кепска. Але ж — не! Андрэй Макаёнак заўсёды быў сярод лепшых вучняў. Такім паказаў сябе і на выпускных экзаменах у Журавіцкай сярэдняй школе (1938 год). У гэтым жа годзе паступіў у ваеннае вучылішча, аднак не затрымаўся ў ім. «Вельмі ж не па мне была там дысцыпліна. Рос анархістам — пастухом. Прывык да волі, а там... Набузіў. Паколькі яшчэ прысягі не даваў — мяне па-добраму адправілі дамоў. І я быў удзячны таму памкамузвода, якому я нахаміў, а ён «як і паложана» далажыў па камандзе».

Папрацаваўшы год у раённым доме сацыялістычнай культуры, зрабіў новую спробу паступіць на вучобу. Гэтым разам — у Маскоўскі інстытут кінематаграфіі. Прыняць не прынялі, але, вяртаючы дакументы, запрасілі праз год паступаць зноў. І хто ведае, што з гэтага атрымалася б, але выйшаў указ аб воінскім прызыве юнакоў з сярэдняй адукацыяй на год раней, які і прадвырашыў

далейшы лёс А. Макаёнка. У кастрычніку 1939 года давялося яму апрануць салдацкі шынель. Пачынаў службу на Каўказе, у Грузіі, якая — з яе скаламі ды цяснінамі — здалася ледзь не казачнай краінай. Напачатку. Пакуль не пачаліся паходы з поўнай баявой выкладкай, з частымі начнымі баявымі трывогамі, з капаннем акопаў у камяністай глебе. Прызначэнне памочнікам палітрука роты палёгкі не прынясло: засталася ўсё тая ж салдацкая ношка, а дадаўся абавязак выпускаць баявыя лісткі, чытаць чырвонаармейцам свежыя газеты, праводзіць з імі гутаркі, паказваючы пры гэтым «узоры бадзёрасці і аптымізму». Служыў, сніў родную борхаўшчыну і зусім не думаў, што самае цяжкае ўперадзе. Да вайны рыхтаваліся, але... «Вайна звалілася ўсё-такі нечакана для нас — кадравых вайскоўцаў. Напачатку настрой быў — шапкамі закідаем. Верылі ў свае сілы, свой дух і вельмі спадзяваліся на класавую салідарнасць нямецкіх рабочых і сялян...

У жніўні 1941 года пайшлі да іранскай граніцы, каб апярэдзіць пранікненне туды немцаў. Казалі, што там яны вілі гняздо. Каля двухсот кіламетраў пехатою — ды ў такую спякоту, ды з такім ранцам. А ліха з гэтым паходам! Нам здавалася, што вядуць нас не туды. Вайна ж ішла ў іншым месцы. Там нашы здавалі горад за горадам... Там былі патрэбны мы і наша злосць».

Толькі перад самым Новым годам, калі ўсе савецкія людзі жылі пад уражаннем разгрому немцаў пад Масквой, дывізію, у якой служыў А. Макаёнак, кінулі ў бой. У пекла крымскага дэсанта. «Цяжка было. Многіх сяброў страціў. І сам цудам выбраўся, атрымаўшы два цяжкія раненні. Аднак ногі выратаваў. На сваіх хаджу». Пра трагічныя перыпетыі лёсу драматурга ў крымскім дэсанце напісана нямала. Не паўтараючы сказанага, хочацца нагадаць прызнанне А. Макаёнка, зробленае пры падрыхтоўцы інтэрв'ю для штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». «У жыцці людзі падзяляюцца на лірыкаў і сатырыкаў. Усё залежыць ад умення бачыць жыццёвыя праявы. Лірыку дастаткова знешняга антуражу, сатырык жа надзелены здольнасцю пранікаць у самыя патаемныя глыбіні любой сацыяльнай з'явы. Сярод адных і другіх могуць быць злосныя і добрыя, разумныя і тупыя, высакародныя і подлыя. Добрыя сатырыкі становяцца пісьменнікамі. Не ўсе, вядома, а толькі тыя з іх, хто адораны душэўнай празорлівасцю і стойкасцю характару. Празорлівасць даецца прыродай, а стойкасць выпрацоўваецца ў гарніле выпрабаванняў. У мяне такім гарнілам быў крымскі дэсант».

Ратуючы ў палявым шпіталі пры дапамозе трафейнага пісталета свае ногі ад ампутацыі (урачы памылкова вызначылі гангрэну, але малады палітрук катэгарычна адмовіўся ад жахлівай аперацыі) Андрэй Макаёнак тым самым зрабіў максімалісцкі маральны выбар: лепш не жыць, чым застацца калекам. Можна зразумець бескампраміснасць яго грамадзянскай пазіцыі ў будучым. Не мог чалавек, які выбіраў смерць замест уласнага калецтва, па-канфармісцку мірыцца з сацыяльнымі недахопамі ды перажыткамі — калецтвамі сацыяльнымі. Вайна не выпаліла з душы

А. Макаёнка дабрыні і спагадлівасці, але зрабіла яго характар загартавана-нязломным.

Зрэшты, сам драматург прызнаваўся, што яго жыццёвыя, ідэалагічныя і маральна-этычныя арыенціры акрэслілі не ўласна батальныя акцыі, а тыя пакутлівыя думы-развагі, якія апаноўвалі ў шпіталях Краснадара і Баку, дзе ён залечваў крымскія раненні. Да артадаксальнасці пераканаыя ў справядлівасці тых палітычных пастулатаў, якія прапагандаваў сярод чырвонаармейцаў, малады палітрук мусіў прызнаць, што дарэмна так некрытычна прымаў усе рашэнні нашага ваеннага камандавання, што сярод сапраўды таленавітых палкаводцаў былі і звычайныя бяздарнасці, якіх ён пазней у «Аўтабіяграфіі» назваў «тупымі генераламі».

Звыш чатырох месяцаў лячылі А. Макаёнка ў шпіталях. З'явілася нарэшце надзея трапіць на фронт. Аднак жа раны адкрыліся і замест фронту — дэмабілізацыя і выкладанне ваеннай справы ў Акаурцкай сярэдняй школе ў Грузіі. Навучаў дзяцей, уважліва прыглядаўся да побыту горцаў і моцна сумаваў па радзіме. Як жа ён радаваўся, калі нашы войскі вызвалілі Рагачоўшчыну! Дадому! Папрацаваўшы крыху больш за месяц у Журавіцкай сярэдняй школе, быў абраны першым сакратаром мясцовага райкома камсамола. Можна з упэўненасцю сказаць, што ўсе наступныя працоўныя перамяшчэнні былі лагічным, заканамерным набліжэннем А. Макаёнка да драматургічнай творчасці. Калі знаёмішся з яго паслужным спісам, то ўзнікае ўражанне, што ён свядома прыспешваў гэта набліжэнне. Сапраўды, паступіўшы ў снежні 1944 года на курсы прапагандыстаў пры ЦК КПБ, цэлых дзесяць месяцаў недабывае на іх і ідзе працаваць сакратаром Гродзенскага гаркома камсамола. Менавіта ў Гродна пачынаецца творчы шлях будучага драматурга. Вядома, сачыніцельствам, вершыкамі ды замалёўкамі — ён грашыў і раней, але іх нікому не паказваў, а дасылаць у друк нават і не думаў. Зрэшты, не ставіў А. Макаёнак перад сабою сур'ёзных творчых задач і ў 1945 годзе. Узяцца ж за пяро прымусіла суровая неабходнасць — у суровых умовах наладжвання камсамольскай работы на пасляваеннай Гродзеншчыне. У Журавічах было прасцей. Хоць і далятаглі, бывала, нямецкія снарады (фронт доўга ўтрымліваўся на Дняпры) аж да будынкаў райкома, але з людзьмі працаваць было лёгка. Заходняя ж Беларусь яшчэ не была прывучана да савецкага ладу жыцця, у лясах хавалася нямала антысаветчыкаў і звычайных бандытаў, вялікі ўплыў на моладзь аказвалі цэрквы і касцёлы. А ў гаркомаўскіх «арсеналах» — толькі голыя сцены. Ні кніг, ні плакатаў, ні метадычных распрацовак. Малады сакратар пачаў з таго, што намаляваў — і добра намаляваў! — партрэты партыйных правадыроў. Потым напісаў некалькі сцэнарыяў для клубных пастановак і агітбрыгад. Дайшла чарга і да драматычнай творчасці. Аднаактавая п'еса «Добра, што добра канчаецца» вельмі спадабалася таварышам па працы, якія параілі паслаць яе на конкурс, толькі што аб'яўлены Упраўленнем па справах мастацтва і культуры БССР. Для аўтара гэтая пасылка закончылася надзвычай добра: яго дра-

матургічны першынец атрымаў лаўрэацкі дыплом і прэмію. К гэтаму часу А. Макаёнак па сямейных абставінах мусіў пераехаць бліжэй да родных мясцін, заняўшы пасаду загадчыка парткабінета Магілёўскага чыгуначнага вузла. У чэрвені 1946 года ён наогул апынуўся на «зыходных пазіцыях», вярнуўшыся ў Журавічы, дзе пачаў працаваць памочнікам сакратара райкома партыі. Але круг не замкнуўся: у маладога партыйнага работніка была зусім акрэсленая мара — стаць пісьменнікам. Драматургам. І ён ведаў, што без сістэматычнай адукацыі не здолее яе ажыццявіць, таму ў верасні 1946 года едзе на вучобу ў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ.

«Вучыўся Макаёнак паспяхова,— успамінае яго аднакурснік М. І. Дзялец,— пацеў, як і іншыя, а можа быць, нават і больш за іншых... Мне здаецца, што менавіта ў гэтыя гады, гады вучобы ў партыйнай школе, ён ужо намеціў свой далейшы творчы — шлях драматурга. Вядома, нам, сябрам, ён аб гэтым нічога не гаварыў. Але мы ведалі, што над невялічкімі сатырычнымі творамі ён ужо працаваў. Адну з такіх п'ес «Быць бычку на вяровачцы» мы нават збіраліся паставіць на школьнай сцэне сіламі сваёй групы».

Сатырычныя схільнасці А. Макаёнка былі ўлічаны пры размеркаванні выпускнікоў школы: яго зацвердзілі загадчыкам аддзела прозы часопіса «Вожык». Пачаўся новы кругабег у творчай біяграфіі пісьменніка. Да гэтага часу, магчыма, і можна лічыць справядлівым прызнанне А. Макаёнка, што лёс не даў яму асаблівай волі пры выбары жыццёвых дарог. Фатальным, пэўным чынам, быў толькі прыход яго ў драматургію, а вось далейшы творчы шлях быў абумоўлены найстражэйшым узважваннем кожнага кроку.

У нашым літаратуразнаўстве склалася трывалая думка, што А. Макаёнак без ніякіх ускладненняў, імкліва і лёгка ўвайшоў у літаратуру. І як доказ звычайна нагадваюць: першая «поўнаметражная» п'еса «На досвітку» пастаўлена тэатрам імя Янкі Купалы ў 1951 годзе, а праз два гады з выхадам сатырычнай камедыі «Выбачайце, калі ласка» папулярнасць маладога драматурга пераcягнула межы і рэспублікі, і ўсёй Савецкай краіны. Што ж, ён і сапраўды не заседзеўся ў літаратурных чаляднiках. Ды справа ў тым, што «На досвітку» была далёка не першай яго шматактавай п'есай. А. Макаёнак адносіўся да ліку тых мастакоў, якія вельмі патрабавальна ставяцца да ўласнай творчасці. Лепш не пісаць зусім, чым пісаць пасрэдна. Менавіта гэты максімалісцкі прынцып вымусіў яго адмовіцца ад публікацыі першых шматактавых п'ес «Ворагі» і «Выйгрыш». Гэткі ж лёс напаткаў і драму «Узыходы шчасця», якая ў 1948 годзе была адзначана другой прэміяй на рэспубліканскім конкурсе. Не панёс ён яе і ў тэатр, хоць па ўмовах конкурсу ўсе п'есы-лаўрэаты атрымлівалі рэкамендацыі да пастаноўкі з боку Упраўлення па справах мастацтва і культуры БССР. Драматург прызнаўся, што апрача згаданай драмы ім да 1951 года было напісана яшчэ чатыры шматактавыя п'есы

і да дзесятка аднаактовак. На жаль, многія з іх згарэлі ў час пажару на дачы.

Прыход А. Макаёнка ў драматургію супаў з вельмі спецыфічным этапам у яе развіцці. Зрэшты, не развіцця, а гісторыі, бо ў атмасферы тэорыі бесканфліктнасці драматургія хутчэй дэградзіравала, чым рухалася ўперад. Малады пісьменнік цалкам усвядоміў гэта не адразу. Раскрыла ж вочы яму больш глыбокае знаёмства з творчасцю Кандрата Крапівы. Надзвычайнае ўражанне аказала на яго, напрыклад, сатырычная камедыя «Хто смяецца апошнім», якую ён ведаў без перабольшання на памяць, а ў тэатры стараўся не прапусціць ніводнага спектакля па ёй. Як непадобны былі жывыя жыццёва паўнакроўныя калізіі гэтай даваеннай п'есы на хадульныя, вымучана схематычныя канфліктныя повязі ў творах сучасных!

У адной з папак, дзе драматург захоўваў асабліва цікавыя для яго публікацыі, побач з Пастановай ЦК ВКП(б) «Аб рэпертуары тэатраў і мерах па яго паляпшэнню» (20 жніўня 1946 года) адклалася і газета «Правда» ад 7 красавіка 1952 года, у якой публікаваўся артыкул «Пераадолець адставанне драматургіі». Не, не наўгад ішоў у драматургію А. Макаёнак! Патрабаванне партыі і народа выправіць становішча ў драматургіі шчасліва супала з яго асабістым імкненнем пісаць толькі праўдзіва, толькі на высокім мастацкім узроўні. Ён не мог не вырасці ў буйнога пісьменніка нават у іншай сацыяльна-палітычнай атмасферы, у іншых жыццёвых умовах. Зарукай таму — яго выдатная прыродная адоранасць. Калі ж такую творчую асобу заклікае сам час — то поспех забяспечваецца безумоўны.

Патрабавальнасць да сябе ў мастацкім лёсе кожнага пісьменніка заўсёды адыгрывае станоўчую ролю. Праўда, у дачыненні да ранняй творчасці А. Макаёнка гэтае меркаванне можна прыняць з пэўнымі агаворкамі. Паэту ці празаіку дастаткова любой публікацыі сваіх твораў, каб праверыць вернасць уласнага творчага шляху. А вось для драматурга-пачаткоўца існуе толькі адна эфектыўная праверка — выпрабаванне сцэнай. Хто ведае, як склаўся б творчы лёс А. Макаёнка, калі б першую п'есу прафесійны тэатр паставіў не ў 1951 годзе, а гады на два-тры раней? Як бы там ні было, але сам пісьменнік неаднойчы падкрэсліваў, што толькі супрацоўніцтва з тэатрам, пастаноўка купалаўцамі драмы «На досвітку» раскрылі для яго сакрэты драматургічных жанраў, узброіўшы практычным навыкам творчасці для сцэны. Без гэтага навыку было б значна цяжэй так па-майстэрску арганізаваць няпросты жыццёвы матэрыял, пакладзены ў аснову сатырычнай камедыі «Выбачайце, калі ласка», якая праславіла яго як першакласнага майстра драматургіі. Пры напісанні драмы «На досвітку» А. Макаёнак памятаў у асноўным толькі праблему, дзеля якой і браўся за напісанне твора. У наступнай жа сваёй п'есе ён, не забываючы аб праблемнасці, увесь час помніў пра гледача. Менавіта гэта зрабіла яго па-сапраўднаму тэатральным пісьменнікам.

У 1957 годзе А. Макаёнак напісаў камедыю пад сімптаматыч-

най назвай — «Каб людзі не журыліся». Такая назва, думаецца, магла б добра стасавацца да кожнай яго п'есы. У тым ліку і да «Выбачайце, калі ласка». Сапраўды, выкрыццё каліберáўшчыны, якая ўвасабляла сабою паказуху, прыпіскі, дзьмутыя працэнты ў вытворчых паказчыках, праводзілася драматургам не дзеля самога выкрыцця. Кожны радок камедыі — і гэта добра адчулі гледачы — прасякнуты гарачай заклапочанасцю лёсам простага працаўніка. Гэтая заклапочанасць не пакіне яго да апошняга дня творчасці. Будзе мяняцца танальнасць твораў: гаркавата-мінорная ў «Каб людзі не журыліся», светлая, аптымістычная — у «Лявонісе на арбіце», якую крытыкавалі — часам, дарэчы будзе сказаць, залішне рэзка — за «прыхарошванне» рэчаіснасці, выяўляе гэту трывогу ў не меншай ступені, чым астатнія творы. Драматург любіў сваю «Лявоніху...», ганарліва вывесіў у рабочым кабінеце павялічаную фатаграфію са спектакля па ёй. А там — дружна ўскінутыя ў нястрымным рогаце галовы, выбух весялосці. Ён крыху крыўдаваў на крытыкаў, якія звужана трактавалі калізіі камедыі, зводзячы яе канфлікт да сутыкненняў уласніка Лявона і грамадска свядомай Лушкі. На адной з чытачоўскіх сустрэч драматург зачытаў вытрымку з кнігі І. Вішнеўскай «Камедыя на арбіце»: «Напэўна, камедыя гэта даўно б знікла, растварылася ў небыцці, засталася б на старых, з'едзеных пылам бібліятэчных паліцах, трывала сышла са свядомасці сучаснікаў, як сышлі дзесяткі і сотні камедый і трагедый, дзе ўвесь канфлікт засяроджваўся на тым, дзе і як будзе стаяць карова, дзе і як будуць несціся куры, дзе і як будуць расці яблыкі.

Але камедыя Макаёнка не растварылася ў небыцці, не сышла з памяці сучаснікаў, а, насуперак, вытрымала рэкордную колькасць спектакляў, прайшла з нечуваным поспехам амаль па ўсіх сцэнах тэатрах нашай краіны, шмат разоў зноў і зноў вярталася на сцэну ў розныя і розныя гады, выдавалася і перавыдавалася, перакладалася і зноў перакладалася на многія і многія мовы братніх рэспублік. Чаму ж? Ды таму, што Лявон і яго карова — гэта не проста Лявон і яго карова, карова тут, у п'есе Макаёнка, толькі метафара, толькі вобраз, арэчаўленае ўяўленне Лявона аб свеце, аб мары, аб сэнсе жыцця».

Пракаменціраваў пісьменнік гэтае сцверджанне вельмі коратка: «Іна Вішнеўская ўмее чытаць драматургію. А то возьмецца каторы «спецыяліст» аналізаваць п'есу — вушы вянуць. Для яго няма ніякай розніцы паміж газетным артыкулам і такім спецыфічным відам творчасці, як драматургічная...»

Усім маладзейшым сваім калегам, якія звярталіся да яго за кансультацыямі і дапамогай, А. Макаёнак даваў розныя парады, але тры былі агульныя: не садзіся за напісанне п'есы, пакуль не знойдзеш тэму агульнанароднага гучання; не забывай, што драматургія ў аднолькавай меры належыць і літаратуры, і тэатру, не гані ў п'есе газету. «Гнаць газету» — пісаць з разлікам на знешнюю актуальнасць — для яго было сінонімам літаратуршчыны, халтуры. Любая, нават самая найважнейшая, найактуальней-

шая праблематыка не выратуе твора, калі ў ім будзе адсутнічаць належны ўзровень мастацкага яе асэнсавання. Праўда, А. Макаёнак больш цярпіма адносіўся да слабых у мастацкіх адносінах п'ес, але з важнай грамадзянскай тэматыкай. А вось бліскучыя, фармальна дасканалыя пустышкі яго проста выводзілі з сябе. Самым зняважлівым азначэннем легкаважкасці камедыі ў яго было: «Яшчэ адзін Рацэр з Канстанцінавым з'явіўся». Пацяшаць можна і ў балагане, а тэатр — сур'ёзная трыбуна для пастаноўкі важных праблем, апрабацыі свежых думак. Пустапарожні смех можа дыскрэдытаваць любую ідэю, а разумны — дапаможа ўспрыняць яе не толькі інтэлектам, але і сэрцам. Вось чаму драматург так доўга падступаўся да напісання адной з найлепшых сваіх п'ес — трагікамедыі «Трыбунал». Задума яе акрэслілася яшчэ ў сярэдзіне 60-х гадоў, але раней усё ж была напісана трагікамедыя «Зацюканы апостал», без вопыту стварэння якой яму, думаецца, было б проста немагчыма справіцца з пастаўленымі мастацкімі задачамі. Якія ж творчыя набыткі «Зацюканага апостала» мог выкарыстаць А. Макаёнак пры напісанні «Трыбунала»? Перш за ўсё — новыя трагікамічнага асэнсавання жыццёвыя матэрыялы. А гэты навык патрэбны быў яму, як кіслародны балон вадалазу. Заглыбіўшыся ў невядомыя нетры складанага жанру, драматург рызыкаваў на кожным кроку. І вопыт «Зацюканага апостала» сваціў яму, не даваў збіцца са стваральнага тропу.

Часопіс «Советский экран» да трыццацігоддзя перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі арганізаваў шэраг «круглых сталоў» і гутарак, на якіх прысутнічалі пісьменнікі, акцёры, рэжысёры самых розных пакаленняў: побач з сівым ветэранам выступаў бязвусы юнак, каму вайна была вядомай толькі па мастацкіх творах ды расказах старэйшых. Дыскусіі адбываліся на паўдзесяцігоддзе пазней часу стварэння «Трыбунала», аднак да магчымасці камічнага адлюстравання падзей вайны па-ранейшаму многія ставіліся рэзка адмоўна. Усе сыходзіліся на думцы, што неабходна шукаць новыя падыходы да адлюстравання ваеннай тэмы, аднак асаблівага наватарства дапускаць збіраліся не многія. Што гэта так, засведчыла рэакцыя прысутных на выказванне рэжысёра і акцёра В. Басава. Грунтуючыся на ўласным ваенным вопыце, ён, у прыватнасці, сказаў: «Цяжка было? Цяжка! Вельмі! Але сёння, мне здаецца, і весела было... Весела, ярка, звонка — проста, як у каляровым кіно. Я хацеў бы зняць такую карціну пра вайну, калі і смех і слёзы — усё разам».

«Як жа так?» — гневаліся апаненты. Весела, ярка, звонка? Нічога з гэтага не выйдзе! Жывуць яшчэ мільёны скалечаных, мільёны сірот. Вось пазней... Пазней можна і пасмяяцца.

Гаварылі нешта падобнае і аўтару «Трыбунала». А ён толькі горка ўсміхаўся: хіба ж час здольны змяніць што-небудзь? Хіба ж цана нашага гора, нашых страт у Вялікай Айчыннай вайне з цягам часу стане меншай? Не, ніколі і ні на колькі. Пошук жа новых форм паказу чалавека на вайне неабходны нават хоць бы як даніна памяці пра тых, хто з яе не вярнуўся. Нецікава, шаблонна,

схематычна пісаць — значыць, не паважаць гэтай памяці. Вось чаму ў «Трыбунале» ўсё разам: смех і слёзы, узвышанае і нізкае, высакароднае і пачварнае, а побач з гэтым, дзякуючы гэтаму — яркасць адлюстравання матэрыялу, уражлівасць псіхалагічнага раскрыцця характараў.

А. Макаёнак любіў паўтараць, што без адкрыцця значных характараў, яркіх сацыяльных тыпаў няма сапраўднай літаратуры. Без такога адкрыцця ні адзін пісьменнік не застанецца ў памяці народнай. «Выйдзі на плошчу,— гаварыў ён,— у сталіцы, раённым гарадку, перад сельскім Домам культуры і спытай, як запомніліся тыя ці іншыя мастакі. Не яркімі сваімі біяграфіямі. Не. А героямі твораў. Вунь якое выдатнае, незвычайнае жыццё пражыў Байран, а імя яго асацыіруецца з вобразам Дон-Жуана. Так і іншыя пісьменнікі. Гукні, напрыклад, у натоўп імя Шэкспіра. Пачуеш:

— Гамлет, Рамэа і Джульета, Макбет...

Назаві Грыбаедава:

— Чацкі, Фамусаў, Малчалін...

Успомні Карнейчука:

— Платон Крэчат, Горлаў, Огнеў...

І нашых выдатных беларускіх пісьменнікаў памятаюць (і не толькі ў Беларусі!) па іх героях. У Купалы — Паўлінка, у Коласа — Лабановіч, у Крапівы — Гарлахвацкі, Туляга, Жлукта...»

Што ж, у гэтых адносінах А. Макаёнку чырванець не давялося б. У друку шмат разоў упаміналася, што ў народзе практыку адміністравання, паказухі, прыпісак часта называюць калібераўшчынай. І, вядома ж, ні ў кога не сцяла б дыханне ад няведання, калі б у людскую масу выгукнуць імя самога драматурга. Гарошка, Моцкін, Лявон і яго Лявоніха, Цесакоў з Глуздаковым... Асабліва ж палюбіўся публіцы галоўны герой трагікамедыі «Трыбунал» Цярэшка Калабок. Такія вобразы не часта сустракаюцца ў святле рампы. Прынамсі, менавіта такі характар і менавіта з такім высокім узроўнем мастацкага ўвасаблення ў савецкай драматургіі аналагаў не мае. У чым жа прыцягальная сіла вобраза?

Перш за ўсё — у яго жыццёвасці. Да «Трыбунала» ў беларускай драматургіі было створана нямала цікавых вобразаў гераічнага плана. Добра ўспрымаўся, напрыклад, Мікола Сабіла з «Перамогі» Е. Міровіча, дзед Талаш «У пушчах Палесся» Я. Коласа, Даніла Дрыль з «Партызанаў» К. Крапівы... Горш было з Канстанцінам Заслонавым. Калі ў першыя пасляваенныя гады аднайменная драма А. Маўзона яшчэ карысталася поспехам, то пазней адносіны да яе сталі халаднаватыя. Тое ж самае атрымалася з п'есамі «Юныя мсціўцы» А. Гутковіча і У. Хазанскага, «Выбух» М. Алтухова і М. Гарулёва, «Ад імя пакалення» П. Харкова і інш. Разгадка заключаецца ў тым, што ў гэтых творах станоўчыя персанажы характарызаваліся толькі ў патэтычна-ўзвышаных танах, таму атрымліваліся яны манументальна-статычнымі. Такі паказ нялёгкі ў любых жанрах, а ў драматургіі ён — проста згубны. Вось чаму А. Макаёнак у выбары сродкаў абмалёўкі Цярэшкі пайшоў на смелы эксперымент: не толькі адмовіўся ад якіх бы там

ні было катурнаў, а, наадварот, зазямліў героя, прымусіўшы амаль на працягу ўсёй дзеі прасядзець у мяшку, паладзіўшы над ім сямейны трыбунал, у працэдуры сваёй яўна не вытанчаны, яўна без піэтэту да «падсуднага». І ўсё ж Цярэшка ўспрымаецца сапраўдным героем. Не звычайным галоўным персанажам, а героем у параметрах разумення гэтага слова антычнай эстэтыкай. Прынамсі, катарсіснае ўздзеянне вобраза беларускага падпольшчыка-партызана на гледачоў і чытачоў відавочнае. І хоць абмалёўка Цярэшкі адрозніваецца ад нормаў паэтыкі старажытных, паралелі напрошваюцца самі сабою. Наяўнасць трагічнай віны, распрацоўка адвечных матываў патрыятычнай самаахвярнасці, увага да калізій, заснаваных на праблематычнасці права дзяцей судзіць сваіх бацькоў... І ўсё ж «Трыбунал» — цалкам сучасная п'еса. Героі антычнасці, як правіла, былі «сарыентаваны» на адну пэўную страсць, рысу характару. Аяксы ўвасаблялі непарушную дружбу, Адысей — хітрасць, разумную выкрутлівасць. Медэя — безразважную рэўнасць... Асноўная рыса характару Цярэшкі Калабка — гарачы патрыятызм. Але разам з тым ён яшчэ і працавіты, і дзецелюбівы, і дасціпны... Драматург адшукаў непаўторна сучасныя рысы, надзяліў свайго героя жывым, канкрэтна бытавым, псіхалагічна дакладным воблікам.

Усесаюзная крытыка адзначала, што поспех п'есы, цікавасць да яе ў сотнях тэатраў Савецкага Саюза і за яго межамі абумоўлены яркім нацыянальным зместам твора. Сапраўды, у Цярэшку Калабку, у Паліне, у іх дзецях своеасабліва сфакусіраваліся многія анталагічныя рысы беларускага нацыянальнага характару, што з'яўляецца найвышэйшай вартаснай атэстацыяй камедыі.

Канец 60-х — 70-я гады былі вельмі плённыя ў творчасці А. Макаёнка. Ніколі яшчэ не адчуваў ён такой творчай раскаванасці. Як некалі М. Багдановіч у паэзіі, А. Макаёнак у драматургіі, а дакладней у камедыі паспрабаваў прышчапіць на беларускай глебе паболей жанравых парасткаў. Сатырычную і сацыяльна-бытавую камедыю ён асвоіў раней, а зараз адолеў дзве няпростыя разнавіднасці трагікамедыі — палітычны памфлет («Зацюканы апостал») і народны лубок («Трыбунал»). На гэтым яго творчыя дзярзанні не скончыліся: наступнай з'явілася камедыя-рэпартаж («Таблетку пад язык»), у якой драматург востра, па-грамадзянску смела асэнсаваў многія праблемы сельскай рэчаіснасці, у тым ліку і міграцыю вясковых насельнікаў у гарады.

У 70-я ж гады былі завершаны такія розныя па сваіх структурна-кампазіцыйных формах творы, як сатырычная камедыя трагікамічнага плана «Кашмар» (сцэнічная назва «Святая прастата»), камедыя — сентыментальны фельетон «Верачка» і трагікамедыя «Пагарэльцы». Праўда, апошні твор, дакладней, першапачатковы яго варыянт пад назвай «З кірмашу» быў напісаны яшчэ ў сярэдзіне 60-х гадоў. Праз паўтара дзесятка гадоў драматург так істотна перарабіў «З кірмашу», што атрымаўся прынцыпова новы твор, таму і назву атрымаў новую. У «Пагарэльцах» аўтар адмовіўся ад прывычных сюжэтна-кампазіцыйных форм, што і

адлюстравалася ў яе жанравым прадвызначэнні: «пралог і эпілог адной трагікамічнай гісторыі». Паказальна, што ад гэтага трагікамедыя не страціла сваёй цэласнасці, а выкрыццё прыстасавальніцтва, апалітычнасці, глумлення над святасцю сацыялістычных ідэалаў — сваёй вастрыні, пераканаўчасці. Сродкамі сатыры бічуючы ўхватаўшчыну, пісьменнік-грамадзянін думаў пра заўтрашні дзень: ён ужо тады прадбачыў сённяшнія нашы турботы з рэзкай перабудовай усёй дзейнасці краіны. Ухватаўшчына — гэта не толькі кар'ерызм, не толькі пралікі ў кадравай палітыцы, але і дрымучы кансерватызм, пасіўнасць і коснасць, нежаданне мысліць па-сучаснаму. Апошнія інтэрв'ю, публіцыстычныя артыкулы і вусныя выступленні паказалі, наколькі пранікліва прадчуваў ён тыя перамены, якія пазней будуць вызначаны XXVII з'ездам КПСС. І наогул, у А. Макаёнка было здзіўляючае разуменне сацыяльна-палітычнага развіцця. Ён арганічна неяк, пamастакоўску, можа, нават інтуітыўна адчуваў дыханне часу, не проста паспяваў за яго імклівым бегам, але ўмеў сарыентавацца з тым, каб дапамагчы ўсталяванню новага, прагрэсіўнага. Так было, напрыклад, з камедыяй «Выбачайце, калі ласка», высновы якой папярэднічалі рашэнням партыйных пленумаў па пытаннях развіцця сацыяльных узаемаадносін на вёсцы. Так было і з іншымі п'есамі. Адчуванне таго, што ў дадзены момант цікавіць народ, падказала яму назву адной з камедый — «Лявоніха на арбіце», хоць напачатку назва была не такая. У тэатрах імя Янкі Купалы і падмаскоўнага горада Ногінска прэм'ерныя спектаклі адбываліся падчас першага палёту чалавека ў космас. Акцёры пастараліся абыграць падзею, што выклікала жывейшую рэакцыю гледачоў.

Новыя грані драматургічнага таленту А. Макаёнка адкрыла камедыя «Верачка». Дарэчы будзе нагадаць, што гэта толькі другая, побач з «Пагарэльцамі», п'еса, напісаная на айчынным матэрыяле, якая прысвечана гарадскому побыту. Але не гэта вызначае, вылучае яе ў творчасці драматурга. Спецыялістаў здзівіла іншае: танальнасць п'есы — тое, што дало падставы драматургу назваць яе сентыментальным фельетонам. Вытрыманая ў рэчышчы бытавой камедыі, яна мала падобна на ранейшыя п'есы пісьменніка-сатырыка, які кожным сваім творам зацята атакаваў розныя сацыяльныя недахопы. Ёсць сатырычная плынь і ў «Верачцы», але яна яўна прыцішана. У выкрыцці таго ж бюракрата Прокусава драматург карыстаецца больш гумарыстычным, чым сатырычнымі фарбамі. «Верачка», бадай, самы паэтычны твор А. Макаёнка, апалогія людской дабрыні, чалавечай спагадлівасці.

Апошняй завершанай п'есай, своеасаблівым творчым завяршэннем драматурга была трагікамедыя «Дыхайце эканомна». Шлях да яе аказаўся вельмі доўгім: ад драмы «На досвітку» праз трагікамедыю «Зацюканы апостал» і «Кашмар» — шлях у трыццаць год. Асабліва блізкай да «Дыхайце эканомна» з'яўляецца, несумненна, п'еса «Кашмар». Калі ўчытваешся ў гэтыя дзве п'есы, зноў і зноў уражваешся грамадзянскай пранікліваcцю іх аўтара. Дзесяць год назад, калі святло рампы ўбачыла трагікамедыя

«Кашмар», чалавецтва больш бестурботна глядзела на праблемы вайны і міру. Магчымасць вайны, вядома, не адмаўлялася, але яна ўспрымалася хутчэй гіпатэтычна, чым рэальна. У А. Макаёнка ж не было наконт гэтага ніякіх ілюзій. Настойлівы роздум над праблемамі і заканамернасцямі чалавечага існавання прывялі яго да высновы, што толькі энергічныя меры могуць выратаваць планету ад поўнага знішчэння. Драматурга вельмі непакоіла, што лепшыя навуковыя сілы, аграмаднейшыя бюджэтныя ўкладанні накіраваны на распрацоўку, удасканаленне сродкаў знішчэння. Не на стварэнне, хоць чалавецтва не пазбылося яшчэ непісьменнасці, голаду, хвароб, іншых напасцей. Яшчэ больш яго турбавала, што грамадства капіталістычных краін пэўным чынам страціла мэтавыя арыенціры свайго існавання, што палітыка і развіццё эканомікі ў нечым адчужаюцца ад разумнай волі чалавека.

Як усё-такі лагічна, гарманічна-паслядоўна складваўся творчы шлях Андрэя Макаёнка! Кожным радком скіраваны яго п'есы супраць сацыяльнай коснасці, на дасягненне такіх чалавечых узаемаадносін, каб людзі не журыліся. Столькі Каліберавых, Моцкіных, Самасеевых, Гудзеевых, Глуздаковых, Крандзялёвых, Ломцевых ды Прокусавых зваліла яго сатыра дзеля гэтай святой задачы, якая зусім заканамерна вывела драматурга да тэм глабальнага, агульначалавечага гучання. Сапраўды ёсць вялікі сэнс у народным выслоўі: «Паміраць збірайся, але жыта сей». Але не меншы сэнс заключаецца і ў тым, каб дабіцца бяспекі для гэтай сяўбы — стваральнай працы — інакш страчваюцца мэтавыя яе арыенціры. А. Макаёнак знайшоў вельмі ўдалы драматургічны ход: працэсціў падзеі праз прызму бачання простага селяніна, і абсурднасць мілітарызацыі эканомікі сучасных капіталістычных дзяржаў стала відавочнай, пераканаўча нецярпімай. Драматург і прычыны знаходзіць — эгаізм. «Я, мне, маё!» На ўзроўні пэўнага індывіда з эгаізмам яшчэ можна змагацца. Складаней з эгаізмам каставым, вялікадзяржаўным. Для задавальнення сваёй амбіцыі Жану, герою «Кашмару», спатрэбілася нейкіх дзве сотні рублёў, а імперыялістычныя амбіцыі абыходзяцца значна даражэй: на ўтрыманне армій чалавецтва, як сведчыць прэса, кожную гадзіну выдаткоўвае па трыццаць мільёнаў долараў.

Вывад трагікамедыі «Кашмар» недвухсэнсоўны: там, дзе пануе ваенна-прамысловы комплекс, няма чаго спадзявацца на добрых прэзідэнтаў. Трэба ламаць саму сістэму, знаходзіць і падтрымліваць тыя класавыя сілы, якія здольны гэта зрабіць.

Гэтая ж думка праходзіць і праз трагікамедыю «Дыхайце эканомна». Благаслаўляючы п'есу ў друк, І. Шамякін адзначыў: «Не адзін год пісалася камедыя «Дыхайце эканомна». І не таму, што пісьменніку не працавалася — за гэты час напісана некалькі іншых твораў,— а таму, што да тэмы гэтай Андрэй адносіўся з выключнай патрабавальнасцю, з самай высокай адказнасцю. Трывога за будучыню, абуджэнне актыўнасці людзей у барацьбе за мір, выкрыццё ўсімі сродкамі тых, хто, ап'янелы ад прагі ўлады, ад імкнення панаваць над светам, штурхае чалавецтва ў бяздонне

ядзернай катастрофы — тэма гэтая, даказваў Андрэй Макаёнак і творчасцю, сваёй грамадскай, публіцыстычнай дзейнасцю стала актуальнай, галоўнай тэмай кожнага савецкага мастака...

Апафеозам сатырычнага выкрыцця маральнага ўбоства, дэградацыі гандляроў смерцю з'яўляецца камедыя «Дыхайце эканомна».

У сваёй апошняй камедыі А. Макаёнак сінтэзаваў многія творчыя знаходкі з папярэдніх сваіх п'ес. Як і ў «Зацюканым апостале», канфлікт камедыі фарміруецца сродкам сутыкнення персанажаў, абагуленых да сімвалаў. Прэзідэнт, Цэзар, Фарыд, Людовік, Адольф, Ісак, Хіра Сіта і іншыя персанажы п'есы ўвасабляюць сабою не проста пэўныя сацыяльныя тыпы, а цэлыя грамадскія фармацыі. Як і ў «Кашмары», у новай п'есе драматург умела выкарыстаў прыёмы гіпербалізацыі, спалучэння рэальнага і ўмоўна-фантастычнага выяўленчых планаў. Характэрна, што такое выкарыстанне не зніжае мастацкіх вартасцей трагікамедыі «Дыхайце эканомна», не надае ёй адзнак другаснасці. Свежасці ўспрыняцця садзейнічае тое, што драматург адшукаў арыгінальную перспектыву адлюстравання падзей, цікавы ракурс асвятлення, асэнсавання характараў. Перспектыва гэта як бы перакулена ў мінулае, дзеянне развіваецца ў адваротны бок, нібыта на кінаэкране, калі плёнка запраўлена не тым бокам. І гэты прыём прынёс столькі парадаксальнага, іранічна-саркастычнага зместу! Эліта, прадстаўнікі ўладу маючых і ваенна-прамысловага комплексу, схаваўшыся ў супернадзейным сховішчы, хацелі выжыць у тэрмаядзернай вайне. Выжыць, каб праз пэўны час, калі адбудзецца натуральная дэзактывізацыя зямной паверхні, зноў панаваць над светам, але ўжо без чырвоных, без класавых выступленняў працоўных, без пастаяннай пагрозы страціць свае капіталы. На самай жа справе прага нажывы, барацьба за ўладу ў гэтым ізаляваным мікрацарстве адкінула яго насельнікаў на тысячы гадоў назад — да дзікунства. Самае ж крыўднае для іх заключалася ў тым, што ядзерная катастрофа не адбылася. Прэзідэнту не ўдалося знішчыць усё жывое на зямлі: у апошні момант вучоны Кейт здолеў адключыць фатальныя кнопкі ад крыніц сілкавання. І яго словы: «Не! Не дапусцім! Нават калі на планеце (паказвае на Біма і Крошку) іх было б толькі двое, то і тады варта ратаваць мір!» — успрымаюцца аўтарскім запаветам.

Драматургічная спадчына Андрэя Макаёнка — залаты фонд беларускай літаратуры і тэатра. Ён творча развіў многія жанравыя традыцыі, узняў нацыянальную камедыю да ўзроўню лепшых узораў сусветнай камедыяграфіі. Пэўны ўклад зрабіў ён таксама ў развіццё беларускай гумарыстычнай прозы і публіцыстыкі.

Памёр Андрэй Ягоравіч Макаёнак 16 лістапада 1982 года. Памёр у самым росквіце творчых сіл, поўны многіх цікавых задум.

*Сцяпан Лаўшук*

# НА ДОСВІТКУ

ДРАМА Ў ЧАТЫРОХ ДЗЕЯХ,
ШАСЦІ КАРЦІНАХ

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

П'ер Грэнье — беспрацоўны.
Луіза — яго жонка.
Мішэль — іх сын.
Анры Леду — кіраўнік секцыі кампартыі.
Раймон — інвалід.
Фларымон — рабочы, камуніст.
Жак, Дзюран, Раймонда — рабочыя.
Доктар.
Эжэн Дзюрвіль — уладальнік станкабудаўнічага завода.
Жазефіна — яго маці.
Агнеса — яго другая жонка.
Жанна — яго дачка ад першай жонкі.
Катрын — пакаёўка ў доме Дзюрвіля.
Альфрэд Дзюрвіль — дваюрадны брат Эжэна.
Містэр Джонсан — амерыканец, упаўнаважаны адміністрацыі па ажыццяўленню «плана Маршала».
Шэвалье — сацыяліст, дэпутат Нацыянальнага сходу.
Бабі — канторшчык завода Дзюрвіля, сацыяліст.
Леон — рабочы, сацыяліст.
Капітан — паліцэйскі камісар.
Пікетчыкі, рабочыя — мужчыны і жанчыны.
Штрэйкбрэхеры, паліцэйскія, амерыканскія салдаты — мужчыны.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Асабняк Эжэна Дзюрвіля. Гасціная, абстаўленая дарагой мэбляй. На сценах вісяць карціны; на невялікіх падстаўках — некалькі статуэтак. У куце злева — піяніна. Пасярод пакоя — круглы стол. Па характару гэтых карцін, статуэтак, мэблі можна меркаваць, што гаспадар асабняка — прыхільнік сюррэалістычнага мастацтва. Сярод гэтай мазні вызначаецца толькі партрэт маці Жанны. Заштораныя вокны робяць пакой змрочным, сонным, здаецца, што ў пакоі нікога няма. Але не. У калясцы на веласіпедных колах дрэмле старая хваравітая пані Жазефіна — маці Эжэна Дзюрвіля. Недзе прызыўна загудзеў нізкі, басавіты гудок завода. Старая прачнулася і, ледзь паварочваючы галаву, акінула пакой злым капрызным позіркам.

Жазефіна *(хваравітым, скрыпучым голасам)*. Зноў гудуць, зноў равуць... Катрын! Катрын!..

Паўза.

Заснула яна, ці што? Катрын!.. Ніяк не даклічашся... Хоць памры... Равуць усё... Гудуць... Памерці спакойна не дадуць...

Жазефіна паварочваецца да трумо. Глядзіцца ў яго, а потым нібы чытае там.

Памру...

Цяжка ўздыхае.

Памру хутка.

Кастлявымі пальцамі скамячыла на грудзях сукенку. Паварочваецца да лекаў і налівае ў чарку.

Заходзяць Катрын і пікантна апрапутая Агнеса. Яны са здзіўленнем паглядаюць, як старая дрыжачай рукой капае ў чарку лекі. Капае болей, чым трэба.

Катрын. Божа! Божа, ці ж па стольکі можна?! Што вы робіце? Вы ж не вытрымаеце!

Жазефіна ад нечаканасці ўпусціла чарку.

Ж а з е ф і н а. Чаго крычыш ты, вар'ятка! Во памру заўтра...

К а т р ы н. Вам жа доктар сказаў: толькі па пяць кропель, а вы?..

Ж а з е ф і н а. Ты на каго крычыш?!

Жазефіна ад'язджае ад століка.

Сама здаровая, а я апошнія сілы трачу.

А г н е с а *(спачувальна)*. Нельга ж так, Катрын. Вы ж бачыце — мама вельмі слабая, ёй памагаюць гэтыя лекі, а вы... Трэба далікатней! *(Да Жазефіны, вельмі ласкава.)* Вам сёння кепска, мама?..

У вачах Агнесы непрытворная шчырасць. Яна ўважліва і далікатна ўхутвае старой ногі, папраўляе падушку.

Ж а з е ф і н а *(расчулена)*. Кепска, мілая, зусім кепска... А яна, грубіянка... Ідзі адсюль!..

К а т р ы н выходзіць.

А г н е с а *(ласкава)*. Вы не злуйцеся... Што вы хочаце ад яе... Гэтая настаўніца да ролі пакаёўкі яшчэ не прызвычаілася.

Ж а з е ф і н а. Дзякуй табе, Агнеса, дзякуй... *(Праз слёзы.)* Ты ў мяне, як родная дачка... І я цябе не забуду, не пакрыўджу... Я, відаць, скора памру...

А г н е с а. Ну што вы, мама, што вы!.. *(Расчулена.)* Вы яшчэ доўга жыць будзеце...

Агнеса налівае старой лекі.

Ж а з е ф і н а. Не ўжо, мілая, не... За тваю ласку, за тваю дабрату да мяне ўсё табе адпішу, усё, да апошняга франка!..

А г н е с а. Вы супакойцеся. Мне нічога не трэба, адпачніце, і ўсё будзе добра. Я вас у спальню завязу.

Ж а з е ф і н а. Дзякуй, мілая. Не трэба самой. А пакаёўка што будзе рабіць? Прагнаць яе трэба...

А г н е с а. Прагонім яе, прагонім.

Ж а з е ф і н а. Пачцівасці ў яе няма.

А г н е с а *(кліча)*. Катрын!

Заходзіць К а т р ы н.

Вязі ў спальню!

Катрын бярэцца за каляску.

Ж а з е ф і н а. Лекі!

Агнеса дае лекі. К а т р ы н вывозіць с т а р у ю.

А г н е с а. О, божа! Хвала табе, паабяцала нарэшце!.. Ёй здаецца, што яна маладзее ад гэтых лекаў... Я добрая, я не пашкадую табе... *(Падыходзіць да люстэрка, прыхарошваецца, выпярае позы. Какетліва павярнулася ад люстэрка, падышла да тэлефона, зняла трубку, набрала патрэбны ёй нумар.)* Алё! Скажыце, калі ласка, містэр Джонсан прыехаў з Парыжа?.. Гэта я... гэта... Будзьце ласкавы, перадайце яму, што пан Дзюрвіль даўно чакае яго... Мерсі... *(Кладзе трубку. Кліча Катрын.)*
Катрын!

З'яўляецца К а т р ы н.

К а т р ы н. Слухаю вас, мадам Агнеса.

А г н е с а. Хутка павінен... Вы, мілая, не прымайце да сэрца, што мадам Жазефіна лаецца, яна ўжо... Вы не перашкаджайце ёй піць лекі, яны вельмі памагаюць... Што гэта я хацела сказаць?.. Ага, хутка павінен прыехаць містэр Рычард Джонсан. Скажыце яму, што я ў садзе. Ён павінен прывезці мне новыя моды з Парыжа...

А г н е с а пайшла.

К а т р ы н. Якія там новыя моды!.. Ведаю я гэтыя моды... Распутніца!..

Катрын прыбірае гасцінную.

Ведама ж, чаго ёй не хапае... Там вунь за кавалак хлеба... Жанчыны, каб пракарміць сваіх сірот, конскую работу цягнуць, а ёй толькі б...

Адчыняюцца дзверы, і ўваходзяць Ж а н н а і М і ш э л ь.

*(Радасна.)* Жанна! Галубка мая! Прыехала нарэшце! А я хвалявалася. І Мішэль? А ты адкуль?

М і ш э л ь. Добры дзень, мадам Катрын! Я таксама з Парыжа.

К а т р ы н. Ты здзівіўся, мой хлопчык, што я, твая настаўніца, стала пакаёўкай?

Мішэль адчувае сябе няёмка.

М і ш э л ь. А чаму?.. Вы...

К а т р ы н. Ну, не трэба так жаласліва глядзець... Нашай школы няма ўжо. Яе аддалі пад казарму амерыканцам. Вось і... Трэба ж зарабляць...

Ж а н н а. Што тут такое здарылася? Чаму мяне так тэрмінова выклікалі?

К а т р ы н. Тут нічога не здарылася. Гэта ж там з табой нешта здарылася. З паліцыі атрымалі пісьмо, што ця-

бе арыштоўвалі. Вось бацька і паслаў тэлеграму, каб ты хутчэй дамоў прыехала.

Ж а н н а. Там не толькі мяне арыштавалі... Ну, я яму ўсё растлумачу. Я думала, тут няшчасце якое...

К а т р ы н. Бацька гразіўся не пусціць цябе больш ва універсітэт.

Ж а н н а. Як гэта «не пусціць»?

К а т р ы н. І маці настойвае на гэтым.

Ж а н н а. Маці?

М і ш э л ь. А вы ж казалі, што ў вас маці няма?

Ж а н н а. І ёсць, і няма...

К а т р ы н. Мачыха.

За сцэнай голас Жазефіны: «Катрын! Катрын!» К а т р ы н выходзіць.

Ж а н н а. Мама мая — вось... *(Паказвае на партрэт у жалобнай рамцы.)*
Мары дэ Жуневель... Яна загінула.

М і ш э л ь. Загінула?

Ж а н н а. Я тады была зусім маленькая... *(Успамінае.)* Амерыканцы бамбілі горад. А таты дома не было... Мы ўсе так баяліся, так страшна было... І маму раніла... У жывот... Яна так пакутавала, так плакала... Мяне шкадавала... Нібы балюча было не ёй, а мне... Вечарам яна памерла.

Жанна падыходзіць да піяніна. Іграе нешта ўрачыста-жалобнае.
Паўза.

М і ш э л ь. Вы цудоўна іграеце, Жанна!

Ж а н н а. Навучыла цёця, маміна сястра. Я сем гадоў пражыла ў іх...

Жанна іграе мелодыі з бетховенскай «Патэтычнай санаты».

Люблю Бетховена... А ведаеш, Мішэль, што нагадвае мне гэта музыка? Дэманстрацыю за мір. Помніш? Тысячы людзей... Рашучых, смелых... Ідуць, ідуць!..

М і ш э л ь. Наперадзе Тарэз, Дзюкло, а за імі, здаецца, уся Францыя стала ў шчыльныя калоны...

Ж а н н а. Гэта сіла, гэта воля!.. Стань на дарозе — растопчуць, раздавяць! І мы з табою таксама пайшлі!.. А следам: жудасная калона інвалідаў вайны... Вось ідуць бязрукія, сляпыя, бязногія на мыліцах, на калясках... А за імі — дзеці, сіроты... удовы... нясуць партрэты загінуўшых... Нават мёртвыя выйшлі на дэманстрацыю!.. Я ніколі не забуду гэтай карціны!

М і ш э л ь. Я таксама...

Кароткая паўза. Мішэль неяк своеасабліва глядзіць на Жанну, нібы ён і не хоча, ды нехта яго прымушае расстацца з ёю. Уваходзіць Катрын.

Катрын. Пані Жазефіна хворая. Прасіла, каб ты, Жанначка, не іграла.

Жанна *(да Мішэля)*. Ну, што ты так глядзіш на мяне?

Мішэль. Цудоўны ты чалавек, Жанна, але...

Мішэль на хвіліну задумаўся, нешта вырашаючы.

Але мне трэба ісці адсюль...

Жанна. Чаму? Не, не, не! Не дазваляю! Я запрашала цябе паабедаць са мной.

Мішэль. Шчыра дзякую. Мяне дома чакаюць.

Жанна. Ну, добра. Але ты дай мне чэснае слова, што будзеш заходзіць да мяне... Ты ж бачыш, я тут амаль чужая. Бабуля мяне не любіць, папа заўсёды заняты, а з мачыхай мы не дружым. Мне будзе вельмі сумна адной. Ну?

Мішэль. Абяцаю.

Жанна. Не, гэтага мала. Дай слова як сапраўднаму сябру. Мы ж сябры! Так?

Жанна працягвае Мішэлю руку. Мішэль усміхаецца і працягвае сваю.

Мішэль. Так.

Паціскаюць рукі.

Мы хутка сустрэнемся.

Жанна. Чакай хвілінку. Я табе пакажу маю бібліятэку і...

Жанна кінула позірк на сцяну і жахнулася, заўважыўшы на месцы партрэта Жанны д'Арк сюррэалістычную карціну.

Якая брыдота!.. А дзе яна?.. Цёця Катрын!

Катрын. Хто яна?

Жанна. Жанна д'Арк.

Катрын. А-а-а... Не спадабалася яна амерыканцу, дык маці загадала вынесці яе.

Жанна *(з жахам)*. Як вынесці?! Куды?!

Катрын. Яна ў маім пакоі. Не бойся... Я ж ведаю...

Жанна кідаецца да Катрын і горача цалуе яе.

Жанна. Якая вы!.. Добрая... мілая!.. Прынясіце сюды!.. Выкіньце гэтую брыдоту!

Катрын здымае карціну і выходзіць.

М і ш э л ь. А як ты думаеш, чаму амерыканцу не падабаецца Жанна д'Арк?

Ж а н н а. Разбэшчаны нораў... Распуснік, відаць, і ўсё...

М і ш э л ь. Не толькі... Той, хто выношвае захопніцкія планы, страшэнна ненавідзіць нават слова «патрыёт». Амерыканцы ж адчуваюць сябе ў Францыі, як акупанты. О, героі-патрыёты ім не падабаюцца!

Ж а н н а. Так, гэта праўда...

Мішэль паціскае Жанне руку.

Ты што, дадому?

М і ш э л ь. Мне трэба спяшацца. Пра выключэнне з універсітэта не расказвай мадам Катрын. Пачакаем, што міністр адкажа.

Ж а н н а *(цёпла)*. Я спадзяюся, што ты не забудзеш свайго абяцання.

М і ш э л ь. Да сустрэчы!..

М і ш э л ь хутка выйшаў. Уваходзіць К а т р ы н і прыносіць карціну, перадае Жанне.

К а т р ы н. Вось твая цёзка. Цалюткая...

Уваходзіць містэр Д ж о н с а н.

Д ж о н с а н. Гуд дэй! Дома?

К а т р ы н. Мадам Агнеса чакае вас у садзе.

Д ж о н с а н, кінуўшы позірк на партрэт Жанны д'Арк, выходзіць у сад.

Ж а н н а. Хто гэта?

К а т р ы н. Амерыканец. Містэр Джонсан.

Жанна трымае ў руках партрэт Жанны д'Арк як дарагі сувенір.

Ж а н н а. Партрэт — на старое месца, і ніякіх амерыканцаў!

К а т р ы н. Мішэль пайшоў ужо?

Ж а н н а. Ён чамусьці вельмі спяшаўся.

К а т р ы н. Чуе ўсё-такі яго сэрцайка...

Ж а н н а. А што такое?

К а т р ы н. Маці яго пры смерці. *(Уздыхнула.)* Я нядаўна бацьку бачыла.

Ж а н н а. І ён нічога не ведае...

К а т р ы н. А як жа вы сустрэліся, пазнаёміліся?

Ж а н н а. А гэта тайна... Не, вам я раскажу. Універсітэт пазнаёміў нас. Мы ж разам вучымся. Толькі ён не ведаў, што Дзюрвіль — гэта мой тата. Усе студэнты уні-

версітэта мяне ведаюць па прозвішчы мамы — дэ Жуне-вель. Паглядзелі б вы, як ён здзівіўся, калі мы пад'язджалі да нашага дома...

К а т р ы н. Зразумела...

Ж а н н а. А што?

К а т р ы н. На чыгунцы рэйкі зусім побач ідуць, а сысціся не могуць. А сышліся б — крушэнне было б. Вось гэта ён і зразумеў.

Ж а н н а. Не бойцеся, крушэння не будзе. Ванна гатова?

К а т р ы н. Ідзі, ідзі, гатова.

Ж а н н а *(нібы па сакрэту)*. Ён цудоўны, разумны юнак!..

Ж а н н а пабегла ў другі пакой.

К а т р ы н. Лепшы мой вучань быў...

Катрын пяшчотна паглядзела ўслед дзяўчыне, затым вешае партрэт Жанны д'Арк.

Уваходзіць А л ь ф р э д Д з ю р в і л ь, дваюрадны брат Эжэна Дзюрвіля. У яго руках чахол для чарцяжоў.

А л ь ф р э д. Добры дзень, мадам Катрын!

К а т р ы н. Добры дзень.

А л ь ф р э д. Што, Эжэн яшчэ не прыехаў з завода?

К а т р ы н. Не.

А л ь ф р э д. Гм...

Альфрэд паглядзеў на гадзіннік. Звоніць па тэлефоне.

Будзьце ласкавы, пан Дзюрвіль яшчэ на заводзе?.. Выехаў? Даўно?.. Добра, мерсі.

Альфрэд кладзе трубку.

Ну што ж, пачакаем... *(Да Катрын.)* Вы яшчэ, мадэмуазель, замуж не выйшлі?

К а т р ы н. Дзе мне ўжо да замужаства? Даруйце, але ж вы, мсье, не пасватаецеся...

А л ь ф р э д *(кісла ўсміхнуўся)*. Так... Так...

Чуваць хваравіты голас старой Жазефіны: «Катрын! Катры-ын».

К а т р ы н. Іду, іду! Без лекаў і адной хвіліны пражыць не можа. Ці трэба, ці не трэба... Не ўжо, лекамі маладосці не вернеш...

К а т р ы н забірае Жаннін чамаданчык і выходзіць.
Праз некалькі хвілін уваходзяць Ш э в а л ь е і Д з ю р в і л ь. Дзюрвіль вельмі хмуры, злы, нечым раз'юшаны. Кідае куды папала капялюш, плашч. Вітаецца з Альфрэдам. Ходзіць па пакоі і не знаходзіць сабе месца. Шэвалье вінавата сочыць за ім.

Д з ю р в і л ь. Да якой пары, да якога часу будуць гэтыя беспарадкі? Калі, нарэшце, скончыцца гэты хаос, гэты бунт?!

Ш э в а л ь е. Цярпенне, пан Дзюрвіль, цярпенне...

Д з ю р в і л ь *(яшчэ больш горача)*. Якое ж цярпенне, якое цярпенне, я пытаю? Дзе ўлада? Дзе паліцыя? Дзе турмы, нарэшце?! Дзе цвёрдая рука, чорт пабяры? Былі кромвелі, цьеры, напалеоны, гітлеры? Дзе яны цяпер?! Дзе?

Ш э в а л ь е. Не тыя часы цяпер. Усё цячэ, усё мяняецца. У даным выпадку дыялектыка права. Век абсалютнай манархіі, век дыктатарства прайшоў. Народы навучаны. Значыць, трэба ўдасканальваць дэмакратычны метад праўлення.

Д з ю р в і л ь *(саркастычна)*. Правіцелі! Ідыёты! Да чаго давялі Францыю?! Да чаго дакаціліся! І да чаго яшчэ дакоцяцца! Была Францыя — дзяржава! А цяпер! Геаграфічнае паняцце. Ге-а-гра-фіч-на-е па-аня-яцце!

А л ь ф р э д. Амерыканцы гаспадараць як у сябе дома. Нават больш — як у сваёй калоніі. Нацыянальную прамысловасць не аднаўляем. Адно прадпрыемства за другім ляціць у трубу, не вытрымліваючы амерыканскай канкурэнцыі. І ніхто пальцам не паварушыць, каб абмежаваць завоз амерыканскіх тавараў.

Кароткая паўза.

Я да цябе, Эжэн, па вельмі важнай справе. Ты павінен быць зацікаўлены. І зможаш выручыць мяне. Мой інжынер, здольны, таленавіты электрык, прапанаваў новую канструкцыю апарата. Яго можна выпускаць на старым абсталяванні. Трэба толькі дзесяткі два штампавальных станкоў для штампоўкі асобых дэталяў. Разумееш, Эжэн, я зрабіў разлікі — толькі гэтым можна вырататаваць прадпрыемства ад амерыканскай канкурэнцыі, толькі гэтым...

Д з ю р в і л ь. Ну, і што ты хочаш?

А л ь ф р э д. Вельмі прашу цябе, прымі заказ на гэтыя два дзесяткі штампавальных станкоў. Чым хутчэй зробіш, тым лепш. Інакш я — банкрут... Зразумей, Эжэн, гэта зусім рэальна — банкрут...

Д з ю р в і л ь. У мяне на заводзе сёння аб'яўляецца забастоўка.

А л ь ф р э д. Вось як?!

Д з ю р в і л ь. Не пра гэты заказ трэба цяпер гаварыць. Другі, важнейшы, галоўны заказ трэба зрабіць нашым па-

літыкам, ураду — заказ на забарону забастовак. Яны страшней канкурэнцыі.

А л ь ф р э д. Не год жа будзе цягнуцца гэта забастоўка. Праз тыдзень завод будзе працаваць.

Д з ю р в і л ь. Зраблю, зраблю табе гэтыя станкі.

А л ь ф р э д. Ну, дзякуй, буду спадзявацца. Ну, бывай, Эжэн, бывай! Ты — мая надзея!.. Цяпер пайду ўладжваць фінансавыя справы.

Пры развітанні Альфрэд хапіўся за сэрца: ён хворы. Дзюрвіль паспешна падаў Альфрэду вады.

Д з ю р в і л ь. Што з табой? Што такое?

А л ь ф р э д. Нічога, нічога, пройдзе...

Д з ю р в і л ь. Эге, брат, табе трэба лячыцца, а не справамі займацца. Ідзі адпачні крыху, з паўгадзіны паляжы.

Дзюрвіль вядзе Альфрэда да дзвярэй, але спыняецца, кліча каго-небудзь.

Агнеса! Катрын!..

Уваходзіць К а т р ы н.

Катрын, там у маці цэлая аптэка, знайдзі што-небудзь, у яго сэрца хворае. Ды паклічце доктара...

К а т р ы н выводзіць А л ь ф р э д а.

Ш э в а л ь е. Мне здаецца, што ён ужо банкрут.

Д з ю р в і л ь *(пасля кароткай паўзы).* Ён будзе не апошнім, калі становішча не зменіцца... На якога д'ябла мы патрацілі мільёны франкаў, каб падтрымаць урад? Не міністры, а чмуты! Расцягваюць усё, раскрадаюць і казну і... Гандлююць усім, пачынаючы з калоній і канчаючы міністэрскімі партфелямі. Кабінеты міністраў па тры разы ў тыдзень мяняюцца. У чахарду гуляюць.

Ш э в а л ь е. Гэта не чахарда, а палітычныя манеўры, мсье Дзюрвіль.

Д з ю р в і л ь. На іх саміх жандара трэба!

Паўза.

Прашу прабачэння, мсье Шэвалье, я хацеў з вамі па-дзелавому, а выйшла так, што пагарачыўся...

Ш э в а л ь е. Я разумею вас і таму крыўды не маю.

Д з ю р в і л ь *(ціха).* Будзем гаварыць спакойна... *(Крычыць.)* Я асіг... *(Ціха.)* Будзем гаварыць спакойна. Я асігную на вашу партыю каласальныя сумы, даю вам сотні тысяч франкаў. І не таму, што мне няма куды траціць свае ўласныя грошы. Я не дама дабрачыннасці. Я ха-

чу бачыць ад іх карысць. Я хацеў бы, каб на маім заводзе ваша партыя, сацыялісты, уплыў на рабочых ні з кім не дзяліла. А на справе якія вынікі? Становішча на заводзе залежыць толькі ад камуністаў. Яны дыктуюць сваю волю, а не вы. Больш таго, радавыя члены вашай партыі не вас слухаюць, а ідуць за камуністамі. Доказ — забастоўка. Я падтрымліваю каталікаў, кармлю дэголеўцаў, а карысці не бачу. Як жа быць? Тлумачэнняў мне не трэба.

Шэвалье. Я разумею. Трэба дзейнічаць...

Дзюрвіль. Вось іменна! Трэба вам узначаліць забастоўку. Перахапіць ініцыятыву з рук камуністаў. Як — думайце самі. Любымі сродкамі... Любымі!

Шэвалье. Нам трэба будзе нейтралітэт паліцыі.

Дзюрвіль. Яна будзе вашай саюзніцай. Толькі не марудзьце.

Уваходзяць містэр Джонсан і Агнеса.

Джонсан. О, містэр Дзюрвіль сёння не ў гуморы. Добры дзень!

Шэвалье. На заводзе забастоўка.

Джонсан. У Францыі забастоўка — такая ж звычайная з'ява, як у Лондане туман.

Дзюрвіль. Містэр Джонсан, што вы прывезлі з Парыжа?

Джонсан. Прывёз... для мадам Агнесы новыя ўзоры мод.

Дзюрвіль *(сур'ёзна)*. Мне зусім не да жартаў, містэр Джонсан. Вы зразумейце, завод бастуе. Калі ж я атрымаю заказ, я згодзен буду павысіць ім зарплату.

Джонсан. Будзе.

Дзюрвіль. У мяне ніякіх гарантый...

Джонсан. У вашым дэпартаменце сорак тысяч беспрацоўных ратоў, восемдзесят тысяч свабодных рук, якія шукаюць работы і заработку. Вось вам гарантыя.

Агнеса *(капрызна)*. Якія вы нудныя людзі. Калі я ні прыйду, вы заўсёды сумоту наганяеце сваімі нуднымі размовамі.

Дзюрвіль. Не перашкаджай нам, Агнеса.

Агнеса. Абяцай мне падарунак, тады не буду перашкаджаць.

Дзюрвіль. Вось вам яшчэ адзін забастоўшчык. Ва ўласным доме.

Джонсан *(рагоча)*. Пятая калона!.. Ха-ха-ха!..

Дзюрвіль *(жартуючы, Агнесе)*. Запомні, будзеш

баставаць, знайду штрэйкбрэхершу. *(Смех.)* Абяцаю падарунак.

Агнеса. Вельмі рэдкі. У ювеліра прадаецца пярсцёнак Герынга. Я хачу яго мець.

Дзюрвіль. Куды ж ты яго надзенеш? На нагу хіба?

Агнеса. Гэта мая справа.

Дзюрвіль. Цяпер у продажы з'явілася столькі рэліквій, што можна падумаць, быццам у Герынга было па меншай меры тысяча пальцаў. І запінкі Гітлера, і прыёмнікі Гебельса, і...

Шэвалье. Новы від спекуляцыі.

Дзюрвіль. Упэўнен, што дзевяноста дзевяць працэнтаў гэтых рэліквій фальшывыя.

Агнеса. А гэты пярсцёнак якраз нефальшывы. Я праверыла. І прашу купіць яго мне.

Дзюрвіль. Ну добра, абяцаю такі падарунак.

Агнеса. Мерсі. Удаляюся. Адзью! Мсье Шэвалье, праводзьце.

Шэвалье праводзіць Агнесу.

Дзюрвіль *(да Джонсана)*. Ну?

Джонсан. Заказ ёсць. Вам застаецца толькі заўтра паехаць у Парыж і афарміць. Справа ў тым, што разведка цяпер мае вельмі добрыя вушы. Што б вы ні гаварылі, яна ўсё чуе і даносіць куды трэба. У міністэрстве ўзбраенняў вам не давяраюць за вашы нелаяльныя выказванні адносна амерыканскай палітыкі ў Еўропе. Акрамя таго, там вядома, што вашу дачку арыштавала паліцыя за сувязі з камуністамі.

Дзюрвіль. Ну што вы, што вы! А як жа заказ?

Джонсан. Мне паверылі. Я сказаў, што я ваш кампаньён і маю акцыі вашага завода.

Дзюрвіль устае з-за стала як пераможца. Падае руку Джонсану.

Дзюрвіль. Ну, дзякую! Заўтра ж еду ў Парыж. Дзякую!

Джонсан *(скептычна ўсміхнуўся)*. Гэтага мала. Але ж я пакуль што не кампаньён і акцый не маю.

Дзюрвіль. А што яшчэ?

Джонсан. Дырэктар завода электрапрыбораў хоча заказаць у вас штампавальныя станкі?

Дзюрвіль. Так.

Джонсан. Вы не выканаеце яго заказ!

Дзюрвіль. Чаму?

Джонсан. Вы павінны зрабіць усё, каб закрыць гэты завод. Гэта адзіная ўмова для атрымання вамі ваеннага заказу. Паслуга — за паслугу.

Дзюрвіль. Але ж гэта завод майго дваюраднага брата...

Джонсан. Гэта не павінна мець ніякага значэння.

Дзюрвіль падняўся, пахадзіў, падумаў.

Дзюрвіль. Будзем гаварыць проста: ён ваш канкурэнт?

Джонсан *(усміхнуўся)*. Так ці іначай, яго лёс вырашаны. *(Многазначна.)* «План Маршала».

Паўза. Дзюрвіль задумаўся.

Вам вельмі шкада свайго брата? Парайце яму пераключыцца на іншую прадукцыю. Гэта адзіны выхад пазбавіцца ад канкурэнцыі Злучаных Штатаў Амерыкі. Наадварот, мы падтрымаем яго, адпусцім крэдыт. Мы ідзём к вайне. Без вайны вы можаце аднойчы прачнуцца жабраком: вашы рабочыя разам з камуністамі адбяруць у вас завод, а для большай пэўнасці — пастараюцца перарэзаць вам горла. Гэты грабёж яны называюць рэвалюцыяй.

Дзюрвіль. Вы недаацэньваеце нашы сілы.

Джонсан. Вашы сілы?.. Каб не нашы гарнізоны на тэрыторыі Францыі і Германіі, гэта магло б здарыцца нават заўтра. Я прыехаў у Францыю і здзівіўся вашай бездапаможнасці. Па ўсёй краіне беспарадкі, забастоўкі, мітынгі, дэманстрацыі, камуністы, камуністы, камуністы... Ні паліцыя, ні ўрад нічога не могуць зрабіць... Вы ж на вулкане! Я сёння з Парыжа. А ўчора меў асалоду бачыць дэманстрацыю, арганізаваную камуністамі. На вуліцы Сталінграда. Якая іронія, у Парыжы — вуліца Сталінграда! Вы разумееце, што гэта такое! Гэта страшна! Гэта жудасна! Я зразумеў, што Францыі патрэбна сур'ёзная аперацыя, ампутацыя. Інакш яна загіне ад заражэння. Вы падумайце толькі — варта было камуністам прыдумаць нейкую эстафету міру, як уся Францыя паднялася на ногі і рушыла ад горада да горада. І ўрад бяссільны перашкодзіць гэтай эстафеце. Ніхто не прызнае ўрада! Заўтра камуністы крыкнуць: «Далоў урад!» — і Францыі няма! Тым больш што пад бокам рускія дывізіі, рускія танкі. Вы разумееце сваё становішча?

Д з ю р в і л ь. Дзе ж выхад, па-вашаму? Дзе ратунак?

Д ж о н с а н. Вайна! А для вайны патрэбна зброя, а не пыласосы.

Вяртаецца Ш э в а л ь е.

Д з ю р в і л ь. Я згодзен — з камуністамі пыласосамі не наваюеш...

Д ж о н с а н. Дык вось рашайце. Або вы атрымаеце ваенны заказ, або мы размясцім яго на другім заводзе.

Д з ю р в і л ь *(падумаўшы)*. Так... Так... *(Рашуча.)* Цяпер неабходны самыя рашучыя меры. Забараніць забастоўкі, аб'явіць іх сабатажам, здрадай радзіме і арганізаваць масавыя арышты і суды камуністаў!

Д ж о н с а н. Правільна! Мала гэтага, трэба забараніць так званыя міжнародныя камуністычныя гнёзды!.. Тут спатрэбіцца і ваш «сабатаж», і ваша «здрада радзіме», і, калі хочаце, расстрэлы, містэр Дзюрвіль.

Ш э в а л ь е. Нельга ж так прасталінейна. Гэтая праграма неарыгінальная. Успомніце восень 1939 года. Праўда, тады не долары, а больш маркі ў ходу былі.

Д ж о н с а н *(сур'ёзна)*. Мы не дамагаемся патэнта на праграму. Ужо ёсць законапраект аб забароне мітынгаў, дэманстрацый і забастовак.

Д з ю р в і л ь. Калі? Калі ж будзе закон, а не праект?

Д ж о н с а н. Вось гэты дэпутат на тым тыдні прывязе вам патрэбны закон...

У дзвярах паказваецца пані Ж а з е ф і н а ў калясцы, а за ёю — А л ь ф р э д.

Ж а з е ф і н а *(незадаволена, хваравіта)*. Чаго ён крычыць? Чаму ён так гарланіць? Нават у сваім доме нельга спакойна адпачыць.

Дзюрвіль ідзе насустрач Жазефіне, каб адправіць яе назад.

Д з ю р в і л ь. Супакойся, мама, супакойся. У нас тут важная справа.

Ж а з е ф і н а. Звыклі там, у Амерыцы, гарланіць, дык і тут... Памерці спакойна не дадуць.

Д з ю р в і л ь. Нельга ж, нельга так, мама!

Ж а з е ф і н а. Ты, Эжэн, глядзі! Альфрэд мой пляменнік, і ў крыўду яго не давай гэтым амерыканцам. Сваіх трэба выручаць з бяды.

Д з ю р в і л ь. Я вас апошні раз прашу, мама! Не ўмешвайцеся вы ў мае справы! Я лепей за вас ведаю, што

мне рабіць, а чаго не трэба. Альфрэд сам павінен зразумець, што яго завод для Францыі... устарэў.

Альфрэд насцярожыўся.

Альфрэд. Што гэта азначае?

Дзюрвіль. Пакуль яшчэ не позна, пакуль яшчэ ёсць капітал, займіся другой справай. А то на канкурэнцыі і апошні страціш.

Джонсан. Калі мсье Альфрэд будзе ўпартым, мы будзем вымушаны выкінуць на рынак свой такі ж тавар па дэмпінгавых цэнах. Два месяцы, і вы — банкрут.

Альфрэд. Значыцца, устарэў... для Францыі...

Дзюрвіль. Ну, вядома. Ты ж сам прызнаеш — табе патрэбна новае абсталяванне, новыя станкі...

Альфрэд. Так... Ну, вядома... Хто хоча ўтапіць свайго сабаку, аб'яўляе яго шалёным...

Дзюрвіль. Ну навошта так?.. Зразумей жа ты... Нарэшце зразумей, што свая скура даражэй мне за сарочку, хоць яна таксама блізкая да цела... Тут вырашаецца мой лёс, лёс майго завода... Выканаць твой заказ, зрабіць якіх-небудзь дваццаць станкоў і тым часам страціць вялікі, серыйны заказ, я... проста неразумна будзе.

Альфрэд. Значыць, ты адмаўляешся дапамагчы мне?

Дзюрвіль. Ну не магу я, не магу!..

Альфрэд. Дзякую за шчырасць... Толькі варта было б помніць, што твой бацька і мой бацька — былі братамі...

Альфрэд забірае чарцяжы і выходзіць.

Жазефіна. Эжэн! Дык ты мяне гэтак слухаеш?! Помні ж, ты мне больш не сын! Не сын!..

Жазефіна выязджае з гасцінай.

Дзюрвіль. Ну, вось і... трагедыя...

Джонсан. Ну-у, містэр Дзюрвіль! Перш за ўсё бізнес, а потым старыя забабоны... Бізнес! Бізнес!..

Дзюрвіль *(да Шэвалье)*. Купіць, прадаць, ашукаць, забіць, а сарваць забастоўку!! Дзейнічайце!

Шэвалье. Ну што ж, паспрабуем...

Шэвалье і Джонсан выходзяць.

Паўза.

Уваходзіць Жанна, свежая пасля ванны, пераапранутая.

Жанна. Добры вечар, папа!

Дзюрвіль. Добры вечар, дачушка. Прыехала?

Ж а н н а. Прыехала.

Д з ю р в і л ь. Так... Так-так...

Ж а н н а. Нешта ты няветліва мяне сустракаеш, хмуры нейкі...

Д з ю р в і л ь. Можа, ты мяне развесяліш, узрадуеш чым-небудзь?

Ж а н н а. Я разумею. Цябе абурыла тое, што мяне арыштавала паліцыя. Але я табе ўсё раскажу.

Д з ю р в і л ь. Я ўсё ведаю, і расказваць мне нічога не трэба. Не чакаў я ад цябе, Жанна, каб ты ганьбіла маю сівую галаву.

Ж а н н а. Але ж ты выслухай мяне спачатку.

Д з ю р в і л ь. Не, лепш ты выслухай. Ты ўжо не маленькая, а дарослая дзяўчына. І дазваляеш сабе такія непрыстойныя ўчынкі. Дайшла да таго, што цябе арыштавала паліцыя. І каго? Дачку Дзюрвіля. Сорам! Ганьба!

Ж а н н а. Сорам і ганьба не мне, а паліцыі, якая арыштоўвае невінаватых людзей. Ты выслухай спачатку. Я выйшла з універсітэта з дзяўчатамі. Ідзём па вуліцы, а насустрач п'яныя амерыканскія салдаты. Схапілі адну дзяўчыну і павалаклі ў машыну. Добра, што хлопцы нашы падаспелі, студэнты. Яны выручылі дзяўчыну ну і морды набілі гэтым нахабнікам. А паліцыя, замест таго каб абараніць нас, нас жа і арыштавала. Што ты цяпер скажаш?

Д з ю р в і л ь. Не трэба хадзіць па вуліцы з такімі дзяўчатамі, якіх салдаты хапаюць.

Ж а н н а. Дык што гэта? І па вуліцы нельга хадзіць? Як пры гітлераўскай акупацыі?

Д з ю р в і л ь. А другі раз за што цябе арыштоўвалі?

Ж а н н а. Не толькі мяне, а сотні людзей, якія не хочуць амерыканскай акупацыі. І я таксама не хачу! Таму і пайшла на дэманстрацыю пратэсту, калі прыязджаў Эйзенхаўэр.

Д з ю р в і л ь *(перадражнівае)*. «Дэманстрацыю пратэсту»! Я разумею, калі камуністы мітынгуюць. Але чаму ты пайшла? Чаму псуеш і сваю і маю рэпутацыю?.. Праз твае ўчынкі мне не давяраюць!

Уваходзіць Д ж о н с а н.

Ж а н н а. А табе патрэбны давер амерыканцаў?

Д з ю р в і л ь. Не твая справа, чый мне давер патрэбны! Твая справа — не забываць, што ты мая дачка, а я твой бацька, і берагчы сваю рэпутацыю!

Жанна. Акрамя таго, папа, я яшчэ француженка. І рэпутацыя француженкі мне даражэй за рэпутацыю дачкі.

Дзюрвіль *(збянтэжана)*. Эге-ге!.. Вунь што ты! «Француженка». Так гаварыць з бацькам цябе універсітэт навучыў?

Жанна. Універсітэт.

Дзюрвіль. А можа, камуністы?

Жанна. Камуністы.

Джонсан. Дзіўна, містэр Дзюрвіль, нібы яна зусім не ваша дачка.

Дзюрвіль. Я дапусціў глупства, даручыўшы яе выхаванне ліберальнай цётцы. І вось вынік.

Джонсан. Значыць, яна не выпадкова дружыць ва універсітэце з камуністамі. Непрыемны факт. Мы напярэдадні вялікіх падзей, а камуністы не толькі бастуюць і мітынгуюць, яны разбураюць нашы сем'і.

Дзюрвіль. З сённяшняга вечара забудзь пра універсітэт! Туды ты болей не паедзеш!

Жанна. Паеду!

Дзюрвіль. Не паедзеш!!

Жанна. Паеду!

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ДРУГАЯ

Запушчаны бульвар. Лавачкі, некалі пафарбаваныя, ужо аблезлі. Старыя абскубеныя дрэвы. Адно зламана разрывам бомбы. Задняя частка сцэны — жылы шматпавярховы дом, аблуплены і замызганы звонку: яшчэ не сцерлі слядоў маскіроўкі. На сцяне надпісы: «Мір! Мір!» Крыху лявей — старыя руіны. Час ад часу разнастайныя сігналы аўтамашын, зрэдку раздаецца свісток паліцэйскага, які недзе паблізу пільна сочыць за парадкам. Ясны цёплы асенні дзень. Па бульвары павольна перасоўваецца на ролікавай калясцы Раймон — інвалід без абедзвюх ног. Перад ім на кульцях стаіць скрыначка з кветкамі. Раймон выбірае зручнейшае месца, спыняецца і, азірнуўшыся па баках, пачынае падлічваць свой заробак.

Заробак малы. Гэта відаць па нездаволеным твары Раймона.

Раймон. Тысяча чарцей! Што за няўдалы дзень сёння! Усе, быццам знарок, кругом абыходзяць. Пятае месца мяняю...

Раймон заўважае, што набліжаюцца д з в е  ж а н ч ы н ы. Ён вельмі жаласліва заяпвае:

— Не плач горка, Пернета,
Мы замуж аддадзім,
І жыць ты будзеш з графам
Ці з прынцам маладым.
— Ах не, не трэба графа,
І прынц не трэба мне,
Люблю я толькі П'ера,
Ды ён сядзіць ў турме.
— Твой П'ер будзе павешан
На плошчы ля царквы.
— Памру разам з каханым,
Я з ім на смерць пайду!
У садзе ля дарогі
Вы пахавайце нас,
Мо ўспамяне прахожы
Пра наш апошні час.

Жанчыны спыняюцца, слухаюць, уздыхаюць.

Мілыя, добрыя мадам! Не праходзьце міма галоднага...

Першая жанчына дае некалькі франкаў.

П е р ш а я  ж а н ч ы н а. Хто цяпер не галодны? Вунь штодня цэны на прадукты павышаюцца...

Р а й м о н. Дык вы падбаўце яшчэ на павышэнне цэн.

Другая жанчына таксама падае грошы.

Д р у г а я  ж а н ч ы н а. Даём колькі можам. Ты хоць такі, ды жывы, а мой — загінуў. Хай бы хоць такім вярнуўся... Усё-такі бацька дзецям быў бы, а то — сіроты...

П е р ш а я  ж а н ч ы н а. А цяпер бастуем самі. Хто ведае, колькі прыйдзецца галоднымі сядзець...

Р а й м о н. А на якім заводзе?

П е р ш а я  ж а н ч ы н а. На дзюрвілеўскім.

Р а й м о н. А-а-а, доўга прыйдзецца, ён скупы!..

Ж а н ч ы н ы пайшлі. Раймон крычыць ім услед.

Сардэчна вам дзякую за ваша велікадушша!

Раймон хавае грошы ў кішэню, папляваўшы на іх. Ён задаволены.

О, тады яшчэ крыху трэба пасядзець. Калі ў гэтых жанчын лёгкая рука, можа, к вечару пашанцуе.

Раймон заўважае паліцэйскага і крычыць.

Кветкі, кветкі! Апошнія кветкі лепшага магазіна!

Падыходзіць п а л і ц э й с к і.

П а л і ц э й с к і. Ты зноў тут? Ты чаго распінаешся?

Р а й м о н. Я не распінаюся, пане паліцэйскі, я не Хрыстос. Я крычу.

П а л і ц э й с к і. Бачу, што крычыш...

Р а й м о н. Чуеце, пане паліцэйскі, бачыць ніяк нельга.

П а л і ц э й с к і. Ты мне вачэй не замазвай. Бачыш, што нікога няма, чаго крычыш?

Р а й м о н. Таму і крычу, што нікога няма. Пачуюць — прыйдуць.

П а л і ц э й с к і. Што, жабруеш?

Р а й м о н. Хто? Я? Я жабраваць стану?

П а л і ц э й с к і. Ты мне не якай! А хто тут толькі што песню скуголіў?

Р а й м о н. Я спяваў. Весела мне, вось і спяваю. А чаму не спяваць? Гэта ж не забаронена?

П а л і ц э й с к і. Глядзі ты ў мяне. Працаваць трэба!

Р а й м о н. Я працую. Ці ж вы не бачыце? *(Паказвае на скрынку з кветкамі.)* Гэта ж лепшы філіял лепшага ў горадзе кветкавага магазіна «Квітнеючая Францыя».

П а л і ц э й с к і. Праверу.

Р а й м о н. Чэснае слова, працую. Вядома, паліцэйскім працаваць не магу ўжо, бо вам трэба вельмі шустра бегаць ад бастуючых, а я... *(Паказвае на ногі.)*

П а л і ц э й с к і. Што, што? Ты глядзі, а то я за твой язык... Зараз жа вымятайся адсюль!..

Р а й м о н. Рад бы, ды ў маім таксі гаручае скончылася.

У гэты час з аднаго пад'езда чуваць крык. Адзін з жыхароў гэтага дома, д э г о л е в е ц, схапіўшы за каўнер Ж а н н у, выштурхоўвае яе з дома. На гэты скандал выбягаюць ж ы х а р ы суседніх кватэр. Сярод іх Ж а к і Ф л а р ы м о н. Спыняюцца выпадковыя прахожыя.

Д э г о л е в е ц. Я цябе зараз у паліцыю дастаўлю, маскоўскі агент! Нідзе ад вас ратунку не знойдзеш! *(Заўважыў паліцэйскага.)* Паліцэйскі! Паліцэйскі!

Ж а н н а. Пусціце! Пусціце! Грубіян!

Д э г о л е в е ц. Паліцыя хай адпускае! Я табе пакажу Адозву. Я табе пакажу подпісы! Сцены ўсе запэцкалі сваім мірам!

Паліцэйскі падыходзіць да іх.

П а л і ц э й с к і. Што за скандал?

Д э г о л е в е ц. Прашу адправіць яе ў паліцыю. Яна мне сёння спакою не дае са сваёй Адозвай. Адзін раз за-

чыніў дзверы перад носам, дык яна другі раз стукае. Прашу навесці парадак, пан паліцэйскі, дайце мне магчымасць спакойна жыць!

Першая жанчына. Сорамна так абыходзіцца з дзяўчынай, мсье!

Дэголевец. Не ваша справа!

Паліцэйскі. Я павінен даставіць вас, мадэмуазель, у паліцыю!

Другая жанчына. За што?

Першая жанчына. Што яна дрэннага зрабіла?

Жак. Нікуды вы яе не адправіце!

З суседняга пад'езда выбягае Мішэль. Заўважыўшы, што Жанну трымаюць за каўнер, ён падбег і адпіхнуў дэголеўца ад Жанны.

Мішэль. А вам, мсье, вайна трэба? Калі вам вайны хочацца, дык вось ім, народу, не хочацца!

Першая жанчына. Ён на вайне нажыўся. Мы галадалі, а ён прадуктамі спекуляваў.

Раймон. Падвядзіце яго да мяне, я яму пакажу, што такое вайна!

Жак. Мадэмуазель, дзе ваша Адозва? Дазвольце мне падпісацца пад ёй.

Жанна дае Адозву, і людзі падпісваюць яе. Паліцэйскі разгубіўся і не ведае, што рабіць. Дэголевец хаваецца ў пад'ездзе.

Фларымон *(услед)*. Вось і пайшоў, як цюцька, якога авечкі паслалі на пашу.

Дэголевец вяртаецца.

Дэголевец. А вам, паліцэйскі, не паздаровіцца! Я далажу твайму начальству, як ты сочыш за парадкам на сваім участку.

Паліцэйскі свірчыць.

Паліцэйскі. Прашу разысціся, панове! Не парушайце парадак! А вы, мадэмуазель, ідзіце за мной!

Мішэль. Нікуды яна не пойдзе!

Жак. Схавайце свісток, пане паліцэйскі! Дарэмна палохаеце!

Паліцэйскі. Вашы дакументы, мадэмуазель!

Фларымон. Не давайце яму, каб ад бяды далей!

Жанна паказвае паліцэйскаму дакументы.

Ах, нявопытная!

Паліцэйскі. Дзюрвіль? Гэта які Дзюрвіль?

Жанна. Не які, а якая.

Паліцэйскі. Гэта ваш бацька... на станкабудаўнічым?

Жанна. Мой, але гэта не мае значэння.

Паліцэйскі. Прашу выбачэння, мадэмуазель! *(Вяртае дакументы.)*

Жак. Тут і без нас усё абышлося б...

Другая жанчына *(здзіўлена)*. Гм... Дзюрвіль?!

Усе разыходзяцца. Раймон наігрывае песеньку: «Нам не страшны шэры воўк...» Мішэль і Жанна заходзяць у другі пад'езд.

Паліцэйскі *(падыходзіць да Раймона)*. А ты! Вон! Зараз жа вымятайся адсюль! Ну! *(Піхае Раймона.)*

Па бульвары праходзіць Бабі, следам за ім з'яўляецца Шэвалье.

Шэвалье. Мартэн Бабі, мсье Бабі! Пачакайце хвілінку!

Бабі вяртаецца.

Бабі. Я слухаю вас.

Шэвалье адводзіць яго ўбок.

Шэвалье. Толькі што адбылося пасяджэнне партыйнага камітэта. Мы асудзілі забастоўку на заводзе Дзюрвіля як незаконную. Гэта забастоўка не што іншае, як падрыў эканомікі краіны ва ўгоду Маскве. Вы разумееце?! І ўсё гэта пад выглядам павышэння заробку рабочым.

Бабі. Разумею.

Шэвалье. Дык вось мы абавязалі ўсіх членаў нашай партыі на заводзе прыняць усе захады, каб сарваць сабатажніцкую забастоўку.

Бабі. Разумею.

Шэвалье. Неабходна зараз жа, сёння ж, пачаць вярбоўку добраахвотнікаў, якія згодны будуць сарваць забастоўку. Вярбуйце не толькі сярод рабочых завода Дзюрвіля, а і сярод беспрацоўных. Памятайце і папярэджвайце людзей, што нас поўнасцю падтрымліваюць урадавыя органы. Зразумелі?

Раймон, выглянуўшы з-за вугла і ўбачыўшы, што паліцэйскага няма, вяртаецца на старое месца.

Бабі. Зразумеў.

Шэвалье. Вось так. Ідзіце, ідзіце і неадкладна бярыцеся за справу.

Бабі пайшоў.

Р а й м о н *(калі міма яго праходзіць Шэвальe)*. Мсье! Калі вы чэсны француз, не праходзьце міма ахвяры вайны.

Ш э в а л ь е. Што такое? Што такое? У чым справа?

Р а й м о н. Не дайце памерці з голаду.

Ш э в а л ь е. Вы што? Вы чаму закон парушаеце?

Р а й м о н. Які?

Ш э в а л ь е. Вы што? Не ведаеце? Жабраваць забаронена законам.

Р а й м о н. Мой жывот законаў не прызнае. Ён галодны.

Ш э в а л ь е. Што за беспарадак! Што за беспарадак! Дзе паліцыя? Чаму яна не сочыць за парадкам? Дзе ён?.. *(Азіраецца, крычыць.)* Паліцэйскі! Паліцэйскі!

З-за вугла выходзяць Л е д у і Д з ю р а н, яны назіраюць за гэтай сцэнай.

Р а й м о н. Мсье! Я вам дзесяць франкаў дам, толькі ідзіце, ідзіце ад мяне.

Ш э в а л ь е. Не, я зараз цябе туды, куды трэба... *(Кліча.)* Паліцэйскі!

Р а й м о н. Што ты да мяне прычапіўся?! *(З пагрозай.)* Пайшоў вон, двуногі шакал! А то я зараз цябе праведу! Даганю, дык павырываю ногі! *(Шарыць рукамі каля сябе, шукаючы, чым бы яго стукнуць.)*

Л е д у. Вы, шаноўны дэпутат, *(іранічна)* слуга народа, лепей патурбаваліся б, каб урад забяспечыў інвалідам чалавечае існаванне, а не траціў бы мільярды франкаў на новую вайну. А вы нацкоўваеце паліцэйскага на галоднага калеку. Сорам!

Ш э в а л ь е. Што вам трэба? Што вам трэба? Чаго вы да мяне прысталі!

Дзюран наступае на Ш э в а л ь е, і той паспешна выходзіць.

Д з ю р а н *(пазнаў інваліда)*. Раймон!

Р а й м о н. Не, не Раймон, а толькі... палавіна.

Д з ю р а н. Бачу... А дзе ж другая?

Р а й м о н. Стаптаў да пупавіны ў пошуках работы.

Л е д у. Не да жартаў, брат, табе.

Р а й м о н. А чаму? Добраму французу для смеху гора не памеха. Людзі любяць вясёлага чалавека.

Д з ю р а н. Та-ак... Колькі мы з табой не бачыліся, гады два, здаецца, га?

Р а й м о н. Гады два будзе...

Д з ю р а н. Дзе ж гэта цябе так?

**Раймон.** Далёка, брат, адсюль, далёка! Сам вінаваты, дурань.

**Леду.** Як гэта сам?

**Раймон.** Доўгая песня расказваць усё спачатку. *(Да Дзюрана.)* А гэта хто? Таксама камуніст?

**Дзюран.** А ты што, не ведаеш яго? Гэта ж Анры Леду.

**Раймон.** А-а, чуў... *(Глядзіць з цікавасцю.)* Сядайце, а то няёмка галаву задзіраць.

Леду і Дзюран селі на лаўку, закурылі.

**Дзюран.** Ну расказвай.

Кароткая паўза.

**Раймон** *(паказвае на туфлі Леду і Дзюрана)*. Амерыканскія?

**Леду.** Амерыканскія.

**Раймон.** Дзяшоўка, праўда?

**Дзюран.** Дрэнь, а таму і дзяшоўка.

**Раймон.** Дык вось, можа, праз гэтую дрэнь я і застаўся без ног.

Леду і Дзюран зацікавіліся.

Як навезлі амерыканцы вось гэтай дрэні, завалілі ўсе магазіны, дык наша абутковая фабрыка і закрылася.

**Леду.** Не вытрымала канкурэнцыі?

**Раймон.** Цэлы год хадзіў без работы. Швэндаўся ад адных варот завода да другіх, і ўсё дарма. Мая спецыяльнасць закройшчыка гэтак трэба была, як кабыле брытва. Ды ці я адзін такі бадзяўся? Што табе расказваць, сам бачыш. Цяпер таксама не лепей. Адным словам, дажыўся да таго, што хоць камень на шыю ды... А яшчэ збіраўся жаніцца. Ты ж памятаеш маю Казету? А тут ні франка ў кішэні, ні кватэры.

**Дзюран.** Гэта я ведаю. Ну а далей?

**Раймон** *(уздыхнуў)*. Далей?.. Далей знайшлася адна паганая морда, якая параіла мне выхад... Я параіўся з Казетай і рашыў зарабіць грошай... Вярбоўшчык сустрэўся, каб яму падавіцца маімі нагамі!.. Я і паслухаў... Думаў, усё роўна здыхаць, а тут добра плацілі... Адным словам, завербаваўся на два гады ў Афрыку, у каланіяльныя войскі, у корпус генерала Жуэна.

**Леду.** Вось яно як!..

**Раймон.** Нас запхнулі ў смярдзючую пасудзіну і

туды... Пабоўталіся тыдні два на моры і... высадзілі. Толькі не ў Афрыцы, а ў В'етнаме... Ашукалі, як дурняў...

Д з ю р а н. Ну і як жа вас там сустрэлі?

Р а й м о н. Насыпалі жару ў штаны... Я хутка спёкся... Больш года ў шпіталях валяўся, а адтуль выехаў вось на ўласным таксі.

Д з ю р а н. Сапраўды дурань... А я гляджу, дзе гэта ты прапаў...

Л е д у. Таксі, кажаш, заваяваў сабе...

Д з ю р а н. Ну, а пасля ранення ты сваю Казету сустракаў? Яна цябе бачыла параненага?

Р а й м о н. Не, не бачыла. Я ёй напісаў са шпіталя, каб не чакала мяне... Вярней, я папрасіў таварыша, каб напісаў, што я загінуў...

Паўза.

Раймон пранікнёна напявае: «Не плач горка, Пернета...» Дзюран падышоў і паклаў руку на плячо Раймона.

Д з ю р а н. І як жа ты цяпер жывеш?

Р а й м о н. Весела. Песенькі спяваю, кветачкамі гандлюю. Вось толькі паліцэйскі спакою не дае. Мы, ведаеш, свой трэст арганізавалі, хлопцы нішто сабе.

Л е д у. Які трэст?

Р а й м о н. Акцыянернае таварыства паўфабрыкатаў вайны «Квітнеючая Францыя». Чалавек сорак сабралася нас, бязногіх, бязрукіх, сляпых — інвалідаў. Усе даходы ў кучу, разам жывём і кормімся. У крыўду сябе не даём.

Л е д у. Цікава... *(Да Дзюрана.)* Ён табе нічога не падказаў?

Д з ю р а н. Пакуль што не. А што?

Л е д у. Вось агітатар супраць вайны, супраць ваенных заказаў, супраць «плана Маршала». *(Раймону.)* Тое, што вы арганізаваліся, добра. Як бы гэта мне да вас зайсці, калі вы ўсе ў зборы?

Р а й м о н. Калі ласка, калі ласка! Вуліца Рабесп'ера, 16, падвал.

Л е д у. Абавязкова прыйду, абавязкова.

Р а й м о н. Сярод нас ёсць адзін, што разам з вамі партызаніў.

Л е д у. Хто такі?

Р а й м о н. Жан Рабінэ.

Л е д у *(падумаўшы)*. Жан-падрыўнік? Няўжо ён? Адважны хлопец быў. Перадайце яму сардэчнае прывітанне.

Р а й м о н. Хлопец ён хвацкі, толькі цяпер вось так-

сама, як і я, без ног. Ды яшчэ захварэў, бядак. Слабы вельмі.

Леду. Усё, што ты тут нам расказаў, ты павінен усім рабочым расказаць. Каб яны зразумелі, што прынеслі французам амерыканцы і вайна. Табе і тваім таварышам да рабочых трэба ісці, а не тут руку працягваць. Заўтра я прыйду да вас.

Леду і Раймон знікаюць. Па бульвары ідуць Джонсан і Агнеса. У гэты час з дома выходзіць Жанна. Яна чакае Мішэля.

Агнеса. Я не магу, не магу больш заставацца там ніводнага дня. Вы зразумейце толькі, якая гэта мука — жыць з чалавекам, якога не толькі не кахаеш, а ненавідзіш нават. Ненавідзець і прыкідвацца ласкавай, прыемнай. О, як гэта цяжка!

Джонсан. Як жа так выйшла, што вы, прыгожая жанчына, і згадзіліся выйсці замуж за яго?

Агнеса. Я хацела мець уласную яхту, вілу, марыла пра заграмічныя падарожжы, Італію, Іспанію... *(Плача.)* А ён, нягоднік, нікуды мяне не выпускае. Рычард, мілы мой! Я толькі вас, толькі вас кахаю. Я за вамі куды вы скажаце паеду, хоць на край свету. Мілы мой, любы, паедзем у Амерыку!

З дома выходзіць Мішэль. Жанна дае яму знак маўчаць.

Джонсан. У Амерыку?.. У Амерыку можна... Аднак цяпер я не магу вярнуцца ў Амерыку, пакуль не зраблю свой бізнес. Еўропа цяпер — залатыя прыіскі...

Агнеса. Я разумею. Я таксама пастараюся. Старая абяцала перадаць мне ў завяшчанні сваю рэнту. Я зраблю ўсё. Толькі дайце мне слова, што потым возьмеце і мяне з сабой.

Джонсан. Клянуся статуяй Свабоды!..

Агнеса. Ну вось...

Уязджае Раймон.

Раймон. Апошнія кветкі сезона! Лепшыя кветкі «Квітнеючай Францыі». *(Пад'язджае да Джонсана.)* Ваша светласць! Купіце букецік сваёй чароўнай даме. Калі вы кахаеце яе, зрабіце ёй прыемнасць. Падарунак ад шчырага сэрца. Прыемна і танна! Прыемна і танна!

Джонсан. Эй ты, герой! Хто гэта табе? *(Тыцкае стэкам у ногі.)* Немцы?

Раймон. Не, В'етнам.

Джонсан. А-а... Тады варта.

Бярэ некалькі кветак, аддае іх Агнесе і праз плячо кідае інваліду манету. Яна пакацілася, Мішэль падбягае, паднімае манету і аддае Раймону.

Мішэль *(з абурэннем)*. Не сабаку кідаеце, а чалавеку!

Джонсан. О-о! Малакасос!

Жанна. Як вам не сорамна, містэр Джонсан?

Джонсан. О-о! Мадэмуазель Жанна! І вы тут? Не чакаў. Флірт.

Жанна *(задзёрыста)*. Збіраю подпісы супраць вайны.

Джонсан. А чаму ж сёння вы такая сярдзітая? Мала сабралі? А? Давайце я падпішуся.

Мішэль. Не давайце, Жанна!

Джонсан. Та-ак!.. Значыцца, і вы заадно з камуністамі? Супраць бацькі, так? Здо-орава! Значыць, вы хочаце міру? Баіцеся вайны? Так? Аднак, мадам Агнеса, заўважце, у вашым доме свой камуніст.

Агнеса. Як гэта непрыстойна!

Жанна. А вы лепей маўчыце!

Джонсан *(да Жанны)*. А ведаеце, анёл міру, мяне вельмі часта праследуе адна вельмі цікавая... ідэя. Вельмі цікавая. І ўсё не было выпадку. Разумееце, падысці да чалавека і сказаць... *(Падыходзіць да Мішэля.)* А ведаеце, даражэнькі, я добра ўяўляю, як бы вы зараз выглядалі ў труне. Ха-ха... Цікава, праўда? *(Глядзіць, як гэта падзейнічала на Мішэля.)* А гэта можа здарыцца з кожным і ў любую хвіліну. Здаровы, вясёлы, жыццярадасны і раптам... ён можа апынуцца ў труне. А? Бывае так, бывае.

Усе ашаломлены.

Да пабачэння, мадэмуазель. А бацьку вашага я парадую.

Мішэль. Раней я цябе на шыбеніцы ўбачу, чым ты мяне ў труне! Хуліган!

Джонсан. Но-но! Француз! Я цябе навучу ветлівасці!

Раймон. А вы, ваша светласць, вымятайцеся вон з Францыі, калі вас тут няветліва сустракаюць. Вон, янкі!

Міма праходзяць двое амерыканскіх салдат. Джонсан дае ім знак, і тыя, пераглянуўшыся, намерваюцца пабіць Мішэля. Але Фларымон і Жак, якія толькі што выйшлі з дома, умешваюцца. Фларымон многазначна кашлянуў, а Жак свіснуў. Збіраюцца рабочыя. Амерыканцы выходзяць, рашыўшы за лепшае не чапацца. Рабочыя з насмешкай праводзяць іх.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Кватэра П'ера Грэнье. Паўпадвальны пакойчык з адзіным акном, у якое ніколі не заглядвае сонца. Калі міма акна ідуць прахожыя, відаць толькі ногі. Справа — дзверы і парог з прыступкамі. Каля акна — голы, нічым не накрыты стол, два зэдлікі. У куце вядро, а над ім, на паліцы, прымус, салдацкі кацялок і кафейнік. Злева, за выцвіўшай, некалькі квяцістай шырмай стаіць ложак, на якім ляжыць хворая на сухоты Л у і з а — жонка П'ера. У пакоі пахне сырасцю і цвіллю. На сцяне вісіць адзінокі гадзіннік-ходзікі. Цікание яго яшчэ больш падкрэслівае беднасць і пустэчу пакоя.

За шырмай кашляе Луіза, доўга, надрыўна.

Адчыняюцца дзверы. Уваходзіць М а р т э н Б а б і, ён азірае пакой і моршчыцца.

Л у і з а. Хто там?

Б а б і. А дзе ж гаспадар?

Л у і з а. Не прыходзіў яшчэ. Вам трэба што?

Б а б і. Быццам сама не ведаеш. Калі ён грошы аддасць за кватэру?

Л у і з а. Ах, мсье Бабі, вы прабачце. Самі ж бачыце, што ў нас... Вельмі прашу вас, пачакайце яшчэ крыху.

Б а б і. І так ужо два месяцы чакаю, а франкі штодня ў цане падаюць. Страты цярплю.

Л у і з а. Ён у даўгу не застанецца. Вы ж бачыце, якое яму гора са мной...

Б а б і. Гэта яго справа. Сына вучыць маеце за што, а за кватэру не плаціце.

Л у і з а. Сына вучыць добрыя людзі дапамаглі. Леду, дзякуй яму, прыстроіў у Парыжы на такую работу, каб і вучыцца можна было. Ці ж яму лёгка вучыцца.

Б а б і. Так і перадай П'еру: не прынясе грошы — сёння ж выселю, я не мільянер...

Л у і з а. Вы ж самі ведаеце, як цяпер цяжка знайсці работу. Ён жа з ранку да вечара ходзіць...

Б а б і. Знайшоў бы, каб хацеў. Работы хопіць. Дык на камуністаў глядзіць...

Б а б і пайшоў.

Л у і з а *(уздыхнула)*. Сына вучым... Яму гэта вочы коле. Якія ж злыдні бываюць людзі... Убачыць у жабрака новую торбу, дык і тую хоча адабраць... *(Уздыхае, кашляе.)* Хоць бы памерла хутчэй, ці што. А то і сама мучуся і яго замучыла. *(Зноў кашляе.)* Ох, госпадзі, прыбяры ты маю душу грэшную, пашкадуй ты яго, гаротніка. За якія ж

ты грахі такія караеш і яго і мяне? Прашу цябе, госп... *(Закашлялася...)*

Уваходзіць Мішэль з газетай «Авангард». Ён радасны, узбуджаны. Кладзе газету і яшчэ нейкія лісткі на стол.

Ты, сынок?

Мішэль. Я, мама, я.

Луіза. Там, глядзі, пісьмо табе прынеслі. На стале, відаць...

Мішэль знаходзіць пісьмо і чытае.

Ад каго пісьмо?

Мішэль. З міністэрства асветы.

Луіза. А што такое, калі не сакрэт?

Мішэль. Добрага нічога... Мяне ўсё-такі выключылі з універсітэта.

Луіза. Ды што ты, сынок? За што?

Мішэль. За што?..

Кароткая паўза.

Мама, ты добра помніш нямецкую акупацыю?

Луіза. А хто яе не помніць, сынок, хто яе забудзе?

Мішэль. І тых людзей помніш, што ў партызанах былі?

Луіза. Як жа не помніць... Калі б не яны, дык нас даўно на свеце не было б. Яны выратавалі нас якраз у тую ноч, калі фашысты хацелі расстраляць. Леду выратаваў.

Мішэль. Дык вось, я пра гэтых герояў пісаў у газету... І пра тое, што новыя фашысты, амерыканскія, зноў хочуць акупіраваць Францыю. А мы, студэнты, арганізавалі дэманстрацыю супраць амерыканцаў. За гэта мяне і выключылі.

Луіза. Дык што ж гэта?.. *(Плача.)*

Мішэль. Мама, чаго ты?.. Ну што ты?!

Луіза. Гэта я так... Шкада мне цябе... Вучылі, вучылі і...

Мішэль. Нічога, мама, нічога. Хутка прыйдзе той час, калі і бедняку можна будзе вучыцца. *(Упэўнена.)* Я яшчэ буду вучыцца. А цяпер пакуль што... Нічога, пабачым...

Уваходзіць П'ер з невялікімі пакупкамі ў руках.

П'ер. А-а, і ты дома, студэнт-прафесар!.. Ну, калі ты студэнт, збегай вады прынясі. Мы зараз кофе прыгатуем. *(Заўважыў на стале газету.)* Газета? Не-е! Кофе лепей за

газету. Ад яе апетыт меншым не стане. Кажуць, у Бельгіі адзін чэмпіён па пяць кілаграмаў газет з'ядае зараз. Толькі потым жыватом качаецца. *(Смяецца.)* Пакутнік... Газету купіў?

Мішэль. Купіў.

П'ер. А дзе грошы ўзяў?

Мішэль. Зарабіў. Хадзіў збіраць подпісы пад Адозвай і наткнуўся — адзін перабіраўся на другую кватэру. Дапамог яму ўпакаваць і пагрузіць рэчы.

П'ер. Бяжы, бяжы па ваду.

Мішэль, схапіўшы вядро, пабег.

Ну, а ты? Як ты сёння?

Луіза. Я?.. Я ўжо ўсё. Сёння зусім не ўставала... Відаць, і не ўстану болей... Ты толькі Мішэлю не кажы... Не трэба... Ён яшчэ малады, не трэба...

П'ер. Ну што ты, што ты, Луіза! Навошта так? Ты і не думай так!.. *(Неяк недарэчна-паспешліва разгортвае пакуначкі.)* Ты вось зараз падсілкуешся трохі... Я тут сяго-таго прынёс...

Луіза. Ат, дарэмна гэта ўсё... Мне ўжо нічога не трэба.

П'ер. Не, не, не! Я тут масла крышку табе дастаў. Табе ж неабходна масла... Мядку б яшчэ...

Луіза. А дзе грошы ўзяў?

П'ер. Прафсаюз крыху дапамог.

Луіза. Ты і так ужо ў даўгах, б'ешся як муха ў павуцінні.

П'ер. Нічога, нічога. Знайду работу, разлічымся. Былі б рукі ды ногі.

Уваходзіць Леду.

Леду. Добры вечар, стары!

П'ер *(жартаўліва)*. Нават не ўгадаю, хто прыйшоў. Сто гадоў не бачыліся. Ну, здароў, здароў, дарагі Леду. Быў памочнікам міністра, дык часцей заглядаў, а цяпер нешта і вачэй не паказваеш. На такі выпадак старога бургундскага не пашкодзіла б, га?

Леду. Не, што ты, што ты! Нічога не трэба.

П'ер. Ды ты не бойся, не бойся. Я частаваць не буду, а шкада. Дажыўся я... *(Зрабіў бутэрброд і падае Луізе. Тая, відаць, адмаўляецца.)* Ды ты хоць крышку вазьмі.

Леду. Прывітанне, мадам Луіза. Я нават не заўважыў вас.

Л у і з а. Добры вечар, мсье...

Л е д у *(да П'ера)*. Дык, кажаш, дрэнна жывеш?

П' е р. Чаму дрэнна. Напалавіну як міністр. Нічога не раблю, хаджу па горадзе, гуляю і шукаю, да каго б наняцца на паслугі.

Л е д у. Дык чаму напалавіну?

П' е р. А таму, што міністры на паслугі наймаюцца і на гэтым цяпер капіталы нажываюць, хлеб маюць, а я — нашча бегаю.

Л е д у. Ды ты што, міністрамі нават незадаволены? Яны ж цяпер вашы — сацыялісты.

П' е р. Бывае і так, што іншы раз свой сабака кусае горай за чужога. Бывае, бывае...

Л е д у. А дзе ж сын, дзе Мішэль?

П' е р. Ды ён зараз прыбяжыць. Па ваду паслаў.

Л е д у. А я спецыяльна да яго.

П' е р. Ці не замнога для яго гонару?

Л е д у. Не, не! Малайчына хлопец. У партызанах памятаю яго хлопчыкам...

П' е р. Дзіця горкае...

Л е д у. І глядзі ты, што напісаў. *(Разгарнуў газету.)* У трэцім нумары друкуецца. «Успаміны маладога партызана». Талкова напісаў.

П'ер. Бач ты яго!.. Ого! Пакажы. *(Разглядае газету.)* Не дурны, не дурны, калі так.

Уваходзіць М і ш э л ь з вядром вады.

М і ш э л ь *(радасна)*. Добры вечар, добры вечар!

Л е д у *(жартаўліва)*. З прыемнасцю вітаю і віншую маладога аўтара з новымі поспехамі!

М і ш э л ь. З якімі?

Л е д у. Ды ты яшчэ і сам не ведаеш? Вось глядзі.

М і ш э л ь. А-а... *(Хаваючы радасць, разглядае газету.)*

Л е д у. Малайчына, Мішэль, малайчына! Пачатак добры. Вучыцца, вучыцца трэба, тады далёка пойдзеш.

П' е р. Калі паліцыя не затрымае.

Л у і з а. Яго з універсітэта выключылі.

Л е д у. За што?

М і ш э л ь *(дае прачытаць пісьмо)*. Прачытайце.

Л е д у *(прачытаўшы пісьмо)*. Та-ак...

П' е р. Так, так... *(Уздыхнуў.)*

Л е д у. Нічога, нічога, не падай духам... Ад іх можна было чакаць... Ну што ж, вось гэта і ёсць барацьба. Зна-

чыць, яны начулі тваю сілу. А ты не здавайся, не падай духам.

Мішэль. Я і не падаю.

Леду. Вось табе заданне... партыйнае даручэнне. Учора дэголеўскія бандыты зрабілі налёт на партком. Забілі аднаго нашага таварыша.

Мішэль. Чуў.

Леду. Дык вось ты і напішы, як памёр наш таварыш... Хай ведаюць людзі, каго забіваюць фашысты. Гэта забойства не абышлося без Дзюрвіля і паліцыі. У адказ на забастоўку яны хацелі запалохаць нас. Патрэбен востры фельетон, высцебаць іх па твары, накінуць на іх сінякі, мяціны. Зробіш?

Мішэль. Пастараюся.

Леду. Вучыцца ты будзеш, не бядуй. А цяпер трэба змагацца. Іх век падыходзіць к канцу. Перад табой яшчэ адкрыецца шырокая дарога.

П'ер. Цяжкі наш век...

Леду. Нялёгкі.

Мішэль. Нічога, вынесем. Вымелі з Францыі нямецкіх фашыстаў, вымецем і дамарошчаных.

П'ер. Але ж колькі народу загінула!..

Леду. Дарэчы, тут недзе ў вашым двары інваліды жывуць. Як бы мне знайсці іх прыстанішча?

П'ер. «Квітнеючая Францыя»? Ды яны тут, у суседнім пад'ездзе.

Мішэль. Я вас правяду.

Леду. Калі ласка.

П'ер. Ды ты пагуляй крыху, пагутарым яшчэ. Хоць кубак кофе вып'еш.

Леду. Я пасля яшчэ, мабыць, зайду.

Леду і Мішэль выходзяць.

П'ер *(услед)*. Вы там не баўцеся, а я тым часам кофе прыгатую.

Луіза. Добры ён чалавек...

П'ер. Сам нямала гора бачыў, таму і спагадаць можа. *(Распальвае прымус і выносіць яго ў калідор.)* Памятаю, ездзіў я да яго, калі ён намочнікам у міністра быў. Дык у яго прыёмнай, бывала, розныя сядзяць, чакаюць. А ён выйдзе, каторых папрасцей, рабочых, пазаве ў першую чаргу і пагутарыць. А такія, як Дзюрвіль, сядзяць, злуюцца, а чакаюць. О, тым быў не даспадобы. Таму, відаць, і пастараліся выжыць.

З двара даносіцца гудок таксі. П'ер выглядае ў акно.

Л у і з а. Што там? Можа, паліцыя?

П' е р. Не, таксі... Гм... Цікава, хто ж гэта ў нашым двары такі багач, што на таксі катаецца?.. Не, паненка нейкая... Вот жа людзям жывецца. Я б за тыя грошы сем разоў пехатою збегаў... *(Да жонкі.)* У цябе яшчэ лекі не скончыліся?.. Ці збегаць узяць?

Л у і з а. Ёсць яшчэ, ды карысці з іх мала. Болей не трэба.

Уваходзіць Ж а н н а. На фоне гэтай беднай кватэры яна выглядае багата.

Ж а н н а. Добры вечар. Скажыце, калі ласка, дзе тут жыве Мішэль Грэнье?

П' е р *(сумеўся).* Хто-о?

Ж а н н а *(нясмела).* Мішэль... Грэнье...

П' е р *(нібы ён упершыню пачуў гэта імя).* Мішэль? *(Разглядае яе з ног да галавы.)*

Ж а н н а. Так. Я, можа, памылілася?

П' е р. Мішэль — мой сын. Вы не памыліліся.

У гэты час уваходзіць М і ш э л ь.

Вось і ён.

М і ш э л ь. Жанна?

Ж а н н а. А я вось прыехала, да цябе, спецыяльна. Вось газету... Ты бачыў? Віншую, Мішэль, віншую.

П' е р *(нарэшце асвойтаўся).* Вы сядайце, сядайце. Праўда, выбачайце, што ў нас крыху не так, але нічога, вы сядайце, сядайце.

Ж а н н а. Дзякую, дзякую. Я ўжо дадому ішла, калі чую раптам: «Мішэль Грэнье! Патрыёты». Думаю, што такое? Гляджу, хлопчык газеты прадае і крычыць на ўсю вуліцу: «Мішэль Грэнье! Патрыёты. Успаміны маладога партызана!» Купіла газету, вось — «Авангард». Ты не чакаў?

М і ш э л ь. Па праўдзе сказаць, не чакаў. Дзякую.

Ж а н н а. Я проста рада за цябе. Вельмі рада.

П' е р. Дзякую! Мішэль, ды ты... *(Паказвае, што трэба пасадзіць Жанну.)* Які ты... О-от, малады чалавек!..

За шырмай закашлялася Луіза, цяжка, надрыўна. Жанна насцярожылася.

Л у і з а *(з жахам).* П'ер! П'ер!.. Дыхаць!.. Дай!..

П'ер і Мішэль кідаюцца за шырму. Вось цяпер відаць, што на старэнькім драўляным ложку ляжыць вельмі схуднелая, з сінявою пад вачыма Луіза. На ложку не пасцель, а куча лахманоў, рыззя.

П'ер *(прыпадняўшы галаву Луізе, спалохана)*. Мішэль! Вады.

Мішэль памкнуўся да вядра з вадой.

Не, не! Халодная. Лякарства, лякарства! Вунь там, на акне! Ды хутчэй ты!

Мішэль падае лякарства. Жанна таксама ўсхапілася. Яна спачатку пазірае, як Мішэль з лыжкі сілком вылівае ў рот непрытомнай маці лякарства, затым, абвёўшы позіркам пакой, яна выбягае з кватэры. Мішэль заўважыў гэта толькі тады, як за ёй зачыніліся дзверы. Луіза застагнала. На двары фыркнула машына, паехала.

Ну што ты? Ну што ты, Луіза? Табе лягчэй? Табе лягчэй цяпер?

Мішэль. Можа, па доктара збегаць? А, мама?..

Луіза. Не трэба, сынок... не трэба... Мне лягчэй стала. У нас быў хто цяпер ці мне здалося?.. Дзяўчына нейкая гаварыла. Галасок такі...

П'ер. Не, не, не здалося. Ты памаўчы крышку, а то табе цяжка зараз. Я сам раскажу... От табе і Мішэль наш, га? Такая, брат, красуня прыйшла да яго, што я і рот разявіў. І скажы ты, га! Хто б падумаў! Не дурань, не дурань! А яна! Адзін пярсцёнак, відаць, тысяч дзесяць. Далібог. Адразу відаць, што з багатай сям'і.

Луіза. А дзе ж яна?

П'ер. Яна? Пайшла ўжо... Павіншавала яго і пайшла. А чаго ж яна сядзець будзе? Павіншавала, і ўсё.

Уваходзіць Мартэн Бабі.

Луіза. Спалохалася, відаць, беднасці нашай.

Бабі. Добры вечар!

П'ер. Добры вечар!

Бабі. Ну як, знайшоў работу?

П'ер. Дзе ж ты яе знойдзеш! Чаравікі стаптаў ужо. *(Адумаўся.)* Але нічога, нічога. Я знайду работу, абавязкова знайду.

Бабі. Ну, гэта твая справа.

П'ер. Вядома, вядома.

Бабі. Вось што, дарагі Грэнье...

П'ер. Які там к чорту дарагі.

Бабі. Мне трэба грошы.

П'ер *(жартуе)*. А гэта ўжо ваша справа.

Бабі. Жартачкі ты пакінь. Я прыйшоў сур'ёзна пагаварыць! Ты мне за кватэру вінаваты ўжо за два з паловай месяцы. Ці ты забыўся?

П'ер. Гэта я памятаю, добра памятаю, мсье Бабі.

Б а б і. Калі ж ты разлічышся?

П' е р. Як толькі знайду работу, з першай палучкі вам аддам, чэснае слова. Вы не турбуйцеся, мсье Бабі, абы толькі работу знайшоў.

Б а б і. Ну вось што. Я табе знайду работу. На машынабудаўнічым заводзе камуністы арганізавалі забастоўку. А мы, сацыялісты, супраць яе. Дык вось ты можаш пайсці туды працаваць, калі хочаш мець кватэру, работу і заработак.

М і ш э л ь. Ён туды працаваць не пойдзе.

Б а б і. Як гэта не пойдзе?

М і ш э л ь. Штрэйкбрэхерам, здраднікам не будзе.

Л у і з а. Мішэль!..

Б а б і. Я маю прадпісанне прэфекта паліцыі і магу хоць зараз жа выкінуць вас на вуліцу...

П' е р. Дык жа даўгі, даўгі прападуць, мсье Бабі.

Б а б і. Што тут у вас, начлежны дом для жабракоў?! Вы будзеце камуністам патураць, седзячы ў мяне на шыі?! Зараз жа выганю к чорту!

П' е р. Мсье Бабі, мсье Бабі!..

М і ш э л ь. Вы суньце яму гранату ў рукі, каб ён у камуністаў кінуў! Шантажыст!

Б а б і. Ну, гэтага я не пацярплю! Каб у маім доме ды мяне ж...

П' е р. Мсье Бабі! Мішэль, перастань!.. Мсье Бабі! Вы не звяртайце на яго ўвагі. Ён што? Малады яшчэ. А маладыя ж, вядомая справа, заўсёды гарачыя... Вы паслухайце... Я вас не ашукаю, вы паверце. Я век пражыў, зарабляючы сваімі рукамі, і нікога не ашукаў. Я чэсны чалавек. Я заўсёды быў чэсным. Вы зразумейце. Я не магу пайсці. Людзі ж таксама есці хочуць. Я чэсна...

Б а б і. Мне з тваёй чэсці хлеба не есці, яна мне без патрэбы. Я не жаніх, і ты мне не нявеста. Аддай доўг, а не, дык я ў гэту кватэру прастытутку пушчу, абы яна акуратна мне грошы плаціла.

М і ш э л ь *(абурана)*. Пакой, дзе ляжыць хворая, мы правятрым ад смуроду.

Мішэль расчыняе дзверы і паказвае Бабі на выхад.

Б а б і *(адступаючы)*. Я пайду, але зараз прыйду не адзін.

Б а б і выходзіць. На парозе сутыкаецца з Л е о н а м.

Л у і з а. Мішэль, сынок, навошта так? Ён жа нас прагоніць...

Л е о н. Добры вечар.

П' е р. Не зусім, брат, не зусім. Бяда адна не ідзе, а за сабою другую вядзе.

Л е о н. З кватэры, відаць, выганяў. А?

М і ш э л ь. Прыходзіў наймаць штрэйкбрэхераў.

Л е о н. А-а... Да мяне таксама прыходзіў. Або на завод, кажа, або з кватэры вон. Ты ж, кажа, сацыяліст.

П' е р. Во, во, і мне ж так, шэльма. Ну, а як ты думаеш выкруціцца?

Л е о н. Чорт яго ведае...

П' е р. А мне трэба будзе скарыцца...

М і ш э л ь. Так, так. Прадавайце рабочых гэтак жа, як вашы лідэры-сацыялісты... Працуйце на гэтых дзюрвіляў, каб жылі ў раскошы, а самі гібейце, жабруйце!..

П' е р. Ну а што ты зробіш, сынок. Ты ж сам бачыш.

Л е о н. Не, к чорту! Усё роўна здыхаць, ці з голаду, ці з холаду. Не пайду! Хай выганяе. Учора галасаваў за забастоўку, а заўтра ісці штрэйкбрэхерам? К чорту!

П' е р. У цябе другая справа. А як мне? А мне што? З хворай на руках. *(На вачах слёзы.)* Куды мне?

М і ш э л ь. Толькі не цярпець! Баставаць. На рэвалюцыю паднімацца!

П' е р. Малады ты, сынок, гарачы. Рэвалюцыя — гэта зноў кроў, зноў вайна, зноў няшчасці...

Л е о н. Мы, сацыялісты...

М і ш э л ь. Вы, сацыялісты, сацыялісты! Вы чакаеце, пакуль дзюрвілі вам сацыялізм паднясуць... Калі трэба быць рашучым, вы ў кусты хаваецеся...

Адчыняюцца дзверы, і на парозе з'яўляецца Ж а н н а, а за ёй д о к т а р з чамаданчыкам.

Д о к т а р. Добры вечар! Дзе хворая?

Ж а н н а. Гэта доктар.

П' е р. Вось тут, тут, мсье доктар.

П'ер вядзе доктара за шырму.

Д о к т а р. Святло!

Мішэль уключае святло. Доктар распранаецца.

Л е о н. Я пайду, калі...

Л е о н выходзіць. Доктар і П'ер ідуць за шырму. Доктар аглядае хворую Луізу. Мішэль падыходзіць да Жанны.

М і ш э л ь *(вінавата)*. Прабач, Жанна, я пра цябе вельмі дрэннае падумаў.

Жанна. Няўжо між намі такая вялікая мяжа?! Толькі таму, што мой бацька...

Мішэль. Ты яшчэ не ўсё разумееш, Жанна. Ты яшчэ не ведаеш жыцця, не мяжа, а сцяна... Мы неаднолькавым хлебам ускормлены.

Жанна. Так, я нічога не разумела... да сённяшняга дня. Але пасля сённяшняга між намі мяжы няма, не будзе. Я дакажу!

З-за шырмы выходзіць доктар, за ім П'ер.

Доктар. Дык што ж гэта вы... *(Хацеў сказаць: «Так запусцілі хваробу», але зразумеў.)* Вы што, беспрацоўны?

П'ер. Так, мсье доктар, ужо трэці месяц.

Доктар. Так... так... Вы лячылі чым-небудзь?

П'ер. А як жа! Лячылі, лячылі. Вось і цяпер яшчэ лякарствы ёсць.

Доктар. Пакажыце.

П'ер паказвае мікстуры, парашкі.

Амерыканскія? *(З абурэннем.)* Шарлатанства! Выкіньце вон! Дайце паперы кавалак, я рэцэпт напішу.

П'ер бярэ са стала паперу.

П'ер. Вось, калі ласка.

Доктар. Сырая ў вас кватэра.

П'ер. І тая не свая. Да вайны была лепшая, але разбамбілі, згарэла.

Мішэль. Чакайце, я другі лісток дам. *(Забірае з рук у бацькі лісток.)* Гэта Адозва.

Доктар. Супраць атамнай бомбы, супраць вайны? *(Бярэ лісток і піша рэцэпт.)* Дарэчы, дай гэтую Адозву. Я таксама яшчэ не падпісаўся. *(Падпісвае Адозву.)*

П'ер *(бярэ рэцэпт)*. Дзякую, мсье доктар! Дзякую. Выбачайце, заплаціць не маю чым. Але, можа, работа якая ёсць, дык я з усёй душой, я магу...

Доктар. Не трэба, нічога не трэба. *(Да Мішэля.)* Паедзеш са мной, я дам кіслародную падушку для хворай. Пакажу, як карыстацца.

П'ер. Мсье доктар! Ну што? Як? *(Паказвае на хворую.)*

Доктар *(падумаўшы)*. Позна...

Уваходзіць Леду.

Леду. Добры вечар. Мсье доктар, мне сказалі, што вы тут. Вельмі вас прашу наведаць яшчэ аднаго хворага,

інваліда. Ён тут, побач. Вельмі ў цяжкім становішчы. Прашу вас.

Д о к т а р *(незадаволена)*. Што вы мяне просіце? Я ж не адмаўляюся. *(Апранаецца.)*

Л е д у *(паказвае на Жанну)*. А гэта ваша асістэнтка?

Д о к т а р. Гэта мадэмуазель Дзюрвіль.

Л е д у *(здзіўлена)*. Дзюрвіль?

М і ш э л ь *(некалькі разгублена)*. Гэта Жанна... Дзюрвіль. Яна... Мы сёння разам подпісы пад Адозвай збіралі, і яна... даўно хоча з вамі пазнаёміцца. Знаёмцеся. *(Да Жанны.)* Гэта Леду.

Ж а н н а. Леду? Я вельмі рада.

Жанна вельмі ўсхвалявана гэтым знаёмствам, і доктар неяк па-новаму паглядзеў на Леду.

Л е д у. Значыцца, і вы подпісы збіралі? Тады... вельмі карысна будзе пабачыць вам, што нясе вайна простым людзям. Пойдзем паглядзім. *(Да Мішэля.)* Вось табе яшчэ пра што трэба напісаць.

Д о к т а р, Ж а н н а, М і ш э л ь і Л е д у выходзяць.

П' е р *(паўтарае словы доктара)*. Позна...

П'ер павольна апускаецца на табурэт. Сядзіць, як госць. Зараз ён чужы ў гэтым пакоі: яго прыдавіла, прыціснула гора.

Л у і з а. Яны пайшлі?

П' е р. Пайшлі.

Л у і з а. Гэта была тая дзяўчына?

П' е р. Тая...

Доўгая, цяжкая паўза.

Уваходзяць Б а б і з п а л і ц э й с к і м.

Б а б і. Вось ён, пане паліцэйскі, а вось прадпісанне прэфекта. І грошы не плаціць і кватэру не вызваляе.

П' е р. А гэта — новая кватарантка, якая будзе акуратна грошы плаціць?

Б а б і. Вось бачыце, пане паліцэйскі, ён вас абразіў.

П а л і ц э й с к і. Не бачу, а чую.

Б а б і. Чуеце? Вось і прашу — выселіць яго з майго дома на падставе закону.

П' е р. Куды вам спяшацца, мсье Бабі? Чаго спяшацца? Я пайду працаваць... Пайду... Толькі скажыце, калі...

Б а б і. А-а-а, то-та ж! Даўно б так! Я скажу калі. *(Да паліцэйскага.)* Хай пакуль што пажыве, пане паліцэйскі,

а там пабачым. *(Да П'ера.)* Глядзі ж, я жартаваць не люблю.

Бабі і паліцэйскі выходзяць, пакінуўшы дзверы расчыненымі.

П'ер падышоў да дзвярэй, падняў прымус.

П'е р *(павольна).* Патух... гаручае скончылася...

*Заслона.*

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Тая ж гасціная Дзюрвіля, што і ў першай карціне.
Густы змрок.
Уваходзіць усхваляваная Агнеса.

Агнеса. Ну, адвакат пайшоў. Здаецца, усё добра... Завяшчанне гатова.

Ціха ўваходзіць Катрын.

*(Агнеса спалохалася.)* Што ты ходзіш так, нібы крадзешся?

Катрын. Паходка ў мяне такая.

Агнеса. Доктар прыходзіў?

Катрын. Другі раз паслала па яго. Дома не было.

Агнеса *(уздыхнуўшы).* Гора на маю галаву. Не дом, а паліклініка... Маман даўно лякарства прымала?

Катрын. Ды яно пара ўжо...

Агнеса. Занясі.

Катрын бярэ бутэлечку.

Ды не тое, а вось гэта.

Катрын. Ці не ад гэтага лякарства яна ноччу так пакутавала? Можа, не варта болей даваць?

Агнеса. Наадварот, малыя дозы на яе не дзейнічаюць. Трэба болей даваць.

Катрын выходзіць.

Аджыла сваё, хопіць. Дай другім пажыць.

Недзе паблізу ў царкве звоняць к вячэрні.

*(Агнеса хрысціцца.)* Даруй мне, госпадзі, даруй мне, грэшніцы!

Агнеса падышла да дзвярэй у кабінет Дзюрвіля. Паслухала і выйшла з гасцінай. Праз некаторы час уваходзіць Катрын. Уключае святло.

К а т р ы н. Старая робіцца невыноснай. На кожным кроку падкрэслівае, што я раб... Цяжка... Ох, цяжка...

Уваходзіць Ж а н н а, стомленая, хмурая, задумлівая.

Што з табой, дзіцятка? Дзе ж ты была цэлы дзень? Ты яшчэ не абедала? *(Жанна моўчкі пакруціла галавой.)* Ну што такое? Ты заўсёды вясёлая, а сёння... Можа, пакрыўдзіў хто?

Ж а н н а. Не.

К а т р ы н. А тут такі скандал быў... Як прыйшла мачыха з гэтым, з амерыканцам, дык такога нагаварылі бацьку, ён пасля абеду прыехаў з Парыжа, такога нагаварылі, што той як разышоўся, як раскрычаўся, аж захварэў. У кабінеце цяпер ляжыць. Сэрца, бач, у яго слабае. Па доктара паслалі.

Ж а н н а *(грозна)*. Я ім сёння сама нагавару.

К а т р ы н. Не, любая, ты лепей ім не паказвайся на вочы. Хай уляжацца злосць... Потым... Ідзі ціхенька ў свой пакой. Я туды есці прынясу.

Ж а н н а *(задумліва)*. Я толькі сёння ўбачыла сапраўднае жыццё... як людзі жывуць. Якая ж я дурненькая была, сляпая, як кацянё... Нічога ж я не ведала... Якая дабрата, якое хараство ў людзях і якія яны няшчасныя. Мне сорамна было ісці дадому. Мне сорамна было глядзець ім у вочы. Яны пакутуюць таму, што мы, яны... *(Паказвае ў бок бацькавага кабінета. Заплакала.)*

К а т р ы н. Жанна, што з табой?

Ж а н н а. Інваліды... бязрукія, бязногія, сляпыя... без пасцеляў, без падушак... проста так, на саломе, на падлозе.

К а т р ы н. Дзе ты іх бачыла? Якія інваліды?

Ж а н н а. Там, у падвале. Леду паказаў. Сорак чалавек, і адзін хворы, зусім хворы... За што ж яны ваявалі? За каго пакутуюць гэтыя людзі? Нашто гэтыя войны?!

К а т р ы н. Плакаць не трэба, Жанна. Трэба дапамагаць тым людзям, якія змагаюцца супраць вайны. Пойдзем у твой пакой, там пагутарым.

Выводзіць Ж а н н у.

Д з ю р в і л ь *(крычыць з кабінета)*. Эй, хто там! Эй!..

Перачакаўшы крыху, Д з ю р в і л ь выходзіць з кабінета, апрануты ў піжаму.

Эй! Тысяча чарцей! Паглухлі яны ці паснулі?

Убягае А г н е с а.

Агнеса. Ой, што ты робіш? Чаму ты ўстаў? Не шкадуеш ты ні сябе, ні мяне.

Дзюрвіль. То ўюцца перад носам, як мухі, то не дазвацца вас. Прынясі мне што-небудзь піць...

Агнеса. Катрын! Катрын! Я ж ёй дам!..

Агнеса выбягае.

Дзюрвіль *(услед ёй)*. Мякка сцеле... Відаць, прасіць нешта будзе... Жанчына бывае ласкавай толькі тады, калі хоча нешта выпрасіць ці калі правінілася.

Агнеса прыносіць бутэльку ліманаду.

Агнеса *(папракае)*. Не беражэш ты сябе... не дарожыш, неасцярожны.

Дзюрвіль. Ну добра, добра.

Агнеса. Ты хвалюешся, нервуешся праз нейкае дзяўчо. Плюнь ты, і ўсё... Падумаеш!.. А то прыгразіў бы ёй... пазбаўленнем спадчыны...

Дзюрвіль. Думаеш, дапаможа?

Агнеса. А ты паспрабуй.

Дзюрвіль. Як гэта?

Агнеса. Прыдумай як-небудзь... *(Цярэбіць яго за валасы.)* Ці цябе вучыць? Ты ж у мяне хітры на выдумкі... Перавядзі часова сваю маёмасць на чыё-небудзь імя...

Дзюрвіль *(хаваючы іронію)*. На тваё, вядома.

Агнеса. Адразу стане шаўковай.

Уваходзяць Джонсан і Шэвалье.

Джонсан. Добры вечар! Як сэрца, супакоілася?

Дзюрвіль. Нічога, дзякую.

Джонсан. Такая скала і — хварэць. *(Рагоча.)* Ну дык што за тэрміновы ваенны савет? Якую аперацыю вы намераны правесці? Я чуў, што ўчора вельмі спрытна прыбралі аднаго камуніста?

Шэвалье *(Дзюрвілю)*. Выкарысталі вашу параду. Любымі сродкамі перахапіць ініцыятыву ў камуністаў.

Дзюрвіль. Дрэнна, няўдала выкарысталі. Апроч гэтага, вы нічога не прыдумалі?

Шэвалье. Трэба гэты намер давесці да канца.

Дзюрвіль. Я за вас прыдумаў: я рашыў задаволіць патрабаванні забастоўшчыкаў... Я не пратрачу, узяўшыся за такі заказ.

Шэвалье. Даведаюцца пра ваенны заказ, усё роўна будуць баставаць. Заказ пакуль што павінен быць тайнай.

Дзюрвіль. Што потым будзе, там будзем бачыць.

Мне галоўнае не выпусціць заказ, пачаць выпуск ваеннай прадукцыі. Гэта галоўнае. А тады хай дазнаюцца, хай бастуюць. Мне толькі гэта і трэба будзе. Тады ўрад за іх возьмецца як за сабатажнікаў, якія падрываюць нацыянальную абароназдольнасць. Я нацкую ўрад на забастоўшчыкаў. Самы зручны момант пазбавіць свой завод ад камуністаў. Я іх аддам... не я, а ўрад аддасць іх пад суд ваеннага трыбунала. Ясна? *(Пагрозліва.)* Я задаволю іхнія патрабаванні!

Ш э в а л ь е. Аднак, мсье Дзюрвіль, гэту забастоўку арганізавалі камуністы, і калі вы задаволіце іх патрабаванні, тым самым вы паднімеце аўтарытэт камуністаў перад рабочымі.

Д з ю р в і л ь. Гэта лагічна! А што вы прапануеце?

Ш э в а л ь е. Я заўтра... Не, сёння ж арганізую свой забастовачны камітэт, сваю дэлегацыю для перагавораў. І вы задаволіце нашы патрабаванні, а не камуністаў.

Д ж о н с а н. Вы геній, містэр Шэвалье! Задаволіць патрабаванні не камуністаў, а сацыялістаў! Рабочыя павінны думаць, што вы, сацыялісты, дамагаліся прыбаўкі, а не камуністы.

Ш э в а л ь е *(усміхнуўся)*. Значыць, я не дарэмна не паехаў на пасяджэнне парламента?

Д з ю р в і л ь. Вядома! Дзеля інтарэсаў рабочых вы, як дэпутат, не паехалі нават на пасяджэнне Нацыянальнага сходу.

Джонсан рагоча.

Ш э в а л ь е. Ваша ахвяра акупіцца поўнасцю.

Д з ю р в і л ь. Тым больш — падаспее закон аб забароне забастовак. *(Глянуўшы на гадзіннік.)* У гэты час у Парыжы, у парламенце, ідуць спрэчкі аб законапраекце...

Уваходзіць д о к т а р.

Д о к т а р. Добры вечар!

Д з ю р в і л ь. Добры, зусім добры, мсье доктар.

Д о к т а р. Мне сказалі, што вы дужа хворы...

Д з ю р в і л ь *(жартаўліва)*. А вы і рады таму? Не! На злосць урачам я жывы і здаровы. У мяне прайшло ўжо. Толькі, здаецца, маці недамагае. Эй! Хто там! Агнеса! Катрын! Жанна!

Уваходзяць К а т р ы н, Ж а н н а і А г н е с а.

*(Да Агнесы.)* Пакажы доктару хворую. Ды пакрывайце стол.

Д о к т а р і А г н е с а выходзяць.

Д ж о н с а н. Ваша старая — цудоўны сімвал старой добрай Францыі. Нядужая, кволая, на сваіх нагах ужо не стаіць, крэкча, але ўсё ж варушыцца і нават часам лаецца. Уважліва паглядзеўшы на яе, старэнькую, бачыш: залатое ўчора для яе прайшло, сёння — няма, а заўтра — не будзе. Францыя была.

Ж а н н а *(горача)*. Няпраўда! Хлусня!

Д ж о н с а н *(павярнуўся да Жанны)*. О, чую малады голас.

К а т р ы н *(захінаючы сабой Жанну)*. Не, містэр Джонсан! У Францыі было ўчора, ёсць сёння і будзе заўтра! Час спыніць немагчыма! На змену дню прыходзіць вечар, яго змяняе ноч. Але неўзабаве світанне, і дзень настане.

Д з ю р в і л ь. Гэта што яшчэ?!

К а т р ы н. Вось так і з Францыяй. Яна перажывае зараз час на досвітку... Сонца вось-вось узыдзе!.. Над Францыяй будзе сонца!

Д з ю р в і л ь. Зараз жа пакіньце гэты дом! Там, на вуліцы, можаце чакаць світання!

К а т р ы н. Я дачакаюся, мсье Дзюрвіль!..

К а т р ы н выходзіць.

Д з ю р в і л ь *(услед)*. Вон!

Ж а н н а *(горача)*. І ўсё-такі над Францыяй будзе сонца!

Д ж о н с а н. Ці не з усходу, ці не з Расіі мадэмуазель чакае тое сонца?

Ж а н н а. Толькі не з захаду, не з Амерыкі...

Уваходзіць А г н е с а.

А г н е с а. Стол накрыты. Прашу, панове.

Д з ю р в і л ь. Прашу, панове. Прашу, прашу, прашу. Я зараз.

А г н е с а вядзе Д ж о н с а н а і Ш э в а л ь е ў сталовую.

Жанна, ад каго ты пераняла такія непрыстойныя і дзікія манеры?

Ж а н н а. Папа! Я хачу больш сур'ёзна пагаварыць. Манеры тут ні пры чым.

Д з ю р в і л ь. Ага... Вось як... Ну што ж, я слухаю.

Ж а н н а. Ты толькі што прагнаў з дому чэснага чалавека, чэсную француженку. За што?!

Дзюрвіль. Пакаёўка павінна знаць, што ёй дазволена і што недазволена.

Жанна. Зараз жа прагані з дому гэтага... авантурыста і інтрыгана, які таксама павінен знаць, што яму дазволена і што недазволена.

Дзюрвіль. Каго?

Жанна. Амерыканца, містэра Джонсана! А разам з ім і гэту... Даруй мне, але яна заслужыла... Гэта распусніца для мяне не маці і нават не мачыха!..

Дзюрвіль *(строга)*. Што ты гаворыш, Жанна!

Жанна. Я не магу больш жыць у адным доме з такімі нізкімі, агіднымі людзьмі. Я чула, як яна прасіла, маліла яго, каб ён узяў яе ў Амерыку... Яна ненавідзіць і цябе і ўсіх нас...

Дзюрвіль *(сцяўшы зубы)*. Жанна! Ты яшчэ маладая, ты яшчэ не ўсё разумееш... Я ў яго руках. Мой завод! Яму сто гадоў, яго пабудаваў мой дзед... Гэта ўсё маё жыццё, усё маё багацце... гэта я сам. І ўсё залежыць ад яго. Я не магу, я не магу яго прагнаць! Я не магу выпусціць з рук ваенны заказ. Прагнаць яго — гэта ўсё роўна, што адмовіцца ад ваеннага заказу. Ад яго залежыць і твой лёс, твая будучыня, тваё багацце.

Жанна. Такой цаной? Як гэта нізка! Як гэта подла! Простыя рабочыя, бедната сядзяць без хлеба, пакідаюць дзяцей галоднымі і не ідуць зарабляць на ваенных заказах, бастуюць супраць вайны. А ты?

Дзюрвіль. Ты хочаш, каб і я стаў жабраком?

Уваходзіць Катрын з чамаданчыкам.

Жанна. Ты ператварыў свой асабняк у публічны дом для амерыканцаў, ты гандлюеш сваёй жонкай! Гэта...

Дзюрвіль. Замаўчы! *(Замахнуўся на Жанну.)*

Катрын *(стала паміж імі)*. Вы, мсье Дзюрвіль, разам з амерыканцамі прагналі мяне са школы, вы праганяеце мяне са свайго дому, але французаў з Францыі вам не выгнаць. Наадварот, блізка час, калі народ ачысціць Францыю і ад амерыканцаў і ад вас саміх. *(Ідзе да выхаду.)*

Жанна. Вы ж не людзі! І ты мне не бацька. Я пакідаю твой брудны, твой нікчэмны дом!

Жанна выходзіць. За ёй Катрын.

*Заслона.*

# ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Магутныя металічныя вароты завода Дзюрвіля, над якімі па сетцы надпіс: «Dürvil et K°». Далей, за варотамі, відаць заводскія карпусы, падвесная дарога для ваганетак, справа ад варот прахадная будка, каля якой двое рабочых — пікет. Злева кантора завода — двухпавярховая будыніна даволі прыгожай архітэктуры. Фундамент даволі высокі, і таму перад уваходам — ганак. Пад вокнамі пара дрэўцаў і лавачка. Па аднаму, па два праходзяць члены забастовачнага камітэта і, паказваючы пропускі пікетчыкам, заходзяць за вароты, дзе і рассаджваюцца.

Фларымон. Глядзі, а гэты донар капіталізму ўсё роўна на работу цягнецца.

Леон. Выслужыцца хоча перад гаспадаром.

У кантору ідзе Бабі: ён байкатуе забастоўку і штодня з папкай акуратна прыходзіць на работу ў кантору.

Фларымон *(да Бабі)*. Мсье Бабі, адну хвілiначку. У мяне для вас навіна ёсць.

Бабі. Ну, што такое?

Фларымон. Сёння я быў у гасцях у Дзюрвіля. Дык за чаем ён мне па сакрэту сказаў... Усім, хто бастуе, ён заробату павысіць на тры тысячы франкаў, як мы і патрабавалі, а вам будзе плаціць па-старому, кажа, Бабі і гэтаму будзе рад. Выходзіць, што вы прайгралі? Га?

Бабі *(сур'ёзна)*. Мы яшчэ пабачым, хто прайграў, а хто выйграў. *(З пагрозай.)* Бастуйце, бастуйце!

Фларымон. Дык вы заклікаеце нас баставаць? *(Пагражае.)* Добра ж, раскажу Дзюрвілю.

Бабі. Пачакай, пачакай! Усіх ён патурыць з завода, патурыць. А камуністаў у першую чаргу.

Фларымон. Гляджу я на вас і ведаеце што бачу? Вельмі вы падобны на адну птушку — маленькая такая, плюгавенькая, крапіўнікам завецца. Калі здараецца, ну там, гром на небе, маланка бліскае, дык ёй здаецца, быццам неба трашчыць, ламаецца і вось-вось зваліцца на зямлю і тады капут усяму жывому, загіне свет. Дык што яна робіць? Ляжа на спіну і ногі дагары — падтрымаць неба хоча, каб выратаваць усё жывое. Дурненькая птушка, няпраўда?

Пікетчыкі смяюцца, а Бабі раззлаваўся і пайшоў у кантору.

Леон. Здорава ты яго!

Уваходзіць Анры Леду.

Леду *(вітаецца)*. Здарова, хлопцы! *(Да Фларымона.)* Забастовачны камітэт у зборы?

Фларымон. Як адзін.

Леду. Актыў?

Фларымон. Тут. А што такое? У чым справа?

Леду. Зараз пачуеш!.. *(Заходзіць за вароты, дзе сабраўся актыў.)* Дык вось што, таварышы, справа надзвычайная, вельмі сур'ёзная. Урадавая камісія ўнесла ў Нацыянальны сход антырабочы законапраект аб забароне мітынгаў, дэманстрацый і забастовак.

Воклічы абурэння:

— Не можа быць!

— Ды што яны, звар'яцелі!

— Што ж гэта такое!

— Ды гэта ж фашызм!..

Леду. Так! Імперыялісты рыхтуюць тыл для новай вайны. Безумоўна, трэба чакаць паліцэйскіх мер, арыштаў. Яны хочуць паўтарыць трыццаць дзевяты год: падрыхтаваць прыход фашызму.

Воклічы:

— Не дапусцім!

— Навучаны!

— Хопіць!

— Баста!..

Леду. Народ павінен неадкладна заявіць магутны пратэст супраць гэтага законапраекта.

Голас. Пакуль мы заявім пратэст, дык законапраект стане законам.

Леду. Я толькі што гаварыў з Парыжам. Цэнтральны Камітэт паведаміў, што дэпутаты-камуністы ўжо шаснаццаць гадзін утрымліваюць парламенцкую трыбуну. Вы разумееце чаму? Наша задача — неадкладна падтрымаць нашых дэпутатаў адсюль. Увесь завод, увесь горад вывесці на вуліцы. Дэманстрацыі і забастоўкі — вось наш адказ на гэты законапраект!

Воклічы:

— Правільна!

— Ясна!

— Дзейнічаць!

— Будзем дзейнічаць!

— Будзем дзейнічаць, таварышы!..

Леду. Фларымон!

Фларымон. Я.

Леду. Зараз жа аб'явіць трывогу. Падняць усіх рабочых станкабудаўнічага завода. Не забудзьце ўзмацніць пікеты. І зноў вылучыць дэлегацыі ў навакольныя вёскі. Падняць сялян. Ясна?

Фларымон. Будзе зроблена, таварыш Леду!

Леду. Жак!

Жак. Ёсць!

Леду. Зараз жа звязацца з партыйным камітэтам завода электрапрыбораў. Задача тая ж.

Жак. Ёсць!

Леду. Раймонда! На шаўковую фабрыку!

Раймонда. Добра!

Леду. Мішэль!

Мішэль. Слухаю, таварыш камандзір!

Леду *(усміхнуўся)*. А ты, партызан, будзеш сувязным пры мне.

Мішэль. Ёсць, таварыш камандзір!

Леду. Таварышы! Будзьце пільнымі, могуць быць правакацыі. Штаб-кватэра будзе тут. У выпадку чаго — звяніце мне. Я пакуль застаюся тут. Ідзіце, таварышы! Толькі не марудзьце!

Усе разыходзяцца, акрамя пікета.

Леон. Ну ці чуў ты?

Фларымон. А ты што, ужо спалохаўся?

Леон. А што ты думаеш, засадзяць у турму, тады і круці мазгамі.

Фларымон. Ну-у, усіх у турму не засадзяць. Турмаў не хопіць.

Да пікетчыкаў падыходзяць Леду і Мішэль.

Леду. Правільна, папаша, правільна! Калі людзі збяруцца грамадой, тады нават богу не па сабе. Што можа адзін супраць усіх? У пікеце ўсе людзі надзейныя?

Фларымон. Здаецца, не падвядуць.

Мішэль *(глянуўшы на Леона)*. Акрамя сацыялістаў.

Леон. Гэта ён у мой агарод... *(Да Мішэля.)* Не ўсе сацыялісты такія, як Бабі і Шэвальс. Яны не стануць баставаць, а я бастую.

Леду. Правільна, трэба адрозніваць лідэраў ад радавых сацыялістаў, з якімі мы можам дзейнічаць заадно. *(Да Мішэля.)* Пайшлі.

Леду і Мішэль выходзяць.

Л е о н *(заўважыў Дзюрвіля)*. Глядзі ты, груган тут.

Уваходзіць Д з ю р в і л ь. Пікетчыкі дэманстратыўна засунулі рукі ў кішэні. З канторы расчыняе дзверы і ліслівa ўсміхаецца Б а б і.

Д з ю р в і л ь *(спыніўся каля пікетчыкаў)*. Бастуеце?

Ф л а р ы м о н. Бастуем.

Д з ю р в і л ь. Дабаставаліся. Жываты падвяло?

Ф л а р ы м о н. Ну, яшчэ не дабаставаліся. Бачылі, які абоз прадуктаў сяляне прыслалі? І рабочыя з другіх заводаў тое-сёе падкінулі. Дапамаглі. Вось дзе нашы саюзнікі, а не Амерыка.

Д з ю р в і л ь *(да Бабі)*. Выклікаць мне зараз жа гэтых камітэтчыкаў.

Ф л а р ы м о н. На перагаворы? Даўно б так.

Д з ю р в і л ь *(да Бабі)*. Зараз жа!

Б а б і. Забастовачны камітэт на чале з Шэвалье вас чакае ўжо.

Д з ю р в і л ь. А тыя? Камуністы тут?

Б а б і. Не, няма.

Д з ю р в і л ь. Паклічце і гэтых.

Б а б і. Слухаю!..

Бабі падбягае да праходнай, але пікетчыкі не выпускаюць яго.

Ф л а р ы м о н. Нельга!

Д з ю р в і л ь *(загадвае)*. Прапусціць!

Ф л а р ы м о н. Нельга, мсье Бабі!

Д з ю р в і л ь. Я ўжо не гаспадар па сваім заводзе? *(Крычыць.)* Зараз жа прапусціць!

Ф л а р ы м о н *(спакойна)*. Мсье Дзюрвіль, навошта крычаць, мы ж не глухія. *(Паказвае на Бабі.)* У яго здароўе слабае дый ногі не такія прыткія. У нас ёсць каму збегаць, маладзейшаму. Леон! Ідзі скажы Леду: гаспадар просіць...

Д з ю р в і л ь. Не просіць, а патрабуе!..

Ф л а р ы м о н. ...вельмі просіць на перагаворы.

Л е о н пабег.

Б а б і. Якое пахабства! Якое пахабства!

Ф л а р ы м о н. Ну і хітрыя ж бываюць людзі. Вось паглядзіце на яго, мсье Дзюрвіль. *(Паказвае на Бабі.)* Не прайшло і паўгадзіны, як ён падбухторваў нас на забастоўку, а цяпер перад вамі хвастом віляе, нібы вам дабра жадае. От жа чалавек!

Дзюрвіль кінуў позірк на Бабі.

Б а б і *(абурана апраўдваецца)*. Якое нахабства! Паклёп! Паклёп! Мсье Дзюрвіль, гэта ён наўмысля! Не верце яму! Не верце!

Уваходзяць Л е д у і Л е о н.

Л е д у. Каму я так пільна патрэбны?

Д з ю р в і л ь. Я выклікаў увесь забастовачны камітэт.

Л е д у. Калі вы згодны задаволіць патрабаванні рабочых, можаце паведаміць мне. Я ўпаўнаважаны на гэта.

Д з ю р в і л ь. Я патрабую спыніць забастоўку. Папярэджваю, што Нацыянальны сход прыняў закон аб забароне...

Л е д у *(перапыняе)*. Пакуль што толькі праект.

Д з ю р в і л ь. Заўтра будзе закон.

Л е д у. Гэты закон вам на ўцеху, а народ яго не прызнае.

Д з ю р в і л ь. Вы не падпарадкоўваецеся закону? Вы супраць урада?

Л е д у. Калі ўрад пад вашу дыктоўку піша законы і парушае элементарныя правы грамадзян, народ мае права супраціўляцца такому ўраду.

Д з ю р в і л ь. Я прыйшоў не на дыспут з вамі, а весці перагаворы з забастовачным камітэтам.

Л е д у. Сёння мы ніякіх перагавораў з вамі весці не будзем. Цяпер рабочыя бастуюць не толькі за павышэнне заработнай платы, але і супраць вашага законапраекта.

Д з ю р в і л ь. Значыць, вы адмаўляецеся ад перагавораў? *(Да пікетчыкаў.)* Вы чулі? А я хацеў дапамагчы вам... Ну што ж, не жадаеце вы, з другімі будзем гаварыць. Я набяру новы кантынгент рабочых. Я думаю, што знайду замену.

Б а б і. Ужо ёсць, мсье Дзюрвіль. Колькі хочаце.

Дзюрвіль кіўнуў галавой, і Б а б і пабег некуды.

Ф л а р ы м о н. Я ж кажу — донар капіталізму.

Л е д у. Лакаута не дапусцім!

Д з ю р в і л ь. Тады з вамі будзем гаварыць іначай!

Д з ю р в і л ь пайшоў у кантору.

Л е д у. Ну што ж, пагаворым!

Прыкметна наступае змярканне. Фларымон напявае песеньку.

Л е о н. Ціха! Нехта ідзе. *(Прыглядаецца.)*

Ф л а р ы м о н. Хто ідзе? Пароль!

Р а й м о н *(пад'язджае на калясцы)*. «Салідарнасць». *(Да Леду.)* На заводзе электрапрыбораў ходзяць чуткі, што Дзюрвіль атрымаў ваенны заказ для нашага завода. Так што ты, папашка, сваімі рукамі новую вайну будзеш рыхтаваць.

Л е о н *(трывожна)*. Глядзі!.. Глядзі!..

Фларымон прыглядаецца. З вуліцы да варот набліжаецца вялікая г р у п а ш т р э й к б р э х е р а ў у суправаджэнні п а л і ц ы і. Іх вядзе Б а б і. Сярод штрэйкбрэхераў П'е р Г р э н ь е.

Ф л а р ы м о н. Свісток!

Леон, заклаўшы ў рот пальцы, дае свісток — сігнал.

Зачыняй вароты!

Ф л а р ы м о н і Л е о н заходзяць на заводскі двор і зачыняюць за сабой вароты.

Б а б і *(падыходзячы да варот)*. А-а, думаеце, схаваліся! Думаеце, на вашым стане? Не-е! Вы-ку-рым! Ад закону не схаваешся!

Р а й м о н. А-а, стары знаёмы. Пакрыўдзіла ж цябе родная мама, мсье Бабі.

Б а б і. Што?

Р а й м о н. Я кажу, мама твая нарадзіла цябе без хваста. От і жыць нязручна. Няма чым віляць перад Дзюрвілем.

Б а б і. Пачакайце! Яшчэ пабачым, хто перад кім будзе віляць.

З завода да варот прыбягаюць р а б о ч ы я - з а б а с т о ў ш ч ы к і.

Г а л а с ы р а б о ч ы х:

— Што здарылася?

— У чым справа?

— Паліцыя!

— Дзе?

— Штрэйкбрэхеры!

— Вунь за варотамі. Трывогу трэба!..

Ф л а р ы м о н. Ціха, без панікі!

Б а б і *(зларадна)*. Ага-а, прыпякло.

Ф л а р ы м о н. Брысь! А то... *(Замахнуўся жалязякай.)* Вельмі проста магу тваю жонку ашчаслівіць — удавой пакінуць.

Б а б і *(адхіснуўся)*. Ну, ну!..

Б а б і ўваходзіць у кантору.

Л е о н. Эй, Грэнье, і ты тут?

П' е р. Ну, вядома, тут, а не на могілках.

Л е о н. Фларымон! Ты не чуў, старына, што Грэнье мае намер сватацца да Дзюрвіля?

Ф л а р ы м о н. Намер — не цыбуля, у суп не пакладзеш.

З канторы выбягае Б а б і.

Б а б і. Брава! Брава! Браточкі!

Р а й м о н. Цюцька табе брат.

Б а б і. Наша ўзяла! Брава нашаму Шэвалье! Нашаму дэпутату!

Г а л а с ы р а б о ч ы х:

— Яго забрала.

— Наморднік яму, а то пакусае!

— Ціха, дайце яму сказаць!..

Б а б і. Ціха! Браточкі! Наша перамога! Пан Дзюрвіль згадзіўся з намі. Усім павышае зарплату.

З канторы выходзіць Ш э в а л ь е, за ім Д ж о н с а н, а следам к а п і т а н п а л і ц ы і.

Вось, калі ласка! Віва Шэвалье!

З завода прыходзіць Л е д у.

Ш э в а л ь е *(падымае руку, просіць увагі)*. Грамадзяне! Французы! Слаўныя металісты! Наша стойкасць, дысцыпліна і рэвалюцыйная вытрымка прынеслі нам яшчэ адну значную перамогу над капіталізмам! Так, перамогу ў рамках законнасці. Хай будзе вам вядома, што забастовачны камітэт, які, карыстаючыся вашым легкавер'ем, узначалілі камуністы, гэты камітэт адмовіўся весці перагаворы з Дзюрвілем аб задавальненні вашай просьбы. А таму я, як ваш дэпутат і член сацыялістычнай рабочай партыі...

Ф л а р ы м о н. Асёл не можа раскрыць рота, не задраўшы хваста.

Ш э в а л ь е. ...узяў на сябе гэтую цяжкую місію, каб у вашых інтарэсах дамовіцца з панам Дзюрвілем аб павышэнні зарплаты вам, каб спыніць забастоўку і зноў пачаць выпуск прадукцыі для нашай квітнеючай Францыі.

Л е д у. Якой прадукцыі?

Леду прабіраецца да варот.

Р а й м о н. Для нас? Кастылі ці каляскі?

Ш э в а л ь е. Усякай прадукцыі. Рабочых не цікавіць, якія машыны выпускаць. Для іх галоўнае — заробак

і чалавечыя ўмовы жыцця. А вам, як відаць, прыемна бачыць галодныя сем'і рабочых, прыемна чуць плач галодных дзяцей. Нас не цікавіць прадукцыя. Нас цікавіць, што Дзюрвіль павысіў заробак на паўтары тысячы франкаў.

Галасы рабочых:

— Вось гэта іншая размова.

— Ага, я ж казаў, што надбавіць.

— Наша ўсё-такі ўзяло...

Гул адабрэння. Леду нешта шапнуў Жаку.

Леду. Паважаны дэпутат! З якой гэта ласкі Дзюрвіль згадзіўся павысіць заробак? І чаму ён адмовіўся ўзяць заказ на штампавальныя станкі для свайго брата? Ці не таму, што пан Дзюрвіль атрымаў ваенны заказ? Га? Раскажыце праўду народу!

Рабочыя занепакоіліся.

Шэвалье. Няпраўда! Няпраўда! Паклёп! Правакацыя! Не верце правакацыйнай выдумцы камуністаў! Ніякага ваеннага заказу няма!

Джонсан *(жэстам рукі загадвае натоўпу змоўкнуць)*. Французы! *(Гэта прагучала як вокрык.)* Мы, амерыканцы, не маем намеру патураць сабатажнікам. Злучаныя Штаты Амерыкі дапамагаюць вам, французам, стаць на ногі. Але і самі вы павінны працаваць...

Раймон *(перапыняе)*. Вось ваша дапамога! Вось на якія ногі вы хочаце паставіць французаў! Гэта вы мяне зрабілі калекам. Браточкі! Французы! Навошта вам вайна?! Далоў заказ! Ганіце іх вон! Вон, янкі! Вон у Амерыку!

Народ зноў занепакоіўся.
З'яўляюцца Мішэль і Жанна.
Мішэль падбягае к Леду і нешта расказвае.

Шэвалье. Грамадзяне! Французы! Не паддавайцеся на правакацыю! Ніякага ваеннага заказу я не ведаю.

Мішэль. Таварышы! Металісты! Ён клянецца, што не ведае пра заказ. Ён абвінавачвае ў правакацыі камуністаў. А нам вядома, што Дзюрвіль павысіў вам заробак толькі таму, што атрымаў тэрміновы ваенны заказ! Вялікі заказ на вайну! І Шэвалье ведае гэта.

Шэвалье. Няпраўда! Паклёп!

Мішэль. А што гэта так, можа пацвердзіць дачка самога Дзюрвіля. Жанна! Гэта праўда?

Жанна. Так, гэта праўда.

П'ер *(да Шэвалье)*. Колькі ж вы будзеце дурачыць

нас? Вы давялі мяне да беспрацоўя, да галечы. Мала вам гэтага? Вы яшчэ хочаце запаскудзіць мне душу? Здрадай?! Як жа вас я ненавіджу! Я праклінаю той дзень, калі паверыў вам, калі пайшоў з вамі. Вось ваш білет!.. *(Са злосцю рве на шматкі свой білет члена сацыялістычнай партыі і кідае яго пад ногі Шэвалье.)*

Л е д у. Таварышы! Вось гэты «дэпутат» толькі што распінаўся, нібы ён ваш заступнік. Ён пашкадаваў вашы галодныя сем'і. А чаму ж тады вы, шаноўны заступнік, не скажаце рабочым адкрыта, што за падачку Дзюрвіля металісты павінны выпускаць ваенную прадукцыю — аўтаматы і мінамёты.

Рабочыя занепакоіліся.

Каму так пільна спатрэбіўся гэты заказ? Галодным рабочым сем'ям? Удовам? Сіротам? Інвалідам? Ці Дзюрвілю і вашым амерыканскім гаспадарам? Вам Расія поперак горла стала? Чэсныя французы не дазволяць! Не выйдзе! Французы не будуць, ніколі не будуць ваяваць супраць Савецкага Саюза!!

Народ узбуджаны. Спачатку разрозненыя выкрыкі: «Далоў заказ! Далоў вайну!» Затым дружна скандуюць. Джонсан ківае капітану паліцыі, і той дае знак паліцэйскім. Яны арыштоўваюць Леду. Некалькі рабочых вырываюцца з-за варот, каб выручыць Леду.

Б а б і. Грамадзяне! Грамадзяне! Толькі не супраць закону!

П' е р *(з абурэннем).* Якога закону?! Якога закону?!! Хлопцы! Выручайце Леду!!

Капітан паліцыі дае свісток. Паліцэйскія з дубінкамі кідаюцца на рабочых. Нібы ў адказ на арышт Леду, трывожна загуў гудок на заводзе. Да яго далучаюцца гудкі другіх заводаў і кароткія гудкі паравозаў.

*Заслона.*

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Досвітак. У кабінеце прэфекта паліцыі цёмна. З вуліцы даносіцца гоман натоўпу: гул то сціхае, то нарастае. На тварах ч ы н о ў п а л і ц ы і разгубленасць і перапалох. Капітан нервова ляпае па рычажку тэлефона і ахрыплым голасам крычыць у трубку.

К а п і т а н. Алё!.. Алё!.. Парыж! Парыж! Парыж! Так, так... Я слухаю! Хто там перабівае? Так, так. Цяпер вас добра чуваць. Пан палкоўнік? Дайце інструкцыі...

Я ж вам дакладваў. Вуліцы перапоўнены дэманстрантамі! Раз'юшаны натоўп чыніць пагромы! Толькі што інваліды разграмілі бюро па найму добраахвотнікаў у В'етнам, а чыгуначнікі скінулі з рэек воінскі эшалон. Што рабіць?.. Нічога сваімі сіламі зрабіць не магу, дайце падмогу...

Убягае паліцэйскі.

Паліцэйскі. Пан капітан, пан капітан!..

Капітан *(паліцэйскаму)*. Ціха ты! *(У трубку.)* Якія тут сілы?! Прэфектура абкружана рабочымі! Нікога з паліцэйскіх чыноў не выпускаюць у горад... Што? Што-о? *(Нейкі час трымае каля вуха трубку, затым кладзе яе на апарат.)* Страляць?..

На вуліцы шум узмацніўся, чуваць выкрыкі. «Свабоду Леду!» Недзе ўспыхнула і, набліжаючыся, нарастае «Марсельеза».

Паліцэйскі. Пан капітан!..

Капітан. Зачыні акно! *(Амаль істэрычна.)* Як страляць?.. Куды страляць? Каму страляць? Гэты раз'юшаны натоўп пасля першага стрэлу разарве нас на шматкі.

Паліцэйскі. Пан капітан!..

Капітан. Ну што табе трэба, што табе трэба?

Паліцэйскі *(дакладвае)*. Званіла жонка Дзюрвіля. У іх дом уварваліся інваліды і рабочыя, схапілі Дзюрвіля і пацягнулі некуды. Прасіла дапамагчы...

Капітан. Чорт з ім! Сам заварыў гэтую кашу, хай цяпер і расхлёбвае.

Паліцэйскі. Я не таму... мой капітан, можа, гэта рэвалюцыя, дык, пакуль не позна...

Капітан. Асталоп! Пакуль не позна, ідзі скажы, каб ніхто не ўздумаў страляць, калі не надакучыла насіць галаву на плячах.

Паліцэйскі выйшаў.

*(Да другога паліцэйскага.)* Чаму святла няма?

Другі паліцэйскі. Электрастанцыя таксама бастуе, мой капітан.

Капітан. Ведаю, што бастуе. Свечку хоць бы прынёс!

Другі паліцэйскі. Хіба што толькі свечку ўжо... *(Выходзіць.)*

Капітан асцярожна прыпадымае штору і глядзіць у акно. На вуліцы мітусяцца факелы. Праз зачыненае акно даносіцца прыглушаны гоман натоўпу і нарастае песня французскіх докераў. Гэта відовішча наганяе на капітана жах.

Капітан *(ціха, паўшэптам)*. Раз'юшаны вулкан... *(Быццам некаму пагражае.)* А-а... растрывожылі яго, разварочалі... *(Увабраўшы галаву, адступае ад акна і садзіцца на крэсла.)*

Уваходзіць другі паліцэйскі са свечкай.

Другі паліцэйскі *(нясмела)*. Каб гэтага Леду ды ў другую турму, куды-небудзь... *(Смела.)* Мой капітан! А калі сказаць, што Леду гэтага няма ў нас, быццам вывезлі яго ў другую турму, у другі горад?.. Га?

Капітан. Паспрабуй толькі заікнуцца аб гэтым! Каб падумалі, што мы ў расход яго пусцілі?

Уваходзіць першы паліцэйскі.

Першы паліцэйскі. Пан капітан! Зноў дэлегацыя, дазвольце далажыць.

Капітан. Не пускаць!

Першы паліцэйскі. Пан капітан, але ж там Дзюрвіль...

Капітан. Што?.. Дзюрвіля прапусціце, аднаго.

Першы паліцэйскі. Не пускаюць... аднаго не пускаюць.

Даносіцца з вуліцы скандаванне: «Свабоду Леду! Свабоду Леду!» Гул натоўпу ўзмацняецца.

Што загадаеце?

Капітан. Многа іх там?

Першы паліцэйскі. Народ...

Капітан. Я пра дэлегацыю пытаю.

Першы паліцэйскі. Чалавек дваццаць.

Капітан. Прапусці чалавек пяць-шэсць.

Першы паліцэйскі выходзіць. Полымя свечкі дрыжыць, а ствараецца ўражанне, што палахліва дрыжаць паліцэйскія. Праз хвіліну ў кабінет шумна ўрываюцца Фларымон, Мішэль, доктар і інвалід Раймон. Яны прывялі сюды і Дзюрвіля. У руках Мішэля факел. Полымя свечкі затрапятала і патухла.

Фларымон *(да капітана)*. Вось вам Дзюрвіль. Няхай пры нас, няхай на вочнай стаўцы абвінаваціць Леду ў якім-небудзь злачынстве. А садзіць у турму невінаватага чалавека не дазволім! Бясчынства не дапусцім!

Доктар. На гэта ёсць закон, парадак!

Раймон. На тое яны і паліцыя, каб парушаць закон.

Капітан *(гнеўна)*. Ціха! Вы! Вы з кім размаўляе-

це? Вы на каго крычыце? Я зараз жа загадаю і вас арыштаваць разам з гэтым Леду.

Ф л а р ы м о н. Паспрабуйце!

Фларымон расчыняе акно.
Знадворку даносяцца гоман натоўпу і крыкі: «Свабоду Леду!»

Народ не арыштуеш!

Р а й м о н. Ты не глядзі, капітан, што мяне толькі палова засталася! Я яшчэ сілу маю. І такую сілу, што магу абярнуць цягнік з танкамі. Ты на чыгуначным вузле быў? Бачыў, як я там варочаў? Так што ты нас не палохай! Я цяпер — асілак! *(Паказвае за акно на народ.)* У мяне цяпер тысячы ног і тысячы рук!

Ф л а р ы м о н. Вызваляйце Леду! За што вы пасадзілі яго ў турму?

К а п і т а н. Нам прад'явіў матэрыялы мсье Дзюрвіль.

Р а й м о н. Выкладвайце нам матэрыялы!

Дзюрвіль маўчыць, відаць, ён перапалохаўся.

К а п і т а н. На мінулым тыдні была аварыя на вашым заводзе.

Ф л а р ы м о н *(да Дзюрвіля)*. Вы заявілі аб гэтым у паліцыю?

Д з ю р в і л ь. Нікуды і нічога я не заяўляў. Паліцыя сама...

К а п і т а н. Як гэта сама, пан Дзюрвіль? Вы ж мне загадалі...

Д з ю р в і л ь. Нічога я вам не загадваў.

К а п і т а н. Ах так? Дзяжурны! Прывесці сюды Леду!

П е р ш ы п а л і ц э й с к і. Ёсць!

П е р ш ы п а л і ц э й с к і выходзіць. Спачатку ціха і нясмела, а потым настойліва і моцна гучыць пачатак музыкальнай фразы «Інтэрнацыянала».

Д з ю р в і л ь. І вы, мсье доктар, з камуністамі?

Ф л а р ы м о н. А чаму ж яму не быць з камуністамі?

Д з ю р в і л ь. Я, здаецца, не вас пытаю.

Д о к т а р. Я і сам магу адказаць. Ваш завод, мсье Дзюрвіль, падпалілі...

Дзюрвіль збянтэжыўся.

Вы ўжо занепакоіліся. А калі б ён сапраўды загарэўся і тушыць яго прыехалі пажарнікі-камуністы, няўжо вы іх прагналі б з завода? Думаю, што не, калі вы з нармальнай псіхікай. А Францыя — не завод. Францыя — гэта дом, гэта дзеці, народ, культура. Францыя — гэта радзіма.

І вось Францыю хочуць спаліць у полымі новай сусветнай вайны. Камуністы ратуюць Францыю ад гэтага пажару. Чаму я павінен быць не з імі?

Паліцэйскі прыводзіць Леду.

Леду. Прывітанне, таварышы! Прывітанне, сябры мае!

Усе дэлегаты горача паціскаюць яму руку.

Ну што, пан Дзюрвіль? Вы думалі запалохаць нас голадам, фашысцкімі законамі, забойствамі з-за вугла і арыштамі?! Не выйшла? І не выйдзе! Ні вам, ні вашым заакіянскім гаспадарам не ўдасца зламаць волю французскага народа да міру, да свабоды, да сацыялізма! Паглядзіце праўдзе ў вочы.

Паварот круга. Леду выходзіць да народа.

Таварышы! Будзьце пільнымі! Мы перажываем самы небяспечны і самы адказны перыяд. Наш народ штурхаюць у бездань. Хто? Імперыялісты! Чаму? Яны чуюць сваю пагібель і ратунак шукаюць у новай вайне. Яны цяпер, рыхтуючы вайну, саджаюць нас у турмы, забараняюць забастоўкі, мітынгі і дэманстрацыі за мір. А што ж яны могуць нарабіць, калі ім удасца развязаць вайну?! Над намі навісла сур'ёзная небяспека. Але ўсё залежыць ад нас саміх. Наш лёс у нашых руках. Усе чэсныя людзі зямлі — ад Кітая да Францыі, ад Аўстраліі да Нарвегіі, ад Бразіліі да Канады, а іх мільёны, бяруць справу міру ў свае рукі. Мы выйграем бітву за мір, дэмакратыю і сацыялізм! Наш народ, які падняў сцяг Парыжскай камуны, наш народ, які першы заспяваў «Інтэрнацыянал», адстаіць да канца справу міру!

Ці то музыка іграе, ці то ў народзе выспявае мелодыя магутнага пралетарскага гімна. Мішэль запявае «Інтэрнацыянал». Яго падхапіла дэлегацыя, а за ёю і народ.

На ўсходзе палыхае зара.

*Заслона.*

*1951*

# ВЫБАЧАЙЦЕ, КАЛІ ЛАСКА

КАМЕДЫЯ
У ЧАТЫРОХ ДЗЕЯХ

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Каліберaў Сцяпан Васільевіч.
Антаніна Цімафееўна.
Моцкін.
Печкуроў Кузьма Прохаравіч.
Гарошка Ягор Сяргеевіч.
Марыя Кірылаўна.
Наташа.
Лёня.
Ганна Чыхнюк.
Міхальчук.
Гардзіюк.
Курбатаў Сяргей Іванавіч.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Ясны ліпеньскі ранак. Кватэра Сцяпана Васільевіча Каліберава. Са спальні выходзіць Сцяпан Васільевіч; ён у саколцы, піжамных штанах, на нагах хатнія тапкі. Сцяпан Васільевіч нечага доўга шукае. Чым даўжэй шукае, тым ніжэй падае і без таго дрэнны настрой.

Каліберaў. Закурыць у доме — цэлая праблема. Пра апетыт клапоціцца, а нервы трэпле... Запалкі схавае, шэльма... *(Знайшоў запалкі, прыкурыў і зноў пайшоў у спальню.)*

Знадворку прыходзяць Антаніна Цімафееўна і Ганна з кошыкам.

Антаніна Цімафееўна. Заходзьце, мілая, заходзьце сюды. *(Паставіла крэсла каля дзвярэй.)* Сядайце, калі ласка, сядайце.

Ганна. Дзякую, галубка, дзякую. Няма калі мне сядзець.

Антаніна Цімафееўна. Дык вы спецыяльна прыйшлі па мяшкі?

Ганна. Кладаўшчык папрасіў. Хутка жніво пачнецца — спатрэбяцца.

Антаніна Цімафееўна. Мне і самой рупіла, ды не было кім перадаць. *(Бядуючы.)* Я вінавата, а вам клопат.

Ганна. Які там клопат.

Антаніна Цімафееўна. А за бульбу ён заплаціў грошы?

Ганна. Заплаціў, заплаціў.

Антаніна Цімафееўна. Цяпер жа, самі ведаеце, могуць прыпісаць парушэнне Статута сельгасарцелі.

Ганна. Не, не, заплаціў, заплаціў.

Антаніна Цімафееўна. А гэта што ў вас? Можа, яйкі? Дык я іх вазьму.

Ганна. А во, калі ласка. Мне ўсё роўна каму прадаваць.

Антаніна Цімафееўна. Ой, мілая, вельмі ж яны дробненькія.

Ганна. Не, чаму дробненькія? Сярэднія. Пеўня няма ў двары. Быў там нейкі, дык задушыў кабанчык. Так мае куркі ўдовамі і засталіся...

Антаніна Цімафееўна *(нездаволена)*. Дробненькія... Але нічога, вазьму.

Антаніна Цімафееўна забірае яйкі і выносіць на кухню. Ганна тым часам аглядае кватэру: памацала абрус, з цікаўнасцю агледзела буфет і раптам заўважыла на буфеце чучала ката, якому нададзена такая поза, быццам ён вось-вось схопіць мыш. Вяртаецца Антаніна Цімафееўна і адлічвае Ганне грошы.

А старшыня ваш, Гарошка, вельмі добры чалавек. І характар такі лагодны, пакладзісты.

Ганна. Жонцы трэба лагодны характар, а калгасу — ні к чаму. Калгасу гаспадар патрэбен, ды добры гаспадар. Галубка, дзіўны кот у вас.

Антаніна Цімафееўна. Праўда, мілая, быў дзіўны кот. Любімец мой.

Ганна. Натапырыўся, а каторы час не паварушыцца.

Антаніна Цімафееўна. Гэта чучала... Як вам сказаць... Партрэт на памяць зрабілі...

Ганна. Дык ён здох?

Антаніна Цімафееўна. Памёр.

Ганна. Аб'еўся?

Антаніна Цімафееўна. Што вы, мілая! Я так яго даглядала! Мы тады ў Мінску жылі. На ўвесь Мінск, пэўна, не было такога ката. Такі разумны быў, такі ласкавы... *(Выцірае слёзы.)*

Ганна. Дык вы яго аблупілі і напхалі нечым?

Антаніна Цімафееўна. Мастак рабіў.

Ганна. Бедны коцік... А тыя, што ў калідоры, таксама вашай гадоўлі?

Антаніна Цімафееўна. Мае, мілая, мае. Люблю я іх.

Ганна. У вас дзетак, відаць, няма?

Антаніна Цімафееўна. І без іх клопату хапае .

Ганна. Ну, вядова, вядома. А ў мяне іх двое. Без мужа гадую.

Антаніна Цімафееўна. А дзе ж ён?

Ганна. Сабакам сена косіць.

Антаніна Цімафееўна. Сабакам?

Ганна. Можа, і кошкам, хто яго ведае.

Антаніна Цімафееўна. А цераз суд, аліменты...

Ганна. Хай ён падавіцца тымі аліментамі. Я і сама дзяцей выгадую. Большы сёлета сямігодку скончыў. У тэхнікум паедзе. Па электрычнасці тэхнікам хоча быць. Хай едзе. Цяпер вучоныя людзі ўсюды патрэбны. Вось і ў нашым калгасе электрастанцыю ставіць будзем. Інжынеры прыязджалі, планы знімалі.

Антаніна Цімафееўна. А-а, ведаю, ведаю. Гэта Сцяпан Васільевіч пасылаў да вас інжынераў.

Ганна. Хай бы ён цяпер на Гарошку націснуў, каб пасля жніва і за электрастанцыю ўзяўся. Шкада, што наш Макар Сямёнавіч, бедны, захварэў. Той бы падагнаў. От быў чалавек!..

Антаніна Цімафееўна. А Каліберау што? Горшы?

Ганна. Як вам сказаць?.. Нарады розныя ды пасяджэнні часта праводзіць. А вось у калгасах рэдка бывае. А з такіх, як Гарошка, нельга вачэй спускаць.

Антаніна Цімафееўна. Ну, ён цяпер спуску не дасць.

Ганна. Хто?

Антаніна Цімафееўна. Сцяпан Васільевіч Каліберау.

Ганна. Выбачайце, калі ласка, можа, я што лішняе нагаварыла пра вашага мужа.

Антаніна Цімафееўна. Нічога, нічога, мілая. За крытыку мы не крыўдзімся.

Ганна. Ну, дык я пайду ўжо. Бывайце здаровенькі.

Антаніна Цімафееўна. Усяго добрага, мілая.

Ганна выйшла.

*(Антаніна Цімафееўна падышла да дзвярэй у спальню, пастаяла, паслухала.)* Спіць яшчэ...

Звоніць тэлефон.

Слухаю... Добры дзень, Кузьма Прохаравіч! Сцяпану Васільевічу крыху нездаровіцца. Зайдзіце, калі ласка, праз гадзінку.

Каліберау *(са спальні)*. Навошта ты хлусіш? Каму нездаровіцца?

Антаніна Цімафееўна. А чаму ты спіш да гэтай пары? Ужо дзесяць гадзін, даўно пара ўставаць.

Калібераў. Не твая справа, сплю я ці не сплю.

Антаніна Цімафееўна. Э-э, тут нешта не тое... Значыць, у абкоме ўчора супраць шэрсці пагладзілі. *(Адчыняе дзверы ў спальню і вельмі ласкава.)* Сцёпа, ну навошта ты курыш да снедання? А потым будзеш скардзіцца, што няма апетыту.

Сцяпан Васільевіч ці то адкашляўся, ці то нешта буркнуў і выйшаў са спальні.

Можа, табе вадзічкі сагрэць для брыцця?

Сцяпан Васільевіч, нічога не адказаўшы, пайшоў на кухню мыцца.

Значыць, вымову закацілі. Не менш... *(Прыносіць мужу сарочку і туфлі. Калі Сцяпан Васільевіч прыходзіць з кухні, яна падае яму ручнік.)* Чаму ты сёння невясёлы, Сцёпа? *(Уключыла радыё.)*

Голас з рэпрадуктара. Абком указаў таварышу Каліберáву на заганны стыль работы, калі аператыўнае і канкрэтнае кіраўніцтва падмяняецца засядацельскай мітуснёй. У час падрыхтоўкі да ўборкі неабходна...

Антаніна Цімафееўна паспешна выключае радыё.

Каліберáў. Раструбілі, праславілі... Весяліся ты, радуйся, што муж атрымаў суровую вымову з апошнім папярэджаннем.

Антаніна Цімафееўна. Я так і знала.

Каліберáў. Што ты знала? Знайка...

Антаніна Цімафееўна. А чаму ж ты, Сцёпа, на мне злосць спаганяеш? Я ж тут ні пры чым.

Каліберáў. Не прыставай ты, яй-богу! Адчапіся... *(Сеў, задумаўся.)*

Антаніна Цімафееўна. Ты хоць бы расказаў — за што ж табе вымову далі.

Каліберáў маўчыць.

Каб сказалі, што ты нічога не робіш, бяздзейнічаеш, дык жа і дзень і ноч прападаеш там на сваіх пасяджэннях і нарадах, днюеш і начуеш там. І сам спакою не ведаеш і людзям не даеш. Дык за што ж тады?

Каліберáў. Вось за гэта — за пасяджэнні і нарады, за гаварыльню. Камісія, бачыш, выявіла няспраўныя камбайны і жняяркі. Зернесушылак не хапае, і такі не падрыхтаваны.

Антаніна Цімафееўна. Няўжо ты сам павінен камбайны рамантаваць і жняяркі? Нічога не разумею.

Калібераў *(рэзка)*. Калі нічога не разумееш, дык памаўчы. Кіраваць трэба, а не засядаць!

Антаніна Цімафееўна. Ты заўсёды так: табе нехта насоліць, а мне гэта бокам вылазіць.

Калібераў. Памаўчы, Тоня, памаўчы хоць крыху! *(Стукнуў тапкай аб стол.)*

Паўза.
Сядзяць абое і маўчаць.
Сцяпан Васільевіч, нервуючыся, выбівае на стале, нібы на барабане, «Старога барабаншчыка». Потым да гэтай гульні далучаецца і Антаніна Цімафееўна.

Антаніна Цімафееўна *(памаўчаўшы)*. Ну і колькі ж мы будзем так маўчаць? Не, Сцёпа, тут маўчаць не прыходзіцца. Я даўно з табой хацела пагаварыць. Але ты заўсёды адмахваешся.

Калібераў маўчыць.

*(Антаніна Цімафееўна смялее.)* На тваім бы месцы я тваіх работнічкаў так узяла б за жабры, так бы іх прымусіла круціцца, што... Ты з імі цацкаешся, а сам вымовы хапаеш... Бокам бы ім вылезла мая вымова.

Калібераў коса глянуў на Антаніну Цімафееўну.

Можа б, ты перакусіў чаго? Паснедаў бы?

Калібераў. Сыты... Па горла сыты.

Антаніна Цімафееўна. Ты на мяне не злуйся. Я табе дабра жадаю. Ты думаеш, мне лёгка глядзець, як ты перажываеш? *(Уздыхнула.)* Вырвацца б адсюль, з гэтага балота, назад, у Мінск...

Калібераў. Глядзі, каб не вылецела, як пробка.

Антаніна Цімафееўна. Так яно, мабыць, і будзе. Ну, вядома, калі ты не возьмешся за розум.

Калібераў *(іранічна)*. А калі яго няма?

Антаніна Цімафееўна. Дык злазь з даху і не псуй гонту.

Калібераў. Вось гэта па-бальшавіцку!

Антаніна Цімафееўна. А як ты думаў? Да пары збан ваду носіць.

Калібераў. Здорава!

Антаніна Цімафееўна. Твая іронія ні к чаму. Смешачкі, мілок, пакінь на пасля. У Мінску ты займаў вялікую пасаду.

Каліберау. І які ж вывад?

Антаніна Цімафееўна. Вывад?.. Ну хай не справіўся ты там — скарацілі цябе. Але ж не махнулі рукой, не сказалі — «прапашчы чалавек». А паслалі сюды, ніжэй, старшынёй райвыканкома, каб ты тут паказаў сябе. Табе далі магчымасць паказаць сябе. Дык ты ж пакажы!

Каліберау. Вынікамі работы трэба паказаць. А вынікі...

Антаніна Цімафееўна. Рабо-оты? Працуюць хай другія. А ты і тут *(сціла кулак)* сябе пакажы і там *(палец уверх)* пакажы сябе! Тады і вынікі будуць. Інакш ты ніколі ў Мінск не вернешся. Больш таго, мой мілок, цябе могуць і адсюль скараціць. Што ж ты тады будзеш рабіць? Спецыяльнасці ты не маеш, адукацыя... *(Махнула рукой.)* Куды ж ты пойдзеш? Пастухом у калгас? Дык жа і там таксама трэба ўмець пугай валодаць.

Каліберау *(не хаваючы іроніі)*. Перакананаўча. Далей.

Антаніна Цімафееўна. Ты не хочаш ацаніць сваё становішча.

Каліберау. Я ж вельмі ўважліва слухаю.

Антаніна Цімафееўна. Усе павінны ведаць, што ты працуеш як вол, начэй не спіш — за раён хварэеш... Во, во! І апроч таго — хворы. Чуў, з якой павагай гавораць пра Макара Сямёнавіча? «Захварэў, бедны...»

Каліберау. А якая ж у мяне хвароба?

Антаніна Цімафееўна. Гіпертанія, рак, гемарой, язва — любую выбірай.

Каліберау. А як накопт *(пстрыкнуў па горле)* ста грамаў?

Антаніна Цімафееўна. Дома — колькі хочаш. А на людзях — ні ў рот. Дома сама буду паіць, да чарцікаў.

Каліберау. Не жыццё, а рай. Ну вось што, хопіць мне слухаць тваю мяшчанскую трызню. Сама *(пастукаў спачатку па лбе, а потым па стале)*, а яшчэ ўстаноўкі дае.

Антаніна Цімафееўна. Ты не можаш без абразы? Ты што?..

Каліберау. Што? *(З сарказмам.)* Пачынаю сябе паказваць! *(Нервуецца, ходзіць па пакоі.)* Чорт яго ведае! Там вучаць, указваюць, дырэктывы даюць, вымовы аб'яўляюць, а прыедзеш дадому — таксама інструктаж.

Антаніна Цімафееўна. А спакойна нельга?

Каліберау. Колькі разоў я цябе прасіў: не лезь у

мае справы. У мяне — свая галава. А ты назбірала катоў — гадуй іх Вось твая справа. *(Выходзіць у спальню.)*

Стук у дзверы. Антаніна Цімафееўна ідзе адчыняць. Уваходзіць Моцкін.

Моцкін. Выбачайце...

Антаніна Цімафееўна. Калі ласка, калі ласка. Заходзьце.

Моцкін. Добрай раніцы!

Антаніна Цімафееўна. Добрай раніцы.

Моцкін. Сцяпан Васільевіч прыехаў?

Антаніна Цімафееўна. Прыехаў, ды яму... крыху нездаровіцца. Ізноў прыступ...

Моцкін *(перапалохаўся)*. Што вы? А што такое?

Антаніна Цімафееўна. Печань... камні... ведаеце...

Моцкін. Ух, ух, ух!.. Гэта ж вельмі сур'ёзна. Калі так, дык я не буду яго турбаваць.

Антаніна Цімафееўна. Не, не, па важнай справе ён прыме.

Моцкін. Што вы, што вы! Надакучаць хвораму чалавеку?

Антаніна Цімафееўна. Вы не ведаеце яго. Ён жа такі — хворы не хворы, а цягне як вол. І нікому не заікнецца.

Моцкін. Вы ведаеце, у мяне ў Мінску ёсць добра знаёмы доктар. Дваюрадны брат маёй жонкі, дацэнт, гінеколаг. Яго ўсе прафесары і дацэнты ведаюць. Магу ўстроіць.

Антаніна Цімафееўна *(абмахваючыся рукамі)*. Дзякую, дзякую... Ён быў ужо і ў прафесароў і ў дацэнтаў... Яму ў Кіславодск трэба. Дык жа лета — гарачая пара цяпер. Не да таго яму. Пачынаецца жніво, хлебанарыхтоўкі.

Моцкін. Антаніна Цімафееўна, здароўе даражэй.

Антаніна Цімафееўна. Ён і слухаць пра гэта не хоча. Для яго даражэй за ўсё — работа. Макара Сямёнавіча, сакратара райкома, у прыклад ставіць. Яму ўборачная і хлебанарыхтоўкі спаць не даюць. На першае месца раён хоча вывесці.

Моцкін. Калі Сцяпан Васільевіч захоча, дык сёлета наш раён можа самым першым закончыць хлебанарыхтоўкі.

Антаніна Цімафееўна. А чаму ён не захоча?

Моцкін. Таму, што тут... трошкі... ведаеце, трэба...

*(Растапырыўшы пальцы, робіць рукой нейкія выкрутасы.)* Не ведаю, ці паслухае ён.

Антаніна Цімафееўна. А вы пагаварыце з ім, парайцеся. Можа, ён вас і паслухае.

Заходзіць Калібер态ў.

Каліберaў. А-а, Моцкін.

Моцкін. Добры дзень, Сцяпан Васільевіч! У вас такі і сапраўды нездаровы выгляд. *(Вітаецца.)*

Каліберaў. Ну, што там у цябе? Сядай.

Моцкін. Сёння выхадны дзень, і вам трохі нездаровіцца, дык я ўжо не буду турбаваць. Я пайду. Выбачайце, што зайшоў. Не ведаў.

Каліберaў. Ну, ладна, ладна. Што там у цябе?

Моцкін. Хай сабе мне няма ні выхаднога дня ні спакойнай ночы, дык я ўжо як-небудзь буду круціцца. А навошта вам, калі ў вас такое здароўе?

Каліберaў. Дык чаго ты тады заходзіў?

Моцкін *(зразумеў, што далей юліць лішне)*. Заўтра на выканкоме вы будзеце слухаць аб малаканастаўках. Дык я ўчора за вечар зрабіў спіс — хто як здае малако. Можа, вы паглядзелі б?

Антаніна Цімафееўна. Я схаджу ў аптэку, можа, «Есентукі № 20» прывезлі. *(Выйшла.)*

Каліберaў. Ага... пакажы. *(Разглядае спіс.)* Так... так... «Леў Талстой» поўнасцю разлічыўся?

Моцкін. «Леў Талстой» маслам... маслам... кхе... з магазіна...

Каліберaў. А гэта? А тут? Што? У Гарошкі стольκі?

Моцкін. Вы ўжо не хвалюйцеся. Пры вашым здароўі...

Каліберaў. Ты аб маім здароўі не клапаціся. *(Разважліва.)* Малако-то малако, але не яно рашаючае звяно ў нашай рабоце.

Моцкін. Канешне, што малако? Гэта чапуха. Заўтра на выканкоме націснем, і яно само пацячэ.

Каліберaў *(ходзіць па пакоі заклапочаны)*. Хлеб — вось што аснова асноў.

Моцкін. Сцяпан Васільевіч! Дык мы ўжо графік падрыхтавалі. Заўтра таксама трэба зацвердзіць. Паглядзіце, калі ласка.

Каліберaў *(разглядае графік)*. Намецілі першага верасня закончыць хлебаздачу?

Моцкін. Першага верасня, Сцяпан Васільевіч. Мы трохі скарацілі дзяржаўныя тэрміны.

Каліберaў. Бачу, што трохі. А на справе калі скончыце?

Моцкін. Ну, думаю, пятнаццатага верасня скончым.

Каліберaў. А пра датэрміновае выкананне планаў чуў што-небудзь, таварыш Моцкін?

Моцкін. А як жа! Чуў, канешне.

Каліберaў. Дык вось, сёлета мы павінны быць наперадзе перадавікоў! Ясна? Каб перадавікі за намі ў хвасце пляліся. А твой графік забяспечвае гэта? *(Моцкін пацiскае плячыма.)* Дык вось, напляваць і забыць твой графік. Да пятнаццатага жніўня з хлебанарыхтоўкамі павінны разлічыцца поўнасцю і без лішняй гаворкі.

Моцкін. Гэта не так проста арганізаваць, Сцяпан Васільевіч.

Каліберaў. Арганізуеце! А не зробіш — душу вон і жылы на тэлефон! Цацкацца не буду. Даволі.

Моцкін. Ну, Сцяпан Васільевіч, тут трэба пакруціць мазгамі.

Каліберaў. Чорт вазьмі! Другія раёны такія ж, як наш: адна і тая сістэма, адны і тыя арганізацыі і калгасы амаль такія ж, а яны на паўмесяца, а то і на цэлы месяц раней за нас заканчваюць хлебанарыхтоўкі. Або нейкі сакрэт ёсць, або мы нікуды не вартыя кіраўнікі.

Моцкін. Не, чаму? Кіраўнікі вы добрыя. Але і сакрэты таксама ёсць. Адзін сакрэт — калгасы, відаць, не аднолькавыя. Напэўна, багацейшыя.

Каліберaў. А другі?

Моцкін. Другі вы таксама ведаеце. Што з беднага браць? Трэба браць з багатага. Завысіць план багатаму — і націскай. Хай выконвае.

Каліберaў *(махнуўшы рукой)*. Які гэта сакрэт?

Моцкін. І я ж кажу: які гэта сакрэт?

Каліберaў. Значыць, ёсць яшчэ і трэці?

Моцкін. Калі гаварыць шчыра, дык ёсць. Праўда, гэты сакрэт... сакрэтны.

Каліберaў. Ну, ну, цікава.

Моцкін. Некаторыя, не ведаю, разумныя ці неразумныя, людзі робяць... Яны хітра робяць. Канешне, яны не крадуць і сабе ў кішэню не кладуць. Усё для роднай дзяржавы стараюцца. Скажыце, а хто не хоча быць перадавіком?

К а л і б е р а ў. Ды гавары ты адкрыта, Моцкін. Што ты фінціш?

М о ц к і н. Я не фінчу... Я хачу сказаць, што хітрыя людзі перад начальствам заўсёды ў добрым святле.

К а л і б е р а ў. Фу ты, чорт вазьмі!.. Ну і чалавек ты! Соль, соль давай.

М о ц к і н. Скажыце чэсна — а вы мне не насоліце гэтай соллю?

К а л і б е р а ў. А ты баішся?

М о ц к і н *(асмеліўся)*. Сцяпан Васільевіч... У некаторых раёнах нарыхтоўку збожжа праводзяць спіртзаводы, леспрамгасы. Яны прымаюць ад калгасаў хлеб і выдаюць квітанцыі.

К а л і б е р а ў. Так, так.

М о ц к і н. У нашым раёне ёсць спіртзавод.

К а л і б е р а ў. Ну, ну.

М о ц к і н. Калі там працуе свой чалавек, дык з ім лёгка дамовіцца.

К а л і б е р а ў. Так, так.

М о ц к і н. Каб ён выдаў калгасам квітанцыі, а з калгасаў узяў пакуль што не хлеб, а гарантыйныя распіскі.

К а л і б е р а ў *(дагадаўся)*. Так, так, так, так...

М о ц к і н. Хлеб яшчэ на полі, а мы ўжо з дзяржавай разлічыліся. І зводку ў вобласць паслалі законную — на падставе квітанцый.

К а л і б е р а ў. А потым?

М о ц к і н. А потым? Будзем націскаць і здаваць хлеб, каб вярнуць гарантыйныя распіскі. Праўда, цяпер развялося столькі рэвізораў, кантралёраў і правяральшчыкаў, што хоць ты плач. І асабліва тых, як іх, што пішуць у газеты, у «Кракадзіл», у «Вожык».

К а л і б е р а ў *(схамянуўшыся)*. А ты, брат, камбінатар! Спе-ец!

М о ц к і н. Цяпер вам трэба толькі на-ціскаць, на-ціскаць, націскаць. А я, я ім буду падказваць выхад. Па сакрэту. Праўда, не ўсякаму старшыні можна падказаць такі выхад. Гарошку з «Партызана» можна.

К а л і б е р а ў. Гарошку... *(Думаючы.)* Гарошку можна... А яшчэ?

М о ц к і н. Ну, «Льву Талстому» можна. Толькі перад гэтым страху трэба нагнаць.

К а л і б е р а ў. І ўсё?

М о ц к і н. З усяго раёна можна выбраць яшчэ аднаго-двух. І нам хопіць — во!

К а л і б е р а ў. Та-ак...

М о ц к і н. Канешне, Сталярову з «Бальшавіка» пра гэта не заікайся — прынцыповы. З такім кашу не зварыш. Ці, напрыклад, Штапенка з «Максіма Горкага»... Той падкруціць вус і скажа: «А ну-тка, таварыш Моцкін, хадзем параімся на бюро райкома...» *(Паказвае на Калібераву, як бы Штапенка ўзяў яго за каўнер.)* Да чаго ж яхідны чалавек.

К а л і б е р а ў *(з падазрэннем)*. Ты што, таварыш Моцкін, жартуеш ці ўсур'ёз стараешся выканаць хлебанарыхтоўкі. А?

М о ц к і н. Сцяпан Васільевіч! Як жа мне не старацца?! За хлеб у мяне ўжо дзве вымовы. Адну Макар Сямёнавіч даў у мінулым годзе, а другую — яшчэ раней — вобласць прыслала... Калі камень доўга ляжыць на адным месцы, дык ён абрастае мохам. А чалавек — вымовамі. За свой век я перакanaўся. Трэба шукаць сухога месца. А мне абяцалі пасаду дырэктара базы ў Бабруйску. Дык навошта мне гэты самы мох? На новае месца трэба прыехаць чыстым... Вы думаеце, калі мне даюць вымову, дык я не хварэю? Таксама хварэю...

К а л і б е р а ў *(укалоўшы Моцкіна позіркам)*. «Таксама»? Скажы, Моцкін, а ты Статут партыі чытаў?

М о ц к і н. Чытаў, Сцяпан Васільевіч.

К а л і б е р а ў. Ты думаеш, мне надакучыла насіць у кішэні партбілет?

М о ц к і н. Што вы, Сцяпан Васільевіч? Я так не думаю.

К а л і б е р а ў. Дык навошта ж ты мяне штурхаеш на падман партыі, на падман дзяржавы, на злачынства?

М о ц к і н. Я штурхаю? Я нікога не штурхаю. Вы самі прасілі, каб я расказаў сакрэт. Я толькі расказаў, як некаторыя робяць.

К а л і б е р а ў. Ты думаеш, калі мне аб'явілі вымову, дык я гатоў на ўсякую хітрасць і подласць, каб быць на добрым рахунку ў начальства?

М о ц к і н. Што вы, Сцяпан Васільевіч? Якую вымову? Я нічога не ведаю.

К а л і б е р а ў. Ты ўсё ведаеш. Але памыляешся — на падман партыі, на злачынства перад дзяржавай я не пайду.

М о ц к і н. Ніякага злачынства і ніякага падману няма. *(Шчыра.)* Дзяржаве мы аддадзім усё, што належыць, абавязацельствы свае выканаем поўнасцю.

Каліберaў *(праз зубы)*. Моцкін! Калі ты яшчэ хоць раз заікнешся, май на ўвазе — усе твае камбінатарскія махінацыі я выкрыю на бюро райкома.

Моцкін *(спалохаўся)*. Сцяпан Васільевіч! За што? Я ж толькі вам расказаў. Даю вам чэснае слова: буду рабіць толькі так, як вы скажаце.

Каліберaў. Як скажа партыя!

Моцкін. Ну і партыя, канешне.

Паўза.

Моцкін закурыў. Каліберaў з хітраватай усмешкай таксама працягвае руку па папяроску. Моцкін ахвотна частуе. Прыкурваюць. Дружна пускаюць струйкі дыму ўгору.

Каліберaў. Табе, Моцкін, падабаецца твая пасада?

Моцкін. Што вам сказаць? Як уласная жонка.

Каліберaў. Што значыць — «як уласная жонка?»

Моцкін. Трошкі люблю, трошкі цярплю, трошкі хачу другую.

Каліберaў. Другую хочаш? Цёплае месца шукаеш?

Моцкін. Сцяпан Васільевіч, скажыце, а хто не шукае? Кожны чалавек шукае сабе цёплае месцейка. Адны едуць у Крым, другія — у Сочы, туды, дзе болей сонца, дзе цяплей. А для вас хіба няма лепшага месца, чым тут? Ёсць. Дык чаго тут сядзець? Чаго нам тут сядзець, Сцяпан Васільевіч?

Каліберaў. Ты глядзі, Моцкін, зломіш сабе шыю.

Моцкін. Ломіцца тое, што не гнецца.

Заходзіць Антаніна Цімафееўна.

Антаніна Цімафееўна. Сцёпа! Скінь ты гэту піжаму. Надзень касцюм.

Каліберaў выходзіць у спальню, каб пераапрануцца.

Вы гаварылі са Сцяпанам Васільевічам?

Моцкін. Гаварыў.

Антаніна Цімафееўна. Ну і што?

Моцкін. Куды там! І слухаць не хоча. Не дазваляе.

Антаніна Цімафееўна. А без яго дазволу нельга, калі ён не згодзен?

Моцкін. Канешне, можна. Але ж боязна... без дазволу.

Антаніна Цімафееўна. А вы не бойцеся. Паверце мне. Дзе ж вы бачылі, каб на гэта *(пакруціла пальцам і так, як Моцкін)* дазвол давалі?

М о ц к і н. Дык ён жа нават і слухаць не хоча і ведаць не хоча.

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а. Ах, які ж вы нездагадлівы. Ён жа толькі ведаць не хоча. Яму не трэба гэтага ведаць.

М о ц к і н. Ага... Ясна...

Прыходзіць дырэктар спіртзавода П е ч к у р о ў.

П е ч к у р о ў. Добры дзень, Антаніна Цімафееўна.

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а. А-а, Кузьма Прохаравіч! Добры дзень! Як пажывае Ніна Трафімаўна? Сядайце.

П е ч к у р о ў. Нічога, дзякую. Прывітанне вам перадавала.

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а. Дзякую. А як сынок? Пэўна, бегае ўжо?

П е ч к у р о ў. Не, гультай. Пакуль што поўзае.

М о ц к і н. Увесь у бацьку.

Заходзіць К а л і б е р а ў.

К а л і б е р а ў. А-а, п'янтрэст! Здароў, здароў!

М о ц к і н. Ну, як там у вас, таварыш дырэктар спіртзавода, яшчэ не капае?

П е ч к у р о ў. Хоць і не капае, але сырасць ёсць.

М о ц к і н. Сырасць ці сырэц?

К а л і б е р а ў *(ляпае па кішэнях — шукае, папяросы)*. Антаніна! Дзе мае папяросы?

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а. Ты ж яшчэ не паснедаў, Сцёпа. Апетыт страціш.

П е ч к у р о ў *(прапануе папяросы)*. Калі ласка, у мяне ёсць.

М о ц к і н *(апярэдзіўшы Печкурова)*. Калі ласка...

К а л і б е р а ў *(жартам)*. Хабару не бяру. *(Пайшоў у спальню па папяросы.)*

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а панесла на кухню «Есентукі».

П е ч к у р о ў. Ну, што?

М о ц к і н. Трэба быць дыпламатам. Ты яму з дзяржаўных пазіцый. Разумееш? Пра хлебанарыхтоўкі зрабі намёк. Толькі асцярожна, не ў лоб. Скажы, што для раёна, ты пастараешся... каб не быць у хвасце...

Вяртаецца К а л і б е р а ў, а потым А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а.

К а л і б е р а ў. Ну, што вы стаіце? Сядайце.

М о ц к і н. Не, я пайду. Бывайце здаровенькі! Будзь-

це ўпэўнены, Сцяпан Васільевіч, Моцкін вас не падвядзе, без вас я ні-ні-ні. *(Да Печкурова.)* Ну, таварыш дырэктар спіртзавода, рыхтуйся да прыёмкі хлеба. *(Выйшаў.)*

Каліберау. На наваселле хутка пазавеш?

Печкуроў *(уздыхнуўшы)*. І сам не ведаю калі, Сцяпан Васільевіч. Усе мае планы... *(Махнуў рукой.)* Хіба толькі вы выручыце.

Каліберау. Ад каго? Ад пракурора? Можа, з завода цягаў матэрыялы для ўласнага доміка?

Печкуроў. Не, тут усё чыста. Усё за свой кошт. І квітанцыі маю... *(палез у кішэню, каб паказаць квітанцыі)* на бензін, на лес, на цэглу...

Каліберау. То-та ж, глядзі!.. Ну, а што такое?

Печкуроў. Ваенком... *(Уздыхнуўшы.)* Маёр Дуеў.

Каліберау. Што маёр Дуеў?

Печкуроў *(з іроніяй)*. Пятага ліпеня ў яго жонкі былі імяніны.

Антаніна Цімафееўна. Ну і што?

Печкуроў. А я завалтузіўся з гэтым домікам і забыўся, зусім з галавы вылецела.

Каліберау. Ну дык што?

Печкуроў. Вось, павестку прыслаў. Відаць, на вайсковыя зборы.

Каліберау і Антаніна Цімафееўна смяюцца.

Каліберау. Ты сур'ёзна думаеш, што ваенком праз нейкія імяніны табе павестку прыслаў?

Печкуроў. Я падазраю, Сцяпан Васільевіч. Акрамя таго, Моцкін сказаў, што так.

Каліберау. Кожнага чалавека вы лічыце прайдзісветам.

Антаніна Цімафееўна. Гэта вам навука. Імяніны жонкі начальніка — не абы-што.

Печкуроў. Вам смешна, а я малодшы лейтэнант, зенітчык.

Антаніна Цімафееўна. Для малодшага лейтэнанта вы, Кузьма Прохаравіч, занадта поўны.

Каліберау *(праз смех)*. Які з цябе афіцэр? Разумна ўсё-такі робяць, што не даюць тлусцець.

Печкуроў. Сцяпан Васільевіч, дык вы...

Каліберау. Не, брат, тут справа дзяржаўная. Канстытуцыю чытаў? Там запісана, што абарона Айчыны — свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР.

Печкуроў. Чытаў, вядома...

Каліберaў. Таму мы павінны быць начыку, павінны быць гатовымі да абароны. А ты зенітчык.

Печкуроў. Сцяпан Васільевіч! Я, здаецца, чалавек сур'ёзны. У прынцыпе, вядома, я нічога не маю супраць.

Каліберaў. Яшчэ б...

Печкуроў. Але ўзважце гэта па-дзяржаўнаму. Цяпер самая гарачая пара: трэба завод рыхтаваць да новага сезона, нарыхтаваць сыравіну. І самае галоўнае — вось-вось пачнецца хлебаздача. Дык дзе я прынясу больш карысці? Гэта пытанне трэба рашыць з дзяржаўнага пункту погляду, у інтарэсах раёна.

Каліберaў. Н-да... У інтарэсах раёна, кажаш?..

Печкуроў. Маёр Дуеў рашае гэта чыста ведамственна, а вы можаце — з дзяржаўных пазіцый.

Каліберaў. Н-да-а...

Печкуроў. На майго намесніка, галоўнага інжынера, цяжка спадзявацца. Вы ж ведаеце, які ён букваед. Што б ён ні рабіў — ад літары не адступіцца. Пачэпіць пенснэ на нос — і ў інструкцыю. А ў час хлебанарыхтовак прыходзіцца іншы раз... знаеце... і так... як-небудзь... не толькі па інструкцыі.

Каліберaў. Ну, я яму гайкі закручу!..

Печкуроў. Дык яму ж яшчэ трэба закручваць гайкі, а ў мяне ўжо закручаны... *(Уздыхнуў.)* Далей няма куды.

Каліберaў. А як у вас з Моцкіным? Што, дружба?

Печкуроў. Дружба — не дружба, але адзін аднаму верым.

Каліберaў *(у роздуме)*. Так, т-так... А на якое чысло цябе выклікаюць?

Печкуроў. На заўтра.

Каліберaў ходзіць па пакоі, прыкідваючы, як вырашыць гэтае пытанне. Печкуроў чакае рашэння, як прысуду. Вось ён глянуў на «адваката», Антаніну Цімафееўну, просячы дапамогі.

Антаніна Цімафееўна. Ты ўсё-такі, Сцяпан Васільевіч, пагавары з Дуевым.

Каліберaў. Я не маю ніякіх правоў.

Антаніна Цімафееўна. А ты яму параі, растлумач... з дзяржаўных пазіцый, у інтарэсах раёна.

Печкуроў. З вашым аўтарытэтам, з вашым словам ён будзе лічыцца.

Каліберaў ходзіць па пакоі. Антаніна Цімафееўна і Печкуроў праводзяць яго вачыма. Нарэшце Каліберaў падыходзіць да тэлефона.

Антаніна Цімафееўна і Печкуроў пераглянуліся. Антаніна Цімафееўна ўсміхнулася і паляпала Печкурова па плячы.

Антаніна Цімафееўна. А я вам зараз снеданне арганізую.

Каліберaў *(па тэлефоне)*. Маёра Дуева.

Печкуроў *(Антаніне Цімафееўне)*. А ў вас настойка?

Антаніна Цімафееўна. Адны ягады.

Печкуроў тайком ад Каліберава выцягвае з партфеля грэлку са спіртам і паказвае Антаніне Цімафееўне, каб яна выліла ў графін з настойкай, які стаіць на акне. Антаніна Цімафееўна так і робіць. Каліберaў заўважыў гэта, зразумеў і адвярнуўся, каб не бачыць.

Каліберaў. Дуеў? Каліберaў. Прывітанне ўзброеным сілам. На рыбу сёння не паехаў?.. А-а... Слухай, ты што, Печкурова, дырэктара спіртзавода, выклікаў?.. Ага... так-так... Пара ў нас пачынаецца гарачая: хлебапастаўкі, а там бульба... А завод яго не маленькі. Яму трэба будзе прымаць і хлеб і бульбу. Без яго там запарацца. Там жа такія работнічкі, што... Так што ў нашых інтарэсах, у інтарэсах раёна... Што? Так-так... А я думаў... Толькі анкету? Ну, будзь здароў. *(Да Антаніны Цімафееўны.)* Паснедаем, ці што? *(Печкурову.)* Здаецца мне, што ты не так пра завод, як пра свой домік думаеш... Пачнецца хлебаздача, каб на заводзе ніякай затрымкі не было. Зразумеў? І наогул...

Печкуроў. Будзьце ўпэўнены, Сцяпан Васільевіч. Галаву адкруціце.

Антаніна Цімафееўна. Прашу за стол.

Печкуроў. Дзякую.

Нясмелы стук у дзверы.

Антаніна Цімафееўна. Калі ласка!

Нясмелы стук паўтараецца.

Калі ласка, калі ласка, заходзьце!

Дзверы расчыняюцца, паказваецца кашолка, другая і затым — Гарошка Ягор Сяргеевіч. Убачыўшы на стале снеданне і чаркі, ён крыху разгубіўся, збянтэжыўся.

Гарошка *(хаваючы за спіну кашолкі)*. Выбачайце, калі ласка!.. Добрага здароўечка вам.

Каліберaў. А-а, Гарошка! Ну, заходзь, заходзь. Што ты засаромеўся, нібы ў жаночую лазню трапіў?

Гарошка. Ды вы ж... Ды я ж... не ў час трапіў. Хлеб-соль.

Калібераў. Якраз у час. Прашу за стол.

Гарошка перадае Антаніне Цімафееўне кашолкі.

Антаніна Цімафееўна. Сядайце, сядайце.

Калібераў. А там што? Парушэнне Статута сельгасарцелі?

Гарошка. Ды не! Што вы! Агурочкі, маладыя агурочкі. Жонка перадала Антаніне Цімафееўне. Свае, са свайго агарода. Не?

Печкуроў. А-а, добрая закуска. Люблю агурочкі.

Гарошка. Закусачка ў мяне ёсць, таварыш дырэктар спіртзавода. Міласці просім.

Калібераў. Бач, куды страляе. *(Разлівае ў чаркі настойку.)*

Антаніна Цімафееўна *(перасцерагаючы)*. Сцёпа, ты забыў, што табе нельга?

Калібераў. Чаму нельга?

Антаніна Цімафееўна *(налівае гасцям)*. У Сцяпана Васільевіча сёння быў прыступ у пячонках. А калі прыступ — піць нельга, ну ні кропелькі. Дык вы ўжо і не ўгаворвайце яго.

Калібераў. Гэта чорт ведае што такое!..

Антаніна Цімафееўна. Так-так, мілы. Рэжым ёсць рэжым!

Печкуроў. Гэта і я скажу: без рэжыму ў нашы гады прападзеш. *(Паднімае чарку, урачыста.)* Сцяпан Васільевіч!..

Гарошка *(таксама паднімае чарку)*. Сцяпан Васільевіч!..

Сцяпан Васільевіч адвярнуўся. Гарошка і Печкуроў пераміргнуліся і выпілі.

Антаніна Цімафееўна. Яму даўно трэба ў Кіславодск. Дык хіба вырвешся з гэтай вашай уборачнай? Сам тут пакутуе, і я з ім. Тут і здароваму моташна, а не толькі хвораму.

Гарошка. Антаніна Цімафееўна, а чаму вы да нас не заглядваеце? Рэчка пад бокам, луг, лес. А-ах, як хораша!

Антаніна Цімафееўна. Ды ўсё ніяк не збяруся.

Калібераў. Ты што? Пад чужых жонак кліні падбіваеш?

Гарошка. Я ўжо да чужых жонак няздатны, Сцяпан Васільевіч. Да мяне можна пускаць. Не?

К а л і б е р а ў. А куды ж яна падзене сваіх катоў?

Г а р о ш к а. Катоў? А катоў можна... Можна і катоў. Малака ў нас хопіць. Не?

П е ч к у р о ў. А ў іх там сапраўды хораша. Вось бы дзе домік паставіць.

К а л і б е р а ў. Ну, як жа ты, Гарошка, да ўборачнай падрыхтаваўся? За колькі дзён думаеш выканаць хлебапастаўкі?

Г а р о ш к а. Вось таму, Сцяпан Васільевіч, я і заехаў да вас. Прасіць буду. Вельмі буду прасіць.

К а л і б е р а ў. За спрос платы не бяруць.

Г а р о ш к а. Сцяпан Васільевіч! Не завышайце нам хоць у гэтым годзе план хлебазакупа. Зрабіце ласку. Дайце годзік перадыхнуць. А то ўжо мне калгаснікі праходу не даюць. Думаюць, што я сам, каб перад начальствам выслужыцца.

К а л і б е р а ў. А дзяржаве што?

Г а р о ш к а. Дык жа, Сцяпан Васільевіч, некаторыя з году ў год, а нам... А, чэснае слова, ураджай у нас сёлета... Па праўдзе, па закону зрабіце, як ёсць.

К а л і б е р а ў. Значыць, мы не па закону робім?

Г а р о ш к а. Я не кажу... Сцяпан Васільевіч, вам відней.

К а л і б е р а ў. А калі відней, значыць... у інтарэсах раёна робім. І галоўнае — у інтарэсах дзяржавы. Дзяржаве трэба хлеб. А што ты хочаш? На адсталых выехаць? Ім трэба дапамагчы хоць бы да сярэдніх падцягнуцца.

Г а р о ш к а. Дык жа мы, так сказаць, перадавыя, таксама да сярэдніх прыцягнуліся. Не?

К а л і б е р а ў. Значыць, дрэнна гаспадарыце! Біць трэба за такое кіраўніцтва!

Г а р о ш к а. Біць-та нас б'юць, Сцяпан Васільевіч. Зверху вы, а знізу калгаснікі. А за што? На працадзень мала даём. Вось за што. А вы, Сцяпан Васільевіч, са свайго боку, ведаеце, таксама... трохі... Так што мне — хоць круць-верць, хоць верць-круць. Усё адно.

П е ч к у р о ў. А ты, Гарошка, не круць-верць, а круць-круць.

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а выйшла на кухню.

Г а р о ш к а. Так можна закруціцца. Сцяпан Васільевіч, калі б сёлета па закону ўстанавілі план, чэснае слова, на працадзень у нас будзе не менш...

К а л і б е р а ў. Таварыш Гарошка! Я яшчэ не помню

такога выпадку, каб за нізкі працадзень каму-небудзь абвясцілі вымову. А за адставанне з хлебапастаўкамі — я асабіста... ведаю такіх кіраўнікоў, якія па дзве і тры вымовы маюць. Ясна?

Калібераў хуценька налівае ўсім па чарцы, пераміргнуўшыся, яны выпіваюць.

Г а р о ш к а. Ясна. Хоць круць-верць, хоць верць-круць.

Выпілі яшчэ па адной, Печкуроў пачынае песню: «Шумел камыш, деревья гнулись...» На высокай ноце падхапіў песню і Гарошка: «...а ночка темная была...» Прыбягае А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а і зачыняе вокны.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Двор старшыні калгаса «Партызан» Гарошкі. Дом з адкрытай верандай, у палісадніку вішні. На верандзе вазоны. Да акна на гарышчы прыстаўлена лесвіца. На верандзе за столікам Л ё н я малюе ў насценгазету карыкатуры. Я г о р С я р г е е в і ч спіць на канапе, прыкрыўшыся газетай. Храпе, аж пагалоскі ідуць.

Л ё н я. «Ехаў дзедка на кірмаш...»

Чуваць храп Гарошкі.

«З ім на возе баба...»

Храп мацней.

«Конік з выгляду дарма...»

Зноў храп.

«Ды цягнуў ён слаба...»

Заходзіць Н а т а ш а.

Н а т а ш а. Што ты тут малюеш?

Л ё н я. Афармляю насценгазету. Грамадская нагрузка.

Н а т а ш а. Хто гэта?

Л ё н я. Ісус Хрыстос.

Н а т а ш а. У насценгазету?

Л ё н я. А што?

Н а т а ш а. Ён жа быў маладым. А чаму ты яго лысым зрабіў?

Андрэй Макаёнак і Алесь Гапчар.
1958 год.



Лёня. Быў маладым, а цяпер палысеў. Колькі часу прайшло. А на татку ён не надобны?

Наташа. Лысіна якраз такая.

Лёня. Дык вось гэта і ёсць тата ў вобразе Хрыста.

Наташа. А за што вы яго?

Лёня. За тое, што ўсім грахі даруе. Пазнячыха за ўсё жніво ні разу на полі не была. Грыбы ў горад возіць і ягады. А праўленне ёй ні слова.

Наташа. Дастанецца табе ад бацькі на арэхі.

Лёня. А зажым крытыкі? А-а! Наталля Ягораўна, а чаму ты сёння прыбралася, як на настаўніцкую канферэнцыю?

Наташа. Вырасцеш, Лёня,— сам даведаешся.

Лёня. Уранні надзела адно плацце, а цяпер другое...

Заходзіць Марыя Кірылаўна.

Марыя Кірылаўна. А дзе бацька?

Лёня. Займаецца самастойнай вучобай. У цяньку на канапе пад газетай.

Марыя Кірылаўна. Ягор! Ягор! Ці не здурэў ты? Жніво ў разгары, а ты сярод дня бурбалкі пускаеш? Што людзі падумаюць?

Гарошка *(праціраючы вочы)*. Падумаюць, што я быў на нарадзе ў Каліберава.

Лёня. І скончылася яна па сігналу пастуха: «Выганя-я-яй!»

Гарошка. Вунь, чуеш, нават дзеці ведаюць.

Марыя Кірылаўна. Пратры хутчэй вочы! Сам Калібераў прыехаў. Зараз у хату наскочыць.

Лёня. Закручваць тату гайкі?

Гарошка. А ты... Вільгаць вытры пад носам!

Марыя Кірылаўна. І ўпаўнаважаны з ім, Моцкін. У праўленні былі і ў свіран ужо заглянулі.

Лёня. Тэндэнцыю шукаюць?

Гарошка. Якую тэндэнцыю?

Лёня. У газеце чытаў? Вось пра наш раён. *(Узяў газету, чытае.)* «Раён не выпадкова з першых дзён кампаніі адстае з хлебанастаўкамі. У паасобных калгасах яшчэ не выкрылі шкодную тэндэнцыю...» А што такое тэндэнцыя?

Гарошка адмахнуўся.

Цікава... Мама, а можа, Пазнячыха і ёсць тая тэндэнцыя?

Марыя Кірылаўна. Ай, адчапіся ты ад мяне. Нічога я не ведаю.

Гарошка. Скажаш ім, што мяне дома няма, скажаш — на поле паехаў. *(Лезе на гарышча.)*

Лёня. Палез, а не паехаў.

Наташа. А што, як туды Каліберау узлезе і знойдзе цябе там?

Гарошка. А чаго ён палезе?

Наташа. Я яму скажу, што ты там.

Гарошка. Я табе скажу. *(Лезе вышэй.)*

Наташа. Тата! Як гэта несур'ёзна! Мне проста сорамна за цябе. Хаваецца, як нашкодзіўшае дзіця. Ты ж гаспадар у калгасе. Чаго ты баішся? Што табе зробяць?

Гарошка. А што я ім зраблю? Што я ім скажу? Графік за пяцідневку не выканаў?! А як я апраўдаюся? Ну? Такі графік! Ды яго не толькі за пяцідневку — за паўмесяца не выканаеш. Хоць лоб разбі. Што я, усіх людзей зніму з поля на возку і малацьбу? Га?

Наташа. Што ты на нас крычыш? Ты ім так і скажы, а не хавайся.

Гарошка. І скажу! Не? Я ўсё скажу! Я не магу так працаваць! Няхай здымаюць, калі так! *(Спускаецца з лесвіцы.)* Я гаспадар у калгасе ці не я? Што яны мяне за горла хапаюць! Няма такіх законаў! Не па закону робяць. І ўсё!! Хоць круць-верць, хоць верць-круць! Не па закону!

Марыя Кірылаўна. Ягор! Ты, глядзі, глупства не нагавары. Ты з імі спакайней.

Гарошка. Не магу спакайней! Даволі! Я сам ведаю, што дзяржаве трэба здаваць хлеб. І здам! Не?

Марыя Кірылаўна хоча пайсці.

Марыя Кірылаўна. Рабі, як сам ведаеш.

Гарошка. Куды ты? Можа, частаваць прыйдзецца, дык...

Марыя Кірылаўна. Тады Лёню прышлеш. Я на агародзе буду.

Наташа паківала галавой і пайшла ў хату. Марыя Кірылаўна выходзіць. Заходзяць Калібераў і Моцкін. Вітаюцца.

Калібераў *(заўважыўшы газету)*. Чытаў?

Гарошка. Пра гэту... як яе... тэндэнцыю? Толькі што.

Калібераў. І якія вывады зрабіў?

Гарошка. Трэба выконваць графік, Сцяпан Васільевіч.

Калібераў. Толькі выконваць?

Гарошка. Выконваць, Сцяпан Васільевіч.

К а л і б е р а ў. А за першую пяцідзёнку графік выканалі?

Г а р о ш к а. Не, Сцяпан Васільевіч. Мала намалацілі... Ведаеце, не зусім яшчэ паспела.

М о ц к і н. Таварыш Гарошка! Не трэба хлусіць. У вас у свірне тон сем намалочанага збожжа.

Г а р о ш к а. А-а, гэта ячмень з насеннага ўчастка.

М о ц к і н. Бачыце, яны спачатку ўбіраюць насенныя ўчасткі!

Г а р о ш к а. Каб не асыпаўся. Шкада. Добры хлеб вырас. І раней паспеў.

К а л і б е р а ў. А чаму вы камбайн пусцілі на цімафееўку, а не на жыта ці ячмень? Таксама раней паспела?

Г а р о ш к а. Насенны ўчастак, Сцяпан Васільевіч.

К а л і б е р а ў. А гэта не сабатаж?

Г а р о ш к а. Не, Сцяпан Васільевіч. Чэснае слова, пачала асыпацца, папаўзла.

К а л і б е р а ў. Зараз жа перавесці камбайн на ўборку збожжавых. Увесь наяўны намалочаны хлеб адправіць на нарыхтоўчы пункт.

Г а р о ш к а. Сцяпан Васільевіч...

К а л і б е р а ў. Калі не хочаце, каб вашы паводзіны расцанілі як сабатаж.

Г а р о ш к а. Сцяпан Васільевіч...

К а л і б е р а ў. Запомніце, таварыш Гарошка, тут не да жартаў!

Г а р о ш к а. Лёня! Ідзі пакліч брыгадзіра Міхальчука! І скажы кладаўшчыку, хай адгружае ўвесь хлеб са свірна.

Л ё н я пабег.

М о ц к і н. На насенне вы сабе яшчэ намалоціце. Хопіць.

Г а р о ш к а. Ці ж пра гэта гаворка? Але ж гэты ячмень спецыяльны, гатунковы, чысты. Шкада такое дабро на харч пускаць. Ды хоць бы на харч, а то ж на спіртзавод... Не?

К а л і б е р а ў. Трэба не забываць першую запаведзь: лепшы хлеб у першую чаргу — дзяржаве. А вы, як аднаасобнік, як прыватнік, разважаеце. Больш таго... Вельмі падобна на кулацкую тэндэнцыю.

Г а р о ш к а. Што вы, Сцяпан Васільевіч, бог з вамі. Толькі не думайце так пра мяне.

М о ц к і н. Як гэта не думайце, таварыш Гарошка?

Вы графік не выконваеце. Вы цягнеце раён назад. А нас б'юць. Сцяпана Васільевіча б'юць... у газетах. А вы хочаце, каб мы не думалі.

Калібераў. Запомні, таварыш Гарошка,— калі за гэту пяціднеўку ты поўнасцю не ўвойдзеш у графік, я такі сабантуй арганізую, што мопашна стане. На фармуліроўкі скупіцца не буду.

Гарошка. Сцяпан Васільевіч, як жа я цяпер?.. Не змагу, не здолею. Самі вы падумайце...

Калібераў. Не, цяпер ужо вы думайце! Я цацкацца не буду. Даволі!

Моцкін. Нашто такая паніка, таварыш Гарошка? Не такая складаная справа, калі на плячах галава, а не макацёр. Усё можна зрабіць! Праўда, Сцяпан Васільевіч?

Калібераў. Усё можна!.. Можна, калі захочаш.

Моцкін *(Гарошку)*. Чуеш, таварыш Гарошка? Ты запомні такія словы Сцяпана Васільевіча!

Заходзіць брыгадзір Міхальчук.

Калібераў. Чаго варта ваша расстаноўка рабочай сілы? Брыгадзір?

Гарошка. Так, таварыш Калібераў.

Калібераў. Дзе вашы людзі?

Міхальчук. Усе на полі, таварыш Калібераў.

Калібераў. Вось бачыце! Камбайн вы пусцілі па цімафееўку. Усіх людзей вывелі на поле. Малацьбу не арганізавалі. Сарціроўку, сушку і адпраўку збожжа на нарыхтоўчыя пункты сарвалі. А хто за вас будзе здаваць хлеб дзяржаве?

Міхальчук. Мы самі здамо, таварыш...

Калібераў. Калі?

Моцкін. Ну, калі?

Міхальчук. Я так думаю, таварыш... Пакуль надвор'е добрае, трэба ўхапіць усё з поля. Будзем жаць і вазіць у гумно. А раптам дожджык? Народу малавата... вот. На малацьбу пашлеш, дык на полі асыпацца будзе. Адны страты... Дый надвор'е ў нас такое, што... Клімат. Не загадаеш, дый не паслухаецца. Прыйдзе Ілья і наробіць гнілля. Як у мінулым годзе — восем гектараў аўса пагніло на полі і шэсць гектараў жыта парасло ў бабках. Я так думаю, таварыш...

Гарошка. Мы так абгаварылі на праўленні і рашылі.

Калібераў. Вы рашылі здаваць хлеб дзяржаве да новага года?

Міхальчук. Яно, калі па-гаспадарску, дык чаму да новага года? Мы ведаем дзяржаўныя тэрміны.

Заходзіць Лёня.

Моцкін. Сцяпан Васільевіч! З такімі тэмпамі, вы знаеце, наш раён... Нам столькі шышак будзе!..

Калібераў. Зараз жа перавесці з поля палавіну людзей на малацьбу, сарціроўку, сушку і вывазку збожжа на пункты. Камбайн зняць з цімафееўкі і паслаць на жыта.

Лёня. А ў камбайне шатун зламаўся...

Гарошка. Адкуль ты ўзяў гэта?

Лёня. Каля кузні камбайнер гаварыў. Дзед Цімох новы выстругаў. Дзіркі прапякаюць.

Моцкін. Бачыце, Сцяпан Васільевіч, аб'ектыўныя прычыны!

Калібераў. А вы, таварыш Гарошка, паслязаўтра з'явіцеся на пасяджэнне. Там разбяромся! Мы не можам цярпець адставання раёна... Хлеб — гэта...

Гарошка *(як па завучанаму)*. ...аснова савецкай эканомікі...

Калібераў. Панімаць трэба!.. І вы, таварыш Моцкін, як упаўнаважаны, разам з ім будзеце адказваць за тэмпы хлебаздачы. Нікога па галоўцы не пагладзім. *(Акінуўшы мнагазначным позіркам усіх, накіроўваецца да выхаду. За ім Моцкін.)*

Моцкін. Сцяпан Васільевіч! А я што?.. Я, канешне...

Калібераў і Моцкін выйшлі.

Міхальчук. Не хлеб аснова, а калгасы. Будзе калгас спраўны — будзе і хлеб...

Гарошка. І ты туды... Філосаф! Чуў, якія словы гаварыў? Якія фармуліроўкі? Ідзі знімай з поля людзей! Зараз жа! Чуеш?

Заходзіць Моцкін.

Міхальчук. І калі ўжо кончыцца гэты сабантуй, калі ў нас сапраўдны парадак усталюецца?

Гарошка. Ты пагавары, пагавары яшчэ!

Прыбягае Ганна — узрушаная, злая, напорыстая.

Ганна. Ты што гэта, Гарошка, усур'ёз? Ці толькі каб начальству вочы адвесці? А?

Гарошка *(перапалохаўшыся)*. Пачакай, пачакай! Не тарахці! Паспееш!

Моцкін. А што такое?

Ганна. Хай ён скажа, што гэта такое. *(Да Гарошкі.)* Дык гэта ты загадаў з насеннага ўчастка ячмень здаваць у пастаўкі?

Моцкін. Так, ён.

Гарошка. Так, я загадаў.

Ганна. Дык што ж ты сабе думаеш? А? Па якому такому праву ты самавольнічаеш? Ты чаму распараджаешся, як сваім уласным? Не дам з насеннага ўчастка!.. Хоць трэсні, а не дам! Не маеш права!

Моцкін. Што значыць «не дам»?

Ганна. А тое і значыць! Насенны ўчастак!

Моцкін. Вам ясна, што да пятнаццатага жніўня вы павінны поўнасцю выканаць хлебапастаўкі?

Ганна. А хто ўстанавіў такія тэрміны? Чаму іменна да пятнаццатага?

Моцкін. Як гэта чаму?

Ганна. А так — чаму? Па якому закону? Гарошка! Ты баішся пагутарыць з начальствам па-гаспадарску, дык дай мне... Дай мне тую тоўстую кнігу з законамі! Дзе яна? Лёня! Прынясі сюды «Даведнік старшыні калгаса».

Лёня прыносіць з хаты кнігу.

Ну, таварыш начальнік, пачытай, ты больш граматны. Дзе тут сказана, што да пятнаццатага?

Моцкін. А вы чулі пра датэрміновае выкананне і перавыкананне планаў?

Ганна. Чулі, ведаем. Дык для гэтага парадак трэба. А не так: стук-грук — хата, цяп-ляп — печ! Выбачайце, калі ласка, так не выйдзе. Па-твойму, выходзіць, што трэба ўсё кінуць-рынуць — і сіласаванне, і другі ўкос, і звозку саломы ад камбайнаў, і жніво... Пакуль надвор'е добрае — жаць трэба, убіраць трэба. Вось што цяпер галоўнае.

Моцкін. Сёння галоўнае — хлебаздача.

Ганна. Не толькі сённяшнім днём трэба жыць.

Міхальчук. Парадак — галоўнае. Тады і хлебаздача будзе.

Моцкін. Ды што мы яе слухаем? Якія тут размовы?

Ганна. А ты паслухай і пагавары, калі з табой калгаснікі размаўляюць. Яны і цябе хлебам кормяць.

Моцкін *(Гарошку)*. Увесь наяўны намалочаны і высушаны кандыцыйны хлеб адправіць на нарыхтоўчы пункт.

Гарошка. Добра, таварыш Моцкін, добра.

Г а н н а. І насенны?

М о ц к і н. Ніякіх насенных участкаў.

Г а н н а. Гэта чаму?

М о ц к і н. Трэба выконваць першую запаведзь. Хлеб здаецца не куды-небудзь...

Г а н н а. А я што — сабе ў кішэню бяру? Не маеце права! Ёсць такая пастанова! З насеннага ўчастка не дам — і ўсё тут!

М о ц к і н. А хто вы такая?

Г а н н а. Калгасніца. Радавая калгасніца! Сваімі рукамі гэты насенны ўчастак гадавала: палола, падкармлівала! Вось хто я такая. Начэй недасыпала, думала, каб налета дабро пасеяць...

М о ц к і н *(пры кожным сказе мерае яе з ног да галавы)*. Вы гарлапан! Вы зрываеце хлебапастаўкі! Вы сабатуеце дзяржаўнае мерапрыемства! Я знаю гэтую шкодную тэндэнцыю!

Л ё н я *(здагадаўся)*. Ага, значыць, цётка Ганна — тэндэнцыя.

Г а н н а. Дык я — тэндэнцыя?! А ты хто такі? Хто ты такі, каб распараджацца маёй працай?

Г а р о ш к а *(сумеўся)*. Ганна! Ты што? Учадзела?

Г а н н а. Можа, сам учадзеў. Стаіш тут, нібы мыш пад венікам. А я не ўчадзела! Цярпенне лопнула! Накіпела! Праўду скажу! Я знаю, дарагі ты наш начальнічак, чаго табе хочацца. На чужым гарбу ў рай! Табе абы толькі хутчэй план выканаць, перад начальствам пахваліцца, тэлеграмку ў вобласць паслаць. А на калгасныя справы табе напляваць, тут хоць і трава не расці. Табе ўсё роўна. А мне не ўсё роўна, мне тут жыць...

М о ц к і н. Хто яна такая? Прозвішча, імя і па бацьку... *(Дастае блакнот і запісвае.)*

Г а р о ш к а. Чыхнюк...

Г а н н а. Ганна Аляксееўна.

М о ц к і н. Сацпаходжанне?

Г а р о ш к а. Да калгасаў батрачкай была. Не?

М о ц к і н. У кулака? Ясна... У час акупацыі дзе была, што рабіла?

Г а н н а. Што рабіла? Я табе зараз пакажу, што рабіла.

Г а н н а выйшла.

Л ё н я. Яна пакажа!

Л ё н я выходзіць.

М о ц к і н. Колькі ў яе працадзён? Як яна працуе?

Г а р о ш к а. Працуе добра, таварыш Моцкін. Не?

М о ц к і н *(недаверліва)*. Добра? *(Пагрозліва.)* Добра!

Г а р о ш к а *(крыху збянтэжыўся)*. Ну, стараецца...

М і х а л ь ч у к. Ну што ты гаворыш, Ягор? Працуе яна вельмі добра. Трэба чэсна сказаць. Працадзён трыста дваццаць будзе. Ну, а што на язык... Слова не пазычае, дык... Актывістка, член партыі, дэпутат сельскага Савета.

М о ц к і н. Чапуха! Яўны антысавецкі элемент. Яна супраць стварэння дзяржаўных рэзерваў сельскагаспадарчых прадуктаў. А вы? Каму патураеце? Каму?

Г а р о ш к а. Таварыш Моцкін! Чэснае слова, не патураем.

М о ц к і н. Ну, Гарошка, я сваю галаву не буду падстаўляць пад абух. Я далажу таварышу Калібераву. Я яму далажу, каго ты слухаеш!

Г а р о ш к а *(Міхальчуку)*. Ну чаго ты стаіш? Ідзі знімай з поля людзей!

М і х а л ь ч у к. Ягор, хай сёння людзі працуюць. Заўтра ўжо...

М о ц к і н. Што заўтра? Што заўтра?

М і х а л ь ч у к. Калі вы будзеце брыгадзірам, тады калі ласка. А сёння — я брыгадзір. І людзей ганяць не буду. Вот!.. Не ганіце мяне ў шыю. Я таксама пра дзяржаву думаю. Можа, яшчэ больш, як вы. Вот!

М і х а л ь ч у к выйшаў.

М о ц к і н. Ну, Гарошка, што ты сабе думаеш?

Гарошка пачухаў патыліцу адной рукой, потым другой. Пайшоў і вярнуўся.

Г а р о ш к а. Скруціць мне галаву Калібераў. Не?

М о ц к і н. Калі нічога не прыдумаеш — скруціць.

Г а р о ш к а. А што я прыдумаю? Што я прыдумаю? Хоць круць-верць, хоць верць-круць — нічога не прыдумаеш.

М о ц к і н. А што ў вас на плячах? Гарбузы ці галовы?

Паўза.

Калі хочаш, заўтра ты будзеш самым перадавым у раёне.

Г а р о ш к а. Заўтра? Такіх цудаў не бывае.

М о ц к і н. Не бывае? Яшчэ як бывае. Калі хочаш, сёння дырэктар спіртзавода выпіша табе квітанцыю на збожжа. Адразу на пяцьдзесят тон. Хочаш?

Гарошка. А дзе я вазьму сёння пяцьдзесят тон?

Моцкін. Дзе ты возьмеш? У чарнілцы. Спіртзаводу ты напішаш гарантыйную распіску на хлеб, а мне аддасі квітанцыю. За пяць мінут ты станеш перадавіком. З дырэктарам спіртзавода я ўжо дамовіўся. Ён вось-вось тут будзе.

Гарошка. Не, боязна.

Моцкін. Чаго боязна?

Гарошка. А раптам дазнаецца Сцяпан Васільевіч. Не?

Моцкін. Навошта яму знаць? Ён зусім не хоча гэтага знаць. А калі не хоча знаць, дык ён і не будзе знаць. Будзь спакойны.

Гарошка. Баюся, таварыш Моцкін.

Моцкін. Каго?

Гарошка. Пракурора баюся.

Моцкін. І чаму ты, Гарошка, усіх баішся? Што ён — воўк? Таварыш пракурор — не воўк. Што ты, украў, ці што?

Гарошка. А якая выгада Печкурову даваць мне квітанцыі?

Моцкін. Не турбуйся, ёсць выгада. Домік сабе пабудаваў, а склады адрамантаваць *(іранічна)* забыў. Вось вы адзін аднаго і выручыце.

Гарошка. Дачуецца Калібераў — будзе нам і дудка, будзе і свісток. Не?

Моцкін. Навошта табе свісток? *(Надзеў шапку, закрыў партфель і збіраецца пайсці.)* Хопіць з цябе і дудкі. Не хочаш! Як хочаш! А паслязаўтра на пасяджэнні ад Каліберава не толькі дудка, труба табе будзе.

Гарошка. Куды ж вы, таварыш Моцкін?

Моцкін. А што, я дарэмна буду траціць час?

Гарошка. Пачакайце, дайце хоць трошкі падумаць.

Моцкін. Яму гавораць: таварыш Гарошка, будзьце перадавіком, дык ён яшчэ хоча трошкі падумаць. *(Намерваецца пайсці.)*

Гарошка. Стойце! Пачакайце! *(Затрымлівае Моцкіна.)* Ну, скажыце, а ці можна так рабіць?

Моцкін. Вось і пабудуй з такімі камунізм. Можна! Усё можна. Сам Калібераў так сказаў. Я ж табе казаў: запомні, Гарошка, такія словы!

Гарошка. Ну, добра. Хоць круць-верць, хоць верцькруць — усё адно. Я згодзен! Ну і галава ў вас, таварыш Моцкін. Я сам ніколі б не дадумаўся да такога. А ўрэшце

і мне вальней цяпер будзе. Можна і другія работы падцягнуць. Не будзе той гарачкі. Не?

Заходзіць дырэктар спіртзавода П е ч к у р о ў.

М о ц к і н. Бачыш, сам бог яго паслаў.

П е ч к у р о ў. Па тэлефоне пазваніў. Ну як? У вас гатова?

М о ц к і н. Яму ж на карысць, а ледзь уламаў яго.

П е ч к у р о ў. Упіпаўся?

Г а р о ш к а. Такая справа, што...

П е ч к у р о ў. Э-э, дык Ягор Сяргеевіч можа нас аб'ягорыць.

Г а р о ш к а. Што вы, Кузьма Прохаравіч? Каб вы мяне не падкузьмілі.

П е ч к у р о ў. Не, не, калі так, я рызыкаваць не буду.

М о ц к і н. Кузьма Прохаравіч! Калі ўважліва прыглядаюцца да сонца, дык і на сонцы знаходзяць плямы. А мы не сонцы. Мы — чалавекі. І калі мы адстаём з хлебапастаўкамі, да нас таксама прыглядаюцца. А калі Сцяпан Васільевіч прыгледзіцца, дык, будзьце ўпэўнены, заўважыць, што адзін будуе сабе домік за дзяржаўны кошт, а ў другога...

Г а р о ш к а. А ў мяне што?

М о ц к і н. Сабатаж.

П е ч к у р о ў. Квітанцыі гатовы. На пяцьдзесят тон. Як мы дамовіліся. Давай распіску са штампам, пячаткай, па ўсёй форме.

Г а р о ш к а. Дык пойдзем тады ў праўленне.

Л ё н я пайшоў у хату.

П е ч к у р о ў. Можна было б і чарку выпіць, ды няма калі. Трэба спяшацца назад. Сам Калібераў паехаў на завод. *(Дастае з партфеля грэлку.)* На. А мне кілаграмаў пяцьдзесят агурочкаў маладых. Без усялякіх распісак. Сёння ж. Так?

М о ц к і н *(Гарошку)*. Будзеш пасылаць зводкі аб уборцы і абмалоце, дык ты іх адпаведна... *(Паказвае: завысь.)*

Г а р о ш к а. Лёня!

З'яўляецца Л ё н я.

На, пакладзі там, за буфетам. *(Перадае грэлку са спіртам.)*

Л ё н я *(патрос грэлку)*. Булькае, а халодная. Каму ж мы яе ставіць будзем? *(Перакуліў уніз коркам.)*

Гарошка. Асцярожней ты.

Печкуроў. Бацька знойдзе, каму паставіць. *(Смяецца.)*

Моцкін. Хопіць вам, час ідзе.

Лёня пайшоў у хату.

Печкуроў. Ну, пайшлі, пайшлі.

Улятае Ганна.

Ганна *(Моцкіну)*. Вось што я рабіла пры акупацыі. Вось медаль, а вось і ордэн. А ты што рабіў пры акупацыі? Дзе ты быў?

Гарошка Супакойся ты, сарока! Ох і язык у бабы! І трэба ж было табе. А-ах!..

Ганна. А ты, Гарошка, маўчы! Сапі ды маўчы! За насенны ўчастак я табе, брат, і ў горле пашкрабаю. Пастанову правіцельства пісала не таму, што паперу няма куды дзяваць. Закон ёсць закон! Па галоўцы цябе не пагладзім!

Гарошка *(крычыць)*. Чорт вас вазьмі ўсіх! Што вы мяне ўсе палохаеце! Нікога я не баюся! Чаго табе ад мяне трэба? Чаго табе трэба?

На крык Гарошкі з хаты на веранду выйшлі Наташа і Лёня.

Ганна *(спакойна)*. Каб не чапалі насеннага ўчастка.

Гарошка. Ніхто яго не чапае! Адчапіся ад мяне!

Гарошка надзеў шапку і выходзіць. Следам за ім выходзяць Печкуроў і Моцкін.

Ганна *(ласкава)*. Перамяніўся чалавек...

Ганна выходзіць.

Лёня. Ну і тэндэнцыя... Ну і лапатуха!

Наташа. Ці ж так можна на старэйшых гаварыць?

Лёня. А табе што?

Наташа. Як што?

Лёня. Я не ў школе, а дома. І ты мне не настаўніца, а сястра.

Наташа. Значыць, толькі ў школе трэба быць культурным, а дома і хуліганіць можна?

Лёня. Чуў я гэта. *(Перадражнівае.)* «Дзеці, трэба быць прыкладнымі не толькі ў школе, але і дома і на вуліцы...» Мне ўжо надакучыла.

Наташа. Ах ты нягоднік! *(Схапіла яго за вуха.)*

Лёня. Пусці, пусці! Настаўнікам забараняецца дзяцей за вушы цягаць.

Н а т а ш а. А я не ў школе, а дома, і не настаўніца, а сястра.

Л ё н я. Пусці! Пусці, табе кажуць! А то ўсе твае пасцелі пакамячу!

Н а т а ш а. Я табе пакамячу.

Л ё н я. Пусці! Вунь пракурор ідзе!

Н а т а ш а. Дзе?

Н а т а ш а адпусціла Лёнева вуха, глянула на вуліцу і пабегла ў хату.

Л ё н я. А-а-а, спужалася!..

Заходзіць пракурор С я р г е й І в а н а в і ч К у р б а т а ў.

К у р б а т а ў. Лёня? Добры дзень!

Л ё н я. Добры дзень, таварыш пракурор.

К у р б а т а ў. Бацька дома?

Л ё н я. Не, няма. У праўленні.

К у р б а т а ў. А маці?

Л ё н я. На агародзе. Можа, паклікаць?

К у р б а т а ў. Не, не трэба. А Наталля Ягораўна?

Л ё н я. Дома. Паклікаць?

К у р б а т а ў. Зрабі такую ласку.

Л ё н я *(хацеў пайсці, але вярнуўся)*. Допыт будзеце рабіць?

К у р б а т а ў *(усміхнуўся)*. Допыт.

Л ё н я. Строгі?

К у р б а т а ў. Вельмі строгі. Вось як ты зараз у мяне.

Л ё н я. Правільна, трэба строга з ёй. Правінілася, значыць?

К у р б а т а ў. Пабачым.

Л ё н я. І пратакол будзе?

К у р б а т а ў. Хутчэй за ўсё акт... грамадзянскага стану.

Л ё н я *(не зразумеў)*. Так... А потым забераце?

К у р б а т а ў. Можа, і забяром.

Л ё н я. Правільна. Хай не цягае за вушы.

К у р б а т а ў. А яна цягае?

Л ё н я. Трохі. А надоўга забераце?

К у р б а т а ў. Можа, назаўсёды.

Л ё н я. Назаўсёды? Не, яна не балюча цягае. Вы яе трошкі патрымайце і пусціце. Яна ўсё-такі добрая. Нават... вот... і... з пятага класа кажуць, што яна добрая настаўніца. Яна толькі дома цягае за вушы.

К у р б а т а ў. Ну, калі так, тады іншая справа.

Л ё н я *(пакруціўшы галавой)*. Та-ак... Паклікаць?

*(Расчыняе дзверы ў хату.)* Падсудзімая Наталля Ягораўна Гарошка! К пракурору!

Уваходзіць Н а т а ш а.

А мне, мусіць, нельга прысутнічаць?

Н а т а ш а. Ідзі, Лёня, пагуляй.

Л ё н я. Усё пагуляй ды пагуляй...

Л ё н я заходзіць у хату. Наташа падыходзіць да Курбатава і падае яму абедзве рукі, моўчкі вітаюцца.

К у р б а т а ў. Ну, Наташа, сёння субота, мой судны дзень. Так, здаецца?

Н а т а ш а. Так, Сярожа, субота. Я і сапраўды адчуваю сябе як падсудзімая...

К у р б а т а ў. Якая ж ты падсудзімая, калі прыгавор мне выносіцца?

Н а т а ш а. Сярожа...

К у р б а т а ў. Я чакаю, Наташа.

Н а т а ш а. Гэта такі важны, такі адказны крок у жыцці... Мне проста... неяк... нават не верыцца, што я выйду замуж... Замуж... Муж... Жонка... Словы нейкія, быццам першы раз чую... *(Глядзіць яму ў вочы вельмі ласкава.)* Муж... *(Жартаўліва.)* Сярожа, а мае вучні не будуць мяне баяцца, калі я выйду за цябе замуж? Я ж тады стану пракуроршай!

К у р б а т а ў. А што я, пудзіла якое, ці што?

Н а т а ш а. Сяброўка мая, ты яе ведаеш — Лёля... Помніш, я цябе знаёміла.. Ну там, калі ў інстытуце вучылася... Помніш?

К у р б а т а ў. А-а, з кудзеркамі, беленькая?

Н а т а ш а. Ага. Дык ведаеш, што яна гаварыла? «Глядзі, Наташа, пракуроры, суддзі і міліцыянеры — чэрствыя, сухія людзі. Яны нават з жонкамі размаўляюць *(перадражнівае афіцыйны тон)* у адпаведнасці з артыкулам такім-та крымінальнага кодэкса...»

К у р б а т а ў *(смеючыся)*. Ну, трапіла б яна ў рукі нашаму брату!..

Н а т а ш а. А яна такі трапіла. У маі месяцы.

К у р б а т а ў. Пад суд?

Н а т а ш а. За суддзю... замуж выйшла.

К у р б а т а ў. Ага, не плюй у калодзеж, прыйдзецца напіцца.

Н а т а ш а. А што, Сярожа, калі б я зрабіла якое-небудзь злачынства? Няўжо ты завёў бы па мяне следства і пад суд аддаў бы?

Курбатаў. Калі б ты не выйшла за мяне замуж?
Наташа. Дапусцім.
Курбатаў. Пад суд. Абавязкова пад суд!
Наташа. Ну, а калі б выйшла замуж?
Курбатаў. Тады не! Ні ў якім разе!
Наташа. Дык такая твая прынцыповасць?
Курбатаў. Па закону ж я не меў бы права весці следства і аддаваць жонку пад суд. А няўжо ты магла б зрабіць злачынства?
Наташа. А як ты думаеш?
Курбатаў. Ты не... Ты не такая...
Наташа. А якая я?
Курбатаў. Ты добрая, ты разумная, ты цудоўная, ты самая харошая, ты...
Наташа *(прытулілася да яго грудзей)*. Ну, хопіць, хопіць з мяне.
Курбатаў. Гэта могуць пацвердзіць нават вучні пятага класа. Ты толькі дома за вушы цягаеш...
Наташа. Ах, вось як... *(Жартуючы, схапіла яго за вушы.)*
Курбатаў. Пусці, пусці, настаўнікам забараняецца за вушы цягаць.
Наташа. А я не ў школе, а дома... *(Курбатаў цалуе Наташу.)*
Курбатаў. Наташа, ты з бацькамі гаварыла?..

Наташа адмоўна ківае галавой.

Не? Чаму? *(Гладзіць Наташу па галаве.)*
Наташа. Сорамна неяк... Ты сам пагавары.
Курбатаў. Значыць, ты згодна?
Наташа. Паабяцаў такі рай... Як жа мне адмовіцца?
Курбатаў. Радасць ты мая! Шчасце ты маё! *(Абдымае і цалуе яе.)*
Наташа *(вызваляецца з яго абдымкаў)*. Пусці... Убачаць...
Курбатаў. Не, цяпер я ўжо цябе не адпушчу. З першага бяру адпачынак, і паедзем мы з табой на цэлы месяц да майго дзядзькі — лесніка. Там сапраўдны нам будзе рай. Стары ўжо даўно чакае нас. Нават лодку пафарбаваў і тваім імем назваў.
Наташа. Вельмі ўжо здагадлівы твой дзядзя.
Курбатаў. Такі ж, як я...

Наташа цалуе Курбатава. Асцярожна адчыняюцца дзверы, і з хаты выходзіць Лёня. Ад нечаканасці Лёня аж прысеў. Падлічвае секунды, гледзячы на компас, які носіць на руцэ замест гадзінніка.

Лёня. Роўна дваццаць адна секунда па майму компасу.

Наташа. Як табе не сорамна, Лёня?!.

Наташа пабегла ў хату.

Лёня. А пракурору не сорамна?..

Курбатаў. Недарма цябе за вушы цягаюць...

Курбатаў пайшоў за Наташай.

Лёня. А яшчэ казаў «забяру». Вунь куды забірае! Пракурор! Хто яго цяпер баяцца будзе?.. Мама!

Заходзіць Марыя Кірылаўна.

Марыя Кірылаўна. Чаго ты?

Лёня. Пракурор прыехаў.

Марыя Кірылаўна. Ну дык што?

Лёня. У Наташы допыт рабіў.

Марыя Кірылаўна. Які допыт?

Лёня. Стро-огі. Відаць, забярэ.

Марыя Кірылаўна. Што ты пляцеш?

Лёня. Не верыш? Вось тады ўбачыш. Яны там, ідзі пагавары з імі.

Марыя Кірылаўна. Вярзеш ты нешта...

Марыя Кірылаўна спачатку, нічога не разумеючы, глядзіць на Лёню, потым выцерла рукі і пайшла ў хату, дзе Наташа і Курбатаў.

Лёня. Яна ім дасць! Я ж казаў, хто цяпер гэтага пракурора пабаіцца...

Заходзіць Гарошка.

Гарошка. Лёня! Ты грэлку за буфетам паклаў?

Лёня. Ага. Тата!

Гарошка. Чаго ты?

Лёня. Пракурор прыехаў.

Гарошка *(насцярожыўся)*. Пракурор?

Лёня. Допыт рабіў.

Гарошка *(занепакоіўся)*. Допыт? У каго? У цябе?

Лёня. У Наташы. Ды строгі.

Гарошка *(у роспачы)*. Я так і знаў. Я так і знаў.

Лёня. Знаў?

Гарошка. Ай, дурань, дурань. Навошта я слухаў таго Моцкіна. Ах, ах, ах...

Лёня *(збянтэжыўся)*. Ты яго не бо-ойся!

Уваходзяць Курбатаў, Наташа і Марыя Кірылаўна. У Марыі Кірылаўны на вачах слёзы. Гарошка заўважыў слёзы і плюхнуўся ў крэсла.

Курбатаў *(падышоўшы да Гарошкі)*. Ягор Сяргеевіч! У мяне да вас вельмі важная і сур'ёзная справа.

Гарошка. Я так і знаў... Я так і знаў... Я чакаў гэтага.

Усе пераглянуліся.

Курбатаў. Ну дык што вы нам скажаце?

Гарошка. Вінават... Па дурасці па сваёй.

Курбатаў. Чаму па дурасці?

Гарошка. Чэснае слова, таварыш пракурор, да такога сам не дадумаўся б...

Курбатаў. Я не разумею вас. Тут узаемная згода.

Гарошка. Якая тут згода? Прыціснулі. Хоць круцьверць, хоць верць-круць — усё адно не выкруцішся. Не?

Курбатаў. Хто прыціснуў?

Гарошка. Начальства, Калібераў. Такога страху нагнаў...

Курбатаў. Тут нейкае непаразуменне, Ягор Сяргеевіч.

Марыя Кірылаўна. Ягор, ці не п'яны ты? Наташа наша замуж выходзіць...

Гарошка. Як замуж?

Марыя Кірылаўна. За Сяргея Іванавіча. Дазволу твайго просяць.

Гарошка. Ды што ж ты!.. От баба-дурніца! Слёзы пусціла, сырасць разводзіш! Так бы і гаварыла. *(Радасна.)* Значыцца, зяцем...

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Службовы кабінет Каліберава. Сцяпан Васільевіч падлічвае нешта на лічыльніках і спявае. Настрой у яго самы найлепшы.

Каліберaў *(напявае)*.

За кукарачу, за кукарачу
Я не прощу!
И окручу я и одурачу,
Но обиду не спущу!
Знаю, поздно или рано,
Ты вернешься в мой шалаш,
И снова в руки таракана
Сердце ты свое отдашь.

Ну-с, што мы маем па сёпняшпі дзень? Так-с... Сорак два... два пішам, чатыры ў памяці... двойчы шэсць — дванаццаць ды чатыры — шаснаццаць... семдзесят восем працэнтаў. *(Чуваць раскаты далёкага грому.)*

Люблю грозу в начале мая,
Когда весенний первый гром...

*(Звоніць тэлефон, рэзка, звонка.)* Я слухаю. Званецкі райвыканком? Ну давай... Я слухаю. Каліберaў! А-а, здароў, здароў, сусед! Нічога, памаленьку... Пакуль што не, але ўжо блізка... Семдзесят восем і шэсць дзесятых, як лёду... *(Зноў гром.)* А ты што думаў? А ў цябе як?.. Э-э, брат, што ж ты? На васемнаццаць працэнтаў адстаў... Сакрэт? Які сакрэт?.. Ах, сакрэт! Сакрэт просты: гайкі трэба тужэй закручваць сваім работнічкам. Тут і сакрэт увесь! Будзь здароў. Жадаю поспехаў. *(Паклаў трубку, падышоў да акна.)* Дождж? *(Расчыніў акно.)* Дождждык?.. Так-с... Сакрэтамі цікавяцца...

Уваходзіць А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а.

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а *(радасная, узбуджаная).* Сцёпа! А табе сюрпрыз. Вось, глядзі! У абласной газеце. Чытай...

К а л і б е р а ў. Што там? *(Разглядае газеты, якія яму толькі што перадала Антаніна Цімафееўна.)*

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а *(чытае).* «У гутарцы з нашым карэспандэнтам таварыш Каліберaў заявіў...» І яшчэ: «Перадавікі хлебаздачы...» Ну, Сцёпа, ты цяпер пайшоў угару. Я так рада, так рада! Нарэшце! Цяпер толькі не зявай, толькі не зявай. Не лаві варон — і ты будзеш зноў у Мінску. Мы вернемся туды з перамогай.

К а л і б е р а ў. А ў мяне, Тоня, для цябе таксама сюрпрыз. *(Глянуў на гадзіннік.)* Ах, ледзь не праваронію. *(Уключае радыё. З рэпрадуктара чуецца голас Сцяпана Васільевіча.)*

Г о л а с К а л і б е р а в а. ...нашых поспехаў. Я бяру смеласць заявіць ад імя працаўнікоў сацыялістычных палёў нашага раёна, што мы з чэсцю будзем трымаць першынство ў вобласці па выкананню дзяржаўных абавязацельстваў па хлебапастаўках. Парукай гэтаму — зладжаная арганізацыя працы, працоўная дысцыпліна і добрае надвор'е...

Чуваць раскаты грому.

Голас дыктара. Вы слухалі выступленне Сцяпана Васільевіча Каліберава. На гэтым абласны радыёкамітэт свае перадачы заканчвае...

Антаніна Цімафееўна. А калі ж ты выступаў?

Каліберaў. Учора. Пасля нарады ў абкоме спецыяльна запрасілі на радыё.

Антаніна Цімафееўна. Вось толькі пра надвор'е ты... Бачыш — гром грыміць, дождж.

Каліберaў. Гэта ерунда! Што мне гром?!

Антаніна Цімафееўна. Як цікава! Ты сам тут, а словы твае плаваюць над зямлёю. І вецер іх не развеяў, і дождж не размачыў.

Каліберaў. Яны вышэй дажджу, вышэй хмар. *(Палец угару.)* Там! У эфіры!

Антаніна Цімафееўна. Ну, Сцёпа, цяпер я веру ў тваё шчасце. Ты помніш Суворава?

Каліберaў. Якога Суворава?

Антаніна Цімафееўна. Палкаводца Суворава?

Каліберaў. А, гэтага помню. А што?

Антаніна Цімафееўна. Ты вельмі мне нагадваеш яго. Ён таксама быў у няміласці, зайздросныя людзі саслалі яго ў глуш. Але праўда сваё ўзяла. Вярнуўся з пашанай. Вось і цябе — прагналі з Мінска... і куды? Нават не ў горад.

Каліберaў. Не прагналі, а паслалі на ўмацаванне, каб выцягнуць раён з прарыву. Ясна?

Антаніна Цімафееўна. Гэта ўсё роўна. Але нічога, Сцёпа. Ты яшчэ ім пакажаш, на што ты здольны. Толькі не зявай. Не чакай міласці ад людзей, а сам, сам ацані свае заслугі і дзейнічай.

Каліберaў. Ну-ну, павучы, павучы.

Антаніна Цімафееўна. Наша мэта — сталіца.

Каліберaў. Але ў сталіцу з адной уборачнай не праб'ешся. Трэба багаж больш салідны. *(Падышоў да схематычнай карты раёна на сцяне.)* Вось вазьму і распрацую план такой будоўлі ў нашым раёне, каб на ўсю рэспубліку грымела. Напрыклад — канал паміж Дняпром і нашай Проняй.

Антаніна Цімафееўна. Навошта той канал?

Каліберaў. Як навошта?

Антаніна Цімафееўна. Ну сапраўды — навошта нам канал?

К а л і б е р а ў. Хай ведаюць! Хай помняць — па маёй ініцыятыве ў нашым раёне асушана вялікае балота.

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а. І зноў застанешся ў гэтым раёне?

К а л і б е р а ў. Ну што ты! Чаго мне тут заставацца?

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а. Сцёпа! Сцяпунчык мой! Які ты сёння мілы! Ты проста герой! Вось такога я цябе люблю. Сапраўдны мужчына. *(Лашчыцца да яго.)*

К а л і б е р а ў. Ну, ну! Хопіць, хопіць! Тут табе не спальня, а службовы кабінет.

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а. А ты чуў, Сцёпа? Пракурор жэніцца.

К а л і б е р а ў. Жэніцца?

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а. І ведаеш, каго ён бярэ? Дачку Гарошкі, Наташу, настаўніцу. Маладажоны... Цудоўная пара — мядовы месяц!

К а л і б е р а ў. Ну ідзі, ідзі, не перашкаджай.

А н т а н і н а Ц і м а ф е е ў н а *(пацалаваўшы Сцяпана Васільевіча)*. Гаротнік ты мой!.. Націскай, націскай ім на педалі, закручвай гайкі! *(Выйшла.)*

К а л і б е р а ў *(знімае трубку, звоніць)*. Алё! Дайце мне «Максіма Горкага»! Алё! «Максім Горкі»? Хто гаворыць? А дзе старшыня? Зараз жа знайдзіце Штапенку і скажыце, каб неадкладна мне пазваніў... Калібераў гаворыць...

Пакуль Сцяпан Васільевіч кладзе трубку, у кабінет прыходзіць М о ц к і н.

М о ц к і н. Уй, Сцяпан Васільевіч! Што вы нарабілі, што вы нарабілі!

К а л і б е р а ў. Што такое? Што за паніка, таварыш Моцкін?

М о ц к і н. Сцяпан Васільевіч! Я толькі што... слухаў ваша выступленне.

К а л і б е р а ў. Ну і што?

М о ц к і н. Як што, Сцяпан Васільевіч? Я слухаю, а мяне па спіне мароз шкрабае.

К а л і б е р а ў. Чаго! Што ты там такое страшнае пачуў?

М о ц к і н. Страшнае? Страшнае тое, што я яго пачуў. Слухаць можна, а ці можна было гаварыць?

К а л і б е р а ў. А чаму не?

М о ц к і н. Чаму? Цяпер, Сцяпан Васільевіч, кожную хвіліну чакай карэспандэнтаў. Цяпер яны папаўзуць, як

тараканы на свежы хлеб. Касякамі, касякамі. Я знаю іх. Вопыты, метады, перадавікоў ім дай, тое пакажы, гэта раскажы... А што мы ім раскажам?

К а л і б е р а ў. Як што?

М о ц к і н. Сцяпан Васільевіч! Быццам вы не ведаеце. «Леў Талстой» перадавік. А які ён перадавік? Па квітанцыях ён перадавік. А што ён здаў? Кукіш ён здаў. Распіску здаў. І Гарошка з «Партызана» такі ж перадавік. На дваццаць працэнтаў фікцыі...

К а л і б е р а ў *(аслупянеў)*. І-і-ігх!.. Мо-о-цкі-ін!.. Сакрэт свой пусціў у ход?!

М о ц к і н. Цяпер ён не толькі мой сакрэт. Ён і ваш сакрэт, і Гарошкі сакрэт, і «Льва Талстога» сакрэт. Цяпер гэта наш сакрэт.

К а л і б е р а ў *(пагрозліва)*. Махінатар! Ачкаўціральель! Шантажыст!

М о ц к і н. Сцяпан Васільевіч! Сцяпан Васільевіч! Што вы! Не хвалюйцеся!

К а л і б е р а ў. Ды я цябе ў парашок сатру! Я з цябе блін зраблю!

М о ц к і н. Які з мяне блін? За што? Калі б я што-небудзь якое, дык я ж ніколі, нічога, ніякага. А калі што якое, дык што тут такое? Квітанцыі я не выпісваў, распіскі не даваў, на старшынь не націскаў і па радыё таксама не выступаў.

К а л і б е р а ў *(прастагнаў ад здзіўлення)*. І-і-ігх... Загнаў у нерат — ані назад, ані ўперад...

М о ц к і н. Сцяпан Васільевіч! Цяпер толькі ўперад, толькі ўперад! Назад позна!

К а л і б е р а ў. Ах ты, няго-однік! *(Наступае на Моцкіна.)*

М о ц к і н *(адступаючы)*. Сцяпан Васільевіч! Таварыш Калібераў! Вы не ганяйцеся! Ёсць выхад! Ёсць разумны выхад, Сцяпан Васільевіч! Ух і нервы ў вас, Сцяпан Васільевіч! А нервы беражыце, яны спатрэбяцца для сямейнага шчасця.

К а л і б е р а ў. Моцкін!..

М о ц к і н. Цяпер трэба спакойна ўсё абдумаць, спакойна выклікаць Гарошку. Я ўжо выклікаў яго да вас. Выклікаць старшыню «Льва Талстога». І тут вы ім накажыце! Накажыце, што выкрылі іх махінацыі, прышчаміце хвасты і... будзьце ўпэўнены...

Грымнуў гром.
У кабінет заходзіць Г а р д з і ю к.

Гардзіюк. Можна? Добры дзень! Таварыш Каліберау? Я з абласной газеты. Гардзіюк. Спецыяльны, так сказаць, карэспандэнт. Будзем знаёмы. Вось, калі ласка. *(Падае пасведчанне.)*

Моцкін. Нібы снег на галаву...

Гардзіюк. Хто? Я?

Моцкін. Не, што вы! Мы тут пра надвор'е — дождж, гром.

Гардзіюк. А-а, сапраўды, гром з яснага неба.

Каліберау *(крыху асвоіўся)*. Вельмі прыемна. Сядайце, калі ласка. Я — Каліберау, а гэта — Моцкін — наш галоўны парыхтоўшчык. Знаёмцеся.

Гардзіюк. Вельмі прыемна.

Моцкін. Вельмі, вельмі прыемна. А вы знаеце, мы вас чакалі.

Гардзіюк. Чакалі?

Моцкін. У газетчыкаў нюх востры. Не паспеў стаць перадавіком, і яны тут як тут.

Каліберау. А я помню вашы артыкулы, таварыш Гардзіюк.

Гардзіюк. Нават помніце?

Каліберау. Калі не памыляюся, апошні быў пра Крупінскі раён.

Гардзіюк. Правільна. Пісала.

Каліберау. Шчыра прызнацца, я вас уяўляў зусім не такою.

Гардзіюк. Напэўна, думалі, што я салідная дама?

Каліберау. Правільна. І прытым пажылая, знаеце, з сівізной, сярдзітая такая жанчына. *(Паглядзеўшы на яе прагнымі вачыма.)* І раптам вы — такая. *(Нават рукі пацёр.)*

Гардзіюк. Паверце, не ад вас першага чую.

Каліберау. Акрамя таго, я недзе чытаў, што вы і для літаратуры тое-сёе робіце. Пішаце, творыце...

Гардзіюк *(скромна)*. Збіраю матэрыял.

Каліберау. Героіка, рамантыка, напэўна, вабіць?

Гардзіюк. Не, сатыра.

Каліберау. Сатыра. *(Успомніў.)* Ах, так-так — «Гогалі і Шчадрыны нам патрэбны». Правільна, правільна... Але *(са здзіўленнем)* у маім раёне шукаць матэрыял для сатыры?..

Гардзіюк. Каб пісаць сатыру, трэба вельмі добра ведаць і добрых людзей.

Каліберау. Так-так-так... Гэта правільна. Чытаю-

чы вашы артыкулы, я думаў, што піша аграном, чалавек з практыкай, які добра разбіраецца ў сельскай гаспадарцы.

Гардзіюк. Ну, гэта ўжо прыемны камплімент.

Калібераў. Я не для кампліментa.

Гардзіюк. Тым больш прыемна. Але і я ў даўгу не застануся. Камплімент я вам скажу праз газету.

Каліберау. Няма за што. Хіба фельетон напішаце?

Гардзіюк. Ну што вы? У вас поспехі!..

Каліберау. Ніякіх поспехаў у нас няма.

Ад гэтых слоў Моцкін вылупіў вочы і аж прыпадняўся ў крэсле.

Гардзіюк. Як там няма? Па хлебапастаўках вы на першым месцы ў вобласці.

Каліберау. Гэта ўсё яго работа, яго заслугі. *(Паказвае на Моцкіна.)*

Моцкін збянтэжыўся.

Моцкін. Сцяпан Васільевіч! *(Да Гардзіюк.)* Вы знаеце, таварыш Гардзіюк, наш Сцяпан Васільевіч такі скромны, я сказаў бы, занадта скромны. Сваю работу, свае заслугі ён зусім не цэніць. Як хваліць, дык ён другога падсоўвае, а калі што якое — віну на сябе валіць.

Каліберау. Выбачайце, таварыш Моцкін. Наконт віны ты загнуў.

Гардзіюк. Вінаватага караем, а правага — мілуем?

Каліберау. І надоўга вы да нас?

Гардзіюк. Толькі сёння і заўтра, а паслязаўтра трэба назад вяртацца і здаць рэдактару артыкул.

Каліберау. Э-э, мала ж, мала вам часу далі. Скажыце, калі не сакрэт, на якую тэму вы думаеце пісаць артыкул?

Гардзіюк. Задача такая — перадаць вопыт вашай работы, метады кіраўніцтва, расказаць аб вопыце лепшых старшынь калгасаў, механізатараў.

Каліберау. Ну што ж, калі ласка, калі ласка. *(Адкінуўшыся ў крэсле.)* Трэба сказаць, што арганізацыйную работу правялі вялікую. Спачатку склікалі сесію райсавета, потым сход райпартактыву, а райком камсамола — раённы сход камсамольскага актыву. Пасля райвыканком сумесна з райкомам партыі правялі нараду старшынь сельсаветаў, потым — нараду старшынь калгасаў, брыгадзіраў і рахункаводаў. Затым — семінар сакратароў партарганізацый, семінар агітатараў. Па лініі аддзела прапаганды і рэдакцыі райгазеты правялі нараду селько-

раў і рэдактараў насценгазет. Па лініі аддзела культустаноў — нараду загадчыкаў клубаў і сельскіх хат-чытальняў.

Моцкін. Па нашай лініі — таксама не драмалі...

Каліберaў. Не, ён не драмаў. А потым у кожны калгас паслалі ўпаўнаважанага райкома і райвыканкома.

Моцкін. У некаторыя — адстаючыя — нават па два.

Каліберaў. Ага, ледзь не забыўся. Яшчэ правялі злёт механізатараў.

Гардзіюк. Скажыце, а такая колькасць нарад не перашкаджала падрыхтоўцы да ўборкі?

Каліберaў. Як перашкаджала?

Моцкін. Чаму перашкаджала?

Гардзіюк. Вы правялі трынаццаць сходаў, злётаў, нарад, семінараў. На кожным з іх прысутнічала па сорак — пяцьдзесят чалавек. Патрачана пяцьсот — шэсцьсот чалавека-дзён. Прыкладна за месяц.

Каліберaў. А мы днём не праводзілі. Мы вечарамі!

Гардзіюк. А спаць калі? Вы ж, пэўна, самі цэлы месяц на падушку не клаліся?

Каліберaў. Ну, знаеце, цяпер не да сну.

Моцкін. Хіба цяпер заснеш? Як цяпер заснеш? Толькі круцішся з боку на бок. Думаеш, думаеш і круцішся. Як тут выкруціцца?

Каліберaў. Н-да... Вы спыталі — ці перашкаджалі нарады... Можна меркаваць на выніках. А вынікі гавораць, што нарады пайшлі на карысць.

Гардзіюк. А гэта, бадай, доказ... і не благі доказ.

Каліберaў. А мне, грэшнаму, за нарады, уласна, закацілі вымову ў абкоме.

Гардзіюк. Можна спадзявацца, што здымуць.

Моцкін. Хоць яна не медаль, на грудзях не блішчыць, а ўсё-такі. Вымову *(па-філасофску)* лёгка схапіць, а адчапіцца ад яе — усё роўна, што ад паганай хваробы.

Гардзіюк *(Каліберaву)*. Выбачайце за такую цікаўнасць, але мяне цікавіць ваш, асабіста ваш рабочы дзень. Таксама калі не сакрэт.

Каліберaў *(скромнічае)*. Ну што вы! Каму гэта цікава? Што я? Я, так сказаць, з'ява нетыповая. Справа іншая — простыя людзі: калгаснікі, механізатары, брыгадзіры, жывёлаводы, людзі, якія непасрэдна ствараюць матэрыяльныя каштоўнасці. А пра мяне ўжо хай у пастановах пішуць... Для літаратуры мне месцейка дзе-небудзь у цяньку.

Гардзіюк. А вы і сапраўды скромны.

М о ц к і н. Во, во! Я ж вам казаў. Ці Сцяпан Васільевіч вам пра сябе што скажа? Ні-ні! Вы ў мяне спытайце, як ён, хворы, у яго ж камень у пячонках, цц... такі камень... І ўсё-такі і дзень і ноч, і дзень і ноч па рабоце. Цягне як вол, выбачайце, Сцяпан Васільевіч. Ад цямна да цямна ў калгасах. Прыедзе ў адзін калгас, у другі, у трэці, у чацвёрты. Пагаворыць з людзьмі, расталкуе, раскажа... І слухаюць яго — во так, вушы развесіўшы.

К а л і б е р а ў. Перастань ты, Моцкін. Чалавек падумае, што я абкружыў сябе падхалімамі.

Г а р д з і ю к. А можа, вы для яго сапраўды аўтарытэт?

М о ц к і н. Ці ён так падумае? А вы тонка заўважылі. Іменна аўтарытэт. Чаму яго так слухаюць? У кожным калгасе ўсе справы ведае. Нават дробязі. Другога не слухаюць, а Сцяпана Васільевіча — раз-два, і гатова. Аўтарытэт!

К а л і б е р а ў. Ну ты, чэснае слова, сёння нейкі несур'ёзны чалавек, Моцкін.

Нясмелы стук у дзверы.

Калі ласка, заходзьце!

Нясмелы стук паўтараецца.

Ну заходзь, заходзь! Хто там?

М о ц к і н. Я ведаю, што гэта Гарошка.

Уваходзіць Г а р о ш к а ў брызентавым плашчы. З яго цячэ вада.

Г а р о ш к а. Добры дзень! Можна?

К а л і б е р а ў *(ветліва)*. Калі ласка, калі ласка! Добры дзень. Гэта наш старшыня калгаса «Партызан», Гарошка.

М о ц к і н. Перадавік. Таксама перадавік.

К а л і б е р а ў. Знаёмцеся. Спецыяльны карэспандэнт абласной газеты, таварыш Гардзіюк.

Г а р д з і ю к. Вельмі прыемна.

Г а р о ш к а *(выцершы хустачкай руку, вітаецца)*. Добры дзень!

К а л і б е р а ў. Што новага, Гарошка? Чым узрадуеш?

Г а р о ш к а. Якая тут радасць, Сцяпан Васільевіч? Такі дождж, каб ён згарэў, і ў такі час! Яшчэ б якіх-небудзь чатыры дзянькі пастаяла надвор'е, і ўсе каласавыя ўбралі б.

К а л і б е р а ў. Павесь свой балахон вунь туды, а то пад табой цэлая лужа.

Г а р о ш к а. Для бульбачкі дожджык трэба, а для жніва... Хто ведае, калі ён перастане...

К а л і б е р а ў. Тут, таварыш Гарошка, цікавяцца вашымі поспехамі, вашай работай, а не дажджом.

Г а р о ш к а. Хто?

М о ц к і н. Вось, спецыяльны карэспандэнт з газеты.

Г а р о ш к а. Ат, якія там поспехі!

Г а р д з і ю к. Як жа так? Уборку заканчваеце, з дзяржавай амаль разлічыліся...

К а л і б е р а ў. Вось і раскажы, як гэта вы арганізавалі. Пахваліся. Тут Моцкін тое-сёе пра цябе расказаў.

Г а р о ш к а. Што вы, таварыш Моцкін, ці ж гэта я? Гэта ж вы арганізавалі. Не?

М о ц к і н. Скромнасць, скромнасць!

Г а р д з і ю к. Сапраўды, якія ў вас цудоўныя, скромныя людзі.

М о ц к і н. Бяруць прыклад са Сцяпана Васільевіча.

Г а р д з і ю к. Дык вы мне так нічога і не раскажаце? Хоць бы пра тое, як вы арганізавалі адгрузку хлеба на дзяржаўныя склады, як працуе транспарт.

Г а р о ш к а *(уздыхнуў)*. Гэта ўсё проста... Не? Першая запаведзь, канешне... Сцяпан Васільевіч прыехаў, пагаварыў... А таварыш Моцкін падказаў... Ну, от і... раз-два, і гатова... Квітанцыі здалі.

Г а р д з і ю к. Па вашаму расказу выходзіць вельмі проста — раз-два, і гатова. А на самой справе — колькі бяссонных начэй было, колькі работы!..

К а л і б е р а ў. Так... Трэба арганізаваць!..

М о ц к і н. Нарады... *(Падказвае Гарошку.)* Нарады, нарады.

Г а р о ш к а. Хітрую галаву трэба мець...

М о ц к і н. Ой, таварыш Гардзіюк, вы ж пад дожджыкам былі. Трэба было б хоць пераапрануцца. Так жа можна прастудзіцца.

Г а р д з і ю к. Нічога, нічога. Я не вельмі прамокла.

К а л і б е р а ў. Не, не, таварыш Гардзіюк. У маім раёне я за ўсё адказваю. І за вас таксама, паколькі вы ў маім раёне. Не магу дазволіць, не магу дапусціць прастуду ў вашым целе. Я патрабую зараз жа пераапрануцца.

Г а р д з і ю к. Ну што вы, што вы! Вельмі дзякую за клопаты. Я проста не заслужыла такой увагі.

К а л і б е р а ў. Пры чым тут заслугі.

Г а р д з і ю к. Ну, добра. Я пайду, а то і праўда — неяк

няёмка. Толькі скажыце, калі ласка, дзе тут у вас гасцініца?

Каліберaў. Зламалі! Ды якая тут была гасцініца?

Моцкін. Сорамна было перад людзьмі за такую гасцініцу.

Каліберaў. Дык я рашыў адгрохаць такую, каб усякі, хто прыедзе да нас у камандзіроўку, па-сапраўднаму мог адпачыць у нас.

Моцкін. Як на дачы.

Каліберaў. А вам пакуль што давядзецца спыніцца на прыватнай... Калі вы не супраць — калі ласка, да мяне.

Гардзіюк. Ну што вы, лішнія клопаты...

Каліберaў. Якія там клопаты. Кватэра прасторная, дзяцей няма, а я дома мала бываю. Ды, урэшце, адзін, два дні...

Гардзіюк. Калі так, адмаўляцца не буду. Дзякую за гасціннасць.

Каліберaў устае, каб правесці яе да дзвярэй.

Каліберaў. Я дам вам праваднікa.

Гардзіюк. Так і быць — пайду пераапрануся. Я яшчэ зайду да вас, пагутарым, параімся. А заўтра пабываю ў калгасах. *(Гарошку.)* А ў ваш калгас я абавязкова заеду. Цікава, вельмі цікава...

Каліберaў *(за дзверы)*. Аня! Правядзіце, калі ласка, таварыш Гардзіюк на маю кватэру і скажыце Антаніне Цімафееўне... Хаця я ёй сам пазваню.

Гардзіюк. Бывайце. *(Выходзіць.)*

Гарошка, нібы заваражаны, глядзіць на дзверы, за якімі схавалася Гардзіюк. Ён не асмельваецца перавесці вочы на Калібeрава, прадчуваючы навальніцу.

Моцкін *(Гарошку)*. На вочы ёй не трапляйся.

Каліберaў *(звоніць па тэлефоне)*. Кватэру. Тоня? Зараз Аня прывядзе дзяўчыну... спецыяльны карэспандэнт абласной газеты. Прымі там яе... сама ведаеш як... Дні на два. Ды не ўздумай катамі хваліцца. Чуеш? *(Павесіў трубку.)*

Паўза. Чуваць далёкія раскаты грому.

Гарошка. Ільля па небе катаецца...

Каліберaў *(саркастычна)*. Ну, перадавік, скромніца! Чаму ж ты не пахваліўся сваімі поспехамі спецыяльнаму карэспандэнту?

Моцкін. Чаму?!

Г а р о ш к а. Сцяпан Васільевіч... *(Устаў з крэсла.)*

К а л і б е р а ў. Чаму не расказаў пра свае махінацыі з распісачкамі і квітанцыямі?

М о ц к і н. Чаму?!

Г а р о ш к а. Сцяпан Васільевіч...

К а л і б е р а ў. Што Сцяпан Васільевіч? Як ты арганізаваў хлебаздачу?

Г а р о ш к а. Не я арганізаваў. Таварыш Моцкін арганізаваў.

М о ц к і н. Таварыш Гарошка! Ты Моцкіна не чапай! Мая хата з краю, я распісак не пісаў. Мне ўручылі квітанцыю — і ўсё. А як вы там зрабілі — мне малая справа.

Г а р о ш к а. Таварыш Моцкін! Як жа вы так! За што?

К а л і б е р а ў. Думалі, што я не буду ведаць? Я ўсе вашы справы ведаю! Нават дробязі!

Г а р о ш к а. Сцяпан Васільевіч...

К а л і б е р а ў. Жулікі! Ачкаўціраццелі! Пад суд аддам! *(Аж устаў з крэсла.)*

Г а р о ш к а *(сеў)*. Сцяпан Васільевіч! За што? Я ж не сам! Я ж не дадумаўся б... Даруйце мне.

М о ц к і н. Што даруйце, што даруйце, таварыш Гарошка? Ты цяпер павінен за суткі здаць хлеб і вярнуць свае распіскі.

К а л і б е р а ў. Не зробіш — дух вон, жылы на тэлефон!

Г а р о ш к а *(ледзь не плача)*. Дык жа дождж...

К а л і б е р а ў. А дзе твае зернесушылкі?!

Г а р о ш к а. Хто ж ведаў, што так будзе?

М о ц к і н. Развесь свой балахон, плашч...

Г а р о ш к а. Дапамажыце як-небудзь... Можа, упаўнаважанага...

К а л і б е р а ў. А ўчастковага ўпаўнаважанага не хацеў?

М о ц к і н. Зяця вазьмі, пракурора.

Г а р о ш к а. Што вы! Такі зяць, што ні даць ні ўзяць.

К а л і б е р а ў. Ідзіце і зараз жа ўзнімайце ўсіх на ногі. Збярыце актыў і штурмуйце.

Г а р о ш к а. Прапаў я... Хоць круць-верць, хоць... О-о!

М о ц к і н. Толькі пра распісачку не гавары. Май на ўвазе, чым гэта пахне.

К а л і б е р а ў. Ідзіце!

Г а р о ш к а *(выходзячы)*. Толькі не пускайце да мяне гэтую... з газеты.

Г а р о ш к а выйшаў.

М о ц к і н. Цяпер ён заварушыцца.

К а л і б е р а ў. Ты разумееш, Моцкін, што ты натварыў?

М о ц к і н. Пакуль што нічога страшнага, Сцяпан Васільевіч.

К а л і б е р а ў. Якую ж ты мне свінню падлажыў!

М о ц к і н. Сцяпан Васільевіч! Дзе ж тут свіння? Я ўпэўнены, што ўсё будзе добра і гладка.

К а л і б е р а ў. Ты ўяўляеш, што будзе, калі даведаюцца члены бюро райкома, калі гэта дойдзе да абкома партыі? Не насіць мне партбілета.

М о ц к і н. Як яны даведаюцца? Ад каго? Адкуль?

К а л і б е р а ў. Бяда прыходзіць адтуль, адкуль яе не чакаеш.

М о ц к і н. Пакуль што ведаем толькі мы — вы і я. Значыць, толькі маўчок.

К а л і б е р а ў. Як жа быць з гэтай... з карэспандэнтам?

М о ц к і н. А вы ёй пагаварыце сто бочак арыштантаў, а потым на машыну і павазіце па калгасах. Толькі туды, куды трэба. І ўсё. І галоўнае— нікога да яе не падпускайце.

Заходзіць Г а н н а, штурхаючы перад сабой Г а р о ш к у.

Г а н н а. Не, не, я хачу, каб і ты тут быў.

К а л і б е р а ў. Што такое? Што такое?

Г а н н а. Справа ёсць, таварыш Калібераў.

К а л і б е р а ў. Асабістая? Службовая?

Г а н н а. Для мяне асабістая, а для вас службовая.

М о ц к і н. Па асабістых справах сёння Сцяпан Васільевіч не прымае.

Г а н н а. А-а, і ты тут?! Якраз ты патрэбен. Тут мы начыстату і пагаворым.

К а л і б е р а ў. Сядайце. Якая справа, таварыш Чыхнюк?

Г а н н а. Душа баліць, таварыш Калібераў. Таму і да вас прыйшла. Дабро на полі гіне, дабро.

К а л і б е р а ў. Чаму гіне?

Г а н н а. Гаспадара няма! *(На Гарошку.)* Ці ж ён гаспадар? Учора — столькі хлеба падкасілі, зжалі... А тут хмара, такая хмара, што цёмна стала. Трэба было б усіх людзей паслаць, каб у гумны звесці ці хоць бы ў копы скласці. Такі хлеб — хоць у млын вязі! А ён...

К а л і б е р а ў. А ён што?

Г а н н а. Прыскочыў вось гэты — упаўнаважаны! Такога страху нагнаў на Гарошку... Бог яго ведае... *(Гарошку.)* Чым ён напалохаў цябе?! Дык ён, як на пажар, усе падводы з поля зняў, усіх людзей — вазіць збожжа на пункты. Гэта парадак?

М о ц к і н. Дзяржаве, дзяржаве.

Г а р о ш к а. Хоць круць-верць, хоць верць-круць — усё адно я вінаваты.

Г а н н а. А хто вінаваты? Ты і ён! *(Паказвае на Гарошку і Моцкіна.)* І на падводах у мяшках хлеб намок, і на полі ў снапах дождж вымалачвае. Што ж гэта робіцца, таварыш Каліберaў?! Сёння не паглядзела на дождж, пайшла на поле... Наплакалася, гледзячы на такія парадкі. Адтуль да вас. Навядзіце парадак, а не — дык я вышэй пайду. Да вобласці дайду, да правіцельства.

К а л і б е р а ў. Нікуды не трэба ісці. Мы самі ўладзім. У нас таксама сілы хопіць. Разбяромся.

М о ц к і н. Ты нас не палохай.

К а л і б е р а ў. Таварыш Гарошка, гэта ўсё праўда?

Г а р о ш к а. Сцяпан Васільевіч, а што я магу зрабіць? З аднаго боку вы націскаеце, а з другога боку, вось бачыце, яны — народ. А мне каго слухаць?

Г а н н а. Сваю галаву трэба мець. Цябе народ выбраў, даверыў гаспадарку, а ты што?

К а л і б е р а ў. Таварыш Чыхнюк, наша галоўная задача — у першую чаргу разлічыцца з дзяржавай.

Ганна падыходзіць да Калiберава; гаворыць вельмі шчыра і страсна. Неяк так атрымалася, што яна выціснула яго з-за стала і заняла яго службовае месца, стала, так сказаць, «кіраўніком».

Г а н н а. Я так разумею, таварыш Каліберaў. Галоўная задача — у першую чаргу добры ўраджай вырасціць, а потым сабраць яго так, каб ніводнае зярнятка не прапала. Тады і з дзяржавай разлічымся. Мы свой доўг помнім. І калгаснікам трэба за сваю працу атрымаць, і налета каб было што пасеяць. А не так, як ён. Авёс яшчэ не паспеў, грэчка толькі цвіце, а яны стараюцца жытам ды пшаніцай здаць дзяржаве і за грэчку і за авёс. А сеяць што будзем? Назад будзем вазіць з дзяржаўных складаў? Туды-сюды зярно возім, людзей тузаем, коней ганяем. Гэта па-гаспадарску?! У людзей жа работа з рук валіцца, калі бачаць такое кіраўніцтва.

М о ц к і н. У нас графік ёсць — да пятнаццатага жніўня.

Г а н н а. Хто такі графік выдумаў? Ты?

М о ц к і н. Ты на мяне не крычы, грамадзянка! Не я выдумаў, а...

К а л і б е р а ў *(перапыняе)*. Пачакай, Моцкін! Не гарачыся. Таварыш Чыхнюк са свайго боку правільна ставіць пытанне.

М о ц к і н. Вось іменна — са свайго боку. Дзяржаўныя інтарэсы ў яе на другім плане. Яна зусім не патрыёт свайго раёна, свайго калгаса. Яна і не думае стаць перадавіком па хлебанарыхтоўках.

Г а н н а. Дык, значыцца, ты — патрыёт? Што языком мелеш? А мы, калгаснікі, што сваімі рукамі зямлю няньчым, не патрыёты? А? У цябе толькі графік у галаве сядзіць. У цябе галава не баліць, што дабро на полі гіне. Ты не сеяў, не баранаваў, не палоў, не жаў. А мы сваімі рукамі...

К а л і б е р а ў. Спакойна, спакойна, таварыш Чыхнюк! Так жа нельга!

Г а н н а. Не магу спакойна! Ён хоча перадавіком стаць! На чужым гарбу ў рай! Вунь яно што! Ах ты, гніда ты!...

М о ц к і н. Я не дазволю, Сцяпан Васільевіч, я не разумею...

К а л і б е р а ў. Не лезь на ражон, Моцкін! Выйдзі на хвіліну.

М о ц к і н нехаця выходзіць.

Г а н н а. Патрыёт! Ведаем такіх патрыётаў. Колькі іх над канём уецца, калі той воз цягне. Сляпнямі іх у народзе завуць, патрыётаў гэтакіх.

К а л і б е р а ў. Прызнаеш крытыку, таварыш Гарошка?

Г а р о ш к а *(перапалоханы)*. П-п-прызнаю, С-с-сцяпан Васільевіч. Хоць круць-верць, хоць верць-круць.

К а л і б е р а ў. Мала — прызнаць крытыку! Трэба выправіць становішча.

Г а н н а. Гэта яшчэ не ўсё, таварыш Калібераў. Вам трэба прыехаць да нас. Сёння ж. Мы збяром сход. Вось там народ яму пакажа.

Уваходзіць М о ц к і н разам з Г а р д з і ю к.

М о ц к і н. Сцяпан Васільевіч! Вось... таварыш Гардзіюк...

К а л і б е р а ў *(разгубіўся)*. Добра, добра, таварыш Чыхнюк. Заўтра буду. Абавязкова. Можаце быць упэўне-

ны. Усё ўладзім. Ну, да пабачэння! *(Стараецца выправадзіць яе.)*

Г а н н а. А то — да чаго дакаціліся! Няпраўда *(да Гарошкі і Моцкіна)*, знойдзем і на вас управу. Ці ж так можна гаспадарыць?.. Мы ведаем і дзяржаўныя інтарэсы, і дзяржаўныя тэрміны... А вы за графікам ды паперкамі людзей не бачыце, свету белага не бачыце. Гэтаму нас партыя не вучыць!

Гардзіюк звярнула ўвагу на Ганну.

Г а р о ш к а. Ну, усё, усё, Ганна Аляксееўна.

Г а н н а. Не! Яшчэ не ўсё! Я вас выведу на чыстую ваду...

Каліберaў страшэнна зморшчыўся, застагнаў, абвяў, нібы ў яго пячонках сапраўды цэлая груда камення.

Г а р д з ю к. Ой! Што з вамі? Што такое?

М о ц к і н. Прыступ!.. У яго, знаеце, камень у пячонках.

Г а р д з і ю к. Доктара паклікаць! Так жа нельга.

Паспешліва бярэ графін з вадой. Але Моцкін апярэджвае і, схапіўшы бутэльку з «Есентукамі», налівае ў шклянку і падае Каліберaву.

М о ц к і н. Не, не, ваду не трэба. У яго «Есентукі».

Г а р о ш к а. Да чаго давяла чалавека.

Г а н н а. Таксама захварэў... Ну, што ж, самім прыйдзецца разбірацца. Народ, ён можа.

Г а р о ш к а. Пайшлі, пайшлі!

Г а н н а і Г а р о ш к а выходзяць.

К а л і б е р а ў. Дзякую...

Г а р д з і ю к. Таварыш Каліберaў, вы несур'ёзна ставіцеся да свайго здароўя. Вам трэба лячыцца.

К а л і б е р а ў *(жаласліва)*. Ат, цэлы буду. Дзяцей у мяне няма. Сірот не пакіну.

Гардзіюк заспяшалася, яна не хоча адстаць ад Ганны і Гарошкі.

Г а р д з і ю к. Вам трэба адпачыць, Сцяпан Васільевіч. Я сёння вас турбаваць не буду.

Г а р д з і ю к выходзіць.

Доўгая паўза.

Каліберaў і Моцкін адчуваюць сябе так, нібы толькі што абміпулі страшэннае бяздоние.

К а л і б е р а ў. Ну, Моцкін! А што далей?

Недзе вельмі блізка ўдарыў пярун.

Моцкін. На вачах асіну расшчапіла...

Заходзіць пракурор Курбатаў.

Курбатаў *(абтрасаючы з сябе ваду)*. Ну і надвор'е сёння! Патоп!

Каліберaў. Пакуль не позна, трэба заказаць каўчэг.

Моцкін. І праўду кажуць: «Бог няроўна дзеліць». У Сярэдняй Азіі цэлае лета пячэ і пячэ, а тут — нібы рэшата цячэ. Старому небу трэба рамонт. І хто там камунгасам загадвае? Вы не цікавіліся, таварыш пракурор? Такога нядбайнага пад суд трэба аддаць.

Курбатаў. Мне і на зямлі спраў па горла.

Каліберaў. Значыць, жэнішся, пракурор?

Моцкін. Ах, залатыя дзянёчкі — мядовы месяц!..

Каліберaў. Калі ж адпачынак бярэш?

Курбатаў *(хмура)*. Зрываецца мой адпачынак.

Моцкін. Няўжо такая сур'ёзная справа?

Курбатаў. Афёра.

Моцкін. Афёра?

Курбатаў. Ды яшчэ якая!

Каліберaў. У нашым раёне? Не можа быць!

Курбатаў. Сцяпан Васільевіч, вы атрымалі зводку аб хлебапастаўках? Можна паглядзець?

Каліберaў. Вось.

Курбатаў *(зверыўшы свае запісы)*. Яна правільная, таварыш Моцкін?

Моцкін *(аўтарытэтна)*. На падставе квітанцый, таварыш пракурор.

Курбатаў. На заводзе ў Печкурова столькі хлеба?

Моцкін. А што вы думаеце? Гэту лічбу я з пальца высмактаў? У мяне ёсць квітанцыі.

Курбатаў. На складах Печкурова і палавіны гэтай колькасці няма. Я атрымаў сігнал.

Каліберaў. Не можа гэтага быць.

Моцкін. Не верце гэтым сігналам.

Курбатаў. Я толькі што з завода. Сам бачыў. Шкада, Печкурова не застаў. Паехаў даставаць шыфер для свайго доміка. Думаю затрымаць. Вы не супраць?

Каліберaў. Вось яму і наваселле...

Моцкін. І вы ўпэўнены, што гэта афёра?

Курбатаў. А як вы думаеце, таварыш Моцкін?

Каліберaў. Так-так, як вы думаеце, таварыш Моцкін?

Бацька Андрэя Макаёнка Ягор Сяргеевіч.
1928 год.



Андрэй Макаёнак на вайсковай службе.
1939 год.



М о ц к і н. Калі б ён украў адну тону — можна паверыць. А тут жа сотні тон. Нашто яму столькі? Што ён будзе рабіць?

К у р б а т а ў. Аферысты бываюць розных калібраў.

К а л і б е р а ў. Што?

К у р б а т а ў. Я кажу, таварыш Каліберау, што аферысты бываюць розных калібраў.

К а л і б е р а ў. Значыць, ты водпуск не бярэш? Будзеш разблытваць?

К у р б а т а ў. Такая служба.

М о ц к і н. Служба не воўк, у лес не ўцячэ.

К у р б а т а ў. Злодзей уцячэ.

М о ц к і н. Ах, як мне вас шкада! У вас цяпер самы шчаслівы момант у жыцці. Мядовы месяц! Гэта адзін раз у жыцці бывае. Трэба было б яго правесці так, каб на ўсё жыццё запомніць. Маладзенькая жонка, такая прыгожая, такая ласкавая, такая ягадка! *(Аж цмокнуў.)* Цяпер лета... Дождж перастане, зайграе сонейка. А-ах, як хораша з такой жоначкай схадзіць пакупацца, папляскацца ў рацэ... Ці ў лясок па ягадкі, па грыбочкі.

Курбатаў цяжка ўздыхнуў.

Для маладых такое шчасце! Пастарэеш — таго не будзе.

К а л і б е р а ў. Таварыш Моцкін, Курбатаў падумае, што ты хочаш яго адгаварыць.

К у р б а т а ў. На дзяржаўных складах такая недастача хлеба, а вы так спакойна разважаеце.

М о ц к і н. Я ўпэўнены, што нічога тут сур'ёзнага няма. Навошта хвалявацца.

К у р б а т а ў. Крыху праясняецца.

М о ц к і н. Што праясняецца?

К у р б а т а ў. Неба праясняецца. Таварыш Моцкін, прашу вас, калі ласка, вазьміце ўсе квітанцыі і зайдзіце ў пракуратуру.

М о ц к і н. Калі? Сёння?

К у р б а т а ў. Зараз. Трэба праверыць.

М о ц к і н. Калі ласка. У мяне ўсё ў парадку.

К у р б а т а ў выходзіць.

К а л і б е р а ў. Ну, Моцкін, сцеражыся. Калі выкрыецца твая махінацыя — не чакай ад мяне літасці! Не будзе!

М о ц к і н. Выбачайце, я тут ні пры чым. Мяне самога ашукалі! Падсунулі квітанцыі. А я што?

Калібераў. Не фінці, Моцкін. Хоць перада мной не фінці!

Моцкін. А што мне рабіць? На сваю галаву браць?

Калібераў. Любіш катацца, любі і саначкі вазіць. Сцеражыся, Моцкін.

Паўза.

Моцкін. Пракурор — не карэспандэнт. Яго вакол пальца не абвядзеш... Сцяпан Васільевіч, прыдумайце яму якую-небудзь камандзіроўку, семінар, курсы, нараду якую-небудзь!

Калібераў. Ён табе прыдумае камандзіроўку!

Моцкін сядзіць, як мыш пад венікам.
Прыходзіць Антаніна Цімафееўна.

Антаніна Цімафееўна. Сцёпа! Гэта чорт ведае што! Міліцыя зусім не сочыць за парадкамі! Па вуліцы бегаюць прыблудныя сабакі, кусаюцца... Толькі што пакусалі Ваську.

Калібераў. Якога Ваську?

Антаніна Цімафееўна. Ката.

Калібераў. І ты яшчэ са сваімі катамі!

Антаніна Цімафееўна. Сцёпа! Ты ж яшчэ сёння не абедаў. Пойдзем. А карэспандэнт паехала.

Калібераў. Як паехала? Куды?

Антаніна Цімафееўна. Ты яе так напалохаў сваёй хваробай, што яна, каб не турбаваць цябе дома, узяла свой чамаданчык і паехала з Гарошкам і Ганнай.

Калібераў. І ты яе выпусціла? Эх ты! Разява! Ратазей! *(Усхваляваны, выскачыў з-за стала.)* Ну што? Што цяпер? Што?! Не, яшчэ не ўсё! Я сам туды паеду. Я сам буду выкрываць ачкаўціральцеляў і махляроў. Сам! *(Звоніць па тэлефоне.)* Гараж! Федзя! Зараз жа падавай машыну. Едзем у «Партызан». Што-о? Хто ўзяў машыну? Якая жопка? Хто дазволіў? *(Да Антаніны Цімафееўны.)* Каму ты дала машыну? Дзе машына, я цябе пытаю?

Антаніна Цімафееўна. Не магла ж я пехатою выправіць тваю госцю.

Калібераў. Ідыётка! І чым толькі гасподзь тваю галаву набіў?! *(Звоніць па тэлефоне.)* Неміроўскага. Неміроўскі? Выручай. Дай мне сваю машыну на паўгадзіны. Разумееш, пазнюся на сход у калгас «Партызан». Што? Ах, чорт! *(Кладзе трубку.)* Камера лопнула. Ну, Моцкін, сушы сухары!!

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Пляцоўка перад канцылярыяй праўлення калгаса «Партызан», некаторы час сцэна пустая, затым з канцылярыі выходзяць Ганна і Міхальчук.

Міхальчук. І як гэта Гарошка прызнаўся табе ва ўсім?

Ганна. А дзе ён дзенецца?

Міхальчук. Ах і пракурор бы з цябе выйшаў!

Ганна. Хопіць з мяне і таго, што я старшыня рэвізійнай камісіі.

Прыходзіць Гарошка.

Гарошка *(да Міхальчука)*. Ну, што там? Не прымаюць на пункце?

Міхальчук. Не прымаюць. Пакуль давезлі — мяшкі з жытам наскрозь прамоклі.

Гарошка. Дык ты не ведаеш, што рабіць?

Міхальчук. Сушыць трэба.

Гарошка. Хвала богу: дадумаўся. Пасцілкі збяры па дварах, брызенты пасцялі, баб пастаў пералапачваць, веялку пусці!

Міхальчук. З тваёй ласкі лішняя праца. Навошта было ўчора пад дажджом падводы гнаць?

Ганна *(Гарошку.)* На, падпішы акт рэвізійнай камісіі.

Гарошка. Быў бы ты на маім месцы, дык і пад агнём пагнаў бы. *(Уздыхнуўшы.)* І трэба было табе, Ганна, гэтую завяруху паднімаць, сход гэты...

Ганна. Не, Ягор, сход трэба. Хай народ пагамоніць, ён гаспадар. Справа ж сур'ёзная! Дзяржаўная! Зразумей ты гэта. Нельга, ніяк нельга без сходу.

Гарошка. Ці ж я ва ўсім вінаваты?

Ганна. А ты не бойся, людзі разбяруцца — дзе ты вінаваты, а дзе хто іншы.

Міхальчук. Каб паражняком назад не ехаць, думаю са станцыі суперфасфат прывезці. Ягор Сяргеевіч, можа б, ты пячатку прытуліў да даверанасці?

Гарошка *(знайшоўшы ў кішэні пячатку)*. Ну от... *(Звяртаецца да пячаткі.)* З табой мне і пачот і павага былі. Ты мяне і карміла, ты мяне і паіла: з табой я ніводнага вяселля, ніводных хрэсьбін не прапусціў. А вось — прыйдзецца, відаць, расстацца. Ты, як няверная жонка,— сёння ў аднаго, заўтра ў другога.

Ганна. Калгасу ад таго мала карысці, што яна па руках ходзіць. *(Узяла з рук Гарошкі пячатку, прыставіла да даверанасці.)* На, патрымай пакуль што. Даражыць трэба, цаніць.

Міхальчук пайшоў.

Гарошка *(хацеў пайсці, але затрымаўся).* Ганна, а дзе гэта... карэспандэнтка спецыяльная?

Ганна. Яна? На полі пабывала, паглядзела, з людзьмі пагаманіла, у абком партыі справілася пазваніць. Дасціпная маладзіца.

Гарошка. Як ты думаеш, распіша яна мяне? Не?

Ганна. Абавязкова распіша. Я ж прасіла яе, вельмі прасіла. А пабывае на сходзе ды паслухае, што людзі кажуць, дык трымай толькі шапку. А як жа?

Гарошка. От праславіцца Гарошка... Эх, Ганна, Ганна!.. Бі, значыцца, свой свайго, каб і чужы баяўся?

Ганна. Не лезь куды не трэба. Не падстаўляй, тады і біць не будуць.

Гарошка *(хацеў пайсці, але зноў затрымаўся).* Ну, а як ты думаеш, будуць мяне судзіць?

Ганна. На сходзе? Яшчэ як будуць. А ты што думаў? Даруюць? Па галоўцы пагладзяць за плутні?

Гарошка. Ну, а там?

Ганна. Там? Не ведаю. Ты ў зяця спытай. Яму відней. Вунь ён якраз ідзе.

Гарошка. Ах, табе смешачкі, а мне... *(Выходзіць, каб пазбегнуць сустрэчы з Курбатавым.)*

Уваходзяць Наташа і Курбатаў.

Наташа. Няўжо бацька ва ўсім вінаваты?

Курбатаў. Вінаваты і другія. Печкуроў прызнаўся, што ўсё арганізаваў Моцкін.

Ганна. Толькі глядзі, таварыш пракурор, тут справа дзяржаўная. Калі ён твой цесць, дык хай мае чэсць!..

Ганна выходзіць.

Курбатаў. Ах, чорт вазьмі! Якая сітуацыя! Дурацкая сітуацыя! Не паспеў стаць зяцем, а прыходзіцца на цесця пісаць пратакол допыту.

Наташа. Скажы, Сярожа, а гэта вельмі сур'ёзна?

Курбатаў. Ну, вядома, не жартачкі. «Партызан» здаў хлеба толькі дваццаць сем тон, а па зводцы перадавік — восемдзесят працэнтаў.

Н а т а ш а. Я разумею... Ну, а... судзіць бацьку не будуць?

К у р б а т а ў. Да суда, магчыма, і не дойдзе, але непрыемнасці будуць.

Н а т а ш а *(памаўчаўшы)*. Вось і паехалі мы з табой у лес і на лодцы накаталіся... *(Уздыхнула.)*

К у р б а т а ў. Ці ж тут мая віна? Наташа! Што мне цяпер рабіць? Як мне быць?

Н а т а ш а *(апусціўшы галаву)*. Рабі як сам ведаеш...

К у р б а т а ў. Для мяне... для нас важна, вельмі важна тое, што ты скажаш. Я ж параіцца з табой хачу... Як з самым блізкім, самым дарагім для мяне чалавекам, Наташа.

Н а т а ш а. Ну чаго ты хочаш? Хочаш, каб я сказала: «Аддавай бацьку пад суд, запры яго ў турму»? Гэтага ты хочаш? А самі паедзем на лодцы катацца?

К у р б а т а ў *(памаўчаўшы)*. Колькі непрыемнасцей прыносяць такія вось тыпы, як Моцкін ды Печкуроў! І не толькі дзяржаве... Гады! Вось бачыш? Наша асабістае жыццё, наша з табой шчасце, аказваецца, залежыць і ад іх. Яны і тут могуць нашкодзіць... Дзеля сваёй карысці яны гатовы самае святое, самае чыстае падтаптаць пад ногі.

Н а т а ш а *(стрымліваючы слёзы)*. Сярожа! Харошы мой! Ты на мяне не глядзі... Рабі так, як табе сумленне падкажа.

Курбатаў накіроўваецца ў кантору.

Ты куды зараз?

К у р б а т а ў. Праверу накладныя ў рахункавода.

К у р б а т а ў заходзіць у праўленне.
Уваходзяць Г а р о ш к а і М а р ы я К і р ы л а ў н а.

Н а т а ш а. Ну, я ж яму страху наганю!

Г а р о ш к а *(да Марыі Кірылаўны)*. Ды хай там твае агуркі пасохнуць, павянуць і пагніюць! Не да агуркоў цяпер. Бяры посцілкі і гайда да свірна — жыта сушыць, а не ў агародзе вераб'ёў пужаць.

М а р ы я К і р ы л а ў н а. Чаго ты крычыш? Ну, чаго ты крычыш? Ты паслухай! Цябе зяць шукаў па нейкай сур'ёзнай справе.

Г а р о ш к а. А ты кур'ерам у яго служыш, ці што?

Н а т а ш а. Тата! Што ты нарабіў? Да чаго ты дастукаўся?

Г а р о ш к а. Што такое? Да чаго я дастукаўся?

Н а т а ш а. Яшчэ пытаеш? Нашто ты махляваў з хлебапастаўкамі?

Г а р о ш к а. Ціш-ш... Адкуль ты ведаеш?

Н а т а ш а. Ад зяця твайго.

Г а р о ш к а. Ну, усё... Цяпер у абцугах. Хоць круцьверць, хоць...

Н а т а ш а. Вось які ты мне падарунак да вяселля падрыхтаваў. Мне што цяпер рабіць? А як яму? Ён жа пракурор! Што ж ты маўчыш? З кім цяпер я павінна застацца? З табой ці з ім? Парай, ты ж бацька. Ты ж, відаць, і аб гэтым падумаў, перад тым як плутаваць!

М а р ы я К і р ы л а ў н а. Што ж ты нарабіў, Ягор? Па вачах жа я тваіх бачу, што ты вінаваты.

У Гарошкі падкасіліся ногі. Ён прысеў на ганак.

Г а р о ш к а. Ну, ты, цыц! Не разводзь сырасць... *(Да Наташы.)* Ну і хай, ну і хай пасадзіць... Пасяджу... А вы сабе гуляйце вяселле. Ці ж я ведаў...

Па вуліцы праходзіць Л ё н я на высокіх хадулях.

Л ё н я. А народу ў клубе колькі сабралася! Наташа, кіно пасля сходу будзе?

Н а т а ш а. Не, не будзе.

Л ё н я. Ну і таржаство без мастацкай часткі...

Чуваць сігнал легкавой аўтамашыны.

А-а, вось і Моцкін прыкаціў. Зноў бацьку гайкі будзе закручваць.

Л ё н я выходзіць.

М а р ы я К і р ы л а ў н а. А галовачка мая бедная! А што цяпер будзе?!

Уваходзіць М о ц к і н.

Г а р о ш к а. Канец мне, таварыш Моцкін. Прапаў я...

М о ц к і н. Што за паніка, таварыш Гарошка?

Г а р о ш к а. Пракурор дазнаўся. У бухгалтэрыі капаецца. Усё! Канец...

М о ц к і н. Чаго ты баішся цяпер? Ён жа твой зяць...

М а р ы я К і р ы л а ў н а. А божачка мой, божа!..

Г а р о ш к а. Вось да чаго вы давялі мяне. Я ж казаў, я ж ведаў, што так будзе.

М о ц к і н. Нічога ты не ведаў. Ніхто цябе не падвёў. І чаго ты спалохаўся? Тут усё можна па-сямейнаму. *(Паказвае на Наташу.)* Вось яна — дачка табе ці не дачка?

**Марыя Кірылаўна.** Дачка, дачка...

**Моцкін.** А пракурору хто? Жонка ці не жонка?

**Марыя Кірылаўна.** Ды ўжо ж... Толькі што выдалі.

**Моцкін.** Ну, вось хай з ім і пагаворыць, папросіць.

**Наташа** *(з абурэннем)*. Папрасіць?! Я яго папрашу, каб ён вас... каб ён вам... каб вы і ўнукам заказалі! Я яго ўпрашу!

**Моцкін** *(з дакорам)*. Ай-яй-яй! Ну, добра! Я табе ніхто! Я не прашу ў цябе літасці. *(Паказаўшы на Гарошку.)* А ён табе — бацька ці не бацька?

**Наташа.** Вы не можаце сумленна! Вы людзям жыццё атручваеце!

Наташа выходзіць. За ёй ідзе Марыя Кірылаўна.

**Марыя Кірылаўна.** А мая ж ты дачушка! А мая ж ты ягадка! Ён жа цябе гадаваў, ён жа цябе паіўкарміў. А хто ж за яго папросіць? Хто ж за яго заступіцца?

Марыя Кірылаўна выходзіць.

**Моцкін** *(да Гарошкі)*. Ідзі і прасі яе, каб угаварыла свайго пракурора...

Уваходзіць Каліберaў — салідны, смелы, рашучы. Гарошка, прадчуваючы нядобрае, увабраў галаву ў плечы і спыніўся як заварожаны.

**Каліберaў** *(Моцкіну)*. А, і ты тут, камбінатар?!

**Моцкін** *(спакойна)*. Сцяпан Васільевіч...

**Каліберaў.** Дамахляваўся?!

**Моцкін** *(цвёрда)*. Сцяпан Васільевіч. Зараз патрэбна партыйная вытрымка. Нам не да сваркі. Юрыдычна ва ўсім вінаваты Гарошка. А Курбатаў — яго зяць. І ён змо жа справу загладзіць. У гэтым напрамку я ўжо тое-сёе прадпрыняў. Гэта, так сказаць,— ход канём. Са свайго боку мы павінны пераканаць Гарошку, каб ён сёння ж здаў гэтыя пяцьдзесят тон. Няхай нават з насенных участкаў. Вернем распіскі — і мы ў дамках. Людзі ёсць, а транспартам я забяспечу.

**Каліберaў.** Вось гэта па-дзелавому. *(Да Гарошкі.)* Ну што, натварыў, а цяпер у кусты? Старшыня! Які ты старшыня?! Баба, а не старшыня! Зараз жа ідзі і аб'яві, што ніякага сходу не будзе. Працаваць трэба, а не гаварыльняй забаўляцца. Няхай усе, хто прыйшоў на сход, зараз жа возьмуцца за перавозку збожжа на нарыхтоўчы пункт. Каб да раніцы разлічыўся поўнасцю, без усялякай

ліны! Ясна? А члены праўлення хай застануцца. Мы з імі абмяркуем, што ты за старшыня!

Уваходзіць Ганна.

Моцкін. Сцяпан Васільевіч, Гарошка тут ужо...

Каліберау *(перапыняючы яго)*. Памаўчы, камбінатар! *(Да Гарошкі.)* А ты што? Не чуеш? Ідзі распускай сход!

Вяртаюцца Марыя Кірылаўна і Наташа.

Ганна. Таварыш Каліберау! *(Здзіўлена.)* Распускаць сход? Тут справа сур'ёзная заварылася. Падман дзяржавы! Па зводках мы перадавікі, а на самой справе — і палавіны таго не здалі.

Марыя Кірылаўна. Ганначка, ну за што ж ты?..

Каліберау. Хто вам гэта сказаў?

Ганна. Самі даведаліся. *(Паказаўшы на Гарошку.)* Дый сам ён ужо не таіцца.

Каліберау. Ах, вось як! *(Да Гарошкі.)* Значыць, ты прызнаўся?

Гарошка *(безнадзейна)*. Хоць круць-верць, хоць верць-круць...

Каліберау *(не стрымаўшы злосці)*. Трапло! *(Стрымліваючы сябе.)* Махлюеш перад дзяржавай?!

Ганна. А вы хацелі сход адмяніць.

Каліберау *(рэзка)*. Не да сходаў нам цяпер. Трэба неадкладна ліквідаваць прарыў! Усе на хлебаздачу! Я не дапушчу ачкаўціразцельства!

Уваходзіць Гардзіюк.

Вы прыехалі якраз дарэчы. Я выкрыў тут абураючы выпадак ачкаўціразцельства. Злачынную махінацыю з квітанцыямі...

Моцкін. Хлеба здалі дваццаць сем тон, а квітанцый у іх на пяцьдзесят тон больш...

Каліберау *(да Гардзіюк)*. Вы не ведаеце, як цяжка працаваць з такімі кадрамі... *(Уздыхнуў.)* Вось паглядзіце на яго. Здаецца — цяля, ягнё. А ў душы ён — воўк, воўк у авечай шкуры. Як можна на яго спадзявацца?! Матаешся па раёне, выхоўваеш іх, вучыш, патрабуеш, начэй не спіш... Не хочацца ж быць горш за людзей. Нават калі дасягнеш нейкіх маленькіх, нязначных поспехаў, дык жа не! Знойдзецца вось такі — ён жа...

Моцкін. Лыжка дзёгцю ў бочцы мёду.

Каліберау. Я ўжо і не ведаю, што мне з ім рабіць?! Уявіце сябе на маім месцы. Што б вы мне параілі?

Г а р д з і ю к *(не хаваючы іроніі)*. Я разумею вас. На фоне агульных поспехаў і раптам — пляма.

М о ц к і н. Вось іменна — пляма.

К а л і б е р а ў. Я разумею, вы павінны быць аб'ектыўнай. Вы не можаце праійсці міма такога факта...

М о ц к і н. На фоне поспехаў, канешне...

Г а р д з і ю к. Ну што вы, што вы! Я разумею. Несумленны ўчынак аднаго не можа засланіць поспехі калектыву.

К а л і б е р а ў. Ясна! *(Наступаючы на Гарошку.)* Як вы асмеліліся, таварыш Гарошка?! Хацелі ашукаць савецкую ўладу?! Як вы дадумаліся?!

Г а р о ш к а *(трымціць)*. Ці ж гэта я дадумаўся, таварыш Каліберaў? Гэта ж Моцкін дадумаўся...

Г а р д з і ю к. Якая скромнасць!

М а р ы я К і р ы л а ў н а. Божа ж мой, божа!..

М о ц к і н. Таварыш Гарошка, не валіце з хворай галавы на здаровую. Такі нумар не пройдзе!

К а л і б е р а ў. З Моцкіным, калі ён вінаваты, мы потым разбяромся, там, дзе трэба. А зараз вы адказвайце!

М о ц к і н. Я што? Я распісак не пісаў. Я толькі атрымаў законныя квітанцыі, і ўсё. Гэта вы, таварыш Гарошка, захацелі стаць перадавіком.

Г а р о ш к а. Людзі добрыя! Што ж гэта робіцца? У вочы глядзіць і...

Уваходзіць К у р б а т а ў.

К а л і б е р а ў *(Гардзіюк)*. Увесь раён чэсна выконвае свае абавязацельствы перад дзяржавай, а гэты ачкаўціраццель кідае цень...

Г а р д з і ю к. Гэта, безумоўна, выключны выпадак?

К а л і б е р а ў. Але мы зробім усе неабходныя вывады.

К у р б а т а ў. На жаль, гэта не выключны выпадак, таварыш Каліберaў.

К а л і б е р а ў *(толькі цяпер заўважыў Курбатава)*. А-а, і ты тут? Гэта, чорт вазьмі, вельмі дарэчы.

К у р б а т а ў. Печкуроў сёння прызнаўся, што адзін яго прыяцель арганізаваў нешта падобнае яшчэ ў чатырох калгасах.

М о ц к і н. Цесця выручаеце, таварыш пракурор?

К у р б а т а ў. Праўду кажуць, што на злодзею шапка гарыць. Не выкручвайцеся, грамадзянін Моцкін. Не выйдзе. На спіртзаводзе я забраў гарантыйныя распіскі гэтых ашуканцаў.

Марыя Кірылаўна. А зяцёк ты мой, а галубок ты мой, а пашкадуй ты яго! А не губі ты яго! *(Таўчэ мужа кулакамі пад бок.)*

Гарошка. Мар'я! Цыц!

Марыя Кірылаўна. А пашкадуйце ж вы яго! Ці ж ён адзін тут вінаваты? *(Зноў штурхае Гарошку пад бакі.)*

Ганна. Так яму, Мар'я, так! Вучы сваім розумам жыць.

Наташа. Мама! Як не сорамна? *(Адводзіць маці ўбок.)*

Каліберау. Усё ясна! *(Курбатаву.)* Мы спадзяёмся, таварыш Курбатаў, што вы будзеце аб'ектыўнымі. *(Ганне.)* А калгас трэба зараз жа ачысціць ад гэтага махінатара.

Ганна. Тут дзяліць трэба пароўну: і гэты паганяльшчык *(на Моцкіна)* нечага варты. Нельга ж на аднаго Макара ўсе шышкі валіць.

Гарошка. І праўда, Ганначка. Памятаеце, таварыш Каліберау, як вы тады з Моцкіным прыехалі і на мяне націскалі?

Каліберау. Што значыць «націскаў»? Я патрабаваў выканання графіка. А ты што? Сам зрабіў злачынства, а цяпер вінаватага шукаеш? Прайдзісвет!

Гарошка *(яго цярпенне лопнула, ён узбунтаваўся).* Хоць круць-верць, хоць верць-круць!.. *(Кінуў шапку вобзем.)* Я не магу больш так працаваць! Вызваляйце мяне ад старшынства. Націскалі, Сцяпан Васільевіч! Яшчэ як націскалі! Рознымі фармуліроўкамі палохалі! А Ганну тады аблаялі — шкоднай тэндэнцыяй! А Моцкін тады прывёз дырэктара спіртзавода з гатовымі квітанцыямі, і мяне прымусілі распіску напісаць, каб хутчэй графік перавыканаць.

Каліберау. Першы раз чую! Таварыш Моцкін?!

Моцкін. Паклёп, Сцяпан Васільевіч, паклёп!

Курбатаў. Не, не паклёп!

Каліберау *(Моцкіну).* Значыць, і вам таксама нельга верыць? Таварыш Моцкін! Значыць, і вы — такі ж прайдзісвет? Як ты асмеліўся сваімі брудпымі рукамі паганіць святую справу — справу забеспячэння дзяржавы хлебам?! Як ты адважыўся супрацьстаўляць інтарэсы калгаснікаў дзяржаўным інтарэсам?

Ганна. Во-во! Для такіх вось дзяржава — адно, а калгас — другое.

Каліберaў. Ты хацеў пасварыць калгаснікаў з дзяржавай? З намі?

Ганна. Не дажыве ён да гэтага!

Моцкін *(не чакаўшы такога павароту)*. Сцяпан Васільевіч! І гэта вы?

Каліберaў. Ды вас за гэта пад суд мала аддаць! *(Курбатаву.)* Таварыш пракурор, афармляйце справу.

Моцкін. Таварыш Сцяпан Васільевіч! Выбачайце! Вы не першы раз чуеце. Я ж вам расказаў яшчэ да прыезду таварыш Гардзіюк пра махінацыі Гарошкі і Печкурова. Чаму ж вы гэта скрываеце? Вы таксама хацелі стаць перадавіком. Ух, як вы хацелі! І графік такі прыдумалі! Тады вы пра калгаснікаў не думалі, а цяпер — мяне к пракурору? Не я, а вы націскалі на старшынь калгасаў! Не я, а вы па радыё выступалі! А цяпер на стрэлачніках хочаце выехаць! А?

Ганна. Ды яны ж аднаго поля ягады!

Каліберaў *(да Гардзіюк з нахабнасцю незвычайнай)*. Вы раскусілі іх намер? Гэта — не што іншае, як дыверсія, палітычная авантура.

Гарошка *(ад здзіўлення рот разявіў)*. Зноў фармуліроўкі!..

Гардзіюк. Тут аднаго артыкула мала. Я, здаецца, натрапіла на вельмі цікавую сітуацыю для сатыры.

Каліберaў. Хіба гэта *(паказвае на Гарошку і Моцкіна)* тыпова для майго раёна? Хіба ў маім раёне няма добрых, сапраўдных, чэсных людзей? Сатыру? Хто дазволіць? Хто дапусціць?

Уваходзіць Міхальчук.

Міхальчук. Там сход чакае!..

Ганна. Таварыш Каліберaў! Пойдзем к народу! Ён разбярэцца.

Каліберaў. Што мне народ? Я сам разбяруся!

Міхальчук. І верна, што яму народ, плюе ён на народ.

Каліберaў. Што?

Міхальчук. Не плюй у калодзеж.

Убягае Лёня з радасная весткай.

Лёня. Прыехаў! Макар Сямёнавіч прыехаў! А з ім сакратар абкома.

Каліберaў. Ах, чорт! *(Схапіўся за бок і завыў так,*

*нібы ў яго ў пячонцы сапраўды камень, ды яшчэ і гарачы.)*

Моцкін *(са здзекам)*. У яго ж камень у пячонках! Булыжнік! *(Каліберaву.)* Кіньце дурня строіць! Няёмка. Тут жа людзі глядзяць!

Ганна. За пазухай у яго камень, а не ў пячонках.

Каліберaў. Якое вы маеце права?!

Ганна. Маем права! Выбачайце, калі ласка! Усё роўна перад народам і перад партыяй прыйдзецца адказваць!

Гарошка. І адкажуць! Не? Хоць...

Ганна. Хоць круць-верць, хоць верць-круць, адкажуць!

*Заслона.*

*1953*

# КАБ ЛЮДЗІ НЕ ЖУРЫЛІСЯ

**КАМЕДЫЯ Ў ЧАТЫРОХ ДЗЕЯХ,
ПЯЦІ КАРЦІНАХ**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Кавальчук Цімафей Ягоравіч.
Васіль — яго сын.
Самасееў.
Раман — удавец.
Юля — яго дачка.
Аксіння — удава.
Маланка — яе дачка.
Цярэшка — пажылы калгаснік.
Гудзееў.
Сенька-заіка.
Ліхтароў — бухгалтар калгаса.
Дабрыла — участковы міліцыянер.
Дзед.
Грачоў — брыгадзір.
Першы калгаснік.
Другі калгаснік.
Трэці калгаснік.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Ранняя вясна. Са стрэх звісаюць ледзяшы.
Двор удавы Аксінні.
А к с і н н я на дрывотніку сячэ дровы.
З хаты выходзіць К а в а л ь ч у к.

К а в а л ь ч у к. Даўненька я не сек дровы.

А к с і н н я. Можа, вам нязручна! Вы ж госць, дый не абы-які — начальства. *(Аддае яму сякеру.)*

К а в а л ь ч у к. Нічога. *(Сячэ дровы.)*

Да варот падыходзіць брыгадзір Г р а ч о ў.

Г р а ч о ў. Аксіння! Можа б, ты пайшла да свірна насенне чысціць!

А к с і н н я. Пайду, калі каня дасі па дровы з'ездзіць.

Г р а ч о ў. Старшыня забараніў перад пасяўной даваць коней па дровы.

А к с і н н я. Ну, дык хай сам чысціць!

А к с і н н я пайшла ў хату.
Па вуліцы, міма варот, ідуць абняўшыся т р ы п а д п і ў ш ы я к а л г а с н і к і. Сярод іх — С е н ь к а - з а і к а.

К а л г а с н і к і *(спяваюць)*:

Ой, расцвіла ружа, белы цвет.
Ой, расцвіла ружа, белы цвет.
Мела я мужа,
Ой, мужа я мела,
Мела я мужа — п'яніцу!

Спыняюцца каля варот, вітаюць брыгадзіра.

Г р а ч о ў. Што вы сабе думаеце, хлопцы! Пасяўная не за гарамі, а вы ў рабочы дзень казу водзіце па сяле.

С е н ь к а - з а і к а. А хто з нас к-ка-аза?

Г р а ч о ў. Дзе ваша сумленне!

Сенька-заіка. Ст-старшыні п-пазычылі. У яго рэвізія выявіла недастачу сумлення.

Грачоў. А ў вас лішкі? Значыць, не пойдзеце на работу.

Сенька-заіка *(сур'ёзна)*. Не, не можам.

Грачоў. Чаму?

Сенька-заіка. Сёння знамянальная дата. Першае апрэля адна тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят пятага года! Падманны дзень.

Грачоў. Ты не блазнуй!

Першы калгаснік. Старшыня збудаваў хату за наш кошт, за калгасны, а прадае і грошы ў кішэню. Сабе!

Сенька-заіка. О-о! Падманны дзень! Баімся празяваць.

Грачоў. Што?

Сенька-заіка. М-ма-агарыч! Нам бы хоць м-магарыч дастаўся. А то і гэта скруціць. Ён такі. Пайшлі, хлопцы! *(Заспяваў.)*

> У гародзе — вось бяда,
> Самасеем лебяда.
> Вырасла і сокі п'е.
> Прапалоць бы нам яе.

Сенька-заіка і яго сябры пайшлі далей.

Грачоў *(да Кавальчука)*. Чулі?

Кавальчук. Чуў. Сур'ёзныя хлопцы.

Грачоў *(здзівіўся)*. Якая ж тут сур'ёзнасць? Гэта ж поўны разлад у калгасе!

Кавальчук. А вы што зрабілі? Вы ж сакратар партарганізацыі.

Грачоў. Хадзілі ў райком цэлай дэлегацыяй, гутарылі з новым сакратаром, абяцалі прыняць меры. Вось чакаем...

Кавальчук. Да-а... Усё чакаеце, пакуль зверху прыедуць парадак наводзіць?.. А калі самі возьмецеся? Ты ж камуніст? А што такое камуніст?

Грачоў. Рэвалюцыянер! Змагар, актыўны баец!

Кавальчук. Ты кругом сябе паглядзі! Па ўсёй краіне ўздым які, энтузіязм. А ты — «сядзім, чакаем».

Грачоў. Тут старшыню мяняць трэба.

Кавальчук. Мяняйце.

Грачоў. Без райкома?

Кавальчук. З райкомам! Толькі ж і самім трэба варушыцца, а не сядзець склаўшы рукі. Ты ж павінен быць

апорай для райкома. А дзе ваша ініцыятыва? Дзе ваша партыйная прынцыповасць? Бальшавіцкая настойлівасць? Га?

Грачоў. Таварыш Кавальчук, дапамажыце нам. Вы ўсё-такі на высокай пасадзе ў Мінску.

Кавальчук. Ідзіце і самі званіце ў райком. Самі дабівайцеся. А потым і я пазваню.

Грачоў пастаяў, а потым рашуча рушыў да праўлення. Кавальчук зноў узяўся за сякеру.
Да варот падыходзіць дзед.

Дзед. Памагай бог!

Кавальчук. Дзякую, дзед! На бога спадзявайся, а сам...

Дзед. Стары я. Без сыноў застаўся. На вайне галовы паклалі. А жыць прыходзіцца. А як жыць?

Кавальчук. А што такое?

Дзед. Сядай. Сыноў маіх помніш?

Кавальчук. Як жа! І Васіля помню, і Хвёдара, і Паўла, і Грышку.

Дзед. Ну от. Кажуць, што ты цяпер начальнік вялікі...

Кавальчук. Ды як вам сказаць...

Дзед. Чуў... Людзі гаварылі. Дык от, можа б, ты старшыні нашаму сказаў. Хай бы памог. Хата мая ўжо... Ды якая там хата!.. У вайну згарэла, дык я ў лазні акно прарубіў ды пячурку склаў. Жыў трохі, а цяпер... Сам ведаеш — старому цяпло трэба. Я яшчэ сяк-так, а старая ўжо... мерзне. Шкада яе.

Кавальчук. Колькі табе гадоў, дзед?

Дзед. А во на Пятра будзе семдзесят шэсць. Я дык прывык. Каторы год вартаўніком — прывык. А яна... старая ўжо...

Кавальчук. Добра, дзед, пагавару.

Дзед. Можа, цябе паслухае... Прасіў, каторыя з раёна прыязджалі, не слухае ён іх. Ну, дзякую. Дык я пайду. Старая адна там... Занядужала. *(Адышоўся крышку.)* І Паўла помніш? Харошы хлопец быў... *(Уздыхнуў.)* І жаніцца не паспеў...

Дзед пайшоў.
Прыбягае Маланка.

Маланка. Цімафей Ягоравіч? З райкома звоняць. Вас просяць.

Кавальчук. Хто звоніць?

Маланка. Сам сакратар.

Кавальчук. Ну, калі сам, дык я бягом...

Кавальчук не спяшаючыся паклаў сякеру і паволі пайшоў у кантору.
На вуліцы паказалася Юля.

Юля. Маланка! *(Паказвае паўлітра, пакручваючы ў руцэ.)* Глядзі! *(Пстрыкнула сабе па горле.)*

Маланка. Што гэта?

Юля. Даведка.

Маланка. Якая даведка?

Юля. Што мяне адпускаюць з калгаса.

Маланка. Выпрасіла ўсё-такі ў старшыні?

Юля. Бацька ўгаварыў. Старшыня спачатку муліўся, а потым кажа, што пячатка ў яго сухая. От спрыснем зараз і... *(Стукнула паўлітэркай па далоні, нібы пячатку паставіла.)*

Са сваёй хаты выходзіць Раман.

Раман. Юлька! Марш дадому!

Юля наслухмяна пайшла дахаты.
З хаты выходзіць Аксіння па дровы.

Маланка. Юльку Раманаву адпускаюць з калгаса...

Аксіння. Ну дык што?

Маланка *(з папрокам)*. І мы маглі б так зрабіць.

Аксіння. Як?

Маланка. Падсунулі б паўлітра, выжлукціў бы і адпусціў.

Аксіння. А смалы ён не хацеў?

Маланка. Ну і тут я сядзець не буду! Не хочаш дабром — кіну ўсё і паеду ў горад.

Маланка крута павярнулася і пайшла са двара.
Аксіння бярэ сякеру і пачынае секчы дровы.
К варотам падышоў Самасееў. Па ўсяму відаць, ён добра падпіў.

Самасееў. Аксіння!

Аксіння. Га!

Самасееў. «Га»... Падыдзі-тка сюды. *(Кіўком пальца падзывае яе да варот.)* Што гэта ў цябе за гусь такі?

Аксіння *(азірнулася)*. Дзе? Які гусь?

Самасееў. Не прытварайся! У каракулях ходзіць. Што гэта за персона?

Аксіння. А-а, гэта прымак. А ты думаў, старшыня, што я і звякую ўдавой?

Самасееў. Ну ты мяне не абувай у лапці. Хто ён?

Аксіння *(гулліва)*. Няўжо прыраўнаваў, старшыня? Га? У цябе ж свая жонка, дзеці дарослыя.

Самасееў. Ну вось што, скажаш яму, каб зайшоў у праўленне, там пагавару.

Аксіння *(памяркоўна)*. Ты сёння, старшыня, на ўзводзе, падпіўшы. А можа, ён якое начальства, можа, у камандзіроўку прыехаў...

Самасееў *(рашуча)*. Калі ў камандзіроўку, дык хай з'явіцца куды трэба і па ўсёй форме: так і так, прыбыў і — камандзіроўку на стол. А то каторы дзень ходзіць, выпытвае, вынюхвае, як рэвізор які.

Аксіння. А няўжо ты рэвізораў баішся?

Самасееў *(прапусціў міма вушэй)*. Нечага мне тут людзей баламуціць! Можа, ён цёмная фігура, амнісціраваны які-небудзь.

Аксіння. Што ты гаворыш, старшыня? Яго тут бадай усе ведаюць, свой чалавек. Гэта ж ён наш калгас арганізаваў і першым старшынёй быў. Дваццаціпяцітысячнікам яго прыслалі тады. А ты кажаш — амнісціраваны. Яшчэ з маім мужыком дружыў... Вось і прыехаў пагасцяваць, паглядзець, як мы тут жывём.

Самасееў. Пагасцяваць? Дык хай п'е самагонку і — на ўсе чатыры! А то правяральшчыкі...

Аксіння. Можа, цяпер у яго пасада такая...

Самасееў. Якая?

Аксіння. Кантроль, можа. Вось ён і ходзіць па калгасе, з людзьмі гамоніць, а потым увесь вечар сядзіць ды піша.

Самасееў *(перадражнівае)*. «Пі-іша...» *(Насцярожыўся.)* Піша, кажаш?

Аксіння. Піша і піша. І кожны дзень адсылае ў Мінск во такія пакеты.

Самасееў. Гм... А што піша? Не пытала?

Аксіння. А хто яго ведае. Можа, тое, што ў людзей выпытвае.

Самасееў. Гм... І ў цябе выпытваў што?

Аксіння. Пытаў пра тое-сёе...

Самасееў. Ну?

Аксіння *(па сакрэту)*. Пра карову, колькі малака дае, чым кармлю...

Самасееў *(аж разззлаваўся)*. Напляваць мне на тваю карову.

Аксіння *(як бы не здагадалася)*. І пра цябе пытаў.

Самасееў. Ну-ну?.. Ну-ну!..

А к с і н н я *(набіраючы ў фартух палак)*. Лішняга нічога не сказала.

С а м а с е е ў *(адбірае з рук палкі і кідае)*. А-ат!.. Пра што пытаў, што сказала?

А к с і н н я. Пахваліла я цябе, старшыня. За што трэба і за што не трэба хваліла.

С а м а с е е ў *(не дае веры)*. Ой, брэшаш...

А к с і н н я. Каб я з гэтага месца не сышла.

С а м а с е е ў. Ну-ну!

Самасееў цягне Аксінню за руку да завалінкі. Сеў. Аксіння абтрусіла рукамі фартух і таксама прысела каля Самасеева. Склала рукі на грудзях і задумалася, схіліўшы галаву набок.

А к с і н н я *(гаворыць павольна, расцягваючы словы, нібы казкі бае)*. А расказала я яму вось што... Такога старшыні, як у нас, нідзе не было, няма і ніколі не будзе. Свет абыдзі, а такога не знойдзеш...

С а м а с е е ў *(насцярожыўся)*. Ну-ну! Ты!

А к с і н н я *(не зважаючы)*. Такі ён гаспадарлівы і паваротлівы, такі рабацяшчы і руплівы, што ні ў казцы расказаць, ні пяром апісаць...

С а м а с е е ў. Ну, ты ўжо занадта... Але здорава! Ну-ну!..

А к с і н н я *(зноў бае)*. А як жа любіць, шануе і беражэ калгаснае дабро! Як сваё! Нават больш! Нават не разбярэш — дзе ў яго сваё, а дзе калгаснае...

С а м а с е е ў. Як, як ты сказала?

А к с і н н я *(не зважаючы)*. І чэсны. Чэ-эсны! Тут ужо нічога не скажаш. Калі, крый божа, заўважыць, што калгаснае дзе-небудзь дрэнна ляжыць — міма не пройдзе! Не-е! І вінаватага потым знойдзе. А калі знойдзе, то ўжо не даруе...

С а м а с е е ў *(згаджаецца)*. Вінаватаму дам! Не дарую!.. Ну-ну, яшчэ...

А к с і н н я. А які добры, які справядлівы наш Самасееў, ні старога, ні малога не пакрыўдзіць. Яго толькі на выстаўку вазіць ды людзям паказваць.

С а м а с е е ў *(расчулена)*. Ты так пра мяне расказваеш, што я сам сябе не пазнаю.

А к с і н н я. Праўда, куды ўжо яго, беднага, ні вазілі... З калгаса ў калгас... Перакідваюць і перакідваюць, як тую печаную гарачую бульбіну — з рукі ў руку.

С а м а с е е ў. Што павазілі ўжо, дык павазілі... Абрыдла. У вас я ўжо ў шостым калгасе за восем гадоў.

Аксіння. Даўно ўжо трэба было б пасадзіць яго...
Самасееў *(насцярожыўся)*. За што?
Аксіння. ...як заслужанага чалавека на якую-небудзь спакойную пасаду.
Самасееў. Табе, Аксіння, толькі ў аддзеле кадраў працаваць. Міністэрская ў цябе галава!
Аксіння. А як ён шануе сваё раённае начальства! Праўда, і яго той-сёй з начальства любіць і паважае...
Самасееў. А як жа... Любіць, пакуль я старшыня. То воз дроў, то воз сена... Сядзіць гэты «той-сёй» на мізэрнай зарплаце, а дзяцей — у другім магазіне лялек меней...
Аксіння. Глядзіш — вясной мяшэчак бульбы просіць...
Самасееў. Ты і гэта яму сказала?
Аксіння. Я сказала: добры наш старшыня, не скупы, спагадлівы. Хоць сам не ўдавец, але ўдоў не забывае, не абыходзіць ласкай.
Самасееў. Без намёкаў сказала?
Аксіння. Без намёкаў.
Самасееў *(падабрэў)*. Слухай, Аксіння, ты, здаецца, аднойчы прасіла каня па дровы з'ездзіць?
Аксіння. Разоў пяць прасіла.
Самасееў. Заўтра дам.
Аксіння. Дзякую.
Самасееў. Усё?
Аксіння. Усё.
Самасееў. А пра чарку не казала?
Аксіння. Я сказала — гарэлкі ані ў рот!
Самасееў. Зусім?
Аксіння. Ні кропелькі!
Самасееў. Перагнула. Часам — у свята... альбо з гора...
Аксіння *(катэгарычна)*. Ні кропелькі!
Самасееў. Ну, а ён што?
Аксіння. Паверыў.
Самасееў. Брэшаш. Я не паверыў бы.
Аксіння. Ты і цяпер мне не вервш?
Самасееў. Не веру.
Аксіння. А ён паверыў.
Самасееў. Паверыў? Ох і хітрая ж ты, Аксіння! Не баба, а чорт у спадніцы. *(Ушчыпнуў яе за бок.)* Не баба, а сяледчык з цыбулькай. *(Намерыўся абняць яе.)*

**Аксіння** *(адштурхнула яго, паднялася)*. А ты хто? Парася з хрэнам?

**Самасееў** *(бяскрыўдна)*. А чаго ты пакрыўдзілася? Што такое селядзец з цыбуляй? *(З павагай.)* Першакласная закуска. *(Зноў спрабуе абняць.)*

Аксіння адбіваецца.
Да варот падыходзяць **Цярэшка** і **Раман**.
**Аксіння** пайшла ў хату.

**Раман**. Дык хто ў нас за гаспадара, старшыня? Ты ці ён?

**Самасееў**. А што? Хто сумняваецца?

**Раман**. От ён. Ты загадаў накласці воз сена ў раён, а ён не дае.

**Цярэшка**. Сваёй жывёле кармоў не хапае, а воз сена чорту лысаму!

**Самасееў**. Не крычы! Трэба!

**Цярэшка**. Каму трэба?

**Самасееў**. Не твая справа! Я ведаю.

**Цярэшка**. А я не ведаю.

**Самасееў**. Не ведаеш, дык маўчы.

**Цярэшка**. Тады знімай мяне з фермы! Няма чаго мне там рабіць!

**Самасееў**. Не гарачыся і не крычы! Гудзееву сена.

**Цярэшка**. Падумаеш — шышка!

**Самасееў**. Сказана — дурны мужык, як варона. Яму шышка трэба! Па-твойму, Гудзееў — не шышка? А хто тады шышка? Сядай. Што такое ёсць Гудзееў? Райплан! А райплан, брат, о-го-го, яшчэ якая шышка! Хто калгасам планы даводзіць? Райплан! А што такое план? Закон! Значыць, райплан — закон! А закон паважаць трэба. Ты гаворыш, што Гудзееў не шышка? От нам трэба лесаматэрыялы для фермы. А ён можа запланаваць нам лесу сто кубоў і можа трыста кубоў. Розніцу бачыш? Цяпер патраціш сена воз, дык потым на другім выгадаеш.

**Раман** *(Цярэшку)*. Цыган ведае, што кабыле рабіць.

**Самасееў**. Кабыле... Што кабыле? А-а, да-да, вот!

**Цярэшка** *(здаўся)*. Ат, цягніце, валачыце! *(Адышоў убок, прысеў, закурыў.)*

**Самасееў** *(Раману)*. Ідзі і вязі. За прывозку Гудзееў табе заплаціць.

**Самасееў** выходзіць.
Раман падышоў да свайго акна, пастукаў.
З хаты хуценька выбегла **Юля**.

Раман. Юлька! Глядзі, прыйдзе Колька са школы, дык ты сачы за ім. На рэчку не пускай — прастудзіцца. Цяпер пара такая. Глядзі ж. За ім вока патрэбна!

Юля. А ты куды паедзеш?

Раман. У раён паеду.

Раман пайшоў.
Цярэшка згарнуў цыгарку, паляпаў па кішэнях, але запалак не знайшоў.

Цярэшка. Ну і дзе тут праўда? Паслухаеш яго — праўду ён, шэльма, гаворыць. А падумаеш — о-ох, непарадак... *(Уздыхнуў.)* Не-е, калі ў хаце няма ката, дык мышы і па стале гойсаюць. *(Прысеў, задумаўся.)*

Чуваць, як недзе сумна спяваюць падпіўшыя Сенька-заіка і яго сябры.
Падыходзіць Кавальчук. За руку вітаецца з Цярэшкам.

Кавальчук. А-а-а, Церах! Чаму галаву павесіў? З чаго так зажурыўся?

Цярэшка. Так, зажурыўся. А ці толькі я? А яны *(у бок песні)*, думаеш, ад весялосці запелі?

Кавальчук і Цярэшка прыслухаліся.

Ну, налюбаваўся нашым калгасам?

Кавальчук. Налюбаваўся.

Цярэшка. Ну і што далей будзе?

Кавальчук. Я ў цябе хацеў пра гэта запытаць.

Цярэшка. Ты ж начальства, табе павінна быць відней.

Кавальчук. А табе нічога не відно?

Цярэшка. Як не відно? Відно-о! Куды ні кінь, дык клін.

Кавальчук. А хто вінаваты?

Цярэшка. Праўду будзеш слухаць?

Кавальчук. Давай праўду.

Цярэшка. Ты!

Кавальчук *(здзівіўся)*. Я?

Цярэшка. Бяры грэх на сваю душу, Цімафей.

Кавальчук. Які грэх?

Цярэшка. Сядай. Аганёк ёсць?

Кавальчук. Ёсць.

Кавальчук выняў з кішэні пачак папярос «Казбек» і прапанаваў Цярэшку.

Цярэшка. «Казбек»? Я лепей свайго самасаду.

Кавальчук. Думаеш, мае горшыя?

Ц я р э ш к а. К лепшаму лёгка прывыкаць, адвыкаць нялёгка.

К а в а л ь ч у к. А навошта адвыкаць?

Ц я р э ш к а. Тады прыйдзецца кінуць калгас і падавацца ў горад. Следам за табой.

К а в а л ь ч у к. Вунь яно што... *(Чыркае запалкамі, але яны не загараюцца.)* Адсырэлі запалкі... Ну-ну, я слухаю. Калі ж я правініўся?

Ц я р э ш к а. Калі? Помніш трыццаты год? Зімой ты прыехаў да нас. Прыслалі цябе з горада дваццаціпяцітысячнікам. Помніш?

К а в а л ь ч у к. Помню.

Ц я р э ш к а. Са станцыі я цябе прывёз. Ты вушы ледзь не адмарозіў. Снегам адціралі... Помніш?

К а в а л ь ч у к. Помню.

Ц я р э ш к а. «Помню»... А помніш, што ты гаварыў тады? Новае, небывалае ты прывёз тады ў наша сяло. А я табе адразу паверыў. І я першы заяву прынёс.

К а в а л ь ч у к. Помню, Церах, помню...

Ц я р э ш к а. Для тых, каторыя бяднейшыя, ты сваім чалавекам быў. Кругом бедната была, землі нікчэмныя... Ад беднасці мы пахаваліся ў калгас. У нас і ладзіцца пачало з першага дня. Па-людску жыць пачыналі... Колькі ты ў нас, гады тры прабыў?

К а в а л ь ч у к. Тры з хвосцікам.

Ц я р э ш к а. Вялікую справу ты пачаў, а да канца не давёў. Сабраў нас, аднаасобнікаў, у адну кучу, ласкуты нашы сцягнуў на жывую нітку, а вузялкі забыўся завязаць. Не паспеў. Паехаў. А што ж гэта за шытво без вузялкоў? Абы што-якое — нітка і вылазіць — вось табе і прарэха.

К а в а л ь ч у к. Лоўка ты тлумачыш, разумна.

Ц я р э ш к а. А то не?

К а в а л ь ч у к. Я ж кажу, вельмі разумна развражаеш.

Ц я р э ш к а. От я сказаў, што адразу напісаў заяву і за табой пайшоў. А ці ведаеш ты, як я ішоў за табой? Задам наперад ішоў. Ты не смейся. Чэсна скажу — задам наперад. Ішоў за табой, а сам назад азіраўся: ці выгадаў я, ці не прагадаў. І не толькі я. Вось яно як. Што, не?

К а в а л ь ч у к. Чаму не? Правільна. Толькі я не разумею, чаму ты на мяне віну валіш? Чаму я вінаваты?

Ц я р э ш к а. А хто?

К а в а л ь ч у к. А ты.

Ц я р э ш к а. А што я?

Кавальчук. Дык, можа, ты і цяпер яшчэ задам наперад ідзеш, вінаватага шукаючы?

Цярэшка маўчыць.

А вінаваты ты сам! У тваім жа калгасе непаладкі, на сваёй жа спіне адчуваеш іх. А што ты зрабіў, каб іх не было? Ты ж гаспадар! Гэта ж тваё тут усё!

Цярэшка *(аж уздыхнуў)*. Эх-ха-ха!.. Які я к чорту гаспадар?.. От мяне паставілі на ферму загадчыкам. А я там не гаспадар. Не! Кармоў мала, не хопіць да травы, а старшыня загадаў накласці воз сена і завезці ў раён Гудзееву. Знюхаліся яны з Самасеевым, вось ён тут і пасвіцца. Я хацеў не даць, дык дзе там! Загадаў — і павезлі!

Кавальчук. А ты б не даў. Ці, можа, баішся схапіцца з ім за чубы?

Цярэшка. Як хочаш, так і разумей, толькі навучаныя. Думаеш, не спрабаваў? Спрабаваў. Было.

Кавальчук. Ты камуніст?

Цярэшка. Член партыі.

Кавальчук. Калі ў партыю ўступіў?

Цярэшка. Пад Сталінградам.

Кавальчук. Тады не шкадаваў свайго чуба?

Цярэшка. Дык то ж вайна была і перад табою праціўнік быў, вораг. Адным словам, мішэнь відаць была, бі ў лоб, і праўда твая. А тут, брат, чорт яго ведае, паспрабуй разабрацца: прыяцель Самасееў альбо непрыяцель. Даўбанеш яго, а табе скажуць: свайго глушануў.

Кавальчук. Цяпер ясна. Бачу, што ты сапраўды заблытаўся. Па рабоце яго трэба судзіць — прыяцель ён альбо непрыяцель.

Цярэшка. Калі па рабоце — дык гнаць яго трэба!

Кавальчук. Ну і гапіце ў шыю!

Цярэшка. Праганялі, і не аднаго ўжо. Прагоніш аднаго, дык другі трапляецца... Яшчэ лепшы.

Кавальчук. Вы, як неразборлівая нявеста, бераце, што трапіцца. А вы і такога «лепшага» не прымайце.

Цярэшка *(аж засмяяўся)*. Не прымайце... Ай-яй-яй... Цімафей, Цімафей... Чыркаем мы адзін другога словамі, як тымі запалкамі, а іскры не выходзіць, аганьку няма... Адсырэлі нашы запалкі. *(Махнуў рукой і пайшоў.)*

Цярэшка выходзіць.
З хаты паказваецца Аксіння.

Аксіння. А вас тут старшыня шукаў.

Кавальчук. Самасееў?

Аксіння. Самасееў. Усё выпытваў — хто, адкуль, чаго. Гусь, кажа.

Кавальчук. Я — гусь? Цікава.

Аксіння. Вы яму задайце перцу. Недарма выпытваў — ці не рэвізор,— баіцца нечага. Ведае, кот, чыё сала ўкраў.

Кавальчук. Думаеш, ён краў з калгаса?

Аксіння. Ого! Каб яму столькі балячак, колькі ён дабра перацягаў з калгаса. А колькі прапіў, дык і сам таго не варты. Вунь ён сунецца.

Падыходзіць Самасееў.

Самасееў. Дзень добры!

Кавальчук. Дзень добры.

Аксіння. Вось і пазнаёмцеся. А то выпытваюць адзін пра аднаго. Гэта — наш старшыня, а гэта — той самы гусь амнісціраваны, пра якога ты пытаўся.

Самасеева аж перасмыкнула ад такіх слоў, ён сярдзіта зыркнуў на Аксіню.

Ну, чаго ты набычыўся? Ты ж сам так гаварыў.

Аксіння пайшла ў хату.

Самасееў. Ну і трапло ты, Аксіння! *(Падае руку Кавальчуку.)* Самасееў.

Кавальчук. Кавальчук.

Самасееў. От народ...

Кавальчук. Да-а, народ... Як секане словам, так знак і астаецца. Тут мне адзін такую зарубку па памяць пакінуў — не скора забудзеш.

Самасееў. Хто? Церах? Ён можа. Ну, я яму мазгі ўпраўлю. Я навучу, з кім і як гаварыць! Ніякай павагі ў іх няма. Не разбярэ — каму можна, а каму не...

Кавальчук. О, не-е, народ ведае, каму і што сказаць.

Самасееў *(разганяючы каля рота пах перагару).* Дык вы, значыцца, з цэнтра?

Кавальчук. З Мінска.

Самасееў. Мімаходам ці спецыяльна?

Кавальчук. Спецыяльна.

Самасееў. Відаць, важная справа была?

Кавальчук. Вельмі важная.

Самасееў. Так... Толькі ў маім калгасе ці ў раёне?

Кавальчук. Не, у калгасе.

Самасееў. Так. Дык што ж вы да мяне не зайшлі?

Кавальчук. Пакуль што не было пільнай патрэбы. Цікава было з людзьмі пагаманіць.

З хаты выходзіць Аксіння з ручніком і конаўкай вады.

Аксіння. Цімафей Ягоравіч, можа, паснедалі б? Ужо час. Бульба акалела.

Самасееў. Дык вы яшчэ не снедалі?

Кавальчук. Не прывык рана. *(Аксінні.)* Дзякуй, дзякуй, я сам. *(Бярэ конаўку, адыходзіць і мые рукі.)*

Самасееў *(кіўком пальца падзывае Аксінню і амаль шэпча)*. Слухай, Аксіння... *(Вымае з кішэні грошы.)* Можа б, ты забегла ў краму... *(Ківае ў бок Кавальчука.)* Паўлітэрку... Толькі не баўся. Раз, два — і тут.

Аксіння *(голасна)*. Дык ён не п'е. Зусім не п'е.

Самасееў *(азіраючыся)*. Цс-с... Як, зусім?

Аксіння. Ні ў рот. Спрабавала паднесці, дык куды там — аж паморшчыўся. І духу не пераносіць.

Самасееў зноў махае рукой перад ротам.

Крэмень, скала, сталь, а не чалавек. Гарэлка — гэта ж такая спакуса — святы не ўстаіць, а ён у той бок і глядзець не хоча.

Кавальчук *(падыходзячы)*. Пра якіх святых тут размова?

Аксіння. Ды мы тут пра вас. Старшыня дае грошы, каб я за паўлітэркай схадзіла для вас, а я кажу — і ў рот не бярэ.

Кавальчук. А чаго не бяру — таго не бяру.

Аксіння пайшла ў хату.

Самасееў *(Кавальчуку, нявесела)*. Дык вы, значыцца, правяралі?

Кавальчук. Прыглядаўся.

Самасееў. Ну і што?

Кавальчук. Чэсна сказаць? Дрэнь вашы справы.

Самасееў *(няўпэўнена)*. Відаць, нагаворы, паклёп...

Кавальчук. Трэба разабрацца.

Самасееў. Во-во-во!.. Іменна разабрацца! Тут жа такія людзі, што... За тры гады чатырох старшынь з'елі.

Кавальчук. З'елі?

Самасееў. З'елі! І гузікі выплюнулі.

Кавальчук. Чатырох?

Самасееў. Я — пяты.

Кавальчук. Ну і апетыты!

Самасееў. З гэтага калгаса анекдот пайшоў: старшыня тут адчувае сябе ўсё роўна як бульба.

Кавальчук. Бульба?

Самасееў. Калі за зіму не з'ядуць, дык вясной пасадзяць.

Кавальчук *(смяецца)*. Забаўна. Зіма скончылася, ужо вясна на двары, а вас жа не з'елі?

Самасееў. Ну вот...

Кавальчук *(смеючыся)*. Думаеце — пасадзяць?

Самасееў. Вам весела, а ў мяне сям'я.

З хаты выйшла Аксіння.

Кавальчук. А тых чатырох старшынь, што да вас працавалі, таксама пасадзілі?

Самасееў. Аднаго пасадзілі, а трое ледзь вышкрабліся.

Аксіння. А шкада.

Самасееў. Ох, і злая ж ты баба!

Аксіння. Як жа тут злой не будзеш? Паглядзіш кругом — усе суседзі як людзі жывуць. А ў нашым калгасе? Робіш, робіш, а яно як у дзіравы мех... Ай, што з вамі!.. *(Кавальчуку.)* Дык вы пойдзеце снедаць ці вас дубцом падганяць?

Кавальчук. Іду, іду.

Самасееў. Ніякай у цябе павагі да чалавека, Аксіння. Ніякай далікатнасці. У людзях не разбіраешся. Сказана — цемната.

Аксіння. Гэта ў вас хай паджылкі трасуцца, для вас ён начальнік, а мне проста госць, свой чалавек.

Аксіння і Кавальчук пайшлі ў хату.

Самасееў *(правёўшы іх вачыма)*. Цвёрды арэшак. Не адразу раскусіш...

Да Самасеева падыходзіць па-гарадскому апрануты малады чалавек з невялічкім чамаданчыкам. Гэта — Васіль.

Васіль. Выбачайце, вы не скажаце, дзе я магу ўбачыць старшыню калгаса?

Самасееў. Я старшыня калгаса.

Васіль *(здзівіўся)*. Вы? Вось гэтага калгаса?

Самасееў. Калгаса «Вольная праца».

Васіль. Дзіўна. Вельмі дзіўна. Скажыце, вы стары ці ўжо новы старшыня?

Самасееў. Стары. А што такое?

Васіль. Вы Самасееў?

С а м а с е е ў. Самасееў. А ў чым справа?

В а с і л ь. Справа ў тым, што... я спадзяваўся, што вас тут ужо няма.

С а м а с е е ў. Як няма?

В а с і л ь *(нібы сам сабе)*. Нічога не разумею...

С а м а с е е ў. Скажыце, а вы адкуль будзеце?

В а с і л ь. Я з Мінска. А Кавальчук тут яшчэ?

С а м а с е е ў. Тут.

В а с і л ь. Вы не скажаце, дзе я магу ўбачыць яго.

С а м а с е е ў. Там, у гэтым доме.

В а с і л ь. Дзякую.

В а с і л ь накіраваўся ў Аксінніну хату.
Самасееў стаіць як аглушаны. Ён страсянуў галавой, нібы праганяючы кашмарны сон. Хмель выскачыў з галавы. Падыходзіць участковы міліцыянер Д а б р ы л а.

Д а б р ы л а *(басам)*. Таварыш Самасееў!

С а м а с е е ў *(азірнуўся і зусім збянтэжыўся)*. Я... Я слухаю...

Д а б р ы л а. Цяпер ты ад мяне не выкруцішся.

С а м а с е е ў. Я ўжо і не думаю выкручвацца.

Д а б р ы л а. Форменнае душагубства, і па тваёй віне.

С а м а с е е ў. Яшчэ чаго не хапала! Якое душагубства?

Д а б р ы л а. На мосціку цераз Балачанку.

С а м а с е е ў. А што такое там на мосціку?

Д а б р ы л а. Не на мосціку, а пад мосцікам ужо. Топіцца раённае начальства — райплан Гудзееў. Збірай людзей! А то засмокча балота — адказваць будзеш. Я ледзь выбраўся з «Масквіча», а ён там сядзіць.

С а м а с е е ў *(крычыць)*. А чаго вы ехалі сюдою?! Не бачыш: вясна на двары! У аб'езд трэба было!

Д а б р ы л а. Спакойна, грамадзянін Самасееў. Ездзіць у аб'езд не ў яго характары. Табе гэта вядома.

С а м а с е е ў. Ні аднаго разу яго не сустракалі проста, кожны раз са звонам.

Самасееў б'е па рэйцы, якая вісіць каля Раманавай хаты.

*(Крычыць, склікае людзей.)* Эй, Сцяпан, Іван! Цярэшка! Раман! Сюды! Хутчэй! Давай, давай сюды!

З хаты выходзіць Р а м а н.
Збягаюцца к а л г а с н і к і.

Г а л а с ы. Што такое?!
Пажар?!
Што здарылася?!

Самасееў. Бярыце сякеры, рыдлёўкі і хутчэй к мосціку цераз Балачанку.

Галасы. Якому мосціку?

Там жа мосціка няма!

Самасееў. Якраз туды, дзе няма мосціка!

Галасы. А што такое?

Гарыць?

Нічога не гарыць.

Дабрыла. Спакойна! Спакойна! *(Свірчыць у свісток.)*

Самасееў. Машына топіцца! Легкавая райплана!

На гэты шум з хаты выйшлі Аксіння, Кавальчук і Васіль.

Дабрыла. Грамадзяне, грамадзяне, не затрымлівайцеся!

Самасееў. Хвёдар, захапі вяроўку! Грачоў! Скажы, каб хто-небудзь пару валоў запрог!

Грачоў. Навошта?

Самасееў. Машыну выцягваць. Хутчэй! Хутчэй!

Сабраўшы цэлую брыгаду, Самасееў рушыў ратаваць машыну. Следам за ім пайшлі калгаснікі — хто з сякерай, хто з рыдлёўкай, а нехта з вяроўкай.

Аксіння. Пайшлі ў хату. Без нас выцягнуць.

Кавальчук *(сыну)*. Значыць, з інстытутам справа к канцу ідзе? Толькі дзяржаўныя экзамены?

Васіль. І дыпломная праца. «Паточна-вузлавы метад рамонту трактараў».

Кавальчук. А потым?

Васіль. А потым сюды *(шырокі жэст)* сціраць грань паміж горадам і вёскай.

Кавальчук. Справа сур'ёзная.

Аксіння. Пайшлі, пайшлі ў хату. Снеданне на стале астыне.

Кавальчук і Васіль заходзяць у хату.

Раман. Аксіння! *(Аксіння затрымалася.)*

Аксіння. Што, Раман?

Раман. А гэты малады — хто гэта?

Аксіння. Сын яго.

Раман. Ці не думае ён у цябе назаўсёды пасяліцца, што і сына вытрабаваў?

Аксіння. Не выдумляй чаго не трэба.

Раман. Глядзі, Аксіння! А то вельмі ўжо ветлівая ты з ім.

Аксіння. Мне не верыш?

Раман. Табе веру, ды яму не давяраю, Ксеня! Калі я ўжо дачакаюся?

Аксіння. Паспееш.

Раман. Мне за сорак пераваліла, і ты не васемнаццатка, Ксеня. Марна час трацім. Каб не каялася потым.

Аксіння. Таму я і не спяшаюся, каб потым не каяцца.

Раман. Навошта ад людзей таіцца? Давай законна распішамся — і пераходзь у маю хату.

Аксіння. Рома, ці я супраць. *(Падумала.)* I ў цябе дачка і ў мяне — нявесты. Трэба з імі пагаварыць, яны ж нічога не ведаюць.

Раман. Здагадваюцца.

Аксіння. А пагаварыць трэба. *(Заспяшалася.)* Ой, я пайду, а то гасцей пакінула адных...

Аксіння пайшла ў хату.
Раман выходзіць.
Паказаліся дзяўчаты — Юля з Маланкай.

Маланка. Бачыш?

Юля. Бачу.

Маланка. Што яны валынку цягнуць?

Юля. Давай з імі пагаворым, га?

Маланка. Яны і самі дагаворацца, калі сур'ёзнае ў іх.

Юля. Пойдзем, Маланка, паглядзім, як там цягнуць машыну.

Маланка. Ану іх! Такая нудота на душы... I што я рабіць буду, калі ты паедзеш адсюль?

Юля. Я ж недалёка, у райцэнтр. Гудзееў абяцаў бацьку прыстроіць мяне ў райцэнтр.

З хаты выйшаў Васіль.

Маланка. Дурная я, што кінула дзесяцігодку... Баялася, што не паступлю ў інстытут. А можа, і паступіла б...

Юля. А можа, і ты так паступіла б, як я. I цяпер перад людзьмі сорамна. Чула, якую прыпеўку прыдумалі:

Едзе дзеўка ў інстытут,
Пакідае родны кут.
Аступілася, упала —
Цераз тройку не папала.

Маланка. Хоць бы хто пасватаўся, ці што?

Васіль. Калі ласка, хоць зараз.

Маланка. Ой!

Юля. Ах!

Васіль *(разглядзеўшы Маланку, утаропіўся на Юлю, уражаны яе прыгажосцю)*. Ух ты!.. Якая прыгожая!

Юля *(спачатку разгубілася, потым паказала яму язык)*. Соль табе ў вочы!

Юля выбягае са двара.

Васіль. За што гэта яна мяне так?

Маланка *(бяжыць следам за Юляй і кідае на хаду Васілю)*. Каб не сурочыў!..

Маланка выбягае.

З шумам і гоманам, з крыкамі і жартамі калгаснікі выкатваюць «Масквіч» на вуліцу.

Галасы. Тпру!

Стой!

Прыехалі!

Не брыкайся!

Малое, а ўпартае!

Гудзееў вылазіць з машыны ў вясёлым настроі.

Гудзееў. Ну вось, ледзь дабраліся. Дзякуй, таварышы. Добры дзень! *(Вітаецца з усімі за руку. Вітаючыся з Самасеевым.)* Безабразіе, таварыш Самасееў! Няўжо ты не можаш адрамантаваць такога моста?

Другі калгаснік. Цябе, Самасееў, за адзін гэты мост трэба знімаць з працы. Яўная безгаспадарчасць.

Цярэшка. От, што праўда, то праўда!

Самасееў. Адрамантуем, таварыш Гудзееў! У бліжэйшыя дні адрамантуем!

Гудзееў. Позна ўжо, таварыш Самасееў.

Самасееў. Чаму позна?

Гудзееў. Без цябе адрамантуюць. Сёння будзем праводзіць справаздачна-выбарчы сход.

З хаты выходзяць Аксіння і Кавальчук.

Цярэшка. І новага старшыню будзем выбіраць?

Грачоў. Ёсць такое рашэнне бюро?

Гудзееў. Так. Ёсць такое рашэнне бюро райкома.

Першы калгаснік. Дзе ён, новы?

Другі калгаснік. Хто ён, калі не сакрэт?

Гудзееў. Потым убачыце, на сходзе.

Першы калгаснік. Свая хата ёсць у яго ці за кошт калгаса будавацца будзе?

Трэці калгаснік. Карову ад быка адрозніць?

Цярэшка. Калгаспае сена не будзе ў раён вазіць?

Другі калгаснік. А як ён — сямейны? *(Падміргнуў.)* Курэй лавіць не будзе?

Гудзееў. Таварышы! Гэта пытанне сур'ёзнае, і не на вуліцы яго абмяркоўваюць, а на сходзе.

Трэці калгаснік. Вы нам пакажыце яго да сходу! Хоць паглядзець на яго дайце!

Цярэшка. Ці варты ён чалавек?

Гудзееў. Думаю, што райком і райвыканком рэкамендуюць вам чалавека вартага...

Першы калгаснік *(падыходзіць да Гудзеева)*. Вот, таварыш Гудзееў, тут справядліва народ просіць... Я вам скажу, што нам вельмі цікава не толькі паглядзець на вашу кандыдатуру, а нават і панюхаць.

Смех.

Калі п'е, дык гэта яшчэ паўбяды, а вось калі і пахмяляцца любіць, дык... галоўнае — гэта хочам ведаць.

Калгаснікі смяюцца.

Гудзееў. Вы будзеце давольны. Чалавек сур'ёзны, работнік з вялікай практыкай, чэсны...

Другі калгаснік. Таварыш упаўнаважаны! Не так даўно, перад Самасеевым, вы прывозілі нам старшыню. Помніце? Дзе ён цяпер? А быў чэсны. Бывала, зладзеям і жулікам праходу не даваў. Не-е! Нават міма калгаса не даваў прайсці. Як заўважыць каторага, тут жаловіць яго за руку ды сюды, у калгас, ды на пасаду кладаўшчыка ці касіра...

Калгаснікі рагочуць.

Ну, а там рука руку мые...

Трэці калгаснік *(пашаптаўшыся з Сенькам-заікам)*. Ну, што вы напалі на таварыша Гудзеева? Ну, канешне, бывалі і памылкі. Конь на чатырох нагах і то спатыкаецца... Але ж... Вот возьмем Самасеева. Як рэкамендавалі, што гаварылі?

Сенька-заіка. У-устойлівы і па-аваротлівы.

Трэці калгаснік. А што аказалася?

Сенька-заіка. Што ўстойлівы — няпраўда. А што па-аваротлівы, дык як у сук уляпілі. Пава-аротлівы! Сонца яшчэ не ўзышло, а ён ужо на нагах...

Трэці калгаснік. ...ледзь трымаецца.

Калгаснікі зноў рагочуць.

Гудзееў. На гэты раз вы крыўдзіцца не будзеце.

Цярэшка. Хто ён?

Гудзееў. Чалавек сур'ёзны...

Цярэшка (*настойліва*). Што ён?!

Кавальчук (*падбадзёрвае Цярэшку*). Давай, давай, Церах. Смялей! Завязвай вузялок!

Цярэшка (*падыходзіць да Гудзеева*). Таварыш Гудзееў! От людзі смяюцца, а тут плакаць трэба! Даволі! Мы хочам ведаць: хто ён? Што ён за чалавек? Ці можна яму даверыць гаспадарку? Падавайце, як кажуць, тавар на віду.

Кавальчук. Правільна! Хай людзі паглядзяць і намацаюць.

Гудзееў. А вы хто такі?

Кавальчук. Аніхто. Так сабе.

Другі калгаснік (*Гудзееву*). А што, новы старшыня — свой ці прыблудны?

Сенька-заіка. Прозвішча давай.

Цярэшка. А чаму сакратар райкома не прыехаў на сход? Ён жа абяцаў сам прыехаць.

Гудзееў. Ён мне даручыў сход падрыхтаваць. А к вечару ён прыедзе, на сходзе сам абавязкова будзе.

Кавальчук. Таварыш Гудзееў, а вы яго ведаеце?

Гудзееў. Ведаю.

Кавальчук. Дык скажыце людзям. Я думаю — гэта ж не ваенная тайна. А калі што — дык тут жа свае людзі.

Гудзееў. Я вам параіў бы за зубамі язык патрымаць.

Цярэшка. Чалавек правільна гаворыць. Калгаснікі хочуць ведаць, каго вы нам прывезлі.

Гудзееў. Добра, я вам скажу. (*Дастае з партфеля паперку, чытае.*) Бюро райкома рэкамендуе на пасаду старшыні калгаса «Вольная праца» Кавальчука Цімафея Ягоравіча, 1902 года нараджэння, члена партыі з 1928 года, паходжанне — з рабочых, адукацыя — сярэдняя. Таварыш працаваў на адказнай пасадзе ў Мінску. Цяпер добраахвотна паехаў у калгас.

Цярэшка (*здзіўлена*). Кавальчук?

Гудзееў. Так, Кавальчук! І сакратар райкома прасіў перадаць вам, што ён сваёй галавой ручаецца за гэтага чалавека.

Кавальчук. Таварыш Гудзееў, вы ж, напэўна, бачылі яго?

Гудзееў. Бачыў.

Кавальчук. І гаварылі з ім?

Гудзееў. Гаварыў.

Кавальчук. Цікава. Які ж ён?

Гудзееў (*не ведае, што сказаць*). Ну, які... Ну, такі... Сур'ёзны, салідны... А, уласна кажучы, чаму гэта вас так цікавіць?

Кавальчук. Вельмі цікавіць. Я ж вас упершыню бачу. Давайце пазнаёмімся. Кавальчук Цімафей Ягоравіч — я і ёсць.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ДРУГАЯ

Світанне. Толькі што прапелі пеўні. Нязлосна, відаць, спрасонку, раз-другі гаўкнуў сабака. Недзе скрыпнулі вароты, мыкнула карова. Вось прайшла жанчына з поўнымі вёдрамі на каромыслe. На вуліцу выйшаў Кавальчук. Паказаўся Раман з мяшком за плячыма.

Раман. Добрай раніцы. (*Праходзіць міма.*)

Кавальчук. Добрай раніцы. Адкуль так рана?

Раман (*спыніўся*). З горада. Па хлеб ездзіў, ды ўчора спазніўся на вячэрні поезд. Прыйшлося на вакзале ўсю ноч прасядзець.

Кавальчук. Вас брыгадзір папярэдзіў учора, што з сённяшняга дня на нарад трэба з'яўляцца ў сем гадзін раніцы?

Раман. Гаварыў.

Кавальчук. Не спазніцеся.

Кавальчук пайшоў.
Раман хацеў нешта сказаць, але змоўк. Толькі намерыўся пайсці, як насустрач Аксіння з вядром.

Аксіння (*прывітаўшыся*). Здароў! Няўжо толькі цяпер з горада?

Раман. Учора прыпазніўся на поезд.

Аксіння. Усю ноч на вакзале гараваў? На маю долю ўзяў?

Р а м а н. Два кіло абаранкаў узяў. Прыйдзеш? Ці самому прынесці?

А к с і н н я. Я сама прыйду. Ідзі адпачні крышку.

Р а м а н. А можна было б у адной хаце гэта есці.

А к с і н н я. Пачакаем крыху. Калі стане лепей у калгасе, тады... А пакуль што... Усё-такі на двух прысядзібных участках лягчэй жыць, як на адным... Ідзі...

А к с і н н я набрала вады і пайшла.
Пайшоў і Р а м а н.
Да калодзежа падыходзіць з вядром Ю л я. Набірае ваду.
На вуліцы паказалася М а л а н к а з трыногаю ў руцэ. Падыходзіць да Юлі.

М а л а н к а. Юлька! Ну, Юлька, ведаеш што? Васіль, старшынёў сын, спёкся.

Ю л я. Як спёкся?

М а л а н к а. Утрэскаўся ў цябе па вушы!

Ю л я. А ідзі ты!..

М а л а н к а. Чэснае слова! Праходу мне не дае.

Ю л я. Ну і што?

М а л а н к а. Як што?

Ю л я. Падумаеш...

М а л а н к а. Ты, Юлька, не круці носам! Хлопец ён што трэба! І бадай што інжынер. Ты май на ўвазе.

Ю л я. Ай, перастань ты глупства малоць!

М а л а н к а. Такі хлопец — глупства?

Ю л я. Ты мне другое скажы: як мне даведку ўзяць?

М а л а н к а. А Самасееў хіба не даў?

Ю л я. Не паспеў. Старшыня ў вас жыве. Можа б, ты пагаварыла з ім?

М а л а н к а. Я б пагаварыла... ды што я? Ён і слухаць мяне не захоча... Ведаеш што? А ты папрасі сына, Васіля. Для цябе ён усё зробіць.

Ю л я. А ідзі ты!..

М а л а н к а. Чакай! Я зараз яго пазаву.

Юлька не паспела М а л а н к у затрымаць: тая пабегла. Юля спачатку хацела пайсці, але адумалася. Паглядзелася, як у люстэрка, у вядро з вадой, паправіла хустачку.
М а л а н к а прыводзіць В а с і л я.

М а л а н к а *(Васілю)*. Вось яна, бачыш, чакае. А ты не верыў.

В а с і л ь *(вітаецца з Юляй)*. Добрай раніцы! *(Падае руку.)*

Ю л я *(сарамліва апусціла галаву і нават крыху адвярнулася)*. Добрай раніцы. *(Падае руку.)*

**Маланка** *(пасміхаючыся)*. Вось і сышліся... Ну, прасі, Юля!

**Васіль**. Калі ласка, што магу — зраблю.

**Маланка**. Ёй даведка трэба.

**Васіль**. Даведка? Якая даведка?

**Маланка**. Што яе адпускаюць з калгаса.

**Васіль**. Куды?

**Маланка**. Хоць куды, абы не тут.

**Васіль**. Чаму «хоць куды»?

**Маланка**. Абы не тут. Тут ёй нельгааставацца.

**Васіль**. Чаму? Што здарылася?

**Маланка**. Дзесяцігодку скончыла!

**Васіль**. А-а, разумею. Вучыцца? У інстытут?

**Маланка**. Не-е! У інстытут яна не паступіла.

**Васіль**. А хіба я магу вам даць такую даведку?

**Маланка**. Не нам, а ёй адной. І не ты, а бацька твой. Ён жа старшыня.

**Васіль**. Не разумею.

**Маланка** *(да Юлі)*. Інжынер, а не разумее.

**Васіль** *(здагадаўся)*. А-а, разумею, разумею.

**Маланка**. Ну, вот!

**Васіль** *(да Маланкі)*. Ёй даведка трэба, а ты просіш...

**Маланка**. Як цябе ўбачыла, дык язык праглынула.

**Юля**. Перастань, Маланка!

**Маланка**. Нарэшце загаварыла! Ці, можа, ты мяне саромеешся? Дык я пайду. *(Заспявала.)*

Каля студні мая мілка
ваду налівае.
Я прызначыў ёй спатканне —
прыйсці забывае.

Маланка пайшла.

**Васіль**. Значыць, вы хочаце паехаць адсюль?

**Юля**. Хачу...

**Васіль**. Працаваць?

**Юля**. Працаваць.

**Васіль**. А куды?

**Юля**. Усё роўна... у райцэнтр.

**Васіль**. А вучыцца не хочаце?

**Юля**. Цяпер усюды конкурс.

**Васіль**. Ну дык што?

**Юля**. У мяне троек багата.

**Васіль**. А-а... У які інстытут вы паступалі?

Юля. Медыцынскі, педагагічны, сельскагаспадарчы і...

Васіль. Ведаеце што? Не трэба вам нікуды ехаць. Паступайце вы на завочнае. А? А я вам буду памагаць. *(Юля маўчыць.)* Я скончу інстытут і буду працаваць у МТС. Згодны?

Юля. Нічога не будзе.

Васіль. Чаму? Не верыце? Я вам чэспае слова даю!

Юля *(глянула на Васіля, усміхнулася, закусіла губку)*. Вы наабяцаеце...

Васіль. Клянуся! Не верыце?

Юля. Паверу, калі... калі вы паможаце мне... даведку атрымаць.

Васіль. Навошта вам даведка?

Юля. Я ўжо сказала.

Падыходзяць Кавальчук, Грачоў. Юля схапіла вядро, заспяшалася дахаты.

Васіль. Мы яшчэ пагаворым, так? Сустрэнемся, так? Вечарам, так?

Юля азірнулася, кіўнула галавой у знак згоды і пайшла. Васіль, праводзіўшы яе вачыма, таксама пакіраваўся дахаты. Падыходзіць Цярэшка.

Цярэшка. Ну, што?

Грачоў. З усёй брыгады толькі дзесяць чалавек прыйшло.

Кавальчук *(Грачову)*. Праверце ўсіх: хто і чаму не з'явіўся на нарад.

Грачоў. Ды і так ясна. Кожны калупаецца на сваім агародзе.

Кавальчук. Ідзіце. І ўсіх, хто можа выйсці на работу, пасылайце сюды.

Грачоў выходзіць.

Цярэшка. Не завязваецца вузялок, старшыня?

Кавальчук. Завяжацца!

Цярэшка. Не, брат старшыня, гэта табе не ў горадзе. Гарадскімі лягчэй кіраваць. Там што-о...

Кавальчук. Слухай, Цярэшка, ты на гарадскіх не ківай. Ты думаеш, што гарадскія толькі белыя булкі ядуць, спяць ды ў кіно ходзяць. Працаваць у іх трэба вучыцца!

Цярэшка. А хіба я сказаў, што толькі ў кіно? Там і дысцыпліна, канешне...

Кавальчук. Вот іменна дысцыпліна. І наш калгас павінен стаць фабрыкай, заводам з высокай механізацыяй,

высокай прадукцыйнасцю працы. Вось да чаго нам трэба набліжацца. Дай нашым калгаснікам штомесячную зарплату, як рабочым,— будзе і ў нас дысцыпліна і парадак, як на заводзе.

Ц я р э ш к а. Дай? Я даў бы, ды не ведаю, дзе ўзяць.

К а в а л ь ч у к. На сваёй ферме. Там трэба шукаць грошы.

Ц я р э ш к а. На ферме? *(Смяецца.)* Камедыя! Камедыя, дый годзе! От ты мяне ізноў паставіў туды загадчыкам... А мне не хочацца нават і заходзіць туды, не толькі рабіць.

К а в а л ь ч у к. І табе не хочацца?

Ц я р э ш к а. Ну, скажы, а каму будзе ахвота дагледаць кароў, якія за дзень даюць па паўлітра, ну, па літру малака? Цьфу! Падохлі б яны, і то болей карысці было б... А ў нас на ферме такіх штук пятнаццаць. З году ў год ялаўкі: ні даіцца, ні цяліцца. Толькі дабро на гной пераводзяць. Ваўкі б іх рэзалі. А маладняк які! На дваццаць цялушак шэсцьдзесят бычкоў. Распуста! Фельетон у газету! Ты не ведаеш, што даяркі ходзяць на ферму абы толькі адбыць.

К а в а л ь ч у к. Значыць, замяніць трэба такіх даярак, паслаць туды самых лепшых людзей: камуністаў, камсамольцаў, энергічных, якія б з любоўю ўзяліся за справу. Жывёлагадоўля, Церах — мяса, малако, масла,— галоўная крыніца нашых прыбыткаў. Тут адгадка на ўсе нашы загадкі. Вынось гаворку на праўленне! Думаць трэба, гаспадаром быць, а не так: «каб іх ваўкі рэзалі ды каб падохлі». На што ж ты спадзяешся? Што заўтра каровы прачнуцца ды раптам стануць свядомымі? Перастануць быць ялаўкамі ды павысяць удой?

У кантору ідзе М а л а н к а, адмыкае замок.
К а в а л ь ч у к заходзіць у кантору следам за Маланкай.

Ц я р э ш к а *(ідучы следам)*. Ты хочаш, каб хвост трубой трымаў, калі ферма з адных бычкоў...

Ц я р э ш к а заходзіць у кантору.
Падыходзіць г р у п а к а л г а с н і к а ў, з імі Р а м а н, Г р а ч о ў і С е н ь к а - з а і к а.

Р а м а н. Я сказаў, што не пайду, значыць, не пайду!

Г р а ч о ў. Ідзі старшыні гэта скажы.

Р а м а н. І старшыні скажу! Я ноч не спаў. Спаць хачу.

Грачоў. Ён спаць хоча. А сеяць хто будзе? Пасяўная ў разгары!

Раман. Не пайду, і ўсё! Я летась трыста працадзён вырабіў, а што за іх атрымаў?

Грачоў. Ты не пойдзеш на работу, ды ён, ды я... Адкуль жа яно будзе брацца? Думаеш, само парасце на полі?

Раман. А мне і думаць няма чаго.

Грачоў. Дык чаго ты лічышся ў калгасе? Для фасону? Падавай заяву — і на ўсе чатыры...

Раман. Гэта мая справа. Як-небудзь без заявы абыдземся. Не вучы!

Грачоў. Не, буду вучыць!

Раман. Малады яшчэ.

Грачоў. Ты не напішаш, дык я напішу заяву...

Раман. А гэта твая справа.

Грачоў. Ты, Раман, не ерапенься. Гэта табе не пры Самасею. З ім ты быў запанібрата, а новы старшыня цацкацца не будзе.

Раман. Не пужай!

Грачоў. Ніхто цябе не пужае.

Раман. Я работы не баюся. Я пайду рабіць, толькі заплаціце мне. Не можаце? Ну і я не магу. Пайду ў горад — і зараблю!

Грачоў. А калі ўсе так разбрыдуцца? Вясна на дварэ — хто сеяць будзе?

Раман. Я за ўсіх не адказчык...

Грачоў. Не прыкідвайся, Раман, казанскай сіратой. Яму ўжо сёння няма чым дзяцей карміць...

Раман. Колька мой пасля хваробы... Ці яму такія харчы трэба? Доктар прапісвае адно, а я што даю? А ён вучыцца.

Кавальчук выходзіць з канторы.

Кавальчук. Таварыш Грачоў? Самасеева бачылі?

Грачоў. Бачыў.

Кавальчук. Сёння ён выйшаў на работу?

Грачоў. І не думае. Сёння ўжо на пілараму яго пасылаў, і ўсё роўна не пайшоў. Ну і другія, гледзячы на яго, не пайшлі.

Сенька-заіка. Хаваецца ад работы, як цюцька ад мух.

Кавальчук. Маланка, схадзі, калі ласка, да Самасеева і скажы, хай з'явіцца. Зараз жа!

Маланка выйшла з канторы і пабегла па Самасеева.

*(Да Рамана.)* А вы чаму не на рабоце?

Грачоў. Адмовіўся. Загадаў яму лён сеяць — адмовіўся. Гной вазіць — не захацеў. Па хімікаты ехаць — не паехаў.

Кавальчук *(Раману)*. Чаму?

Раман. Калгас наш як завецца? «Вольная праца». Ну, значыць, хачу працую, хачу — не. Вольная праца.

Кавальчук. Дасціпна. *(Грачову.)* Напішыце дакладную на праўленне. Калгасу абібокі не трэба. Становішча ў нас не такое, каб патураць аматарам біць лынды.

Падыходзіць Самасееў.

Самасееў *(не без іроніі)*. Палкае прывітанне настаяшчаму і будучаму былому ад былога ў настаяшчым!

Кавальчук *(вітаецца)*. Ого! Закавырыста! Ну, як пажываеш, «былы ў настаяшчым»?

Самасееў *(гулліва)*. А што мне? Я цяпер, так сказаць, міністр без партфеля. Ні клапот, ні турбот. Цэлы дзень ляжу на канапе і плюю... Хачу налаўчыцца цераз увесь пакой пацэліць у тую дзірку ў дзвярах, куды ключ устаўляюць...

Кавальчук. Занятак сур'ёзны... для члена партыі.

Самасееў. А нада мной не капае. Пакуль што магу пачакаць.

Кавальчук. Чаго ж вы чакаеце?

Самасееў. Знойдуць жа мне які-небудзь партфель у раёне.

Кавальчук. А-а-а... А калі не знойдуць?

Самасееў *(упэўнена)*. Абавязкова знойдуць!

Кавальчук. Быў у мяне адзін такі знаёмы. Пасля таго як знялі яго з пасады намесніка міністра, ён шэсць месяцаў не ішоў працаваць «абы-дзе»...

Самасееў. Дачакаўся?

Кавальчук. Дачакаўся.

Самасееў. Ну, а ў мяне цярплівасці яшчэ больш, як у таго намесніка. Дачакаюся і я.

Кавальчук. Не бядуйце. Без партфеля не будзеце.

Самасееў. Сакратар райкома сказаў?

Кавальчук. Больш таго — чэснае слова мне даў.

Самасееў. А які партфель?

Кавальчук. І не адзін, а вялікі выбар. Першы партфель — пастухова пуга...

Самасееў *(яшчэ нічога не разумеючы)*. Што-о?

Кавальчук. Не падыходзіць? Згодзен. Нельга даверыць. Другі партфель — каса, граблі, вілы, плуг, барана. Падыходзіць? А сякера, піла — падыходзіць?

Самасееў *(нарэшце пачаў разумець)*. Не выйдзе, старшыня! На мне пакатаешся, як на вожыку!

Кавальчук *(Грачову)*. Падлічы, колькі каштуе прастой піларамы за адзін дзень.

Грачоў *(вымае з кішэні паперку)*. Дзвесце сорак шэсць рублёў і восемдзесят дзве капейкі. *(Аддае паперку Кавальчуку.)*

Самасееў. Крута бярэш! Не забывай, што і мы былі калісьці рысакамі!

Кавальчук. Пара і ў аглоблях пахадзіць. Сённяшні прастой піларамы адносім за твой кошт. Роўна дзвесце сорак шэсць рублёў і восемдзесят дзве капейкі. Агрэгат павінен працаваць. А цяпер можаце ісці і пляваць у дзірку. Толькі да заўтрашняга дня. А заўтра раненька выходзьце на працу. Усё!

Самасееў. Нічога! Прыйдзе і на нашу вуліцу свята!

Кавальчук. На вашай вуліцы ўжо адсвяткавалі, пара і за работу брацца.

Сенька-заіка. Масленіца скончылася, п-прыйшоў вялікі пост!

Кавальчук *(да першага калгасніка)*. А вы чаму на работу не выйшлі?

Першы калгаснік. Ды мне... трэба катух адгарадзіць парсюку. А то ў адным хляве з казой. Прыбіла яго...

Сенька-заіка. Характарамі не сышліся...

Кавальчук. А сеяць калі будзем?

Першы калгаснік. Калі ўжо так трэба, дык я пайду. *(Да брыгадзіра.)* Куды мне ісці?

Грачоў. Лён сеяць.

Другі калгаснік. Ці не замнога мы лёну сеем, старшыня? Кажуць, што трэба адкусіць такі кавалак, каб і праглынуць можна. А мы трыста гектараў лёну... *(Аж прысвіснуў.)* Падумаць страшна. Не ўправімся.

Грачоў. Суседзі пяцьсот сеялі летась і ўправіліся. Дзесяць мільёнаў грашыма ўзялі.

Кавальчук *(да другога калгасніка)*. А вы што зрабілі, каб управіцца?

Сенька-заіка. С-сядзіць і думае. С-сядзіць і думае. Т-трыста гектараў! Пад-думаць трэба. Б-бачыш — галава р-распухае.

Кавальчук. А вы што робіце?

Сенька-заіка. Т-таксама д-думаю. С-сяджу і д-думаю. Як г-гэта лён в-вырасце, калі ён т-толькі *(паказвае на другога калгасніка)* с-сядзіць і д-думае. Пад-думаць трэба!

Кавальчук. Вечарам з'явіцеся на праўленне. Будзем штрафаваць. Самі галасавалі: за нявыхад на работу без прычыны — знімаць пяць працадзён.

Сенька-заіка. А к-калі ў яго толькі ч-чатыры і было?

Кавальчук. У цябе пазычыць.

Сенька-заіка *(другому калгасніку)*. Табе пазычу. Ты чэсны. *(Брыгадзіру.)* Куды загадаеш?

Грачоў. Па хімікаты паедзеш. *(Другому калгасніку.)* А ты — гной вазіць.

Раман. А мне дахаты ісці ці запрагаць?

Грачоў. Ідзі запрагай і вазі насенную бульбу ад капца. Там бабы перабіраюць.

Кавальчук. Дзед! А ты таксама на работу?

Дзед. Я калі што змагу, дык... я магу...

Кавальчук азірнуўся на калгаснікаў.

Толькі хату мне, таварыш старшыня. Страха цячэ... Можа, як-небудзь... пакуль кулі будуць... ахапак саломы... А то цячэ...

Кавальчук. Даю слова, дзед,— восенню наваселле будзеш спраўляць. К зіме новую хату паставім.

Дзед. Дзякую за слова. А калі, можа, якая пільная работа, дык я пайду.

Кавальчук *(Грачову)*. З сённяшняга дня выдзяляць пару коней на брыгаду для індывідуальных агародаў. Будзеш выдаваць лепшым калгаснікам, тым, хто акуратна з'яўляецца на нарад. Першаму сёння ж каня — дзеду.

Грачоў. У мяне і так малавата коней.

Кавальчук. А людзей?

Грачоў. Калгаснае поле не засеяна яшчэ, а тут свае агароды.

Кавальчук. У калгасе ўсё сваё — і агароды і поле. Ясна?

Грачоў. У кожнага хай галава баліць за сваё. У мяне за поле, а ў каго за свой агарод.

Сенька-заіка. Падзяліў, значыць? Аддзяліў, значыць, мяне ад калгаса?

К а в а л ь ч у к. Ясна, Грачоў? Калі пра калгас дбаеш, галоўнага не забывай — людзей. Без іх, брат, мы з табой нічога не зробім, а з імі — абламаем чорту рогі і богу вырвем бараду. Так ці не, хлопцы?

С е н ь к а - з а і к а. Абы інтэрас быў!

К а в а л ь ч у к. Чуеш, Грачоў? *(Сеньку.)* Інтэрас ёсць! Праўда, спраў у нас непачаты край, але я веру, хлопцы, што з вамі, калі дружна возьмемся, мы так гаспадарку сваю паставім, што і фермы ў нас будуць найлепшыя, і ўраджаі будуць вялікія, і вёска стане прыгожай, з электрычнасцю. А Раману не трэба будзе ў горад ездзіць па абаранкі. Сваю пякарню пабудуем. *(Нібы па сакрэту.)* На экскурсіі да нас прыязджаць будуць. І Сенька будзе хваліцца перад гасцямі. На ўласным «Масквічы» будзе вазіць іх на свой участак кукурузы.

С е н ь к а - з а і к а. Ого!

К а в а л ь ч у к. Не верыш? Усё ў нашых руках. Пройдзе пару год — і мы сваімі вачыма ўсё гэта ўбачым. Уся партыя за гэта ўзялася, увесь народ падняла! Ну, а партыя на вецер словы не кідае. І я паехаў сюды з ахвотаю. Не за доўгім рублём, не-е!.. Толькі давайце дамовімся раз і назаўсёды — дружна, чэсна і арганізавана, каб не паўтаралася тое, што сёння... вось тут... Вы ж ведаеце, я ўпарты, ад свайго не адступлюся. Я ж прыехаў сюды не на дачу. Вось так. А цяпер, хлопцы, паплюём на рукі і за работу!

К а л г а с н і к і разыходзяцца.
З канторы выходзіць Ц я р э ш к а.

Ц я р э ш к а. Ну што, старшыня, пачынае завязвацца вузялок?

К а в а л ь ч у к. А ты правільна прыдумаў.

Ц я р э ш к а. Што я прыдумаў?

К а в а л ь ч у к. Не па-гаспадарску — трымаць такую ферму.

Ц я р э ш к а. Я ж кажу, ці бычкі — ферма?

К а в а л ь ч у к. Правільна. Дык ты раіш — бычкоў пад нож, на мяса, ды на базар?

Ц я р э ш к а. Хіба я так сказаў?

К а в а л ь ч у к. Ведаю. Ты хацеў так сказаць, толькі не асмеліўся.

Ц я р э ш к а. А ўзамен купіць цялушак кастрамской пароды.

К а в а л ь ч у к. Ну што ж, паслухаю цябе. Прыдумаў ты добра.

Ц я р э ш к а. Гэта ж ты сам прыдумаў!

К праўленню набліжаецца бухгалтар Л і х т а р о ў.

*(Заўважыў бухгалтара.)* Паглядзіце, што робіцца з нашым бухгалтарам. П'яны ён, ці што?

Ліхтароў падышоў, спыніўся, некалькі разоў кіўнуў галавой. І ў гэтым кіўку — невыказная горыч, роспач, безнадзейнасць.

К а в а л ь ч у к. Што з вамі, Мікалай Кузьміч?

Л і х т а р о ў. П'яны я... Напіўся... з гора... Два бакалы піва...

К а в а л ь ч у к. Ты напіўся? Што здарылася?

Л і х т а р о ў. Арыштавалі...

Ц я р э ш к а. Каго?!

К а в а л ь ч у к. За што?!

Л і х т а р о ў. За даўгі...

К а в а л ь ч у к. Каго арыштавалі?

Л і х т а р о ў. Мяне... і цябе... за даўгі, за крэдыт. Арыштавалі і рукі закавалі.

К а в а л ь ч у к. Нічога не разумею.

Л і х т а р о ў. Потым зразумееш. На якога чорта ты цягнуў мяне ў гэты калгас? Чаго я паехаў у гэты калгас? Гэта ж такой ганьбы я за свой век не пераажываў.

К а в а л ь ч у к. Мікалай Кузьміч! Ты толкам скажы, у чым справа?

Л і х т а р о ў. Справа ў тым, што мы банкруты, што ўсе рахункі нашы ў банку арыштаваны, што мы цяпер засталіся без капейкі грошай, што крэдытныя плацяжы мы не выплацілі ў тэрмін. Як мы будзем весці гаспадарку без капейкі?.. А?.. Дайце мне сесці. Ногі баляць.

К а в а л ь ч у к. Спакойна! Спакойна, Мікалай Кузьміч! У каго ты быў, з кім гаварыў?

Л і х т а р о ў. У райфо толькі рукамі разводзяць. У райвыканкоме Гудзеева хрыстом-богам прасіў — лёд, камень. «Дзяржава — не дабрачыннае таварыства. У нас усё падпарадкавана планам. Па плану далі крэдыт, па плану і плаціце. Кропка!» Кро-опка! Хоць плач...

Ц я р э ш к а. Не дабрачыннае таварыства? Гудзееў так сказаў?

Л і х т а р о ў. Адрэзаў, а не сказаў.

Ц я р э ш к а. А мы на яго падтрымку спадзяваліся. Яшчэ воз сена ўперлі.

К а в а л ь ч у к. А ў райкоме быў?

Л і х т а р о ў. Быў. Сакратар абяцаў падтрымаць на-

ша хадайніцтва перад абласной канторай банка. А пакуль што прасіў шукаць самім які-небудзь выхад.

Кавальчук. А які ж выхад?

Ліхтароў. Ніякага.

Кавальчук. А падумаўшы?

Ліхтароў. Усе грашовыя аперацыі праводзіць без ведама дзяржбанка. Усе выручаныя грошы пускаць у абарот без кантролю банка? Рызыкоўны выхад.

Кавальчук. Да-а, гэта не выхад, а ўваход. У пракуратуру, а адтуль без перасадкі ў турму. Крымінальная справа!

Цярэшка. Не, ужо лепей з гэтым не звязвацца!

Кавальчук. Але нам трэба грошы... Грошы, грошы!.. Сёння ж, заўтра!.. Без абаротных сродкаў нам не разблытаць гэты вузел. Вось як, Церах! Запомні — гэта тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят пяты год. Запомні яго! А пройдзе якіх-небудзь пяць гадоў — і мы нават і не ўспомнім, як нялёгка было нам завязваць гэтыя вузялкі. Прыйдзецца рызыкаваць.

Ліхтароў. Цімафей! З гэтым не жартуюць!

Кавальчук. Так, з гэтым не жартуюць. Я і не жартую.

Ліхтароў. Я рызыкаваць не хачу.

Кавальчук. Не бойся. Цябе падводзіць не збіраюся. І другі подпіс на сябе бяру.

Цярэшка *(як бы выпрабоўвае)*. А не шкада сваю галаву падстаўляць пад абух?

Кавальчук. А ты пад Сталінградам сваю шкадаваў?

Цярэшка. Там было другое. Пералом трэба было зрабіць.

Кавальчук. І тут пералом трэба!

Ліхтароў. Лепей ужо з'ездзіць у міністэрства. Папрасіць яшчэ раз крэдыт, апошні раз...

Кавальчук. Мы, вядома, будзем прасіць, але на гэта часу пройдзе месяц, а то і два. А нам сёння грошы трэба, заўтра. Усё! Вырашана! Да восені. А там лён выручыць нас, і разлічымся з дзяржавай. Адмерана і адрэзана!

Цярэшка. Будзем прадаваць бычкоў?

Кавальчук. Правільна. І ялавых кароў. Ідзі адбірай.

Падыходзіць Аксіння.

А к с і н н я. Ты што гэта, старшыня, кантору сцеражэш? Не бойся, не ўцячэ! Прывык там, у Мінску, штаны праседжваць. Гаспадаром трэба быць і больш сярод людзей бываць.

К а в а л ь ч у к. Ты, Аксіння, давай без артпадрыхтоўкі. Што здарылася?

А к с і н н я. Што здарылася? Бо тое ж і яно, што нічагу-усенькі не здарылася, нічагу-усенькі не змянілася. Якая завядзёнка была пры Самасею, такая і засталася. А ўчора да другіх пеўняў на сходзе ўсе ў грудзі стукалі, усе кляліся, усе абяцалі — пакладзём канец, не дапусцім! І ўсе згаджаліся, усе галасавалі «за». А сёння?

А к с і н н я. Насенную бульбу раскрадаюць.

К а в а л ь ч у к. Раскрадаюць?

Падыходзіць Г р а ч о ў.

К а в а л ь ч у к. А сёння што?

А к с і н н я. Ну, расцягваюць. Перабіраем там, каля капцоў,— нагледзелася. Ізноў пачынаецца, як летась: адна баба, на абед ідучы, у прыполе нясе, а вечарам, з работы ідучы, глядзіш, і другія таксама цягнуць. А возчыкі? Глядзіш — і па пуду каторы пад саломай вязе.

Ц я р э ш к а. Завязвай вузялок, старшыня!

К а в а л ь ч у к. А хто іменна так раскрадае?

А к с і н н я. Здароў будзь, старшыня! Яшчэ чаго не хапала? Можа, яшчэ загадаеш мне арыштаваць каторага? Скажы дзякуй, што так падказала. А за руку лавіць, выбачайце, не буду. Ты — гаспадар, ты і лаві.

К а в а л ь ч у к. А ты хто? Парабчанка?!

А к с і н н я. Не хачу, каб на мяне людзі ваўком глядзелі. Ты пабудзеш тут год-два і паедзеш. А мне, удаве, потым жыць з гэтымі людзьмі.

К а в а л ь ч у к. М-да...

А к с і н н я. Калі ўжо на тое пайшло, дык вось ён хай. *(Паказала на Грачова.)* Ён у нас брыгадзір і партыйны.

К а в а л ь ч у к. Таварыш Грачоў! Тут справа сур'ёзная. Вазьміцеся, калі ласка, з усёй строгасцю.

Г р а ч о ў. Добра, Цімафей Ягоравіч, я вазьмуся. *(Да Аксінні.)* Ну, пойдзем!

А к с і н н я. Нічога я табе не скажу! Не спадзявайся.

А к с і н н я і Г р а ч о ў адыходзяць ад канторы.
Пайшоў і Ц я р э ш к а.
Падыходзяць В а с і л ь і Ю л я.

В а с і л ь. Бацька, тут да цябе з просьбай.

К а в а л ь ч у к. А-а, Юля. Ну, што такое?

Ю л я. Дайце мне даведку... *(апусціўшы галаву)*, што мяне адпускаеце з калгаса.

К а в а л ь ч у к. Адпускаем з калгаса? Не магу.

В а с і л ь. Ды ты ж выслухай яе.

К а в а л ь ч у к. А хто просіць даведку? Яна ці ты?

В а с і л ь. Яна просіць.

К а в а л ь ч у к. Ты скончыў дыпломную працу?

В а с і л ь. Канчаю.

К а в а л ь ч у к. Канчай!

В а с і л ь. Канчаю.

К а в а л ь ч у к. Ах, вунь яно што!.. *(Да Юлі.)* І куды ж ты думаеш паехаць? У горад?

Ю л я. У горад.

К а в а л ь ч у к *(Васілю)*. А ты? Няўжо таксама ў горад? Перадумаў ужо?

В а с і л ь. Не перадумаў. Я сюды прыехаў і тут застануся.

К а в а л ь ч у к *(да Юлі)*. Вось бачыш, сам тут застаецца, а цябе агітуе ў горад.

Ю л я. Я сама...

К а в а л ь ч у к. І куды? Вучыцца, працаваць?

Ю л я. Працаваць. Гудзееў абяцаў прыстроіць у раёне.

К а в а л ь ч у к. Дзяўчынка ты мая! Няўжо табе даспадобы сядзець у канторы і корпацца ў паперках? Там і так чыноўнікаў больш чым трэба. Скарачаць іх трэба. І навошта табе шукаць нейкі ціхі закутак? Ты ж разумная дзяўчына, камсамолка, адукаваная, і для цябе тут, у калгасе, ёсць куды больш важная справа, дзяржаўная... І я хачу табе даручыць яе. Гэта будзе партыйнае заданне як камсамолцы.

Ю л я. Якое заданне?

К а в а л ь ч у к. Дапамажы нам парадак навесці на ферме. Пакажы, што можна зрабіць, калі за справу бяруцца з любоўю, па-камсамольску... Юля, гэта і мая асабістая просьба... і ён таксама рады будзе. Я ж бачу, ты не беларучка...

Ю л я. Я падумаю.

К а в а л ь ч у к. Падумай, дзяўчынка, падумай! Ну, ідзіце, ідзіце. *(Выпраўляе Юлю і Васіля.)*

Падыходзіць Г у д з е е ў. Павітаўшыся за руку з Кавальчуком, Гудзееў працягнуў руку і Ліхтарову, але той сваю руку не падаў. В а с і л ь і Ю л я пайшлі.

Ліхтароў. Бачыліся сёння.

Ліхтароў пайшоў у кантору.

Гудзееў. Пакрыўдзіўся за крэдытныя плацяжы. Дзівак ён у цябе. Ну, як на новым попрышчы? Пазнаёміўся, разабраўся, разгледзеўся, дзе, што і як ляжыць?

Кавальчук. Разглядаю.

Гудзееў. Рэвізію гаспадарчай дзейнасці Самасеева закончылі?

Кавальчук. Закончылі. Лепей сказаць — безгаспадарчай дзейнасці.

Гудзееў. Нічога такога не выявілі?

Кавальчук. Некаторыя дакументы выклікаюць сумненне.

Гудзееў. Разбярыцеся.

Кавальчук. Разбіраемся.

Гудзееў. Я спецыяльна прыехаў пацікавіцца гэтым. Спецыяльна...

Кавальчук. Калі ласка.

Гудзееў. З людзьмі асвоіўся?

Кавальчук. З некаторымі асвоіўся, а з некаторымі і палаяцца паспеў.

Гудзееў. Паспеў ужо? Ну вось і ў нас будзе маральнае права лаяцца з табой.

Кавальчук. За што?

Гудзееў. Мы не атрымалі вашых зводак аб пасяўной. Вось тут з усяго раёна. А дзе ж твая? Няма. Здаецца, маленькая паперачка, лічбачкі, і ўсё. А праз яе можна бачыць не толькі становішча з пасяўной у вашым калгасе, але і палітычны ўзровень старшыні. Так сказаць, ідэалагічнае чуццё яго.

Кавальчук. Што?

Гудзееў. Па плану вам трэба было пасеяць сто гектараў кукурузы. А што такое кукуруза? Кукуруза цяпер стала не толькі эканамічнай, але і палітычнай культурай. А мы не ведаем, колькі вы пасеялі, дзе вы пасеялі, калі вы пасеялі?

Кавальчук. Пасеялі. І на якіх землях пасеялі. На прысядзібных. Калгаснікі цяпер самі не менш за вас разумеюць, што такое кукуруза.

Гудзееў. Не веру!

Кавальчук. Што вам трэба?

Гудзееў. Каб вы пацвердзілі гэта дакументамі, зводкай.

К а в а л ь ч у к. Не разумею, чаго вы, асабіста вы, хочаце ад калгаса?

Г у д з е е ў. Хачу, каб у гэтай зводцы стаялі адпаведныя плану лічбы. І не толькі я хачу, а дзяржава ў цэлым.

К а в а л ь ч у к. Дык пастаўце ў гэтай зводцы такія лічбы, якія вам патрэбны. Я думаў, што вы прыехалі дапамагчы мне скласці перспектыўны план ці параіць, падказаць, як, дзе, за што ўзяць грошы, каб выкупіць хімікаты для ўгнаення. А вы... Пустое ўсё гэта.

Г у д з е е ў. Што пустое? Зводкі пустое? Не, брат, памыляешся! Зводкі — гэта наш манометр. Манометр! Паказчык ціску. Больш ціску — вышэй паказчыкі. Менш ціску — стрэлка падае ўніз. Гэта, брат, адзін з неабходных прыбораў адміністрацыйнай механікі. Такімі прыборамі вымяраюць пульс раённага жыцця.

К а в а л ь ч у к. Глупства ўсё гэта: ваш папяровы ціск.

Г у д з е е ў. Дарэмна, дарэмна. Недаацэньваеш. А ты павінен ведаць, што «сацыялізм — перш за ўсё — улік». А што такое ўлік? Зводкі. А ты — «глупства».

К а в а л ь ч у к. Не будзем спрачацца, таварыш Гудзееў.

Раптам пачуўся і стаў набліжацца шум, гоман натоўпу. На вуліцы паказаўся Р а м а н. За ім ідзе, як за арыштаваным, Д а б р ы л а. На некаторай дыстанцыі ідуць гуртам к а л г а с н і к і і Г р а ч о ў. Сярод іх і А к с і н н я.

Г у д з е е ў *(азірнуўся на натоўп)*. Што такое? Нешта здарылася...

Г р а ч о ў *(падышоў да Кавальчука)*. Вось, Цімафей Ягоравіч, злавіў на месцы злачынства. Пад саломай прыхаваў на возе... *(Паказвае на кошык з бульбай.)*

К а в а л ь ч у к. Краў?

Р а м а н *(патупіўся)*. Не краў. Другія бралі, і я ўзяў.

К а в а л ь ч у к. Ты за другіх не адказвай. У каго краў?

Р а м а н. Другія бралі, і я сваё ўзяў...

К а в а л ь ч у к. Другія? Вось яна брала? *(Паказвае на Аксінню.)*

Р а м а н. Не знаю.

К а в а л ь ч у к. А ён браў?

Р а м а н. Не знаю... Можа, і браў.

К а в а л ь ч у к. А ён, ён браў? *(Раман маўчыць.)* А ў каго крадзеш? Што крадзеш? Насенне? Пойдзеш пад суд!

П е р ш ы к а л г а с н і к. Таварыш старшыня! Ну за што тут пад суд? Падумаеш — пуд бульбы.

Ц я р э ш к а. Насенне... даражэй золата. Што сеяць будзем?

Натоўп глуха загаманіў. Кавальчук насцеражыўся. Яму зараз трэба рашыць цвёрда і ясна: ці пашкадаваць Рамана, даравадь яму і тым самым благаславіць крадзеж у калгасе надалей, ці строга пакараць яго, а тым самым раз назаўсёды пакласці канец крадзяжу. А натоўп гудзе.

К а в а л ь ч у к. І сёлета выдаваць на працадзень па сто грамаў? Каб і на той год ездзілі ў горад па хлеб! Дараваць не магу. Не маю права! Усё! Таварыш Дабрыла! Пратакол аформіў?

Д а б р ы л а. Не паспеў яшчэ.

К а в а л ь ч у к *(падумаўшы)*. Афармляй! А там суд разбярэцца.

Д а б р ы л а *(да Рамана)*. Пайшлі.

Раман абвёў вачыма ўсіх прысутных, нібы чакаючы падтрымкі.

Р а м а н *(да Юлі)*. Юлька... Ты глядзі за Колькам... Глядзі тут усё, дачушка.

Р а м а н пацалаваў дачку ў лоб і пайшоў. Калгаснікі моўчкі глядзяць. Юлька парывіста падбегла да Кавальчука, глядзіць яму ў твар, нібы чакае, каб ён адмяніў сваё распараджэнне. Кавальчук ледзь вытрымлівае гэты позірк. Ю л я крута павярнулася, глянула на Васіля і пабегла. Аксіння прыкрыла рукой рот, каб не крыкнуць.

П е р ш ы к а л г а с н і к. Вось і папаўся чалавек!..

С е н ь к а - з а і к а. А за што?

Г р а ч о ў. Як за што? Таварышы! Учора ж самі на сходзе пастанавілі... А сёння як назло... Сумленне ж трэба мець. Нельга ж так... У саміх жа сабе крадзём...

Г у д з е е ў. Правільна, таварыш Грачоў!

Г р а ч о ў выходзіць.

Ц я р э ш к а *(ціха, ледзь стрымліваючы сябе)*. Што правільна?

Г у д з е е ў. Тут трэба цвёрдай рукой парадак наводзіць! Інакш нічога не будзе. Раскрадуць, расцягнуць увесь калгас. Калгаснае дабро трэба берагчы як вока! І таго, хто пакваліцца на калгаснае дабро, трэба разглядаць як ворага калгаснага ладу!

Ц я р э ш к а. Гэта ты правільна сказаў, таварыш Гудзееў. Тады скажы, а як цябе разглядаць?

Г у д з е е ў *(абражаны, азірнуўся на Кавальчука)*. Што гэта?

Ц я р э ш к а. Словы гаворыш правільныя. А што робіш? Каб сёння ж расплаціўся з калгасам за той воз сена,

што табе Раман прывозіў. І па рыначнай цане. Калі не хочаш пайсці следам за ім.

Гудзееў. Якое сена? А-а, воз сена... Я яго не краў.

Цярэшка. Дык сцягнуў.

Гудзееў. Мне прывезлі па дагаворанасці з Самасеевым. Я папрасіў, і мне гаспадар даў, старшыня калгаса.

Цярэшка. Гаспадар?

Гудзееў. Гаспадар. А ты хто такі?

Кавальчук. Завязвай вузялок, Церах!

Цярэшка. Хто я такі? Гаспадар я тут!

Кавальчук. Вось так!

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Праўленне калгаса. Ліхтароў размаўляе па тэлефоне з банкам.

Ліхтароў. Таварыш упраўляючы, нашы аперацыі без ведама банка гроша ломанага не варты, капеечныя... Я разумею правільна, але зразумейце і вы — без гэтага нам нявыкрутка. У нас жа гаспадарка, ды не абы-якая — узорная-запушчаная. Паверце ўсё-такі, што мы не жулікі. У канцы трэцяга квартала разлічымся. У нас жа ўжо лён пайшоў. Што?.. Ну, гэта ўжо занадта... Таварыш упраўляючы банка, не палохайце нас судом. Я вам сказаў: тут сядзяць не жулікі, а камуністы, якія помняць і аб інтарэсах дзяржавы і аб інтарэсах калгаса. Не палохайце... Фу! Фу! Паклаў трубку. *(Вешае трубку, чухае патыліцу.)*

Заходзяць Маланка і Юля.

Маланка. Мікалай Кузьміч, Кавальчука няма?

Ліхтароў. А за каторым вы бегаеце? Відаць, за маладзейшым.

Маланка. Нам не да жартаў, Мікалай Кузьміч. Нам старшыня патрэбен. У Юлі брацік захварэў, Колька. У бальніцу трэба яго...

Ліхтароў. А, тады выбачайце, справа сур'ёзная. Шукайце на ферме ці ў полі.

Ліхтароў выходзіць у другі пакой.

Маланка. Тэмпература высокая?

Юля. Трыццаць дзевяць.

Маланка. А што з ім? Наша доктарка глядзела?

Юля. Глядзела. Сказала: дыфтэрыт. А сывараткі ў яе няма.

Заходзіць Васіль.

Васіль. Прывет, Маланка!

Маланка. Мы з табой бачыліся.

Васіль. Верна. Добры дзень, Юля! *(Юля не адказвае. Нават адвярнулася.)* А мы, здаецца, сёння не бачыліся. *(Юля маўчыць.)* Маланка! Вельмі прашу прабачыць, але я хачу Юлі нешта сказаць па сакрэту...

Маланка. Калі ласка... *(Намерылася ісці.)*

Юля *(не адпускае Маланку)*. Не ідзі, Маланка, будзь тут, не ідзі.

Маланка. Другога месца не знайшлі, апроч канторы?

Васіль. Ну што ж, я магу і пры Маланцы. Хоць і няёмка пры трэцім, але гэта лепш за няяснасць і недагаворанасць. Усё роўна, Маланка, ты і сама ўсё ведаеш і ўсё бачыш. Я ўжо тры месяцы стараюся, шукаю зручнага выпадку сустрэцца з ёй, пагаварыць і... не магу. Не хоча, пазбягае, уцякае... Нават двух слоў не хоча выслухаць. *(Да Юлі.)* Пакрыўдзі, прагані, але скажы хоць слова... Скажы, і я ўсё кіну, я паеду адсюль.

Маланка *(з папрокам)*. Юля... Што ж ты маўчыш?

Юля. Сам ведае.

Васіль. Нічога не ведаю.

Юля. Тады ў людзей спытай.

Васіль. Пра гэта мне людзі нічога не скажуць. Толькі ты!

Юля маўчыць.

Скажы два словы! Адно!

Юля маўчыць.

Значыць, мне трэба ехаць адсюль? Не хочаш сказаць, хоць галавой кіўні.

Юля маўчыць.

Маланка *(расчулілася)*. Любіць ён цябе, Юля.

Юля заплакала і выскачыла з канторы.

Васіль. Ну вось і ўсё... Можна адчальваць...

Маланка. Куды? Ну і дурань! Не бачыш? Не разумееш?

Васіль. Бачу! Разумею!

Маланка. Сляпы ты, як кацянё! Любіць яна цябе. Толькі сам жа зразумей, у які нерат вы трапілі. Бацька яе асуджаны. А яна людскіх абгавораў баіцца. Эх вы! І чаму вас толькі вучылі ў інстытуце?

Васіль. Вузлавому метаду рамонту трактараў.

Маланка. Яно і відаць. Сам ты вузлаваты. У яе брат захварэў. У бальніцу трэба завезці. Пайшлі бацьку шукаць, хай машыну дасць.

У кантору заходзяць Аксіння, Грачоў, Кавальчук.

Кавальчук. А што з ім?

Аксіння. Падазраюць дыфтэрыт.

Кавальчук. Як толькі прыйдзе машына са станцыі, зараз жа завязём у бальніцу. *(Васілю.)* А ты чаго тут аціраешся? Чаму льноцерабілку не рамантуеш?

Васіль. Званіў у МТС, каб прывезлі шасцяронку.

Кавальчук. Ну што ж, Грачоў, пасля абеду трэба паслаць чалавек трыццаць на лён.

Грачоў. Калі? Сёння?

Кавальчук. Зараз.

Грачоў. Ды што вы, Цімафей Ягоравіч?

Кавальчук. А дзе ж твае людзі?

Грачоў *(нібы з пагрозай)*. Дзе? Ну што ж, магу ад малатарні забраць, ад веялак, са свірна, нават з поля... Я магу...

Кавальчук *(нібы не разумее яго пагрозы)*. Ну вось, сам падказаў. Люблю ініцыятыўных людзей, самастойных.

Грачоў. А хлеб? А збожжа? Там засталося на пару дзён.

Кавальчук. Тым больш. Ды зразумей ты, галава — два вухі, што, адкладваючы ўборку льну хоць на дзень, мы зніжаем якасць валакна, губляем тысячы! Ды нас жа за такое марнатраўства калгаснікі палкамі павінны дубасіць. Гатовыя грошы губляем.

Грачоў. Ну, дык пайшлі, Аксіння.

Аксіння. Ты ідзі. Мне яшчэ са старшынёй трэба пагаварыць.

Грачоў. Не бойся. Я ж людзей з работы зрываю...

Грачоў выходзіць.

Аксіння *(услед)*. Не забаўлюся! *(Маланцы.)* Ідзі!

Маланка і Васіль пайшлі.

Кавальчук. Бачу, нейкая сур'ёзная гаворка. Што ж ты маўчыш? Давай смялей!

Аксіння. Я думала, што сам здагадаешся, а ты...

Кавальчук. А пра што я павінен здагадацца?

Аксіння *(стараецца не глядзець яму ў вочы)*. Шукай, старшыня, другую кватэру. Нельга табе жыць у мяне.

Кавальчук. Чаму?

Аксіння. Таму. Я ўжо тры месяцы хацела табе сказаць, ды ўсё чакала, думала — сам здагадаешся. А ты...

Кавальчук. А чаму ўсё-такі?

Аксіння. Я ўдава...

Кавальчук. А я ўдавец. Ну і што?

Аксіння. Я не жартую, старшыня.

Кавальчук. Ці не сватаешся ты да мяне, Аксіння?

Аксіння. Я на цябе глядзець не магу... Я і сябе зненавідзела праз цябе. І жыць з табою ў адной хаце я не магу. Выбірайся!

Кавальчук *(адразу пасур'ёзнеў)*. Вось як... Гэта ўжо сур'ёзна. Толькі ты растлумач мне, Аксіння. Я нічога не разумею. У чым справа? Я і сам апошні час заўважаю, што нешта здарылася. Але што?

Аксіння. Я даравацъ сабе не магу.

Кавальчук. Мы людзі дарослыя, сур'ёзныя, так што давай адкрыта.

Аксіння. Другі раз я аўдавела — вось што. І праз цябе.

Кавальчук. Як гэта — «другі раз»?

Аксіння. Нагаравалася я, паспытала ўдовінага хлеба — сытая. І вось ужо было і шчасце на парозе, а ты...

Кавальчук. Што?

Аксіння. З Раманам мы згаварыліся ўжо... Мужам ён быў мне... А ты яго пад суд. Дык што ты мне загадаеш — дзякаваць табе за такую ласку? Маўчала, у кулаку сэрца трымала, а болей не магу!

Кавальчук. Не ведаў я гэтага... Толькі не ўсю віну на мяне валі, калі пайшла такая гаворка.

Аксіння. Сама ведаю. Не ўпікай. І я вінаватая. Таму што — дурная!

Кавальчук. Не, таму што ты чэсны, харошы чалавек. І ён, ён таксама вінаваты.

Аксіння. І ён дурань! Трэба была яму гэта бульба.

Кавальчук. І парадкі нашы старыя вінаваты. Ламаць іх трэба было. Хочаш крыўдуй, хочаш не, толькі шчыра табе скажу: нават пасля гэтай нашай гаворкі я

зрабіў бы так, як і тады. Нават калі б гэта быў мой родны сын!

Аксіння. А мяне ты можаш зразумець? Цяжка мне, трудна мне!..

Кавальчук. Я пакляўся, зраблю ўсё, каб з нашага калгаса людзі ў горад па хлеб не ездзілі. Для гэтага я і Раману не мог дараваць. Вось так... Ну, а кватэру я пастараюся знайсці.

Уваходзіць Гудзееў з тым жа вялікім партфелем.

Аксіння. Не крыўдуй, старшыня, але жыць у мяне табе нельга...

Аксіння выйшла.

Гудзееў. Прывет, прывет! *(Правёўшы вачыма Аксінню.)* Наколькі я зразумеў, ты, таварыш Кавальчук, абвастраеш узаемаадносіны з калгаснікамі. А гэтага я табе не раіў бы.

Кавальчук. Дзякую за параду. Позна ўжо.

Гудзееў. Улічы — у цябе і так даволі хісткае становішча.

Кавальчук. Хісткае?

Гудзееў. На жаль, так.

Кавальчук. Канкрэтней і карацей. У мяне вельмі многа спраў.

Гудзееў. Вось і са мной ты дарэмна яршышся.

Кавальчук. Выбачайце, таварыш Гудзееў. Буду далікатней.

Гудзееў. Твой калгас...

Кавальчук. Я яго яшчэ не купіў.

Гудзееў. Не трэба жартаваць. Ваш калгас ганебна адстае з абмалотам.

Кавальчук. Затое ўборку канчаем.

Гудзееў. Па-другое, вы злачынна зрываеце план развіцця жывёлагадоўлі. Вы распрадалі палову фермы.

Кавальчук. Не я, праўленне рашыла. Толькі сорак бычкоў. На мяса. Гораду мяса трэба.

Гудзееў. Горад — не ваш клопат. Больш думайце аб плане пагалоўя.

Кавальчук. Ізноў лічбы?

Гудзееў. Так, лічбы!

Кавальчук. Ёсць і другія лічбы. Пры тым жа пагалоўі мы ўдвоілі надой малака. А бычкі, як вам вядома, не дояцца.

Гудзееў. Вы сарвалі нам раённы план па пагалоўю.

Кавальчук. Ізноў жа — праўленне рашыла. Я думаю, што вы не супраць прынцыпу калегіяльнага кіраўніцтва?

Гудзееў. Вы не задавайце мне правакацыйных пытанняў, таварыш Кавальчук. Я не хлапчук і ў палітыцы крыху разбіраюся. Я дванаццаць год кіраваў палітшколай пры МТС.

Кавальчук. Сялянскае пытанне дзевяцьсот пятага года разбіраў?

Гудзееў. І не прыкрывайце сваіх грахоў лозунгам партыі аб калегіяльным кіраўніцтве.

Кавальчук. А я думаю, што гэта не толькі лозунг, а прынцып нашага жыцця. Прынцып, які закрывае дарогу самаўпраўству.

Гудзееў. Таварыш Кавальчук! Скажу табе шчыра: хоць ты і паставіў мяне перад райкомам у няёмкае становішча з тым возам сена, аднак я зла не затаіў. І шчыра табе дабра жадаю. Не будзь занозістым, калі хочаш, каб табою былі задаволены.

Кавальчук. А я паехаў сюды не для таго, каб падабацца ці не падабацца каму-небудзь асабіста.

Гудзееў. Прызнайся чэсна, ты сапраўды паехаў сюды добраахвотна ці... *(Нібы нешта выкавырвае вялікім пальцам.)*

Кавальчук. Эх вы!.. Ці вам гэта зразумець? Для мяне важна, каб мной была задаволена партыя і калгаснікі.

Гудзееў. Правільна. А вось якраз калгаснікі і незадаволены. Яны бамбардзіруюць усе вышэйшыя і раённыя ўстановы пісьмамі. А мне даводзіцца расследаваць... Вось яны. *(Выняў з партфеля жмут пісем.)* Праўда, я не павінен быў табе гэта раскрываць, але, давяраючы табе, як чэснаму камуністу, не таюся. Вось так... *(Паказвае пісьмы.)*

Кавальчук. Ого! Хто ж гэта?

Гудзееў. А гэта сакрэт...

Кавальчук. Вам райком даў такое даручэнне?

Гудзееў. Гэта не мае значэння. Паколькі яны трапілі ў мае рукі, я буду расследаваць.

Кавальчук. Ну што ж, расследуйце. Толькі прашу, не вельмі адрывайце людзей. Работы ў нас цяпер па горла — уборка.

Прыходзіць Сенька-заіка.

Сенька-заіка. Ста-аршыня! Сказалі х-хлапчука ў бальніцу, а ў машыне бе-ензіну ні кроплі. А?

Кавальчук. Няма?

Сенька-заіка. Няма.

Кавальчук *(звоніць па тэлефоне)*. Ясачка, павачка, дайце калгас «Дружбу». Алё! Здароў, сусед! Кавальчук гаворыць. Я чуў, у цябе бензін ёсць. Выручы па-суседску. Праз тыдзень удвайне аддам. Ну, хоць адну запраўку... Мне чалавека ў бальніцу завезці... А? *(Павесіў трубку.)*

Сенька-заіка. Не даў?

Кавальчук. Не даў. У саміх няма. Вось што: знайдзі, купі, а каб машына пайшла.

Сенька-заіка. Зн-найду, абы толькі *(пацірае пальцамі)* грошы.

Кавальчук *(Ліхтарову ў другі пакой)*. Мікалай Кузьміч, раскашэльвайся! Дай Сямёну на бензін. *(Сямёну.)* Ідзі вазьмі грошы. *(Гудзееву.)* Вам бы, райплану, не кляўзамі займацца, а падумаць пра забеспячэнне калгасаў гаручым. А то дзяржава машыны дала, а вы забеспячэнне бензінам не арганізавалі.

Гудзееў. Гэта функцыя не райплана.

Кавальчук. Ізноў — «дзядзя вінаваты»?

Зазваніў тэлефон. Гудзееў здымае трубку.

Гудзееў. Так... Калгас «Вольная праца». А хто пытае? *(Твар адразу палагаднеў.)* Зараз, калі ласка. *(Кавальчуку.)* Павел Іванавіч просіць, сакратар райкома. *(Беражна, абедзвюма рукамі перадае трубку.)*

Кавальчук. Здароў, Павел Іванавіч... Магарыч? За што? Ну-у? Які ж ты малайчына, Павел Іванавіч! Не ведаю, як табе аддзячыць... Што? У абкоме? Нават так? Прабіралі? Ну, што ж... Ды я ўжо і на вымову згодзен быў... Ну што ты... Цябе не падвяду, даю слова... А што яшчэ? Ого! Ад дзяржаўнай лініі... Ох, і прабіўны ты чалавек. На электраматоры і провад як-небудзь наскрабём... Што? Ды не прабірай ужо хоць ты за гэтых бычкоў... Тут і так за горла трымаюць. Не, не... Усяго добрага... Яшчэ раз дзякую. *(Вешае трубку і да Гудзеева.)* Выбачайце, таварыш Гудзееў, выконвайце свае функцыі, а я пайду свае...

Кавальчук выходзіць.

Гудзееў выпатрашыў свой вялізны партфель, расклаў на стале паперы, усеўся за сталом. Ад Ліхтарова выходзіць Сенька-заіка.

Гудзееў. Ага, на вымову ўсё-такі згодзен... Эй, таварыш! *(Кіўком пальца падзывае Сеньку.)* Паклічце да мяне Самасеева.

Сенька-заіка. Ка-алі ласка.

Гудзееў. І ведаеш, друг, старшыня даручае табе незаконную справу.

Сенька-заіка. Якую?

Гудзееў. Купляць бензін у шафяроў — злачынства. Можна пад суд папасці.

Сенька-заіка. Ка-алі зловяць.

Гудзееў. Могуць злавіць.

Сенька-заіка. Хто?

Гудзееў. Міліцыя.

Сенька-заіка. Дабрыла? *(Махнуў рукой.)*

Гудзееў. А хоць бы!

Сенька-заіка. Каго? М-мяне? *(Махнуў рукой.)*

Гудзееў. Я сур'ёзна. Я папярэджу міліцыю.

Сенька-заіка. Хто? Ты?

Гудзееў. Я.

Сенька-заіка. Тады знаеш што? *(Азірнуўся.)* Ідзі ты к... *(Тыцнуў сябе ў грудзі.)* З-заіка... д-доўга гаварыць не магу.

Гудзееў. Не забывайце, грамадзянін, я пры выкананні службовых абавязкаў.

Сенька-заіка. А ты не спяшайся. Канчай службу, а потым ідзі.

Гудзееў *(аж ускочыў з крэсла)*. Хам! Хуліган! Як ваша прозвішча?

Сенька выйшаў з канторы.

На крык Гудзеева са свайго пакоя выглянуў Ліхтароў.

Ліхтароў. Што такое?

Гудзееў. Як яго прозвішча? Ён мне нагрубіў, нахаміў! Я яго!..

Ліхтароў. Не чуў, не магу пацвердзіць. І наогул здзіўляюся, ён у нас культурны, далікатны. Не можа быць.

Гудзееву няма чаго сказаць. Ён, як бы нічога не здарылася, садзіцца за стол, адразу ператвараецца ў афіцыйную, сур'ёзную асобу.

Гудзееў. Таварыш Ліхтароў! На вас паступіў матэрыял, што вы сумесна з Кавальчуком арганізавалі тайную касу ў калгасе і грашовыя аперацыі праводзіце без ведама банка, каб ухіліцца ад пагашэння дзяржаўных крэдытаў. Прызнаяце за сабой такую віну? Ёсць тайная каса?

Л і х т а р о ў. Калі яна тайная, дык пра яе і гаварыць нельга.

Г у д з е е ў. Але яна ёсць?

Л і х т а р о ў. Незгараемая ёсць, вось яна. А ключы ў касіра, а касіра няма. Таму нам цяжка ўстанавіць, што там ёсць. З гэтага пункту погляду яна тайная, бо нам невядома, які «ікс» там у сучасны момант знаходзіцца.

Г у д з е е ў. За каго мяне тут прымаюць? За дурня?

Л і х т а р о ў. Не будзем удакладняць. Гэта не мае функцыі.

Г у д з е е ў. А ўсё-такі, дзе тыя грошы, якія ўтаргавалі за бычкоў? Наколькі мне вядома, у банк на ваш рахунак яны не паступілі.

Л і х т а р о ў. Пазатыкалі імі дзіркі на ферме... Купілі шыфер, куплялі бензін, правялі водаправод на ферму. Ды ці мала прарэх у нашай гаспадарцы? Вось кантору рамантуем. Кармасховішчы збудавалі.

Г у д з е е ў. Без ведама банка? А вы ведаеце, што гэта незаконна?

Л і х т а р о ў. Ведаем. Але што зробіш? Другія крэдыторы па дарозе страчалі і... хочаш не хочаш, а кішэнь апаражнялі.

Г у д з е е ў. Так і запішам...

Л і х т а р о ў. Запішыце яшчэ...

Г у д з е е ў. Што?

Л і х т а р о ў. Што чатырыста рублёў, якія вы ўнеслі за воз сена, мы ўсё-такі аформілі цераз банк. Для памяці.

Г у д з е е ў. Я гэта запомніў.

Л і х т а р о ў. І мы не забылі.

Уваходзіць С а м а с е е ў.

С а м а с е е ў. Добры дзень, таварыш Гудзееў. Вы мяне клікалі?

Г у д з е е ў. Так. І вы мне патрэбны. Таварыш Ліхтароў, прашу вас выклікаць сюды людзей па гэтаму спіску. *(Падае Ліхтарову паперку.)*

Л і х т а р о ў. Рад старацца. Толькі дарэмна ўсё гэта.

Г у д з е е ў. Не ваша справа.

Л і х т а р о ў выходзіць.

С а м а с е е ў. Ну, як жывецца, таварыш Гудзееў?

Г у д з е е ў. Нялёгка. Вось прыехаў ваяваць з вашым Кавальчуком.

Самасееў. Ён жа ваш, вы яго прывезлі.

Гудзееў. На сваю галаву.

Самасееў. Так вам і трэба. Цяпер чухайце патыліцу. Не тое што са мной. Бывала, прыедзеце, загадаеце — і я са скуры вылезу, а ўсе ўказанні выканаю. Бывала, і папросіце чаго, дык адказу не было.

Гудзееў. Нічога. Абломім і яму рогі. Прывыкне.

Самасееў. Дай бог чутае бачыць!

Гудзееў. Слухай, Самасееў, а пайшоў бы ты зноў сюды старшынёй?

Самасееў *(узрадаваўся)*. Што, рашылі знімаць яго?

Гудзееў. Усё можа быць. Ну, дык пайшоў бы?

Самасееў. Я член партыі, дысцыпліну ведаю. Загадаеце, пайду.

Гудзееў. Слухай, дружа, я табе часам запісачкі-распісачкі пісаў... там на сена, на другое што... Ты іх ліквідуй, калі ласка.

Самасееў. Будзьце спакойны, таварыш Гудзееў.

Гудзееў. Тут на яго матэрыялаў накапілася — цэлая груда. Тут скаргі калгаснікаў. Праўда, без подпісу. Прызнайся, ты прыклаў руку?

Самасееў *(не таячыся)*. Ёсць і мая работа.

Гудзееў. Я адразу здагадаўся. Па стылю. Усе пісьмы — на адзін капыл.

Самасееў. Як умеў. Спецыяльнай адукацыі не маю.

Гудзееў. Ну што ж, я буду аб'ектыўным. Калі што пацвердзіцца, буду паднімаць пытанне перад райкомам. А то яму ўжо занадта вераць там. У цябе яшчэ што да пісем дадаць ёсць?

Самасееў *(задумаўся)*. Можа, спекуляцыю?

Гудзееў. Якую?

Самасееў. Палітычную.

Гудзееў. Ну-ну, цікава.

Самасееў. Кавальчук спекулірує модпай цяпер калегіяльнасцю кіраўніцтва. Каб застрахавацъ сябе ад адказнасці і прыкрыць сваю дзейнасць, ён, па сутнасці, хаваецца за спіны людзей. Бачыце, праўленне рашыла, агульны сход рашыў, а на справе — усё сам камандуе.

Гудзееў. Гэта сур'ёзнае абвінавачанне. А доказы?

Самасееў. Скараціць пагалоўе — яго задума.

Гудзееў. Перакапаўча.

Самасееў. Дэмагогію з калгаснікамі разводзіць. На балючых струнках іграе. Раней было і вам лягчэй. Прыехалі ў калгас і ведаеце аднаго гаспадара — старшы-

ню. А пры ім — не тое. Абы-што якое, дык ён — хай народ рашае, народ гаспадар. Ведаем мы такіх народнікаў. Проста савецкую ўладу не паважае народнік гэты.

Гудзееў *(ацэньвае)*. Так, так, так... Ну, а яшчэ што?

Самасееў *(задумаўся)*. Пакуль што, здаецца, усё. Я ж пісаў там...

Гудзееў. Апроч напісанага.

Самасееў. Пакуль нічога. Але я з яго вачэй не спускаю.

Гудзееў. Аб'ектыўны матэрыял. А каго б ты параіў дапытаць, каб пацвердзіць усё гэта?

Самасееў. Я ж пісаў.

Гудзееў. А ўдаву гэтую, у якой ён жыве?

Самасееў. Ну не, яна з ім у адну дудку іграе.

Гудзееў. Нічога ты не ведаеш. Яна сёння пры мне сказала яму, каб выбіраўся з хаты.

Самасееў. Сур'ёзна? Можа, тут пахне бытавым разлажэннем?

Гудзееў. А ты націкаўся, пагавары. Скажы, каб прыйшла да мяне.

Самасееў. Калі так, абавязкова.

Заходзяць Цярэшка і другія калгаснікі.

Першы калгаснік. Дык гэта сюды нас выклікалі?

Гудзееў. Па аднаму, таварышы, па аднаму. Не ўсе адразу. Вось вы, здаецца, загадчык фермы, застаньцеся.

Цярэшка застаецца, а калгаснікі выходзяць.

А вы, таварыш Самасееў, можаце ісці.

Самасееў выходзіць, за спіной Цярэшкі падае знак Гудзееву: гэтага, так сказаць, прыцісні.

Гудзееў. Сядайце.

Цярэшка. Пагалоўе?

Гудзееў. Правільна, пагалоўе.

Цярэшка. План?

Гудзееў. План.

Цярэшка *(разводзіць рукамі)*. Я так і ведаў... Ну што ж, выбачайце, плана няма.

Гудзееў. Разбазарылі?

Цярэшка. Прадалі. Толькі бычкоў.

Гудзееў. Няважна каго. Пагалоўе. А чыя ініцыятыва?

Ц я р э ш к а. Кавальчук гаворыць, што мая.

Г у д з е е ў. А на самай справе? Яго?

Ц я р э ш к а *(падумаўшы)*. Не. Трэба мне на сябе браць усё.

Г у д з е е ў. А навошта чужую віну на сябе браць?

Ц я р э ш к а. Ды яно, калі па-гаспадарску думаць, і віны ніякай няма. Бычкоў загналі — даглядчыц і пастухоў меней, працадні эканомім. А за бычкоў тых выручылі — ферму ў парадак прывялі. Восенню кастрамскіх цялушак купім. І ферма як у людзей будзе.

Г у д з е е ў. А пакуль што план развіцця пагалоўя сарвалі?

Ц я р э ш к а. Я толькі не магу ўцяміць: чаму вас так непакояць нашы бычкі?

Г у д з е е ў. Гэта не проста бычкі. Гэта — справа вялікай дзяржаўнай палітыкі!

Ц я р э ш к а. Калі вас, вялікага палітыка, так непакояць мае бычкі, тады ці не варта мне занепакоіцца вашай вялікай палітыкай? Тут нешта не тое.

Заходзіць Л і х т а р о ў.

Г у д з е е ў. Пачакайце, пачакайце там.

Л і х т а р о ў. Мне ж працаваць трэба.

Г у д з е е ў. Вам сказана, пачакайце!

Л і х т а р о ў паціснуў плячыма і выйшаў.

Г у д з е е ў. Так, так, так. Дык што вы сказалі?

Ц я р э ш к а. У вас другіх спраў няма? Ідзіце вы лепей рыбу вудзіць — і вам прыемнасць будзе і нам спакайней. А з бычкамі мы як-небудзь самі разбяромся. *(Устае і накіроўваецца да дзвярэй.)*

Г у д з е е ў. Якая нахабнасць! Якая разбэшчанасць тут!..

Расчыняюцца дзверы, і ў кантору заходзіць г р у п а к а л г а с н і к а ў. Тут і А к с і н н я з С а м а с е е в ы м, С е н ь к а - з а і к а, Л і х т а р о ў, п е р ш ы і д р у г і к а л г а с н і к і; Цярэшка спыніўся ля дзвярэй. Апошнім заходзяць К а в а л ь ч у к і Г р а ч о ў.

Г а л а с ы к а л г а с н і к а ў:

— Навошта нас выклікалі сюды?

— Час такі гарачы — хвіліна дарага!

— Нейкае следства вядзецца!

— На полі гарыць усё, а яны выдумляюць!

К а в а л ь ч у к. Таварыш Гудзееў, я ж вас прасіў не адрываць людзей ад работы. А вы паўбрыгады сабралі сюды.

Гудзееў. Таварыш Кавальчук, вы добра ведаеце, што я займаюся сур'ёзнай справай.

Кавальчук. Прашу вас, адкладзіце да вечара.

Гудзееў. Не магу. У мяне абмежаваны час.

Паўза.

Сенька-заіка. Старшыня, не дастаў бензіну. М-можа, таварыш Гудзееў дасць машыну...

Гудзееў. Якую машыну? Куды машыну?

Аксіння. Хворага хлопчыка ў бальніцу завезці.

Сенька-заіка. В-вашу машыну. З шафёрам я дамовіўся.

Гудзееў. Хворага? Заразнага? Не магу. Я не за сябе баюся... Мне з людзьмі сустракацца. Не магу!..

Кавальчук. Дзякую за шчырасць. *(Падыходзіць да тэлефона, звоніць.)* Алё. Райком, першага сакратара. Павел Іванавіч, з твайго дазволу я хачу канфіскаваць машыну ў Гудзеева... У нас захварэў хлопчык... дыфтэрыт... У бальніцу трэба завезці. А Гудзееў баіцца інфекцыі... Не дае. Што?

Гудзееў. Таварыш Кавальчук, калі ласка, можаце ўзяць машыну.

Кавальчук *(у тэлефон)*. Правільна. Я так і зраблю. З прыемнасцю... *(Калгаснікам.)* Следства адмяняецца! Ідзіце, таварышы, працаваць. Кожная хвіліна дарагая!

Гудзееў. Вы што?

Прыбегла Юля.

Юля. Цётка Аксіння!.. Там Колька... памірае... задыхаецца! Памажыце! Цётка Аксіння!.. *(Плача.)*

Аксіння. Ты што?.. Ты што сказала?

Кавальчук. А дзе ж наш доктар?

Маланка. Яна там, з Колькам...

Кавальчук *(Аксінні)*. Бярыце машыну і вязіце зараз жа ў бальніцу! *(Гудзееву.)* Слухайце, вы! Каб праз пяць хвілін... *(Стрымаўшы сябе, Сеньку.)* Сеня! Эвакуіруйце таварыша Гудзеева.

Калгаснікі і Кавальчук выходзяць. Застаўся дзед.

Сенька-заіка *(Да Гудзеева, карэктна)*. Вы пачакаеце сваю машыну ці... вам запрэгчы пару валоў?

Гудзееў. Вы што?.. Вы!.. Я афіцыйная асоба!

Сенька-заіка *(дзеду)*. Дзед, запрагай!

*аслона.*

# ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Вечарэе.
Раманава хата. Перад люстэркам Ю л я прымярае новае плацце.
Заходзіць М а л а н к а.

М а л а н к а. Ну, Юлька! Сёння мы з табою прэміі адхопім. На праўленні ўжо рашылі, і старшыня паслаў бухгалтара ў горад купляць нешта. Толькі чаму яны ў сакрэце трымаюць, якія прэміі?

Ю л я. Сюрпрыз, відаць, хочуць паднесці.

М а л а н к а. А можа, мне не спадабаецца?

Ю л я. Табе ляльку купяць — падабаецца?

М а л а н к а. Мне лялька не трэба. Замуж выйду — жывая будзе. *(Падышла да люстэрка, разглядае сябе ў новым плацці.)* Ну і дурні нашы хлопцы! Няўжо яны не заўважаюць, што я таксама прыгожая?

Ю л я. Адзін даўно заўважыў.

М а л а н к а. Думаеш, заўважыў?

Ю л я. Не прытварайся.

М а л а н к а *(не зусім задаволена)*. Толькі адзін...

Ю л я *(займаючы месца Маланкі перад люстрам)*. А колькі табе трэба?

М а л а н к а. Усе! Учора я табе так пазайздросціла... Калі мы зайшлі ў раймаг, дык усе хлопцы, што там былі, адразу ўтаропіліся ў цябе. *(Уздыхнула.)* А ты, ох, і хітрая ж ты,— быццам і не заўважаеш іх!

Ю л я. З хлопцамі заўсёды трэба быць строгай. Гэта іх больш інтрыгуе.

М а л а н к а. Ах, як табе да твару гэтае плацце! І бюст, і ў таліі так хараша. Толькі можна было б глыбей выраз на...

Ю л я. Навошта?

М а л а н к а. Больш інтрыгуе...

Ю л я. Не дуры галавы! Плацце вельмі добрае.

М а л а н к а. Дзіва што! Пяцьсот рублёў. *(Займае месца перад люстэркам.)* Наша модніца-доктарка заўтра лопне ад зайздрасці, калі ўбачыць нашы абновы.

Ю л я. А я ёй зайздрошчу.

М а л а н к а. Чаму там зайздросціць?

Ю л я. Усё-такі доктар — інтэлігентны чалавек.

М а л а н к а. Слухай, Юля, я і забыла табе сказаць. Васіль выпрасіў у бацькі даведку.

Ю л я. Якую даведку?

М а л а н к а. Што цябе адпускаюць з калгаса.

Ю л я. А хто яго прасіў? Скажы яму дзякуй.

М а л а н к а. Я сказала. І сказала, што ты вельмі рада будзеш.

Ю л я. А хто цябе прасіў? Чаму я буду рада?

М а л а н к а. Чаго ты хвалюешся? Гарадской станеш, інтэлігентнай. У канторы будзеш сядзець, паперкі падшпільваць...

Ю л я *(скеміла)*. Не падшпільвай ты мяне. Нікуды я не паеду.

М а л а н к а. А-а, Васіль прывязаў?

Ю л я. Пры чым тут Васіль?

М а л а н к а. Ты хоць мне не хлусі.

Ю л я. Ён табе падабаецца?

М а л а н к а. Вельмі... А табе?

Ю л я. І мне...

М а л а н к а. Ну вось і выходзь замуж. А то, чэснае слова, адаб'ю!

Ю л я *(паўжартаўліва)*. Спяшаюся, аж падаю. Толькі ж ён не бярэ.

М а л а н к а. А-а... *(Глянула ў акно.)* Глянь, ідзе... Сюды павярнуў. К табе. Можа, мне пайсці? Можа, я вам буду перашкаджаць?

Ю л я. Не, не, не, Маланка! Застанься.

М а л а н к а. А ты душой не крывіш? *(Таропка.)* Глядзі. Чуеш? А то я пайду. А? Чуеш? Юля!

Ю л я. Не, Маланка, я прашу цябе, застанься.

М а л а н к а. Ну, глядзі, а то будзеш каяцца.

У хату ўваходзіць В а с і л ь.

В а с і л ь. Добры вечар!

Ю л я *(проста)*. Добры вечар.

М а л а н к а *(гулліва)*. Добры вечар!

В а с і л ь. Якія вы сёння прыгожыя, дзяўчаткі!

М а л а н к а. І я?

В а с і л ь. Нават і ты.

М а л а н к а. Сход хутка пачнецца?

В а с і л ь. Хутка. Толькі вас не хапае. Вас чакаюць.

М а л а н к а. А бухгалтар прыехаў з горада?

В а с і л ь. Прыехаў.

М а л а н к а. А ты не ведаеш, якія ён падарункі купіў нам для прэмій?

В а с і л ь. Ведаю.

Маланка. Дык чаго ж ты маўчыш? Што? Што ён прывёз?

Васіль. Нешта прывёз, але гэта сакрэт.

Маланка. Ну, Вася, ну, залаценькі. Ну, даражэнькі, ну, скажы. Юля, скажы яму!

Юля. Не гавары, Вася, не гавары!

Маланка. Ах, дык вось як ты! *(Накідваецца на Юлю і жартаўліва пачынае лупцаваць яе.)*

Адчыняюцца дзверы, і ўваходзіць Раман.
Паўза.

Юля. Тата! *(Кідаецца яму на шыю. Плача.)*

Раман. Ну-ну, дачка... ну... што ты! Ну! *(Ласкава.)* Ах, ты-ы... Перастань... *(Гладзіць яе па галаве.)* Вярнуўся ж я. Ну вот... чаго плакаць?

Маланка. Добры вечар, дзядзька Раман!

Раман. Здарова, суседка.

Васіль. Добры вечар...

Раман не адказаў.

Маланка *(скеміла)*. Юля, дык мы пойдзем. Ты не прыйдзеш на вечар?

Маланка і Васіль выходзяць.

Раман. А гэты чаго тут аціраецца?

Юля. Ды ён проста... Сёння вечар у клубе, дык ён зайшоў. Разам з Маланкай зайшоў.

Раман. Не забывай, дачка, што яго бацька мяне ў турму пасадзіў... Каб яго нагі ў маім доме не было!

Паўза.

А Колька дзе?

Юля. Зараз прыйдзе. Ты, можа, прагаладаўся, тата?

Раман. Прагаладаўся.

Юля. Дык я зараз... *(Заспяшалася сабраць на стол.)*

Раман мые рукі.

Раман. Ну як ты тут без мяне. Спраўляешся?

Юля. Я ж не маленькая ўжо...

Раман. Та-ак вырасла... У калгасе робіш?

Юля. У калгасе. Мы з Маланкаю даяркамі на ферме.

Раман. А сваёй карове па зіму сена ёсць трохі?

Юля. Вазы тры. Малавата.

Раман. І то добра.

Юля. Ведаеш, тата, я хацела прадаць карову ў калгас.

Купляюць для фермы. Ды Кавальчук параіў цябе пачакаць.

Р а м а н. Прадаць? Чаму?

Ю л я. Лішнія клопаты з ёй. Дый з кармамі туга.

Р а м а н. Не, дачка, без каровы, без малака...

Ю л я. Чаму без малака? Мне за высокія надоі прэміяльнага малака выдаюць столькі, што хапіла б на нашу сям'ю з гакам. Усё роўна прадаю.

Р а м а н. Ты, Юля, не хлусіш?

Ю л я. Мы з Маланкай па чатыры тысячы зарабілі.

Р а м а н. Што?

Ю л я. Зарабілі па чатыры тысячы.

Р а м а н. Сядай. *(Сеў за стол.)* У цябе, можа, чарка самагонкі якой ці гарэлкі знойдзецца?

Ю л я. Ёсць. Я ж цябе чакала.

Р а м а н. У кустах сядзеў, пакуль сцямнела... Прастыў трохі.

Ю л я. У кустах?

Р а м а н. Не хацеў на людзі паказвацца... Бачыш — шчацінай зарос.

Юля знаходзіць паўлітра, ставіць на стол.

Сядай і ты.

Юля прысела каля стала. Раман налівае сабе шклянку і Юлі.

Ю л я. Тата, гэта мне многа.

Р а м а н. Пі, дачка! Ну, будзь здарова! *(Выпівае.)*

Ю л я. На здароўе! *(Таксама п'е.)*

Р а м а н. Пі ўсё — ты ўжо не маленькая.

Паўза.

А дзе ж Колька?

Ю л я. Колька?.. Ён у цёткі Аксінні ці ў Кавальчука.

Р а м а н. У Кавальчука?

Ю л я. Ён цэлымі днямі там прападае. Пястуе яго старшыня — з сабою возіць ці на машыне, ці на кані...

Р а м а н. Чаму дазваляеш?

Ю л я. А што тут такога? Са мной жа яму нецікава. Ён жа хлопец.

Р а м а н *(счакаўшы)*. Паправіўся?

Ю л я. Я табе не пісала, каб не трывожыць... Дыфтэрыт у яго быў... Каб не Кавальчук, дык...

Р а м а н. Даволі мне распісваць яго!

Ю л я. Цётка Аксіння наперамепку дзяжурыла ў бальніцы каля Колькі.

Р а м а н. Аксіння?

Ю л я. Прывык да яе. Цяпер часцей там начуе.

Стук у дзверы.

Р а м а н. Каго там нясе?

Адчыняюцца дзверы, заходзіць С а м а с е е ў. Ён ужо крыху падпіўшы.

С а м а с е е ў. Здароў, друг! Вярнуўся? Прыйшоў?

Р а м а н *(вітаецца)*. Вярнуўся.

С а м а с е е ў. Змарнеў ты, брат, там.

Р а м а н. Не на курортах быў.

С а м а с е е ў. Нялёгка, відаць, там, нясоладка?

Р а м а н. Пабывай, даведаешся. Туды запісацца няцяжка. Магу даць адрас.

С а м а с е е ў. Не давядзі гасподзь!

Р а м а н. То-та ж!

С а м а с е е ў *(глянуў на недапітую бутэльку на стале)*. Ну, Раман, давай вып'ем за тое, каб нашы ворагі пабывалі там. *(Вымае з кішэні паўлітра.)*

Р а м а н. Юля! Падай нам яшчэ чаго на стол.

Ю л я выходзіць.

А ты ў калгасе застаўся?

С а м а с е е ў. Застаўся. *(Уздыхнуў.)*

Р а м а н. На пасадзе якой ці радавым?

С а м а с е е ў. Радавым.

Р а м а н. Ну і дурань, што застаўся.

С а м а с е е ў. Я б не застаўся, ды... *(Налівае ў шклянкі гарэлку.)* Гад гэты, Кавальчук!.. Адно з двух, кажа, выбірай: ці пад суд, ці ўласным мазалём адрабі за ўсё, што тут натварыў.

Р а м а н *(смяецца)*. А-а, правільна.

С а м а с е е ў. Што правільна? А што я тут натварыў?

Р а м а н. Сам ведаеш. І ў раёне табе ніхто не дапамог?

Ю л я прыносіць і ставіць на стол закуску. Уключае святло.

С а м а с е е ў. Адвярнуліся ад мяне ў раёне. Цяпер Кавальчук у пашане. З першым сакратаром падружыўся. А ты ж сам ведаеш, калі першы за яго дык і іншыя таксама.

Ю л я. Чаго там! Гудзееў і цяпер найлепшы друг ваш.

С а м а с е е ў. Таму што чэсны чалавек!

Р а м а н. Сволач ён!

Ю л я. Чэсны? А з калгаса цягаў... праўда, вашымі рукамі.

Р а м а н. Юлька! *(Усміхаючыся.)* Падай цыбуліну.

Самасееў змоўчаў. Наліў яшчэ, чокнуўся і выпіў.

Ю л я *(ласкава)*. Тата, можа, хопіць табе? Не трэба болей піць.

Р а м а н. Не бойся, дачка, не ап'янею.

С а м а с е е ў. Пі, Раман, усё роўна нам з табой прападаць, пакуль Кавальчук тут. Цяпер ён на капі.

Р а м а н. А цябе, відаць, прыціснулі тут.

С а м а с е е ў. Прыціснулі... Ну, нічога... Я яшчэ не паддамся! Не з такой пароды Самасееў! Я яго, брат... Я яшчэ пакажу зубы! Падпільную! Не ўдалося адзін раз, на другім пападзецца! Ну, а калі пападзецца мне ў рукі, я яго накармлю салёным! Я яго кожны крок на паперачку, я яго кожнае слова на паперачку!..

Ю л я. А паперачка — чыстая, таму што Кавальчук чэсны, не хапуга і да людзей справядлівы!

С а м а с е е ў. Справядлівы? А да бацькі твайго справядлівы? А? У турму засадзіў. Чуеш, Раман? Справядлівы!

Ю л я выйшла ў другі пакой.

Выходзіць, я быў несправядлівы?!

Р а м а н. Ды і ты добрая цаца. І к табе без паўлітра было не прыступіцца. Не хваліся.

С а м а с е е ў. Выходзіць, і табе я не дагадзіў? А? А вось у турму цябе не я паслаў, а ён, справядлівы. А? Што? Такі-сякі, а нікому... нікога не паслаў туды! А гэты, хвалёны, паказаў табе, па чым фунт ліха! Што, не так? Ну, хай яна, яна знюхалася з сынам яго. А ты? А Колька твой дзе? У Кавальчука сіратой аціраецца. Цяпер табе кожны ў вочы пароць будзе — сядзеў, асуджаны, арыштант!

Р а м а н. Ану, замаўчы! *(Устаў, наблізіўся да Самасеева.)* Ты не трывож душу!

С а м а с е е ў. А-а, пячэ! Гарыць душа! А хто вінаваты? Я б яму за гэта чарапок праламаў бы. Я б яму нізашто не дараваў бы!

З другога пакоя выбягае Ю л я.

Ю л я. А ты на што яго падбіваеш? Га? Вон! Выйдзі вон!

С а м а с е е ў. За свёкра заступаешся?

Р а м а н. Юля!

Ю л я. Ідзі вон!

Р а м а н. Ідзі, Самасееў!

Самасееў. Добра, пайду.

Самасееў выходзіць. На парозе сутыкаецца з Маланкай і Аксінняй.

Аксіння *(нібы не верачы вачам)*. Прыйшоў!..

Раман. Вярнуўся. Ну, здарова, Аксіння.

Раман працягнуў Аксінні руку, яна схапіла яе, трасе. Аднак прысутнасць дзяцей, відаць, перашкаджае выяўленню іх сапраўдных пачуццяў. Маланка здагадалася.

Маланка. Ну, Юля, ты сабралася? Пойдзем!

Юля *(нібы просячы прабачэння ў бацькі)*. Тата! Мы пойдзем.

Раман *(не адводзячы вачэй ад Аксінні)*. Ідзіце...

Юля і Маланка выходзяць. Як толькі дзяўчаты выйшлі за дзверы, Аксіння абхапіла Рамана за шыю.

Аксіння. Вярнуўся! Прыйшоў! Дачакалася! Ух ты, нябрыты. *(Цалуе яго.)*

Раман *(расчуліўся)*. Ксеня! Ксеня! Ну, вот... Ну, вот... Бачу, чакала...

Аксіння *(нарэшце адарвалася ад Рамана)*. Мора слёз выплакала.

Раман *(выцірае яе твар хусткай)*. А цяпер навошта плакаць? Не трэба... Давай лепш вып'ем па чарцы. *(Налівае ў шклянкі гарэлку.)* Ну, Ксеня...

Аксіння *(бярэ шклянку)*. За тваё здароўе, арыштант ты мой нябрыты...

Раман і Аксіння выпіваюць.

Раман. А дзяўчаты нашы скемілі...

Аксіння. Усё яны ведаюць, Раманка. Нечага ад іх таіцца.

Раман. І не будзем таіцца. Я цяпер зразумеў: шчасце трэба чэрпаць поўнымі прыгаршчамі. Заўтра ж пяройдзеш у маю хату.

Аксіння. А можа, ты ў маю?

Раман. Мая лепшая. А гэты, старшыня, і цяпер у цябе жыве?

Аксіння. Пасля таго як арыштавалі цябе, я сказала яму, каб выбіраўся. Я яму ўсё сказала. І пра цябе і пра сябе. Што мужам ты быў і што цераз яго я другі раз аўдавела.

Раман. А я чаго толькі не думаў...

Аксіння. Ну?

Р а м а н. Думаў, што ён мяне ў турму адправіў, каб потым з табой... ён жа ўдавец...

А к с і н н я. Ну і дурны ж ты, Рома! Як ты мог пра мяне так думаць!

Р а м а н. Праўда, дурны.

А к с і н н я. І ён не такі чалавек. Ты паслухай, што людзі пра яго гаворацъ. Пры ім мы гаспадарамі сталі, і людзям не сорам у вочы глядзець. Хоць і строгі, а справядлівы.

Р а м а н *(спахмурнеў)*. Ну, не хвалі мне яго. Я яго дабрату і справядлівасць ведаю.

А к с і н н я. Калі хварэў Колька, ён двойчы ў бальніцу ездзіў, і цяпер так здружыліся старое і малое, што адзін без аднаго дня не пабудуць.

Р а м а н *(уздыхнуў)*. Я з ім яшчэ сыдуся на вузкай дарожцы.

А к с і н н я *(строга)*. Ты, Рома, не нарабі глупства! Не гарачыся, а паглядзі, падумай ды пачынай жыць як людзі. Чуеш!

Р а м а н. Ксеня, а Колька... ну, пра мяне хоць успамінаў? Пытаўся пра мяне?

А к с і н н я. Успамінаў.

Р а м а н. Ну?

Аксіння маўчыць.

Ну!

Аксіння маўчыць.

Што ён сказаў?

А к с і н н я *(ніяк не асмеліцца)*. Вось і сёння... Кладу яго спаць, а ён пытае: «Ці праўда, што мой тата... злодзей?»

Р а м а н. А ты што сказала?

Аксіння маўчыць.

А ты што сказала?!

Раман падняўся з-за стала, аж скрыгатнуў зубамі. Адышоў ад стала, пахіснуўся, бо прыкметна ап'янеў.

А к с і н н я. Я сказала: «Няпраўда, твой бацька чэсны... Вось вернецца, сам убачыш, што ён чэсны...» Ну, ну, супакойся, супакойся... Раман, ты ляж, паляжы... Ты ап'янеў, слабы стаў. А я пайду на сходзе пабуду. Потым я прыйду к табе. Там нашым дзяўчатам прэміі даваць будуць. Іх першыя прэміі...

Р а м а н. Ідзі...

А к с і н н я. Потым прыйду.

Р а м а н. Прыйдзі... «Праўда, што мой тата злодзей?..»

А к с і н н я выйшла.

Раман нейкі час стаіць хмуры, суровы, нібы на нешта рашаецца. Потым, паўтарыўшы словы сына: «А праўда, што мой тата злодзей?», апранае фуфайку і расчыняе дзверы, нібы ў хаце стала душна.

*Заслона.*

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

У глыбіні сцэны прыгожы вячэрні краявід. Зорнае неба. На пярэднім плане кусты і маладыя дрэўцы з залачоным лісцем. Дарожкі пасыпаны жоўтым пяском. Па баках дарожак — лавачкі. Непадалёку свецяцца вокны клуба.

З клуба даносяцца музыка, гоман моладзі, песні. Адтуль выходзяць В а с і л ь і Ю л я.

В а с і л ь. Накінь мой пінжак, а то прастынеш пасля танцаў. *(На плечы Юлі Васіль накідвае свой пінжак. Юля з удзячнасцю паглядзела Васілю ў твар і пайшла па алейцы да лавачкі. Васіль — за ёю.)* Ведаеш, Юля, як я называю гэту лавачку? Шчаслівая... Здагадваешся?

Ю л я. Здагадваюся... Дзіўны ты...

В а с і л ь. Сядзем!

Ю л я *(уздыхнуўшы)*. Сядзем.

В а с і л ь. А чаму ты так цяжка ўздыхаеш?

Ю л я. Бацька мой забараніў мне з табой... сустракацца.

В а с і л ь. Чаму?

Ю л я. Не здагадваешся?

В а с і л ь. Ну, ведаеш... Гэта ўжо не іх справа. Яны могуць сварыцца, могуць мірыцца, а станавіцца паміж намі не дазволім! Знайшліся новыя Мантэкі і Капулецы! Я колькі перахварэў за тыя дні, калі ты са мной не хацела гаварыць, калі ты мяне ворагам сваім лічыла праз бацькоў. А цяпер... Цяпер, калі мы адзін другога кахаем,— хто нам можа перашкодзіць? Ніхто! Ніколі!

Ю л я. Ніхто. Ніколі.

В а с і л ь. Любіш? Скажы, Юля. Верыш?

Ю л я. Веру.

В а с і л ь. Юля, а ты што сказала бацьку?

Ю л я. Нічога.

В а с і л ь. Скажам. Хочаш? Сёння ж.

Ю л я. Сёння не. Потым. Пасля. Пачакаем. Сёння бацька ведаеш які... Ён прыйшоў адтуль яшчэ днём, а да

вечара прасядзеў у кустах, не хацеў людзям на вочы паказвацца. Ты не ведаеш, які ён горды і самалюбівы. І потым... сёння ён вельмі п'яны... Бацьку твайму ён, баюся, ніколі не даруе.

Са службовага хода клуба выходзяць Гудзееў і Самасееў.

Самасееў *(усхвалявана)*. Вы заўважылі, таварыш Гудзееў? Гэта ж проста расправа за крытыку! Яны зводзяць асабістыя рахункі! Гэты Кавальчук спаганяе злосць за тое, што я не маўчаў і выкрываў іх цёмныя махінацыі як прынцыповы камуніст. Я прашу абараніць мяне ад расправы за крытыку.

Гудзееў. Абараніць? За якія такія заслугі?

Васіль і Юля выходзяць.

Самасееў. Я колькі год свайго свядомага жыцця аддаў без астатку партыі. Мяне паўраёна ведае! Я дзесяць гадоў кіраваў калгасамі! Я заўсёды быў гатовы на любую пасаду, куды б мяне ні паслалі, і раптам адабраць партбілет? Выключыць з партыі? Ды вы ж мяне ведаеце, таварыш Гудзееў?

Гудзееў. Ведаю... Але ж ты не бязгрэшны. Не бязгрэшны! Так бы і выступіў: вінаваты, крытыку прызнаю, памылкі выпраўлю. А то напралом. Не трэба было лезці на ражон. Зарваўся ты, Самасееў. Сам вінаваты — агрэсіўна вёў сябе на сходзе, не ацаніўшы расстаноўку сіл. Пралічыўся.

Самасееў. Дык і вы...

Гудзееў. А што я?

Самасееў. Успомніце, я ж ніколі вам не адмаўляў, калі трэба было што-небудзь. А яны грозяць мне пракурорам. Заступіцеся, таварыш Гудзееў, не пакідайце.

Гудзееў. «Заступіцеся»... А за мяне хто заступіцца? Гэту справу нельга дапускаць да райкома. Я спецыяльна прыехаў сюды, каб патушыць, а ты... Цяпер ад нас абодвух пахне смаленым, а ты не разумееш. Тут, на месцы, трэба ўладзіць усё па-харошаму.

Самасееў. Можа, вы сёння заначуеце ў мяне?

Гудзееў. Не. Заўтра дэманстрацыя, і мне на трыбуну трэба.

Самасееў. Ах, на трыбуну? Ну-ну... Толькі майце на ўвазе, што адтуль вас могуць папрасіць на далікатную гутарку ў пракуратуру. Там мы будзем суседзямі на адной лавачцы.

Гудзееў. Што?

Самасееў. Я на ўсякі выпадак схаваў тыя вашы запісачкі-распісачкі, дзе вы прасілі то воз сена, то яшчэ сёе-тое... Калі што, магу іх выцягнуць на свет божы.

Гудзееў. Ды ты... Ды ты... не зразумеў мяне. Ці я што супраць цябе?.. Наадварот... Ты мяне не зразумеў!

Самасееў. Зразумеў. Так што, бывайце пакуль што, таварыш Гудзееў.

Самасееў пайшоў.
З клуба выходзяць Кавальчук, Грачоў, Цярэшка, Ліхтароў.

Гудзееў *(Кавальчуку, спачуваючы Самасееву)*. Вы разумееце, што вы зрабілі з чалавекам? *(Спагадліва.)* Вы пільнуеце, каб чаго з ім не здарылася.

Цярэшка. А што з ім можа здарыцца? Хіба пера-п'ецца.

Грачоў. Абыдзецца. Ён пасля чаркі любіць добра закусіць.

Гудзееў. Усё ж такі ён чалавек, сям'я, дзеці... Я думаю, пагарачыліся вы.

Ліхтароў. Яму якраз гарачанькага і не хапала.

Гудзееў. Самасееў, канешне, правініўся. І вы правільна зрабілі, што прадралі яго з пясочкам. Але да райкома я б вам не раіў даводзіць. Навошта смецце выносіць з хаты?

Кавальчук. Гігіена — залог здароўя.

Грачоў *(да Гудзеева)*. А чаму?

Гудзееў. Там будуць яго прыціскаць, а ён стане на вас капаць. А навошта вам лішнія непрыемнасці нажываць?

Кавальчук *(спагадліва)*. І вам непрыемнасці могуць быць?

Гудзееў *(не раскусіў хітрага ходу Кавальчука)*. І мне таксама.

Кавальчук. Так бы і гаварылі.

Ліхтароў. Ах, вунь яно што! Самі баіцеся, а нас палохаеце? Неарыгінальна. Вы ўжо нам гразілі за тое, што мы крыху затрымалі пагашэнне крэдытаў. А ў райкоме ўсё-такі зразумелі нас, паверылі нам. Мы і дзяржаве даўгі вярнулі і гаспадарку вывелі. І цяпер там зразумеюць нас. Людзі там з галовамі.

Гудзееў. Таварыш Грачоў, вы як сакратар партарганізацыі павінны быць больш аб'ектыўным, выхоўваць

трэба, а не рубіць з пляча. У вас і так партарганізацыя невялікая, а вы...

Ц я р э ш к а. Зноў пагалоўе. Таварыш Гудзееў, наша партыя — не ферма, і ёй пагалоўе не трэба! Ад Самасеева партыі карысці, як ад таго казла — ні шэрсці, ні малака. А клопату па горла. Яму не партыя трэба, а партбілет. Вось як яно! Самасееў зноў да ўлады рваўся. Ведаем мы гэту пароду былых незамянімых. Чулі, што калгаснікі гаварылі на сходзе? А вы яго абараняеце. Ён вам даспадобы прыйшоўся? Дык забярыце яго сабе, можаце свой партфель насіць напераменку. І ведаеце, не блытайцеся вы пад нагамі ў нас. Мы сур'ёзнай справай заняты. А калі будзеце перашкаджаць, то і да вас дабяромся!

Г у д з е е ў. Гэта што? Пагрозы?

К а в а л ь ч у к. Не! Гэта пакуль што вымова без занясення ў асабістую справу.

Г у д з е е ў. Запомнім! Але я вам раю не даводзіць гэту справу да райкома...

Г у д з е е ў паспешліва выходзіць.

Ц я р э ш к а. Дык як яно, Цімафей? Правільна я сказаў ці, можа, не так? Усё-такі ён з раёна...

К а в а л ь ч у к. Можа, хочаш прабачэння прасіць?

Ц я р э ш к а. Ну, брат, не чакай! Я што думаў, так і сказаў. Шчыра! Паўтарыць магу, а прабачэння — не будзе!

К а в а л ь ч у к. Прынцыпова?

Ц я р э ш к а. А як ты думаў? Я ж цяпер ужо не той, што быў. Па сакрэту скажу: ад цябе навучыўся.

У клубе шум, рогат моладзі. Уваходзіць д з е д.

Л і х т а р о ў. Бач, як разгулялася наша моладзь. Можа, пойдзем глянем ды ўспомнім маладосць?

Ц я р э ш к а. Ну а ты, Цімафей?

К а в а л ь ч у к. Не, лепей я тут пасяджу, з дзедам пагаворым.

Кавальчук і дзед засталіся, а Ц я р э ш к а, Г р а ч о ў і Л і х т а р о ў пайшлі ў клуб.

Д з е д. Таварыш старшыня, гэта баба мая паслала к табе. Дык ты ўжо, будзь ласкаў, не крыўдзі яе.

К а в а л ь ч у к. За што яе крыўдзіць?

Д з е д. І мяне таксама. Дык ты прыйдзі. Кажуць, што ты гарэлкі не бярэш, дык мы ўжо спецыяльна ўзялі чыр-

вонага віна, салодкага, паўкварты. Чым багаты, тым і рады.

Кавальчук. Ну што ты, дзед?

Дзед. Не, не, старшыня. Ты сваё слова стрымаў. Мы за табой, як за сынам. Хату нам паставіў, дык ты прыйдзі ўжо на ўлазіны. Дый свята заўтра. А ў нас ні сыноў, нікога. Дык ты прыйдзі, як свой, як сын.

Кавальчук. Калі так, прыйду.

Дзед. Глядзі ж. А я пайду на пост. *(Пайшоў, але ўспомніў нешта, вярнуўся.)* Ты гарэлкі не бярэш, дык мы чырвонага, салодкага, спецыяльна ў магазіне куплялі.

Кавальчук. Дзякуй табе, дзядуня. *(Зняў шапку.)* Вялікае дзякуй.

Дзед. І табе дзякуй.

Дзед выходзіць.

Кавальчук *(адзін)*. Ах, стары, стары!..

Паяўляюцца Раман і Самасееў.

Самасееў. Вунь ён, твой крывасмок. Сядзіць і пуза гладзіць.

Раман падыходзіць да Кавальчука.

Раман. Ну, вот і я.

Кавальчук *(рады)*. Раман?! Вярнуўся?!

Раман. Вярнуўся! Вярнуўся пагаварыць з табой па душах.

Кавальчук *(зразумеў яго)*. Ну што ж, гавары.

Раман. Ты мне адкажы: праўда, што я злодзей? Што маўчыш? У цябе мой сын Колька пытаўся? Злодзей я ці не?

Кавальчук. Ты пра гэта ў самога сябе спытай, Раман.

Раман. Я цябе пытаюся. Што ты мне скажаш?

Кавальчук. Я разумею цябе, Раман. Ты не гарачыся, супакойся. І мне таксама хочацца пагаварыць з табой, як ты кажаш, па душах. Толькі...

Самасееў *(Раману)*. Чуеш, Раман? Які ён ласкавы. Сына твайго прыгрэў і дачку прэміяй надзяліў, каб віну перад табой згладзіць. У нявесткі гатоў узяць, абы ты змаўчаў. Вытрасі з яго душу, Раман.

Кавальчук *(Самасееву)*. Ах, які ты падлюга!.. Вось як ты хочаш са мной расквітацца! Чужымі рукамі? Чаму ж ты, труслівая твая душонка, сваімі рукамі баішся ўчапіцца ў горла? Га? Ён жа праз цябе ў турме сядзеў!

Ты сам краў і другіх зрабіў зладзеямі! А цяпер хочаш, каб ён за цябе ў турму пайшоў?.. *(Да Рамана лагодна.)* Ты, Раман, сёння п'яны. Адкладзём нашу размову на заўтра.

Самасееў. Ты яго не паіў! І размову адкладваць не будзем.

Раман. Правільна! Ты паіў! І размову адкладваць не будзем! Як жа тут разабрацца — чыя праўда? Хто вінаваты?

Самасееў. Ён вінаваты!

Раман. Сына, кажаш, прыгрэў, дачку надзяліў прэміяй?..

Самасееў. Сям'ю раскалоў. Каму ты цяпер патрэбен?

Раман. Думаеш, нікому? Друг ты мой сардэчны! А табе ж я спатрэбіўся? Толькі кулакі мае спатрэбіліся... А душу куды дзець? Вось табе кулакі! *(З размаху б'е Самасеева.)*

Самасееў. Караул! Б'юць! Ратуйце! Караул!

Кавальчук. Раман, супакойся.

Раман *(павярнуўся да Кавальчука)*. А цяпер з табой размову кончым. Я з людзьмі жыць хачу! Мне людзям у вочы глядзець трэба! Як мне людзям у вочы глядзець?! Ты мне скажы: злодзей я ці не? У мяне заўтра сын спытае гэта. Аслабані маю душу! *(Схапіў Кавальчука за грудзі.)* Адкажы мне!

Кавальчук *(спакойна ўзяў Рамана за руку)*. Раман, ты сам павінен даць адказ... сабе і людзям.

Раман. А ты, ты мне што скажаш?

Самасееў. Караул! Ратуйце! Бандзюга! Арыштант! Забіць хацеў!

Прыбягаюць Аксіння, Юля, Васіль, Цярэшка, Грачоў, Ліхтароў, Сенька-заіка, калгаснікі.

Аксіння *(кінулася да Рамана)*. Раман! Што ты робіш? Што ты надумаўся? Дурны ты!

Цярэшка. Што тут здарылася?

Самасееў. Арыштант! Бандзюга! Забіць хацеў!..

Цярэшка *(Раману)*. Ты што? Ты на каго руку паднімаеш?

Кавальчук. Церах, пачакай.

Цярэшка. Яму *(паказвае на Кавальчука)* усёй грамадой дзякаваць трэба! Яму пакланіцца трэба за ўсё, што ён зрабіў, каб у нас, каб мы, каб...

С е н ь к а - з а і к а. Каб людзі не журыліся!

Ц я р э ш к а. А ты на яго руку падняў?

К а в а л ь ч у к. Пачакай, Церах! Пачакай!

А к с і н н я. Старшыня! Даражэнькі! Даруй ты яму!

К а в а л ь ч у к. Аксіння, супакойся! Раман сёння не вінаваты. І яму няма чаго даравацъ. Калі ён паднімаў руку на грамадскае, на калгаснае, яму даравацъ не маглі. А сёння... Калі ён і падняў на каго руку, дык той *(шукае Самасеева)* сам вінаваты.

Самасееў знікае.

А табе, Раман, вось мой адказ: ідзі і саскрабі сваю шчаціну.

С е н ь к а - з а і к а. Як перажытак мінулага...

К а в а л ь ч у к. ...і пойдзем разам з людзьмі!..

*Заслона.*

*1957*

# ЛЯВОНІХА НА АРБІЦЕ

КАМЕДЫЯ Ў ТРОХ ДЗЕЯХ,
ЧАТЫРОХ КАРЦІНАХ

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Лушка — Лявонава жонка.
Лявон — яе муж.
Соня — іх дачка.
Міхал — яе жаніх.
Максім — яго бацька.
Буйкевіч — старшыня калгаса.
Клава — Лявонава суседка.
Мікалай Сяргеевіч — сакратар абкома.
Глуздакоў — старшыня райвыканкома.
Цесакоў — яго падначалены.

Час дзеі: у суседзяў — учора,
у нас — сёння,
у вас — заўтра.

Гэта ёсць наш апошні і рашаючы бой...

*З камуністычнага гімна*

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Цікавыя змены ў прыродзе пачынаюцца ў сакавіку. І не дзіўна. Сакавік — такі месяц, калі пачынаюць іграць сокі жыцця... Каварны месяц... З канца сакавіка і пачнём.

Позні вечар. Сярпок месяца асвятляе край сяла. Сілуэтамі ўзвышаюцца стагі сена. Недзе паблізу — калгасная ферма, адтуль зрэдку чуецца, як мыкаюць каровы. За стагамі ледзь віднеецца багатае сяло. Хаты свецяцца квадрацікамі вокнаў. Колькасць гэтых квадрацікаў ▪ кожнай хвілінай памяншаецца: людзі кладуцца спаць. І толькі занізка лямпачак вулічных ліхтароў спрачаецца ў яркасці з зоркамі ў небе ды месяцам.

Каля стагоў — вартаўнік М а к с і м, невялікага росту, рухавы дзядок гадоў пад шэсцьдзесят.

М а к с і м. Позніцца сёлета вясна... Марац канчаецца, а снег яшчэ з поля не сагнала...

Максім, заўважыўшы некага, прысеў, прыгледзеўся, потым адышоў пад стог, схаваўся ў цяні.

Паяўляюцца д в о е. Месячык свеціць вельмі скупа, і таму цяжка разгледзець гэтых людзей. Але што яны маладыя, можна лёгка дагадацца. Вось яны спыніліся. Стаяць адно супраць другога ў любоўным экстазе. Абдымаюцца, цалуюцца. Максім пад стогам кашлянуў, даючы маладым знак, што тут ёсць сведка. Дзяўчына войкнула і хацела ўцячы, але хлопец затрымаў яе.

Х л о п е ц. Не палохайся. Гэта мой стары. Хай прывыкае. Усё роўна мы заўтра пойдзем у загс. Ты ж за ноч не перадумаеш?

Д з я ў ч ы н а. Не.

М а к с і м *(з-пад стога)*. З кім гэта ты пойдзеш у загс?

Х л о п е ц. Заўтра даведаешся.

М а к с і м. Ці так жа прыстойныя людзі жэняцца, барбос ты гэтакі! А з бацькам параіўся? *(Набліжаецца да маладых.)* Ану пакажы, каторая яна...

Д з я ў ч ы н а вырвалася і пабегла.

Хлопец. Была, ды ўся вылецела.

Максім. Бач ты якая порсткая! Хто яна?

Хлопец. Самая харошая.

Максім. «Харошая»... Глядзі, падбірай хамут па мерцы.

Хлопец. Я не конь.

Максім. Ды ўжо і не жарэбчык.

Хлопец. Пайду.

Максім. Ідзі, ідзі... Хоць бы для прыліку параіўся з бацькам. Ці я ўжо табе проста — прышый кабыле хвост? І з яе маткай ды з бацькам пагаварыць трэба было б. Вяселле ж будзеш праўляць? Ці так, як певень, жэнішся? Колькі курэй на двары — усе мае?

Хлопец. Заўтра ў сваты пойдзем.

Максім. Глядзі, Міхал, цябе людзі сур'ёзным чалавекам лічаць...

Хлопец. Мне дваццаць сем гадоў...

Максім. Я па сакрэту чуў, што цябе дэпутатам у райсавет вылучаць будуць...

Хлопец. Бацька, што я папрашу...

Максім. Ну...

Хлопец. Панаглядай за фермай. Там сёння Ракета ацялілася. Двойню прывяла. Калі што, дык пазавеш мяне.

Максім. Бач ты. Двухступеньчатая, значыць. Ракета? Каля чыёй жа хаты цябе шукаць?

Хлопец. Каля... *(Спахапіўся.)* Я буду недалёка ад сваёй.

Міхал пайшоў.

Максім *(дабрадушна)*. Марцовы кот... *(Філасофствуе.)* От пайшла цяпер маладзёж! Што хачу, тое і варачу. Поўная свабода. Ну, праўда, мой — не промах, не дурань... *(Ізноў заўважыў некага.)* Яшчэ нехта... Адзін ці зноў двое? Ну канешне, вясна... Зайгралі сокі жыцця. Як кажуць, камары і тыя ў парах.

Максім хаваецца пад стог. Паяўляецца чалавек. Ён палахліва азірнуўся, прыслухаўся, а потым разаслаў посцілку і пачаў скубці з-пад стога сена і класці ў посцілку. Каб не пакінуць знаку, ён стараецца скубці стог з розных бакоў. І калі чалавек нацягаў ахапак сена ў посцілку і зайшоў за другі бок стога, каб насмыкаць яшчэ, Максім адступіў на гэты бок стога.

Максім. Ну, і што загадаеце рабіць? Ну, я ж цябе адвучу!..

Максім пастаяў і раптам надумаўся. Ён бярэ з посцілкі сена, сам кладзецца на посцілку і прыкрываецца сенам. З-за стога выходзіць

чалавек, кладзе паверх яшчэ сена, бярэ за рагі посцілку, звязвае вузел і... хоча падхапіць на плячо, але сілы на такі груз, відаць, малавата. Чалавек здзівіўся, яшчэ раз паспрабаваў, аднак таксама не разлічыў сілы: сам паваліўся. З посцілкі пачулася, як крактануў і вылаяўся Максім.

Максім. Ух ты... тваёй матары! Дык ты яшчэ і душыць?!

З сена высунулася Максімава рука і схапіла злодзея за каўнер. Чалавек, які краў сена, ніяк не чакаў такога. «Э-э-э...» — залямантаваў ён ад перапалоху, усхапіўся і кінуўся наўцёкі. Максім вылез з-пад сена.

Максім. Стой! Лаві яго! Лаві! Стой, махновец! Стой, ліха тваёй матары! Лавіце яго! Ату! Ату яго! *(Пабег за ім, але хутка вярнуўся.)* Зловіш яго! Чмыхнуў так, нібы яму прыставілі рэактыўны рухавік... *(Нарэшце адсопся.)* Брэшаш, анархія! *(Разглядае посцілку.)* Я цябе ўсё-такі знайду па гэтай посцілцы ў палоску.

Падыходзіць старшыня калгаса Буйкевіч.

Буйкевіч. Што за шум? Хто тут крычаў?

Максім. Ды тут, таварыш старшыня, агрэсар быў паявіўся на гарызонце, дык я адпор даваў.

Буйкевіч. Які агрэсар?

Максім. Сена скуб. Во — бачыш? Трафеі. *(Паказвае на посцілку.)*

Буйкевіч. А хто?

Максім. Не пазнаў у цемнаце. Уцёк.

Буйкевіч. Не дагнаў?

Максім. Дзе там! Драпануў з касмічнай хуткасцю.

Буйкевіч. Шкада!

Максім. Але я яму, шэльме, страху нагнаў. Пэўна, заікацца будзе з перапуду. Ну і бог з ім. А што! Яшчэ ў свяшчэнным пісанні сказана: «Не ўкрадзі».

Буйкевіч. Ён не па свяшчэннаму пісанню жыве.

Максім. Прызнацца па шчырасці — сабачая ў мяне пасада.

Буйкевіч. Але і без яе пакуль што нельга.

Максім. Ну, вядома. На ўсё сяло завядзецца адна такая шэльма, а вартаўнікоў трэба чалавек пяць-шэсць. Чорт жа яго ведае, на што ён пагаліцца. От сёння сена ўпадабаў. А заўтра, можа, яму яблык захочацца. Значыць, і туды, у сад, стаў будан і вартаўнікоў. А потым загарацца ў яго вочы на агуркі — стаў ад яго пугала і ў агародзе. А там, глядзіш, і ў куратнік яго пацягне. От і выходзіць — ён адзін, а для яго прыходзіцца трымаць цэлы ўзвод вар-

таўнікоў. А вазьмі горад. Колькі там магазінаў? Тысячы. І каля кожнага круглы год тарчаць вартаўнікі. Зарплату палучаюць. Сяджу вось я тут начамі і думаю: які ўрон наносяць дзяржаве гэтыя мазурыкі! Нават тады, калі яны проста спяць, а не крадуць. Прыблізна падлічваў — дзесяткі мільёнаў. Выгадней было б узяць іх на ўтрыманне і плаціць ім самую вялікую пенсію.

Буйкевіч. Каму?

Максім. Ды тым, ад каго вартаваць прыходзіцца. *(Буйкевіч смяецца.)* І адкуль яны бяруцца, ліха іх матары? І калі на іх звод будзе?

Буйкевіч. Пры камунізме перавядуцца.

Максім. Думаеш?

Буйкевіч *(паказаў на посцілку)*. А ты пастарайся знайсці гэтага. Можа, ён у нас апошні.

Максім. Заўтра ранен ька ўсё сяло абыду, а знайду. Сам не прызнаецца, дык суседкі ўгадаюць, падкажуць. Каб на маю ўладу, дык я павесіў бы яму на шыю бразготку ці балабон, каб усе чулі і бачылі, куды ён пайшоў, што панёс. За ўсе мае бяссонныя ночы кара была б.

*Заслона.*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Прыйшла раніца, ясная, сонечная, вясновая. Пачынаўся звычайны выхадны дзень, а ў Лявонавай хаце прыбрана, як перад святам: чыста, утульна, светла. Па ўсім відаць, што ўчора тут пахадзілі дзявочыя рукі. Пэўна, чакала Лявонава дачка, пэўна, ведала, што сёння прыйдуць у хату сваты, і пастаралася. Не хата, а церамок. Толькі нешта гаспадар цяжка ўздыхае. Ляжыць Лявон на печы і цяжка-цяжка ўздыхае. Нават шкада яго. Прыйшла дахаты Лявонава жонка — Лушка. Яна толькі што вярнулася з фермы, дзе ўдосталь напрацавалася. Распранулася і прысела на хвілінку адпачыць.

Лявон. Ты, Лушка?

Лушка. Я. І чаго толькі не прыдумалі людзі: і спутнікі, і тэлевізар, і ўсялякую аўтаматыку, а каб аблегчыць вясковай бабе хатнюю работу — ні ў каго галава не баліць. А добра было б: прыйшла, націснула кнопку і — снеданне гатова, пасуда вымыта, хата падмецена...

Лявон цяжка ўздыхае.

А ты чаго там уздыхаеш, як з перапою?

Лявон маўчыць.

Можа, захварэў? Нешта ты сёння ўсю ноч вохкаў. *(Спагадліва.)* Можа, захварэў, кажу? Чуеш ты?

Л я в о н. Жывот сапсуўся.

Л у ш к а. З'еў што-небудзь нясвежае ці падняў нешта цяжкае?

Лявон маўчыць.

Ай, Лявонка, як жа ты не ў час захварэў!..

Л я в о н. Ды не захварэў я, не бойся...

Л у ш к а. Ну то хуценька спускайся з печы. Я табе нешта такое скажу...

Л я в о н. Глупства скажаш...

Л у ш к а. Не, не глупства. Я сама не ведаю, ці радавацца гэтаму, ці плакаць. Ты не дагадаўся, чаму гэта Соня наша так старалася ўчора, прыбірала ў хаце?

Лявон маўчыць.

І мне недаўцям было, а яна гасцей чакае.

Л я в о н. Якіх гасцей?

Л у ш к а. Сватоў.

Л я в о н. Якіх сватоў? Я ж ведаў, што скажаш глупства.

Л у ш к а. Ды злазь ты, лайдак, з печы, а то качаргой сцягну. Закінуў аглоблі на шасток і ляжыш, а тут людзі грымнуць у хату.

Л я в о н. Не крычы, злажу...

Лявон злазіць з печы.

Л у ш к а. Ды апраніся па-людску, а то сораму не абярэшся.

Лушка нешта шукае, потым звяртаецца да Лявона.

Дзе тая посцілка ў палосачку, што ў парозе ляжала? На дварэ распусціла, гразка, няма аб што ногі выцерці...

Лушка зноў шукае.

Л я в о н. Не шукай...

У Лявона торгаецца адна шчака, можна падумаць, што ён падміргвае жонцы.

Л у ш к а. Што?

Л я в о н. Што — што?

Л у ш к а. А чаго ты мне падміргваеш?

Л я в о н. Ат, не пытай...

Л у ш к а. З пераляку ці, можа, нядобры сон прысніўся?

Л я в о н. І праўда, такі сон прысніўся, што мурашкі і цяпер па спіне бегаюць. Нібы сплю я і чую, што на двары нейкі перапалох. Карова мыкае, а сабака так вые, што проста ваўком вые. Выйшаў я на двор. А ноч светлая-светлая, месячная. Задраў я галаву і ахнуў. На небе маладзік — в-во такі вялізны серп! А на тым маладзіку ты сядзіш. Сядзіш і газету чытаеш. Я азірнуўся: ці не бачыць хто. І крычу: «Злазь, дурніца!» А ты лыбішся, зубы скаліш і, як заўсёды...

Л у ш к а. Не злезу?

Л я в о н. А то ж яно. Я крычу: «Злазь, а то людзі ўбачаць, засмяюць. Усё сяло ўпокат ляжа, ад смеху жываты надарвуць. Цераз цябе і я сораму не абяруся». А ты хоць бы хны. Сядзіш і нагой калышаш. «Ты чуеш,— крычу,— карова мыкае. Можа, звечара не падаіла?» А ты мне адтуль кукіш пад самы нос...

Л у ш к а. І дастала з неба?

Л я в о н. Ды ўжо ж... А Буржуй наш так брэша, так вые, аж заходзіцца. Я хацеў цыкнуць на яго. Толькі гляджу — гэта не сабака, а... Мітрафан Сазонавіч. Ды так ірвецца, так кідаецца на цябе...

Л у ш к а. А што я яму? На хвост солі насыпала?

Л я в о н. І к чаму б гэты сон? Ну сабака — гэта друг. А ты чаго на маладзік залезла?

Л у ш к а. Захацела і залезла. *(Шукае пасцілку.)* Дзе ж гэта пасцілка ў палоску?

Л я в о н. Ты вось што... Ты гэта... Ты не шукай пасцілку. *(Зноў падміргвае.)* Я згубіў яе.

Л у ш к а. Як гэта згубіў? Дзе ж ты яе згубіў?

Л я в о н *(злуецца)*. Дзе, дзе!.. Згубіў, і ўсё!.. І калі што, дык ты, гэта во, не прызнавайся!

Л у ш к а. Як гэта не прызнавайся?

Л я в о н. А так, не прызнавайся, і ўсё! Не твая пасцілка, і баста! Не ведаю, і ўсё тут! Калі знойдзе хто.

Л у ш к а. Як жа не мая, калі яна мая?! Ой, Лявон, нешта ў лесе вялікае-вялікае здохла. Нездарма ты так. То, бывала, каб здаць у магазін вышчарбленую бутэльку, дык ты гатоў паўдня сядзець ды сургучом замазваць шчарбіну... А тут — пасцілка, і ты: «Не прызнавайся!» Натварыў нешта?

Л я в о н. Глупства, нічога я не патварыў. Толькі... на вуліцу будзе — не пакажыся, засмяюць. А я не хачу, каб з мяне смяяліся. Ясна? Не хачу!

Л у ш к а. Дык ты хоць мне прызнайся.

Лявон. І табе не трэба ведаць. Глупства, і ўсё!

Лушка. Ты нешта фінціш, Лявон. Можа, з другой бабай накрываўся посцілкай, а цябе спаймалі?

Лявон. Што ты вярзеш немаведама што! Разумееш? Прашу: не прызнавайся. Значыць, не прызнавайся, калі прашу. Можаш ты гэта зрабіць? Каб далей ад ліха.

Лушка. Добра, добра. Дык ты і міргаеш пасля гэтага? І жыватом качаешся ад таго?

Лявон. Каб з табой так, то, можа, і не такое было б...

Лушка. Ну, глядзі, Лявоп!..

Лявон. Ты пра якіх там сватоў гаварыла?

Лушка. Да Сонькі да нашай, дачкі твае!

Лявон. А хто?

Лушка. Мішка, заатэхнік. Максімаў сын.

Лявон *(аж ікнуў)*. Стаража Максіма?

Лушка. А то якога ж! Ідзі апраніся ды кудлы расчашы. *(Падыходзіць да шафы з адзеннем.)* Які табе касцюм? Карычневы ці сіні ў палосачку?

Лявон. К чорту палосачкі! *(Лявона аж перасмыкнула.)* Давай які-небудзь!

Лушка. Карычневы?

Лушка адчыняе шафу, падае Лявону касцюм, сарочку, гальштук.

Вось, апраніся!

У хату прыбягае Соня.

Соня. Мама! Ну што ж вы сядзіце?

Лявон выходзіць у другі пакой, каб пераапрануцца.

Лушка. Я зараз, дачушка, зараз. А хто там прыйдзе?

Соня. Не ведаю. Можа, нават сам старшыня... Ён жа любіць Мішу. Сам назваўся...

Лушка. Ды што ты? Рыбка мая!.. Такі пачот, а тут... *(Выцірае традыцыйную слязу.)*

Соня. Не плач, мамуля. Гэта ж толькі для формы. Мы ж усё роўна рашылі. А сваты — гэта каб вас не пакрыўдзіць.

Дачка і маці пачынаюць распранацца, каб надзець новыя плацці.

Соня. Якое мне плацце надзець? *(Гаворыць, ідучы ў суседні пакой.)* Можа, з тафты?

Лушка. Ты ж лепш ведаеш, што яму падабаецца...

Соня выходзіць у другі пакой, а за ёю ідзе Лушка. Уваходзіць Лявон. Ён у шыкоўным карычневым касцюме.

Л я в о н. От пікавае становішча!.. Значыць, Максім сватам будзе... Ах, каб табе ўчора пуста было! *(Падумаўшы.)* А можа, яно і к лепшаму?.. Усё-такі — сваты!..

Л я в о н зноў падміргвае. Падыходзіць да акна. Нешта заўважыў там. Спалохаўся. Задам адступае ў пакой, з якога толькі што выйшаў.

Хата пусцее.

Уваходзяць М а к с і м з посцілкай у руках і суседка К л а в а, саломенная ўдава, маладая томная жанчына.

М а к с і м. Дзень добры ў хату! А тут нікога няма... Дык ты добра ведаеш, што гэта іхняя посцілка?

К л а в а. А чыя ж? У іх такую брала.

М а к с і м. Ну, то заві іх сюды.

К л а в а. Лушка! Лявон! Дзе вы?

Клава заглядае ў пакой, дзе схаваўся Лявон.

Добры дзень, Лявон Сцяпанавіч! Ух ты... які ты!.. *(Какетліва.)* Вачэй не адвесці!..

Л я в о н уваходзіць.

М а к с і м. Здароў, Лявон!

Л я в о н *(падміргвае)*. Добрага здароўя!

М а к с і м *(паказвае на посцілку)*. Твая?

Л я в о н *(вельмі паспешліва)*. Не, не, не мая.

Уваходзіць Л у ш к а.

М а к с і м. Добры дзень, гаспадыня!

Л у ш к а. Дзень добры, госцейкі, дзень добры! Заходзьце, сядайце! *(Азірнулася на дзверы, нібы чакае яшчэ некага.)*

К л а в а. Лушка! Максім во нейкую посцілку знайшоў. Ці не твая гэта?

Лушка разглядвае сваю посцілку, потым глядзіць на Максіма, суседку, мужа. Лявон адчувае сябе так, нібы ў яго абрэзалі ўсе гузікі на штанах. Нервовы цік стаў яшчэ больш прыкметны.

Л у ш к а. Не, не мая.

К л а в а. А мне здалося, што твая. Я ж у цябе такую брала, калі праветрывала сваё проса.

Л у ш к а. Не, галубка, не мая... Ты, відаць, памылілася.

М а к с і м *(заўважыў, як Лявон падміргвае)*. А ты чаго міргаеш?

Л у ш к а. Ды гэта ў яго з начы. Прысніласяя яму што, ці што?

М а к с і м. А можа, звечара?

Л у ш к а. Не, з начы. Устаў раніцай — і міргае, як кантужаны.

М а к с і м. Можа, ты яго знячэўку качаргой агрэла?

Л у ш к а. Што ты! Пакуль не дайшло да гэтага. Хіба пасля...

М а к с і м *(падазрона)*. Дык не твая, кажаш, посцілка?

Л у ш к а. Не, Максімка, не мая.

К л а в а. А ты разгледзь яе харашэнька, можа, і твая.

Л я в о н. А што яе разглядаць? Што яна — карціна якая, ці што.

М а к с і м. Ну і хвала богу, што так выйшла. А то ліха ведае, як бы яно павярнулася...

К л а в а. Што гэта вы сёння так прыбраліся? На вяселле, можа, куды ці на хрэсьбіны?

Л у ш к а. А чаму ж нам не прыбрацца? Што ж гэта дабро ў шафе будзе вісець, каб моль ела? Сёння выхадны дзень, дый... Максім жа во прычапурыўся, хоць і стары... *(Заўважыла праз акно.)* Ой, і старшыня нечага да нас прамуе...

М а к с і м. Ты і сапраўды не ведаеш ці прыкідваешся?

Уваходзяць с т а р ш ы н я і М і х а с ь. Вітаюцца.

Б у й к е в і ч. Мы яго шукаем, а ён тут ужо. Можа, і справу ўладзілі без нас? А? Максім Іванавіч? Ці ты, можа, не давяраеш мне як свату?

М а к с і м. Ды я ўсё шукаў — чыя гэта рэч. *(Паказвае на посцілку, якая ляжыць на стале.)*

Б у й к е в і ч. Ну і што? Знайшоў?

М а к с і м. Пакуль што не. Ніхто не прызнаецца.

Б у й к е в і ч. Ну і ліха з ёй. *(Звяртаецца да гаспадарой урачыста і нават крыху напышліва.)* Завіталі мы да вас, дарагія гаспадар і гаспадыня, па справе першай важнасці.

Л у ш к а. Дык вы сядайце, калі ласка, сядайце.

Б у й к е в і ч. Калі паладзім, тады і сядзем. *(Падміргвае Максіму, каб і ён устаў.)*

Максім становіцца поруч з сынам.

Прыйшлі мы чалом біць вашай светласці. Наш князь-удалец Міхаіл Максімавіч...

М а к с і м *(перапыняе)*. Заатэхнік ён на ферме, а не які-небудзь князь...

Б у й к е в і ч. Пачакай, Максім! Не збівай з панталыку... Наш князь-удалец Міхаіл Максімавіч на паляванне

хадзіў, за куніцаю сачыў. А сустрэў ён куніцу, красу-дзявіцу — сэрца ёкнула. Запалала маладое, загарэлася, завалодаць куніцаю захацелася. Князь паставіў пытанне — куніцу злавіць і ў свой церам-дамок на прастол пасадзіць. А куніца тым часам зачаравала малайца і ўцякла ад яго. Вось і ходзім па свеце, блукаем, у людзей пытаем, куніцу шукаем. Таварышы з фермы нам падказалі, што куніцу вы тую ў сваім доме схавалі. І прыйшлі мы да вас біць чалом. Ці па-добраму згодны яе нам аддаць, ці за выкуп вялікі князю прадаць, ці нам прыйдзецца сілаю яе адабраць?

Л у ш к а. А ці наш церамок для яе не дамок?

Б у й к е в і ч. Для вашай куніцы ёсць другая святліца.

Л у ш к а. Ды і ў нас не цямніца.

М а к с і м. Ну яна цяпер завялася на паўдня...

Б у й к е в і ч *(вядзе ігру далей)*. Ой, глядзіце, добрыя людзі, засумуе ў вас тут куніца, зачахне, завяне. Прывядзіце сюды, ды на князя свайго хоць разок няхай гляне.

Л у ш к а *(кліча)*. Соня! Соня! Хадзі-тка сюды!

М а к с і м. Ну дык вы, значыць, згодны? Ці як?

Л у ш к а. Ці цяпер той час, калі бацькоў пра гэта пытаюць?

Б у й к е в і ч. А гаспадар чаго маўчыць?

Л я в о н. Папалася рыбка на кручок, то ўжо не вярці хвастом.

Уваходзіць С о н я ў сваім лепшым плацці. Вітаецца.

С о н я. Добры дзень!

М а к с і м *(аж крактануў ад прыемнасці)*. Не дурань, не дурань...

Л у ш к а. Дык вось, Сонейка, прыйшлі да нас госці вялікія...

М а к с і м. Ды яна яшчэ ўчора ведала...

Соня засаромелася.

Не саромейся, мы цяпер радня...

Л у ш к а. І Міхал нешта маўчыць...

М і х а л. Просім вашай згоды. З Соняй мы ўжо рашылі. Так?

С о н я *(саромеючыся)*. Учора рашылі.

Л я в о н. Ну, выходзіць, што наша дзела такое — выпіць і закусіць.

Л у ш к а. Табе толькі выпіць ды закусіць.

Л я в о н. А чаго там валаводзіць? Хлопец ён — што трэба, зарабляе нямала. Пальцам на яго не тыкаюць. Ды і, праўда, на ферме ён — князь.

Л у ш к а. Дый маці яго хваліла. Не цураецца і ў хаце памагчы.

М а к с і м. Яны ў мяне ўсе такія. Змалку прывучаны. Не глядзі, што з дыпломам, а трэба — дык і падлогу памые.

Б у й к е в і ч. Значыць — аддасцё куніцу?

Л у ш к а. Я згодна.

Б у й к е в і ч. Ну як? Не благім я сватам быў? Максім? Міхал? А?

К л а в а. Ой, старшыня, я нават здзівілася. Так складна гаварыў.

Л я в о н. Не гаварыў — пеў! Як Лемешаў.

Л у ш к а. Я думала, што вы толькі пра ферму ўмееце складна ды супроць прысядзібных участкаў, а вы... Як па пісанаму.

Б у й к е в і ч. Ну, калі так...

Буйкевіч вымае з кішэні бутэлькі з гарэлкай і віном.

К л а в а. То я, можа, пайду, а то... Нязваная, няпрошаная, а тут такое дзела...

Л я в о н. Чаго там! Заставайся. Чарку з намі вып'еш. Суседка ж.

Суседка з яўным задавальненнем прысаджваецца каля стала. За стол садзяцца Лявон з Максімам, старшыня і Міхась. Старшыня ставіць на стол бутэлькі. Соня заўважыла на крэсле посцілку і здзівілася такому непарадку.

С о н я. Мама! Ды што вы... Не знайшлі другога месца для гэтай посцілкі?

Соня бярэ посцілку і хоча разаслаць яе ў парозе.

М а к с і м. А ці ж гэта ваша посцілка, Соня?

С о н я. А чыя ж?

М а к с і м. Няўжо ваша? Ты харашэнька паглядзі.

С о н я *(разглядзеўшы посцілку)*. Ну, вядома. Вот жа я меціну зрабіла летась, калі ў кладовую давала...

Усе павольна падпімаюцца з-за стала. У Лявона цік зноў становіцца больш прыкметны. Ён адчувае сябе так, як тхор у капкане: то на жонку гляне, то на дачку, то на Максіма. Лушка таксама, прадчуваючы нядобрае, паглядае то на суседку, то на мужа, то на Максіма. Максім стаў суровы і хмуры. Ён пераводзіць позірк з Лявона на старшыню. А той, ведаючы, у чым справа, абвёў вачыма ўсіх прысутных і спыніў свой позірк на маладых. І толькі яны, нічога не ведаючы, недаўменна пераглядаюцца.

М а к с і м *(Лявону)*. Дык гэта ты, значыцца, учора быў? *(Лявону нічога не застаецца, як толькі падміргваць.)*

Л у ш к а *(амаль праз слёзы)*. Што ж ты натварыў, Лявон?

М а к с і м *(Лявону)*. Што міргаеш?

Б у й к е в і ч. Максім! Ша! Улічы гістарычную важнасць моманту! *(Паказаў вачыма на маладых.)* Гаспадыня! Стаў чаркі на стол! Падавай закусь! Сядайце! Сядайце! Маладыя! Займайце пачэснае месца!

Усе сядаюць, толькі Лявон яшчэ не апамятаўся, стаіць.

Л у ш к а. Па закону ім яшчэ рана поруч садзіцца. Соня, памагай мне.

Маці і дачка пачынаюць збіраць на стол.

Б у й к е в і ч *(Лявону, двухсэнсава)*. А табе па закону самы раз садзіцца...

Л я в о н. За што? Гэта яшчэ не факт!

Б у й к е в і ч *(рагоча)*. Як не факт? Сваты — не факт? Жаніх — не факт?

Лушка і Соня ставяць на стол чаркі і закуску і самі прысаджваюцца да стала.

Л у ш к а. Чым багаты, тым і рады.

К л а в а *(Лушчы)*. Паглядзіш на тваю Соньку і дзіву даешся. Ці даўно гэта было: рукавом нос выцірала, а цяпер, глядзі, як расцвіла! Ай, як час бяжыць! Азірнуцца не паспеем, як састарымся...

М а к с і м. О, і яна туды ж... Састарымся... А па вечарах так сакоча, каб прыманіць чыйго-небудзь мужыка...

К л а в а. Засакочаш, калі свайго няма. З'ехаў жа, каб на ім ліха ездзіла. *(З захапленнем.)* А Міхал — які мужчына стаў відны!

Л у ш к а *(раўніва)*. Ну, ну, ты!.. Загарэлася вока...

Б у й к е в і ч *(наліўшы чаркі)*. Ну, дарагія мае, шаноўныя мае! Давайце вып'ем за маладых! Каб у іх шчасце было поўнае, як гэта чарка, каб у іх жыццё было светлае, як гэта чарка!

К л а в а. І каб п'янелі яны ад шчасця, як ад гэтага віна!..

Чокаюцца, выпіваюць.

Л у ш к а. Закусвайце, госцейкі, закусвайце. Еш, Міхалёк, еш, зяцёк!..

Л я в о н. А цяпер давайце за свата нашага, за старшыню.

Б у й к е в і ч *(перапыняе)*. Ды што вы, што вы!..

Л у ш к а. Не, не, старшыня! Гэта ж чэсць якая і дзецям нашым і нам...

Л я в о н. Як кажуць, свату першая чарка...

Б у й к е в і ч. ...і першая палка?

Л я в о н *(амаль сур'ёзна)*. Калі што, дык і гэтага не купіць. Але я думаю, што да гэтага не дойдзе. Ты нібы і парадніўся ўжо з намі, сваім стаў, так сказаць. А наш род вялікі: сем братоў у мяне і дзве сястры. І ўсе тут жывуць. А ў кожнага брата жонка. І ў жонкі таксама браты. У сясцёр мужыкі, і яны не без роду-племені. Так што калі з намі будзеш дружна жыць, то будзе табе моцная падпорка.

М а к с і м. От, ужо і купляе старшыню...

Л я в о н. Не купляю, а саюз прапаноўваю!..

М а к с і м. Амерыка Расіі прапануе дагавор!.. Я раблю што хачу — ты не перашкаджай мне. Дагавор аб сусіснаванні, ці што?

Л я в о н. Аб дружбе. І Амерыка тут ні пры чым.

М а к с і м. Мір, значыцца? На які час? Пакуль сцямнее?

Б у й к е в і ч. Ша, Максім! Важнасць гістарычнага моманту!.. Я згодзен, Лявон Сцяпанавіч! Толькі род мой большы. Мне ўсе калгаснікі — мая радня! А цяпер давайце вып'ем яшчэ і за...

М і х а л. Ого! Старшыня набірае тэмпы, нібы і ў гэтым хоча перагнаць Амерыку!

Б у й к е в і ч *(паказвае на чарку)*. У гэтым мы ніколі ад яе не адставалі, заўсёды наперадзе былі. І каб нават у гэтым не здаваць сваіх пазіцый, давайце вып'ем за бацькоў, якія ўзгадавалі нам такіх прыгожых, такіх харошых дзяцей! Я скупы на пахвалу, але скажу чэсна: такім сынам, Максім, можаш ганарыцца. Слава нашага калгаса — перш за ўсё яго слава. Дзе, які калгас можа пахваліцца такім заатэхнікам? Дзе яшчэ такія фермы, як у нас? Куды ездзяць нават з другіх абласцей павучыцца? К нам! У яго вучацца. Хоць ён і малады.

М а к с і м. Не перахвалі, старшыня. Зазнаецца.

Б у й к е в і ч. Зазнаецца — у крапіву пасадзім. Дый не зазнаецца, ён — камуніст. А Соня? Верны памочнік яму на ферме! Хоць і скончыла толькі дзесяцігодку, але... Эх, зайздрошчу я вам, Максім і Луша! Дый самі вы добрыя людзі: чэсныя, рабацяшчыя, светлыя. За ваша здароўе!

Усе дружна выпіваюць.

Л я в о н *(з ноткай крыўды)*. А я, значыцца, з боку прыпёку?..

Б у й к е в і ч. І пра цябе скажу... Мужык ты гаспадарлівы, кемлівы... Рукі ў цябе...

М а к с і м *(устаўляе слова).* ...даўгаватыя рукі.

Б у й к е в і ч. ...таксама з мазалямі. Толькі мазалі тыя ты нажыў...

М а к с і м *(зноў устаўляе).* ...скубучы сена.

Б у й к е в і ч. Максім! *(Вядзе сваю думку далей.)* ...мазалі нажыў ты на сваім агародзе, у сваім садку. Не на калгаснай ферме, полі. *(Са скрытай іроніяй.)* Я разумею, ты тут не вінаваты. Жонка на ферме занята, дачка таксама. Ім няма калі займацца сваім агародам. Вось на цябе і ўзвалілася твая сядзіба.

Л я в о н. Верна.

Б у й к е в і ч. Яна табе і не дае стаяць уровень з жонкай і дачкой. Таму пакуль што не твой партрэт памясцілі ў газеце, а тваёй жонкі. Але я думаю, што ты скора вызвалішся ад сваёй дробнаўласніцкай абузы. Свабодным чалавекам станеш, камунізм будаваць возьмешся...

Л я в о н. Э-э, старшыня... Як гэта — вызвалішся? Я, канешне, згодзен на камунізм...

М а к с і м. Калі згодзен, прадай сваю карову на калгасную ферму. А то... завядзе яна цябе туды, куды Макар цялят не ганяў...

Л я в о н. Ты мяне не пужай!.. А карову сваю я не павяду на ферму.

Л у ш к а. Ты, Лявон, не пярэч. Ты цяпер маўчы і не дыш. *(Старшыні і Максіму.)* Як людзі, так і мы. Ад людзей не адстанем.

Л я в о н. Людзі, можа, становяць насы адразаць, дык вы загадаеце і мне?

С о н я. Тата! Ну што за глупства вы гаворыце?

К л а в а. А я сёння павяду. Няма выгады.

Л я в о н. Калі ласка! Ты перадавая, а я... пачакаю... *(Па-філасофску.)* Што такое карова?

М а к с і м *(пасля паўзы).* Сенаспажывец.

Л у ш к а. Ну-у... малако... смятана...

К л а в а. Масла...

Л я в о н *(з пагардай).* Бабскі розум. А вось ён разумее. *(Паказаў на старшыню.)* Таму і такі прыцэл бярэ... Карова — гэта мая свабода, мая эканамічная незалежнасць. Гэта — мой бастыён, мой дот! Расшыфроўваю: «долговременная аборонительная точка».

М і х а л. Ад каго ж вы будзеце бараніцца ў сваім рагатым бастыёне?

Буйкевіч. Хіба не ясна? Ад камунізма.

Лявон. Што вы за людзі? Ну чаго спяшаецеся? Што вы мяне гоніце? Дайце агледзецца! А то што ні дзень, то ўсё *(разгублена)* новае... *(з абурэннем)* новае... *(са злосцю)* новае!!! Жыву, як на палубе карабля: то туды гайдане, то сюды. Няўстойліва на нагах стаю. Дайце мне прыспасобіцца.

Максім. Дайце яму закаранець... А потым паспрабуй яго выкарчаваць ды перасадзіць у камунізм.

Лявон. Ну што вы заладзілі? Калі на тое пайшло, давайце вып'ем за камунізм!

Лушка. Давайце, госцейкі, давайце...

Усе дружна выпіваюць.

Даруй мне, Максім, даруй мне, сваток! Лявон мой не вельмі памятлівы. Яму паказваюць на месячык, а ён глядзіць на палец. Дакладаў ён не слухае, на лекцыі не ходзіць. Лепей я з ім пагавару. Потым. Палітбяседу правяду, усё яму растлумачу. І ён зразумее. Мая агітацыя да яго дойдзе. А зараз...

Лявон. Чаго нам спрачацца? Чаго лаяцца?

Лушка. І то праўда! Давайце, госцейкі, дружненька, па-харошаму. Закусвайце, закусвайце, старшыня.

Лявон. Паколькі яны рашылі... пачынаць новае жыццё *(паказвае на маладых)*, нам трэба напачатку аб іх паклапаціцца. Дзе яны будуць жыць, як яны будуць жыць, з чаго пачынаць?..

Міхал. Пра пасаг, ці што?

Лявон. Пра ваша гняздо.

Максім. Што ж, і гэта дзела. Выкладай свае прапановы.

Лявон. Я так думаю. Дачка ў мяне адна. А ў цябе, Максім, акрамя Міхала, яшчэ чацвёра гаўрыкаў расце. Дом у мяне харошы, пад цынкам, двор дагледжаны, хлеў пад шыферам, свой садок, восем сямей пчол, прысядзібны ўчастак паўгектара. А ў цябе на тваю сям'ю толькі дваццаць пяць сотак. Так што ўвесь разон стаць Міхалу ў маёй хаце гаспадаром...

Максім. У прымы, значыцца?

Буйкевіч. Гарнізон рагатага бастыёна вярбуе папаўненне.

Лявон *(задзеты за жывое, ледзь стрымліваецца)*. У такім разе... давайце яшчэ вып'ем за камунізм!

М а к с і м. Чакай, Лявон! Выпіць за камунізм ты мастак, а вось на справе...

К л а в а. Ды што вы, мужчыны? Ізноў за сваё!.. Аж сумна становіцца. Лепей песню спяем.

Клава адкідваецца на спінку крэсла і зачынае высокім голасам песню.

Па-а-асею гуро-очкі...

М а к с і м *(перапыняе)*. Пачакай, Клава. Пасееш яшчэ, не гарыць. Мы цябе выслухалі, Лявон. Не падыходзіць нам такая прапазіцыя. Адно, што не гадзіцца,— мой сын у прымакі не пойдзе. Калгас дае яму новы каменны дом на новай вуліцы. Хай там і пачынае жыццё.

Л я в о н. Дык там жа прысядзібны ўчастак толькі дзесяць сотак.

Б у й к е в і ч. Несправядліва выходзіць: у цябе на трох паўгектара, а ў Максіма на шасцярых дваццаць пяць сотак.

Л я в о н. Вунь у суседкі *(паказвае на Клаву)* на адну паўгектара.

М а к с і м. Несправядліва! Пра што і талкуем! Абрэзаць трэба.

Л я в о н. Ды што вы! Што, у Расіі зямлі мала? *(Панічна.)* Не маеце права! Я скардзіцца буду! Няма такога закону!

Б у й к е в і ч. А мы цяпер самі пішам законы!

Л я в о н. Не маеце права! Ленін што гаварыў? Няма законаў пензенскіх ці разанскіх. Павінны быць усерасійскія!

Б у й к е в і ч. Ленін гаварыў і пра ініцыятыву мясцовых органаў.

М і х а л. І ўлічваць іх вопыт пры складанні ўсерасійскіх законаў.

М а к с і м. А цяпер, калі хочаш, давайце вып'ем за камунізм.

Л я в о н. За камунізм вып'ю, але свайго ўчастка не дам! Не маеце права! Я знайду закон у вобласці, калі і там... То я дастукаюся да самой Масквы! Там цяпер за перагібы ведаеш як?

Л у ш к а. От пеўні сабраліся!..

М а к с і м. А мы цябе не перагібаем. Мы цябе выпрамляем.

Л я в о н. Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю. А я не хачу... І потым... Ты, Максім, што? У сваты прыйшоў ці лаяцца са мной?

Буйкевіч. Лявон Сцяпанавіч! Хіба ты не разумееш? Мы прыйшлі сватаць тваю дачку Соню за Міхала, а цябе — у камунізм.

Лушка. Мужчынкі, даражэнькія! Ну хопіць вам! Лявон жа што сказаў? Калі хочаш, Міхал, пераходзь у нашу хату гаспадаром. Вы спрачаецеся, а яму і слова не далі сказаць. Хай сам...

Лявон. Правільна! Міхал! Сам скажы!

Соня *(ціха Міхалу)*. Хоць ты не перагібай...

Міхал. Дарагія Лявон Сцяпанавіч і вы, Лукер'я Іванаўна! І я, і Соня дзякуем вам за згоду, за вашу ласку, за вашу шчырую прапанову. Але скажам вам гэтак жа шчыра. Для нас вашы спрэчкі даўно вырашаны. Не трэба нам ніякіх садкоў, ні вялікіх прысядзібных участкаў. Мы з Соняй на службе, на ферме. Там нам хопіць і працы і заработку. А лебяду нам палоць не будзе калі. Вось так. Жыць мы будзем у новым доме, на новай вуліцы. За гэта мы дзякуем і праўленню калгаса і старшыні нашаму — Паўлу Пятровічу!

Лявон. Та-ак... Значыцца, там? *(Да Соні.)* Ну, дочка, думай сама, рашай сама... *(З яўным намерам расчуліць Соню.)* Толькі не забывай пра нас. Удваіх мы астаёмся. Помні і пра тое, што ўсё гэта *(правёў рукой)* мы для цябе прыстараліся, табе мы звілі гняздо гэта... А цяпер... Ну, глядзі сама!..

Соня. Тата, ды хіба я... хіба мы з Мішам забудзем!..

Лявон. Так. Значыцца — так.

Соня. Міша! Можа, мы яшчэ падумаем?

Міхал. А хіба мы не думалі? Не гаварылі? Соня! Няўжо ты хочаш паўтарыць жыццё сваёй маці, сваёй бабулькі?

Лявон. А што яе маці — голая ці галодная хадзіла?

Міхал. Мала гэтага! Соні гэтага мала!

Лявон. А там, на новай вуліцы, будзе болей? Там жа прысядзібны ўчастак толькі дзесяць сотак!

Міхал. А паўгектара — гэта анахранізм. І долю, якую вы аблюбавалі для Соні,— таксама анахранізм! Соня! Ты... *(Ласкава.)* Соня, пойдзем пагуляем. Чуеш?

Міхал накіроўваецца да дзвярэй. На вуліцы спяваюць дзяўчаты. Соня кідаецца да бацькі, да маткі.

Соня. Тата! Мама!..

Буйкевіч. Ідзіце, гуляйце. А тут мы самі...

Соня, азіраючыся на бацькоў, ідзе да Міхала, і яны выходзяць на вуліцу.

Малодшы палітрук Андрэй Макаёнак.
1940 год.



Слухач Рэспубліканскай партыйнай школы пры ЦК КПБ
Андрэй Макаёнак.
1949 год.



Клава *(п'янаватая)*. Па-се-ю гу-ро-чкі...

Лявон. Пачакай, Клаўдзія. Што там Міхал сказаў? Паўгектара — анахранізм. Што гэта азначае?

Максім. Не разабраў? Не разумееш?

Лявон. А ты разумееш?

Максім. Разумею.

Лявон. То растлумач мне, цёмнаму.

Максім. Анахранізм — гэта значыць: а на хрэн яму твае паўгектара!

Буйкевіч рагоча. Падпіўшая Клава зноў зацягнула песню.

Клава *(спявае)*.

Пасею гурочкі нізка над вадою,
Сама буду паліваці горкаю слязою...

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Далей дзея будзе разгортвацца вось тут, у кабінеце Глуздакова, абстаўленым без асаблівай фантазіі і выдумкі. Установа гэта дзяржаўная, кабінет дзяржаўны, і чалавек, які тут «гаспадаруе», таксама на дзяржаўнай службе. І справы тут павінны вырашацца сапраўды важныя, дзяржаўныя. На думку Глуздакова, вагу, саліднасць, важнасць справе і чалавеку, які вядзе гэтую справу, надае сакрэтнасць і таямнічасць. Таму ўвасабленнем важнасці, саліднасці і таямнічасці з'яўляецца тут вялізны сейф, агромністы сейф. Відаць, толькі «скромнасць» і пачуццё меры не далі магчымасці Глуздакову ператварыць увесь кабінет у сейф ці з сейфа зрабіць кабінет. Не думайце, што гаспадар кабінета які-небудзь хлюст, легкадумны малакасос. Глуздакоў — муж саліднага ўзросту, заўтрашні пенсіянер, з жывоцікам і з задышкай, з лысінай на ўсю галаву аж да патыліцы. Аднак твар пухленькі, ружовенькі, як у нованароджанага. Стомленыя вочкі просяць літасці. Усе рухі Глуздакова палахліва асцярожныя, павольныя. Усё ў ім сведчыць аб тым, што і душа і цела яго просяць спакою, цішыні, пенсіі... Немалаважна звярнуць увагу і на мэблю ў гэтым кабінеце. І крэслы і стол вельмі пасуюць гаспадару. З імі варта абыходзіцца асцярожна. Некалі яны былі моцнымі, надзейнымі, устойлівымі, а цяпер пазношваліся: час і шматлікія пасяджэнні зрабілі сваю справу. Гэта дзеянне часу рахункаводы называюць амартызацыяй і звычайна не пярэчаць спісанню такой мэблі з балансу. Незразумела толькі, чаму Глуздакоў даражыць гэтымі крэсламі: ці то ад беражлівасці, ці то душэўная прыхільнасць і прывычка да гэтай

мэблі бяруць сваё, а можа, сталы густ яго проста адмаўляе новыя формы новай мэблі. У старым чаравіку назе заўсёды ямчэй, як у новым, неразношаным... Не будзем хаяць за гэта Глуздакова: хто любіць папа, хто пападдзю, а хто папову дачку. Што галава — то і розум... За сталом сядзіць сам Мітрафан Сазонавіч Глуздакоў. І, як музыку, слухае тое, што чытае з вялікага аркуша яго памочнік і правая рука — Цесакоў.

Цесакоў *(чытае хутка, прывычна, прафесіянальна).* «... беспартийный, не был, не был, не участвовал, не привлекался, не колебался, не имеет, не имеет». *(Робіць перапынак, каб даць пераварыць Глуздакову прачытанае.)*

Глуздакоў. «Не имеет...» Крышталь... Слухаеш такую анкету, як музыку. Далей.

Цесакоў *(чытае).* «Зайграй Михаил Максимович, член КПСС, 1933, высшее, белорус, зоотехник, не был, не был, не участвовал, не привлекался, не колебался, не имеет, не имеет...»

Глуздакоў. «Не имеет...» Малады яшчэ — таму... Усё добра, толькі занадта шустры. І... за ім трэба глядзець, каб з баразны не выскачыў. Далей. *(Цесакоў уздыхае.)* Што, надакучыла?

Цесакоў. Вось так... *(Правёў рукой па шыі.)*

Глуздакоў. Асазнай! Мы людзей вылучаем, на вышыню паднімаем. Іх кругом разглядаць будуць. Каб ніводнай плямкі не было... За плямкі мы адказваем.

Цесакоў. Усе кандыдатуры абмяркоўваліся ў партарганізацыях, зацверджаны ў райкоме.

Глуздакоў *(спагадліва).* Уседлівасці ў цябе малавата... Я дык па дванаццаць гадзін мог не ўставаць з-за стала.

Цесакоў. За прэферансам?

Глуздакоў. Не, вось тут, у кабінеце. Праўда, пры доўгім сядзенні кроў адлівае ўніз і канцэнтруецца ніжэй, тут, ад чаго галава хутка стамляецца. Таму медыцына рэкамендуе кароткія перапынкі і фіззарадку, каб разагнаць кроў па ўсім целе. Што мы і зробім зараз.

Глуздакоў выходзіць з-за стала і жэстам запрашае Цесакова.

Давай, давай!

Мітрафан Сазонавіч пачынае прысядаць.

Вось так, вось так... Весялей!.. *(Напявае.)*

Вазьмём вінтоўкі новыя, на іх сцяжкі,
І з песняй у стралковыя пайдзём гурткі...

Глуздакоў і Цесакоў да таго захапіліся фіззарадкай, што доўгі час не чуюць, як нехта настойліва стукае ў дзверы. Нарэшце пачулі.

Глуздакоў. Выйдзі паглядзі, хто там.

Цесакоў перастае прысядаць, падыходзіць і прыадчыняе дзверы.

Цесакоў. Тут да вас просіцца...

Глуздакоў. Хто?

Цесакоў. Калгаснік.

Глуздакоў. А-а-а... Скажы: не магу прыняць, я заняты!

Глуздакоў зноў пачынае прысядаць.

Цесакоў. Гаворыць: па важнай справе.

Глуздакоў. Скажы, хай у суботу прыйдзе...

Глуздакоў працягвае займацца фіззарадкай.

Цесакоў. Кажа: вы яго добра ведаеце.

Глуздакоў пачынае баксіраваць.

Глуздакоў. Я вельмі заняты!

Цесакоў нешта сказаў за дзверы і прычыняе іх. Але чалавек за дзвярыма аказаўся настойлівым. Ён сам прыадчыняе дзверы і просіць увагі.

Чалавек. Скажыце, што я Лявон Чмых!

Глуздакоў. Хто?

Цесакоў. Лявон Чмых.

Глуздакоў. Ладна, давай.

Цесакоў шырока адчыняе дзверы і ўпускае Лявона.

Цесакоў. Заходзь.

Лявон заходзіць. Вітаецца.

Лявон. Добры дзень, Мітрафан Сазонавіч!

Глуздакоў. А-а, Лявон!.. Ты заходзь, хоць я і вельмі заняты.

Глуздакоў вітаецца з ім за руку. Лявон падміргвае.

Якія навіны? Што? Можа, сома дзе высачыў ці карасёў падкараўуліў?

Мітрафан Сазонавіч вядзе гаворку з Лявонам па-сяброўску, але захоўваючы пэўную дыстанцыю, не строга, але паважна. Частыя сустрэчы па рыбалцы, вядома, садзейнічалі дэмакратычнасці ў яго адносінах да Лявона, аднак Глуздакоў ніколі не забываў, што панібрацтва кіраўніка з падначаленым не з'яўляецца пахвальнай якасцю кіраўніка.

Лявон. Не, Мітрафан Сазонавіч, на рыбалку яшчэ рана. З поймы вада не сышла. *(Цік у Лявона не спыняецца.)*

Глуздакоў *(Цесакову).* Ну, ідзі пагуляй, крыху адпачні.

Цесакоў выйшаў.

Што? Можа, зноў лесу: на шалёўку, на дошкі?

Лявон. Не, не ўгадалі. Я ўжо абгарадзіўся, абшаляваўся.

Глуздакоў. Так. Бачыў я... І абцынкаваўся. Зайздрошчу табе. Такі дамок-церамок... Крэпасць!..

Лявон. Не без вашай дапамогі, дзякуй вам. *(Падміргвае.)* Лесу цяпер не так лёгка выпісаць. Усюды будуюцца.

Глуздакоў. Ну, рыбак рыбаку заўсёды... *(Таксама падміргвае.)* Толькі дзякуем не адбудзеш. Па сакрэту табе прызнаюся: надумаў і я крэпасць паставіць, пакуль ёсць магчымасць. Праз якіх паўгода-год на пенсію. *(Хваліцца.)* Ведаеш, брат, сахарная хвароба завялася ў мяне. *(Зноў падміргвае, як і Лявон.)*

Лявон. Гэта што, ад салодкага жыцця?

Глуздакоў. Чорт яе ведае. Дык ты ў мяне за кансультанта будзеш.

Лявон. Па хваробе?

Глуздакоў. Па будаўніцтву. Каб скапіраваў мне свой дамок.

Лявон *(узрадаваўся надзвычайна).* Ну канешне, Мітрафан Сазонавіч! Ды я душу ўкладу!.. Толькі... ці не скажуць вам... у вас жа і дзяржаўная кватэра добрая...

Глуздакоў. Але ўласны дом — гэта ўсё-такі ўласны.

Лявон *(радасна).* О! О! Уласны! Слова ж якое: «уласны»... *(Смакуе.)* Уласны. Сакавітае, як памідор. *(Ажывіўся, загарэўся.)*

Глуздакоў. Чарапаха жыве да чатырохсот год. Учора жонка вычытала ў календары. А чаму? Неразумнае стварэнне, а ўласны дом мае. Куды ні пойдзе — і дом за сабою. Таму доўга і жыве. Не дурней жа мы за чарапаху?

Лявон. Дарагі Мітрафан Сазонавіч! Ды я для вас... ды я вам, як роднаму брату. Участак каля хаты які будзе? З паўгектара?

Глуздакоў *(не адразу).* Напэўна...

Лявон *(горача).* Абавязкова з паўгектара! Ці ў Расіі зямлі мала? І садок памагу пасадзіць. Самых лепшых гатункаў. І ягаднік, і пчолак развяду, калі пажадаеце... Ах, як правільна вы надумалі!..

Глуздакоў. Адабраеш, значыцца?

Лявон *(аж свеціцца)*. Ды гэта проста ра-ай, маленькі, але свой... рай! Гэта вам не райвыканком. Пенсію вы заслужылі, пара ўжо і пра сябе паклапаціцца, пра сваю старасць...

Глуздакоў. Так, не маладзён ужо...

Лявон. І я кажу...

Глуздакоў. Не той спрыт, фізічных сіл малавата. Духоўных — дык колькі твая ласка. А вот фізічных...

Лявон. Толькі... *(Наўмысля недагаворвае.)*

Глуздакоў. Што толькі?

Лявон *(марудзячы)*. Паперачку з вобласці вы атрымалі?

Глуздакоў. Ды мне іх тут вазамі возяць. А якую?

Лявон. Аб перагібах.

Глуздакоў. Аб перагібах? Дзе?

Лявон. У нашым раёне. *(Падкрэслівае.)* У вашым!

Глуздакоў. Якая баба табе на базары сказала?

Лявон. Не баба сказала...

Глуздакоў. Сам выдумаў?

Лявон. Перагібы? Іх выдумаў старшыня нашага калгаса Буйкевіч разам з маім зяцем Зайграем Міхаілам Максімавічам.

Глуздакоў *(няўпэўнена)*. Якія перагібы?

Лявон. На сённяшні дзень якая аб нас палітыка ў партыі і правіцельства?

Глуздакоў *(узважвае — ці не падвох які)*. Правільная палітыка...

Лявон *(пахваліў)*. Верна! Можаш разводзіць свіней, трымаць кароў, авец, курэй... Каго хочаш. Я, канешне, і прыспасабліваюся да такой палітыкі.

Глуздакоў. Ну і на здароўе.

Лявон. А нашы кіраўнікі ў калгасе? Па-свойму гнуць. Яны мяне крытыкуюць, грозяць пальцам, смешачкі строяць, усякімі рознымі слоўцамі абзываюць: індывідуй, дробны імперыяліст. Гэта — я! Па якому такому праву? Мне, можа, медаль ці нават ордэн «Знак Пашаны» паложаны. А яны? Прыйшлі б яшчэ ды спыталі б: «Можа, табе, Лявон Сцяпанавіч, камбікармы трэба, ці сянцо, ці якая-небудзь малагабарытная тэхніка-механіка?» А яны?!

Глуздакоў *(насцярожыўся)*. Ну-ну! Сам перагібаеш. Тэхніку захацеў...

Лявон. Ну, добра, хай сабе без тэхнікі. А яны хо-

чуць абрэзаць мой прысядзібны ўчастак! Па якому такому ўсесаюзнаму закону? Няма такога закону на абразанне!

Глуздакоў. Тут бадай што перагіб.

Лявон *(горача)*. Іменна! Перавышэнне ўласці. *(Пасмялеўшы.)* Ну, падумайце, Мітрафан Сазонавіч! Калі там, на вярхах, рашылі дазволіць... дык тут гэтыя... замухрышкі... Ды я ім, ды я іх!!

Глуздакоў. Ну-ну!! Глядзі ў мяне! Пугачоў знайшоўся!

Лявон. Ну, добра, трохі зарваўся. Але ж і яны — памыляюцца? Памыля-юцца! Намерыліся... Плануюць... прыватныя дамы цераз некаторы час ліквідаваць. Дамы? Свае! Уласныя. А?

Глуздакоў *(ён нават спалохаўся)*. Што ты гаворыш?

Лявон. Іменна. Калгасныя будуе. Дае — жыві, але ж не твой, не ўласны. Перагіб? Перагіб!

Глуздакоў *(згаджаецца)*. Перагіб. А адкуль ты ўзяў, што з вобласці ёсць паперка?

Лявон *(упэўнена)*. Павінна быць!

Глуздакоў *(звяртаецца да Цесакова ў другі пакой)*. Пал Палыч! У нас ёсць пісьмо з вобласці аб перагібах Буйкевіча?

Цесакоў. Першы раз чую.

Глуздакоў *(злуецца)*. Чорт пабяры!

Лявон *(сам сабе)*. Няўжо і там пад сукно палажылі?

Глуздакоў *(панікуе)*. Што за парадкі?! Паўраёна ведае пра пісьмо, а мы першы раз чуем... *(Да Цесакова нечакана рэзка.)* Шукай!!! *(Да Лявона.)* А адкуль ты ведаеш?

Лявон. Як жа мне не ведаць, калі я сам пісаў? Па маіх падліках павінна ўжо вярнуцца.

Глуздакоў *(паспакайней)*. Дык гэта ты пра сваю паперку?

Лявон. Пра маю.

Глуздакоў *(недружалюбна)*. А чаму ты ў вобласць пісаў, а не нам?

Лявон. Для аўтарытэту. Ну дазвольце чэсна сказаць, Мітрафан Сазонавіч, вы б яе заціснулі ў гэтую жалезную скрынку, тут ёй і канцы. А калі вернецца з вобласці, у яе будзе аўтарытэт, да яе будзе павага, увага.

Глуздакоў. Адкуль такая прамудрасць?

Лявон. Вопыт, Мітрафан Сазонавіч, вопыт!

Глуздакоў *(у адчаі)*. Зарэжуць, без нажа зарэ-

жуць! Ну, хай бы спакойна хоць паўгода, ціха, мірна... Колькі мне тут засталося да пенсіі... А тады хоць насы сабе адкусвайце, хоць валасы адзін другому скубіце!

Лявон *(вяшчае)*. Не будзе міру! Не такія людзі — гэты Буйкевіч і зяць мой, Зайграй, каб спакойна жыць з імі. Не дадуць яны нам спакою.

Глуздакоў. А ты?

Лявон. А што я?

Глуздакоў. Навошта пісаў?

Лявон. Прыспічыла, Мітрафан Сазонавіч, прыспічыла! Трэба ж бараніцца, а то... Ад вашай дачы адны мары астануцца і ад садка вашага і ягадніку... *(Па-змоўніцку.)* Нам трэба заадно цяпер...

Глуздакоў *(аж застагнаў)*. О-ой...

Лявон *(далікатна, як нянька)*. Нічога, нічога, Мітрафан Сазонавіч. Усё ўладзіцца. Вось прыйдзе мая паперка з вобласці, а вы — камісію. Толькі ў камісію людзей надзейных. Хай прашуруюць, прапясочаць перагібшчыкаў. І зноў стане ўсё спакойна, ціха і мірна.

Глуздакоў *(разважае)*. А калі гэта не перагібы?

Лявон *(насцярожыўся)*. Як — не перагібы. А што тады?

Глуздакоў *(няўпэўнена)*. Лінія...

Лявон *(ваяўніча)*. Якая ж гэта лінія? Не лінія гэта!

Глуздакоў. Перадавікі яны. А каму відней? Таму, хто наперадзе.

Лявон *(аўтарытэтна)*. Галавакружэнне ад поспехаў у іх! Лявацкі заскок!

Глуздакоў. Тэрміналогія правільная. *(З пахвалой.)* А ты падкаваўся.

Лявон. Доўга коўзаўся, таму і падкаваўся.

Глуздакоў. Вось і ўгадай, на каго паставіць... Я спадзяваўся, што ваш Буйкевіч і твой зяць Зайграй — верная стаўка. Нават сам назваўся вылучыць Зайграя ў дэпутаты райсавета. І даў згоду балаціравацца ў райсавет у вашым калгасе. А тут выходзіць... Як казаў паэт: «І што з чаго паследуе — няпэўнасць і смуга... І чорт жа яго ведае, адкуль расце нага...» Проста розум раскірэчыўся. Адчуваеш сябе, як карова на лёдзе.

Лявон. Мітрафан Сазонавіч! Толькі не ў дэпутаты зяця. А то... Ох, як можна пагарэць на гэтым!.. Падахвоціць перагібшчыкаў...

Пастукаўшы ў дзверы, заходзяць Лушка і Максім.

Л у ш к а *(Максіму)*. Ты як у ваду глядзеў. Дзень добры, таварыш Глуздакоў.

Г л у з д а к о ў. А-а, Лявоніха! Здарова, здарова.

М а к с і м *(вітаецца з Глуздаковым)*. Я ж ведаю, не можа такога быць, каб Лявон, прыехаўшы ў раён, не наведаўся да Мітрафана Сазонавіча.

Л у ш к а. Я яго па амбулаторыі шукаю, бегаю, непакоюся. Думаю: няўжо ў бальніцу палажылі чалавека. А ён во дзе! Ты ж да дактароў ірваўся. Казаў: гастрыт, дыэта патрэбна, малако ад адной кароўкі. *(Здагадваецца. Лагодна, але насміхаецца.)* А-а, дык ты, значыцца, тут ферчала сабе шукаеш? Спадзяваешся, што Мітрафан Сазонавіч табе дыэту прапіша, кароўку пакіне!

Л я в о н. От, баба дурная! Сораму няма. Ты ж не абы-дзе...

Л у ш к а. Нічога, ён свой чалавек. Дык ты скардзіцца прыйшоў? На каго? На зяця? Пашкадуй дачку хаця! Змарнела, бедная, праз вашу нязгоду. Падумайце самі, Мітрафан Сазонавіч,— вяселле не можам справіць. Упёрся, як бык. А дзяўчына — ні дома, ні замужам. І ўсё роўна, Лявонка, ты на сваім не паставіш, па-твойму не будзе! Толькі вы яму не патурайце, Мітрафан Сазонавіч.

Г л у з д а к о ў. Значыць, яна руку зяця трымае?

Л я в о н. Бо дурніца. Расхвалілі яе ў газеце, партрэт надрукавалі, перадавічка, раззадорылі яе. Вось яна і рве цуглі...

Л у ш к а. Расхвалілі! Раззадорылі! Людзі расхвалілі, а не ты. А я з табой дваццаць гадоў жыву і чую толькі адно: баба, дурніца!..

Л я в о н. А ўсё ж не з людзьмі жыла, а са мною.

Л у ш к а. Ах, вось як ты!..

Г л у з д а к о ў. Ну, хопіць, хопіць... Гэта ўжо сямейная сварка. Дома закончыце.

Л у ш к а. Ну, пачакай жа, Лявонка, пачакай!..

Г л у з д а к о ў. Ціха, ціха, я вас прашу. Ох, і баявая ж у цябе баба, Лявон. А я думаў, што яна ціхая, лагодная.

Л я в о н. Гэта зяць яе так падбухторыў. У камунізм захацела.

Г л у з д а к о ў. Толькі па-сяброўску вам параю: не трэба скандалаў. Ідзіце сабе ў камунізм, толькі ціха, мірна, спакойна.

Л у ш к а. Што ты на зяця ківаеш? Ганарыўся б такім зяцем, а ты...

Л я в о н. Уклапалася ты ў яго, як макрахвостка непу-

цёвая. *(Перадражнівае.)* Зяць! Зяць! А тут — прынцыпы! Ясна? А калі прынцыпы зачапілі, то ні на зяця, ні на свата не пагляджу!

Максім *(нарэшце не стрымаўся)*. Ах, вось як ты!.. Прынцыпы, значыць!.. Тады... Гэта... Я, брат... *(Да Глуздакова, спакайней.)* Хацеў я з вамі з вока на вока параіцца, таварыш Глуздакоў. Але бачу, што не грэх будзе, калі і ён паслухае. Дзела гэта сур'ёзнае, і таксама — прынцыпы зачапіліся. Выходзіць так, што апошнім часам зладзеям і даўгарукім розным аблягчэнне быццам наступіла. Скажам, не судзяць цяпер за малое машэнства ці крадзеж. І нават старшыні такія, як наш Буйкевіч, праз пальцы на гэта глядзяць. Праўда, Лявон? Скажам, спаймалі чалавека — украў ён ахапак калгаснага сена. А яму ніякай кары.

Лявон. Значыць — не спаймалі.

Максім *(Лявону)*. Хапай шапку — гарыць. *(Глуздакову.)* Лічы — злоўлены ёсць, а кары яму няма. Навошта тады вартаўнікоў трымаць? Для лішніх выдаткаў? Тады я пасядзеў і, як умеў, сачыніў такі праект пастановы і ўказа. Каб гэтую справу па-дзяржаўнаму рашыць. *(Выняў з кішэні паперку і чытае.)* «Абавязковая пастанова і ўказ. Паколькі па ўсёй нашай краіне будуецца камунізм, каб усе людзі чэсна працавалі, чэсна жылі з свае працы, не павінна быць усякага крадзяжу, які некаторыя тыпы дапускаюць». *(Адарваўся ад паперкі.)* Адна паганая авечка псуе ўвесь статак. *(Чытае далей.)* «Апошнім часам за такавы дробны крадзеж не судзяць і ў турму не садзяць. Аднак заўважаны схваткі вартаўнікоў са зладзеямі на грамадскай маёмасці, як-та: на сене, агародніне, фруктах, яйках і іншых прадуктах. Каб выкарчаваць гэтае зло, даём указ усім старшыням калгасаў, кіраўнікам сельпо, магазінаў і зладзеям...»

Лушка. Нешта ты ўсіх у адну кучу?

Максім. Кіраўнікам для інструкцыі, а зладзеям гэта ў першую чаргу ведаць трэба. *(Чытае.)* «...Не даваць спуску зладзеям ні пры якіх выпадках. Злоўленага злодзея выводзіць на агульны сход грамадзян для ўсебаковага разгляду і з тым, што ён украў». *(Тлумачыць.)* Сена дык сена, яйкі дык яйкі... *(Чытае.)* «А найбольш злоснага парушальніка ў выхадны дзень вадзіць па сяле пры ўсім народзе для ганьбы і насмешак з плакатам, дзе напісана: «Паразіт». *(Перадае паперку Глуздакову.)* Вось — гэта ёсць прынцыпы!

Глуздакоў. Ты сам гэты праект прыдумаў?

Максім. З дапамогаю Лявона. *(Лявону.)* Што глядзіш, як певень на сонца? Ні свату, ні брату скідкі не павінна быць! Па сяле вадзіць! Так ці не?

Глуздакоў. Я так зразумеў, што Буйкевіч патурае зладзеям, укрывае іх?

Максім. Некаторым патурае. Асобным.

Глуздакоў. Добра. Разбяромся. Абмяркуем, узгоднім. *(Хавае паперку ў сейф.)*

Максім. Паводзім па вуліцы пры народзе аднаго ды другога, дык і дзесятаму закажа.

Глуздакоў. Вось так, Лявон... Як-небудзь наведаюся ў ваш калгас. Можа, і на рыбалку сходзім. А цяпер зоймемся справамі. Схадзі да дактароў. *(Лушцы.)* Можа, яму і праўда дыэта трэба?..

Глуздакоў развітваецца з Лявонам, Лушкай і Максімам.

Лявон. Я спраўку прынясу.

Лушка. Я сама павяду яго да дактароў. Хай пры мне абслухаюць яго, абгледзяць.

Лявон. Без цябе абыдуся.

Лушка. Не, Лявонка, без мяне не абыдзешся. Я цябе ў бядзе не пакіну. Хадзем, мой галубок, хадзем, мой шызакрылы.

Лушка і Лявон выходзяць.

Максім. Дык вы, таварыш Глуздакоў, абмазгуйце маё дзела і як трэба аформіце. Важнае яно і сур'ёзнае!

Максім выходзіць.

Глуздакоў. Ох, чуе мая душа бяду...

У кабінет убягае ўстрывожаны Цесакоў. Здзіўлена назірае за патронам.

Цесакоў. Мітрафан Сазонавіч! Мітрафан Сазонавіч, толькі што машына пад'ехала. Начальства з вобласці.

Абодва кінуліся да акна.

Глуздакоў. Я так і знаў! *(Прастагнаў.)* О-о.. Сам... Мікалай Сяргеевіч...

Цесакоў. Вы ж казалі, што ён ваш стары друг. Яшчэ ў камсамоле разам былі.

Глуздакоў *(голас у яго сеў)*. Дружба дружбай, а служба службай.

З хвіліну Глуздакоў і Цесакоў стаяць, пaглядаючы на дзверы. Потым Глуздакоў паспешліва садзіцца за стол і падзывае Цесакова.

Сядай! Мы працуем! *(Голас дрыжыць.)* Мы спако-ойна працуем. Чытаю я. *(Нібы каецца і просіць літасці.)*

«Не был, не был, не участвовал, не колебался, не привлекался, не имеет, нет, нет...»

Заходзіць Мікалай Сяргеевіч, чалавек пажылы, невялікага росту, але надзіва рухавы для сваіх год і паўнаваты. Смяшлівыя вочы сведчаць аб вострым пачуцці гумару. Глуздакоў адразу пастарэў гадоў на дзесяць.

Мікалай Сяргеевіч. Добры дзень, арлы!

Глуздакоў. Добры дзень, Мікалай Сяргеевіч, добры дзень вам!

Цесакоў *(як нававбранец перад генералам)*. Дзень добры, Мікалай Сяргеевіч!

Мікалай Сягеевіч. На двары цяплынь... а вы... Хоць бы фортачкі адчынілі...

Цесакоў *(спагадліва)*. Мітрафан Сазонавіч скразнякоў баіцца.

Мікалай Сяргеевіч. Свежага паветра? *(Паглядзеў на Глуздакова.)* Так, брат Мітрафан, састарыўся ты... А ці даўно камсамольцамі бегалі... Помніш? «Наш паровоз, вперед лети, в коммуне остановка...»

Глуздакоў. Помню, Мікалай Сяргеевіч, помню.

Мікалай Сяргеевіч. Здаецца, нядаўна было. А паглядзеў на цябе... Няўжо і я так састарыўся?

Цесакоў. Не, у вас яшчэ бадзёры выгляд. *(Пазлядае на Глузкова: ці так сказаў.)*

Мікалай Сяргеевіч *(да Глуздакова)*. Верна? Я ж цябе гады на чатыры старэй.

Глуздакоў. На тры з палавінай. А выглядаеце маладзей.

Мікалай Сяргеевіч. Кампліменты начальству... Ну бог з імі. А вы чым тут займаецеся?

Глуздакоў. Вывучаем кадры. Будучых дэпутатаў сельскіх Саветаў і ў райсавет.

Мікалай Сяргеевіч. А-а, ну-ну... Цікава. *(Праглядае спіс.)* Э-э, нешта ж у вас малавата жанчын... Адна, дзве... І ўсё? Мала, мала. Вось і тут відаць, што ты пастарэў: прапала цікавасць да жанчын...

Глуздакоў *(пасмейваючыся)*. Недагляд, недагляд наш. Трэба выправіць.

Мікалай Сяргеевіч. І моладзі мала. Смялей з маладымі трэба.

Глуздакоў *(ласкава)*. А тут дазвольце, Мікалай Сяргеевіч, маленькую заўвагу. Хацелася, каб у Саветах

вопытныя людзі былі. Маладыя, яны і з баразны могуць выскачыць. А людзі з вопытам, з практыкай...

Мікалай Сяргеевіч. Э-э, брат Мітрафан!.. На старых, бяззубых коней ставіш? Вопыт, практыка... І маладым жа трэба набываць вопыт і практыку. А ну-тка, прыгадай! Пасля рэвалюцыі Расію, разбураную, бедную, убогую, ахопленую пажарамі, хаатычную Русь, хто ўзваліў на свае плечы? Якія былі наркомы? Міністры! Ад трыццацаці да сарака год! А які ў іх вопыт быў? Падполле, турмы, ссылкі і мэта! А вынеслі Русь, ды яшчэ на якія высоты! Так што, Мітрафан Сазонавіч, маладосць не загана, а перавага. У маладых — энергія, энтузіязм, рэвалюцыйны запал і ў дадатак цяпер — адукацыя і наша выхаванне. Мы старэем, значыць, нашу справу трэба перадаць у маладыя рукі. Правільна я кажу?

Глуздакоў. Правільна, Мікалай Сяргеевіч, вельмі правільна!

Мікалай Сяргеевіч. А як вы думаеце, малады чалавек?

Цесакоў. Калі ёсць непасрэднае ўказанне, думаць не трэба.

Мікалай Сяргеевіч. Ух ты-ы!.. Вось дык падтрымаў маю думку! А навошта ж тады даецца чалавеку галава? Каб шапку насіць? Ці каб цырульнікі не пераводзіліся?

Цесакоў. Вы мяне не так зразумелі, Мікалай Сяргеевіч.

Мікалай Сяргеевіч. Ну-ну, растлумач.

Цесакоў. Я лічу, калі чалавек вышэй мяне на пасадзе, значыць, ён і разумней за мяне. Інакш я быў бы на яго месцы. І калі ён дае ўказанне, значыць, яно прыдумана галавой больш разумнай, чым мая.

Мікалай Сяргеевіч. Шчыра.

Цесакоў. Выбачайце. І такое ўказанне трэба выконваць, нават калі там не ўсё зразумела. Потым зразумею.

Мікалай Сяргеевіч. Сілён у цябе памочнік, Мітрафан. *(Да Цесакова.)* Як гэта ты дадумаўся?

Цесакоў. Часта дапускаў памылкі і зрабіў вывад.

Мікалай Сяргеевіч *(да Глуздакова)*. Як ён?

Глуздакоў. Вельмі паслухмяны.

Мікалай Сяргеевіч. А што да вас асабіста, малады чалавек, то вывады бадай што правільныя.

Ц е с а к о ў *(падахвочана).* Не ўсе маюць права даваць указанні. Патрэбны і дакладныя выканаўцы. Ёсць кампазітары, і ёсць музыканты. Я — музыкант.

М і к а л а й С я р г е е в і ч. Часам трэба даваць работу і галаве, а то атрафіруецца, чаго добрага, не на тое месца шапку надзенеш, музыкант.

Паўза.

А што там натварыў Буйкевіч? Я атрымаў пісьмо аднаго калгасніка... Такая паніка...

Г л у з д а к о ў. Аб перагібах?

М і к а л а й С я р г е е в і ч. Вось-вось. Ён жа разумны чалавек. Няўжо сапраўды зарваўся?

Г л у з д а к о ў *(ухіляецца).* Бывае, ведаеце, закружыцца галава...

М і к а л а й С я р г е е в і ч. Трэба даць панюхаць нашатыру, калі так.

Г л у з д а к о ў. Трэба даць панюхаць...

М і к а л а й С я р г е е в і ч. Дык там сапраўды перагібы?

Г л у з д а к о ў. Калі перагібы, то...

М і к а л а й С я р г е е в і ч. За дыскрэдытацыю, апашленне ідэі — не пагладзім.

Г л у з д а к о ў *(ваяўніча).* За ідэю... не пагладзім!

М і к а л а й С я р г е е в і ч. А можа, там сапраўды новае?

Г л у з д а к о ў. Калі новае, то...

М і к а л а й С я р г е е в і ч. Дык там перагібы ці новае?

Г л у з д а к о ў *(ухіляецца).* Перагібы... заўсёды новае...

М і к а л а й С я р г е е в і ч *(прыглядаецца да Глуздакова).* А ты змяніўся. Даўно я цябе не бачыў... Слухай, Мітрафан, душна ў цябе тут, у кабінеце.

Г л у з д а к о ў. Праўда, трохі горача. *(Расшпіліў пінжак.)*

Цесакоў адчыняе фортачку.

М і к а л а й С я р г е е в і ч. Ці гэта мне здалося? Нешта я азяб.

Г л у з д а к о ў *(разгублена).* Відаць, не палілі сёння ў печы. *(Зачыняе фортачку.)*

М і к а л а й С я р г е е в і ч *(сур'ёзна).* Дык горача ці холадна?

Глуздакоў *(здаўся)*. І горача і холадна.

Мікалай Сяргеевіч. Так, Мітрафан, так... Што ж гэта ты, брат? Не пазнаць цябе... А быў жа некалі сокалам...

Паўза.

Дай-ка мне твой тэлефон. *(Здымае трубку.)* Алё! Пошта, дайце мне абком, Панкратава... *(Глуздакову.)* Ведаеш што? Табе трэба паехаць к Буйкевічу, разабрацца там і... Толькі не наламі дроў. Раскажаш мне... А следам за табой і я пабываю там. *(У тэлефон.)* Панкратаў? Гэта я. Слухай, на заўтра мы прызначылі нараду па жыллёваму будаўніцтву. Трэба адкласці на пару дзён... Я затрымаюся тут... Новыя абставіны. Вы рыхтуйцеся... Так, можна на панядзелак. *(Паклаў трубку.)* Вось так. Ясна?

Глуздакоў. Ясна.

Мікалай Сяргеевіч. А я тым часам паеду, пагляджу, як будуецца льнозавод. Дамовіліся?

Глуздакоў. Слухаю.

Мікалай Сяргеевіч *(выходзячы, Цесакову)*. А думаць усё-такі трэба.

Цесакоў. Пастараюся, Мікалай Сяргеевіч.

Мікалай Сяргеевіч выходзіць. Яго праводзіць Глуздакоў. Цесакоў садзіцца і стараецца думаць.

За каго думаць? За сябе? За Мітрафана Сазонавіча? Ну, вядома, за яго. *(Думае.)*

Уваходзіць Глуздакоў.

Глуздакоў. Ну вось... Чула душа... *(Пахадзіўшы па кабінеце, рашуча.)* Слухай, Цесакоў! Мне трэба жанчына!

Цесакоў. Вам? Жанчына?

Глуздакоў. Так. Мне трэба жанчына!

Цесакоў *(здагадваецца)*. А-а!.. Ясна! Якая?

Глуздакоў *(злосна)*. Не балерына! Не чэмпіёнка! Цялятніца! Свінарка! Даярка! Думай, табе сказана!

Цесакоў. Думаю.

Абодва ходзяць па пакоі, думаюць.

Глуздакоў. Як быць! З кім параіцца? *(Падышоў да сейфа, адчыніў дзверы, пастаяў, не знайшоў там парады і са злосцю зачыніў сейф.)*

Цесакоў. Ёсць! Прыдумаў! Ход канём!

Глуздакоў. Якім канём?

Ц е с а к о ў. І козы цэлы і воўкі сыты! Лявоніха! Жонка Лявона Чмыха! Замест зяця!

Г л у з д а к о ў *(здзівіўся)*. Ты сам прыдумаў?

Ц е с а к о ў. Сам! Магу!!!

*Заслона.*

# ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

А цяпер заглянем у размяшчэнне рагатага бастыёна, пабачым, што дзеецца там.

Лявонаў двор зусім не нагадвае крэпасці ці бастыёна. Тут няма ні масіўных парканаў, ні глухога дашчанага плота, ні калючага дроту, ні амбразур. Наадварот, усё тут зроблена з пэўным густам. Не дом, а торт, не дом, а казачны церамок. Светлыя вокны аздоблены светла-сінімі ажурнымі налічнікамі. Срэбрамззяе цынкавы дах, а над вільчаком — размаляваны пеўнік. Зіхаціць рознакаляровымі шкельцамі веранда, нібы тая вясёлка. Перад верандай — кветнік, абнесены ўзорыстым плоцікам.

Двор чысты, акуратны, тоне ў яблыневым цвеце. Сапраўдны райскі куток. Не хапае толькі спеву херувімаў. Аднак гэта ўжо не такая вялікая бяда. Херувімаў нам заменіць Клава. Прыслухайцеся, як спявае яна! Ціхі, томны, грудны голас... Колькі нерастрачанай ласкі, колькі затоенай страсці абяцае яе чысты, малады голас:

Чтоб на сердце была радость,
а душе хотелось петь,
ой, как надо, ой, как надо
друга милого иметь...

Гэта не проста песня. Гэта душа Клавы млее ад жадання. Нават заняты сваёй гаспадаркай Л я в о н разумее гэта. Вось ён вынес цабэрак з кормам для парасят, прыслухаўся, пастаяў.

Л я в о н. От кошка... Мучыцца, бедная...

Л я в о н пайшоў у хлеў. На двор заходзіць М а к с і м.

М а к с і м. Лявон! Дзе ты тут? *(Стукае ў акно.)* Лявон!

Л я в о н паказаўся з хлява.

Л я в о н. Ну што табе?

М а к с і м. Ты чаму на сход не ідзеш? Цябе што— на шворцы цягнуць ці ты чакаеш спецыяльных паслоў?

Л я в о н. Упраўлюся, прыйду. Не гарыць жа там.

М а к с і м пайшоў.

М а к с і м. Глядзі...

Л я в о н. Во прыстаў, як п'яны да плота. Прыйду, чакай, а як жа... Ад цябе, чорта старога, усяго можна дачакацца. Ты мяне туды і калачом не заманіш!..

Л я в о н вяртаецца ў хлеў, цмокаючы парсюку.
За плотам, які аддзяляе суседку ад суседа, з'яўляецца К л а в а.

К л а в а. Ляво-он! Лявон! Акыш, каб на вас каршун! Лявон! Ты што там сядзіш у хляве? Квактуху падмяніў хіба. Вунь паглядзі, куды твой певень курэй павёў? Агуркі дзяруць, перасяваць прыйдзецца.

Л я в о н бяжыць у агарод, зганяе курэй. Тыя з крыкам і шумам пакідаюць агарод. Л я в о н вяртаецца да плота.

Л я в о н. От пражорлівыя, каб на іх немач! І кармлю ж іх, а яно як у трубу вылятае, усё-такі лезуць у агарод.

К л а в а. Вітамінаў шукаюць. Ну, дык чуў навіну? Ці закорпаўся тут, у агародзе, што і свету белага не бачыш?

Л я в о н. Ды я тут да каровы ніяк прыступіцца не магу. Падаіць трэба, а яна не падпускае. Жонка недзе прапала. Ну, я ж ёй дам...

К л а в а. Дык я пра жонку і кажу. Вось табе шчасце прываліла!

Л я в о н *(уздыхае)*. Каля гэтага шчасця даўно трэба было б з папругаю пахадзіць! Ну, ды я дабяруся!

К л а в а. Што ты, Лявон! Па-першае, жонку біць — усё роўна што па мяху з мукой: добрае вылятае, а вотруб'е астаецца. А па-другое, ты цяпер на яе нават сыкнуць не пасмееш.

Л я в о н. Што, што? Ды я ёй...

К л а в а. Толькі што яе вылучылі кандыдатам у дэпутаты райсавета.

Л я в о н *(не верыць)*. Што, што, што?

К л а в а. Не верыш? Каб я з гэтага месца не сышла! Сам Глуздакоў праводзіў сход у пятай брыгадзе.

Л я в о н. Табе рабіць няма чаго, суседка, дык ты лясы точыш.

К л а в а. Лявонка, чэснае слова!..

Л я в о н. Перастань!..

Лявон адыходзіць ад плота. У хляве мыкае карова.

К л а в а. Вось пабажуся...

Л я в о н. Мне няма часу: вунь карова заве...

Л я в о н так і не паверыў, пайшоў у хлеў. Яшчэ раз спрабуе даіць карову.
На двор прыходзяць Г л у з д а к о ў, Ц е с а к о ў і Л у ш к а. Глуздакоў з зайздросцю аглядае дом і двор.

Драматург Андрэй Макаёнак.
1954 год.



Лушка. Заходзьце ў хату. Можа, перакусіць хочаце, дык я зараз.

Глуздакоў. Не, не, дзякую.

Лушка. Вы пачакайце крыху, а я вуды знайду.

Глуздакоў *(Цесакову)*. А ты ідзі-тка чарвей пашукай.

Лушка. Лявон вунь там, за хлявом, звычайна капае чарвей.

Цесакоў бярэ рыдлёўку і бляшанку, ідзе за хлеў. Глуздакоў заходзіць у хату. Раптам гром: з хлява ляціць вядро, а за ім выкочваецца і Лявон.

Лявон. Сволач! Паскуда! Бандыт, а не карова! *(Заўважыў Лушку.)* А-а, прыйшла! З'явілася! Што ты сабе думаеш, Лушка? Га? Прападаеш там на ферме ці чортведама дзе, гаспадарку закінула. Ты што гэта? Увесь агарод лебядой зарос, палоць трэба, а ты і вухам не вядзеш! Карова з поля прыйшла, нядоеная стаіць, мычыць. Хоць бы посцілку травы нажала... Ідзі падой!

Лушка. А сам?

Лявон. Не падпускае. Лашчыцца, руку ліжа, а за вымя ўзяцца — не даецца.

Лушка. Саромеецца... Лявон! Дзе гэта твае вуды?

Лявон. Якія вуды?

Лушка. Твае. Што рыбу вудзяць.

Лявон. Навошта яны табе?

Лушка. Прыехаў Глуздакоў, Мітрафан Сазонавіч.

Лявон *(незадаволена)*. Выбраў жа час. Я зараз. Ідзі ў хлеў.

Лушка. Не, Лявонка, ты не спяшайся. Я сама.

Лявон. Што сама?

Лушка. На рыбалку з імі пайду.

Лявон. Што-о? Карова нядоеная... агарод трэба палоць, а ты... жартуеш?

Лушка. Я сур'ёзна. На рыбалку пайду я.

Лявон. Ты што? З глузду з'ехала?!

Лушка. Не, даражэнькі мой! Уз'ехала на глузд! Я колькі гадоў каровіным хвастом спутана была, горб гнула над лебядой. Цяпер — хопіць, даволі! Баста! Я зарабляю на сябе. Я — на службе. Адслужыла, зарабіла, а цяпер, у вольны час, магу і парыбачыць.

Лявон. Далібог, яна таго!.. Ці жаночая гэта справа?!

Лушка. Хопіць на жонцы ездзіць! Карову падой, агарод прапалі, абед звары, парася пакармі, посуд прыбяры, бялізну памый, спаць вас пакладзі, ды каб не мулка

было. І ў калгасе на рабоце не адставай — давай мінімум. Ды яшчэ і сваёй карове посцілку травы з поля цягні язык высалапіўшы! Не! Баста! Хопіць! Я максімум дам! А дома ты за мяне ўсё дагледзь. І спадніцу мне памый, і абед згатуй, і хлеб спячы, і агарод прапалі. А як ты думаў. Вось як пакаштуеш такога жыцця, як пабудзеш у маёй скуры, то і ты папросіш камунізма. А то за жончынай спадніцай табе цёпла, утульна. Ты прыспасобіўся!

Лявон. Значыцца, я табе буду спадніцу мыць? Абед гатаваць? А ты што будзеш рабіць?

Лушка. А тое, што ты рабіў дваццаць год... Пасля работы рыбу вудзіць, папяроскай дыміць, у кіно хадзіць, кніжкі чытаць. Мяне ў дэпутаты вылучылі! Кіраваць буду такімі, як ты! Ленін як вучыў? Кожная кухарка павінна ўмець дзяржаваю кіраваць. Дзяржаваю! Ну, я пакуль не дзяржавай, а ў раёне. А там падвучуся, глядзіш, і...

Лявон *(з жахам)*. Людзі добрыя! Што дзеецца на свеце? Навіна якая? Чулі? Мая Лушка выходзіць на арбіту! У космас ляціць! Трымайце яе!! *(Успомніў.)* А-а!.. Сон! Сон у руку! Вось да чаго сон прысніўся... Які дурань цябе ў дэпутаты вылучае?

Лушка. Не дурань, а сябар твой, рыбак, Мітрафан Сазонавіч Глуздакоў.

Лявон пырскае ад смеху. Глядзіць на Лушку, абыходзіць яе кругом і зноў заходзіцца ад смеху.

Лявон. Які з цябе дэпутат? Ты ж умееш толькі масажыраваць вымя ў каровы. Ты ж двух слоў звязаць не можаш. Там жа выступаць трэба. Там жа разумныя людзі трэба!

Лушка. Павучуся выступаць. Спачатку мне памогуць, напішуць мне, я і прачытаю... Як летась на нарадзе лепшых даярак. А там, глядзіш, як па масле пойдзе. Навучуся! Кніжкі буду чытаць, газеты. Збуду з рук агарод свой, печ табе перадам. Вунь колькі вольнага часу будзе! Чалавекам сябе адчую! А то не было калі пра сябе падумаць. Пасні, паеш і працуй як вол ад цямна да цямна. Не, мінулася! Усё! А пра такіх, як ты, што крывяцца на камунізм, я і без пісанага магу выступіць.

З хаты выходзіць Глуздакоў.

Лявон *(грозна)*. Выганю вон! Мне такая хазяйка не трэба!

Лушка. Ой, спужаў! Я і сама пайду! К зяцю пайду.
Глуздакоў. Лявон! Ты што гэта?
Лявон. А-а, Мітрафан Сазонавіч!.. Што вы нарабілі?
Глуздакоў. А што такое?
Лявон. Каго вы ў дэпутаты вылучылі?
Глуздакоў. Жонку тваю. А ты што? Не рад?
Лявон *(хапаецца за галаву)*. Што вы натварылі?!
Глуздакоў. Дзівак-чалавек...
Лявон. Хто вас прасіў? Хто вам пад'ялдыкнуў?
Лушка. Бач, ён курчыцца... Ах ты, цяляпень!..
Глуздакоў. А ты думаеш, што лепей было б зяця?
Лявон. Пачакайце, яна вам яшчэ пакажа сябе! Зяць жа перад ёй — ягнё. На сваю галаву прыдумалі гэта!.. І на маю... Бокам вылезе вам гэты дэпутат.

Прыходзіць Цесакоў.

Лушка. А-а, пачуў маю сілу?..
Цесакоў. Мітрафан Сазонавіч! Вось вам чарвячкі. Ды такія сытыя, хоць сам глытай...
Глуздакоў. Дзякую, Пал Палыч! А цяпер ідзі рыхтуй мой перадвыбарны сход. Збяруцца — мяне паклічаш. Я тут буду, каля вірка, пасяджу гадзінку.
Цесакоў. Слухаю.

Цесакоў выходзіць.

Глуздакоў. А вам я параю: не спрачайцеся! Не лайцеся! А ты, Лявон, цяпер улічы: яна дзяржаўны чалавек. Не варта каля яе шум, гам, тарарам падымаць!..

Глуздакоў бярэ вуды і выходзіць.

Лявон *(калі Глуздакоў выйшаў)*. Не, Мітрафан Сазонавіч, сам навindependentарыў салёнага, сам з'ясі і сам жа на ваду гаўкаць будзеш.

Лушка заўважыла каля веранды кнігу, якую, відаць, пакінула Соня, узяла яе, села на лавачку і дэманстратыўна чытае. Лявон ходзіць каля яе і паглядае, як кот на гарачую кашу.

Лявон. Ты чаго?
Лушка. Кніжку чытаю. Флабэр. «Мадам Бавары». *(Чытае.)* «И Леон, по слабости, по глупости, из-за того неопределимого чувства, которое толкает нас на самые нелепые поступки, позволил себя увести к Бриду...»
Лявон. Карова стаіць нядоеная, а яна кніжку чытае!
Лушка. Не перашкаджай, чуеш! *(Чытае.)* «От каждого свидания Эмма ждала глубочайшего счастья, а потом

невольно признавалась, что ничего необычайного не испытала. Но вскоре разочарование уступало место новой надежде, и Эмма возвращалась к любовнику еще более воспламененной, еще более жадной. Она раздевалась резкими движениями, выдергивала тонкий шнурок корсета, и он свистел на ее бедрах, как скользящая змея. Босиком, на цыпочках, она еще раз подходила к порогу проверить, заперта ли дверь, и вдруг одним жестом сбрасывала с себя все одежды и, бледная, без слов, без улыбки, с долгим содроганием прижималась к груди Леона...»

Лявон. Ды ты... Ты што гэта, канцы канцоў?! Ці, можа, хочаш, каб я...

Лушка. Я хачу, каб ты не перашкаджаў мне. Я культуру павышаю...

Лявон (*крычыць*). Лушка! Не даводзь мяне!..

Лушка. Ну, калі так...

Лушка рашуча забірае апошнія вуды і выходзіць са двара.

Лявон. Ты куды?

Лушка. Ты ж мяне прагнаў. К зяцю пайду. У зяця жыць буду!

Лявон. Куды вуды бярэш?!

Лушка. Усё роўна яны табе не спатрэбяцца. Не будзе часу імі займацца. Ты ж цяпер — нявольнік. Правільна Міша кажа: ты — раб каровы, раб курыцы, раб лебяды. Табой жыўнасць распараджаецца. (*Заўважыла паласатую пасцілку на верандзе, узяла яе і аддае Лявону.*) Вось твой сцяг! На, вазьмі, можа, яшчэ спатрэбіцца. Вазьмі, Лявон, трымайся за яе.

Лявон (*узгарэўся*). Што ты мне тыцкаеш? Што ты мне сунеш пад нос?!

Лушка (*амаль ласкава*). Ты ж без гэтага жыць не можаш.

Лявон вырваў у Лушкі пасцілку, скамячыў яе. Лушка толькі ўсміхнулася гэтаму і пайшла са двара, узяўшы з сабою вуды.

Лявон. Што гэта робіцца? Што ж гэта дзеецца? Як жа цяпер жыць? Што яны са мною робяць? (*Ледзь не плача.*)

Клава даўно ўжо сачыла за падзеямі на суседнім двары. І ў той момант, калі Лявон прыйшоў у адчай, Клава рашуча выломвае ў плоце дошку і пераступае граніцу з яўна агрэсіўнымі намерамі.

Клава (*спагадліва, ласкава*). Лявон, Лявонка!.. Бедны мой... Супакойся ты... (*Абдымае яго, лашчыцца.*) Ну што ж ты? Не бядуй. Пайшла? Кінула?

Л я в о н. Пайшла.

К л а в а. Ну і хай ідзе. Скацеркай дарога. Без яе абыдземся. Як-небудзь пражывём. У крыўдзе не будзеш.

Л я в о н. Ці я толькі для сябе стараўся? Ты паглядзі: і дом, як цацка, і кветнік... А садок? А пчолкі? Кароўка, два кабанчыкі, курачкі, гусачкі... Двор — поўны кораб... Усё сваё, усё сваімі рукамі. А яна? На што ж яна спакусілася?

К л а в а. На каго? На рыбалку ёй захацелася. З кім? З яго ж парахня сыплецца. Ці ж гэта мужчына?

Л я в о н *(пра сваё)*. Чаго ёй не хапала? Жыві, як сыр у масле... Чым яна незадаволена?

К л а в а. Лявонка, дарагі мой! Ці ў гэтым шчасце? Павер мне, грэшнай. *(Пагардліва.)* Курачкі, гусачкі, пчолкі, кароўка... Ну, колькі ўсяго гэтага чалавеку трэба? Ці ты ўсіх сваіх парсючкоў ды курачак, гусакоў ды гусачак з'ясі? Ці так ужо табе многа трэба таго малака?

Л я в о н. Прадам!

К л а в а. Ну, прадасі, Лявон. А грошы ў панчоху?

Л я в о н. Чаму ў панчоху? Касцюмы куплю, паліто з каракулем! Марожанае есці буду, а цукеркамі закусваць!..

К л а в а. Ну, наб'еш ты сабе жывот салодкім, а ён забаліць. Якая ж радасць ад таго?

Л я в о н. Хачу! Хачу саладка жыць!

К л а в а. Ці ж у гэтым салодкае жыццё? І я некалі так думала. Прывязала сябе да агарода, да кароўкі... Рукі былі, як граблі, ногі брудныя ад гною... А мужык мой і кінуў мяне, знайшоў чысцейшую... А мне ж толькі трыццаць пяць гадкоў... Эх, і плюнула я на ўсё гэта, і кароўку звяла на ферму. І агарод аддам. Папрацую ў меру, пагуляю ўдоваль. Вальней дыхаць стала. І табе раю: не трымайся ты за гэту жыўнасць. Не траць, куме, часу!

Л я в о н. Дык і ты за тое самае?

К л а в а. Лявонка! Любы! Глупства ўсё гэта.

Л я в о н. Глупства? А што не глупства? Га?

К л а в а *(чулліва)*. Ласка!.. Любоў! Ой, Лявон, Лявон! Якая гэта сіла — ласка ды любоў! *(Пагардліва.)* Ну што тая вадародная бомба? Пусцяковіна!

Л я в о н. Чапуха ўсё гэта — твая любоў ды ласка!

К л а в а. Не, не чапуха! Ты проста не бачыў гэтага ад сваёй Лушкі.

Л я в о н. Бачыў! Чапуха!

К л а в а. Не такая, відаць, табе жонка трэба. *(Падумаўшы.)* А можа, ты як мужчына... не ўтрымаў яе?

Л я в о н *(не так зразумеў).* Відаць, правільна. Не трымаў у руках.

К л а в а *(усміхнулася).* Ну, нічога... Паглядзім. Не бядуй, Лявон! Ты яшчэ не стары. Колькі табе?

Л я в о н *(падміргвае).* Сорак два.

К л а в а. У-у, самы цымус! Без догляду ты жыў. Жонка вінавата.

Л я в о н. Яна ж толькі фермай і жыла. Увесь яе клопат там.

К л а в а. Нічога, ты паправішся. Я цябе адкармлю.

Л я в о н *(прыслухаўся).* Чаму ты?

К л а в а. Худы ж ты, змямогся. Бедненькі, ласкі жаночай не бачыў. Не бядуй, Лявонка! Сумаваць не будзеш. Вечарком да мяне заглянеш, пасядзім, пагаворым... І мне весялей будзе.

Лашчыцца да Лявона, а ён не ведае, як на гэта рэагаваць. І трэба было, каб у гэты час на двор прыйшла С о н я — Лявонава дачка. Яна і рот разявіла ад здзіўлення. Хацела ўцячы ад сораму, але вярнулася.

С о н я. Тата!

Лявон аддзірае ад сябе Клавіны рукі.

К л а в а. Пусці мяне, Лявон!

Л я в о н. Гэта ж ты мяне не пускаеш.

У Лявона зноў пачынаецца цік.

С о н я. Тата! Што ж гэта такое?!

К л а в а. Лявонка, дзе твае вядзерца? Я пайду карову падаю.

К л а в а забірае вядро і ідзе даіць карову.

С о н я. Маму прагнаў, а сам...

Л я в о н. Яна сама пайшла. Яна кінула мяне.

С о н я. Яна ж так... каб надстрашыць цябе. Мы дамовіліся.

Л я в о н. А-а-а... Ну і я так сабе... каб надстрашыць...

С о н я. Бачу я... Не маленькая... Як не сорамна?!

Л я в о н. Ды нічога я... Далібог, я ж нічога такога...

С о н я *(са злосцю).* Як гэта нічога? Ты што гэта, бацька? Думаеш, што я наіўнае дзіця? Нічога ў гэтым не разбіраюся? Я ўжо замужам!! Ведаю, што да чаго! Я сама бачыла!

Л я в о н. Дачушка! Ды што ты?!

С о н я. Як што? Як што?

Лявон *(у яго нервовы цік)*. Далібог я не вінаваты! Гэта яна сама.

Соня. Сама? А ты? Не міргай! Дзе ж твае вочы былі?

Лявон *(раззлаваўся)*. Цыц! Я кажу табе, што не вінаваты! Вось табе... Вось табе ісцінны хрэст! *(Хрысціцца.)*

Соня. Бачыла я, які ты вінаваты. Я прыйшла... Я хацела, каб вы памірыліся з мамаю... А тут...

Лявон *(строга)*. Нічога тут не было.

Соня. Было... Было... Гэта нячэсна. Гэта непрыстойна!..

Лявон. Што?

Соня *(плача)*. Абдымацца з чужой жанчынай! У-у, працаўны!

Лявон *(супакойвае)*. Ну перастань! Я ж не абдымаў яе. Ты ж сама бачыла. Гэта яна, Клава.

Соня. Усё роўна раскажу маме!.. *(Выходзячы.)* Я маме ўсё раскажу!

Соня выходзіць.

Лявон. Соня! Стой! Пачакай! Пайшла... Ну... От уліп... *(Падміргвае і цяжка-цяжка ўздыхае, проста стогне.)* Адна бяда не ідзе, за сабою другую вядзе.

На вуліцы паяўляецца Максім.

Максім. Лявон! Лявон! Дзе ты, д'ябал у сінюю палосачку?

Лявон хаваецца ў хлеў.

Лявон! Растуды тваю катушку! Гусі твае на калгаснай кукурузе. Зараз жа згані, а то пастраляю! Чуеш?

Лявон пабег зганяць гусей. З хлева выходзіць Клава.

Клава. Лявон! *(Азірнулася, шукае суседа.)* Збег, ці што? Дзівак-чалавек!.. Бабы спужаўся...

Чуваць голас Лявона: «Гыля, чэрці лазатыя! Гыля ў балота! Мала вам месца!»

Нарэшце з'яўляецца і сам Лявон.

Лявон. Падаіла?

Клава. Падаіла. А дзе твая цадзілка?

Лявон. Я сам. Не трэба.

Клава. Ды што ты? Ці мне цяжка? Ой, Лявон! Вунь сабака транты нейкія пацягнуў. Ці не посцілку паласатую?

Лявон. Буржуй! Буржуй! Каб ты здох! Пайшоў вон!

Лявон пабег, адабраў посцілку і павесіў яе на плоце.

Клава. Эх ты, бедалага!..

Лявон. Слухай, Клаўдзя, ідзі-тка ты дамоў. Я ўжо сам як-небудзь.

Клава. Што? Спужаўся? Не бойся, я ж цябе не з'ем.

Лявон. Сама ведаеш... Між намі нічога не было, а... пойдуць плёткі.. Скандал... На вуліцу будзе — не пакажыся.

Клава. Ну і напляваць!

Клава заходзіць у хату.

Лявон. Адной было мала, другая з'явілася. Цяпер ад яе не адчэпішся. Ды хоць бы баба была прыстойная, а то... І яна ж туды цягне — супроць каровы, супроць агарода... З той жа хоць на людзі можна было паказацца: работніца, галава варыць, не верціхвостка. А гэтая — ёй жа толькі і сняцца штаны... Выходзіць — мяняй, Лявон, быка на індыка...

У акне хлява паказалася галава каровы.

*(Лявон падыходзіць да акенца ў хляве, звяртаецца да каровы.)* А ўсё цераз цябе, Красуля... Эх, зазноба ты мая рагатая! Што ты махаеш хвастом, га? Можа, і ты хочаш на калгасную ферму?.. *(Адхіснуўся ад акенца, крычыць.)* Не махай хвастом! Не сцёбай! Не павяду! Не магу!.. *(Лагодна.)* Як-ніяк, а што ні дзень, то свежая капейка звініць у кішэні. Ты ж у мяне — як чаканка звонкай манеты. Што так сумна глядзіш? Ну, жуй, жуй, мая фабрыка! Выробляй гной. Бо які ж я гаспадар без гною? Без яго агарод — пустое месца.

Прыбягае ўстрывожаны Цесакоў.

Цесакоў. Дзе Мітрафан Сазонавіч?

Лявон. Ды там, над рэчкай, рыбу вудзіць.

Цесакоў. Ён рыбу вудзіць! Ён рыбу вудзіць! На яго самога такія сеці закінулі, а ён рыбу вудзіць...

Цесакоў пабег да рэчкі.

Лявон. Ну вось... Я ж казаў... Трымайся, Ванька, пачынаецца.

Заходзіць Мікалай Сяргеевіч.

Мікалай Сяргеевіч. Добры дзень!

Лявон. Дзень добры.

Мікалай Сяргеевіч. Я хацеў пабачыць Лявона Чмыха. Мне паказалі на гэты дом.

Лявон. Правільна паказалі. Я і ёсць Лявон Чмых.

Мікалай Сяргеевіч. Давайце знаёміцца. Я — сакратар абкома. Толькі... Як бы мне рукі спаласнуць?

Лявон. Дзе гэта вы? Пад машынай, ці што?

Лявон падводзіць Мікалая Сяргеевіча да ўмывальніка, што вісіць на плоце.

Калі ласка!

Мікалай Сяргеевіч. Ехаў міма леташняй сцірты кукурузнага сіласу. Пацікавіўся — як захаваўся. Засунуў руку... Вось і запэцкаўся. А ваш Буйкевіч запаслівы.

Лявон. Гэта мой зяць — Зайграй. Запаслівыя... кулакі...

Мікалай Сяргеевіч *(падае руку)*. Завуць мяне Мікалай Сяргеевіч. Я атрымаў тваё пісьмо. Вось прыехаў разабрацца.

Лявон. Відаць, дарэмна я пісаў і дарэмна вы прыехалі.

Мікалай Сяргеевіч. Чаму так?

Лявон. Адзін у полі не воін...

Мікалай Сяргеевіч. Гледзячы які воін... А шалёўку дарэмна траціў на плот. Дарага і дэфіцытна. Выгадней было б металічную сетку купіць. Даўгавечней, прыгажэй... Правільна я кажу?

Лявон. Ды яно... правільна...

З хаты выходзіць Клава са шклянкай свежага малака.

Клава *(ласкава)*. Я малако працадзіла. Можа, вып'еш трохі сырадою?

Лявон. Не трэба. І ведаеш, Клава, не прыставай. Нічога ў нас не выйдзе. Не спадзявайся!

Клава. Ну што ты, Лявонка? Чым я цябе пакрыўдзіла?

Лявон. Я сваё слова сказаў. Ідзі дадому!

Мікалай Сяргеевіч. Вы што? Пасварыліся з жонкай?

Лявон *(неахвотна)*. Гэта... не жонка...

Мікалай Сяргеевіч *(здзіўлена пазірае на Лявона і Клаву)*. А... хто?

Лявон. Суседка.

Мікалай Сяргеевіч. Хм... А жонка дзе?

Лявон. Няма... Сышла. Кінула мяне, таварыш сакратар! К зяцю жыць пайшла.

Мікалай Сяргеевіч. Чаму?

Лявон. Цераз карову... І наогул... У прынцыпах няма згоды.

Мікалай Сяргеевіч. Характарамі не сышліся... Ці *(ківае на Клаву)* на маладое пацягнула?

Лявон. Ды не, гэта глупства. Гаспадаркай займацца не хоча жонка, агарод палоць не хоча.

Мікалай Сяргеевіч. А чаго ж яна хоча?

Лявон. Каб я карову даіў, каб спадніцу ёй мыў, абед гатаваў і ўсё такое... Каб бабай стаў.

Мікалай Сяргеевіч. А яна?

Лявон. Кніжкі чытаць, у кіно хадзіць, рыбу вудзіць і наогул: хопіць, кажа, даволі...

Мікалай Сяргеевіч. Забаставала?

Лявон. Дзяржавай кіраваць хоча! У райсавет яе выбралі.

Мікалай Сяргеевіч *(смяецца, аж заліваецца)*. Здорава! Здорава! Проста здорава! Ну, і як жа ты?

Лявон. Ды вось... Давялі... Запарыўся. А было ўжо — так прыспасобіўся. Двор поўны кораб, усё ёсць. І ніякіх табе падаткаў, ніякіх фінагентаў. Ціха, мірна, спакойна. Лепей не трэба... Дачку замуж выдаў, а зяць не захацеў тут жыць... Не разумею... І жонка пайшла... Адзін застаўся, як кол адзін...

Мікалай Сяргеевіч. А можа, ты сам вінаваты?

Лявон нічога не сказаў. Ён толькі ўздыхнуў і пацiснуў плячыма. На двор прыходзяць з вудамі ўзрушаныя Глуздакоў і Цесакоў.

Глуздакоў. Што ж яны робяць? Як яны... Якое яны маюць права?

Цесакоў. Тут нейкая інтрыга.

Глуздакоў *(заўважыў Мікалая Сяргеевіча, разгубіўся)*. Вы? Тут?

Мікалай Сяргеевіч. Я. Тут.

Глуздакоў. І я... тут...

Мікалай Сяргеевіч. Бачу. Ты чаму такі ўстрывожаны, Мітрафан Сазонавіч?

Глуздакоў. Ды тут, ведаеце... Не хочуць мяне вылучаць у дэпутаты райсавета.

Мікалай Сяргеевіч. А, чуў, чуў... Яны званілі ў райком... Чуў!

Глуздакоў. Дык, можа... Можа, вы далі такое ўказанне?

Мікалай Сяргеевіч. Не, не даваў. Яны самі эмікіцілі.

Глуздакоў *(узрадавана)*. Значыць, яны самі? Цяпер ясна — перагібшчыкі!

На двор заходзяць Буйкевіч, Максім, Міхал.

Мікалай Сяргеевіч. А вось і яны, лёгкія на ўспамін, перагібшчыкі.

Вітаюцца.

Буйкевіч. Добры дзень, Мікалай Сяргеевіч! Рады вас бачыць у нас.

Мікалай Сяргеевіч. Пачакайце радавацца.

Міхал *(знаёміцца)*. Зайграй.

Мікалай Сяргеевіч. Ведаю, ведаю. Галоўны закапёршчык тут? Галоўны перагібшчык?

Лявон. Ён, ён! Гэта зяцёк мой.

Буйкевіч. Можаце яго павіншаваць. Толькі што вылучылі кандыдатам у дэпутаты райсавета.

Глуздакоў. На якой падставе? Вы парушылі рэкамендацыю райкома. На гэтым участку я павінен балаціравацца.

Буйкевіч. А мы выстаўлялі дзве кандыдатуры. Яго і тваю. Нічога не зробіш. Народ за яго прагаласаваў.

Глуздакоў. Дык як жа так? А я?

Буйкевіч. А вы, Мітрафан Сазонавіч, не параіўшыся з партарганізацыяй, актывам, вылучылі Лявоніху на тым участку, дзе мы хацелі выбіраць Міхаіла Максімавіча, а яго і райком рэкамендаваў. Ну што ж, за Лявоніху дзякуем, яе падтрымалі людзі, жанчына яна аўтарытэтная. Так што, выходзіць, вылучылі вы яе замест сябе, Мітрафан Сазонавіч. А Міхала мы ў крыўду не далі. За яго людзі гарой.

Мікалай Сяргеевіч. А кажуць, што ён перагібшчык. Лявон Сцяпанавіч пытанне ставіць рубам. Не пашкадаваў нават зяця, напісаў мне такое пісьмо, так яго размаляваў: чысты разбойнік з вялікай дарогі.

Максім. Вось яно як! *(Лявону.)* Дык ты, значыць, нават і туды паспеў наюдзіць на Міхала? Ах ты, цяражытак ты чахлы! Ды я табе зараз...

Міхал. Бацька! Ты што гэта?

Буйкевіч. Максім!

Максім *(адмахнуўся ад іх)*. Я распатрашу тваё вантробы, ды выну тваю душу, ды пакажу, якім ад яе цяжкім духам нясе...

Буйкевіч. Максім! Максім!

Міхал. Бацька, ты хоць бы... Няёмка ж так...

Максім. Што вы мне рот затыкаеце? Што вы мне... Дзіцё я маленькае, ці што? Біцца я з ім не буду. Ці, можа, баіцеся, што я глупства недазволенае скажу перад начальствам? Не бойцеся!.. А калі што і ляпну, дык... І ведаеце што, хлопцы, ад начальства нічога не трэба ўтойваць. Як ёсць, так і выкладвай. Пара адвыкаць ад таго, як раней вялося: выхваляцца ды вочы замазваць. А ёсць яшчэ такія, што на словах, ах, якія добрыя, якія савецкія! Ну, проста цацы ўсе!.. І абавязацельствы бяруць высокія, а выконваюць... Вазьмі хоць бы суседні калгас. Абяцалі ж яны і малака рэкі разліўныя, і мяса багата, і да мяса хрэну ўдоваль, а потым праверылі і... Э-э-э... Толькі хрэнам і пахне. А трэба чэсна ўсё! Чаму ж вы не раскажаце ўсё пра гэтага фрукта? *(Паказаў на Лявона.)* Усё як ёсць! От ён і кніжкі чытае, законнікам у нас лічыцца, усё ведае. Бач ты — да самага сакратара абкома дапёр, пісьмо напісаў на зяця. *(Перадражнівае.)* «Не туды гнеш»! «Прынцыпы»! А сам — законнік гэты? Сена крадзе калгаснае... *(Заўважыў паласатую посцілку. Схапіў яе і трасе перад носам у Лявона.)* Вось твае прынцыпы.

Лявон *(хоча адабраць посцілку)*. Што ты хапаеш?! Што ты хапаеш?

Максім. Не-е! Я цябе зараз на агульны сход пацягну! Гэта старшыня цябе пашкадаваў, зяць заступіўся, бярог ад сораму... А я цябе паваджу па сялу з гэтай посцілкай.

Лявон *(адбірае посцілку)*. Не чапай, табе кажуць!

Міхал. Тата! Не варта так. Аддай сюды. *(Забірае посцілку.)*

Максім. Вот вы пра камунізм дбаеце. А трэба, каб туды ішлі ўсе з чыстымі рукамі, светлымі душамі. *(На Лявона.)* А яго ж душу трэба яшчэ вымыць, выпаласкаць, на сонцы прасушыць ды праветрыць. Вось адкуль трэба пачынаць камунізм. Што, не так я кажу, таварыш сакратар?

Мікалай Сяргеевіч. З перчыкам, але прынцыпы правільныя.

Максім *(з гонарам да Буйкевіча і Міхала)*. Га? Што?!

Клава. Лявон! Твой певень зноў курэй павёў на агароды.

Лявон *(хацеў пабегчы, але махнуў рукой).* А прападзі яно пропадам!

Максім. А ты чаму тут па чужых дварах за неўнямі сочыш?

Клава. А што ты мне? Свёкар? Ці раўнуеш! Можа, загадаеш мне за табой сачыць? Ды які ж ты певень?

Максім. Цьфу, распусніца!

На двор прыходзяць Соня і Лушка з вудамі. Але відаць, што вуды Лушка хоча выкарыстаць для другой мэты.

Лушка *(на Клаву).* А, дык ты яшчэ тут?

Клава рашыла лепей пакінуць суседскі двор без асобай просьбы. Яна пайшла цераз агарод, напяваючы: «Ой, как надо, ой, как надо друга верного иметь...» Пралезла праз шчыліну ў плоце і закрыла яе наглуха адарванымі дошкамі.

Лушка. Лявонка! Дык што ж гэта ты? Га? Не паспела я за вароты выйсці, а ты ўжо другую ў хату? Га? Глядзі-тка ты! І дзірка ўжо ў плоце, і сцежку пратаптала ўжо...

Лявон. Пачула, што ты сышла, дык яна сюды...

Лушка. А ты і рады? Не, мой даражэнькі! Не так скора!

Лявон. Ды ціха ты, людзі тут...

Лушка. Без іх ты мяне і слухаць не станеш, а на людзях паслухаеш.

Буйкевіч. Ды пагадзіцеся вы! *(Да Лушкі.)* Ты — дэпутат, сорамна. Во пазнаёмцеся — гэта сакратар абкома, Мікалай Сяргеевіч.

Лушка *(падае руку Мікалаю Сяргеевічу).* Лушка Чмых... *(Буйкевічу.)* Як жа мірыцца! Ён жа ўжо з суседкай абнімаўся.

Лявон. Каб ты так хлеб ела!

Максім. Ён жа ганьбіць яе. Яе ў дэпутаты вылучылі, а ён... На яго суседзі пальцамі тыцкаюць, непаўнацэнным калгаснікам лічаць. Гэта мужа дэпутата!

Лявон. Як гэта «непаўнацэнным»? Што я? Мінімуму не выпрацоўваю?

Міхал. Увесь тут на далоні: для грамадскай гаспадаркі мінімум. А жывот забаліць — шукаеш дзяржаўную бальніцу? Грахі свае абмываеш у камунальнай лазні? А? А прыйдзе час, запатрабуеш пенсію за кошт грамадскай гаспадаркі ды яшчэ за горла возьмеш, каб максімальную! Мы камунізм будуем. Для такой справы мінімум не падыходзіць. Занадта мала яго.

Лявон. Хто колькі можа.

Максім. А брацЬ — колькі ўлезе?

Лушка. Лявон, ты можаш і болей. Я ж ведаю. Толькі ж ты пупавінай прырос да свайго двара. Ты гатоў нават жонку кінуць, каб захаваць сваё, маё, лебяду, карову. Колькі той уласнасці, а ты за яе чапляешся. Я цяпер разумею тых буржуяў амерыканскіх, у якіх фабрыкі ды заводы, яны і вадародную бомбу могуць кінуць, каб захаваць сваё...

Мікалай Сяргеевіч. О-о! Гэта ж добрая дэпутацкая прамова!

Лушка. А што? Магу! Пра гэта я магу!

Лявон. Дык ты мяне раўняеш да тых буржуяў?

Лушка. Лявонка, зразумей — ты горшы! У іх жа хоць ёсць за што трымацца. А ты за што трымаешся?

Лявон. Што вы да мяне прычапіліся? Трымаецца, трымаецца! Што я вам, поперак дарогі стаў? Не стаў.

Максім. Калодаю лёг, а не стаў!

Міхал. У нас шэсцьсот восем гектараў прысядзібных зямель, якія апрацоўваюцца ўручную! Гэта ў век аўтаматыкі, механізацыі, кібернетыкі, касмічных палётаў. За гэтымі паўгектарнымі агародамі, садамі, курамі, гусямі, каровамі ды парсюкамі патрэбен штодзённы догляд. А што выходзіць? Штодзень у нашым калгасе тысяча дзвесце адзінаццаць чалавек прывязана да сваіх двароў. Як жа далей развіваць гаспадарку. І потым пра людзей трэба думаць, пра дачку сваю, пра жонку! Трэба ж ім аддушыну даць, а не так: з калгаснай фермы ці з поля без адпачынку — на свой агарод! Нельга ж так цягнуць жылы з жанчыны! Вы сёння паспыталі хатняй работы без іх? Ну і як?

Лушка *(Лявону)*. Ты чаго маўчыш? Набраўся сораму, як Жучка блох, і маўчыш? Ты ж толькі адзін дзень пабарахтаўся тут. А я ж так усё жыццё. Што? Соладка? Лёгка? А ты яшчэ і дачку хочаш захамутаць, маё ярмо на яе надзець? Соня! Дочухна! Не слухай яго, праклятага, трымайся Мішы! З ім ты свет убачыш, вольнай птахай пажывеш! Ён і для людзей пастараецца і для цябе. І ўсяго ў цябе ўдоваль будзе, болей, як у гэтым гняздзе.

Соня. А як жа вы?

Лушка. Мы? *(Махнула рукой на Лявона.)* І я з табой. У кіно будзем хадзіць, на экскурсіі... Мы з табой вакол Еўропы паедзем! І людзей паглядзім, і самі пакрасуемся! *(Абнімае дачку і ідзе да варот.)*

Соня. А ён? А тата?

Лушка. Ён?.. Хай пабарахтаецца ў сваім балоце, хай паброхае ў гэтай ціне. А потым прыйдзе да розуму, вызваліць рукі і прыплыве да нашага берага. Нідзе ён не дзенецца.

Соня. Дык жа шкада яго.

Лушка. А цябе ён пашкадаваў?

Лявону здалося, што Лушка адважылася на рашучы ўчынак. Ён спачатку насцярожыўся: гэта не жартачкі, калі ўсё скончыцца такім чынам, а потым збянтэжыўся. Упартасць яго і непахіснасць надламаліся. А калі ён убачыў, што зноў паказалася Клава, што яна зноў узялася за тыя ж дошкі ў плоце, якія яна нядаўна выламала, Лявон пайшоў на капітуляцыю.

Лявон *(пасля паўзы)*. Таварыш сакратар, аддайце мне гэта пісьмо. Відаць, усё-такі я не ў нагу маршырую. Трэба перамяніць нагу.

Максім. Гэта як зразумець?

Буйкевіч. Які ты непанятлівы, Максім. Значыцца, Лявон згодзен. Як людзі, так і ён. Куды людзі — туды і ён. Праўда, Лявон?

Лявон *(уздыхнуў)*. Хай сабе так.

Лушка. І з прысядзібным участкам — як людзі?

Лявон. Будзь па-твойму.

Лушка. Волю мне даеш? Раўнапраўе?

Лявон. Як гэта?

Лушка. Абед гатаваць будзеш? Спадніцу мыць будзеш? Карову на ферму завядзеш?

Буйкевіч. Ну, Лушка, ты ўжо таго... са спадніцай перахапіла.

Лушка. Ну, ліха з ёй, са спадніцай. Спадніцу мне будзе мыць старшыня. Адкрые ў калгасе пральню.

Лявон. Толькі карову пакуль што...

Лушка. Што? Гастрыт! Дыэта? Не! Цяпер выбірай: карова ці я? З кім хочаш жыць? З каровай ці са мной.

Лявон *(здаўся)*. З табой.

Мікалай Сяргеевіч *(Глуздакову)*. Значыць, разабраліся тут?

Глуздакоў. Мікалай Сяргеевіч! Толькі паўгода асталося да пенсіі, а яны спісалі мяне. Хоць бы паўгода пачакалі.

Мікалай Сяргеевіч. Паўгода? Ну, гэта не бяда. На паўгода раней атрымаеш пенсію. Думаю, што дзяржава ад гэтага не прайграе.

Буйкевіч. Не прайграе...

Мікалай Сяргеевіч. Можаш спакойна ісці на

пенсію. Тут, я гляджу, маладыя рукі ўзяліся за справу. Надзейныя рукі і цвярозыя галовы. За іх можна быць спакойным. Ну што ж, хлопцы, ні пуха вам, ні пяра, як кажуць.

Л я в о н *(Глуздакову)*. А вам і пух і пер'е.

М а к с і м. Табе пух, а яму пер'е... Хе-хе...

Л я в о н *(Глуздакову)*. Вось як, Мітрафан Сазонавіч... Як відаць, канчаецца наш сезон... *(З лёгкай крыўдай.)* І ведаеце, як яны гэта называюць? Анахранізм!

*Заслона.*

*1961*

# ЗАЦЮКАНЫ АПОСТАЛ

**ТРАГІКАМЕДЫЯ
У ДЗВЮХ ДЗЕЯХ**

## ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ ТАКІЯ АСОБЫ:

Т а т а — звычайны, хатні, такіх многа. Зусім ручны: хто паманіць, да таго і ідзе. Адна вельмі важная дэталь: ён жыве за мяжой. Праўдзівы, як і большасць мужчын.

М а м а — таксама жыве за мяжой, гаворыць, можа, і правільна, а што яна думае... Каб яна з'ела тое, што яна думае. Яна хоча, каб усе жылі паводле правілаў хрысціянскай маралі, а сабе дазваляе іншы раз і так... як-небудзь...

С ы н — іхні сынок. Ну і паслаў жа ім бог дзіцятка! Не дзіця, а камяк голых нерваў. Гарачлівы. Калючы. Мазгавіты. У нас гэткіх разумнікаў не бывае, а калі дзе і трапіцца, дык пра такога звычайна кажуць: малады, ды ранні. А ў іх вундэркіндам завуць. Але гэты — вундэркінд асобага роду: ён — не матэматык, не музыкант, не шахматыст, не паліглот, а зусім нечакана — вундэркінд-палітык. Пакуль што малавопытны, бо малады: што думае, тое і гаворыць. Вельмі хоча быць з барадой, а яна не расце, і ўсё.

Д а ч к а — яго сястрычка, адзінаўтробны антыпод. Зачараваная брацікам, яна ахвотна падбірае тыя яго якасці, якія ён адкідае прэч, як непатрэбныя: дабрату, шчырую сумленнасць, ласкавасць. Ён лічыць, што яны перашкодзяць яму стаць тым, кім ён хоча стаць, а яна пераконана, што без гэтых якасцей — чалавек непаўнацэнны.

Д з е д — старамодны, як і належыць дзядам. Ганарыцца тым, што адпакутаваў за ўсе будучыя пакаленні. Ён — дыялектычная процілегласць свайму ўнуку, і таму не дзіўна, што ў яго стрэчнае жаданне: хоча быць дзіцем, ён з радасцю памяняўся б з унукам і гадамі, і ролямі, і барадой.

Усе дзеючыя асобы ў гэтай п'есе імпартныя, нават п а л і т ы ч н ы  к а м е н т а т а р у тэлевізары — занадта інфармаваны і палітычна падкаваны. Яму здаецца, быццам ён асабіста прымае роды ў чалавецтва, а нам здаецца, што ён вось-вось пакажа і новапароджанага, быццам і новапароджаны ўжо ў ягоных руках, там — пад сталом. Бо чаго ж ён так часта зіркае туды, уніз?

Дарэчы, каментатар можа быць у трох ці больш іпастасях, па прыкладу: бог-айцец, бог-сын, бог — дух святы.

Месца дзеі — недзе на ўзбярэжжы паўднёвага мора, здаецца, Міжземнага. Можа, нават на заваляшчым якім-небудзь востраве ў якім-небудзь акіяне, мелкім, неглыбокім, дзе і вады ўсяго па калена.

Час дзеі — якраз паміж мінуўшчынай і будучыняй. Акурат у свежай баразне паміж імі. Пакуль саха гісторыі не заарала гэтую баразну, паглядзім, падзівімся, што там дзеецца.

## АД АЎТАРА

За апошнія гады мне часта даводзілася ездзіць у камандзіроўкі на чужыя землі. Усё, што я там назіраў — падзеі, факты, людзі, агульная атмасфера жыцця,— запаміналася, адкладвалася ў памяці. Што надоўга, а што і ненадоўга. Ад розных краін асталіся розныя ўражанні, але гэтыя розныя ўражанні складалі ўсё-такі адзіны вобраз жыцця там, у свеце, дзе пануе капітал. Пры ўсёй рознасці і часам экзатычнасці прыватных з'яў праглядалася агульнасць у сутнасці супярэчнасцей.

Усё, што адбываецца ў п'есе, магло здарыцца ў любой капіталістычнай краіне, дзе агіднасць маралі, прыніжэнне асобы, бесперспектыўнасць заўтрашняга дня, жорсткасць і бесчалавечнасць мяшчанскага быту становяцца відавочнымі не толькі тым, хто мае вялікі жыццёвы вопыт, а нават дзецям. Не выпадкова ў цэнтры п'есы — малы.

Для буржуазнага асяроддзя характэрныя дзве рысы, хоць і процілеглыя, але звязаныя дыялектычным адзінствам: псіхічная дэпрэсія на аснове прыніжэння асобы і на гэтай глебе з'яўленне фашысцкай ідэалогіі і культу сілы. Зачараванае кола, у якім чалавек гіне, калі не здолее з яго вырвацца.

І калі я зразумеў гэта, то пераварушыў усё, што назбіралася ў памяці, і выклаў на паперы ў форме п'есы. Калі атрымалася нешта сатырычна-вострае, то заслуга аўтара тут не такая ўжо і вялікая. Жыццё дае столькі фактаў і гатовых сітуацый, што варта толькі добрасумленна запісаць іх — і атрымаецца сатыра. Аб'ектыўна праўдзівы вобраз буржуазнага асяроддзя і ёсць самая злая сатыра. Віна не мая і заслуга не мая. Але не скажу, што мая хата з краю.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Сучасная кватэра накормленага чыноўніка. Ва ўсякім разе, сёння яго сям'я сытая. Кватэра на трэцім паверсе. Злева — шырокае акно, таму ў пакоі вельмі светла. За акном відаць вершаліны дрэў. Побач з экзатычнай пальмай можна паставіць міндаль ці каштан, а можна і ліпу. Яна расце на розных шыротах.

Вялікі пакой. Тут усяго багата, як на нашай планеце. Але найбольш уражае, выклікае пачуццё, нібы ў храме, нібы ў свяцілішчы — на ўсю сцяну суцэльны кніжны стэлаж, напакаваны рознымі-рознымі кнігамі. Каля стэлажа лёгкія лесачкі, якімі часта карыстаецца сын, каб дастаць кніжку з верхняй паліцы. Дарэчы, ён асвоіў лесачкі, як цыркавы гімнаст. У стэлажы сярод кніг тры нішы. Адна ўсярэдзіне абклеена чорным аксамітам. У ёй сядзіць бронзавы Буда. Справа, крыху ніжэй, ніша з зялёным сукном. Там гіпсавая галава Майсея, копія вядомай скульптуры Мікеланджэла. Злева ў нішы на светла-блакітным фоне — крыж з драўлянай галавой Ісуса Хрыста ў цярновым вянку. Здаецца, Ісус Хрыстос вось-вось цяжка ўздыхне. Зажмурыўся ад нечага. У пакоі — т а т а і м а м а. Поўная цішыня. Яны не размаўляюць. Але адчуваецца — калі яны загавораць, то ўжо загавораць моцна. Карацей кажучы, атмасфера перадліавальнічная. Праходзячы адно паўз аднаго, яны неяк старонящца, быццам пабойваючыся, каб між імі не пыхнула кароткае замыканне, не бліснула маланка, не грымнуў пярун.

Мама шукае месца новай карціне. Прымервае ў адным кутку, адыдзецца, паглядзіць, палюбуецца, потым пераносе ў другое месца, зноў палюбуецца. Карціна вялікая, месца ёй знайсці цяжкавата. Тата не-не дый зіркне на маму, так зіркне,— ну, нібы ў яго ў кожным воку па лазеры. Нарэшце ўсё-такі ён не стрываў.

Т а т а. Навошта цягнуць такое ў кватэру? Без неўрапатолага цяжка зразумець. Ну і густ!

М а м а. У цябе свой густ, у мяне — свой.

Т а т а. У нас жа дзеці! Іх выхоўваць трэба!

М а м а. Выхоўваць? А ты ўчора пра дзяцей падумаў, калі прынёс гэтую... гэтую поскудзь? *(Паказвае на статуэтку, што часова стаіць у адной нішы з Майсеем.)*

Т а т а. Гэта не поскудзь, а твор мастацтва. Гэта работа аднаго з лепшых афрыканскіх рэзчыкаў па дрэву. Нават у Афрыку пранік сучасны стыль, нават там разумеюць, а цябе... Цывілізацыя прайшла міма цябе.

М а м а. Цывілізацыя? *(Схапіла статуэтку і тыцкае яму пад нос.)* Гэта брыда — цывілізацыя?

Т а т а. Асцярожна!

М а м а. Што гэта такое? Назаві мне гэта!

Т а т а. Разуй вочы! Гэта — дзяўчына, маладосць!

М а м а. Чаго яе так перакруціла? Што яна робіць? Прышчык выціскае на сваёй ягадзіцы?

Т а т а. Ты ж прыгледзься! Яна ж так саромеецца. Па-афрыканску так саромеюцца. Гэта ж сама нявіннасць! Наіўнасць! Наіўнасць і чысціня! Як свежая навалачка. Па-афрыканску так саромеюцца...

М а м а. Значыць, ёсць чаго саромецца. Якая ж гэта нявіннасць? Гэта распуста! Гэта цынізм! Гэта страшна паказаць людзям. Такую зрабілі, каб панасміхацца з жанчыны. Што гэта такое? Ногі сажнёвыя. Галава камарыная. Толькі ягадзіцы ды грудзі, як ракеты?!

Т а т а. Вось гэта і ёсць мастацтва, рэалізм. У жанчыны другіх вартасцей і няма. Гэта ж і ёсць твой партрэт. І такіх, як ты.

М а м а. Цынік! Пашляк! А я выхоўваю ў сваіх дзяцей павагу да рэальных рэчаў.

Т а т а. Да вадасцёкавай трубы, да тумбы, да тэлеграфнага слупа, каўбасы, ботаў... Яшчэ да чаго?

М а м а. Так, так, так! Да ўсіх прадметаў, на якія чалавек затраціў сваю працу.

Т а т а. А я хачу, каб дзеці навучыліся думаць, мысліць, абагульняць, разумець сутнасць рэчаў, з'яў. У іх трэба выхоўваць інтэлект, розу-ум, інтэлігентнасць.

М а м а. Ха-ха! Інтэлігентнасць? Вось гэтым? *(Хапае афрыканскую статуэтку.)* Толькі паказваць такія штучкі дзецям — злачынства, і я не дазволю! Я не дапушчу! Я выкіну вон гэту поскудзь! *(Намерылася выкінуць за акно.)*

Т а т а. Не смей! *(Вырывае статуэтку з рук у мамы і ставіць яе каля Майсея.)*

М а м а. Ах, так? *(Выбягае ў ванны пакой, прыносіць адтуль чырвоную спрынцоўку і ставіць каля статуэткі.)* Тады пастаў каля яе яшчэ і гэта.

Т а т а. Па ідэі не так ужо і пагана. *(Рагоча.)*

Задворку прыбягае д а ч к а.

Д а ч к а *(запыхаўшыся)*. Тата! Мама! Тата! Мама!

М а м а. Ну, што такое? Што, што здарылася?

Д а ч к а. А наш малыш толькі што паскандаліў. *(Радасна.)* Ух, як яны біліся!

М а м а. Хто? З кім?

Д а ч к а. Наш малыш і Мухамед.

Т а т а *(спакойна)*. Ну, і хто каму накляпаў?

Д а ч к а *(радасна)*. Наш малыш расквасіў Мухамеду нос. Аж кроў пацякла.

М а м а. Ну, бандыт! Я яму дам! Я яму пакажу! Во як расце твой любімчык! Не, я яго адвучу!

Т а т а. Яшчэ трэба разабрацца — хто вінаваты. Хто пачаў?

Д а ч к а. Задзірацца пачаў Мухамед.

Т а т а. А наш малыш натоўк яму морду? Малайчына!

Д а ч к а. Але і нашаму дасталося. Яму адарвалі вуха.

Т а т а. Як вуха? Адарвалі вуха?

Д а ч к а. Ну, так. Зусім. У руках нясе. Мухамед нагой наступіў. І адарваў. *(Паказвае.)* Хр-р-р-рась!..

М а м а. Божа мой, божа мой! Яго ж трэба да доктара, да хірурга. *(Паспешліва апранаецца.)* А тут не дактары, а гангстэры!.. За якую-небудзь драпінку ён здзярэ з цябе месячны заробак. А тут цэлае вуха...

Д а ч к а. Мама! Яго не да хірурга трэба, а да краўца! У яго адарвалі вуха ад шапкі.

Мама аслупянела. Тата рагоча.

М а м а. Як ад шапкі?

Д а ч к а. А ты думала — такое вуха, сваё? Не-е, не такі ён дурань, каб падстаўляць пад чужую нагу сваё вуха.

Т а т а. Малайчына! Ну й малыш!

М а м а. Дачушка! Ідзі гані дамоў гэтага пагаанца.

Т а т а. Аляксандр Македонскі расце!

Д а ч к а выбегла на двор.

М а м а. Чаму ты рады? Што ты падахвочваеш?..

Т а т а. Я падахвочваю веру ў свае сілы. Упэўненасць! Я хачу, каб вырас дужы, моцны чалавек, здольны выжыць у гэтых дзікіх чалавечых джунглях.

М а м а. Гэта неарыгінальна! Гэта ўжо было! Звышчалавек? Юбермэнш? Гэта называюць — фашызм.

Т а т а. Кінь ты, калі ласка, свае бязглуздыя выпады. Сядзь, я хачу з табой пагаварыць.

Паўза.
Мама не садзіцца. Нават і не думае.

М а м а. З пазіцыі сілы?

Доўгі маўклівы паядынак поглядамі.

Т а т а. Дзеля чаго ты распускаеш сярод знаёмых розныя плёткі пра мяне?

М а м а. А канкрэтна — што?

Т а т а. Нібы я маральна калечу дзяцей, выхоўваю ў іх шкодныя антыгуманныя ідэі. Гэта — раз.

М а м а. Гэта не раз. Гэта — два. А што раз?

Т а т а. Распускаеш плёткі, нібы я завёў... шуры-муры... Пачаў...

М а м а. Пачаў? Даўно завёў! Даўно водзіш! І не шуры-муры, а... распуснічаеш. І гэта даўно не сакрэт, даўно ўсе ведаюць. Твае знаёмыя сустрэлі мяне і з радасцю расказалі... А я адказала, што ўсё даўно ведаю, хай не радуюцца. Я сказала, што мы паўгода з табой не жывём як муж з жонкай і думаем разводзіцца. Што тут няпраўда? Мы ж не жывём? Так? *(Ледзь не плача.)* Не жывём! Паўгода ўжо!

Т а т а. Не. Гэтак жыць далей нельга.

М а м а. Што гэта за жыццё? Вядома, нельга.

Т а т а. І не будзем.

М а м а. І не будзем.

Т а т а. А як жа будзем?

М а м а. Гэтак і будзем. *(З пагрозай.)* Як-небудзь будзем.

Т а т а. Як? Як-небудзь?

М а м а *(крычыць)*. Я ўжо сказала: мы паўгода не жывём! Будзем суіснаваць! *(Са злосцю.)* Дзеля дзяцей! Дзеля іх усё!

Т а т а. Звычайнаму розуму не пад сілу зразумець тваю беспрынцыпнасць. *(Крычыць.)* Суіснаваць? Я... Я не згодзен! І зноў дробныя скандальчыкі, спрэчкі, так сказаць, лакальныя войны? Не! Не згодзен!

М а м а. Што? Разрыў? О'кэй! Хоць зараз! Я даўно гэтага чакала. Я даўно заўважыла гэту тваю тэндэнцыю. Але запомні: дзеці застануцца са мной!

Т а т а. Ну, мы яшчэ пабачым, за кім пойдуць дзеці.

Званок. Мама ідзе і адчыняе дзверы. Упускае ў пакой д а ч к у і с ы н а. Хлопчык даволі пахабны. Акінуўшы вокам прысутных, адчуў, што «пахне смаленым», і палез на самы верх лесачак.

Д а ч к а. Во ён! Не хацеў ісці дамоў.

М а м а. Ну, што ты там натварыў, разбойнік?

С ы н. Нічога я не натварыў.

Мама *(тату)*. Во ён, твой любімчык. Яшчэ і хлусіць. *(Сыну.)* Ты чаму задзіраешся з хлопчыкамі? За што пабіў Мухамеда?

Тата. Ты не спяшайся абвінавачваць. Зараз міжнародная камісія разбярэцца — быў гэта акт агрэсіі ці самаабарона. Раскажы ўсё па парадку, што здарылася!

Сын. А што здарылася?

Мама. Ён яшчэ пытаецца, што здарылася!

Сын *(ён ужо разгарнуў кнігу, чытае)*. «І суд быў незвычайны: некалькі сот матросаў і гандляроў разбіралі справу вялікага Сакрата. Судзілі доўга і шумна. Нарэшце аднадушна прызналі яго філасофскае вучэнне няправільным і прыгаварылі да пакарання смерцю».

Мама. Ты не хітруй!

Тата. Сын мой! «Не утомляй ожиданием очей нуждающихся». Крывавая бітва з Мухамедам была?

Сын. Была. Ён яе і пачаў.

Тата. Во і раскажы, з чаго пачалося.

Сын. Там, на двары, сабраліся ўсе нашы. Гушкалка ў нас адна. І яны ўсе захапілі месцы. А мне месца няма. Яны гушкаюцца, а я так стаю. То на адной назе, то на другой. Хіба не крыўдна? Мне што, бог не даў месца пад сонцам?

Тата. Калі бог не дае, то яго трэба ўзяць самому!

Сын. Я што, горшы за тую Полі!

Тата. Якую Полі?

Дачка. Не ведаеш? У яе трэці тата — француз!

Тата. Ага, ясна. І як далей разгортваліся падзеі?

Дачка. Тады ўсе прагаласавалі, што наш малыш таксама мае права на месца. І ён заняў месца Полі.

Мама. Ну, а далей? Чаму ты пабіўся з Мухамедам?

Сын. Мухамед сказаў, што гэта не па-джэнтльменску, што я — захопнік. А я законна ж?

Тата. Законна! І што далей?

Сын. А Мухамед тады пачаў крычаць і махаць рукамі. І пераманіў усіх хлопцаў на свой бок.

Дачка. І малыш астаўся тады ў гушкалцы адзін.

Сын. А Мухамед узяў камень і...

Мама. Ударыў?! Каменем?

Дачка. Не. Ён паклаў камень пад гушкалку, каб яна не гушкалася. Сюды трошкі гушканецца, а туды — не.

Тата. Ён зацiскаў твае інтарэсы. *(Маме.)* Бачыш, агрэсар усё-такі не сын, а той!

Дачка. А Полі раве як недарэзаная.

Мама. Якая Полі?

Тата, сын, дачка *(хорам)*. У якой трэці тата — француз!

Мама. Так.

Сын. А Мухамед кідае лозунгі: «Прэч з гушкалкі!», «Прэч!» І яшчэ пагражае: «Усё роўна перакулю!» Узяў палку...

Тата. Хто? Мухамед?

Сын. А то хто ж?

Мама. І палку...

Сын. Пачаў падкладваць пад гушкалку...

Тата. А ты што?

Сын. І калі ён нагнуўся, каб перакуліць, я ўзяў і трахнуў яму ў нос.

Мама. А навошта ты трахнуў? Ты што, не мог паскардзіцца на яго?

Сын. Навошта?

Мама. Яго пакаралі б, і вінаватым быў бы ён.

Сын. Вялікая мне радасць — ісці скардзіцца пасля таго, як ён мяне перакуліць.

Мама. Ты першы нанёс удар. *(Тату.)* Во тваё выхаванне!..

Тата. Але бойка была непазбежная. Пытанне іменна ў тым, хто першы нанясе ўдар. Малыш правёў прэвентыўную аперацыю. А што далей?

Сын. Ён мяне таксама ўдарыў. Потым мы схапіліся, потым пакаціліся, потым ён наступіў на вуха і адарваў. Во! *(Паказвае сваю шапку.)*

Дачка. А ў Мухамеда — кроў з носа.

Тата. Значыць, ты пацярпеў матэрыяльныя страты!

Мама. Як можна так абыякава, калі тут сапраўднае хуліганства?

Тата. Самаабарона. *(Сыну.)* І чым усё скончылася?

Дачка. Усе разбегліся. А Полі і цяпер плача.

Мама. Гэта чорт ведае што творыцца. Ты дзе, сын, вырас?

Сын *(нібы ўспамінае)*. Дзе я вырас?.. Вырас я, мама, якраз на мяжы, якраз у свежай баразне паміж мінулым і будучым. Плуг гісторыі хутка заарэ гэтую баразну. Але я, мама, яшчэ не вырас. Я толькі пасеяны. Я яшчэ расту. Я вырасту! Расту ў атмасферы вашых буйных скандалаў і дробных інтарэсаў. *(Ён нібы чытае па памяці.)* Мінуўшчына, увекавечаная ў кнігах *(паказвае на паліцы)*, уяўляецца мне мешанінаю з гразі і крыві, неспра-

вядлівасці і крыўд... Вы прыслухайцеся да гэтых кніг. Колькі енкаў, колькі стогну, колькі жальбы... *(Нібы прыслухоўваецца.)* Ці-ш-ш... І кнігі, кожная з іх — гэта абеліск... Абеліскі светлым марам, светламу розуму, светлым надзеям. *(Пералічвае кнігі.)* Дабраце, спагадзе. Маленькім блізнятам — чысціні і наіўнасці. Які пачэсны могільнік! Так што я не толькі ваша дзіця, я — дзіця гісторыі, дзіця гэтых кніг...

Толькі дачка слухала малога, як зачараваная.

Тата. Ты сам да гэтага дадумаўся?

Сын. Неабавязкова самому. На гэта ёсць аўтары. *(Паказвае на кнігі.)* І дзіўная рэч: у самых мудрых — самы горкі лёс. Адны жылі ў беднасці і рана гінулі ад сухотаў, другія канчалі дні ў казематах, трэціх забівалі на дуэлях, а некаторым даводзілася яшчэ горш. Джардана Бруна за ерэтычную філасофію спалілі на кастры. А Дэфо — аўтара «Рабінзона Круза» — за сатырычны артыкул на цэлыя суткі прывязалі да слупа на гарадской плошчы. І хто ні ішоў — павінен быў плюнуць яму ў твар. І некаторыя плявалі. Тата, а ты плюнуў бы?

Бацька адвярнуўся, але сын стараецца заглянуць яму ў вочы.

Тата. Я?.. Не пайшоў бы на плошчу. Каб не парушыць загад.

Мама. Ну, вось што — ты зубы не загаворвай. Вось табе наказ: у нашым двары павінен быць мір. А за тваю правіннасць я цябе з дому не выпушчу. Будзеш месяц сядзець дома. Каб ведаў свае граніцы.

Сын. Мама! Ты хочаш мяне замураваць? Гісторыя ўсё-такі паўтараецца. *(Хутка знаходзіць на паліцы патрэбную кнігу.)* Некалькі вякоў назад адзін грэк — Паўзаній — здрадзіў свайму гораду, Афінам. Яго судзілі. Прыгавор быў кароткі: смерць. Але яму ўдалося ўцячы з-пад варты. Ён схаваўся ў храме. Там яго ніхто не меў права нават крануць. Але афіняне ўсё-такі перахітрылі хітрага здрадніка. Рашылі замураваць яго ў храме. А пачаць, першы камень пакласці павінна была маці таго здрадніка. І пачала. І паклала. Замуравалі. Мама! Ты хочаш паўтарыць подзвіг той грачанкі? Але ж я не здраднік. Я толькі абараняў свой гонар!

Тата *(катэгарычна, важна)*. Малыш будзе свабодны! Рукі прэч ад малыша! Няхай жыве малыш! Ты хочаш зрабіць з яго медузу? Бесхрыбетніка?

Сын *(крычыць)*. Брава! Вікторыя! Я буду сва-бо-о-дны-ы!

Дачка. Чаму ты так радуешся! Падумаеш — свабода! Што ты яе — на хлеб намажаш?

Сын. «Смяюся з чалавечае дурнаты і яе ж аплакваю»,— сказаў філосаф. Эх ты, эмбрыён! Ды ці ведаеш ты, колькі людзей загінула, самі на смерць пайшлі за свабоду? На катаргу! На віселыню! На эшафот! На штыкі! На кулі! Ды ты ведаеш, што такое свабода? Воля! За свабоду, за волю і я магу пайсці на эшафот. Нават на касцёр!

Дачка. Ну і дурань! Вось скажы мне: «Ты свабодная». І я не ведаю, што рабіць. А так лягчэй. Галоўнае — усё проста. Прыйдзеш у школу — настаўнік кажа: «Чытай гэта». Я і чытаю. Скажа: «Пісаць трэба гэта». Я і пішу. Як на вуліцы паводзіцца — таксама скажуць. А дома — мама. Зварыла крупнік — ем крупнік. Паслала купіць кока-кола — збегала. Класціся ў пасцель — лягла. А свабода — гэта што? Насуперак ці як? Думаць трэба, як над арыфметыкай.

Сын *(вельмі здзівіўся)*. Першы раз чую такое! О алах! О Магамет! О Езус! О матка боска! Во дзе корань тыраніі! Во дзе карэнне рабства! Добраахвотнае рабства — фундамент для трона цару — каралю — фараону. Гэта я ўлічу! Гэта я запомню! Ну — не! Твая філасофія не для мяне! Тата! Значыць, я правільна дзейнічаў? З Мухамедам. За месца пад сонцам. А?

Тата. Ва ўсякім разе — па-мужчынску. Трэба, каб цябе паважалі і баяліся на цябе нападаць. Сіла, брат, ёсць сіла! Яе павінны бачыць усе. Многа сілы — не трэба і розум.

Мама. Ты чаму вучыш? Не! Гэтак далей нельга. Ён хоча, каб сын вырас гангстэрам. Не, я не дапушчу! Я не дам! Усё! Разрыў! Дачушка! Ты чула, чаму вучыць бацька сына?

Дачка. Чула.

Мама. Мы з бацькам разводзімся. Таму што больш такое цярпець немагчыма! Наш двор не джунглі, дзе ўсе звяры і хто дужы, той грызе слабога. Я за дзяцей паваюю! Мы з бацькам разыходзімся. З кім ты астаешся?

Дачка *(не адразу, скрозь слёзы)*. З табой.

Сын *(спахапіўся)*. Ой! Ледзь не правароніў! *(Кумільгом злятае з лесачак да тэлевізара.)* Час палітычнага каментатара! *(Уключае тэлевізар.)*

Мама. Сынок! А ты з кім?

Сын. Мама! Ты забываеш, што для мяне палітычны каментатар важней за... Ды тут хоць каменне хай з неба падае... Не перашкаджай!

Палітычны каментатар. Некаторыя палітычныя дзеячы малых дзяржаў спрабуюць іграць на супярэчнасцях вялікіх дзяржаў, разлічваючы на эканамічную і ваенную дапамогу ўзамен палітычных сімпатый. Толькі сімпатый.

Мама. Сын! З табой размаўляе мама. *(Прыцішыла голас палітычнага каментатара. Ён губамі варушыць, а голасу яго не чуваць.)*

Сын. Не перашкаджай, мама. Ты чуеш, якая цікавая перадача?

Мама. Ты нічога там не разумееш.

Сын. Усё разумею. Паслухай. *(Павярнуў ручку рэгулятара.)*

Тата. Будзе здольны дыпламат. *(Рагоча.)*

Палітычны каментатар. Тактыка ігры на супярэчнасцях паміж вялікімі стварыла ўмовы для малых дзяржаў заключыць цэлы шэраг вельмі выгадных эканамічных пагадненняў. У выніку: спрэчка паміж вялікімі...

Мама *(выключае тэлевізар)*. Сын! Не ўхіляйся!

Сын *(каментатару)*. Святлейшы! Аб'яўляю табе падзяку!

Мама. Гэта перадача не для цябе.

Сын. А для каго? Для вас? Толькі для мяне! Выключыла на самым цікавым. Вывады не пачуў!

Мама *(трагічна)*. Сын! Тут вырашаецца твой лёс. З кім ты?

Сын *(прыжмурыўшы адно вока, разгледзеў тату, вывучыў маму)*. Я яшчэ не выбраў.

Сын лезе па лесачках наверх.

Мама *(здзівілася)*. Чаму? Пачакай, сынок. Ты нічога не зразумеў...

Сын *(успыхнуў)*. Каментатара не разумею! Цябе не разумею! Тату не разумею! Нічога не разумею! Што я? Круглы дурань, па-вашаму?

Мама. Ты не дурань. Ты проста малы яшчэ.

Сын. Малы? Калі вялікія спрачаюцца, малыя выйграюць. Чула?

Тата *(рагоча)*. Закончаны міністр замежных спраў.

Сын. У бітве з Мухамедам я панёс матэрыяльныя страты. Во! *(Паказвае шапку.)* Тата! Кампенсацыя будзе?

Т а т а *(выцягнуўся ў струну).* На новай тэхнічнай базе!

С ы н. Пагадненне падпісана! *(Маме.)* Ясна? А то — «нічога не разумееш». У мяне за плячыма гістарычны вопыт. *(Паказвае на кнігі.)*

Д а ч к а. А я? Так і ўсё? Мама!

С ы н. Ты выбрала сабе рабства. Калі вялікія спрачаюцца... *(Прыжмурыў адно вока.)* Нам кумекаць трэба.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Той жа пакой. У ім нічога не змянілася, бо і часу прайшло не так ужо многа. Праўда, на тоненькім дроціку малы падвесіў свой першы самалёт. Цацка, але сучаснай мадэлі. За сталом — д а ч к а. Перад ёю сшыткі і падручнікі. Дзяўчынка, відаць, рыхтуе ўрокі. Замаскіраваўшы ў падручніку люстэрка, яна перад ім вучыцца какетнічаць. Сёння яна ўпершыню заўважыла і адчула, што становіцца жанчынай. У пакой уваходзіць с ы н з бярэмам кніг, часопісаў і газет.

С ы н. У-ф-ф... Нялёгкая ноша. *(Кідае кнігі на стол.)*

Д а ч к а. Ты што новае набыў?

С ы н. Бярэма хлусні.

Д а ч к а. Я не разумею цябе. Усяляк ганіш гэтыя кнігі і ў той жа час цягаеш іх дахаты цэлымі штабялямі...

С ы н. Спадзяюся нешта такое знайсці, такое прачытаць... Куды ж іх размясціць? Ну, газеты — гэта хлусня па адзін дзень. *(Адкінуў убок.)* «Лук», «Лайф» і гэта... на адзін месяц, у наступным нумары самі сябе будуць абвяргаць. А гэту каманду пакуль што ў каранцін. А там праверым, што варта гэтых паліц, а што... «Агент 007» будзеш чытаць?

Д а ч к а. Мне не хапае часу на ўрокі.

С ы н. «Плэй-бой»?

Д а ч к а. Потым. Толькі карцінкі пагляджу.

Малы ўзбіраецца на лесачкі, займае сваё любімае месца, хутка прагледзеў газету і скінуў яе ўніз. Потым разгортвае ілюстраваны часопіс «Плэй-бой», на вокладцы якога каляровае фота голай жанчыны.

С ы н. Сястрычка! Ты чым там займаешся?

Д а ч к а *(нібы яе злавілі за непрыстойным заняткам).* Алгебрай.

С ы н. А мне здалося — заалогіяй.

Дачка. А чаму табе так здалося?

Сын. Ты гэтак крыўлялася перад люстэркам, быццам хацела пераканацца — вельмі адрозніваешся ад сваіх прародзічаў малпаў ці не.

Дачка. А падглядаць — непрыстойна.

Сын. Я не падглядаў. Я назіраў. Мала адрозніваешся.

Дачка. Між іншым, я твая сястра. А родны брат малпы таксама павінен быць малпай.

Сын. Я пастаянна адчуваю гэта сваяцтва. Часам так туга круцяцца падшыпнікі... тут *(круціць пальцам каля скроні)*. Ты дастань з кнігі люстэрка і адчувай сябе свабодна, натуральна. Будзь сама сабой. Рабі што хочаш. А на мяне не крыўдуй. *(Вычытаў нешта з газеты.)* О-хо-хо-хо... Во здорава! *(Смяецца.)*

Дачка. Ну, што там?

Сын. Сенсацыя! У горадзе Брукліне сярод красунь праводзілі конкурс на званне каралевы прыгажосці. Першае месца заняла італьянка Джулія, а другое — хо-хо-хо...

Дачка. Ну — хто?

Сын. Хлопец, мужчына.

Дачка *(адсмяяўшыся)*. Такі ён, відаць, мужчына...

Сын. Не ў тым справа. Журы, журы якое?! І выявілі яго толькі тады, калі ўручалі прыз. Хо-хо-хо... Адхапіў жаночы гарнітур...

Мама прасунула галаву ў прыадчыненыя дзверы з другога пакоя. Яна, відаць, неадзетая.

Мама. Дачушка! Ты не бачыла, дзе мая губная памада?

Дачка ўтуліла галаву ў плечы.

Сын *(каб чула толькі сястрычка)*. Аддай. Вярні. Чуеш?

Дачка. Во яна, тут. *(Вымае памаду са свайго партфеля.)*

Мама *(накінуўшы халат, уваходзіць у пакой)*. Навошта яна табе? Табе яшчэ рана.

Сын. Учора яна нават твой бюстгальтар прымярала.

Мама. Як не сорамна, дачушка? Ды яшчэ каб ён бачыў...

Дачка *(шыпіць)*. Даносчык. Ш-шпіён.

Сын. Чаму чалавека, які паведамляе праўду аднаму пра другога, называюць шпіёнам? За праўду? Хаця... У свеце столькі хлусні, што, каб вывудзіць праўду, трэба шпіёны.

М а м а. Ты ўрокі падрыхтаваў?

С ы н. Падрыхтаваў.

М а м а. А ты?

Д а ч к а. І я.

М а м а. Тады можаце пагуляць на свежым паветры.

С ы н *(сястры)*. Ну, што ты касавурышся? Я ж у тваіх інтарэсах напомніў маме, што ты ўжо... становішся дарослай. Яны самі не здагадаюцца, пакуль дзіця не прынясеш ім. Не падкажы, то самі не заўважаць.

Д а ч к а. Сораму ў цябе няма.

М а м а. Ідзіце, пабегайце, пагуляйце.

С ы н. Няма нешта ніякай ахвоты.

Мама скінула халат і надзела прыгожае моднае — занадта кароткае — плацце.

Д а ч к а. Уй, мама! Ты такая прыгожая стала!

С ы н. Мама! Расталкуй мне, калі ласка. Вот ты дзве гадзіны мазалася, прычэсвалася, фарбавалася... Ты зусім другая стала. Для чаго ўсё гэта?

М а м а. Твая мама хоча быць маладой. Хіба ты не хочаш, каб твая мама была маладзейшая і прыгажэйшая?

С ы н. Во дзіва! Мама хоча быць маладой, а я хачу быць старэйшым... Я хачу, каб мая мама была такой, якая ёсць на самай справе. Не горшая і не лепшая. Мам жа не выбіраюць. Якую бог пашле. Толькі, мне здаецца, было б карысней, каб ты гэтыя дзве гадзіны праседзела тут, поруч са мной і з гэтымі разумнымі людзьмі! *(Паказвае на кнігі.)*

М а м а. На ўсё свой час. Ты што? Не хочаш, каб твая мама падабалася?

С ы н. Каму?

М а м а. Усім.

С ы н. Усім?

М а м а. Ну, так, усім.

С ы н. Усім — гэта многа. Гэта — нікому. Лепей аднаму. Напрыклад, пастарайся падабацца нашаму тату.

М а м а *(холадна)*. Гэта ўжо не твая справа. Не суньнос, куды не трэба.

С ы н. Ну, во... Звычайна гэтым канчаюць усе творчыя дыскусіі.

М а м а. Ты ўсё-такі паганенькі прахіндзейчык.

С ы н. Ма-а-ма! Ты не крыўдуй на мяне. Слухай, мама, з табой жа я шчыра. Як з мамай. А з кім жа яшчэ? Я што падумаў, тое і сказаў. Калі не так, ты навучы.

Мама. Вось іменна — не тое і не так. Дочка! Забяры яго!

Сын. Мама, ты ж мяне на месяц замуравала. Месяца яшчэ не прайшло.

Мама. Ну і скажы дзякуй, што раней выпускаю.

Сын. Дачакаўся амністыі. *(Неахвотна спускаецца з лесачак.)* Ды мне там сумна з дзецьмі. Мне цікава з дарослымі. Бо я хачу быць дарослым, і я буду дарослым. Дзяцінства рана ці позна кончыцца. А наперадзе — жыццё... І потым — праз дваццаць мінут па тэлевізары выступае палітычны каментатар. А ты ж ведаеш, што я не магу яго прапусціць. Ён мудры, і мне з ім весела.

Мама. Праз дваццаць мінут і прыйдзеш.

Сын. Ну, што ж, сястра! На свежае паветра! Там вольны дух! Там свабода!

Мама. Я табе дам «свабода»! Глядзі, не задзірайся ні з кім.

Сын *(уздыхнуў)*. Свабода ў рамках законнасці.

Мама. Нахапаўся пустых фраз.

Сын. Іх дарослыя прыдумалі. *(Скача на адной назе, нібы гуляе ў класы. Ён жа яшчэ дзіця.)*

Мама зноў нецярпліва глянула на гадзіннік. Гэту нецярплівасць прыкмеціў сын. Сам сабе падміргнуў.

Мама. Дачушка! Што ты там корпаешся? Ты перамерала ўжо сем адзежак. Як баранеса фон Клаўзен.

Дачка. Я ўжо гатова. Я зараз. Малыш! За мной!

Сын. Калі яна баранеса фон Клаўзен, то я — барон Мюнхаўзен. Бяру сябе за каўнер і выкідваю вон. *(Разыгрывае пантаміму, нібы нехта яго выкідвае, а ён супраціўляецца, вылузваецца. Але нарэшце апынуўся ў калідоры.)*

Дачка. Мама, наш малыш часам бывае ўедлівы, але... ён жа вельмі-вельмі разумны. Нават мудры. Праўда? Я нават не магу на яго доўга злавацца.

Сын *(з калідора)*. «Множество мудрых — спасенье миру. И царь разумный — благосостояние народа». Сала-мон!

Дачка. А яшчэ?

Сын *(стаіць на парозе)*. «Через мудрость я буду иметь славу в народе и честь перед старейшими, будучи юношею. Окажусь проницательным в суде и в глазах сильных заслужу удивление. Я буду управлять народами, и племена покорятся мне. Убоятся меня, когда услышат обо

мне, страшные тираны, в народе являюсь я добрым и на войне мужественным».

Д а ч к а. Ну, што ты скажаш, мама?

М а м а. Біблію табе рана чытаць. Не тым ты захапляешся.

С ы н. Біблію дзед падарыў. А ён ведае, каму і што дарыць. І я не Бібліяй захапляюся, а палітыкай.

М а м а. І палітыка — не дзіцячы занятак.

С ы н *(з калідора)*. А што, калі ў нас дарослыя так заблыталіся ў палітыцы, што толькі дзеці і могуць вывесці з тупіка.

М а м а. Не лезь у палітыку, дурненькі, гэта небяспечна. Сцеражыся яе. Там не такім, як ты, шыі ламаюць. Лепей вучыся.

С ы н. Чаму? Чаму вучыцца?

М а м а. Грошы рабіць.

С ы н. Грошы — дробязь. Улада даражэй за ўсякія грошы. Ну, я пайшоў. *(Хацеў пайсці, але вярнуўся.)* Не, раскажу пра сілу ўлады. Мама, ты знаеш гэтага... ну, што ў нашым двары дражняць Пузыром?

М а м а. А-а, тоўсценькі, брытагаловы... *(Строга.)* А што — у яго імя няма, ці што?

С ы н. Імя даюць тады, калі яшчэ невядома, які чалавек будзе. А мянушку — па заслугах. Дык вось учора ён з'явіўся на двары з бацькавым партфелем, ды з такім... з кракадзілавай скуры. Бацька з Індыі прывёз. Уся драбяза з нашага двара сабралася каля гэтага партфеля. Кожнаму хацелася панасіць ці хоць патрымаць. І Пузыр тут жа, хоць тупы, а дадумаўся: хочаш патрымаць партфель — ідзі нясі дань. І панеслі. Хто што мог. А ён сядзіць, як султан, і толькі распараджаецца. «Што прынёс? Марожанае? На, панасі. А ты з чым стаіш? З цукеркамі? Ану, перадай партфель. А ў цябе што? Піражнае? Ладненька. Хопіць-хопіць-хопіць! Аддай цяпер яму!» А адзін стаіць — і ў вачах зайздрасці... А Пузыр: «Чаго стаіш? Дзе твой ясак? Ідзі нясі маркі!» Той пабег і прынёс. Хоць сам за маркі два гузікі праглынуў.

Д а ч к а. Ну, а ты што аддаў?

С ы н. Я? Ну, не. Я толькі падумаў: ну, чорт вазьмі, чаго б ні каштавала, а даб'юся таго, каб раздаваць партфелі. І не каму-небудзь, а міністрам. Тады ў мяне ўсё будзе: і марожанае, і піражнае — і без грошай! А захачу — загадаю памалёўваць новыя грошы. Вось да чаго трэба імкнуцца, мама!

**Мама.** Ох, скруціш ты сабе шыю. Ідзі, ідзі, сынок, праветры сваю галаву. Дачушка, ты гатова? *(Зноў глянула на гадзіннік.)*

**Дачка.** Я пайшла.

Дачка бяжыць за дзверы.

**Сын.** І я ўдаляюся.

Сын велічна выходзіць з пакоя. Мама падыходзіць да тэлефона. Зняла трубку, хацела набраць нумар, але на хвіліну задумалася.

**Мама.** Не, на яго спадзявацца нельга. Можа прытаіцца. Сынок, ты пайшоў? Сынок!..

Мама прыслухалася, уважліва агледзела пакой, глянула на лесачкі, дзе звычайна сядзіць сын, і выйшла ў правыя дзверы, у калідор. З левых дзвярэй па-кацінаму ціха ўваходзіць сын. Залазіць па лесачках у нішу з Будай, займае яго месца, а Буду бярэ сабе на калені. Прытаіўся. Чакае.

**Сын.** Бог — таму і бог, што яму ўсё вядома!

Уваходзіць мама. Абышоўшы ўсю кватэру па крузе, яна ідзе да тэлефона, здымае трубку і набірае нумар.

**Мама.** Мадам Жаклін? У вас пражывае студэнт Нана Нкеція... Так, негр. Будзьце ласкавы, папрасіце яго да тэлефона. Гэта з дэканата. Так, калі ласка.

Паўза.

Нана? Гэта я. *(Спяшаецца папярэдзіць.)* Не называй па імені. Там з табой поруч нікога няма? Прыдумай сам. Як хочаш. Можаш і так. А як ґэта гучыць па-вашаму? Ой, я не запомню... Ты паабедаў ужо? А чаму? Ах ты, беднянькі! Ён званка чакае. А чаму сам не пазваніў? Які ж ты нявопытны! Якраз дома цябе прымаць працей за ўсё. Вядома. Ты студэнт — прыйшоў на кансультацыю. І ўсё. Не, папку якую-небудзь пад паху ці блакнот вазьмі. Не, не, а гэтага я не магу. Гэта неразумна. У рэстаране ці ў кафэ нам паказвацца нельга. Які ты дурнянькі! Каб было так, ці ж я табе пазваніла б? А навошта нам лішнія размовы, плёткі? А дома... Што? Не, дзеці пайшлі на прагулку. Ты ж двойчы прыходзіў, дык што, хіба кепска было? Калі сама прапаную, дык, напэўна ж, ведаю, што раблю... За горад? Не, лепей калі-небудзь вечарам. Сёння? Ты занадта нецярплівы. Ну, добра, добра. Я скажу дома, што сёння ў мяне кансультацыя, калёквіум. Усё! *(Кладзе трубку.)*

**Сын.** Мама, а што такое — калёквіум?

Мама ад нечаканасці асела ў крэсла. Яна не верыць сваім вушам, не верыць сваім вачам. У яе амаль што шок. Яна зараз вельмі на-

гадвае рыбіну, якую выкінулі на пясок, хапае ротам паветра. Яна, можа, і сказала б што-небудзь, але ў яе прапаў голас.

Мама! Табе, відаць, трэба выйсці на свежае паветра. Шкодна так доўга сядзець у гэтай духаце. Ідзі пагуляй і...

Мама *(у яе пачынае праразацца голас)*. Ты... ты... ты — мярзотнік! Як ты смееш! Нягоднік! Гэта агідна! Гэта подла! Нізка!

Сын. Ты пра каго так? Пра мяне? Ці сама каешся?

Мама *(шалее ад злосці)*. Мярзотнік! Шпіён! *(Хоча спароць яго з нішы.)*

Сын. Мама! Ты мяне можаш скінуць. Я магу стаць інвалідам. Асцярожна, мама!

Мама. Ты смярдзючае парасё! Хто цябе навучыў гэтаму? Злазь адтуль! Я цябе зараз... Я табе пакажу! Злазь!

Сын. Мама! За што ты! Я ж нічога не зразумеў. Мама! Я і зараз нічога не разумею. Мама! Давай лепей памірымся. А? Ну? Клянуся богам, мама, найлепшае вырашэнне канфлікту — мір! Мама! Ну? Мір?

Мама *(кіпіць)*. Зла-азь!

Сын *(спяшаючыся)*. Я прапаную такія ўмовы для міру: ты мне купляеш кеды, новы дыпламатычны слоўнік і навушнікі. А я зараз усё забываю. Ужо забыў. Нічога не ведаю і нічога не разумею. Ну, згода?

Мама *(са злосцю)*. Што-о? Навушнікі?

Сын. Ноччу, калі вы спіцё, я буду падслухоўваць радыё Масквы.

Мама. Зноў — падслухоўваць?

Сын. Слухаць! Слухаць! А па слоўніку расшыфроўваць незразумелыя словы і тэрміны.

Мама. Маленькі шантажыст!

Сын. Нічога, падрасту — стану вялікім. Мама, а што такое — шантажыст?

Мама. Ты і без таго занадта многа ведаеш. Трапло, балбатун!

Сын. Я не балбатун і не трапло. Можаш мне паверыць. Ты ж ведаеш, што я мару стаць палітыкам. А я веддаю, што «палітыкі-балбатуны быстра сыходзяць з палітычнай арэны», як сказаў адзін вялікі. Я не трапло. Павер!

Мама *(з абурэннем)*. Як ты смееш мне такое гаварыць?

Сын. Мама! Табе трэба на вольнае паветра. Мама! Ідзі прагуляйся. Заадно абдумай мае мірныя прапановы.

Мама. Чорт ведае што гэта такое! Чаго ад цябе чакаць? А што з цябе будзе, калі ты падрасцеш?

Мама выходзіць.

Сын. Дыпламат! Генеральны сакратар ААН! *(Крычыць.)* Мама! Ты забыла сумачку! Мама!..

Мама вяртаецца, забірае сумачку.

Мама. Во некаму дастанецца няшчасце! Божа мой! Божа мой!..

Мама выходзіць.

Сын. Ты, мама, куды?

Мама ляснула дзвярыма, пайшла.

Рве дыпламатычныя адносіны. *(Філасофствуе.)* Тут разабрацца трэба. Пакуль што я нічога не разумею. Выходзіць — я вінаваты. Але ў чым? Дапусцім, усё было, як было, толькі я не падслухаў... Тады ўсё было б прыстойна?.. Нават калі б і падслухаў, але стаіўся і прамаўчаў — таксама ўсё было б прыстойна, і я і мама былі б харошыя. Дзіўна. Не разумею. *(Злуецца.)* Я толькі прысутнічаў. Я сядзеў поруч з богам! Ён жа мог мяне сапхнуць, калі я што не так раблю. Ён жа не сапхнуў мяне... Яна пра мяне хоча ўсё ведаць, а я пра яе ўсё ведаць не магу. Але ж дзеці павінны ўзбагачацца вопытам бацькоў. *(З крыўдай.)* Ад мяне дык патрабуюць — што б я ні зрабіў, нават калі нашкодзіў — не ўтойваць, прызнавацца. А чаму ж яна? А можа, і яна нашкодзіла? *(Паўза.)* Вот задача! *(Раптам успомніў.)* Праваронілў! Ён жа даўно пачаў...

Сын хутка спускаецца з лесачак. Уключае тэлевізар.

Ну, давай, Цыцэрон!..

Каментатар. Урадавы крызіс быў выкліканы нечаканым выкрыццём кансерватараў парламенцкім лідэрам лейбарыстаў. Спрэчкі ў палаце абшчын набылі бурны характар. Але яшчэ рана прадказваць, як будуць развівацца падзеі на палітычным небасхіле. Аднак гром і маланкі накаляюць палітычную атмасферу. Самы блізкі час пакажа, ці вялікі выйгрыш чакае лейбарыстаў у выніку выкрыцця кансерватараў. Будзем чакаць...

Сын выключае тэлевізар.

Сын. Пачакаем. Нам нечага спяшацца. Значыцца, рас-кры-лі... Дакладна пераклассці — раздзелі, агалілі... Быццам кансерватары спалі, а лейбарысты падкраліся і

сцягнулі з іх коўдру... А яны, сонныя, і не падазраюць. Праспалі кансерватары. Не. Тут другое. Відаць, кансерватары цішком, тайна хацелі абцяпаць якія-небудзь дзялішкі. А лейбарыстам хлусілі, быццам ніякіх дзялішак няма. Ахоўвалі тайну сваю падманам, хлуснёй. Значыць, тайна — праўда. І тайну-праўду ахоўвае падман, хлусня. Вот здорава! Сам дакапаўся. Аднак хлусня — ненадзейная варта праўдзе-тайне. А можа, тайна — і ёсць хлусня? Навошта тайну хаваць, калі яна праўда? Можа, сорамна за яе? Выходзіць, тайна — гэта калі сорамна раскрыцца? *(Прысвіснуў.)* А дзяржаўная тайна? Дзяржаўны сорам? Не, я тут заблытаўся. Але што праўду там ахоўвае хлусня — верна.

Прыбягае дачка.

Дачка. Ты што? Зноў пакрыўдзіў маму? Паскандаліў, праўда?

Сын. Ты не зразумела. Проста яна пайшла заклапочаная. Ясна? Кеды і навушнікі лёгка знайсці. А дыпламатычны слоўнік пашукаць трэба.

Дачка. Гэта ўсё табе?

Сын. А ты думала — персідскаму шаху?

Дачка. Проста дзіва, як табе ўдаецца выпрасіць...

Сын. Я нешта ведаю. Сам не знаю што, але знаю, што нешта знаю. Не выпадкова ў Польшчы ці ў Савецкім Саюзе адзін часопіс так і называецца: «Знание — сила». Можна сілай адабраць, а можна і веданнем. Я вырваў «знанием».

Дачка. Ты часта гаворыш так, што я нічога не разумею.

Сын. Плач!

Дачка. Чаму плакаць?

Сын. У Біблії сказана: «Плачь об умершем семь дней, а о глупом и нечестивом — все дни жизни его». Плач, сястра мая!

Дачка. Гэта што? Ты як быццам мне нахаміў? Праўда?

Сын. Не я. Ісус, сын Сірахаў.

Званок у калідоры. Дзяўчынка бяжыць адчыняць дзверы і вяртаецца разам з бацькам. Тата прынёс самалёцік і яшчэ нейкі скрутак.

Дачка. Гэта ўсё яму, малышу? Зноў яму?

Тата. А навошта табе самалёты?

Д а ч к а. Усё яму, усё яму! Быццам я табе зусім чужая.

Т а т а. Дзяўчынка мая! Пачакай. Будзе і табе. Самае прыемнае, дачушка, не сам падарунак, а чаканне падарунка, надзея, што ты яго атрымаеш. Чакаць падарунак — вось гэта і ёсць шчасце. А калі бог захоча цяжка пакараць чалавека, ён задавальняе ўсе яго пажаданні. Так што, дзяўчынка мая, чакай, спадзявайся, і ты будзеш шчаслівай. Я не хачу цябе караць.

С ы н *(разглядзеў цацку, строга)*. Гэта што? Што гэта?

Т а т а. Самалёт.

С ы н. Які? Такія толькі ў каменным веку рабілі. Такіх самалётаў няма ўжо ні ў адной краіне. Яны даўно ўжо спісаны ў хлам. Нават у адсталых, слабаразвітых краінах. Ты што, лічыш мяне зусім недаразвітым?

Т а т а. Ды гэта ж толькі цацка.

С ы н. Гэта цацка. Каму? Дзецям, якія жылі ў пячорах. Сённяшняя цацка — гэта заўтрашняя зброя.

Т а т а. Уяві сабе — не ведаў.

С ы н. Якія някемлівыя пайшлі дарослыя. А там што? *(Паказвае на скрутак.)*

Т а т а. Гэта не табе. Гэта аднаму дзядзю. Сюрпрыз. Падарунак. У яго заўтра імяніны. Гэта цацка для дарослых. А дзе мама?

Д а ч к а. Пайшла ў каледж. Да студэнтаў.

С ы н. Да неграў.

Т а т а. Так-так... А чаму гэта вы седзіце дома? На вуліцы такое цудоўнае надвор'е, свежае паветра, сонейка, а вы дома. Час каментатара быў, ты ўжо слухаў?

С ы н. Быў. Я яго выслухаў, а ён мяне. Абгаварылі... Сястрычка! Ты зноў хочаш падкараціць сваю спаднічку! Ужо трэці раз. Скора ног не хопіць.

Т а т а. Урокі падрыхтавалі?

Д а ч к а. Падрыхтавалі.

Т а т а. Тады можна і на свежае паветра. *(Глянуў на ручны гадзіннік. І гэта сын заўважыў.)*

С ы н. Ох, гэтае свежае паветра! Далося яно вам! Ды што там, на дварэ, накапілася яго западта, дзяваць яго няма куды ці заўтра на яго цэны павысяцца?

Т а т а. Дыхай сёння. Дыхай кожны дзень. Тое, што не ўдыхнеш сёння, заўтра не кампенсуеш. Толькі пашкадуеш. Падрасцеш — зразумееш.

С ы н. Нешта эзопаўскае. Не зразумеў. *(Задумаўся,*

*потым махнуў рукой.)* Прымаю па веру. Сіньярына! Хадзем хапаць свежае паветра.

Д а ч к а. Я ўжо хапала.

С ы н *(падміргвае)*. Хадзем, хадзем!

Сын вышмаргнуў з разеткі тэлефонны шнур, узяў пад паху апарат і разам з сястрой накіраваўся да выхаду.

Т а т а. А навошта ты забіраеш апарат?

С ы н. Разумееш, тата, я буду весці двухбаковыя перагаворы з Мухамедам. Цераз плот.

Т а т а. А апарат ты пакінь. Гэта не цацка.

Сын ставіць тэлефонны апарат на ранейшае месца.

С ы н. Магу пакінуць табе. Але ў такім разе пайду высвятляць адносіны так, як гэта рабілі першабытныя людзі. Мілэдзі! Дзе мая тоўстая дубінка?

Т а т а *(зноў нецярпліва глядзіць на гадзіннік)*. Глядзі не накуралесь там!

С ы н. Зноў абмежаванне свабоды асобы.

Т а т а. Гэта ты — асоба? Асобай трэба стаць, тады і свабода будзе.

Ну, добра, ідзіце пагуляйце.

Т а т а выходзіць у спальню.
Сын хапае сястрычку за руку і цягне яе пад стол, як толькі тата пайшоў у спальню.

С ы н. Ну, лезь! Лезь хутчэй!

Д а ч к а. А чаго?

С ы н *(злуецца)*. Хут-чэй! Потым разбярэшся!

Запхнуўшы сястру пад стол, сын хапае са стэлажа вялізную кнігу, лезе пад стол і загароджваецца кнігай. Крычыць.

Тата! Мы пайшлі! Чуеш?!

Т а т а *(са спальні)*. Добра, ідзіце!..

Т а т а вяртаецца з запісной кніжкай у руках. Падыходзіць да тэлефона, бярэ трубку, набірае патрэбны яму нумар. Гаворыць ціха.

Алё! Гэта філіял ААМ? Мне трэба філіял Арганізацыі Аховы Маралі. Мадэмуазель... Ах, гэта вы?! Салам алейкум! Слухай, пташачка, сёння ў мяне свабодны вечар. Хацеў бы ахвяраваць яго культурным сувязям. Як ты глядзіш на гэта?.. Ах ты, ласкавая! Ах ты, рыбка японская! Ах ты, вустрычка французская! Ну, вядома, вядома. Куды толькі захочаш. А заўтра ў майго дружка імяніны... Вядома, з табой, а з кім жа? Я яму такую забаўную штучку дабыў, такі сюрпрыз, ты так будзеш смяяцца, што по-

тым пупок зашываць будзем. Лопне. *(Раптам заўважае пад сталом сына. Замятае сляды.)* Адну мінутачку! Адну мінутачку! Адну мінутачку! *(Строга.)* Перамена тэхнічных умоў настойліва патрабуе кодавых перагавораў. Ясна? Алё! Не, не. Так, так. Тлумачу. Маларазвітыя краіны, маючы неадэкватны інтэлектуальны патэнцыял, не могуць парушыць рэгіянальныя пагадненні аб расшырэнні і паглыбленні культурных сувязей. Пагадненне ратыфікавана? Правільна. Патрэбна толькі пячатка? Пячатку паставім. Так. Там жа. *(Кладзе тэлефонную трубку.)*

У гэты час падае вялізная кніга. Сын выпаўзае з-пад стала, нахіляецца над кнігай і прыкідваецца, нібы чытае.

Сын. «Філасофія — гэта трансцэндэнтальны эмпірыякрытыцызм манізму, які мае ў сабе Піфагораву амонію і Саксагоравы наўменты. Авенарыус індыцыруе, што субстанцыя быцця саліпсізму, якой аперыруюць субстанты, дыферэнцыруе столькі гіпатэнцый, колькі ў кантаўскай «Крытыцы чыстага розуму». Памры, ясней не скажаш. А?

Тата *(зусім спакойна)*. Дык ты не пайшоў? Ты дома?

Сын. Не. Рашыў пазнаёміцца з філасофіяй. Але нічога, аб-са-лют-на ні-чо-га не зразумеў. А?

Тата. Такія прамудрасці табе не па ўзросту. Малы яшчэ.

Сын. Гэтыя дарослыя прыдумалі такія мудроныя словы... І навошта толькі? Іншы раз нават думаеш так: не дзеля таго, каб выказаць думку, а дзеля таго, каб утаіць тое, што наўме, падмануць.

Тата *(смяецца)*. Гэта таксама трэба ўмець. Гэта нават больш складана. Вось яно як, філосаф. Ну, я пайшоў.

Сын. Тата! Ты павінен купіць індульгенцыю.

Тата. Што-што? Ах, індульгенцыю! Ты патрабуеш?

Сын. Так.

Тата. У старажытны час быў такі выпадак: адзін манах настойліва прыставаў да брадзячага рыцара, каб той купіў індульгенцыю. Рыцар спачатку адмаўляўся, потым, каб адчапіцца ад надакучлівага манаха, купіў у яго індульгенцыю аб адпушчэнні грахоў і мінулых, і будучых. А паколькі будучыя грахі дараваны, ён тут жа абрабаваў манаха. Абрабаваў да ніткі, голенькага пусціў. Ты зразумеў прытчу, сын?

Сын *(пасля паўзы)*. Тады хоць дачку не забывай, а то крыўдзіцца.

Тата. Не забуду.

Сын. Не забудзь і пра сучаснае ўзбраенне, пра самалёцікі!

Тата. Не забуду. А ты штудзіруй філасофію. Што зразумееш, а што і неабавязкова разумець.

Тата выходзіць. Сын вылазіць з-пад стала.

Сын. Мілэдзі, вылазь! Пайшоў. Ты што-небудзь зразумела?

Дачка (*муляецца*). Здаецца, наш тата... Не, нічога не зразумела.

Сын. Калі гэтыя сувязі культурныя, то навошта нам абавязкова глытаць свежае паветра?

Дачка. Ты думаеш, што наш тата...

Сын. Нічога не разумею. У дарослых такая логіка, што... А што — «наш тата»? Ты нешта хацела сказаць?

Дачка. Што тата пайшоў...

Сын (*адмахнуўся*). Ат, пайшоў купляць табе... (*не прыдумае што*) напаўна, бюстгальтар.

Дачка (*прымае ўсур'ёз*). Ты думаеш? Ён пасаромеецца купляць такое.

Сын. Наш тата не пасаромеецца. Ён толькі назаве гэта... як-небудзь па-другому.

Дачка. А я ўжо амаль дарослая. Праўда? А?

Сын. Іменна — амаль. Адзін геніяльны іспанец сказаў: «Слова амаль — амаль слова». Яно нічога не азначае. Само ніякай сілы не мае. І ў той жа час яно можа начыста знішчыць самае моцнае, самае вялікае слова, калі іх паставіць поруч. Ну, вот: жывы і амаль жывы. Разумны і амаль разумны. Што гэта такое? Амаль свабода. Што гэта? Амаль дэмакратыя. А? Прыніжае да свайго ўзроўню, да «нішто». Значыць, яно адначасова і вялікае слова. Ёмкае слова! Здольнае аддаліць і прыблізіць. Амаль прыйшоў. Значыць — блізка. Амаль вялікі — значыць, не маленькі. Ах, як я хачу быць амаль старым, ну хоць бы з барадой. Не расце, праклятая.

Дачка. А навошта табе барада? Фі!

Сын. Навошта? Я сёння пачаў бы перадвыбарную кампанію. Я абвясціў бы барацьбу за пасаду прэзідэнта. Э-эх, каб дарвацца мне да ўлады! Я паказаў бы ім, у каго логіка мацнейшая — у дзяцей ці ў дарослых.

Дачка. Фантазёр ты пусты.

Сын. Не толькі фантазёр. Я сур'ёзна рыхтуюся да такой пасады. Бачыш, колькі я чытаю. А каля тэлевізара колькі гібею? Не футбол па двары ганяю. Я маршальскі

жэзл хачу ўзяць, імператарскі скіпетр. I вазьму! Логіка жалезная. Дарослыя пастарэюць і пойдуць на пенсію ці пераселяцца ў другое царства. Каму ўлада дастанецца? Дзецям. Толькі дзецям. Гэта значыць — нам! Ну табе, скажам шчыра, яна — як зайцу акваланг. Значыць — мне. Мне!

Д а ч к а. Ух, як грызе цябе слава! Як ты рвешся да славы!

С ы н. Грызе! Не адмаўляюся. Але мэта — вялікая, гуманная. Грызе! I яшчэ як! I калі я дарвуся да ўлады, я акружу сябе паэтамі. I яны будуць пець мне славу, асанну. Людовік XIV, каб уславіць сваё караванне, пачаў абдорваць золатам і дарагімі падарункамі мастакоў, пісьменнікаў і паэтаў. I яны не аставаліся ў даўгу — славілі караля, яго высокі розум і апісвалі, як цудоўна жывецца народу. Вось так і я зраблю. Веліч палітыкам ствараюць паэты. А калі ўбяруся ў сілу, тады дазволю і сатыру. Сатыра моцных умацоўвае. А слабыя баяцца сатыры, забараняюць яе. Ты правільна прыкмеціла — грызе. А што ты разумееш... *(Раптам зразумеў, што не перад тым спавядаецца.)* I яшчэ грызе мяне... Цікава, якую ж цацку для дарослых купіў тата на імяніны свайму другу. Давай паглядзім? А?

Д а ч к а. Нядобра гэтак. Без спросу.

С ы н. Мы потым загорнем, як было.

Д а ч к а. Я не дазваляю, і ўсё!

С ы н. Ты не маеш права ні забараняць мне, ні дазваляць.

Д а ч к а. Малыш! Я тут старэйшая!

С ы н. Ну, чаго ты надзьмулася! Старэнькая! Бабуська! *(Разгортвае скрутак.)*

Д а ч к а *(адвярнулася)*. Гэта непрыстойна.

С ы н *(сур'ёзна)*. Я павінен знаць. Я павінен многа знаць, усё знаць. Усе пакуты чалавецтва — ад недахопу інфармацыі. Я не хачу пакутаваць ад недахопу інфармацыі. *(Разгарнуў пакунак, здзівіўся.)* Ха! Ну і штукенцыя! *(Чытае па-англійску.)* «Гумавая, надзімная, у натуральны рост...» *(Смяецца.)* Зараз мы цябе напоўнім. Паветрам.

**Сын бярэ помпу і напаўняе цацку для дарослых.**

Сястрычка! Глядзі!

Д а ч к а. Мне нецікава. Не буду глядзець.

**Малы напампоўвае. Ён ужо спацеў. А перад намі — адна з «жамчужын» цывілізацыі: надзімная гумавая жанчына без ніякай мас-**

кіроўкі — галыш. Малы вымае шланг насоса. «Жанчына» затыпела. Малы затыкае адтуліну, праз якую напампоўваў паветра.

Сын. Не шыпі! Ты яшчэ мне не жонка! *(Ставіць ляльку на ногі.)* Во ты якая! Сястра! Агляніся ў гневе! *(Разглядае ляльку.)* Як жа вас завуць, мілэдзі? Эсфір? Сястрычка! Між іншым, усіх жанчын надуваюць. І хто іх толькі не надувае. Дома — дзеці і муж. На службе — падначаленыя. Настаўніц — вучні. Прадаўшчыц — пакупнікі. А ты хто? Што ўсміхаешся? Табе весела? Дурпата!

Дачка *(крадком павярнулася, глянула. Здзівілася)*. Як табе не сорамна?

Сын. Мне? А чаму мне, а не дарослым? Яе не я зрабіў.

Дачка *(скрозь зубы)*. Ну, што гэта такое? Як гэта можна? Што гэта, што гэта, што гэта???

Сын *(сур'ёзна, не па гадах сур'ёзна)*. Гэта? Цацка на забаву дарослым.

Дачка. Як ім не брыдка? Як ім не сорам?!

Сын. Чаго ж ім саромецца, калі ў самой Бібліі запісана ім апраўданне.

Дачка. У Біблії сказана: «Не открывай наготы!»

Сын. А ў другім месцы сказана: «И нашел я, что горче смерти — женщина, потому что она — сеть, и сердце ее — силки, и руки ее — оковы; добрый перед богом спасается от нее, а грешник будет уловлен ею».

Дачка. Брацік! Ты мяне крыўдзіш!

Сын. Я? Я цябе ніколі не пакрыўджу. А вось другія... Падрыхтуйся, сястрычка! Запасайся цярплівасцю. Наперадзе ў цябе многа выпрабаванняў. Жыццё будзе табе прыносіць і гэта *(дае ляльцы аплявуху)*, і гэта *(шкуматае, піхае, заціскае пад пахай, цягае, пінае, згінае)*, і гэта, і гэта... І ты будзеш мірыцца, цярпець. Цябе ветліва будуць запрашаць на танцы, каб і тут прынізіць цябе... тваю асобу. Во так! Модна! Сучасна!

Малы пачынае танцаваць з лялькай, парадзіруючы твісты, рок-н-ролы, падкрэсліваючы, утрыруючы іх пошласць.

Дачка *(крычыць)*. Брацік! Даволі! Перастань! Хопі-іць!!

Малы вышморгвае затычку і выпускае з лялькі дух.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Той жа пакой. Той жа стэлаж. Толькі на кніжных паліцах дзенідзе павымаdebitы кнігі. Гэта малы вымаў кнігі сваім блізкім. Над столлю падвешаны самалёцікі самых разнастайных марак і канструкцый: бамбардзіроўшчыкі і знішчальнікі, транспартныя і перахватчыкі, нават верталёты. Самалёцікі малы прыстроіў на дроціках так, што ў любы момант можна спусціць на брыючым палёце над сталом, за якім будзе сядзець патэнцыяльны «праціўнік». Ствараецца поўнае ўражанне, што самалёт пікіруе. Калі малы захоча, яго самалёты могуць бамбіць... каб застрашыць. Ён часта карыстаецца гэтай сілай.

Малы зараз заклапочаны, хмуры, ходзіць па пакоі ад сцяны да сцяны. На яго чале вялікая заклапочанасць, ну нібыта ўсе беды свету, увесь сум людскі, усе клопаты — на ім. Ён часам спыняецца, як статуя — выліты Напалеон,— рукі скрыжаваў на грудзях. А то прысядзе — і зноў жа — не проста, а ў позе радэнаўскага «Мысліцеля». А бывае — спыніцца і пашле свой погляд у глыбіню стагоддзяў, а вось якіх,— будучых ці мінулых — няясна пакуль што.

Сястрычка яго з нейкай напружанай цікаўнасцю назірае за ім, не адводзячы вачэй.

Дачка. Што здарылася, малыш?

Сын. Адчапіся.

Дачка. Ты нейкі сам не свой.

Сын. Адчапіся, я сказаў!

Дачка. Бяда якая, ці што?

Сын. Горш.

Дачка. А што такое? Што?

Сын. Не знаю. Сябе не знаю.

Дачка. Сябе? Ты ніколі такім не быў. Што цябе мучае?

Сын. Сумненні.

Дачка. Што-о?

Сын. У цябе былі калі-небудзь сумненні? Ты ведала іх?

Дачка. Сумненні? Не-е-е. Не ведала. Якія сумненні?

Сын *(наважыўся растлумачыць)*. Што я ведаю? Што? Я знаю — што я ведаю. А што ўмею? Што сумею? Не знаю. Я знаю, чаго хачу. Але не знаю, ці змагу я. А як праверыць? Як прайсці выпрабаванне? А? Ці годны я? Ці адпавядаю я той ролі, якую выбраў сабе? Як узяць пробу?

Дачка. Што праверыць? Якое выпрабаванне? Якая проба?

Сын. Я паставіў перад сабой вялікую задачу: стаць на чале дзяржавы, стаць правадыром нацыі, стаць цэзарам, папам рымскім ці Ісусам другім... Для гэтага ў мяне веды ёсць, чужога вопыту хопіць. *(Паказаў на кнігі.)* А ці ёсць у мяне патрэбныя рысы характару? Ці хопіць іх у мяне? Асабістыя якасці характару...

Дачка. Якія? Можа, я табе скажу — ёсць ці няма.

Сын. Не ты... Я сам павінен выявіць іх у сябе... А калі няма — вырасціць іх, выхаваць, выпеставаць.

Дачка. А якія якасці характару трэба? Для тваёй ролі — цэзара?

Сын. Сучасны цэзар павінен умець быць абаяльным, каб выклікаць пачуцці прыязнасці ва ўсіх, хто хоць раз пабачыцца з ім. Павінен умець прыкідвацца праўдзівым, калі нахабна хлусіць, прыкідвацца чэсным, калі беспардонна ашуквае, шчырым, будучы фальшывым, цвёрдым і ўпэўненым, нават калі грызуць сумненні, прыкідвацца добрым і ласкавым, падпісваючы смяротны прыгавор. Пачаўшы вайну, трэба ўмець пераканаць людзей, што вядзецца яна ў інтарэсах міру, а гарады бамбяць — дзеля іх абароны. Я павінен навучыцца памірыць заклятых ворагаў і ўмець пасварыць закадычных сяброў; павінен умець выкарыстоўваць для сябе і высакародны чалавечы парыў і такую чалавечую загану, як зайздрасць. Для веруючых я павінен быць апосталам, а атэісты хай спадзяюцца, што я — бязбожнік. Я павінен сумець пераканаць людзей рабіць тое, што мне трэба, але каб ім здавалася, нібыта яны самі таго хочуць, а я толькі разумею іх патрэбы. Я павінен умець пераканаць бацьку пайсці супроць сына, а дачку — сведчыць супроць маці, калі мне гэта спатрэбіцца. Я павінен умець узбунтаваць, уздыбіць натоўп, давесці да экстазу, да барыкад. Але я павінен умець і ўціхамірыць раз'юшаны натоўп, калі бунт прынёс ужо ўсё, што мне трэба было. Я павінен умець быць літасцівым і міласэрным да заклятага ворага, каб усыпіць яго пільнасць і быць бязлітасным да роднага брата, бацькі, нават маці, калі заўважу змову, каварства ці здраду. Я павінен умець, не раздумваючы, бязлітасна і халаднакроўна прыбіраць з маёй дарогі супернікаў.

Дачка *(з жахам)*. Гэта — страшна! Гэта — жахліва!

Сын. Але неабходна! Непазбежна! Так заўсёды было.

Дачка. Не было!

Сын. Было! Я прачытаў Светонія пра жыццё цэзараў. Я прачытаў мемуары Чэрчыля, усё, што пісалі пра Напа-

леона, успаміны пра Гітлера, я прачытаў... і яшчэ сёе-тое я прачытаў. Было!

Д а ч к а. Але гэтага не павінна быць!

С ы н *(згаджаецца)*. Не павінна. Але пакуль ёсць праўда і крыўда, ёсць багатыя і бедныя, ёсць сытыя і галодныя, ёсць князі і рабы, ёсць генералы і салдаты, ёсць жандары і паэты, ёсць асуджаныя і каты, да таго часу будуць зайздрасць, падман, грабеж, нянавісць, барацьба, каварства, кулакі, локці, зубы...

Д а ч к а. Калі так... Калі без гэтага нельга, то — не трэба, малыш! Адмоўся ад сваёй мэты, брацік! Гэта страшна і... бесчалавечна, жорстка.

С ы н. Тады маё месца зойме другі, не такі здольны, а можа, і бяздарны, ды яшчэ, магчыма, больш жорсткі.

Д а ч к а *(пяшчотна)*. У цябе няма такіх якасцей. Ты не такі.

С ы н. Не знаю. Трэба праверыць.

Д а ч к а. Як? Дзе? На кім?

С ы н. Давядзецца дома, на вас, на сваіх. Дзе ж яшчэ?

Д а ч к а. Але ж гэта немагчыма! Як? Як?

С ы н. Паспрабуем.

Сын вынімае з каробкі цацку-самалёцік і падвешвае на дрот.

Памажы, калі ласка, падвесіць.

Дачка дапамагае малышу.

Д а ч к а. Які прыгажун! Верна?

С ы н. Нервовы.

Д а ч к а. Хто? Самалёт? Які ты дзівак, выдумшчык.

С ы н. Гэты самалёт амерыканцы сканструявалі для распылення нервовага газу.

Д а ч к а. Фу, брыдота! Такі прыгажун і... Проста жах!

С ы н. Але — прыгажун!

Д а ч к а *(уздыхнуўшы)*. Я разумею, што нядобра зайздросціць, і ўсё-такі я зайздрошчу табе. Колькі ў цябе цацак!

С ы н. Якія ж гэта цацкі! Гэта — зброя! Ваенна-паветраны флот! Баявыя сілы для падтрымання халоднай вайны паміж... татам і мамай.

Д а ч к а. А мама скупая. Ну, чаго ты на мяне так глядзіш?

С ы н. Скупая, кажаш? *(Раптам рэзка.)* Ты сама вінавата. Паслухмяным заўсёды меншы кавалак дастаецца. Цяпер нават паліцыя навучылася баставаць, каб вырваць надбаўку да зарплаты. А ты... Пакорлівая рабыня. Цябе і

карміць не трэба. Запахне — і ты сытая. Парай. Ты такая мяккая, такая... табой акуляры выціраць можна.

Д а ч к а. А чаму? Каб толькі дома ціха было, мірна, спакойна. А ўсё-такі шкада, што я не з татам.

С ы н. Дурненькая. Ты не мне гэта гавары. Ты маме так скажы. І адразу ўбачыш вынік. Ды яшчэ маральна прыцісні. Скажы: мама, а калі ўсе ўбачаць, што дзеці пайшлі за бацькам, а не за табой? Зразумела? Супярэчнасці трэба распальваць. Чым злейшыя яны будуць адно з другім, тым дабрэй да нас. Засвоіла?

Д а ч к а. Ну і язва! Хітрасці ў цябе на семярых.

С ы н. Трэба ўважліва і сістэматычна слухаць радыё і тэлевізар. Асабліва перадачы для дарослых. Дзіцячыя перадачы на тое і прыдуманы, каб нас трымаць у няведанні, у цемнаце. Цёмнымі і даверлівымі лягчэй камандаваць.

У калідоры званок.

Д а ч к а. Гэта мама з работы. Ты думаеш — я не магла б так, як ты?

С ы н. Вось і пачынай. Ды стражэй! Чуеш?

Д а ч к а. І паспрабую. А што?

Дачка адчыняе дзверы і ўпускае м а м у.

М а м а. Вось і я. Ну, як вы тут?

Мама аддае сыну кнігу і яшчэ адзін пакупачак — падарункі. Да мамы падыходзіць дачка і строга выстаўляе руку. Не просіць, а патрабуе.

Д а ч к а. Ну! Што?

М а м а. Што — ну? Што — што?

Д а ч к а. Гэта я пытаюся — што? Яму, бачыш, колькі падорана? А мне зноў коўдра! Зноў вітаміны? Зноў глюкоза?

С ы н *(ухваляе спакойна)*. Правільна. Верна. Хачу — дзейнічаю.

Д а ч к а. Малыш правільна выбраў. Тата яго болей любіць, чым ты мяне. Я заўважаю. Толькі глядзі, мама! А калі ўсе ўбачаць, што дзеці пайшлі не за табой, а за татам? А?

Сын аж выцягнуў шыю, па-птушынаму схіліў галаву, адным вокам назірае за мамай.

М а м а. Дачушка! Што ты сказала? Як жа ты так? Я ж для цябе...

Д а ч к а. Не трэба меладрам, мама! Ясна? *(Сказала і спалохалася.)*

М а м а *(скрозь слёзы)*. Ясна... Так ясна, што аж у вачах цёмна.

С ы н. Мама! Слёзы тут не памогуць! Тут трэба эканамічныя санкцыі.

М а м а. Але што? Што я вам павінна? Што яшчэ?

С ы н. Што? Гэта ўжо другая гаворка. Гэта мы прадумаем.

Д а ч к а. Што? Хоць бы тое, што другім. Вунь Нэлі на імяніны бацькі падарылі цэлы звярынец: поні, зебру, сланёнка і нават кенгуру. Ты сама бачыла па тэлевізары.

М а м а. Што ты раўняешся? Што ты раўняешся? Што, ты не ведаеш, хто ў яе бацька? Мільянер! Палавіна арабскае нафты ў яго. Гадавы даход у яго — восемдзесят два мільёны! А ў твайго бацькі...

Д а ч к а. А хто вінаваты?

М а м а. У чым?

Д а ч к а. Што ў майго бацькі няма такога даходу?

М а м а. Як гэта хто?

Д а ч к а. Ты!

М а м а. Я? Але чаму?

Д а ч к а. Ты што, не магла выйсці замуж за Нэлінага бацьку? А Нэлі хай бы дастаўся мой. А?

М а м а. Не магла! Не хацела! Бо яе дзед быў гангстэрам. І нафтавыя ўчасткі яны купілі за бандыцкія грошы. Яны ўсе, гангстэры, бандыты. У іх рукі і сумленне ў крыві. А ты хочаш, каб...

С ы н. А грошы не пахнуць, як сказаў адзін...

Д а ч к а. У Нэлі і рукі белыя і сумленне. Яна — не вінаватая. Мы за дзядоў не адказваем.

М а м а. Што ж гэта робіцца? Я ўжо нічога не разумею.

С ы н. Мама! Ты дарэмна не слухаеш палітычнага каментатара.

М а м а. Гэта жорстка. Гэта бесчалавечна. Дзеці...

С ы н. А мы па Бібліі, якую падарыў нам дзядуля. «Будзем прыгнятаць бедняка-праведніка, не будзе літасці ўдаве і не пасаромеемся мнагалетняй сівізны старца».

М а м а. Дык гэта ты... твая навука? Гэта ад цябе ўсё?

С ы н. Ад Бібліі.

М а м а. Ты не зразумеў! Гэта богаадступнікі, паганыя людзі гаварылі. Ерэтыкі!

С ы н. Яны сімпатычныя людзі, тыя ерэтыкі, вясёлы народ. Кожны з іх тройчы смяшыў чалавецтва. Першы

раз народ смяяўся, калі ерэтык паведамляў пра сваё вялікае адкрыццё і выпаходства. Другі раз народ весяліўся, калі яго за гэта адкрыццё інквізітары публічна смажылі на кастры. І трэці раз весяліцца прагрэсіўнае чалавецтва, святкуючы чатырохсотгадовы юбілей ерэтыка. Аказвацца — ён быў вялікі, а яго падсмажылі. Каб не ерэтык Галілей, Зямля наша да гэтага часу стаяла б на трох кітах. Не было б Магелана — не было б Амерыкі. І Саветы не запусцілі б Гагарына. Не, усё гэта было б, але са спазненнем на пару стагоддзяў.

М а м а. Божа мой, божа мой! Што ў яго ў галаве? Пакладзі Біблію. Табе рана яе знаць. Ты яшчэ горкае дзіця. Кашмар! Што за дзеці? Ну і дзеці!

Мама пайшла на кухню.

С ы н. «Дети грешников бывают дети отвратительные и общаются с нечестивыми...»

Д а ч к а. Я так не магу. Ведаеш, малыш, гэта ўжо цераз сілу. І праўда — жорстка мы з мамай. Другі раз я так болей не буду. Мне шкада яе... Пакрыўдзілі мы яе...

С ы н *(прытуліў сястру)*. Значыць, ты яшчэ... У наш суровы век ты... Занадта ты далікатнае стварэнне. Ну што ж, і такія таксама патрэбны. Будзь такая, якая ты ёсць — мяккая, добрая, як папрок грубым людзям. Ты даруй мне за гэты эксперымент. Я праверыў, як можна выкарыстаць зайздрасць. Далікатная, ласкавая душа становіцца жорсткай... Сумеў.

Д а ч к а. Гэта я сама.

С ы н. Я так і рабіў, каб ты думала, нібы ты сама...

У нярэдняй зноў раздаецца званок. Дачка адчыняе дзверы, упускае тату і вяртаецца.

Д а ч к а *(паведамляе)*. Тата.

Уваходзіць т а т а. Хмуры.

С ы н *(патрабавальна)*. Ну? Што?

Т а т а. Што — ну? Што — што?

С ы н. Гэта я пытаюся: што — што?

Т а т а. Ты мяне проста абабраў. Мой бюджэт проста не вытрымлівае. Я не маю за што купіць прыстойных цыгарэт. Вымушаны курыць нейкую дрэнь і прыкідвацца...

С ы н. ...дэмакратам. А можна зусім кінуць курыць. Калі верыць літаратуры *(жэст на стэлажы)*, нікацін вельмі шкодны. Нібыта рак...

Т а т а. Ты ведаеш, сын? Ты горш за нікацін, больш шкоды.

С ы н. Гэта як зразумець? Ты быццам незадаволены?

Т а т а. Так. Я незадаволены!

С ы н. Тваё шчасце, што ты жывеш не пры цэзару Нероне.

Т а т а. А то што?

С ы н. На, пачытай, што піша Светоній: «Адзін рымлянін, педагог, быў асуджаны на цяжкае пакаранне за тое, што ў яго пастаянна незадаволены выраз твару».

Т а т а. Трапло! Нахапаўся з кніжак... Не, трэба за цябе ўзяцца. Ну і дзеці! Ох і дзеці!..

Т а т а выходзіць у свой кабінет.

С ы н. Ты чуеш? Зноў дзеці. Ну, не! Сапраўды трэба за іх узяцца. Распусціліся.

Д а ч к а. Ты, брацік, перасольваеш.

Званок. Д а ч к а бяжыць і хутка вяртаецца.

Тэлеграма. Ад дзядулі! Едзе! Мама! Тата!

С ы н. Стоп! Дурніца! Чаго спяшаешся! Пакажы. Тут карысная інфармацыя. Мы павінны яе скарыстаць. А ўсё-такі малайчына наш дзядуля. Чулая душа! Адгукнуўся. Ты яшчэ не ведаеш, што ўсе беды на свеце — ад недахопу інфармацыі. Людзі траплялі ў недарэчнае ці смешнае становішча — ад недахопу інфармацыі. Вось гэта тэлеграма дасць нам дадатковую інфармацыю — ці магчыма ў прынцыпе ўзаемаразуменне паміж татам і мамай на базе павагі да продкаў.

Д а ч к а. Во смеху будзе!

С ы н. Ненадоўга. На час візіту. А там...

Сын падыходзіць да магнітафона, падбірае ленту.

Мы зараз такі заліхвацкі танец ім падбяром, што ахнеш. Помніш, у нас гастраляваў рускі ансамбль? Я запісаў на магнітафон адзін іх танец. Кліч!

Д а ч к а. Тата! Мама! Мама! Тата! Сюды! Хутчэй!

С ы н. Палу-у-ндра!!!

З розных дзвярэй прыбягаюць т а т а і м а м а.

Т а т а. Што такое?!

М а м а. Што здарылася?! Чаго вы гвалт узнялі?

С ы н. Зараз будзе выступаць ансамбль народнага танца. Мама!

Д а ч к а. Танцуй!

Мама. Што за дурасці? Чаму — танцуй!

Сын. Тэлеграма. Ад дзядулі.

Мама. Тым больш. Можа, дзядуля захварэў, можа, бабка памерла. А я буду танцаваць? Што за манеры?

Сын *(разгарнуў тэлеграму)*. Ніхто не захварэў, ніхто не памёр. Танцуй! Усе рады! Усе лікуюць!

Дачка. Мама! Танцуй! Ніхто не памёр! Ніхто не захварэў! Усе рады! Усе лікуюць!

Сын *(запускае праігрывацель і падпявае)*. А дзядуля, дзядуля! Каго любіш? Бабулю...

Мама неахвотна пачынае танцаваць.

Дачка *(прытанцоўваючы)*. Тата! А ты?

Сын. Чаго стаіш? Ану, давай!

Тата *(усміхаецца)*. Яшчэ чаго не хапала...

Сын *(строга, крычыць)*. Тата! Гэта прынцыпова! Як ты радуешся дзеду, так я буду радавацца табе! Ісус, сын Сірахаў, сказаў: «Почитающий отца будет иметь радость от детей своих и в день молитвы услышан будет». Перад тым як адмовіцца, падумай, тата. Мой дзядуля можа табе дапамагчы, але можа і пашкодзіць. Ён друг твайго генеральнага дырэктара, папа.

Дачка танцуе з мамай і ўважліва, насцярожана назірае за псіхалагічным паядынкам паміж бацькам і сынам. Гэту насцярожанасць дачкі заўважыў бацька. Ён усміхнуўся і неахвотна пачынае танцаваць.

Дачка *(заапладзіравала)*. Бра-а-ва! Малыш! Ты геній! Ты — Цэзар!!!

Малы падкруціў рэгулятар радыёлы. Магутна іграе аркестр. Тата набычыўся і рушыў да лесачак, на якіх сядзіць сын. Здаецца, бацька зараз сцягне малога за нагу, растопча, расшкуматае. Аж не! Ён з такою злосцю... пачаў танец. Павольна, з разваротам. У танец падключаюцца сын і дачка. А яны ўжо зусім па-сучаснаму, па-мадэрнаму. Ну і танец! Ай ды танец! Сын напявае нешта такое: «А бабуля з дзядуляй!..» Усе танцуюць ужо з поўнай душэўнай аддачай. Дачка падміргнула брацiку, паказваючы на тату і маму, якія вытанцоўваюць адно перад адным. Малы насцярожыўся. Нават спалохаўся.

Сын *(сястры)*. Усё гэта скарацечна.

Дачка *(шчыра радуецца)*. Я-ак хо-ра-ша!!!

І раптам ён тыграм кінуўся на сястрычку. З дзікім крыкам. З гікам! Пакаціліся па падлозе. Шкуматы ляцяць. Тата і мама спыняюцца. Яны шакіраваны. Яны нічога не разумеюць. Кідаюцца разнімаць малых. Расцягваюць за ногі ў розныя куткі. Тата — сына, мама — дачку.

Мама. Што такое? Што такое? Вы звар'яцелі?
Тата. Што такое, сын? Што здарылася?
Дачка. Гэта ён! Гэта ён!
Сын. Я? Гэта ўсё ты! Гэта яна!

Дзеці, пераміргнуўшыся, зноў парываюцца адно да другога, але тата і мама адціскаюць іх у процілеглыя куткі.

Дачка. Што я табе зрабіла? Што? Што?
Мама. Што яна зрабіла?
Тата. Што яна зрабіла?
Сын. Іменна — што яна мне зрабіла? Нічога! І яшчэ хваліцца. А павінна ж яна мне хоць што-небудзь зрабіць? Як малодшаму брату. *(Кідаецца да сястры.)*
Павінна ці не?..

Тата і мама стрымліваюць дзяцей.

Дачка. Я нічога табе не павінна! Нічога, нічога, нічога!
Мама. Дачушка, ён не вінаваты. Гэта ўсё ён! *(Паказвае на тату.)* Яго выхаванне! Яго навука! Гэта ж разбой! Хуліганства!

Тата адпускае сына і паварочваецца да мамы.

Тата. Гэта ўжо чорт ведае што! Яна мяне вінаваціць. У чым? *(Скрозь зубы, са злосцю.)* У чым я вінаваты?!
Мама. А хто? Хто вінаваты, што ён расце бандытам? Ты яго вучыш.
Тата. Чаму я яго вучыў? Хіба я во цяпер чаму-небудзь вучыў яго? Гэта ж ён вучыў мяне... падвучыў танцаваць з табой.
Мама. Во-во! Ты і танцуеш пад яго дудку. Ён яшчэ падвучыць цябе задушыць каго-небудзь.
Тата. Я зраблю гэта зараз без яго навукі!

Тата і мама ідуць на збліжэнне, на таран. Але пільныя дзеткі не дапускаюць вялікага канфлікту. Яны — у плач. Равучы, яны расцягваюць бацькоў у процілеглыя куткі так, як толькі што бацькі рабілі з дзецьмі.

Дачка. Та-а-а-та-а!
Сын. Ма-а-а-ма-а!

Дзеці расцягваюць бацькоў.

Дачка. Ма-а-а-ма-а!
Сын. Та-а-а-та-а!
Дачка *(гэтак жа, як брат)*. Ма-а-а-ма-а!
Тата *(крычыць)*. Ці-і-х-а!

I наступае мёртвая цішыня.
Паўза.
Ніяк не адсапуцца.

Сын. Ну, што? Уціхаміры́ліся? *(Сястры.)* А ты прарочыла прымірэнне! *(Бацькам.)* Вы ўжо забылі пра тэлеграму ад дзядулі. Ці вам гэта ўжо не цікава?

Мама. Ну, што там? Чытай!

Сын *(чытае тэлеграму)*. «Сустракайце сёння сем трыццаць вечара». *(Глянуў на гадзіннік.)* Праваронілі!

Усе глядзяць на свае гадзіннікі.

Дачка. А цяпер дзядуля выйшаў з самалёта і глядзіць наўкруга, шукае каго-небудзь з нас... А нас няма...

Сын. Ад нас патрабуюць павагі да бацькоў...

Мама. Чаго ж мы стаім! Трэба ж нешта рабіць.

Сын. Сустракаць трэба, мама.

Мама. Я ж і кажу. Ён, як заўсёды, будзе цягнуць якія-небудзь кошыкі з ласункамі, прысмакамі. Бабуля напакуе ўсяго. Сынок! Дачушка! Можа, вы пайшлі б яму насустрач? А я па кухні прыгатавала б...

Сын. Тата! Ты чуеш? Мама просіць цябе сустрэць дзеда.

Тата. Яна гэтага не сказала.

Сын. Яна не сказала, але падумала.

Тата. Ты чытаеш чужыя думкі?

Сын. Толькі ў мамы і таты. Тата, ты — джэнтльмен. У дзеда чамаданы...

Мама. І як заўсёды, ён прынясе што-небудзь...

Сын. Тата! Мама сказала, што дзед будзе частаваць цябе, як заўсёды, арыгінальнай закускай.

Тата *(пачынае злавацъ)*. Не лічы мяне за дурня, сын! Я ўсё чую.

Сын. Тата, ты чуеш, але не разумееш. Між вамі няма ўзаемаразумення. І я перакладаю вам. Вы — іншаземцы.

Дачка. Хопіць, брацік! Давай мы пойдзем і сустрэнем.

Мама. Дачушка! Ты лепей збегай і купі хлеба.

Дачка. Збегаю.

Дачка бярэ ў мамы грошы і выходзіць.

Сын. І толькі? Не! Сустракаць дзеда толькі хлебам? Нельга! Не адзіным хлебам жыве дзядуля. Яму абавязкова падавай каньяк ці віскі.

Мама. Праўда, сынок. Але ў мяне ні сантыма сёння.

Сын. Тата! Мама **сказала,** што каньяк ты купіш.

Т а т а. Ізноў сказала? У мяне таксама... *(паказвае на парожні партманет)* зусім пуста.

С ы н. Тата, у гэтага ліванца ты можаш узяць у крэдыт.

Т а т а. Яшчэ што прыдумай. Каб я ды ў крэдыт?

С ы н. Для дзядулі!!! Не забывай — ён друг... чый?

Т а т а. Нават для дзеда. Зразумей, я не магу сваю рэпутацыю...

С ы н *(пагадліва)*. Банкруты!.. Дажыліся. Што ж? Я павінен папаўняць вашы фінансы? А? Так і быць... Сёння я вас выручу, але... з умовай. Працэнты самыя высокія. Палітычныя патрабаванні таксама будуць. *(Адчыняе сваю капілку-шкатулку і выдае маме грошы.)* «Пиры устраивают для удовольствия, и вино веселит жизнь; а за все отвечает серебро». Вернеш гэта і яшчэ два луідоры ў дадатак. Працэнты.

М а м а. А чаму ты мне іх даеш?

С ы н. Не хочаш плаціць працэнты? Мама, не хвалюйся, тата зараз пойдзе ў магазін па каньяк. Ідзі на кухню, гатуй закуску.

Т а т а. Табе, сын, не здаецца, што ты незаконна захапіў усю ўладу... у доме?

С ы н. Гэта для спробы. *(Мякка.)* Тата, я, вядома, мог бы і сам купіць каньяк. Але што падумаюць суседзі? І наогул — ці прыстойна мне ў маім узросце купляць спіртное? Мая рэпутацыя павінна быць бездакорнай, калі я выбраў сабе... гэта... туды... шлях. А калі ты купляеш каньяк — твая рэпутацыя нікольні не пагаршаецца. Наадварот, ты гэтым дэманструеш свае ўдачы... ускосна. Хіба не праўда?

Т а т а. Так. Твая праўда ў мяне ўжо ў пячонках.

Т а т а ўзяў грошы і выйшаў.
Вяртаецца з хлебам д а ч к а.

М а м а. І ў каго ты ўдаўся, такі мудрэц?

С ы н. Мама! На тваім месцы я абавязкова абняў бы і пацалаваў тату. За каньяк. І ты гэта зробіш. Сястрычка! Будзеш сведкай.

Д а ч к а *(запыхаўшыся)*. Дзядуля прыйшоў?

С ы н. Пакуль не. Ён павольна набліжаецца да нас — да прагрэсу. Павольна таму, што ён — слабаразвіты.

М а м а. А што, калі вы паедзеце з дзедам на ферму? А?

Д а ч к а. Ой, здорава! Малыш! Праўда — здорава?

Сын. Што здорава? Не спяшайся. *(Маме.)* Як — на ферму? На дзень, на два?

Мама. Не. І вучыцца там. Можа, на год, можа — на два.

Сын. Сястра! А ты ўважліва слухай! Не калупайся.

Мама. Там пастаянна свежае паветра.

Сын. Ізноў свежае паветра.

Мама. Там новыя знаёмыя. Там лес, луг, рэчка. І потым — там уволю свежых ягад, яблык, груш, гурочкаў і морквы.

Сын. Раскоша! Якія перспектывы! Якая светлая будучыня! Гэтак агітаваць нават мой любімы палітычны каментатар не ўмее. *(Да сястры.)* Ну, а што скажаш ты? Пярэчыць будзеш? Смялей! Смялей!

Дачка *(нясмела)*. Але, мамуля... Наш дзедка і наша бабка — старэнькія ўжо. Ім цяжка будзе з намі. Яны не пагодзяцца.

Сын. Малайчына, сястра! Ты развіваешся! Ты нават мысліш!

Мама. І дзед і баба рады будуць. Ім весялей будзе з вамі.

Сын. Ну, вядома, калі я пастараюся, ім будзе весела да слёз.

Мама. Я б на вашым месцы... я паехала б.

Сын. Пакінуць цябе і тату? Без мяне вы... «Без царя передеретесь» — як любіў гаварыць у тэлевізары адзін рускі купец.

Мама. Убачыце, як другія людзі жывуць... Шырэй кругагляд...

Сын. Мама, у мяне і без таго кругагляд шырокі. Дзякуючы яму — тэлевізару. Ён усё паказвае: і як сеюць, і як жнуць, і як раджаюць, і як забіваюць, і як паміраюць; як любяць і як ненавідзяць, як уцякаюць і як даганяюць; як моляцца і як клянуць. І ўсё папраўдзе. Нават спаднікі паказваюць і так і навыварат. А ў дзеда тэлевізара няма. Як жа я астануся без палітычнага каментатара? А ён без мяне? Гэта ж ён мяне такім зрабіў. Ён —мае вочы і вушы. Дзякуючы яму ўся планета ў мяне во дзе — на далоні.

Дачка. Праўда, мама, без яго наш малыш зачахне.

Мама. Вы мала ведаеце свайго дзеда. Наш дзед — жывая легенда. У яго такая багатая біяграфія. А табе, сын, вельмі карысна было б пасябраваць з дзедам. Для тваёй кар'еры... Ён так многа ведае...

Дачка *(здзівілася)*. Больш за нашага малыша?

Сын. Да яго дыктатары тайна прысылаюць паслоў за парадай.

Званок у прыхожай.

Мама. Няўжо дзед?

Дачка. Пазнаю! Гэта — дзядуля. Мама! Ідзі сустракай!

Мама прыхарошваецца, папраўляе прычоску, фартух, нават бровы.

Сын. Гэта ж не кавалер, а дзед! Чуеш, мама! Калі хочаш, каб ён не крыўдзіўся за тое, што мы не сустракалі, ты зрабі так: адчыні дзверы і схавайся. А як толькі ён на парог, ты кідайся яму на шыю і лямантуй: «Тата! Мілы!» Тут і мы падаспеем — унучка і ўнук. Трэба агарошыць яго нашай радасцю, нашай ласкай!

Мама ідзе да дзвярэй і робіць усё так, як навучыў яе сын. Але, на жаль, мама кінулася на шыю не дзеду. З магазіна вярнуўся тата з бутэлькай каньяку. Першыя заўважылі памылку дачка і сын, але было позна. Мама з лямантам: «Тата, мілы!» — павісла на шыі ў мужа.

Дачка. Мама, ой...

Тата *(ад нечаканасці пачаў заікацца)*. Т-ты што? А-а-шалела?

Мама сканфузілася.

Сын. Я сказаў — я зрабіў. Маё слова — закон.

Дачка пацалавала брацікa.

Тата. Зноў твае штучкі?

Дачка. Мы думалі — дзядуля...

Сын. Гэта памылка. Ты, тата, хіба ніколі не памыляўся?

Дачка. Я хоць раз убачыла, як мама абдымае тату. Няўжо табе не ўпадабалася, тата?

Сын. А табе, мама?

Дзверы былі расчынены. Дзед увайшоў і спыніўся на парозе. Ніяк не адсапецца. Цераз пляча вісяць на лямцы спераду невялічкая сумка, а ззаду — мініяцюрны чамадан. Падняўшыся на трэці паверх, ён хапае паветра, як рыбіна на пяску. Яго ніхто не заўважае.

Дачка. Няўжо яны ніколі не абдымаліся?

Дзед. Было і такое, калі вас не было.

Дачка *(шчыра ўзрадавалася)*. Дзядуля!

Дзед. Ну, што вы аслупянелі? Аслабаніце! Я стары і слабы.

Сын. Ну, я ж казаў — слабаразвіты.

Д а ч к а. Нядобра гэтак пра дзядулю!

Сястра штурхнула брата пад бок. Той бяжыць да дзеда і здымае з пляча чамаданчык і сумку.

Д з е д. Ну, цалуйце мяне, кусайце! Кусайце!

Вітаюцца, цалуюцца, абдымаюцца: шчыра, радасна. Асабліва ласкавыя і пяшчотныя ўнук і ўнучка.

С ы н. Дзякуй табе, дзядуля!

Д з е д. А што здарылася?

С ы н. Разбірайся сам. Папазірай. *(Уголас.)* Дзед, а чаму ты лысы?!

Д з е д. Абрыдла валасам пад капелюшом, яны і перасяліліся з галавы ў бараду. На свабоду. Волю нават волас любіць.

С ы н. Брава! Брава вольналюбівым валасам!

М а м а. Тата! Можа, памыешся з дарогі, ды будзем абедаць?

Д з е д. Можна і паабедаць.

У н у ч к а прыносіць чысты ручнік.
М а м а ідзе на кухню.

Д а ч к а. Дзядуля! Вось табе чысты ручнічок.

Д з е д. Вах-вах-вах! Колькі самалётаў! Гэта ўсе твае? Ды яны ж, відаць, і дарагія. Праўда? Колькі каштуе гэты самалёт?

С ы н. Спытай у таты. Тут палавіна татавага заробку ляснула.

Д з е д *(сур'ёзна)*. Ну і дурні! Хіба можна столькі траціць?

С ы н. Не толькі мы, не адны мы столькі трацім.

Д з е д. Я і кажу: неразумна так траціць грошы.

С ы н. Смела, дзядуля! Занадта смела ты ў мой адрас.

У н у ч к а павяла д з е д а мыцца.

Т а т а. Ты хоць з дзедам будзь далікатнейшы. Не хамі.

С ы н. Хочаш ці не хочаш, а трэба. А то як паедзем туды, дык дзед усё прыпомніць.

Т а т а. Куды паедзеш? Хто паедзе?

С ы н. Відаць, і я, і мая сястрычка будзем жыць у дзеда.

Т а т а. Жы-ыць?

С ы н. І вучыцца.

Т а т а. Што за навіна?

С ы н. Мама так сказала.

Т а т а. Можа, пагасціць, можа, на канікулы?

С ы н. Не. Жыць, вучыцца і дыхаць свежым паветрам. Есці свежыя яблыкі, капусту, моркву, піць сырадой! Весяліць дзядулю і бабулю.

Т а т а. Ну, ты кінь... Я цябе ведаю... Не мялі глупства.

С ы н *(кліча)*. Сястрычка!

Прыбягае с я с т р ы ч к а.

Што нам мама сказала? Куды нам трэба ехаць?

Д а ч к а. Да дзедкі і бабкі. На ферму.

Т а т а. Пагасціць? На канікулы?

Д а ч к а. Не. Жыць, вучыцца і дыхаць свежым паветрам. Есці моркву, піць малако і...

С ы н *(падказвае)*. Весяліць дзеда...

Д а ч к а. Так, і весяліць да слёз дзеда і бабку.

С ы н. А ты што, супроць такой эміграцыі? Тата!

Т а т а. Так-так-так... Вось яно як!!!

С ы н. Тата, не бядуй. Не гарачыся. Я таксама не забываю пра свае інтарэсы. Мы з сястрычкай можам аб'явіць сядзячую забастоўку.

Уваходзіць м а м а. Накрывае стол. Ставіць посуд.

М а м а. Дачушка! Памагай!

С ы н. Мама! Ты павінна пагаварыць з дзядулем пра татавы справы.

М а м а. Я нікому нічога не павінна. *(З пагрозай.)* Але пагаварыць магу. Магу і пагаварыць. Давядзецца!..

С ы н. Дзядуля павінен нашаму тату...

М а м а. Наш дзядуля нікому не павінен. Усе павінны яму...

С ы н. Але тату трэба...

М а м а. Ах, тату трэба? Тату твайму шмат чаго трэба...

Т а т а. Малы! Не прасі, не старайся. Мы самі як-небудзь...

Паўза.

М а м а і д а ч к а прыносяць з кухні абед, ставяць на стол. Тата хмуры. Сын назірае за бацькам.

С ы н *(уздыхнуўшы)*. Раз'яднаў, пасварыў. А вось як іх цяпер згуртаваць, з'яднаць? На чым? Гэта цяжэй... Але пастараюся. Згуртуюцца.

Прыходзіць д з е д.

Д з е д. Што гэта такое ў вас творыцца?

М а м а. Дзе?

Д з е д. У горадзе, на вуліцы, перад муніцыпалітэтам.

М а м а. А што там такое?

Д з е д. Нейкая вар'яцкая дэманстрацыя. Сабралася арава патлатых і барадатых хлюстоў, а з імі амаль голыя шлюхі. Топчуцца на вуліцы з такімі плакатамі, што сорамна не толькі глядзець... нават не ведаю, як і расказаць такое. І гарланяць на ўсю глотку, да хрыпаты: «Свабоду сексу! Сексу волю!» Што яны, звар'яцелі?

М а м а. А-а, гэта ўжо трэці дзень. Цэнзура забараніла адзін шведскі фільм, вось яны і пачалі. А фільм такі... пра гэта самае... *(Нешта шэпча дзеду, каб дзеці не пачулі.)*

Д з е д. А-а... Во цяпер я зразумеў і плакат: вялікія ножніцы абразаюць патлатаму... ну... тое...

Т а т а. Што надтачыць трэба. *(Смяецца.)*

Д з е д. Несур'ёзная пайшла моладзь. Нібы другіх праблем няма.

С ы н. Э-э, не! Ёсць і сур'ёзная моладзь! Пабачыў бы ты, дзед, як у мінулы чацвер мы сустракалі спецыяльнага візіцёра ад прэзідэнта адной з вялікіх дзяржаў!

Д з е д. Ну і што?

С ы н. Яму будзе што пісаць у мемуарах! Запомніць ён вайну ва В'етнаме. Мы супраць яе.

Д з е д. Хто гэта — мы?

С ы н. Заўтрашнія салдаты. А вясною? Калі ўзбунтаваліся студэнты універсітэта? А да іх далучыліся тры тысячы рабочых, а потым матрасня. Якія прамовы! Які запал! Які палёт думкі! Колькі агню, задору, рэвалюцыйнага энтузіязму! Не хапала толькі правадыра і пазітыўных лозунгаў. Каб нехта павёў іх, а лозунгі такія, каб за іх на смерць можна ісці. Старыя запаведзі нікога не крануць: «Не забі», «Не ўкрадзі», «Не пажадай жонкі бліжняга». За імі ніхто не пойдзе. Трэба новыя. Ленін чаму выйграў рэвалюцыю ў Расіі? Даў самыя пякучыя і пазітыўныя лозунгі: «Мір народам! Зямля сялянам! Заводы рабочым! Улада Саветам!»

Д з е д *(здзіўлены)*. Ты што... ты сам дадумаўся да гэтага?

С ы н. Ці сам да ўсяго дадумаешся? Нешта ж і людзі павінны падказаць. А вы кажаце — несур'ёзная моладзь. Сур'ёзней мне ўжо і нельга быць.

М а м а. Прашу за стол. Будзем абедаць.

С ы н. За круглы стол! На перагаворы аб ліквідацыі атамнай бомбы. *(Ставіць на стол бутэльку каньяку.)*

Мама. Памаўчы хоць за абедам.

Дачка. А наліваць будзе дзядуля. Ён самы старэйшы тут.

Дзед. Праўда, самы стары. Эх, каб вы зналі, як мне хочацца стаць такім во, як гэты шпінгалет!..

Сын. Во дзіва! Стрэчныя жаданні. А чаму, дзядуля?

Дзед. Каб во гэтак падбрыкваць, як ты. *(Паспрабаваў скакаць на адной назе.)* Каб пачаць усё спачатку...

Сын. Па-новаму? Першы раз — усё не так?

Дзед. Не ўсё так.

Сын. А што было так? Нешта ж было і такое, пра што цяпер прыемна другім расказаць?

Дзед. О-о! Яшчэ колькі было! У маладосці я рызыканцік быў! Любіў паказытаць нервы.

Дачка. Каму?

Дзед. І сабе, і бабцы, і розным другім...

Сын. Сабе і бабцы — гэта і мы ўмеем. А вось як розным другім — гэта ты раскажы, дзядуля.

Дзед. Хе-хе... Калі я быў грэкам...

Сын. Ты і грэкам быў?

Дзед. Ах... Кім я не быў! І туркам быў...

Сын. І туркам?

Дзед. І іспанцам, і нават армянінам.

Сын *(у захапленні)*. Дзед! Ды ты адзін...

Дачка *(перапыняе)*. Не перашкаджай. Ну, дзядуля! Калі ты быў грэкам...

Дзед. Калі я быў грэкам, я паехаў у Лондан. Я паплыў. Накупляў там усялякай зброі: вінтовак, кулямётаў, патронаў. І прывёз у Грэцыю. А там мяне чакаў другі параход. Перагрузілі зброю на гэты параход, і яна паплыла... Куды? У Саудаўскую Аравію. А там арабы гэтай англійскай зброяй выганялі са сваёй зямлі... каго? Англічан. Так я памагаў арабам здабываць свабоду. Каму толькі я не памагаў? Ты думаеш — лёгка мне было вазіць гэту зброю? Фух! Кожную хвіліну мяне маглі за каўнер і на перакладзіну. Хто? Ці тыя, што прадавалі, ці тыя, што куплялі. А калі эфіопы ваявалі супроць Мусаліні, я таксама не драмаў. У Іспанію я прывозіў такіх турыстаў, што Франко і цяпер яшчэ чухаецца. У маладосці я быў адважны. Я быў ваяўнічы. За свабоду, за незалежнасць! За незалежнасць нават ад бабкі. Ха-ха!

Сын. Ну, многа ты на гэтай справе зарабіў? На свабодзе і незалежнасці? Прызнайся, дзядуля.

Дзед. Многа ці не многа, а... мне хопіць. А калі памру — і табе яшчэ добры кавалак завяшчаю.

Сын. Ты, дзед, не транжыр маіх грошай, каб болей асталося. Мне спатрэбяцца яны на прадвыбарную барацьбу.

Дзед. Ого-го! Які ты дзялок!

Сын. Калі хочаш, каб твой унук праславіўся сам і цябе праславіў...

Дзед. Якім гэта спосабам?

Сын. Стану вялікім палітыкам.

Дзед. У маленькай краіне вялікім палітыкам?

Сын. Цяпер маленькія краіны могуць такое натварыць, што і вялікія не рассёрбаюць. Доказаў шукаць не трэба.

Дзед. Та-ак... Шкада, што я стары... Мы б з табой... Во як яно: азірнуцца не паспееў, як нехта за бараду і цягне туды, у пясочак. А ў цябе ўсё наперадзе! І пакуль што аніякіх клопатаў. Зайздрошчу!.. Ах, ах, ах!..

Сын. Як гэта аніякіх клопатаў? Гэта ў цябе ўжо ніякіх клопатаў — ты на пенсіі. А ў мяне... Дзядуля! Ваша пакаленне, дзякуй вам, адваявала нам незалежнасць ад англічан. Палітычную. А эканамічнае ярмо мы з сястрычкай яшчэ доўга будзем адчуваць. І яшчэ праблема. Вы прыдумалі атамную і вадародную бомбы. І пакідаеце іх нам. А што нам з імі рабіць? Гідка з'есці і шкода кінуць. Гэта — не клопат? Вы пойдзеце. А ў мяне ўся планета на маіх плячах. Уся будучыня!

Дзед. Э-э, куды цябе панесла!.. Замахнуўся...

Дзед разлівае ў чаркі каньяк.

А табе, унучак?

Сын. Я кінуў піць.

Дзед *(жартуе, здзіўляецца)*. Зусім? Чаму-у?

Сын *(сур'ёзна)*. Я рашыў падацца ў вялікую палітыку. А там цяпер рэдка сустракаюцца цвярозыя палітыкі. Хачу быць рэдкасным палітыкам.

Дзед. Ух ты!

Сын. Дзікія, свабодныя плямёны Далёкай Поўначы, на Палінезійскіх астравах, амерыканскія індзейцы, негры Афрыкі падпалі пад іга каланізатараў таму, што не раскусілі своечасова шкоды алкаголю. Я хачу быць свабодным. Не спакушай, дзед!

Дачка *(хваліцца)*. Ён у нас усё ведае! Ён такі!

Дзед. Дык за што мы вып'ем?

Д а ч к а *(радасна)*. За дзядулю!

С ы н. За наш род! За на-род! Капні і мне.

Д з е д. То-та ж. *(Капнуў са свае чаркі.)* Ну, а я за вас.

Усе стукаюць донцамі чарак аб стол і п'юць.

Д а ч к а. Як хораша! Як усё хораша.

Тэлефонны званок. Але да тэлефона ніхто не падыходзіць. Званок настойліва паўтараецца.

С ы н *(праглынуўшы)*. Мама, гэта, відаць, цябе твой няволытны студэнт...

М а м а *(яе нібы ўджаліла, але яна стрымалася)*. Падыдзі, табе бліжэй. Калі мяне, скажы — няма дома.

С ы н. Старо! Гэта было ў некалькіх фільмах. *(Ідзе да тэлефона, здымае трубку.)* Вас слухаюць. Так. Правільна. Не, памыліліся. Не дачка, а сын... Што-што? А ветлівей вы не можаце? Паслухайце... Вы — хам! Вам трэба браць урокі ветлівасці. Можаце ў мяне, бясплатна. А мне ўсё роўна — хто вы. Усё роўна! А вы ведаеце, з кім вы гаворыце? Кім я буду праз сем-восем гадоў. Добра. Перадам. *(Кладзе трубку.)* Перадаю. Тата! Я толькі што гаварыў з тваім шэфам. Ён — хам!

Т а т а. З шэфам?

Д з е д. З шэфам?!

Т а т а. Што ты нарабіў! Што нарабіў?!

С ы н. А чаго ты так спалохаўся? Ён мне нахаміў — я яму. Квіты. Баланс.

Т а т а. Ты знаеш, што ён можа са мной зрабіць?

С ы н. Што? Хто ён табе? Гаспадзін? Хто ты яму? Раб?

Т а т а. Так! Раб! Гаспадзін! У яго ўся ўлада! Нада мной.

С ы н. А над ім ёсць улада?

Т а т а. Там, за акіянам!

С ы н. Дык чаго ты так спалохаўся? Ты, тата, пагарджаеш вопытам мінулага, не вывучаеш яго. *(Паказвае на кніжныя паліцы.)* А тут ёсць парады на ўсе выпадкі. Во.. *(Дастае з паліцы кнігу.)* І пра твайго гаспадзіна. *(Чытае.)* «Усякі, хто лічыць сябе гаспадзінам другіх, сам раб. Калі ён і не заўсёды ў сапраўднасці такі, то ў яго ўсё-такі рабская душа, і перад першым стрэчным, больш моцным, больш дужым, ён будзе гнюсна поўзаць». Старых філосафаў чытаць карысна. На! А то я магу зараз пазваніць за акіян і так распісаць твайго шэфа, што...

Т а т а. Хто ты такі? Хто цябе слухаць стане?

С ы н. Я — хто? Я — кандыдат у прэзідэнты! Я — заўтрашні дзень нашай рэспублікі! Я табе зараз прадэманструю, хто я.

Сын падыходзіць да тэлефона, здымае трубку.

Алё! Злучыце мяне...

Тата падбягае да сына, вырывае ў яго тэлефонную трубку.

Т а т а. Ты звар'яцеў! Ты ж — ніхто! Ты — нуль! Ты разумееш, хто ты?

С ы н. Я — сын твой! Сын, які хоча вызваліць бацьку ад рабства!

Т а т а. Не лезь куды не трэба! Я цябе не прасіў! Богам прашу — дай ты мне спакой.

С ы н. Значыць, табе падабаецца рабства, залежнасць, прыгнечанасць, падначаленасць? Так?

Т а т а. Не! Не так! Але гэтага не пераменіш! Так было і так будзе!

С ы н. Не, не будзе! Для гэтага табе трэба толькі стаць бацькам прэзідэнта. І ты ім станеш!

Д з е д. А ён не дурань! Адкуль у цябе гэта?

С ы н. У мяне за плячыма вопыт, шматвяковы вопыт. *(Распасцірае рукі на кніжны стэлаж.)* Я вельмі стары, дзед! Толькі барада не расце.

Д з е д. Давайце вып'ем. З яго нешта выйдзе...

Дзед налівае ў чаркі каньяк.

Д а ч к а *(наіграна радасна)*. Як добра! Калі ўсім хораша? Праўда, хораша?

Усе выпіваюць і пачынаюць закусваць.

С ы н. Ты — як англійскі палітык. Заняў пост прэм'ер-міністра і адчуў сябе так добра, так лагодна! Яму здаецца, што і ўсім так добра. А ў гэты час — дэвальвацыя фунта.

М а м а. Ты нікому слова ўставіць не даеш.

С ы н *(да таты)*. А ты што скажаш?

Т а т а. Перастань! Балбатун! Нядобра гэтак!

С ы н *(дзеду)*. Дзед, а...

Д з е д. Не хвалю, не хвалю.

Д а ч к а. І я. І я не хвалю.

С ы н. Проста дзіва! Першы раз так аднадушна...

Т а т а. Ну, хопіць! Бяры еш!

С ы н. Не хачу.

М а м а. Накладвай у рот! Жуй! Глытай!

С ы н. Няма апетыту!

Д з е д. Еш, табе кажуць!

М а м а. Еш!

Мама напіхала сыну поўны рот ежы.

Жуй! А не, дык пайшоў вон!

Д а ч к а. Перастань, малыш! Ну, праўда ж, можна па-харошаму. Давайце яшчэ нальём. Дарослыя няхай вып'юць... *(Налівае каньяк у чаркі.)* Дзядуля, ну?

Малы моўчкі ўзяў поўную чарку і выпіў да дна.

М а м а. Сынок! Ты звар'яцеў!

Сын прагна накінуўся на закуску.

Д а ч к а. О, цяпер ён будзе маўчаць. Дзядуля! А дзе лепей? У горадзе ці на ферме? Дзе лепей?

Д з е д *(выпіў, крэкнуў)*. Там, дзе нас няма.

Д а ч к а. А дзе нас няма?

Д з е д. Каля бабулькі нас няма.

Д а ч к а. Выходзіць, каля бабулькі лепей?

Д з е д. Выходзіць, там лепей.

М а м а. А я што гаварыла?

С ы н. Не магу маўчаць! Пачынаецца прапаганда. Сто-оп!!!

Д з е д. Э-эк, распусцілі вы яго. Таму і куражыцца. Прыйдзецца забраць яго на ферму. Не-е, там я яго перараблю.

С ы н. Усё жыццё марыў! Назад к Мафусаілу? Мілы дзядуля, смешна! Ты быў грэкам, ты быў армянінам, іспанцам. Але ты ніколі не быў кітайцам. А зараз — выліты... гэты... самы-самы...

М а м а *(успыхнула)*. Гэта ўжо чорт ведае што! Ні кроплі прыстойнасці. Гэта ўжо нахабства.

Т а т а. Ты сапраўды непрыстойна сябе паводзіш.

М а м а *(да таты)*. Гэта ўсё тваё! Гэта твой цынізм. Твая беспардоннасць. Любуйся! Не сорамна перад людзьмі?

Т а т а *(таксама ўспыхнуў)*. У мяне нарэшце таксама лопаецца цярпенне!!! *(Да сына.)* Да якога часу праз цябе я мушу глытаць жаб? Да якога часу ты будзеш ставіць мяне ў дурацкае становішча? Не, дарагі мой, усяму ёсць канец!

С ы н *(спакойна)*. Сястрычка! Ці мне здаецца, што яны мной нездаволены, ці так яно і папраўдзе?

Д а ч к а. Ну, вядома, малыш, усе табой нездаволены.

**Сын** *(ледзь стрымлівае сябе)*. Значыць, мне гэта не здаецца?

**Дзед.** Ды вам усім трэба зараз жа на свежае паветра. Хоць на паўгадзіны. *(Глянуў на гадзіннік.)*

**Сын.** На свежае паветра?! Дзядуля! Няўжо і ты?!

**Дзед.** З яго нешта будзе... нешта з рук вон выдатнае. *(Унуку.)* Быць табе альбо славутым бандытам, альбо... начальнікам вялікай... турмы.

**Сын** *(смяецца, але смех нейкі ненатуральны)*. Не, ні тое, ні другое, дзядуля. Я ўжо ёсць! Я — ёсць! Дзядуля! Я — вундэркінд асобага роду. Магу папулярна. Бываюць вундэркінды — музыканты. Іх многа. Бываюць матэматыкі. Іх таксама нямала. Бываюць паліглоты. А ведаеш, дзед, што такое паліглот?

**Дзед.** Ну, давай, эрудзіруй!

**Сын.** Полі-глот — гэта... Полі — многа, глот — глытаць. Многа глытаць. Усяго. Усякай усячыны. Што падсунуць. Што ў рот пакладуць. Прыемна, непрыемна — глытай, глытай, глытай! Усякі фарш і ўсякі фальш!

**Дачка.** Ну, навошта ты хлусіш, навошта ты падманваеш дзядулю? *(Дзеду.)* Паліглот — гэта чалавек, які ўмее гаварыць на некалькіх мовах.

**Дзед** *(ідзе на прымірэнне)*. Ды гэта, бадай, адно і тое, як і ён тлумачыў.

**Мама.** Ты чаму хлусіш? Ты чаму старэйшых не паважаеш? Ты мярзотнік! *(Дала сыну ў каршэнь.)* Праўду трэба гаварыць!

**Сын** *(абураны)*. Ах, вам праўды захацелася? Вы па праўдзе засумавалі? Во гэта я і хацеў ад вас пачуць! Зараз я вам выдам праўду!.. *(Хутка падымаецца наверх лесачак.)* Наце вам праўду! Як вам? Кожнаму паасобку ці ўсім адразу? А ты ведаеш, дзядуля, што і мама, і тата не любяць мяне? Мала таго — ненавідзяць! А за што? За сваю хлусню, падман, якія я выпадкова адкрыў. Ты думаеш — лёгка мне, дзядуля, жыць з камком у горле... Калі пастаянна ў горле, тут, ні праглынуць яго, ні выплюнуць. Калі родныя бацька і маці не любяць, то які ж бліжні ўзлюбіць? Хіба толькі ты? Дзед? Я паклікаў цябе... *(Да бацькоў.)* Што? Яшчэ хочаце, яшчэ праўды чакаеце? Не боязна? Не-е! Не палохайцеся! Я вам праўды не скажу. І знаеце чаму? А вы мне праўду гаворыце? Адзін аднаму вы праўду гаворыце? Вось ты, тата, маме праўду гаворыш? А дачушцы сваёй? А мне? Чаму ты не скажаш на-

шаму міламу госцю, дзядулю нашаму, што ты цяпер пра яго думаеш?

Т а т а. Шчаня! Як ты смееш?

С ы н. Юпітэр! Злуешся? А я ж нічога яшчэ не сказаў пра твае культурныя сувязі.

Т а т а. Што ты разумееш у культурных сувязях?

С ы н. Пакуль нічога. Не дарос яшчэ. А ты, мама? Плаціш тату такой жа праўдай. А чаму ты дзеду не сказала, што паставіла на стол пазаўчарашні вінегрэт? Ты нават нявопытнаму студэнту не гаворыш праўды.

М а м а. Звар'яцець можна! Які цынізм! Бо-о-жухна!

С ы н. Што? Ужо сытыя? Вы ад мяне патрабуеце праўды. А мне ад вас? Нельга? Мне таксама трэба праўда. Мне яна больш патрэбна! Больш, як вам ад мяне! Я — маленькі, і мая хлусня маленькая. А вы вялікія. І ваша хлусня — аграмадная! Для мяне яна аграмадная. Запомніце! Самая вялікая хлусня — гэта хлусня маленькаму чалавеку. І вось я, маленькі чалавечак, пачаў шукаць вялікую праўду. Ісціну! Я суткамі сядзеў каля тэлевізара, каля радыё. Вы спалі, альбо п'янствавалі, альбо выгравaліся на курортах, а я начамі сядзеў на гэтых лесачках. Я перачытаў, мама, болей за цябе і болей за цябе, тата. І я нешта знайшоў. Я палюбіў і тэлевізар. Не, не скрынку гэтую, не хакей, не стральбу, не слюнявыя пацалункі. Я палюбіў палітычнага каментатара ў гэтай скрынцы. Ён мне многае адкрыў. Я цяпер штодня чакаю яго, як сну, як алкаголік віна, як студэнт стыпендыі, як малады хлюст сваю фіфу ў кароткай спадніцы... Вось і цяпер у мяне ўжо смокча пад лыжачкай. Праз дваццаць мінут ён павінен з'явіцца мне... *(Глядзіць на гадзіннік. Механічна тое самае робяць і ўсе астатнія.)* Ну, што? Бачыце, як я чую яго. Я іх ведаю ўсіх, дзядуля. І з «Бі-бі-сі», і з «Голасу Амерыкі»,— ватыканскага шапялявага старога, і нават з Тэль-Авіва. Але лепшы за ўсіх — другі, мой каханы. Самы хітры. Ён ніколі не спяшаецца. Ён заўсёды позніцца на двое-трое сутак, але затое беспамылковы і ўсіх можа паправіць. Ты яго бачыў, дзядуля? Ён заўсёды інфармаваны і палітычна падкаваны. Яму здаецца, што ён асабіста прымае ў чалавецтва роды. А мне здаецца, калі я гляджу на яго... я чакаю, як ён вось-вось пакажа і нованароджанага. Быццам нават і нованароджаны ўжо ў яго руках, там, пад сталом. Таму ён так часта і зазірае туды, уніз. Адным словам, дзядуля, пасля ўсяго гэтага я стаў вундэркіндам асобага роду — вундэркіндам-палітыкам...

Я многае зразумеў. Праз вялікае я зразумеў маленькае. Свой дом.

Д а ч к а. Мама, ён разумна гаварыў? Ён разумны?

М а м а. У яго каша ў галаве. Ён яшчэ нічога не разумее.

Д а ч к а. Тата, ён нічога не разумее? Праўда?

Т а т а. Ён злы, і таму...

Д з е д. Тэк-тэк-тэк... Не разумее?

С ы н. Так, я — злы! Без праўды людзі робяцца злыя! Нават добрыя людзі! Нават дзеці! Запомніце! Я не разумею! А вы адзін аднаго разумееце? Так! Я не разумею! І не магу зразумець! Не зра-зу-мею! Вы трацiце сотні, дзесяткі мільярдаў долараў на вайну. З кім? З галоднымі, босымі, раздзетымі, з бед-ны-мі! У В'етнаме, Карэі, Конга, Егіпце... Замест таго, каб апрануць іх, накарміць. Мала таго, кожны долар там начынен дынамітам, і кожны такі долар разбурае там на сотні долараў дабра, якое мелі бедныя туземцы. Хіба гэта можна зразумець?!

М а м а. Хто? Мы? Гэта ж Амерыка! Хіба гэта мы?!

С ы н. Вы! Дарослыя! Хай сабе Амерыка! Там таксама дарослыя. Там таксама таты і мамы. А вы? Вы чаму дапусцілі гэта? Эх вы-ы! Вось вам прыклад *(паказвае на самалёцікі)*. Гэта што? Палавіна зарплаты! Узброіў мяне да зубоў. Як гэта зразумець? А быў бы ён Ракфелерам? Ён не пашкадаваў бы мільярдаў на сапраўдныя, з бомбамі, з напалмам. Хіба гэта можна зразумець? *(Раптам пускае ў ход сваю авіяцыю. Самалёцікі скідваюць бомбачкі на стол.)* Вам страшна? Вам жудасна ад гэтых цацак? Тота ж! І ўсё ж я зразумеў. Вы нічога не зразумелі! Якая небяспека над вамі, над намі. І вось гэта, іменна гэта, я зразумеў!

Распужаў усіх, хто пад сталом, хто за крэслам, хто ў куце.

Д з е д. Чорт ведае што тут у вас творыцца! Чаго я сюды прыехаў?

М а м а. Жах! Проста жах!

Д а ч к а. Ён, відаць, п'яны... *(Успомніла.)* Ой, што ты правяраеш? Цэзар!

С ы н. Ці патрэбна людзям праўда. Сястра мая. Дай глыток вады. У Цыцэрона перасохла ў горле.

Т а т а *(смяецца)*. Вось вам узор свабоднае асобы.

Д а ч к а *(падае ваду)*. Ты, Цыцэрон! Мне расказаў, а сам забыў, што Цыцэрону за яго язык адрэзалі галаву і прынеслі царыцы як падарунак.

Дзед. Хто ён? Камуніст? Анархіст? Хто?

Мама. Ні тое, ні другое. Ён проста хуліган.

Сын. Не зневажаць! Тут сабраліся свабодныя асобы. Усе свабодныя. Але я, я над вамі ўладар! Таму што і тата і мама мае маральныя рабы!

Мама. Ды як ты смееш так? Я цябе выпасіла, я табе жыццё дала і выкарміла сваімі грудзьмі! І я ж твая рабыня? І ты мяне гэтак крыўдзіш? Такая твая ўдзячнасць? Ды як ты смееш, дрэнь?!

Сын. Радзіла і выкарміла? Але ж гэта біялогія, мама! За-а-ло-гія! Выкарміла! Але дай мне свабоду, як звычайнаму звярушку! Не прымушайце мяне жыць, як вы: з хлуснёй класціся спаць і з хлуснёй уставаць. Я не хачу, як вы!!!

Тата. А жраць ты хочаш? Хлусня мяне корміць! Мая хлусня і цябе корміць, усіх вас корміць! А стаў бы я гаварыць праўду? Мяне вышпурнуць вон. Маёй фірме не трэба праўда. Там трэба прыгожыя словы, якія б зазывалі, заманівалі, прыманівалі. Ты гэта разумееш? Не!

Сын. Зразумеў. Хлусня ў дом прыходзіць з вуліцы. А на вуліцы вялікі свет.

Тата. Так, так, так! І вялікая хлусня! Ідзі туды са сваёй праўдай! Ідзі! Паглядзім, ці будзеш ты сыты сваёй праўдай. Голад навучыць і цябе лгаць. Шчыра і тэмпераментна будзеш хлусіць, калі жраць захочаш. Хопіць! Даволі! Баста! Цярпенне лопнула!!! Вон!!!

Сын. Ды вы як быццам нездаволены мной. Ці гэта мне зноў толькі здаецца?

Дачка. Ну, вядома, нездаволены! Усе нездаволены! Нават і я.

Сын. Ну, ты паспяшалася. А яны... Пачакайце! Хто ж мае права быць задаволеным ці нездаволеным? Вы альбо я? Гэта ж вы мяне прыдумалі такім і выпусцілі ў свет божы. А ў мяне вы спыталі — хачу я гэтага ці не? Адпячаталі мяне ў адным экземпляры і — рукі памылі. Цяпер кожны з вас уладкоўваецца ў жыцці як каму ямчэй, як зручней. А я? А мне ёмка? А я задаволены? Чаму, па якому праву вы мной нездаволены? Гэта маё права! Толькі маё!

Дзед. Не-е, час мне ўзяцца за цябе. Ану, злазь адтуль! Вось зараз ты ў мяне будзеш задаволены. *(Расшпільвае папругу.)* Злазь і скідай штаны!

Тата таксама нарыхтаваў папругу.

Сын. О-о! Паліцэйскія меры! Во-во-во! Самы пераканаўчы аргумент. Дзядуля! Ты пажарную пакліч! А яшчэ лепш — газы слёзатачывыя.

*Тата і дзед замахваюцца на сына, а ён адступае і забіраецца на самы верх лесачак.*

Вось чым згуртаваў іх — праўдай! Праўда іх з'яднала! Нянавісць да праўды згуртавала іх. Не дамся! Далоў Цэзара? Далоў праўду? На барыкады? Так? Не да-ам-ся! Не паддамся-а-а! Не да-а-м! Лепей на касцёр! А поўзаць не бу-у-ду! А-а-а-а!!!

*І з гэтым крыкам малы адштурхоўваецца разам з лесачкамі ад кніжнай паліцы і вылятае за акно. З трэцяга паверха. Усе ахнулі. Мама страціла прытомнасць, у дзеда падкасіліся ногі. Тата, немаведама чаго, азіраецца вакол. І толькі дзяўчо падскочыла да акна, выглянула на вуліцу, пабегла за дзверы ратаваць, памагаць, дзейнічаць.*

Дзед. Што ўсё гэта азначае? Што з ім?

Тата. Не знаю. Нічога не знаю.

Дзед *(крычыць)*. А хто павінен знаць, калі ты не знаеш?!

*Тата і дзед нарэшце таксама выглядаюць у акно.*

Тата. Ды ён, здаецца, цэлы!..

Дзед. Глядзі, глядзі, яна падымае яго...

Тата. Устае, устае...

Мама. Сынок... сынок мой!..

Дзед. Ну і жывучы!.. Ідзе!.. Ідзе!.. Ды ён святы!

Тата. Гэта дрэва яго ўратавала...

Мама. Звяры вы! Каты! Звяру-у-гі! Што вы зрабілі з дзіцём? Да чаго давялі дзіця?!

Дзед. Гэта я давёў?

Мама. І ты! І ты! Накінуліся...

Дзед *(крычыць)*. Гэта вы яго давялі! Ты чула, што ён вам гаварыў адтуль? Цяпер вінаватага шукаеце?

Мама. І ён! І ён яго давёў!

Тата. З хворай галавы на здаровую?

Мама. Божа мой! Божа мой!

*Ляпнулі дзверы. Усе прыціхлі. Чакаюць. Глядзяць на дзверы. На парозе з'яўляецца малы. За ім сястра.*

*Малы ідзе павольна, ступае так, нібы ў яго папечаны падэшвы ног. Галава высока ўзнята. Ён не прыходзіць, ён з'яўляецца. Відаць, так будзе з'яўляцца народу Ісус Хрыстос у другое прышэсце. Вось толькі твар малога выражае нешта дзіўнае. І не зразумець адразу — ці то ён цяпер святы, ці то ён чокнуты. Вочы пустыя, чужыя, тоўсты язык не змяшчаецца ў роце. Усе неяк благагавейна глядзяць, як малы падыходзіць да стала.*

Мама. Ты... не разбіўся?!

Сын *(неяк вяла)*. Не, не разбіўся.

Мама. У цябе нічога не баліць?

Сын. Не, мама.

Тата. Ты цэлы, сынок?

Сын. Цэлы, тата.

Дзед *(дзівіцца)*. І сіняка няма?

Сын. Няма, дзядуля.

Дачка. І не страшна было?

Сын. Не, сястра.

Паўза.

Мама. Ну, добра, сынок, сядай, еш.

Сын. Добра, мама.

Усе зноў рассаджваюцца за сталом.

Тата. Накладвай, накладвай.

Сын. Добра, тата.

Дзед. А цяпер кусай і жуй, жуй, жуй, унучак.

Сын. Добра, дзядуля.

Дачка. Ну... ну... Глытай, глытай жа...

Сын. Добра, сястрычка.

Тата. Накладвай яшчэ, накладвай і жуй.

Сын. Добра, тата.

Мама. Жуй, жуй і глытай.

Сын. Дзякую, мама.

Дачка *(са здзіўленнем)*. Тата! Мама! Ён нейкі!.. Нейкі не такі... Што з ім? Ён не такі!

Тата. А мы зараз яму тэлевізар уключым. Якраз прыйшоў час палітычнага каментатара. Так, сынок? Дачушка!

Тата ківае галавой на тэлевізар. Дачка ўсё зразумела і хуценька ўключае яго.

Каментатар. З Парыжа паведамляюць: сюды прыехалі прадстаўнікі дваццаці трох краін для агалашэння міжнароднай лігі барацьбы ў абарону міні-юбкі...

Мама. Не трэба...

Мама выключае тэлевізар.
Усе назіраюць за рэакцыяй малога. Сын абыякавы.

Дачка. Трэба! Трэба..

Дачка ўключае тэлевізар.

Каментатар. Ватыкан. Папа рымскі Павел VI зноў пацвердзіў, што каталіцкім свяшчэннікам забаронена

жаніцца. Гэта быў адказ папы на катэгарычнае патрабаванне галандскіх свяшчэннікаў па чале з епіскапам...

Мама выключае тэлевізар.

Мама. Не трывожце!..

Дачка. Мама! Што ты разумееш?!. *(Уключае.)*

Каментатар. У выніку нападу партызан на амерыканскую базу забіта дваццаць дзевяць амерыканцаў і семдзесят...

Мама зноў выключае тэлевізар.

Мама. Яму нецікава.

Дачка. Мама!

Сын *(абыякава)*. А можа, футбол, тата? Праўда, мама?

Паўза.
Усе не вераць сваім вушам.

Дачка *(раптам адкрыла)*. Ды ён жа ідыётам стаў! Тата! Мама!..

Сын *(успамінае)*. Ідыёт... Дыпламат... Пакт... Недзе чуў... Не помню... Забыў...

Дачка *(са слязамі)*. Ну так, ну так, ён ідыё-ёт... А ён так хацеў, так хацеў стаць прэзідэнтам... ці прэм'ер-міністрам. І стаў бы. А цяпер...

Дзед. Во цяпер-то ён напэўна стане. Толькі такія і становяцца...

Дачка. Ды ён жа ідыёт! Ну праўда, праўда, ён жа ідыёт!

Тата *(адварочваецца)*. А можа, гэта і лепш?..

Дзед. Вам?.. Вам — лепш.

Мама. Ды і яму.

Дачка *(узбунтавалася)*. Гэта?! Гэта — лепш?!

Дзед. Спадзяюся, ты не выскачыш праз акно?

Дачка. Я? Ну, не! Я на касцёр! На эшафот! На крыж пайду, каб не стаць такой, як ён!

Сын. Ты заўсёды такая. Вы ўсе заўсёды такія.

Сын бярэ тоўстую кнігу і павольна, вельмі павольна ўзнімаецца па лесачках на самы верх.

*Заслона.*

*1969*

# ТРЫБУНАЛ

**ТРАГІКАМЕДЫЯ**

*Народны лубок*

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Цярэшка Калабок — стараста.
Паліна — яго жонка, мажная жанчына.
Галя — іх старэйшая дачка, салдатка.
Зіна — іх малодшая дачка, таксама салдатка.
Надзея — нявестка, салдатка.
Валодзька — сын, падлетак.
Сырадоеў — начальнік раённай паліцыі.
Камендант — немец у гадах.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Гэта здарылася ў горкія дні нямецка-фашысцкай акупацыі нашай роднай Беларусі. У тыя дні злы, раз'юшаны, бязлітасны вораг стаяў аж пад сценамі Масквы. У тыя халодныя зімовыя дні бялюткія заснежаныя прасторы нашай зямлі шчодра паліваліся гарачай крывёю яе сыноў і пякучымі слязамі іх матак, сясцёр, жонак. На акупіраванай тэрыторыі вайна рабіла людзям жорсткую праверку. Звычайная сялянская хата. Небагатая абстаноўка: лавы, стол, тапчан — самаробныя. Толькі ложак жалезны, двухспальны, шырокі, з нікеліраванымі шарыкамі. Ложак тут у павазе і пашане — засланы вышываным пакрывалам, з горкай падушак з вышыванымі навалачкамі. Не памылюся, калі скажу, што гэта самае шаноўнае месца ў хаце.

П а л і н а лапіць мужавы штаны. Лапікі вялізныя і здалёк прыкметныя, бо з другога матэрыялу.

Н а д з е й к а перад люстэркам расчэсвае доўгія, як у русалкі, валасы, потым заплятае касу. Яна спявае. Хораша спявае, душэўна. Песня старадаўняя, народная. І спявае Надзейка па-народнаму, па-старадаўняму, як кажуць, па-вясковаму. І ўсё хараство, уся глыбіня паэзіі песні раскрываецца ў гэтай манеры. Паліна шые моўчкі. Толькі часам падсобіць нявестцы баском (тады, калі ў голасе Надзеі заценькае сляза), а потым зноўку маўчыць. Ды ў яе як быццам у самой сляза. Пэўна, яна таму і адвярнулася, каб крадком змахнуць яе.

Н а д з е я. Ой, чаго ж я сохну?
Ой, чаго ж я вяну?
Прыйдзе вечарочак,—
На каго ж гляну?
Гляну на калечка —
Забаліць сардэчка,
Гляну на другое —
Забаліць, заное.
Ой, паехаў мілы
З туркам ваяваць,
А мяне пакінуў

Гора гаравац.
Кончылісь паходы —
Ўсе з вайны ідуць...
А майго мілога
Коніка вядуць...

П а л і н а *(укалоўшыся іголкай)*. Каб цябе так пад бакі калола! Каб табе на вочы такія бельмы, як у майго мужа на с... лапікі *(лаецца, але не з той першапачатковай лютасцю, а неяк звычайна, нібы паўтарае гэта штодня)*. Гад ты паласаты! Ні крамы, ні крамніны... «Вызваліцель»! Пазачынялі ўсё. Каб табе заўтра дамавіну зачынілі!

Н а д з е я. Ай, перастаньце, мама. Ад вашых праклёнаў яму горай не стане.

П а л і н а. І весялей не будзе.

Н а д з е я. Толькі трывожыце сябе, злуяцеся. А кажуць, зло сэрца пераядае.

П а л і н а. Ай, Надзейка ты мая, малінка ты мая, ягадка-сунічка. Я ж таму і лаюся. Як набаліць на душы, як назбіраецца тае злосці, я яе са злымі словамі вон, каб сэрца не пераядала.

Н а д з е я. Дзівачка вы.

Надзея не-не дый выгляне ў акенца з трывогаю, нібы чакае каго ці баіцца некага.

П а л і н а. А чаго ета там мужыкоў сагналі? Каб хаця не пазабівалі іх там ці не пагналі куды ў Нямеччыну.

Н а д з е я. Наехала іх там — штук дзесяць немцаў і сам камендант раённы, штук дваццаць паліцаяў і начальнік іхні, Сырадоеў.

П а л і н а. Гэта той самы, што да цябе заляцаўся? Што потым за панажоўшчыну ў турму сеў? Бандзюк той?

Н а д з е я. Ды гэты самы! Кажуць, нібыта прыехалі старасту назначыць. Каго толькі?

П а л і н а. Ды знойдуць якога-небудзь сабаку. Добры ж чалавек не пойдзе.

Н а д з е я. На Валодзьку на нашага глядзець — проста сэрца баліць. Нейкі сам не свой. Месца сабе не знаходзіць.

П а л і н а. Дружка яго закадычнага загубілі, Косціка... Спалілі, гады... Вот і пяражывае...

Н а д з е я. Не толькі за Косціка ён, мама... Сястра Косціка Волечка — гэта ж... Любіў ён яе. Хоць і таіўся,

нават сама яна, відаць, не знала... За Волечку, за ластавачку сваю пакутуе... Згарэла, бедненькая...

П а л і н а. Сынок мой! Гора якое звалілася на яго. А ён жа маладзенькі яшчэ. Не зламаўся б... Храшчык ён яшчэ, не па плячах яму гора такое.

Надзея зноў выглянула ў акно.

Н а д з е я. Пастаіць, пастаіць, потым ірванецца некуды і раптам зноў спыніцца як укопаны.

Паліна таксама падышла да акна. Разам з нявесткай назірае за сынам.

П а л і н а. Адзін... Увесь час адзін... Людзей стаў цурацца. Нядобра ета. Клікні яго. Работу трэба якую-небудзь яму або ўжо да людзей хай, з людзьмі трэба. І гора — паўгора, калі з людзьмі разам.

Накінуўшы на галаву хустку, Н а д з е я выходзіць на двор.

Дружка не вернеш ужо... Во так у маленстве зваліцца на дзіця што-небудзь такое, а потым рукамі разводзяць — ад чаго гарбаты ці касы, злы ды сярдзіты... Тут у пажылога розум раскірэчыцца можа.

Уваходзіць В а л о д з ь к а. Ён нейкі сам не свой.

В а л о д з ь к а. Ну, чаго?

П а л і н а. Ты чаго ета на двары сланяешся як неприкаяны? Рукі няма к чаму прыкласці? Вунь — дровы ўпарадчыў бы. А то пакалоць пакалолі, ды так і кінулі. Складзі іх пад сцяной акуратненька.

В а л о д з ь к а. Ай, мама! Дровы, дровы... Які тут дровы?..

П а л і н а. Снегам замяце, потым выкалупвай іх па палену.

В а л о д з ь к а. Не да дроў мне, мама.

П а л і н а. Як ета не да дроў? *(І раптам асеклася, не хапіла ў яе суровасці.)* Сынок мой! Ну што ж ты? Не трэба так, не вернеш іх. Рукі не падкладзеш, не паднімеш... Бяда яна і ёсць бяда! Аднаму з ёй нельга аставацца. Да людзей ідзі, з людзьмі ўсё лягчэй ці песні пець, ці бацьку пабіць. А бяду-нуду сваю — на сухі лес. Ідзі, к людзям ідзі, сынок!

Уваходзіць Н а д з е я.

Н а д з е я. Насцю сустрэла. У слязах, бедная, уся.

П а л і н а. А ёй чаго? Тыдзень як муж вярнуўся з па-

лону. Хай цешыцца. Худзюшчы толькі. Дык адкарміць можна.

Н а д з е я. Памрэ, відаць, чалавек яе.

П а л і н а. Ад чаго ета раптам?

Н а д з е я. Нагу параненую адмарозіў ён. А цяпер нібыта антонаў агонь прыкінуўся.

В а л о д з ь к а. Заражэнне крыві!

В а л о д з ь к а выходзіць.

П а л і н а. Ну во — нацешылася баба. *(Уздыхнула.)* Ай-яй-яй-яй-яй!..

Н а д з е я *(глянуўшы ў акно)*. Нешта наш бацька лапаціць, нібы за ім хто гоніцца...

І праўда, у хату ўваходзіць, задыхаўшыся, Ц я р э ш к а — мужычок за пяцьдзесят год, невялікага расточку, вяртлявы, шустры і крыкун. На галаве — шапка-вушанка з заечай шкурашынкі: адно вуха абвісла, а другое тырчком стаіць. За поясам — рукавіцы. На нагах — валёнкі ў бахілах. Прытупнуў, абтрасаючы снег з ног, нібы станцаваў каленца з «Гапака».

Ц я р э ш к а *(пераступіўшы цераз парог)*. Паліна! Полюшка-Поля! Дзе ты тута-а? А-а, вось яна дзе-е! Полюшка! Хуценька саланіну, нясі яйкі, нясі гурочкі-галубочкі, капустачку кісленькую.

П а л і н а. З якой жа ета радасці? Нешта раптам загарэлася табе, прыспічыла?

Ц я р э ш к а. Частаваць будзем.

П а л і н а. Каго?

Ц я р э ш к а. Начальства! Мяне!

П а л і н а *(Паліна і Надзейка пасміхаюцца і пераглядваюцца)*. Такога начальства да Масквы ракам не пераставіш.

Н а д з е я. А якое ж вы такое начальства?

Ц я р э ш к а. Мяне толькі што прызначылі старастам.

Паўза.

П а л і н а. Старастам?

Ц я р э ш к а. Старастам.

П а л і н а. Цябе?

Ц я р э ш к а. Мяне.

П а л і н а. Няўжо ета праўда?

Надзея смяецца.

Ц я р э ш к а. А ты чаго зубы скаліш? Думаеш — я ўжо такі негадзяшчы?

П а л і н а. А мой ты Цярэшка! А мой ты калабочак!

Я гляджу — чаго ета левае вока свярбіць? Ажно яно во к чаму! Радасць якая! Ці не злавіў ты залатую рыбку?

Цярэшка. А што! Лічы, што злавіў.

Паліна. Во дзякуй табе! Во спасібачка табе! Цяпер і я пахаджу важнай паняй! Не ўсё ж іншым. А?

Цярэшка. А што? Канечне!

Паліна. І нос чэшацца. Гэта да выпіўкі.

Цярэшка. Усё верна. Я і кажу: нясі на стол!

Паліна. Пачакай. Не так скора. Значыцца, я — старасціха?

Цярэшка. Старасціха, старасціха.

Паліна. Толькі ж адзежа ў мяне такая, што...

Цярэшка. Справім. Будзе адзежа!

Паліна. Хустка гарусавая, квяцістая! А?

Цярэшка. Будзе! І квяцістая і ягадзістая.

Паліна. Плацце такое — шаўковае, каб і пятак не відаць было.

Цярэшка. І пятак не будзе відаць.

Паліна. На кірмаш паедзем... А? Парку вараных завядзём...

Надзея. Чаму парку? Тройку вараных!..

У гэтым доме, відаць, любяць жартаваць. Паліна ўпэўнена, што Цярэшка для жарту падкінуў сваё прызначэнне на пасаду старасты. Жонка падхапіла жарт, ахвотна падыгрывае мужу, не падазраючы нават, што ніякі гэта не жарт.

Паліна. На кірмаш!.. На тройцы!..

Цярэшка. Можна, і пяшэчкам.

Паліна. Можна і прайсціся. Па вуліцы... *(Заспявала.)* «Вдоль по улице метелица метет, за метелицей мой миленький идет. Ты постой, постой, красавица моя!..»

Цярэшка. Пастой, пастой, пачакай! Я ж сур'ёзна.

Паліна. Хату новую паставім. Не хату — палаты!

Надзея. Спачатку карыта трэба новае.

Паліна. Правільна! Карыта. Абавязкова карыта! Ета яму, самому, старасту. З талеркі яго не накорміш. Карыта паставім. А як жа!

Цярэшка. Ну, во што, хопіць! Я сур'ёзна...

Паліна *(працягвае жарт)*. Ён будзе есці з карыта, а я для апетыту яму пад пузам буду шкрабаць. А ён етак ласкава: рох-рох-рох... рох-рох-рох... А калі адкармлю яго, у нарыхтоўку немцам здам. А сама ў сталбавыя дваранкі падамся...

Цярэшка *(падганяе)*. Ну-ну, баба, даволі дурыкі строіць! Давай, давай, давай, я дзела гавару. Зараз прый-

дуць сюды начальнік раённай паліцыі і камендант — немец з раёна. Хутчэй, яешню на стол! Чуеш ты?

Паліна *(здзівілася)*. Дык ета ім я буду яешню смажыць?

Цярэшка. Ім... і мне.

Паліна. А скуля ім не хацелася? А трасцы ім не хацелася? А хваробы ім не хацелася?!

Надзея. Што гэта вы гаворыце, тата?!

Цярэшка. Дзела гавару, нявестачка. Яны... толькі што... вывелі мяне... у на-чальства! Першы раз у жыцці начальнікам стаў. Ну і адпалілі штуку! А? А ці хто ждаў, а ці хто сніў? Аж калені трымцяць... Во халера — трымцяць! *(Прысеў на лаву.)* Няўжо ета ў кожнага, каго, ну... на пасаду садзяць, ну... начальнікам над людзьмі ставяць, дык у яго трымцяць калені? А ў мяне... *(ён і радуецца, і смяецца, і здзіўляецца)* трымцяць, халера на іх! Ну, гэта, упачатку, гэта... з непрывычкі. А потым... а потым... А потым — кандзібоберам буду хадзіць! Во! Ну, чулі, што я загадаў?

Паліна. Надзейка! Памацай-ка ў яго галаву. Нешта ён языком лапці падплятае.

Цярэшка. Ну, баба, баба, баба! Хутчэй варушыся! Дзе трыножка? Я на комінку цяпельца раскладу. Ды хутчэй, вы-ы! Яны во-во ў хату ўваляцца.

Паліна. Што ета ты? Ці жартуеш так? Ці мо і праўда — захварэў?! Таго бандзіта карміць? Ён жа людзей сваіх страляў. Ён жа спаліў двор Свірыдавых і дзяцей не пашкадаваў.

Цярэшка *(хмуры)*. А мяне старастам прызначыў.

Паліна. Каго?!

Цярэшка. Мяне.

Паліна. Што-о-о?! *(Яна ўжо сумнявaецца, што ён жартуе.)*

Надзея. Старастам?!

Цярэшка. Старастам. *(Ён радуецца, як дзіця.)* А як вы думалі?

Паліна *(з жахам)*. Цябе?!

Цярэшка. Мяне!

Паліна *(пытаецца ў Надзеі)*. Ён што? Пры сваім?

Надзея. Відаць, не пры сваім.

Цярэшка. Пры сваім, пры сваім, не турбуйцеся.

Паліна. Ах ты, ахламон! Не турбуйцеся, кажаш? Ах ты, брыдзюк!.. Паскуда ты! Аполак ты нягодны! Ды ты сам цяміш, што гаворыш? Чаму ты радуешся?

Цярэшка. Ну во — баба і ёсць баба. Ёй адно — абы насуперак...

Паліна *(раптам спагадліва, жаласліва)*. Цярэшка! Можа, цябе стукнуў хто? Ці, можа, пакаўзнуўся? Ну, устань, прайдзіся... Ты кажаш, ножкі твае трымцяць? А? *(Мацае яго галаву, стукае костачкай пальца, як па гаршку.)*

Цярэшка *(крычыць)*. Паліна! Я не пакаўзнуўся! І ніхто мяне не стукнуў! Я табе рускім языком сказаў — за мяне не турбуйцеся!

Паліна. Паглядзіце на яго! Ён жа яшчэ крычыць на нас!.. *(Пляснула ў далоні.)* Ну, не дзіва? *(Во цяпер яна паверыла, што Цярэшка не жартуе.)*

Надзея. Як жа гэта — не турбуйцеся? Ваш сынок, мой муж, недзе з немцамі ваюе, а вы немцам будзеце служыць? Га? Проціў сына?!

Паліна. У цябе тры сыны на фронце, у цябе два зяці недзе на вайне! А ты... Ах ты... такую тваю распратакую!.. Надзейка! Вунь там, пад лаўкай, цяг ляжыць. Нясі-тка яго мне. *(Мужу, з болем.)* А ты ідзі сюды, любы! Ну, каму я кажу?! Быстра-а!!!

Цярэшка ўсё-такі пасоўваецца далей ад жонкі. Ён глянуў, як нявестка ўзяла пад лаўкай цяг, пераведў погляд на жонку. Яна — сур'ёзная, сярдзітая. Цярэшка збаяўся. Дзіва што! Паліна — баба мажная, разы ў паўтары вышэй за яго і ў плячах шырэй, не кажучы ўжо пра ўсё астатняе.

Цярэшка *(грозна)*. Полюшка-а! Ты сваёй сілай не выхваляйся! А то!..

Паліна *(ласкава)*. Што — а то? Ідзі сам! Сам! І сунь галаву паміж ног. *(Яна і расставіла ногі так, каб Цярэшка прасунуў сваю галаву.)* Чуеш? Каму я кажу? Зараз я цябе пачастую!

Цярэшка *(петушыцца)*. Паліна! Не ўздумай!..

Паліна. Я табе дабром казала!..

Паліна схапіла Цярэшку за каўнер, рыўком паставіла на калені і лоўка зашчаміла галаву між каленяў.

Надзейка! Дай цяг! Я яму пакажу начальства!

Надзея падае ёй цяг.

Цярэшка. Паліна! Полюшка-а-а! Не ўздумай! Будзе грэх! Паліна! Паша!..

Цярэшка хоча грызнуць Паліну за лыткі, але жонка моцна заціснула яго галаву: ні ўкусіць, ні выкруціцца.

Паліна. Старастам, кажаш? *(Здзекліва.)* Вось табе, пане стараста!..

Паліна хвастанула Цярэшку разок па азадку, ды не праняло: штаны на ім ватныя.

Надзейка! Ану, сцягні з яго штаны гэтыя! Ватнікі! А то не прыліпае цяг!

Цярэшка. Надзея! Нявестка! Не аскаромся!

Надзея. Не, мама, без мяне вы... як-небудзь самі.

Паліна. Не бойся. Вылузні яму азадак! Вылузні!

Надзея засаромелася, адвярнулася да акна.

**Надзея** *(глянуўшы ў акно)*. Ой! Ідуць! Яны ідуць!

**Цярэшка.** Пусці! Паліна! Пусці, не саром перад людзьмі! Паша!.. Поля-а!!!

Паліна. Якімі людзьмі? Перад тымі гадамі? Я і іх вось так пастаўлю!

Цярэшка. Яны цябе прыстрэляць! Паша! Пусці! Пусці хутчэй, а то бяда будзе! Яны прыстрэляць цябе за тое, што ты між ног заціснула нямецкую ўладу! Пры спаўненні служэбных абавязкаў. Чуеш?!

Надзея. Пусціце, мама, а то і праўда...

Паліна. Ладна. Пагуляй пакуль. Я потым да цябе дабяруся.

Паліна адпускае Цярэшку.

Цярэшка *(чапурыцца)*. Ну, пачакай жа!.. Вушы нацёрла, халера, як хамутом. Ну і ножкі! А? Такімі ножкамі табе абады гнуць... І жаласці няма... Во баба!

Уваходзячы ў хату, начальнік паліцыі Сырадоеў на хвілінку затрымліваецца на парозе, азіраецца налева, направа, а потым ужо прапускае ў хату немца — каменданта. Усё гэта дзеля бяспекі пана каменданта.

Камендант. Добры дзень, каспадзін староста! Добры дзень, фрау, фройляйн.

Сырадоеў. Дзень добры ў хату!

Доўгая паўза.

Вы што гэта маўчыце, калі з вамі вітаюцца?

Цярэшка. Панямелі са страху. Языкі праглынулі. Сядайце, калі ласка! Прашу!

Цярэшка падстаўляе зэдлік, выцірае рукавом адзін услон, другі.

Прашу, прашу!

Але камендант і начальнік паліцыі не садзяцца. Яны глядзяць на жанок і чакаюць, пакуль тыя павітаюцца. Цярэшка з-за спіны начальніка паліцыі падміргвае ды строга так падае знакі, каб жанчыны павіталіся. Першай павіталася Надзейка.

Надзея. Добры дзень.

Паліна *(хмура)*. Дзень добры.

Сырадоеў. То-та ж! Бескультур'е!..

Цярэшка. Ну што ты хочаш? Цемната!

Сырадоеў. Не ты, а вы! Ясна!

Цярэшка. Ну, канечне, вы. А то як жа! Толькі вы!

Сырадоеў. Я думаў, што ў цябе ўжо ўсё на стале. А ты... не вельмі і стараўся.

Цярэшка. Ды гэта ж ведаецe, таварыш... Цьфу ты, чорт!.. пан начальнік, яны вінаваты. Не паверылі. Не вераць, і ўсё тут. Каб мяне ды начальнікам, старастам, на ўсю вёску! Не вераць.

Паліна. Такога смарчка ды начальнікам? Старастам?! Хто ж яго будзе слухаць?

Цярэшка *(горача)*. Як гэта хто? Усе! Усе мяне будуць слухаць! Я, брат!... Ты не глядзі, што я... А калі вазьмуся, дык... Ого-го! Яшчэ танцаваць будуць перада мной.

Паліна. Ай-яй-яй-яй, страхоцце якое! Божухна мой! Спасі і памілуй! Ой-ёй-ёй-ёй!..

Цярэшка. Ты мне кінь дурыкі строіць!

Паліна *(Сырадоеву)*. Ды ў яго ж ні выгляду, ні пагляду, ні фігуры, ні голасу! Ён жа пастухом быў, і выгляд яго такі. Яго ж нават авечкі не баяліся. Аплэвухам быў і астаўся такім. Які ж з яго староста? Вы толькі паглядзіце на яго! Ну што гэта? Пудзіла на вераб'ёў. Вераб'і і тыя хіхікаць будуць. Асабліва калі штаны етыя падзене. *(Паказвае на штаны, на каторыя толькі што прышыла лапікі.)* Вось дык улада будзе ў такіх штанах. Ды за ім жа цяляты будуць хадзіць і смяяцца. Усім статкам хадзіць будуць. Ахламон! А ба-ацюхны, во знайшлі старасту! Цьфу!

Сырадоеў. Быў ахламон, а цяпер ён тут — цар! І цару такой улады не давалі, як яму. Захоча — пакарае, а захоча — памілуе. Калі я яму дазволю памілаваць. Караць можа сваёй уладай, калі хто супроць новага парадку. Так што, старая, слухаць будуць! Гэта вам не пры Саветах. Ён тут цар! А штаны... Штаны знойдзем. Здымем з каго трэба, а на яго надзенем.

Паліна. Знайшлі старасту — курам на смех. Трэба было другога каго-небудзь. Які ён староста, калі нават я, баба, магу ў падол яго — і на сметнік.

Цярэшка. Ну? Ты паслухай толькі яе!..

П а л і н а. Ну і стараста! Адкуль ён узяўся такі на свет божы? Хто яго прыдумаў такога? Толькі хіба баран на дзікай казе і то — цёмнай ноччу.

С ы р а д о е ў. Ты, баба, прыкусі язык. Як мужа ты яго можаш пад прыпечкам трымаць, а як старасту — паважай! Ён цяпер — улада! Ясна?

П а л і н а *(ідзе на ўступку)*. Пад прыпечкам дык пад прыпечкам. А што? Самае якраз месца...

Ц я р э ш к а *(спалохаўся)*. Ты кінь! Ты кінь! Ты не жартуй!

С ы р а д о е ў. Стаў на стол. Частуй!

Ц я р э ш к а. Паліна! Надзейка!..

Цярэшка адводзіць убок жонку і шэпча ёй.

Частуй, дурніца, а то карову звядзе са двара! Чуеш! Тут цяпер, як на сабачым вяселлі,— хто дужэйшы, той і загрызе. Ну! Надзея! Стаў трыножку! Раскладвай на камінку! Паша! У склеп! Сальца, капустачку, гурочкі! А я дрэвак накалю, трэсак... *(Надзейцы — шэптам.)* Скажы ёй, бо звядуць са двара карову. А то і горшае могуць прыдумаць. *(Голасна.)* Хуценька!

Надзея адводзіць убок Паліну і нешта шэпча ёй. П а л і н а выходзіць з хаты. Надзея рыхтуецца развесці агонь на камінку.

К а м е н д а н т *(ён увесь гэты час разглядаў фатаграфіі на сцяне)*. Што есць это? Твой фамілія? Да?

Ц я р э ш к а *(горда)*. Так, пан камендант, гэта ўся мая фамілія!

К а м е н д а н т. Алес кіндэр ты... твой...

Ц я р э ш к а. Так, усе кіндэры мае. Сам, сам стараўся. На кіндэраў я, брат, бальшой спецыяліст. Дванаццаць штук «наstругаў».

К а м е н д а н т. Потшему так много?

Ц я р э ш к а. Ну, як тут сказаць? *(Смяецца.)* Работа няцяжкая, дый карасіну малавата было — рана спаць лажыліся. Зімой жа, вядома,— зябка, а коўдра вузкая... Ну, во... А баба мая такая — толькі дакранісяда яе, а яна ўжо і гатова — пухне. І вот — несправядлівая ўсё ж ткі савецкая ўласць была. Бабе, жонцы, значыцца, ордэн далі! А мне — дулю.

С ы р а д о е ў. Ордэн? Чаму ж ты мне не сказаў?

К а м е н д а н т. Ордэн? Он імеет ордэн?

Ц я р э ш к а. Не, не я. Жана, значыцца, кабета. Фрау мая. Маці-гераіня! Значыцца, за дванаццаць дзяцей.

Сырадоеў. А-а... *(Смяецца. Тлумачыць каменданту.)* Гэта не страшны ордэн. Не палітычны. Гэта бабе яго, фрау за цвёльф кіндэр далі значок мутэр-герой. Яго фрау — інкубатар.

Камендант *(рагоча)*. О-о! Фрау-інкубатар! Большой смех на Еўропу! Много кіндэр ордэн? Да-а? А-а!

Сырадоеў *(таксама смяецца)*. Крыўдуе на савецкую ўладу, што ордэн далі фрау, а не яму.

Цярэшка *(падыгрывае)*. Ну, а як жа — стараўся з усіх сіл, а за старанне — дулю пад нос.

Камендант. Што есць «дулю»?

Цярэшка ахвотна паказвае немцу кукіш.

Цярэшка. Вось яна!

Сырадоеў б'е Цярэшку па руцэ.

Сырадоеў. Дурань! Ты глядзі ў мяне! Другі раз так — па локаць руку адцяпаю.

Камендант. Ты есць дзікі, швіня, і патаму многа кіндэр. Патаму такой... маленькі рост.

Сырадоеў. У корань пайшоў. *(Смяецца.)*

Цярэшка. Мал, ды ўдал. Як на што, канечне... Задумаўся я — колькі ж баба можа нарадзіць за свой век. І вось — дагнаў да дванаццаці. Гнаў бы і далей, каб не вайна. Але нічога. Перачакаем вайну, а там і яшчэ будзем. Да рэкорда. Мы са сваёй Пашай рашылі — хоць кроў з носа, а рэкорд паставім.

Камендант і Сырадоеў рагочуць.

Камендант *(паказвае на Надзейку)*. Кто есць она? Доч?

Цярэшка. Не, нявестка. Сынава жонка. Ну, значыць, яна і ёсць нявестка.

Камендант. У мяне есць желаніе...

Камендант шэпча Калабку на вуха.

Цярэшка. А-а-а-а, гэта ў нас на дварэ! Ідзём!..

Калабок выводзіць немца.
Сырадоеў падыходзіць да Надзейкі, павёў вокам зверху ўніз.

Сырадоеў. Ну, як, Надзя? Дзе ж твой каханак? Мужанёк?

Надзея *(непрыязна)*. Ваюе! На фронце!

Сырадоеў. Пры такім адступленні мог да жонкі вярнуцца. Ну, скажы, не дурань?

Надзея. Як скончыцца вайна, ты яму і скажаш.

Сырадоеў. Калі вернецца.

Надзея. Вернецца!

Сырадоеў. А пайшла б за мяне, то цяпер бы жыла як у бога за пазухай.

Надзея. Я, можа б, і пайшла, дык жа цябе ажанілі... На колькі? Гады на чатыры?

Сырадоеў. На чатыры гады і шэсць месяцаў! Ну, ды нічога. Я недарма твайго свёкра старастам прызначыў. Будзе прычына часцей да цябе заглядваць. А я не праміну.

Надзея. Дарэмна.

Сырадоеў. Там пабачым.

Надзея. Я клятву дала, зарок.

Сырадоеў. Бабскі зарок... Заракаўся збан па ваду хадзіць...

Уваходзяць Цярэшка і камендант.

Цярэшка, а ты ведаеш, што я ўхажорам быў у тваё нявесткі? Ды твой Мішка перайшоў мне дарогу.

Цярэшка. О, мой Мішка такі! Хват! Ён каго хочаш абскача. Зух быў. І на песні мастак, і на танец, і на трактары, як на скрыпцы.

Уваходзіць Паліна з салам пад пахай і з міскай капусты і гуркоў.

Сырадоеў. Можа, рукі памыем?

Камендант. О, да! Обьязацельно.

Цярэшка. Калі ласка. А я вам на рукі палью.

Цярэшка выхапіў з шафы чысценькі ручнік, накінуў яго на плячо.

Прашу!

Паліна моўчкі, але непрыязна для гасцей рыхтуе стол. Не кладзе, а шпурляе буханку хлеба, відэльцы, лыжкі. Адным словам, грыміць.

Камендант. Ты імел очшэнь много дзеці. А што дзеці кушаль?

Цярэшка. А, што папала.

Паліна *(не стрывала)*. Як гэта — што папала? Такіх асілкаў выгадаваў. Што людзі елі, тое і яны.

Цярэшка *(крычыць на жонку)*. А ты не лезь са сваім языком! Сам ведаю, што сказаць! А то падхваціш у мяне! Знай свае дзела!

Паліна паслухмяна змоўкла. І, нібы збаяўшыся мужа, стуліўшы плечы, адышла да камінка, дзе смажыцца яешня.

Камендант. Такой большой баба баіцца такой маленькі мужык. *(Смяецца.)* А?

П а л і н а. Ад прыроды ўжо так — заўсёды мужыкоў верх...

Паліна ставіць на стол яешню.

К а м е н д а н т. Што, што яна сказаль?

С ы р а д о е ў *(паясняе)*. Ад бога, кажа, заведзена, гот, гот, што мужык... Менш, менш, юбер, ну... зверху павінен. Так сказаць — і... юбер алес.

К а м е н д а н т *(смяецца)*. О, я, я, я!

Надзейка кладзе на стол відэльцы, нож, лыжкі.

Ц я р э ш к а. Дык сядайце, калі ласка. Прашу!

К а м е н д а н т *(строга)*. Это нужно горячий-горячий вода... как это? Кіпьяток. Дэзінфекцыя. Да, да! Долго, долго поболтать вода. Ферштеен?

С ы р а д о е ў *(тлумачыць)*. Папаласкаць у кіпятку трэба, каб ён сам бачыў. Ён у нас чысцюля.

К а м е н д а н т. Што есць «чысцюля»?

С ы р а д о е ў. Гэта калі чалавек любіць усё чыстае, чыстае, чыстае. Шык-бляск...

К а м е н д а н т. О, да, да! А ты, староста, какой дольжносць імел от большэвікі?

Ц я р э ш к а. Я? Пастух. Пастухом быў колькі год. З пугай хадзіў. З такой доўгай пугай, што страляла. *(Жэстам паказвае, як гэта ён страляў пугай.)* Свіней, кароў пасвіў. Маладзейшы быў, за свіннямі хадзіў. А потым за кароўкамі. А дзеці, як падраслі,— адзін на трактары, другі шоферам, трэці ў горад падаўся. А каторыя дома памагалі. Не скажу, што лёгка было. Але неяк мадзелі.

К а м е н д а н т. Ты страляў швінні, карова. Ты есць мьяснік?

П а л і н а. Ну і абух.

К а м е н д а н т. Што есць «абух»?

Ц я р э ш к а. Гэта яна мяне так — ласкава, далікатна. А я не мяснік. Пастух я. Ну растлумач яму, гаспадзін начальнік.

С ы р а д о е ў. Ты пакажы яму сваю пугу. Ёсць у цябе? *(Паліне ціха.)* А ты, бязмозглая баба, яшчэ хоць толькі раз ляпнеш такое, то... так язык падсяку, пры самым корні.

П а л і н а. Асцярожна, ты! А то бачыш, у руках скавародка з гарачым салам. Ненарокам можа перакуліцца...

Сырадоеў *(адступае)*. Не-е, бабка, трэба цябе прашчупаць!

Камендант. Што есць «прашчупаць»?

Сырадоеў раптам засмяяўся, не ведаючы, як растлумачыць гэты тэрмін. Камендант таксама засмяяўся, па-свойму зразумеўшы наліцая. Цярэшка ахвотна шукае пугу. Залез над ложак, знайшоў яе. Стаў у позу і паспрабаваў ляснуць.

Цярэшка. Не, у хаце не палучыцца. На дварэ трэба.

Камендант. Ты есць дзікі чалавек. Ты есць джунглі чалавек.

Цярэшка. Абы чалавек, а ета ўсё... хай сабе і дзікі.

Камендант. Ты цяпер таксама есць пастух. Толькі не швінні, каровы, а людзі. На рускі людзі ты есць пастух. Можаш пугаць, можаш страляць. Ты дзікі бог, цар! Але — парадак есць парадак. Новы! Новы парадак дзелаць цебя — цар дзярэўні, бог дзярэўні. Дзікі людзі, дзікі бог, дзікі цар.

Паліна. І дзікі парадак. Які староста, такі і парадак.

Камендант *(гатоў быў раззлавацца)*. Ты, староста, дольжен вучыць сваю бабу этой штука *(паказвае на пугу)*. Карашо вучыць на тоўсты зад.

Цярэшка. Гэта ўжо не сумнявайцеся! Будзе!!! *(На жонку.)* Ну, ты, кыш адсюль! Калі што — пазаву. Пайшла вон!

Надзея, ашпарыўшы кіпятком нажы, відэльцы, лыжкі, падае іх на стол. Немец, паліцай і Цярэшка сядаюць.

Сырадоеў. Ну, дык налівай, ці што...

Цярэшка. Дык вы ж самі, будзьце гаспадаром, таварыш начальнік.

Сырадоеў. Я табе дам «таварыш»! Рыла суконнае!

Цярэшка. Цьфу, цьфу, цьфу! Забываю, гаспадзін начальнік. Ну, даруйце, уелася...

Камендант. Ну, будзь здароў. Верна нада служыць германскі армія. Фарштеен?

І выпілі. Спачатку Цярэшка. Потым і камендант. А Сырадоеў дык проста выліў гарэлку ў глотку, як у халяву.

Цярэшка. Канечне, фарштеен! А то як жа! От скажы ты, а! Сёння ўранні я адзін быў чалавек, а зараз — другі. І нібы той жа, а ўсё ж — другі. Вот паставілі вы мяне старастам, іду я па вуліцы, і што ты думаеш? Нічога не здарылася? Не-е, брат! І вуліца стала вузейшая, і хаты сталі ніжэйшыя, і сам я нібы ў два разы падрос. А? Во,

брат, што значыць улады нюхнуць! А людзі як да мяне? І людзі другія сталі, і калі паспелі пранюхаць? А? Выйшаў на вуліцу і — адны ўжо... хі-хі-хі — кепачку ламаюць, а другія — касавурацца. Ад зайздрасці.

Сырадоеў. Думаеш — ад зайздрасці! Можа, савецкім духам прапітаны і таму касавурацца?

Цярэшка. Не, я сваіх ведаю. Ад зайздрасці. Тут не адзін я ахвотнік быць старастам. Толькі — кукіш ім! Я яшчэ ні членам ніякім, ні дэпутатам, ні дэлегатам не быў. Толькі пастухом. Эх! Цяпнем яшчэ па чарцы! Шандарахнем за мяне, за старасту! Толькі, гаспадзін начальнік, глядзіце, тут другія, можа, ад зайздрасці паспрабуюць спіхнуць мяне, дык вы ўжо не пакідайце мяне без падпоркі. А я, я ўжо буду старацца. Эхма! Шарахнем! *(П'е.)* Шандарахнем па маленькай!

Сырадоеў. Ну, добра, добра! Будзь здароў.

Цярэшка. Ну а ці думаў хто, ці сніў, што я, такі *(жэст дзвюма рукамі ўніз — нікчэмны быццам)* Цярэшка-пастух і выб'юся ў начальства? Ну ўжо і пагуляю! Э-э-эх і пап'ю я цяпер на дурніцу! А што? Можна?

Сырадоеў. Пі, ды галаву не згубі. Э-э, як ты расклеіўся!

Цярэшка. Наадварот! Склеіўся. Спаяўся! Ды так спаяўся, што...

Камендант. Он што? Есць п'яны?

Цярэшка. Я ёсць не п'яны. Я ёсць вясёлы, я ёсць горды... Як арол! Я — стараста! Гвозд! Не! Я павінен сказаць вам даклад! Прамову! Лекцыю *(сам здзіўляецца)*. Пацягнула мяне на прамову.

Камендант. Он? Лекцыю? О-о, давай, давай! Будзет весело. Большой смех будзет!

Сырадоеў. Ну-ну, цікава. Што ў цвярозага ў галаве...

Цярэшка. Во-во! Што ў п'янага на языку, то... то...— слова не верабей. Ета — точна! Так... Прашу слова для даклада. Хто такі ёсць я? Ну? Хто? Народ! Раз пайшла вайна народная,— значыць, народ і ёсць галоўны гвозд! Значыць, куды я хітнуся, там і поўная перамога. Таму, як я сваёй мазолістай рукой!!! Апора, падпорка, адным словам,— гвозд і ніякіх гваздоў. Калі я з начальствам заадно... калі я за свайго кіраўніка гатоў і галаву пакласці, то ўжо будзь здароў! І не чыхай! І калі я слова даў, то — гроб-магіла! Я — такі! О-о, вы яшчэ мала ведаеце мяне...

Камендант. Он што говориль? Он есць дурны, глюпый?

Сырадоеў. Як калі. Ну, Цярэх, давай, давай, я нешта не зразумеў.

Цярэшка. Такога, як я, гаспадзін начальнік, ацаніць трэба. За мяне ўжо будзь спакойны. Будзь спок!!! Я ад свайго слова не адступлюся! Не сумнявайся, дарагі мой начальнік! Мы з табой спаяліся, склешчыліся, да поўнай перамогі! Так ці не? Так, і патаму — упярод! За маю *(стукае сябе ў грудзі)* уладу!!! *(Раптам заспяваў.)* «Броня крепка, и танки наши быстры, и наши люди мужества полны!..»

Сырадоеў. Сто-оп!!! Ты што запеў, гад? А?..

Сырадоеў ускочыў і з размаху так тусануў старасту па твары, што той з усіх капытоў зваліўся на падлогу.

Камендант. Он што? Нехорошо сказаль?

Сырадоеў *(лагодненька)*. Не. Гэта я яго вучу песні пець. *(Да Цярэшкі.)* Ну? Замоўк?

Цярэшка. Ды... ды я... Ды не. Ды... Душа песні папрасіла... Гаспадзін начальнік!

Сырадоеў. Ну і давай! Давай песню.

Цярэшка спачатку лыпае вачыма, глядзіць на начальніка паліцыі і не разумее — ці той усур'ёз просіць песню, ці здзекуецца. Але ўсё ж адважыўся запець.

Цярэшка *(спявае)*.

Чаму ж мне не пець?
Чаму ж не гудзець?
Калі ў маёй хатачцы
Парадак ідзець.

Сырадоеў *(рагоча)*. Новы парадак! Чуеш? Новы парадак!

Камендант. Он не будзет делаль компрометація новый порядок і германскі адміністрацыя?

Сырадоеў. Не! Ён кемлівы! А калі што — пад ногаць! Чуеш, стараста?

Камендант. Што есць «пад ногаць»? *(Успомніў тлумачэнні.)* А-а! Да! Так? *(Паказвае.)* Я, я! Он дольжен это знать!

Цярэшка. Дарэмна вы мяне, канечне, гаспадзін начальнік. Але я... Я — такі, злосці не нашу. Вып'ем за германскую ўласць! За новы парадак! Вып'ем да дна!

Сырадоеў. Хайль Гітлер! Во як трэба — хайль Гітлер!!!

Камендант. Хайль Гітлер!

Цярэшка. Хай і Гітлер.

Уваходзіць Валодзька. Спыніўся ля парога. Маўчыць — ваўчком глядзіць.

Камендант. Кто есць это?

Цярэшка. Это ёсць мой сын. Мой кіндэр.

Камендант. О, большой кіндэр! Он уже есць зольдат. Он ідзёт слюжыць поліцай?

Цярэшка. Ды ён жа яшчэ малады. Падлетак. Дурны яшчэ. А падрасце — дык чаго ж? Гады праз тры, калі што, дык чаго ж. Сам прывяду на службу. Арол будзе!

Валодзька. Мяне весці не трэба. Я сам прыйду. І не праз тры гады. Я раней прыйду. Можаце не сумнявацца, пане начальнік. *(Прыветліва пасміхаецца.)* Я абавязкова прыйду да вас.

Камендант. О-о! Он правільна есць арол! Гут! Гут! Карашо!

Уваходзяць Паліна і Надзея. Яны, відаць, падслухоўвалі размову.

Паліна. Ды ён жа дзіця горкае! Куды яму ў паліцыю?

Сырадоеў. Колькі яму?

Цярэшка. Шаснаццаць.

Сырадоеў. А ў каго ён удаўся такі? На цябе ён не падобны... *(Устае з-за стала, падыходзіць да Валодзі, пальцам паварочвае за бараду галаву юнака то ўправа, то ўлева. Валодзя маўчыць, але відаць, што душа ў яго кіпіць.)* Ні на кога з вашага роду ён не падобны. Цётка Паліна! З кім ты яго прыдбала? А? Ну, прызнайся па-чэснаму.

Паліна. Як табе не сорамна такое пры дзіцёнку гаварыць? А то во як храсну чым-небудзь паміж вачэй... Зусім ты адзічэў ужо, нічога ў цябе чалавечага не асталося, калі ты з пажылой жанчынай так размаўляеш. А яшчэ начальнік!..

Сырадоеў *(рагоча)*. А ты, Цярэшка, дапытайся ў яе. Тут не ўсё чыста. Не можа быць, каб такая баба адным табой была сытая. *(Заліваецца ад смеху.)*

Валодзька, пэўна, кінуўся б на нахабніка, каб абараніць гонар маці, але Надзейка ў час заўважыла, як гарыць душа ў хлопца. Яна моцна трымае яго руку.

К а м е н д а н т *(вылазіць з-за стала).* Ну, спасіба, каспадзін староста. Я імею вам желаніе крэпко стаяць свой пост, ісполняць свой дольжносць!

Ц я р э ш к а. Пастараюся.

К а м е н д а н т. Хайль!

С ы р а д о е ў. Хайль!

Ц я р э ш к а. Хайль!

К а м е н д а н т *(праходзячы каля Надзеі).* Ты есць дзікі каза. І глаза ты імееш дзікі. Красівы, абер дзікі.

К а м е н д а н т выходзіць.
Сырадоеў затрымліваецца каля Надзеі.

С ы р а д о е ў. «Я ж тэбэ, мілая, аж до хатыночкі сам на руках віднэсу». Да пабачэння, сінявокая! *(На парозе пытае ў Цярэшкі.)* Як яна, у каноплі не бегае?

Ц я р э ш к а. А мы канапель не сеялі.

С ы р а д о е ў *(рагоча).* Нічога, я табе іх пасею. *(Узяўся ўжо за клямку, ды зноў затрымаўся на парозе.)* Слухай, Цярэшка! Сёння я — твой госць. Прыйду вячэраць, падрыхтуйся. Чуеш? Вячэраць буду ў цябе. *(Надзеі, ласкава.)* Тады і пагутарым. Час будзе.

С ы р а д о е ў выходзіць.
Цярэшка наважыўся праводзіць начальніка паліцыі, але адкуль узялася жонка і — цап яго за каўнер.

П а л і н а. А ты, галубок, астанься!

Ц я р э ш к а. Я іх толькі правяду.

П а л і н а. Нічога, самі знойдуць дарогу, не сляпыя.

В а л о д з ь к а. Надзя! Што гэта паліцай пра цябе і пра каноплі нешта пытаўся? Якія каноплі?

Н а д з е я. Табе рана яшчэ пра тыя каноплі ведаць.

В а л о д з ь к а. Калі пра тыя, леташнія, што каля сажалкі, калгасныя, дык гэта я туды бегаю. Там я хаваю гранаты, чатыры процітанкавыя міны і дзве вінтоўкі з патронамі.

П а л і н а. А божачка мой, божа! А што ж ты такое гаворыш? А калі хто ўбачыў ці падпільнаваў? Гэта ж і табе канец і нам усім! Вось гэты ж самы гад — Сырадоеў у Зарачанскім пасёлку спаліў усю сям'ю ў хаце. Знайшлі там кулямёт ці яшчэ нейкую трасцу. Пад страхой знайшлі.

В а л о д з ь к а. Гэта ў Свірыдавых пад страхой... А ў Зарачанскім пасёлку партызанскага камісара хавалі. Параненага.

Ц я р э ш к а. Камандзіра. Самога... Арлоўскага.

Валодзька. А ты адкуль ведаеш? Можа, і сам руку прыклаў?

Цярэшка. Яшчэ чаго? Сырадоеў хваліўся. Шкадаваў, што камандзіра партызанскага не схапіў. Спазніўся, а той сышоў некуды. Таму і спаліў усіх, са зла.

Валодзька. Можа, ён табе сказаў — хто данёс? *(Лагодна.)* Можа, пахваліўся?

Паліна. Сыночак мой! А як жа цяпер са зброяй той? А галубочак мой! А?.. Сынуля?

Валодзька. А чаго мне цяпер баяцца? У мяне цяпер бацька — стараста! Нямецкі халуй! Заступіцца.

Паліна. Ды ён першы цябе прадасць!

Валодзька. Каму?

Паліна. Гестапаўцам.

Цярэшка. Не мялі чапухі!

Валодзька. А я гестапаўцам прызнаюся, што тую зброю мы з бацькам разам хавалі.

Цярэшка. Ну і дурань! А зброю заўтра я забяру і каноплі спалю.

Валодзька. Забяры, забяры. Я замініраваў і каноплі, і зброю. Зачэпіш, дык так трахне, што і ў Берліне ікнецца.

Паліна. Ай-яй-яй-яй... За адзін дзень столькі бед звалілася на маю галаву... Валодзька! Збегай і пазаві Галю і Зіну. Без дзяцей хай прыйдуць. Зараз жа. Адна нага там, другая — тут. І сам вяртайся. Суровая размова будзе. Судзіць будзем паганца!

Валодзька выходзіць з хаты.

Цярэшка. Каго? Мяне?

Паліна. Цябе, і па ўсёй форме!

Цярэшка. За што? Пры Саветах я ў пастухах хадзіў. А цяпер...

Паліна. Ты яшчэ на савецкую ўладу цяўкаеш? Кожны год савецкая ўлада на дзяцей тысячы адвальвала, дык табе яшчэ мала! Табе мулка было пры савецкай уладзе? Га?! Ах ты, бізун! Табе ж калгас, праўленне ў прэмію ложак які — нікеліраваны з шарыкамі, матрац спружынавы далі! Каб не мулка было. А ты!..

Цярэшка. Гэта каб табе не мулка было. А мне з табой...

Паліна. Маўчы, а то як урэжу між вачэй!..

Цярэшка. А цяпер хоць у прэзідыумах пакрасуюся.

П а л і н а. Якіх прэзідыумах? Пры немцах? Бацюхны! Век з ім пражыла, а не ведала, што ён можа во так... Ай-яй-яй-яй!.. Што з ім сталася?!

Ц я р э ш к а. Што? Чалавекам стаў! Не, не чалавекам, а богам! Хай сабе дзікім богам, але ж богам! Чула? Над усімі вамі я — цар, бог і воінскі начальнік! Хачу — караю, хачу — мілую! А?

П а л і н а. Вы паглядзіце на яго, паглядзіце! Ну? Ці чулі? Чурка ты дзеравяная!.. толькі з вачамі. Цябе ж закапаць у зямлю, дык... дык...

Ц я р э ш к а. Што? Што дык?

П а л і н а. Дык свінні будуць чухацца аб цябе. Зады чухаць.

Ц я р э ш к а. Ты, баба, за такія словы можаш галавой паплаціцца! Я табе не абы-хто! Я табе — стараста! Я табе — улада!

П а л і н а. У мяне адна ўлада — савецкая!

Ц я р э ш к а. Дзе яна? Дзе? Няма!

П а л і н а. Не каркай, гад! За яе сыны мае ваююць! Зяці мае ваююць! Прыйдзе яна, вернецца. А калі трэба, я і сама яшчэ павою!

Ц я р э ш к а. Ну, трымайся цяпер, Гітлер! Трапяшчы! Мая Паліна «грядет» на цябе!

П а л і н а. Ах ты!..

Паліна лупцуе Цярэшку па чым папала.

Н а д з е я *(да Цярэшкі)*. Як гэта вы дадумаліся прывесці яго ў хату? Вы чулі, што ён сказаў? Га? Сырадоеў гэты.

П а л і н а. Пачакай, Надзейка. Прыйдуць дочкі, тады мы ў яго пра ўсё і запытаем. Ды яшчэ так запытаем, што млосна яму стане!

Ц я р э ш к а. Што ты мяне пужаеш? Што пужаеш?

Цярэшка ўстае з лаўкі, хоча падысці да каміна, але Паліна схапіла качалку.

П а л і н а. Ану, сядзь! І не рухайся!

Ц я р э ш к а. Не бойся. Я толькі вугалёк вазьму, прыкурыць.

Цярэшка не асмельваецца падысці да каміна.

П а л і н а. Я табе пакажу вугалёк. Во як шарахну між вачэй, дык ад тых іскраў і прыкурыш.

Ц я р э ш к а. Што гэта ты, баба, сёння? Чорт які на цябе ўссеў, ці што? Павіншавала б ды чарку паставіла

б... А ты з качалкай на мужа, у такі таржэсцвенны дзень. Не хочаш ты, дык я сам... *(Налівае сабе самагону ў гранёную шклянку.)* А такая ласкавая была... Што з табой сёння? Ідзі-тка я цябе пацалую.

Паліна. Пацалуй свінні пад хвост! Ці вунь таму немцу... туды ж... *(Адбірае ў Цярэшкі гарэлку.)* Ты сваё выпіў! Усё выпіў!..

Паліна адштурхнула Цярэшку ад стала.

Цяпер пахмяляцца будзеш! Гэта ж трэба?! То начамі прападаў, кажа, у карты гуляў, у козыры, у падкіднога... А яно во... Дакаціўся, дагуляўся! Карцёжнік! Гуляка!..

Вяртаецца Валодзя. Ён прыводзіць з сабою замужніх дачок Калабка Галю і Зіну.

Галя. Ты звала нас, мама?

Паліна. Ну, ці чулі вы, дочкі? Пра бацьку вашага?

Зіна. Чулі. Людзі сказалі.

Галя. Ды такое сказалі, што...

Паліна. І што ж цяпер рабіць будзем?

Галя. Сорамна па вуліцы прайсці.

Зіна. Гэта цяпер, пры немцах. А як нашы прыйдуць? Як тады людзям у вочы глядзець?

Паліна. Ну, што маўчыш? Адкажы! Парай!

Галя. Мой Піліп з немцамі ваюе...

Зіна. І мой Хведзька...

Паліна. Ды тры сыны. Твае сыны з немцамі ваююць!

Галя. А бацька немцам памагае. Ну, не дзіва?!

Валодзька. Здраднік! Маўчыш?!

Цярэшка *(ласкава)*. А знаеце што, дзеванькі? Ідзіце-тка к чорту лысаму. Сабраліся тут... Яйкі курыцу не вучаць! Паглядзіце на іх, людзі добрыя. Дочкі, нявестка, сын ды жонка ўчынілі мне допыт!

Паліна. Не допыт, а суд. Трыбунал! Гад ты!..

Цярэшка. Ану, разыдзіцеся! Разыдзісь!

Цярэшка хацеў расніхаць жанчын, але тыя дружна ўзялі старога ў акружэнне і хутка прыціснулі яго да сцепкі. Пасадзілі на лаўку.

Паліна. Ну, што з ім, праклятым, зрабіць?

Цярэшка *(злуе)*. Старастам стаў я, а вам якая справа? Кожны адказвае за сябе! Не ваша дзела да майго старастна. Ваша справа тут — з носа кап, а ў рот хап. І ўсё тут!

Валодзька. Як гэта з носа кап, а ў рот хап? Вось я буду паступаць у камсамол, дадуць мне анкету, што я там напішу? Бацька быў старастам? Нямецкім халуём! І мяне прымуць? Вучыцца пасля вайны захачу — стараставаму сыну ўсе дзверы насцеж? А? Як змыць такую пляму?

Паліна. А меншанькія падрастуць, Паўлуша, Сцёпка, Грышка, Лёнька. Як ім? Ты ж усім ім жыццё скамечыў, гад ты паласаты! Увесь род апаганіў!

Галя. Ды яго ж павесіць мала!

Зіна. Гэта ж падумаць толькі! Тата! Што ж ты нарабіў!

Валодзька. Заўтра пайду партызанаў шукаць!

Паліна. Куды ты пойдзеш? *(Плача.)* Дзе ты іх знойдзеш? А знойдзеш, дык прыстрэляць яшчэ праз яго. *(Мужу.)* Ідзі зараз жа і адмаўляйся ад старацтва! А то прыдушым, як гніду!

Цярэшка. Нікуды я не пайду. *(Весела.)* Дарваўся да ўлады і раптам самому адмовіцца? Ну, не-е! Так не пайдзёць! Хоць год, хоць месяц, ды пакрасуюся!

Паліна. Ну што ж, тады трэба памагаць сынам: на аднаго гада меней будзе... Дочкі, нясіце сюды вяроўку!.. Мы яго зараз у мяшок ды ў пельку. У сажалку, дзе каноплі мачылі.

Цярэшка *(весела)*. Ну-ну, а я пагляджу, як гэта дочкі бацьку роднага — ды ў пельку.

Паўза.

Усе пераглядваюцца. Ніхто не кратаецца.

Зіна. Ды яго тут жа немцы хопяцца!

Валодзька. А хопяцца немцы, скажам, што яго партызаны ўхапілі. Прыйшлі ноччу і ўхапілі. Партызаны здраднікаў хапаюць і — пад корч.

Галя. Ну, што, бацька, скажаш?

Цярэшка. Нешта ж вельмі скоры і кароткі суд.

Валодзька. Не суд, а трыбунал! Ваенны час! І прыгавор партызанскі!

Паліна. Валодзька! Нясі мяшок. Дочкі, валіце яго і вяжыце. А будзе крычаць — ганчурку ў рот. *(Сама бярэ вяроўку.)*

Цярэшка. Вы ета... Вы кіньце!.. А то я вам... Ану!.. Брысь! Ану!!!

Цярэшка рвануўся да баб. Намерыўся ўцячы, ды Паліна з дочкамі сцапалі яго, паваліілі, звязалі яму вяроўкай рукі і ногі. І зрабілі яны ўсё гэта неяк завельмі паспешліва, рашуча, дынамічна.

Ц я р э ш к а *(смеючыся).* Ды вы што? Ачмурэлі? Звар'яцелі?

А цяпер жанчыны з дапамогай Валодзькі запіхваюць Калабка ў мех. Ён не даецца, але Валодзька злаўчыўся і нацягнуў мех на ногі, а потым і да шыі.

П а л і н а. Валодзька! А цяпер пад прыпечкам пашукай цаглін штук пяць-шэсць.

З меха тырчыць толькі галава Калабка. Вось цяпер ён зразумеў, што могуць усур'ёз утапіць яго. Спалохаўся. Паўза. Доўгая паўза. Стаміўшыся, усе цяжка дыхаюць.

Ц я р э ш к а. Буду крычаць! Прыбягуць людзі, дык ведаеце, што вам будзе за такое? Утапіць бацьку? Такога яшчэ не бывала! Старасту ўтапіць? Уладу ўтапіць? Роднага бацьку! Падумаць толькі!

Зноў паўза.

Зіна, шкадуючы бацьку, пусціла слязу. Бацька, заўважыўшы гэта, узрадаваўся. Валодзька, заклаўшы рукі за спіну, ходзіць па хаце.

В а л о д з ь к а. Мы не бацьку, а нямецкага прыслужніка!

П а л і н а. Ты цяпер уцяміў, што ты найпершы вораг сваім дзецям? А? Уцяміў?

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Той жа пакой.
Той жа час.
Тая ж мізансцэна.
Тыя ж людзі.

П а л і н а *(паўтарае).* Дык цяпер ты ўцяміў, што ты і ёсць найпершы вораг сваім дзецям? А? Уцяміў?

Ц я р э ш к а *(нясмела, але крычыць).* Людзі-і! Памажыце! Ратуйце-е! Яшчэ крычаць? Людзі-і! Памажыце-е!

Паліна спрабуе заткнуць мужу ляпу фартухом.

П а л і н а. Замаўчы, гад! Усё роўна — адзін канец!.. Ах, дык ты кусацца?! Надзя! Нясі якую-небудзь анучу! Валодзя!.. Валодзя! Бяры анучу! Затыкай яму ляпу!

Сын бярэ анучу, спрабуе заткнуць бацьку рот, ды Калабок не даецца, выкручваецца, стараецца ўкусіць сына за руку.

Валодзька. Дык ён кусаецца!

Паліна. А ты зашчамі яго галаву між ног, а потым зацісні яму нос...

Паліна тлумачыць спакойна, нетаропка, як бы павучае сына на якую-небудзь звычайную гаспадарчую справу.

А рот ён і сам разявіць. Вось тады і затыкай.

Валодзька так і робіць, як маці навучыла. Але справіцца з вёрткім Калабком не так і проста.

Цярэшка. Пачакайце! Пачакайце! Я нешта скажу!

Надзея. Ой! Начальнік паліцыі. Сырадоеў!..

Паліна. Дзе?

Надзея. У хату ідзе.

Паліна. Накіньце на яго *(паказвае на мех, у якім сядзіць Калабок)* якую-небудзь хламіду. А ты, Церах, толькі заікніся — тады ўсё! Валодзька, Надзея! Як толькі ён пікне — абухом па цемю. А я з дочкамі тады таго паліцая.

Галя хапае з печы стары кажух і накрывае Цярэшку.

Надзея. Не, лепей я абухом па цемю таго, а вы гэтага... Гэтага — я не магу...

На парозе з'явіўся Сырадоеў, якраз тады, калі на Калабка накінулі стары кажух.

Сырадоеў. А дзе Калабок? Дзе мой стараста?

Паліна. А хто яго ведае. Ён жа ўскорасці і пайшоў следам за вамі. Можа, зайшоў да каго?

Сырадоеў. А ну-ка, пацан, бяжы пашукай. І скажы, хай у школу ідзе. Мы там паліцэйскі гарнізон думаем размясціць.

Паліна. Бяжы, сынок, пашукай. Мы яго прышлём да вас.

Валодзя бяжыць з хаты.

Сырадоеў. А што гэта вы натапырыліся ўсе? *(Падыходзіць да Надзі.)* І ты таксама?

Надзея. Не падыходзь.

Сырадоеў. Ух ты якая строгая!

Надзея. Адыдзі!

Сырадоеў. Ах ты, мілая, ах ты, сарамлівая. Ах ты, Надзя. Ох ты, Надзя! Я люблю цябе не глядзя.

У мяшку чыхае Калабок, і, каб неяк замаскіраваць гэты чых, тут жа скеміла Паліна: раз за разам чыхнула цэлай абоймай.

Паліна. Грып, халера на яго. А можа, тыфус які? Каб не заразіўся ты, начальнік...

Сырадоеў. Будзь здарова, старая, і не чыхай. Знойдзецца Калабок — пасылайце ў школу. Можа, запіў ужо?

Начальнік паліцыі выходзіць.
Галя, Зіна і Надзея глядзяць у вокны.

Галя. Пайшоў.

Зіна. За варотамі ўжо.

Паліна скідае з Калабка кажух.

Паліна. Дык ты, халера, чыхаць уздумаў? Мо наўмысна? Каб таму знак падаць?

Цярэшка. Якое там наўмысна? Рукі звязаны, нечым было пераносіцу пацерці. Ну, выпускайце.

Паліна. Што-о?

Цярэшка. Ну, папужалі трошкі, і хопіць, выпускайце. Я ж вас пашкадаваў, не крыкнуў, калі Сырадоеў прыйшоў. А то б вам усім крышка была. Ну, развяжыце! Чуеце?

Паліна. Не ўжо! Трыбунал так прыгаварыў!

Цярэшка. Паліна! Поля! Ну, чуеш ты?

Паліна. Што?

Цярэшка. Вуха дай. Ну... Дай вуха, халера. Ну, прашу цябе.

Паліна. Нечага табе прасіць...

Аднак Паліна схіляецца да мужа. Цярэшка шэпча нешта ёй на вуха.

У-у, наскуда!

Цярэшка зноў нешта шэпча Паліне.

Пайшоў вон, гад! Цярпі!..

Паліна смяецца. Па-злому смяецца.

Я цябе ведаю, выкруціцца хочаш?

Цярэшка і сапраўды звіваецца ў мяху.

Галя. Дык што ён? Так і будзе тырчаць тут, як бяльмо на воку?

Зіна. І праўда, мама, можа, яшчэ хто прыйдзе, ці той жа самы Сырадоеў. Можа, выпусцім яго з меха да вечара?

Паліна. Не. Ён уцячэ. Закацім яго зараз пад ложак. Хай там паляжыць, пакуль сцямнее. А тады — у сажалку.

Ц я р э ш к а. Як гэта проста ў вас — жывога чалавека і ў сажалку. За што?

П а л і н а. Маўчы, гад. *(Плача.)* А што мне з табой рабіць? Напладзіў дзяцей цэлую плойму, а цяпер сіротамі астанацца!..

Ц я р э ш к а. Дык развяжы, не глумі чалавека, тады і сіротамі не астануцца.

П а л і н а. А калі цябе не ўтапіць, ім яшчэ горай будзе. Горш, як сіротам. Дочкі, каціце яго пад ложак!

Паслухмяныя дочкі коцяць бацьку пад ложак.
Вяртаецца В а л о д з я.

Ц я р э ш к а. Пачакайце, гадаўкі! І хто вас такіх выкарміў, выгадаваў? Сам на сваю ж галаву. Паліна! Поля! Я табе нешта скажу.

П а л і н а. Што ты мне скажаш?

Ц я р э ш к а. Прамову. Ізноў — прамову хачу. Цягне мяне на прамовы. Вот — дасталася мне ўлада. А для чаго яна мне? Чаго мне ад яе хацець? Ад пасады маёй? Ад улады ў руках маіх? Ну, што я магу мець ад яе? Есці дасыта з чужога катла і смачнае магу? Магу! Піць на дармавінку магу? Магу! А што яшчэ? Ну... Паздзекавацца з каго-небудзь, хто мне не па носе... Магу? Магу! Дык няўжо людзі... некаторыя... каторыя рвуцца да ўлады, яны толькі гэтага і хочуць? А некаторыя так ірвуцца, так локцямі штурхаюцца, адзін другога грызуць, кусаюць, ліжуць, плююць, апырскваюць духамі і абліваюць гразёю... Дзеля чаго? Каб быць... Абы толькі быў сыты, п'яны і пад носам — табакерка... Пачакайце, не спяшайцеся! Яшчэ паспееце ўтапіць. Дайце паспавядацца... Ціха! Ша! Вот, а мне для чаго ўлада? Вот сёння! Я і не ведаю. Сёння яна мне не трэба. А чаму я ўсё-такі захапіў яе — уладу гэтую. Для чаго? На ўсякі выпадак! А раптам ды заўтра яна спатрэбіцца. А? На ўсякі выпадак, хай будзе ў маіх руках. А яна, халера, так пячэцца... Ну, развяжыце мне рукі, памлелі, змярцвелі, здранцвелі... Некаторыя, канечне, з высокіх помыслаў бяруць уладу: каб такое запусціць, такое... Ну... Каб усе ахнулі і сказалі — вот ета да-а! А мы такога і не думалі. Во, чорт, зноў заклініла башку, заблытаўся. Дый п'яны я. Ды вызвальце вы нарэшце! Я перахапіў уладу, адабраў яе — на ўсякі выпадак. Хай будзе ў сваёй хаце!

Г а л я. Ну, выказаўся! Паспавядаўся!

В а л о д з ь к а. Дык табе ўлада так, на ўсякі выпа-

дак, без помыслаў? Абы толькі выпіць-закусіць на дурніцу?

Ц я р э ш к а. А я думаў — вы разумныя. А вы... Нічагусенькі вы... А-яй-яй! А савецкая ўлада столькі на вас сродкаў патраціла, вучыла, настаўнікаў прысылала адусюль... Розныя замежныя мовы вам, фізіку вам, хімію вам... Гастраномію! А вы? Што ў вас у галаве? Пакулле ў вас у галаве.

Г а л я. Ну, ці чулі вы? Ён нас так? І яшчэ савецкую ўладу памінае?

П а л і н а. Ціха! Тут нешта... Кажы прама! Што?

Ц я р э ш к а. Ну, во! Табе, відаць, недарма ордэн далі. Макацёр пачынае нешта варыць. *(Крычыць.)* Ану, развязаць! Асвабадзіце! Ну! Каму я кажу!

П а л і н а. Ты пакуль што не крычы! Ты пакуль што памаўчы!

Ц я р э ш к а. Не магу я маўчаць! Вы чалавека загубіце!

П а л і н а. Які ты чалавек?

Ц я р э ш к а. Ды не мяне. Яшчэ аднаго. Ну выйдзіце з хаты, я нешта маці хачу сказаць. Во папаўся ў нерат — ні ўзад ні ўперад.

П а л і н а. Ну, выйдзіце, хай скажа. Ідзіце, дзяўчаткі.

Усе выходзяць.
У хаце астаюцца толькі Цярэшка і яго жонка.

Ц я р э ш к а. Падыдзі бліжэй. Не бойся. Я звязаны.

П а л і н а. Гавары!

Ц я р э ш к а. Ну, падыдзі бліжэй! Не хачу я, каб дзеці чулі!

П а л і н а. Слухай, ты! Я цябе наскрозь бачу! Ты хочаш усё ў жартачкі перакруціць? Не надзейся!

Ц я р э ш к а. Якія тут, к чорту, жартачкі, калі ні ног ні рук не чую? Што з табой сталася, баба? Муж я табе ці не муж? Хоць трошкі аслабані.

П а л і н а. Дык ты гэта мне хацеў сказаць? А?

Ц я р э ш к а. Ну добра, добра!..

Паўза.

Калі ўжо ты рашыла са мной расправіцца... так бязлітасна, то напаследак скажы мне: дзе, калі і з кім я табе здрадзіў? Было такое ці не?

П а л і н а *(падумаўшы)*. Баяўся.

Ц я р э ш к а. Эх ты-ы. *(Скрозь слёзы.)* Любіў я цябе,

а не баяўся. Жалеў я цябе... І ты мяне... любіла. Я ж ведаю... Жалела...

Паліна. Любіла... *(Рот у яе крывіцца, вось-вось заплача.)*

Цярэшка. Дык чаму ж ты цяпер сваімі рукамі хочаш са свету звесці мяне? Га?

Паліна. Ты ж ненармальны! Цябе ж, пэўна, шалёны сабака ўкусіў. Гэта ж трэба — старастам пайшоў!

Цярэшка. Ну дык што?

Паліна *(крычыць)*. Як што?! Як што?!

Цярэшка. Ну, ціха, ціха ты! Колькі год з табой жыву, а не ведаў цябе... А ты во якая!..

Паліна *(шморгае носам)*. Не разжаліш, халера!

Цярэшка. Ну, скажы, ну, прызнайся — за ўсё жыццё няўжо ў цябе ніякіх сакрэтаў ад мяне не было? Ну што ты маўчыш? Прызнавайся! Ёсць? Ну! Поля! Былі?

Паліна. Ёсць.

Цярэшка. Якія?

Паліна. Не скажу.

Цярэшка. Во, бачыш? Ну, добра. Я і не дапытваюся. Але не дапытвайся і ты ў мяне. У мяне таксама ёсць свае сакрэты.

Паліна. Якія?

Цярэшка. Сказаў — не дапытвайся.

Паліна. Ну і нясі свае сакрэты ў пельку? Усё!

Цярэшка. Не, не ўсё. Чакай! Куды ты! Дай вуха. Ну, ласачка! Ну, павачка! Ну, золатка! Дай вуха, не ўкушу.

Паліна нахіляецца да мужа, выслабаніўшы з-пад хусткі вуха. Ён нешта шэпча ёй.

Паліна. Ды ну?

Цярэшка. Ну. *(Зноў падзывае яе і шэпча на вуха.)*

Паліна *(не верыць)*. Ну-у!..

Цярэшка. Праўду кажу. *(Зноў шэпча ёй на вуха.)*

Паліна. Не! Ой, брэшаш!

Цярэшка. Чэснае слова! Дурніца!

Паліна. Перахрысціся!

Цярэшка. Як жа я перахрышчуся, калі ў мяне рукі звязаны. Развяжы.

Паліна. Пабажыся.

Цярэшка. Ідзі ты к чорту. Я ў бога не веру.

Паліна. А дзе?

Цярэшка. Дзецям скажаш?

П а л і н а. Чэснае слова — не скажу.

Ц я р э ш к а. Развяжы.

П а л і н а *(круціць галавой)*. Не шукай дурнейшых за сябе. Дзе?

Ц я р э ш к а. Дай вуха.

Паліна падстаўляе вуха. Цярэшка ізноў нешта шэпча. Паліна не верыць. Цярэшка зноў шэпча: доўга, настойліва.

Скажы: стараста прыслаў. Ясна? Прыслаў стараста. Козыры бубны. Чуеш?..

Паліна заве дзяцей.

П а л і н а. Дзеці! Хадзіце сюды!

Ц я р э ш к а. Паліна! Не смей! Ты ж чэснае слова дала!

П а л і н а. Дык гэта ты, значыцца, у карты так гуляеш? Цэлымі начамі... *(Адчыняе дзверы і кліча дзяцей.)* Дзеці, сюды!

Ц я р э ш к а. Калі скажаш, Паліна, заб'ю!

Уваходзяць Г а л я, З і н а, Н а д з е я, В а л о д з ь к а.

В а л о д з ь к а. Ну, вы чулі? Ён яшчэ маме грозіць.

Г а л я. Што ты ад яго хочаш? Фашыст!

П а л і н а. Сцеражыце яго. Я скора прыйду. Не выпускайце. Дзе меншыя дзеці?

Г а л я. Коўзаюцца каля маёй хаты.

П а л і н а пайшла з хаты.

Ц я р э ш к а. Падайце вады. Зіна, дачушка!

Усе паглядаюць адзін на аднаго.

В а л о д з ь к а *(сурова)*. Вады можна. Вады нават ворагу даюць.

Ц я р э ш к а. Дзякуй, сынок. Паспагадаў.

Зіна падала вады, напаіла бацьку.

Г а л я. Во, дажыўся.

Ц я р э ш к а. Ну і дзякуй вам. Век помніць буду.

В а л о д з ь к а. Кароткі век.

Ц я р э ш к а. Зінка! Там каля цябе, на акне, ляжыць недакураная цыгарэтка. Падай яе мне ды дай прыпаліць.

В а л о д з ь к а. Не давай!

Г а л я. Хай напаследак.

Зіна падае недакурак. Надзея падносіць запалку. Цярэшка з асалодаю курыць.
Паўза.

Ц я р э ш к а. Зіна! Папраў. Пячэ.

Зіна падбягае да Цярэшкі.

З і н а. А ты выплюнь.

Ц я р э ш к а. Шкада. Яшчэ не дакурыў.

Г а л я *(заўважыўшы праз акно)*. Ой! Зноў гад еты, паліцай!

Н а д з е я *(спалохалася больш за іншых)*. Ой! А маткі няма.

Галя зноў накінула на Калабка кажух і засланіла яго сабой. Урываецца С ы р а д о е ў — раз'юшаны, крыклівы.

С ы р а д о е ў. Дзе Калабок? Дзе староста? Чаму не выканалі майго загаду? Чаму не знайшлі яго?

Н а д з е я *(гатова выбегчы)*. Я зараз... Я знайду... Я сама...

С ы р а д о е ў. Пачакай! Ану, ты, ты і ты! З-пад зямлі дастаць мне старога. І скажыце: у школе гарнізон будзе. Пасцелі мабілізаваць трэба. Каб за гадзіну мабілізаваў дваццаць падушак для маіх арлоў! Бы-ыстра-а! Ану!!! Марш!!! Каму я сказаў?!

Г а л я, З і н а і В а л о д з ь к а пераглянуліся і выйшлі за дзверы.

Н а д з е я. Дык я зараз... свае... во — дзве падушкі занясу.

С ы р а д о е ў *(мякка)*. Пачакай. Свае знадобяцца яшчэ сабе. Знойдзем, акрамя тваіх... *(Юрліва агледзеў Надзею з ног да галавы.)*
Ну, ясачка... Павачка...

Сырадоеў скідае з сябе паўшубак, шапку.

Н а д з е я. Не смей! Не падыходзь!..

С ы р а д о е ў. Ну чаго ты ламаешся? Не дзяўчынка ўжо, а баба.

Расшпіліў рэмень на штанах.

Н а д з е я. Не думай! Не мылься! Брыцца не будзеш!

С ы р а д о е ў. Ды што ты, дзівачка, дурненькая... Ах ты, ласкавая... Ах ты, шызанькая... Ах ты, ягадка... Ах ты, цыпачка...

Ён набліжаецца да Надзеі. Яна адступае. Ён расставіў рукі, быццам курыцу ловіць, і заходзіць так, каб Надзея адступала да пасцелі. Нарэшце коршунам кідаецца на яе, хапае ў абярэмак, валіць на ложак. Пачынаецца адчайная барацьба. Ляцяць падушкі, мільгаюць аголеныя ногі Надзеі, ляцяць пух і пер'е з падушак. Сапуць. Рычаць. Страсці разгарэліся да канца. Але Надзея... Надзея малайчына — на справе даказвае, што адзін на адзін мужчына бяссільны

«ўзяць» жапчыну, калі яна таго не схоча. Нарэшце яна вырвалася з рук Сырадоева, адбегла да стала, схапіла там вялізны кухонны нож і дэманструе гатоўнасць адбіць любую атаку. Абое цяжка сапуць.

Н а д з е я. Не падыходзь! Ідзі ад граху! А то яй-богу!.. Чэснае слова!.. У руках панясеш!.. *(Вертанула нажом.)*

С ы р а д о е ў. Пачакай, пачакай!.. Не, дарагая... Не, галубка!.. Ад мяне ты не вылузнешся... так... Я ўжо... будзь спакойна... Распаліла мяне, то ўжо...

Н а д з е я. Сораму ў цябе няма! Дзе твае вочы! Не падыходзь!

С ы р а д о е ў. Ой! Нехта ідзе!

Ён паказаў на акно, і Надзея, паверыўшы, азірнулася. А Сырадоеў тым часам напаў на яе, крутнуў руку ёй, і нож выпаў. Схапіўшы ў абярэмак, панёс яе да ложка. І зноў пачалася валтузня. Нешта затрашчала.

Н а д з е я. Што ты робіш, гад? Што ты робіш? Крычаць буду.

Ц я р э ш к а *(з меха)*. Я іду! Іду!

Сырадоеў усхапіўся з пасцелі, азіраецца.

Н а д з е я. Свёкар ідзе!

Надзея ўстае з пасцелі, папраўляе на сабе плацце, прычоску.

Паразіт ты! Бессаромны!.. Гвалтаўнік! Бандыт!

С ы р а д о е ў. Но-но! Прыкусі язык!..

Аднак і Сырадоеў прыводзіць сябе ў парадак: сарочку запраўляе ў штаны, зацягвае рэмень.

Н а д з е я. Што? Не сорамна?

С ы р а д о е ў. Пачакай! Гэта яшчэ не ўсё... У нас яшчэ будуць мілыя сустрэчы!.. У канаплях... Сходзім у каноплі...

У пакой уваходзяць Г а л я, З і н а, В а л о д з ь к а — хто з чым: хто з качалкай, хто з сякерай.

А вы чаго?

Г а л я. Стараста там... У школе. Ідзіце...

С ы р а д о е ў апранае свой кажух, шапку і, пасміхаючыся, выходзіць.

Н а д з е я *(плача)*. Чаму ж вы пакінулі мяне адну?

З і н а. Мы не пакінулі. Мы пад дзвярыма стаялі. Мы падрыхтаваліся...

Г а л я. А калі сціпшыліся, я падумала: няўжо дабраўся ён да цябе і — сюды! Во гад! А? Ну, каб...

Цярэшка галавой скідае з сябе кажух.

Ц я р э ш к а. І я ўвапрэў... Во халера!..

Н а д з е я *(плача).* Што вы нарабілі? Навошта вы яго прывялі ў хату? Вы чулі, што ён сказаў? *(Хліпае.)* У каноплі хадзіць... бегаць... І вас ён старастам паставіў, каб прычына была... хадзіць сюды... ка мне...

В а л о д з ь к а. Не будзе ён хадзіць сюды.

Н а д з е я. Будзе! Ён такі! Яму плюй у вочы, а ён... Вячэраць, кажа, прыйду...

Г а л я. А ты сёння ў мяне паначуеш. Ці к сваім ідзі панач.

Ц я р э ш к а *(сур'ёзна).* Ён і без мяне прыйшоў бы... вячэраць.

Н а д з е я *(злосна).* Але навошта вы яго прывялі? Чаму?

Ц я р э ш к а. Развяжыце мяне нарэшце, чорт вас вазьмі ўсіх! Ногі, рукі замлелі, змярцвелі. Няёмка!

Зіна памкнулася да бацькі, але строгі вокрык Валодзькі спыніў яе.

В а л о д з ь к а. Не падыходзь! А тым дзецям, Свірыдавым, ёмка было, калі іх палілі фашысты?

З і н а. Не ён жа паліў.

В а л о д з ь к а. Такія, як ён!

З і н а. Ён за тых не адказвае.

В а л о д з ь к а. Адзін — за ўсіх, і ўсе — за аднаго! Ён пайшоў служыць уладзе, якая такое дазваляе. А ўладу такую трэба ліквідаваць! Значыць, і яго ліквідаваць! Ён з фашыстамі заадно. А фашысты мучаюць людзей. Ну, то хай і ён паспытае таго ж.

Ц я р э ш к а. Ну дык вот што. Бачу я, што канец мне прыйшоў. Хачу з вамі ўсімі перад смерцю папрашчацца. Толькі па адным. Выйдзіце ўсе. Галя, астанься. Ты старэйшая.

Усе моўчкі выходзяць. Зразумелі сур'ёзнасць моманту.

Г а л я. Ну і што ты мне скажаш напаследак?

Паўза.

Цярэшка доўга з замілаваннем разглядае дачку.

Ц я р э ш к а. Галя — галінка ты мая!.. А помніш? *(Спявае.)* Галінка-калінка-малінка мая, у садзе ягадка калінка, малінка мая... А? Ці даўно было? На каленях у мяне танцавала... А цяпер? Двух унукаў мне ўжо нарадзіла. Жанчына! Баба! Малая ты — ласкавая была. А падрасла...

Г а л я. Дык ты мяне папругай... Дарослую дзеўку ўжо, нявесту... А?

Ц я р э ш к а. Даруй мне, дачка. Што было, тое было. Я цябе крыўдзіў, відаць, болей, як каго. І лупцаваў. *(Упэўнены ў сваёй праваце.)* Ну, за дзела. Рана ты любіцца пачала са сваім Піліпком. Не даспадобы быў ён мне. Шалапутны быў. Ты ж панесла ад яго ў дзеўках. А? Думаеш — не балела ў мяне душа?

Г а л я. Ну і што? А я яму верыла. Верыла, што ажэніцца, возьме мяне.

Ц я р э ш к а. Верна. Мая памылка выйшла. Але — шалапут ён!

Г а л я. Ён — шалапут, а з фашыстамі ваюе. А ты пайшоў да іх у памагатыя. Дык хто цяпер шалапут? Ці не той, хто фашыстам служыць? Яны дзяцей страляюць. Восемдзесят дзіцёнкаў яўрэйскіх на такім марозе голымі пакідалі ў машыны... сэрца заходзілася ад жаху!.. А яны на такім марозе, голенькіх... вывезлі ў роў і пастралялі. Яны хаты паляць! Людзей страляюць! Усё руйнуюць. А ты? Пайшоў запалкі ім падносіць? Карасінам абліваць? Га? Мяне лупцаваў, вучыў, а сам? Вочы мае не глядзелі б на цябе! *(Плача.)*

Ц я р э ш к а. Ну, добра, ну... Падсадзі хоць мяне на лаўку, а то... карчом во так сядзець... Ну, чуеш?

Галіна памагае бацьку падняцца і сесці на лаўку. Але з меха яго не вызваляе.

Г а л я. Во і сядзі, як лялька.

Ц я р э ш к а. Як дазнаюцца немцы ці паліцаі, што ты была камсамолкай, дык... Я чаму старастам стаў? Глядзіш — і выручыў бы.

Г а л я. Як дазнаюцца, што я была камсамолкай, дык яны і цябе — старасту — на варотах павесяць.

Ц я р э ш к а. Развяжы, дачка, выпусці.

Г а л я. Не магу.

Ц я р э ш к а. А што тут — не магу? Вузел развязаць не можаш?

Г а л я. Без мамы — не ма-гу!

Ц я р э ш к а. А калі мама прыйдзе, ты мне не спатрэбішся. Ідзі, ідзі і пазаві Валодзьку. А цябе ўсё-такі недарма біў.

Г а л я выходзіць.
Уваходзіць В а л о д з ь к а.

В а л о д з ь к а. Ну?

Ц я р э ш к а. Развяжы! Ты ж сын мой!

В а л о д з ь к а. Забудзь!

Ц я р э ш к а. Як гэта забудзь?

В а л о д з ь к а. А так!

Ц я р э ш к а. Бацька я табе ці не бацька?

В а л о д з ь к а *(адводзіць вочы ўбок)*. Не бацька!

Ц я р э ш к а. Як не бацька? *(Успомніў.)* А-а... Той гад паліцай сказаў, а ты і паверыў? А можа, ён і праўду сказаў, калі ты так? А?

В а л о д з ь к а. Маўчы! Чуеш? Той гад маму абразіў, а цяпер ты?! Я не пагляджу, што ты...

Ц я р э ш к а *(здаволены)*. Ну, цяпер бачу — сын ты мне.

В а л о д з ь к а. Не сын! І ты мне не бацька!

Ц я р э ш к а. А хто ж я тады?

В а л о д з ь к а. Здраднік! І падумаць толькі — хто?! Мой бацька!.. Як жа мне цяпер таварышам у вочы глядзець? Як жа мне цяпер на вуліцу выйсці? Другіх жа хоць пад прымусам, сілаю ставілі старастам, а ты... Добраахвотна, сам напрасіўся, пры людзях! Я ледзь не згарэў ад сораму.

Ц я р э ш к а. А і не згарэў. Цэлы астаўся.

В а л о д з ь к а *(аж застагнаў)*. І гэта ў той час, калі лепшыя людзі, яго ж сыны, жыцця не шкадуюць, кроў сваю праліваюць, да апошняга дыхання... схапіліся з ворагам. А ты ў гэтую цяжкую хвіліну памагаеш не сынам, а ворагу! Якая ж кара павінна пасці на тваю галаву?

Ц я р э ш к а. Бацюхны! Камісар! Ну чысты камісар! Такіх я толькі ў кіно бачыў. Чапай! Жывы Чапай! А я і не ведаў, што жыву побач з такім героем! А?

В а л о д з ь к а. А-а, дык ты яшчэ насміхаешся? На, на, стараста, чытай!..

Валодзя вымае са свае кішэні лістоўку і суе бацьку пад нос.

На, чытай!..

Валодзя чытае сам. Па памяці.

«Радзіма наша, акрываўленая Бацькаўшчына наша заве цябе на подзвігі! Бі ворага! Бі немца! Ратуй Бацькаўшчыну! Памагай братам сваім знішчаць прышэльцаў! Радзіма кліча сваіх верных сыноў. Адгукніся стрэлам па ворагу!»

Чуў? Я сёння іх сорак штук перапісаў. Ноч сядзеў. Во. Бачыш? На! «Смерць нямецкім захопнікам!» А цяпер дапішу: «І іхнім халуям!»

Ц я р э ш к а. Ціш-ш! Вар'ят! Чаго гарланіш? Ачмурэў? Жыць табе надакучыла? Крый бог, пачуе хто...

Валодзька. Хай чуюць! Хай ведаюць, які ў старасты сын! Дагэтуль таіўся, а цяпер не буду! Хай усе ведаюць, што я ненавіджу фашыстаў, што яны — мае заклятыя ворагі!

Цярэшка. Дурненькі! Ціха! Пачакай! Маладэ ты...

Валодзька *(не слухае бацькі)*. Як мне жыць?.. *(На вачах у юнака слёзы. Валодзя стараецца стрымаць сябе, не паказаць сваю слабасць.)* Не! Я змыю гэту пляму з нашай сям'і. Я піянерам быў. Я клятву даваў! *(Успамінае.)* Піянер! Да барацьбы за дзела Леніна-Сталіна будзь гатоў! І я адказваў: «Заўсёды гатоў!» Ты зразумеў, бацька? Я заўсёды гатоў!

Цярэшка. Як гэта ты змыеш? Пляму.

Валодзька. Як? А вось так. Абвяжу сябе гранатамі, вазьму яшчэ процітанкавую міну, у абоі загарну. І пайду к фашысцкаму каменданту і гэтаму начальніку паліцыі... Падыду і... ірвану чаку. Мне канец, але і яны падохнуць. Вось як! Не будзе ён хадзіць да Надзейкі! І плямы на нашай сям'і не будзе!

Цярэшка *(перапужаўся)*. Сынок! Сынок! Ты што? Здурэў? Пачакай, пакуль мама прыйдзе.

Валодзька выходзіць з хаты.

Зіна! Галя! Надзея! Затрымайце яго! Не пускайце яго! Развяжыце мяне! Дзяржыце яго, пакуль маці прыйдзе! Зіна! Зіна!

Уваходзіць Зіна.

Зіна. Ды ён нікуды і не пайшоў. Сядзіць вунь у хаце.

Цярэшка. А то ён такі, і да бяды недалёка. Ну, дачушка! Ты ж такая была ласкавая, такая была добрая і далікатная. Ну, пашкадуй свайго бацьку. У мяне ж і ногі і рукі памлелі, дзеравянымі сталі. Ты ж такая была жаласлівая. А? Ну? Развяжы.

Зіна. А татулечка мой ро-о-дненькі!... *(Галосіць.)* А галовачка твая бе-едненькая-я-я! А ручкі-ножкі тваε няшчасненькія!

Зіна абдымае бацьку, цалуе яго, сама слязамі заліваецца, але ж... не развязвае.

Цярэшка. Ну, ну... Ну развяжы... Выпусці!.. Ну пашкадуй!

Зіна. А што ж ты нарабіў? А што ж ты натварыў?

Цярэшка. Нічога я не нарабіў яшчэ. Дачушка, лю-

бая, ну развяжы. У цябе ж такая добрая душа! Ты ж сярод усіх маіх дзяцей самая жаласлівая. Ну? Ну, помніш? Во нядаўна ж верабейку ты прынесла са двара, замёрз ён, закачанеў... Як ты хукала... як мы ўдваіх хукалі на яго, пакуль ён ажыў?.. А? Верабейку пашкадавала, а бацьку... Зінка ты мая, слязінка.

З і н а *(скрозь слёзы)*. Дык жа верабей не быў старастам...

Ц я р э ш к а. І я ж не быў яшчэ старастам. Я ж не быў яшчэ? Не быў. Які ж я староста? Толькі-толькі прызначылі. Ну, развяжы! А? Дачушка! Зінка-слязінка! А?

Прыадчыняюцца дзверы, у шчэлку прасоўваецца галава В а л о д з ь к і.

В а л о д з ь к а. Толькі пасмей!.. *(Знікае.)*

Ц я р э ш к а. Дачушка мая. Няўжо ты забыла? Ты ж мая любіміца. Я ж заўсёды лепшую цукерачку — табе. Прыгажэйшую хусцінку — табе. Якое ж табе вяселле я справіў? А? Нікому ж я так не спрыяў, як табе. Маленькую яшчэ на кірмаш вазіў, на ярмарку. А завушнічкі табе гэта ж я купіў.

Цярэшка і сам разжаліўся, хліпае носам.
А Зіна заліваецца слязамі. Яна адвярнулася ад бацькі, а рукі яе, супраць волі, неяк самі сцягваюць з Калабка мех, вызваляюць Цярэшку. Добрыя, жаласлівыя рукі дачкі.

З і н а. Мы самі пойдзем. І я з табою... Мы самі ў пельку. Без іх. Удваіх у пельку.

Ц я р э ш к а. Ух ты, ласкавая мая! Жаласлівая мая! Харошая мая! Ненаглядная мая! Зорачка ясная! Зінка мая, слязінка мая...

Цярэшка заліваецца слязамі. На парозе з'яўляецца П а л і н а.

П а л і н а. А родненькі мой! А гаротнік ты мой няшчасны! А ён усё яшчэ ў мяшку сядзіць. І звязаны!..

Паліна падбягае да мужа, памагае Зіне вызваліць яго з меха.

Дочкі!!! Дзе вы! Сюды!.. А што ж гэта за дзеці? Га? Так здзекавацца з бацькі роднага!..

У хату ўбягаюць Г а л я, Н а д з е я і В а л о д з ь к а.

Ах, каб вас халера пахапала. Во і гадуй іх! Кармі іх! А яны потым во як... Дочкі! Памажыце яму ўстаць!..

Дочкі развязваюць вяроўку, спрабуюць паставіць Цярэшку на ногі, але ён не стаіць. Ногі падкошваюцца. Пэўна памярцвелі.

З і н а. Што з табой, тата?

Ц я р э ш к а. Здранцвелі ногі. Яшчэ трохі і — каюк.

П а л і н а. Разатрыце яму ногі! Памахайце, націвайце імі, калі ён сам не можа.

Ц я р э ш к а. Ну? Што?

П а л і н а. А дурненькі ты! А ці ж я цябе мала біла? А ці ж я цябе яшчэ не навучыла?

Ц я р э ш к а *(крычыць)*. Што-о, я пытаю?!

П а л і н а *(спалохана)*. Што — што?.. Маўчы, і ўсё!

Ц я р э ш к а. А-а! То-та жа!

П а л і н а. А Калабочак ты мой, а Цярэшачка! Можа, табе чарку даць? Каб адышоў хутчэй!.. *(Кідаецца да стала, налівае чарку гарэлкі, падае Цярэшку. Ён п'е.)* Ну, і кусні гурочка салёненькага...

Ц я р э ш к а *(пражаваўшы)*. Ну? Што? *(Грозна.)* Стараста я вам ці не стараста?

П а л і н а. Стараста! Стараста!..

Ц я р э ш к а. А-а-а...

Ён лікуе, як пераможца. У гэтым яго «а-а-а» цэлая гама пачуццяў, лікаванне і пагроза, насмешка і дараванне віны, пачуццё ўласнай перавагі і зларадства.

В а л о д з ь к а. Мама! Што з табой? Ён жа здраднік! Здрадзіў Радзіме.

П а л і н а. Радзіме?.. Ты вот што... Я цябе радзіла, я табе і радзіма. А ён, ніякі ён не здраднік мне.

В а л о д з ь к а. Савецкай уладзе здраднік!

П а л і н а *(крычыць)*. Я — твая савецкая ўлада!

Паўза.

Усе здзіўлена паглядаюць на маці.

Ц я р э ш к а. А калі так — ану, кыш адсюль!

П а л і н а. Кыш! кыш! *(Вымахвае дачок з хаты.)* Ідзіце, ідзіце. Бацьку трэба слухаць.

Ніхто з дачок нічога не разумее. Выходзяць з хаты.

Ц я р э ш к а. Ну? Як там было?

П а л і н а. Прыйшла я, пастукала, як ты сказаў.

Ц я р э ш к а *(заціскае ёй далонню рот)*. Ціха ты!

П а л і н а *(пашэптам)*. Ён адкінуў запор. Увайшла. Гляджу — сакратар райкома. Нага перавязаная. А ён спалохаўся. За цябе. Адразу: што з ім? З кім, пытаю. З Калабком, кажа. Сядзіць, тлумачу, у мяшку. Расказала. Смяецца. Ідзі, кажа, выпускай!.. Я і назад. Ах ты, гад паласаценькі! Ад мяне таіўся. *(Строга.)* Выпускай! Табе заданне кажа, такое... Ду-урыла ты!

Ц я р э ш к а. Ну! Цыц! *(Палец на губы.)* І каб — маўчок! А то вунь у Зарэчанскім пасёлку Сырадоеў усю

сям'ю спаліў. У іх хаваўся наш партызан, камандзір. І ніхто, апроч сваіх, не ведаў. Значыць, са сваіх і прагаварыўся, пахваліўся. І ўся сям'я загінула. Дык глядзі ж! Каб маўчок! Ні дзецям, ні каму... А то — ты мяне знаеш! Ану заві дзяцей! І аддай загад, каб па валасінцы хадзілі! Чуеш? *(Усміхнуўся.)* Ну, брат, і патрыётаў выгадаваў. Самога б задушылі за савецкую ўладу! На сабе адчуў. А?

П а л і н а. Дык ты праўдзівы? Не верыў? Дурань!

Ц я р э ш к а *(апраўдваецца)*. Я верыў, але ж... Не мог я... Не меў права... Канспірацыя. Чула такое слова? Не павінен быў нікому, ні пры якіх макарах раскрываць тайну. Не мая ета тайна была. Прысягу я даваў, клятву — ні-ні, ні гу-гу нікому! Ясна табе? Тайна — для ўсіх тайна! А цяпер перад дзецьмі выкручвайся сама.

П а л і н а. Дзеці! Ану ўсе сюды! Быстра!

Уваходзяць Г а л я, З і н а, Н а д з е й к а.

Дык вось, каб свайго бацьку шанавалі як трэба! І ва ўсім слухаліся! Ягонае слова — закон! Чулі?

З і н а. Чулі!

Н а д з е я. Чулі.

Г а л я. А як жа?..

Ц я р э ш к а. І ніякіх пытанняў! Ясна?

П а л і н а. І ніякіх пытанняў! Ясна?

Цярэшка заўважыў, што сына няма.

Ц я р э ш к а *(устрывожана)*. А Валодзька дзе? Дзе сын?!

З і н а. Няма яго.

Н а д з е я. Пайшоў.

Ц я р э ш к а. Куды пайшоў?

Г а л я. Не сказаў. Хмуры пайшоў.

Ц я р э ш к а *(крычыць)*. Я сказаў — не пускаць! Я сказаў ці не? Знайсці! Дагнаць! Вярнуць!

Н а д з е я. Ён па вуліцы пайшоў. Туды, да школы...

Ц я р э ш к а *(як вар'ят)*. Вярні-і-це-е!!!

П а л і н а. Што з табой?

Раптам аглушальны выбух скалануў усё наваколле. Зазвінелі шыбы. І наступіла ціша.
На ўсёй планеце ціша.

Ц я р э ш к а. Сын! Сы-ын мо-й! Ва-а-лодзька-а-ах-ах-ах-ах-ах!!!

*Заслона.*

*1970*

## КАМЕНТАРЫІ

Збор твораў Андрэя Макаёнка выдаецца ўпершыню. Гэта найбольш поўнае выданне яго драматургічнай, празаічнай, публіцыстычнай, літаратурна-крытычнай і эпісталярнай спадчыны. У параўнанні з самым змястоўным прыжыццёвым выданнем — двухтомнымі «Выбранымі творамі» — у Збор уключаны раннія п'есы, якія нідзе не друкаваліся, апошняя камедыя «Дыхайце эканомна», сцэнарыі кінафільмаў, апавяданні, гумарэскі, артыкулы, пісьмы. Творы ў кожным томе размешчаны па жанрава-храналагічным прынцыпе. За асноўны тэкст іх узята апошняе прыжыццёвае выданне.

### НА ДОСВІТКУ (с. 21—76)

Драма напісана ў 1951 годзе. Упершыню апублікавана ў часопісе «Полымя» (1951, № 6). У перакладзе на рускую мову друкавалася ў газеце «Сталинская молодежь» (1951, 5, 8, 10 жніўня) і альманаху «Советская Отчизна» (1952, № 5, пераклад Б. Бур'яна).

Задума п'есы абумоўлена характарам міжнароднай палітычнай абстаноўкі, якая склалася да канца 40-х гадоў у Еўропе. У выніку разгрому фашысцкай Германіі аўтарытэт нашай краіны немерна вырас. Вайна наглядна паказала перавагі, жыццёвую магутасць сацыялістычнай грамадскай фармацыі, што не магло не выклікаць росту папулярнасці сярод працоўных еўрапейскіх краін камуністычнай ідэалогіі. Усё гэта прывяло да абвастрэння класавых сутычак у многіх капіталістычных краінах Захаду.

Дзея драмы «На досвітку» адбываецца ў пасляваеннай Францыі, дзе рабочы і сацыялістычны рух набыў асаблівы размах. «На досвітку» — палітычная драма. Яна створана ў тым жа публіцыстычным ключы, як і «Русский вопрос» К. Сіманава, «Европейская хроника» А. Арбузава і іншыя савецкія п'есы пачатку 50-х гадоў, прысвечаныя міжнароднай праблематыцы.

Пастаноўку п'есы на сцэне тэатра імя Янкі Купалы ажыццявіў народны артыст БССР рэжысёр К. Саннікаў. Асноўныя ролі выконвалі: народны артыст СССР Г. Глебаў (П'ер Грэньо), заслужаны артыст БССР Б. Кудраўцаў (Анры Леду), народныя артысты БССР У. Дзядзюшка (Фларымон) і Л. Рахленка (Эжэн Дзюрвіль), заслужаныя артысткі БССР С. Станюта (Жазефіна) і Л. Шыпко (Агнеса).

Спектакль атрымаў прыхільную ацэнку ў друку. «Тэма міру,— пісаў, напрыклад, Ул. Няфёд,— высакародная тэма для напісання

мастацкіх твораў. Вось чаму з'яўленне п'есы А. Макаёнка «На досвітку», якая прысвечана барацьбе за мір, і пастаноўка яе ў тэатры імя Янкі Купалы выклікалі вялікую цікавасць гледача...

Пастаноўшчык К. Саннікаў, рэжысёр Ус. Кухта і выканаўцы шмат намаганняў прыклалі да таго, каб стварыць яркі, палітычна востры і мастацка цікавы спектакль. Многае ім удалося. Рад сцэн пастаўлен і выконваецца з вялікім уздымам» («Чырвоная змена», 1952, 12 лютага).

У цэлым станоўча ацаніў п'есу і спектакль па ёй у тэатры імя Янкі Купалы А. Маўзон («Тэма і яе ўвасабленне» — «Літаратура і мастацтва», 1952, 2 лютага). Разам з тым ён зрабіў некалькі крытычных заўваг, з якімі рэзка не пагадзіўся Б. Бур'ян. «Аднак наўрад ці дапамагаюць гэтаму (развіццю беларускай савецкай драматургіі і тэатра.— *С. Л.*),— пісаў ён,— абразлівыя наскокі на драматурга, накшталт рэцэнзіі А. Маўзона... Зыходзячы з таго, што п'еса «На досвітку» напісана чалавекам, які не быў ва Францыі і не ўдзельнічаў у апісаных ім жа падзеях, рэцэнзент закрэсліў першааснову спектакля — п'есу. Зразумела, такі падыход няправільны. Нікому ж не прыйдзе ў галаву ставіць пад сумненне п'есу таго ж А. Маўзона «Канстанцін Заслонаў» толькі таму, што ён сам не быў відавочцам гераічнай барацьбы заслонаўцаў. Газета «Літаратура і мастацтва» дапусціла памылку, надрукаваўшы такі аглабельны водгук на п'есу маладога аўтара і на спектакль тэатра імя Я. Купалы («Две Франции» — «Сталинская молодежь», 1952, 6 лютага).

Своеасаблівым пасрэднікам у спрэчцы выступіў народны артыст БССР Д. Арлоў. У артыкуле «Пра дзве рэцэнзіі» («Літаратура і мастацтва», 1952, 9 лютага) ён ухвальна адазваўся пра п'есу і спектакль. Галоўнай заслугай тэатра Д. Арлоў лічыў тое, што ён адкрыў новага таленавітага драматурга. Аўтар артыкула папракнуў А. Маўзона за «іранічна-апякунскі тон» яго рэцэнзіі. Разам з тым, Д. Арлоў не прыняў манеры палемікі Б. Бур'яна.

Прыхільныя словы ў адрас п'есы «На досвітку» былі выказаны на старонках газет і часопісаў М. Блісцінавым, Э. Герасімовіч, А. Атрошчанкам, Н. Пашкевічам, Г. Шчарбатавым і іншымі. Сам жа драматург вельмі самакрытычна паставіўся да свайго твора. Пазней, успамінаючы гісторыю яго стварэння, ён зазначаў: «З майго боку гэта, шчыра кажучы, было нахабствам. За аснову я узяў асяроддзе, жыццё людзей, абсалютна мне незнаёмых: напісаў п'есу аб барацьбе французскага пралетарыяту за свае жыццёвыя правы. Натуральна, у ёй было мноства агрэхаў, але, пастаўленая тэатрам імя Янкі Купалы, яна раскрыла для мяне сакрэты драматычнага жанру, стала неабходным практычным урокам творчасці для тэатра» («Литературная газета», 1972, 17 мая). А вучань з А. Макаёнка атрымаўся надзвычай здольны. Не, спачатку ён, напрыклад, не вельмі ўсведамляў, нават крыўдаваў на таго ж Г. Глебава, які ў самых, здавалася б, драматычных сітуацыях пераключаўся раптам на гумарыстычны «рэгістр». Аднак вельмі хутка малады драматург зразумеў, што рабіў гэта акцёр не з-за жадання сапсаваць сур'ёзны спектакль, а з-за імкнення ажывіць аднастайную плынь дзеі. Сяброўскія гутаркі з К. Саннікавым, Г. Глебавым, У. Дзядзюшкам умацавалі ў ім перакананне, што да гледача трэба ісці з асабіста выпакутаваным, надзённым матэрыялам. І, самае важнае, матэрыял гэты павінен мець відовішчна яркую, выразную форму.

Камедыя завершана у 1953 годзе. Упершыню цалкам апублікавана ў часопісе «Полымя» (1953, № 7). Трэці акт п'есы друкаваўся ў газетах «Літаратура і мастацтва» (6 чэрвеня 1953 года) і «Сталинская молодежь» (канец верасня таго ж года). На рускую мову перакладзена Г. Штайнам. Тагачасны рэдактар часопіса «Театр» М. Пагодзін, азнаёміўшыся з рукапісам п'есы, распарадзіўся зняць адзін з матэрыялаў ужо цалкам звярстанага дзесятага нумара (за 1953 год) і з паметкай: «У друк. Тэрмінова!» аддаў яе ў набор. У рускім перакладзе камедыя называлася «Камни в печени». Пазней п'еса перакладалася на многія мовы народаў СССР, друкавалася ў перыёдыцы, выходзіла асобнымі выданнямі. Першымі асобна выдалі п'есу ўкраінцы (кн. «Макайонок А. «Выбачайте, коли ласка». Сатирична комедія на 4 акти. Авторизований переклад з білоруськоі В. Нагорного. Київ, 1954). У перакладзе Ф. Чэца публікавалася ў 1956 годзе на чэшскай мове ў Празе... Значэнне «Выбачайце, калі ласка» ў развіцці савецкай камедыяграфіі падкрэслена ўкладальнікамі шасцітомнага выдання «Пьесы советских писателей», М., 1972, якія гэтай п'есай адкрылі першую кнігу.

Задума гэтай камедыі ўзнікла задоўга да яе напісання. Працуючы памочнікам сакратара райкома партыі, будучаму драматургу даводзілася сутыкацца з такімі фактамі, якія выклікалі пачуцці гневу, пратэсту. Многія з іх, па прызнанню самога аўтара, без асаблівай пераапрацоўкі ляглі ў аснову гэтай п'есы. Да іх ён не мог не звярнуцца. «Але, прызнаюся, першы штуршок у гэтым напрамку зрабілі словы А. М. Горкага ў артыкуле «Аб сацыялістычным рэалізме»: «Для таго, каб атрутная, катаржная мярзотнасць мінулага была добра асветлена і зразумета, неабходна развіць у сабе ўменне глядзець на яго з вышыні дасягненняў сучаснага, з вышыні вялікіх мэт будучага. Гэты высокі пункт погляду павінен і будзе ўзбуджаць той горды, радасны пафас, які надасць нашай літаратуры новы тон, дапаможа ёй стварыць новыя формы, стварыць неабходны нам новы напрамак — сацыялістычны рэалізм»... Прачытаўшы іх, я па-новаму прагледзеў у памяці бачанае і вырашыў напісаць пра гэта сатыру. Наказам для мяне служыў заклік Маякоўскага: «Мы всех зовем, чтобы в лоб, а не пятясь критика дрянь косила,— и это лучшее из доказательств нашей чистоты и силы».

І я, як здолеў, так і напісаў. «У лоб!» (З запісной кніжкі драматурга). Публікацыя п'есы выклікала ажыўленую дыскусію. Здзіўляе аператыўнасць, з якой усесаюзны перыядычны друк адгукнуўся на выхад «Выбачайце, калі ласка». Пачынаючы з кастрычніка 1953 года бадай ні адзін аглядны артыкул, прысвечаны праблемам драматургіі, не абыходзіўся без зацікаўленага разбору сатырычнай камедыі А. Макаёнка. Выказвалася шмат думак і меркаванняў — крытычных і ўхвальных, стрыманых і захопленых, аднак усе пагаджаліся, што твор атрымаўся вострым, надзённым, патрэбным. «У новай сатырычнай камедыі маладога беларускага драматурга Андрэя Макаёнка,— сцвярджала Н. Ігнацьева,— прываблівае перш за ўсё пільная назіральнасць пісьменніка, які ўбачыў у жыцці сельскага раёна і калгаса тыя тыповыя недахопы, якія заслугоўваюць асмяяння, выкрыццё.

П'еса па-сапраўднаму надзённая. Высмейваючы бюракратаў і галавацяпаў, людзей, якія насаджаюць у калгасах метады адміністравання, аўтар выступае супраць з'яў, што перашкаджаюць раз-

віццю сельскай гаспадаркі. Аднак камедыя А. Макаёнка — зусім не абыякавая ілюстрацыя, не проста каментарый да падзей сённяшняга дня. Малады аўтар не толькі дакладна вызначыў прадмет сатырычнага выяўлення, даказаўшы сваю здольнасць смела ўрывацца ў жыццё, але і змог думку п'есы раскрыць у сутыкненні жыццёва верагодных характараў. «Литературная газета», 1953, 11 кастр.

Гэтак жа цёпла адгукнулася на выхад новага твора А. Макаёнка і беларуская прэса. На палымянскую яго публікацыю з'явілася некалькі водгукаў. У адным з іх, напрыклад, гаварылася: «П'еса «Выбачайце, калі ласка» сведчыць аб значных здольнасцях А. Макаёнка. Лепшыя вобразы твора па сваёй сатырычнай і камедыйнай сіле ўзнімаюцца да запамінаючыхся персанажаў камедый Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім» і «Пяюць жаваранкі», Аляксандра Карнейчука «У стэпах Украіны» і другіх савецкіх камедый» (Калгасная праўда, 1953, 3 лістапада). У. Калеснік адзначаў майстэрства моўнай характарыстыкі герояў камедыі. «Наогул моўная характарыстыка персанажаў удалася аўтару. У гутарках, спрэчках, рэпліках сабрана ўся соль камедыі, якая атрымалася не столькі смяшлівай, колькі калючай. Макаёнку так лёгка даецца вострае слова, што ён надзяляе здольнасцю дапякаць многіх...» (Савецкая Радзіма, 1953, 18 кастрычніка).

Сваёй сатырычнай камедыяй А. Макаёнак нанёс адчувальны ўдар па тэорыі бесканфліктнасці. Ён яскрава, пераканаўча даказаў, што дрэнь неабходна выпякаць без жалю, без кампрамісаў — у лоб, што «дазіроўка» крытычнасці ў мастацкім творы — справа няплённая. Крытыка можа быць самая вострая, важна толькі, каб вялася яна з пазіцый здаровага сэнсу, сацыялістычнай ідэйнасці. Тады творчасць не апусціцца да папылага крытыканства. Менавіта гэты грэх заўважыў аглядальнік «Литературной газеты». У артыкуле «О конфликтах подлинных и мнимых» ён зазначыў, што ў канцы 1953 — пачатку 1954 гадоў у савецкай драматургіі з'явілася нямала крытычных п'ес. Аднак не ўсе аўтары здолелі дасягнуць творчых вышынь. Некаторыя з іх пагналіся за таннай сенсацыйнасцю выкрыцця прыватных недахопаў, таму замест грамадзянскага адмаўлення апусціліся да дробязнага бурчання. Пазіцыі такіх аўтараў аказаліся негрунтоўнымі, бо знаходзіліся на зыбкай купіне неакрэсленага светапогляду, якая мала ўзвышаецца над узроўнем мяшчанскага балота — аб'ектам крытычнага выкрыцця. Гэта прыводзіць да скажэння перспектывы. Як прыклад па-мастацку ўдалага выкрыцця сацыяльных недахопаў аўтар артыкула прыводзіць камедыю «Выбачайце, калі ласка».

«У аснове гэтай п'есы ляжыць сапраўдны канфлікт, і прытым — канфлікт напружаны, які пагражае спакою і дабрабыту тых харошых людзей, якіх мы бачым на сцэне і якія (перш за ўсё калгасніца Ганна Чыхнюк) рэальна *дзейнічаюць* (курсіў аўтара артыкула.— *С. Л.*) у п'есе. Гэты канфлікт узяты з жыцця, пачэрпнуты ў сапраўднай барацьбе, якую вядуць наша грамадства і наша сацыялістычная дзяржава супраць шкодных з'яў, што існуюць у рэчаіснасці. Канечне, не усё ўдалося маладому драматургу — схематычны фігуры пракурора і яго нявесты Наташы, у камедыі ёсць лішнія, «неабавязковыя» сцэны. Але ў цэлым гэта добрая п'еса, якая валодае элементамі вострай сатыры. У ёй дакладная расстаноўка сіл, дакладна перададзена здаровая атмасфера жыцця нашага грамадства, якая садзейнічае распазнаванню і рашучаму выкараненню хваробатворных з'яў.

Верпасць праўдзе жыцця і непрытворная страснасць у сцвярджэнні лепшага і ў выкрыцці ўсяго кепскага, што перашкаджае нашаму росту,— іншымі словамі, сапраўднае веданне нашага жыцця і разам з тым шчырая любоў да гэтага жыцця,— нараджаюць творчую смеласць і глыбіню абагульненняў, дазваляюць драматургу знайсці надзённы канфлікт і стварыць патрэбны, хвалюючы твор» («Литературная газета», 1954, 10 чэрвеня).

У інтэрв'ю карэспандэнту БЕЛТА (красавік 1977 года) драматург успамінаў, што лёс «Выбачайце, калі ласка» «спачатку складваўся нявесела». Сапраўды, пягледзячы на тое, што мастацкі савет тэатра імя Янкі Купалы, дзе меркавалася першая пастаноўка п'есы, рашуча настойваў на ўключэнне яе ў рэпертуар, нічога з гэтага не атрымалася. Недальнабачны чыноўнік, ад якога залежала рэпертуарная палітыка, «проста спалохаўся. «Ты, Макаёнак, на каго працуеш? Хочаш, каб нашы суседзі (справа была перад гастролямі на Украіне) падумалі, нібыта ў беларусаў чорт ведае што робіцца?!» (Неман, 1979, № 2, с. 165). Пэўны час камедыю тэатры дружна ігнаравалі. На шчасце, яе аўтара неўзабаве запрасілі на нараду маладых драматургаў, якая праходзіла ў Рызе. Тут п'еса была ўспрынята з сенсацыйнай зацікаўленасцю. Высокая ацэнка «Выбачайце, калі ласка» прагучала ў справаздачах з нарады па Усесаюзнаму радыё і ў газеце «Правда». Пасля гэтага, натуральна, адносіны да камедыі рэзка змяніліся. Прынамсі, ніхто не пярэчыў супраць уключэння яе ў рэпертуар тэатраў. Яшчэ ў 1953 годзе са спектаклямі па п'есе «Выбачайце, калі ласка» паспелі выйсці да гледачоў калектывы Варашылаўскага гарадскога драматычнага, Вінніцкага, Жытомірскага і Цярнопальскага ўкраінскіх абласных музыкальна-драматычных і Усурыйскага драматычнага тэатраў. Але першым быў усё ж тэатр імя Якуба Коласа. Спектакль коласаўцаў атрымаўся яркім, эмацыяльным і выклікаў жывейшую зацікаўленасць гледачоў. Удалыя акцёрскія вобразы стварылі М. Звездачотаў (Калібераў), А. Ільінскі (Моцкін), І. Матусевіч (Гарошка), М. Бялінская (Чыхнюк) і іншыя. «Рэжысёр А. Скібнеўскі і акцёры,— пісаў крытык С. Дзмітрыеў,— вынаходліва выкарыстаці магчымасці, закладзеныя ў п'есе Макаёнка, і стварылі па-сапраўднаму сатырычны спектакль. Пастаноўцы ўласціва насычанасць дзеяннем, напружанасць у адносінах паміж героямі, якой іншы раз так не хапала спектаклям на сучасныя тэмы» (Советская культура, 1954, 13 красавіка).

Адной з самых удалых атрымалася сцэнічная інтэрпрэтацыя камедыі ў тэатры імя Янкі Купалы. Рэжысёр К. Саннікаў у плённай садружнасці з лепшымі акцёрскімі сіламі калектыву (Б. Платонаў — Калібераў, Г. Глебаў — Гарошка, У. Дзядзюшка — Моцкін, Л. Ржэцкая — Ганна Чыхнюк, Г. Макарава — жонка Гарошкі, Л. Шынко — жонка Каліберава і інш.) здолелі стварыць відовішчна яркі, сэнсава змястоўны, псіхалагічна глыбокі спектакль, які ўсхваляваў гледачоў палымянасцю грамадзянскага адмаўлення сацыяльных недахопаў, праўдзівасцю паказу жыццёвых супярэчнасцей.

«Гадзіны, у якія змясціўся першы паказ гэтага спектакля,— пісаў Максім Лужанін,— можна назваць вечарам таленту. На сцэне прысутнічаў той дабратворны дух таленавітасці, калі хочацца гаварыць аб рабоце і гаворыцца лёгка, калі кожная ўдача ўспрымаецца як асабістая радасць...

За вострым выкрыццём, за вясёлым смехам, за камедыйнасцю палажэнняў і сутычак у спектаклі адчувалася большае. У гэтым

большым адзінымі былі і аўтар, і артысты, і гледачы. Гэта была рупнасць, і хваляванне за лёс галоўнага героя п'есы — той жывой справы, якую на вачах гапьбілі і правальвалі недарэкі і круцялі» («Літаратура і мастацтва», 1954, 20 лютага).

З іншых пастановак п'есы крытыка вылучыла спектакль Цэнтральнага тэатра Савецкай Арміі. Буйны савецкі тэатразнавец А. Караганаў, аналізуючы сцэнічную работу гэтага калектыву, адзначаў шэраг удалых творчых рашэнняў. У прыватнасці, яму спадабалася праца большасці акцёраў над сваімі ролямі. Прычыну поспеху спектакля, разам з тым, крытык бачыў у мастацкіх вартасцях камедыі. Ён не хаваў сваёй радасці, свайго задавальнення, што малады драматург здолеў сказаць пра «агідныя з'явы ў жыцці магутнай мовай высокага мастацтва».

«За апошні час,— згадваў А. Караганаў,— у рэдакцыях часопісаў, у тэатрах, у рэпертуарным аддзеле часта з'яўляюцца шаблонныя п'есы з прэтэнзіямі на сатыру. Знешне ў іх шмат падабенства з камедыямі, што атрымалі прызнанне гледача, па сутнасці ж справы яны зніжаюць, здрабняюць важныя тэмы і матывы, якімі былі навеяны іх задумы. Нічога не тлумачачы, яны проста фіксіруюць выродствы і брыдотнасці, якія ёсць у жыцці, не раскрываючы вытокаў і сутнасць зла, яны не выкрываюць, а рэгіструюць зло.

П'еса беларускага драматурга А. Макаёнка «Извините, пожалуйста» («Камни в печени»), пастаўленая цэнтральным тэатрам Савецкай Арміі (рэжысёры А. Папоў, Д. Тункель), адрозніваецца ад такога роду твораў яснасцю ідэі, добрым веданнем жыцця, разуменнем палітычнай сутнасці паказваемага зла» (Советская культура, 1954, 24 красавіка).

Камедыя адыграла ў творчым лёсе драматурга надзвычайную ролю: раскрыла творчае прызванне, дала накірунак усёй далейшай працы.

## КАБ ЛЮДЗІ НЕ ЖУРЫЛІСЯ (с. 141—206)

Камедыя напісана ў 1957 годзе. Упершыню апублікавана ў часопісе «Полымя» (1958, № 2). На рускай мове друкавалася пад назвай «Сами с усами». Пераклад аўтара: пачынаючы з «Каб людзі не журыліся», А. Макаёнак па парадзе М. Пагодзіна ўсе свае творы на рускую мову перакладаў сам.

Камедыя рыхтавалася да пастаноўкі ў тэатры імя Янкі Купалы. Адначасова вялася праца ў Брэсцкім і іншых драмтэатрах рэспублікі. П'есай зацікавіліся таксама за межамі Беларусі. А потым — і за межамі СССР. Аднак апошні факт аказаўся не на карысць п'есе. Орган беларускіх буржуазных нацыяналістаў, якія акапаліся на Захадзе,— газета «Бацькаўшчына» надрукавала першы, яшчэ не зусім дапрацаваны варыянт камедыі з правакацыйна-тэндэнцыйным каментарыем. Драматург рэзка адмежаваўся ад гэтай бруднай акцыі, выступіўшы ў газеце «За вяртанне на Радзіму» (зараз яна называецца «Голас Радзімы», 1959, № 40) з гнеўнай водпаведдзю. «Было б яшчэ паўбяды ад таго,— пісаў А. Макаёнак,— што рэдакцыя надрукавала п'есу, над якой аўтар сумесна з тэатрам працягваў працаваць, каб палепшыць твор. Мяне абурыла не гэта. Мяне абурылі тыя каментарыі, якія былі выказаны ў некаторых артыкулах газеты. Як у крывым люстэрку, там скажаюць мае ідэйныя творчыя пазіцыі і, несумненна, вырываючы рэплікі з п'есы, адвольна, па-свойму, тэндэнцыйна тлумачаць яе, ні слова не ска-

заўшы пра галоўнае ў камедыі — пра яе партыйную накіраванасць, дэмакратычны характар, ідэйны пафас — душу твора...

У разважаннях рэдакцыі «Бацькаўшчына» аб п'есе перш за ўсё кідаецца ў вочы прафесійная бездапаможнасць, непісьменнасць яе супрацоўнікаў як літаратараў. Мастацкі твор яны чамусьці разглядаюць як фактаграфічны, як дакументальны. Гэта па меншай меры бязглуздна, асабліва ў дачыненні да камедыі, дзе проста немагчыма абысціся без гіпербалізацыі, без камедыйнага пераўвелічэння. Яны нават не ведаюць элементарнай ісціны, што тэатр — гэта не проста люстэрка, а павелічальнае шкло. І калі ў камедыі ўскрываюцца нейкія недахопы з жыцця, то аўтар карыстаецца прыёмам даследчыка-медыка. Калі завёўся нейкі шкодны мікроб, яго выяўляюць пры дапамозе мікраскопа, павялічваючы ў сотні разоў, каб заўважыць яго, а потым весці з ім барацьбу. Так робіць і камедыёграф-сатырык. Ён наўмысна перабольшвае адмоўныя з'явы, каб прыцягнуць увагу грамадскасці і мабілізаваць людзей на барацьбу з гэтай з'явай. Гэтым жа прыёмам карыстаўся і я ў рабоце над сваёй камедыяй».

Вылазка нацыяналістаў не засмуціла: сабакі брэшуць, а караван ідзе. Засмуціла тое, што і ў асяроддзі паплечнікаў па творчасці не ўсе па-сапраўднаму зразумелі сэнс аўтарскай задумы. Знайшліся і такія, хто быў не супраць перастрахавацца: як бы чаго не выйшла. Тым больш што п'еса і сапраўды была вельмі вострай. У выніку цалкам падрыхтаваны купалаўцамі спектакль святла рампы ў 1958 годзе не ўбачыў. Пачаліся шматлікія ўдакладненні, абмеркаванні. Прыёмка спектакля праходзіла вельмі бурна.

Максім Лужанін успамінае: «На прыёме спектакля думкі падзяліліся, і назаўтра было прызначана яшчэ адно абмеркаванне на больш высокім узроўні...

На пасяджэнні адразу стала відаць, што лёс спектакля загадзя вырашаны: тыя, хто да нябёс падымаў пастаноўку ўчора, зараз рэзка крутануліся на восі і не шкадавалі слоў асуджэння, а то і ганьбы» («Мой сусед Макаёнак», артыкул напісаны для зборніка ўспамінаў пра драматурга). У рэшце рэшт у пачатку 1959 года спектакль прынялі. Ролі выконвалі: Б. Платонаў — Кавальчук, Г. Глебаў — Самасееў, С. Бірыла — Гудзееў, У. Дзядзюшка — Церах, З. Стома — Сенька-заіка, В. Тарасаў — Грачоў, Л. Шынко — Аксіння, П. Пекур — Ліхтароў, А. Бараноўскі — дзед і іншыя. Спектакль запомніўся цікавымі акцёрскімі работамі. Асабліва — Б. Платонава, Г. Глебава, У. Дзядзюшкі.

У творчым плане камедыя «Каб людзі не журыліся» цікавая тым, што яна засведчыла імкненне драматурга да па магчымасці больш поўнага раскрыцця характару не толькі галоўных, але і другарадных персанажаў. Засведчыла п'еса і яшчэ адно: узбагачэнне аўтарскай моўнай «узброенасці».

## ЛЯВОНІХА НА АРБІЦЕ (с. 207—256)

Камедыя завершана ў 1960 годзе. Упершыню апублікавана ў часопісе «Полымя» (1961, № 1), урывак з яе змяшчаўся таксама ў газеце «Літаратура і мастацтва» (1961, 13 студзеня). Перакладзена на многія мовы народаў СССР і замежжа. П'еса часта публікавалася ў перыядычным друку, рэпертуарных зборніках, выходзіла асобнымі выданнямі. Упершыню на рускай мове: часопіс «Театр» (1961, № 4); на ўкраінскай (пераклад В. Казачэнкі. Кіеў, 1965).

На латышскую мову пераклад зрабіў А. Баугa, на славацкую (пад назвай «Мая жонка, я і карова») — І. Ізаковіч, на балгарскую — І. Баяджыеў і інш.

Пра камедыю шмат пісалі ў друку. «Гэтым жа паглыбленым раскрыццём важнейшага канфлікта сучаснасці — барацьбы з кар'еpызмам, несумленнасцю, надманам народа — цікавая і новая камедыя беларускага драматурга А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце», адзначаў тэатразнаўца У. Піменаў.— Яна ўся ў ключы сённяшніх нашых думак, планаў і клопатаў. Драматург запомніўся гледачам ужо даўно, калі выступіў са сваёй камедыяй «Выбачайце, калі ласка». Побач з сапраўдным камедыйным даравашем літаратара, які ўмее смяшыць павучальна і выхоўваць з гумарам, у п'есе «Выбачайце, калі ласка» падкупляла асабліва пісьменніцкая прынцыповасць Макаёнка. Таленавіты драматург здолеў ужо некалькі год назад сказаць пра страшную язву ашуканства і пра тое, што толькі тады, калі калгаснікі адчуваюць сябе поўнымі, ініцыятыўнымі гаспадарамі, разумеюць, што кожны з іх асабіста адказны за ўсё, што адбываецца на калгаснай зямлі, толькі тады сыдуць з іх дарогі прыстасаванцы, спекулянты, ашуканцы.

У новай камедыі Макаёнак змагаецца горача і па-грамадзянску палымяна з дробнымі ўласнікамі, з псіхалогіяй накапляльніцтва, з рабскай залежнасцю ад сваёй і індывідуальнай гаспадаркі» («Дружба народов», 1961, № 4, с. 226).

Большасць даследчыкаў далучала «Лявоніху на арбіце» да прынцыповых удач савецкай камедыяграфіі, адзначала актуальнасць яе праблематыкі, дакладнасць сатырычнага абстрэлу сацыяльных недахопаў, майстэрства псіхалагічнай характарыстыкі вобразаў. «Вобраз Глуздакова,— пісаў у артыкуле «Удачы і пралікі» А. Сімукоў,— з'яўляецца прынцыповай удачай А. Макаёнка. Ён напісаны кідка, сатырычна дакладна. Гэта менавіта вобраз, г. зн. мастацкае абагачэнне рысаў, якія яшчэ сустракаюцца ў нашым жыцці. Сцэна сустрэчы Глуздакова з сакратаром абкома, калі Глуздакоў спрабуе здагадацца, чаго ж хоча начальства, не толькі высокакамедыйная, яна амаль трагічная — і гэта вельмі правільна. З кожным днём усё цяжэй і цяжэй робіцца існаванне глуздаковых у нашым грамадстве, хаця яны працягваюць наносіць нам немалую шкоду.

Сацыяльная небяспека глуздаковых падкрэслена фігурай яго намочніка Цесакова. Мы бачым, што глуздаковы ствараюць да сябе падобных, што іх паспяхова пераймаюць» («Советская культура», 1961, 26 верасня).

Блізкай да У. Піменава і А. Сімукова была пазіцыя крытыка Д. Старыкава, які ў асноўным вельмі прыхільна выказаўся пра мастацкія вартасці «Лявоніхі на арбіце». Аднак яму не ва ўсім спадабалася аўтарская пазіцыя пры адлюстраванні падзённых праблем сучаснасці. Гэта, па думку крытыка, прывяло да некаторых творчых пеpакосаў.

«Умоўнасць, дакладней, небезумоўнасць, неабавязковасць адносін паміж зместам п'есы і канкрэтнай яе формай, у якой яна выступае ў п'есе, адбілася адпаведна і на характарах — яны таксама выглядаюць адцягнена, некапкрэтна, алегарычна. Заканамернасць сённяшняга руху да будучага спасцігнута толькі ў агульных рысах — так тлумачыцца парадаксальнае суаднясенне таго, што канфлікт будучага выглядае ў камедыі А. Макаёнка хутчэй як мінулае.

Думаецца, што з гэтым карэнным недахопам звязаны і сам жанр камедыі «Лявоніха на арбіце»: адцягненасць, недастатковая індывідуальнасць характараў як бы матывуецца ўмоўнай камедыйнасцю персанажаў-масак; драматург прыкрывае прарэхі і стракатымі, яркімі лапікамі народнага фарсу імкнецца забавіць гледача то прадстаўленнем сватаўства, то ігрой вакол выкрыцця, то заляцаннямі каварнай суседкі-ўдовушкі і звязанымі з гэтым непаразуменнямі... («Театр», 1961, № 10, с. 74).

Папракаючы драматурга за абстрактнасць, «небезумоўнасць» перадачы мастацкімі сродкамі жыццёвых рэалій, крытык і сам міжвольна зафальшывіў неканкрэтнасцю. Прынамсі, большасць яго папрокаў не знаходзілі абгрунтавання ў непасрэдным змесце п'есы. Пра вытокі яго незадавальнення можна, вядома, здагадацца, хаця ў артыкуле аб гэтым гаворыцца цьмяна, думка з цяжкасцю выкараскваецца з-пад слоўных напластаванняў. Больш канкрэтна сфармулявала свае прэтэнзіі крытык Н. Ігнацьева: «Выступаючы з дакладнай і плённай ідэяй барацьбы з прыватнай уласнасцю, з фетышызацыяй «свайго дома», «сваёй сядзібы», «сваёй гаспадаркі», драматург вуснамі станоўчых персанажаў развівае наўрад ці яшчэ паўсюдна ажыццявімую праграму. Справядлівы пратэст супраць дробнаўласніцтва выліваецца ў патрабаванні цалкам ліквідаваць прысядзібныя ўчасткі, абагульніць усіх кароў. Магчыма, што калгас, пра які ідзе гаворка ў п'есе, гатовы да такіх мерапрыемстваў. Аднак жыццё паказвае, што ў шырокім маштабе яшчэ рана гаварыць пра гэта, яшчэ не прыйшоў час для падобных пераўтварэнняў» («Вопросы литературы», 1962, № 4, с. 13).

Не цяжка заўважыць, што непаразуменні паміж драматургам і крытыкамі абумоўлены жаданнем апошніх залішне наўпрост вывяраць верагоднасную абгрунтаванасць мастацкага твора, а таксама сацыяльную плённасць аўтарскай пазіцыі жыццёвай праўдай, канкрэтнымі праблемамі актуальнай рэчаіснасці. Самае цікавае, што менавіта такой праверкі п'есы А. Макаёнка не баяцца, бо ўсе без выключэння напісаны па непасрэднаму грамадскаму заказу часу, заўсёды вызначаліся паслядоўнай праўдзівасцю адлюстравання праблем сучаснасці. Іншая справа, што драматург звяртаўся да канкрэтнага матэрыялу як мастак, а не газетчык-хранікёр, таму яго апанентам варта было ацэньваць «Лявоніху на арбіце» па мастацкіх законах. Зрэшты, некаторыя папрокі адпалі б самі па сабе, калі б крытыкі не абмінулі ўвагай аўтарскае ўказанне аб часе дзеі: у суседзяў — учора, у нас — сёння, у вас — заўтра.

Больш роўныя адносіны склаліся да «Лявоніхі на арбіце» ў беларускім літаратуразнаўстве і крытыцы. Праўда, рэзка разышліся думкі ў вытлумачэнні вобраза Лявона. А. Сабалеўскі рашуча адмоўна паставіўся да жыццёвай пазіцыі героя, убачыўшы ў ім закаранелага ўласніка, эгаіста, які дбае толькі пра асабістую выгаду. З падобнай трактоўкай не згаджаўся В. Каваленка, справядліва адзначаючы працавітасць героя, рацыяналістычнасць яго поглядаў на жыццё і г. д.

Сам драматург у гутарцы з аўтарам гэтых радкоў гаварыў: «Не ведаю, ці правамерны ў адносінах да Лявона безапеляцыйны прыгавор: адмоўны, станоўчы. Адно магу сказаць: пісаў яго са сваёй маці, а яна жыццё ведала і многія сельскія праблемы разумела надзіва глыбока». Прывядзём яшчэ адно аўтарскае прызнанне.

«Я думаю, што камедыёграфы павінны любіць сваіх адмоўных персанажаў. Парадокс? Як гэта — любіць хабарнікаў, любіць кан-

серватараў?.. І тым не менш толькі так і можна напісаць аб'ёмны, жывы сатырычны вобраз...

У гэтым сэнсе я сам прайшоў нялёгкі творчы шлях. Даўно, калі працаваў над камедыяй «Выбачайце, калі ласка», яшчэ не думалася пра гэта: Каліबераў быў кепскі, і толькі. Я не спачуваў яму, я не любіў яго, я любіў іншых у гэтай п'есе — калгаснікаў, затурканых з-за тупога самавольства ашуканцаў. І, як відаць, гэта паўплывала на саму мастацкую якасць п'есы. Некаторыя яе характары, у прыватнасці характар Каліберава, аказаліся дастаткова плоскімі, цесна звязанымі з часам, які ўкладваўся ў гэты час амаль без астатку...

І пагэтаму іншыя мае п'есы, пачынаючы хоць бы з «Лявоніхі на арбіце», былі для мяне пэўнай школай не аднаго гневу, але і любві. Паражаючы Лявона «грознымі» стрэламі сваіх выкрыццяў, я ў той жа час імкнуўся яму на дапамогу, ранячы яго ўласнай рукой, я ўласнай жа рукой выціраў кроў з яго ран» («Литературное обозрение», 1979, № 1, с. 90).

Сцэнічны лёс камедыі быў шчаслівы з самага пачатку. Многія тэатры Савецкага Саюза амаль адначасова пачалі працу над яе пастаноўкай. Прэм'ера ў тэатры імя Янкі Купалы (рэжысёр Б. Эрын) супала з палётам Ю. Гагарына ў космас (гл. прадмову да гэтага Збору твораў), і гэта выклікала ў гледачоў дадатковыя радасныя асацыяцыі. Рэцэнзент так выразіў настроі публікі: «На афішах з'явіліся паведамленні аб прэм'еры. Шырокія масы гледача сустрэлі «Лявоніху на арбіце» прыязна, скажам больш — бурна. «Спектакль выйшаў на арбіту» («Звязда», 1961, 30 мая).

Спектакль купалаўцаў атрымаў прызнанне не толькі ў гледача, але і ў крытыкі, якая вылучыла Б. Платонава ў ролі Лявона, Г. Глебава — Максіма, П. Малчанава — Глуздакова, У. Кудрэвіча — Цесакова, Л. Рахленкі — Мікалая Сяргеевіча і інш. Асаблівы поспех выпаў на долю выканаўцы ролі Лявоніхі — зараз народнай артысткі СССР Г. Макаравай. «У яе выкананні,— пісаў У. Піменаў,— ярка загучала вялікая праўда жыцця, на сцэне жыве наша сучасніца, захопленая вялікімі грамадскімі інтарэсамі, чалавек вялікай прывабнасці, сапраўднай народнай прастаты» («Правда», 1961, 27 лістапада).

Шмат цікавых пастановак «Лявоніхі на арбіце» рэалізавана на сцэнах тэатраў братніх рэспублік (гл. А. Соболевский «Белорусская драматургия в театрах народов СССР». Мн., 1972, с. 257—317). Напрыклад, крытыка адзначала як значнае дасягненне спектакль ЦТСА з Л. Добржанскай і П. Вішняковым у галоўных ролях. Праўда, крытык Н. Эльяш (гл. «Труд», 1962, 7 студзеня) і часткова К. Шчарбакоў («Театральная жизнь», 1962, № 3) не пагадзіліся з трактоўкай вобраза Лявона акцёрам П. Вішняковым і рэжысёрам Б. Львовым. Разам з тым яны выказалі некаторыя папрокі ў адрас самой камедыі накшталт тых, якія рабілі крытыкі Д. Старыкаў і Н. Ігнацьева. З імі не пагадзілася тэатразнаўца І. Вішнеўская. Яна справядліва лічыць, што да камедый А. Макаёнка патрэбен іншы падыход. Перш-наперш, іх трэба разумець.

«І разумець п'есы Макаёнка — гэта значыць разумець не толькі іх сюжэт, не толькі іх ідэі, але яшчэ і той нябачны, як бы разлітый ў самой атмасферы камедый іранізм, тую лёгкую насмешку, якія адрозніваюць сам талент гэтага пісьменніка. Чытаць камедыі Макаёнка, не вычытваючы ў іх гарэзлівасці, не заўважаючы хітраватай усмешкі аўтара,— значыць многае губляць у гэтых каме-

дыях, пераводзіць іх у іншую, абсалютна бытавую плоскасць. А нярэдка менавіта так і адбываецца, калі ставяцца камедыі Макаёнка, калі пішуцца на іх рэцэнзіі...

Так можна звесці на нішто любую іронію, так лёгка з гарэзлівай, хітравата-іранічнай камедыі зрабіць нудную, сярэднестатычную п'есу. І добра, што сам Макаёнак не так ужо сур'ёзна прыслухоўваўся да падобных рэкамендацый, ён ішоў сваім шляхам, прарываючыся да гратэску, да фантасмагорыі, да народнага лубка, да буфоннага народнага відовішча» (И. Вишневская. «Комедия на орбите». М., 1979, с. 156—157).

Вельмі шырока «Лявоніха на арбіце» ставілася і ставіцца самадзейнымі тэатральнымі калектывамі.

## ЗАЦЮКАНЫ АПОСТАЛ (с. 257—310)

Камедыя завершана ў 1969 годзе. Упершыню апублікавана ў часопісе «Полымя» (1969, № 10). У перакладзе на рускую мову спачатку друкавалася ў часопісе «Театр» (1971, № 3), потым выходзіла асобнымі выданнямі, у зборніках. Шырока публікавалася на мовах народаў СССР і за мяжой.

Задума падобнай п'есы турбавала драматурга яшчэ з канца 50-х гадоў. Але прайшло звыш дзесяцігоддзя, пакуль яна акрэслілася ў стройную сістэму сюжэтных узаемадачыненняў, матэрыялізавалася ў канкрэтных мастацкіх вобразах. «Зацюканы апостал» — вынік вялізнай мэтанакіраванай працы, плён пераадолення творчых традыцый, уласнага папярэдняга вопыту. Аб успрыняцці п'есы спецыялістамі ўспамінае І. Вішнеўская. На ўсесаюзным семінары драматургаў у Ялце праводзілася звычнае знаёмства з новымі п'есамі. Паслухаць А. Макаёнка прыйшлі В. Розаў, Л. Зорын, А. Анастасьеў і аўтар успамінаў. Усё выглядала будзённа, прывычна.

«Аднак незвычайнае пачалося адразу ж, як толькі Макаёнак прачытаў назву: «Зацюканы апостал». Апостал — раптам зацюканы. Побач паўсталі народнае слоўца і высокае рамантычнае вызначэнне. Успомніліся і «Паэма пра сякеру» і «Аптымістычная трагедыя» — назвы, якія сталі новым словам у эстэтыцы, загалоўкі, якія вызначылі новыя жанравыя ўтварэнні ў савецкай драматургіі.

Незвычайнае працягвалася і далей. Макаёнак, той самы Макаёнак, які толькі што расказваў забаўныя гісторыі з беларускага побыту, чытаў п'есу высокага філасофскага накалу, п'есу буйных светапоглядных абагульненняў. І яшчэ раней, чым да нас дайшоў сэнс таго, што задумаў сатырык Макаёнак, усе мы ўразіліся таму, колькі ж прачытаў ён, у якой напружанай інтэлектуальнай атмасферы жыў, як цесна судакрануўся з інтэрнацыянальнай праблематыкай, як не пабаяўся за тварам чалавека разглядзець твар чалавецтва.

Незвычайнае ў гэтым «ялцінскім» чытанні заключалася і ў тым, што мы прысутнічалі пры звычайна нябачным пераломе, калі пісьменнік, які авалодаў у дасканаласці аднымі мастацкімі сродкамі, неяк крута пераходзіць да другіх, мяняе мастацкі курс, набірае творчую вышыню. Макаёнак чытаў, а ў гэты час адбывалася нешта значнае — савецкі тэатр абагачаўся новым тыпам камедыі...» (И. Вишневская. Комедия на орбите, с. 179—180).

Сапраўды, савецкая драматургія папоўнілася наватарскім творам. Поспеху драматург дасягнуў перш за ўсё таму, што адмовіў-

ся ад прывычных творчых канонаў. Яго п'еса ўзнікла на сумежжы строгага рэалізму і неўтаймаванай фантазіі, нарубежжы камедыі і трагедыі. Гэтае спалучэнне дало выдатны плён, што выразна выяўляецца пры параўнанні «Зацюканага апостала» і «На досвітку». Прысвечаны яны адной тэматыцы, і там і тут рэзка крытыкуецца буржуазны лад жыцця, пракламуецца непазбежнасць ломкі капіталістычных сацыяльных узаемаадносін. Аднак у пазнейшай п'есе драматург адмаўляецца ад плоскаснай публіцыстыкі, яго выяўленчая палітра нашмат багацейшая. Памфлетную бескампраміснасць ён надзвычай латва падсвечваў лятучай іроніяй, сур'ёзнейшыя філасофскія пасажы прыкрываў вэлюмам гумарыстычнай адноснасці. Нашмат багацейшым стаў дыялог — афарыстычны, ёмісты, насычаны падтэкстам.

Зусім заканамерна, што ў нашай крытыцы п'еса заслужыла аднадушна станоўчую ацэнку. «Зацюканы апостал»,— пісаў Я. Усікаў,— вынік плённых пошукаў драматурга, якому ўдалося стварыць такую неардынарную, сапраўды наватарскую п'есу, у якой вельмі ўдала спалучыліся элементы публіцыстычнай, філасофскай, палітычнай камедыі» (Я. Усікаў. Андрэй Макаёнак. Нарыс жыцця і творчасці. Мн.: 1984, с. 89). Многа ўхвальных слоў у адрас камедыі выказана ў працах А. Сабалеўскага, М. Шаўлоўскай, Л. Зарэмбы і іншых даследчыкаў. Усе яны вельмі дружна адзначалі высокі мастацкі ўзровень трагікамедыі, наватарскую смеласць яе аўтара, падкрэслівалі сацыяльную важкасць, ідэйна-палітычную актуальнасць твора.

«Зацюканы апостал»,— пісаў Ю. Пшыркоў,— цікавая спроба стварэння камедыі філасофскага плана. Дзеючыя асобы Тата, Мама, Сын, Дачка, Дзед — гэта вобразы-алегорыі. У іх поглядах і жыццёвых уяўленнях увасоблены філасофія і мараль сучаснага буржуазнага мяшчанскага быту. Драматург выкрывае цынізм і бесчалавечнасць духоўных асноў капіталістычнага ладу» «Звязда», 1970. 12 лістапада).

Высокую ацэнку далі п'есе многія калегі А. Макаёнка. Асабліва катэгарычна выказаўся М. Матукоўскі:

«Бясспрэчна, вяршыняй усяго зробленага ім з'яўляецца «Зацюканы апостал».

Адкрываю наўгад першую старонку і адразу ж трапляю ў макаёнкаўскую стыхію: «Вы ад мяне патрабуеце праўды. А мне ад вас? Нельга? Мне таксама патрэбна праўда. Мне яна больш патрэбна! Больш, як вам ад мяне! Я — маленькі, і мая хлусня маленькая. А вы вялікія. І ваша хлусня — аграмадная!..»

Вось у гэтым увесь Макаёнак — уздыблены, разгневаны, з расхрыстанай душой, з акрываўленым сэрцам» («Літаратура і мастацтва», 1980, 14 лістапада).

Праўда, асабліва на самым пачатку, да повага твора А. Макаёнка ў асяроддзі тэатральных працаўнікоў склалася пэўная апазіцыя. Ацэньваючы камедыю «Зацюканы апостал» традыцыйнымі крытэрыямі, апаненты проста многае не зразумелі ў п'есе. Напрыклад, паглядзеўшы не вельмі дасканалую сцэнічную інтэрпрэтацыю трагікамедыі ў Харкаўскім рускім драматычным тэатры імя А. Пушкіна, рэжысёр А. Скібнеўскі з расчараваннем пісаў:

«Спектакль навёў мяне на думку, магчыма, спрэчную і ерэтычную, калі ўлічыць папулярнасць гэтай п'есы і рэпутацыю А. Макаёнка. Але я мушу выказаць яе ўголас. Разам з тэатрам адказнасць за няпоўны поспех нясе і драматург, якога я вельмі шаную.

На жаль, мне не давялося паглядзець «Зацюканага апостала» на сцэнах іншых тэатраў. Як рэжысёр я не адзін раз перачытаў п'есу і не знайшоў у ёй сапраўды макаёнкаўскіх карэнняў, заглыбленых у рэальнае жыццё. А гэта ж заўсёды жывіць і вызначае магістральны кірунак яго творчасці. І сюжэт, і характары здаюцца штучна зададзенымі ў гэтай п'есе. Ці не пагнаўся ў дадзеным выпадку А. Макаёнак за модай, якая часам ставіць за мэту эпаціраваць гледача, хавае за падтэкстам розныя намёкі і прэтэнзіі на філасафічную глыбіню?» («Літаратура і мастацтва», 1971, 24 снежня).

Не цяжка зразумець вытокі непрыняцця п'есы. А. Скібнеўскі, які добра ведаў творчасць А. Макаёнка, пры знаёмстве з новай яго камедыяй чакаў сустрэць нешта накшталт «Выбачайце, калі ласка» або «Лявоніхі на арбіце». Расчараваўшыся ў сваіх чаканнях, расчараваўся і ў самім творы. Як жа, драматург адышоў ад свайго магістральнага кірунку творчасці! Прыкладна так разважалі і нашы беларускія рэжысёры, якія доўга не рашаліся на пастаноўку «непрывычнай» п'есы А. Макаёнка. Давялося драматургу прапанаваць яе маскоўскім тэатрам. Прэм'ера ў Маскоўскім тэатры сатыры адбылася 9 снежня 1970 года. Рэжысёр Я. Радамысленскі стварыў яркі палітычны спектакль, спектакль-памфлет, які бязлітасна выкрываў бесчалавечнасць капіталістычнай маралі, буржуазнага ладу жыцця. Разам з тым сатырычная скіраванасць спектакля была шырэйшай: у ім прачытвалася рэзкая крытыка мяшчанства ўвогуле, праглядвалася паслядоўнае непрыняцце прыстасавальніцтва, філісцерства, згодніцтва. Выдатнае ўвасабленне вобраза Сына ўдалося маладому акцёру А. Лявінскаму. Тэатральная крытыка адзначала як несумненныя акцёрскія ўдачы выкананне роляў Мамы З. Зялінскай, Дачкі — Т. Мурынай, Таты — З. Высакоўскім. Пра «Зацюканага апостала» ў Тэатры сатыры пісалі шмат і заўсёды ўхвальна. Працу калектыву называлі творчай перамогай. Поўнай, безумоўнай, нават сенсацыйнай.

«Пра важныя пытанні часу,— пісала І. Вішнеўская,— гаворыць і другі спектакль Тэатра сатыры — «Зацюканы апостал» А. Макаёнка (рэжысёр Я. Радамысленскі). Аб страшным гіпнозе мілітарызму, які не раптам распазнаецца ў дурманячых лозунгах нібыта мірнай палітыкі сучаснага капіталізму, і аб тым, што чалавецтва прайшло ўжо ўсе стадыі захаплення рознымі кумірамі, яно больш не верыць кумірам, хоча цвярозай рэальнасці міру і асабістай бяспекі. Спектакль гэты складаны і філасофскі напоўнены («Театр», 1971, № 10, с. 23).

Крытык Абалкін убачыў у новай працы тэатра вялікія творчыя перспектывы.

«Тэатральная крытыка неяк рэдка ўспамінае пра наступальную прыроду нашай драматургіі. А ў дадзеным выпадку аб гэтым нельга не сказаць. Андрэй Макаёнак у сваёй трагікамедыі палымяна, таленавіта і разумна выкрывае бесперспектыўнасць ладу жыцця праслаўтага «свабоднага свету...».

Сустрэча з мастаком такой актыўнай творчасці не можа, як здаецца, застацца бясследнай у жыцці Тэатра сатыры. Яна адкрывае перад яго творчым калектывам магчымасці больш вострай, наступальнай накіраванасці рэпертуару, больш настойлівага з'яднання вакол тэатра баявых нашых сатырыкаў. Сатыра — зброя сур'ёзная, і варта знаходзіць мэты, дастойныя яго прымянення.

Узяўшыся за пастаноўку «Зацюканага апостала», рэжысёр Яўген Радамысленскі дастаткова дакладна ўяўляў сабе характар і

сэнс, стылёвыя асаблівасці ўвасаблення гэтай п'есы» (Н. Абалкин. Театральная хроника. М., 1975, с. 284).

«Зацюканы апостал» надоўга затрымаўся ў рэпертуары Маскоўскага тэатра сатыры. У ліпені 1985 года адбыўся 600-ты спектакль. Толькі славуты «Клоп» У. Маякоўскага даўжэй за яго знаходзіцца на афішах гэтага праслаўленага савецкага тэатра.

15 сакавіка 1971 года адбылася нарэшце прэм'ера і ў тэатры імя Янкі Купалы. Да яе старанна, а таму доўга рыхтаваліся. І гэта дало свае вынікі: пастаноўка «Зацюканага апостала» ў тэатры імя Янкі Купалы вылілася ў сапраўдны трыумф, у выдатную падзею тэатральнага жыцця рэспублікі. Малады рэжысёр Б. Луцэнка, артысты А. Мазлоўскі (Сын), І. Дашкоўская (Дачка), А. Міланаў (Тата), З. Браварская (Мама), С. Бірыла (Дзед) здолелі глыбока пранікнуць у мастацкую сутнасць твора, зразумець адметнейшыя нюансы аўтарскай задумы. А п'еса была надзвычай складанай. «У параўнанні са стылістыкай ранейшых твораў Макаёнка,— сцвярджаў крытык Г. Колас,— да кантэксту тут — абвостраная ўвага. Тут важна не толькі тое, што сказана і як. Тут важна — чаму сказана, дзеля чаго».

Гэта якасць п'есы не засталася па-за ўвагай рэжысёра Б. Луцэнкі. Разам з мастаком Б. Герлаванам у цэнтр падзей ён уводзіць фігуру радэнаўскага Мысліцеля. Разам з кампазітарам А. Янчанкам кладзе на ўвесь спектакль дакладна распісаную партытуру з напышліва-пустых «абноскаў» салонных танга, з нейкіх напаўжывёльных рыкаў-прыдыханняў са з'едлівага посвісту, а пад усім гэтым — жалобны енк празрыстай мелодыі — лейтматывы вундэркінда. Разам з выканаўцамі ператварае адказ на рэпліку па ходзе дзеяння ў філасафічную выснову, маналог — у светапоглядную споведзь...

З наступальнай прынцыповасцю стваральнікі спектакля даюць рашучы бой напаўцывілізацыі — напаўдзікунству буржуазнага грамадства з яго хлуснёй і культам сілы, з голадам і войнамі, з «амаль свабоднай» і «амаль што дэмакратыяй» («Літаратура і мастацтва», 1971, 14 мая).

Пастаноўкі «Зацюканага апостала» рэжысёрамі Я. Радамысленскім і Б. Луцэнкам бадай што самыя ўдалыя, хоць ставілі п'есу вельмі шырока, у тым ліку і за мяжой: у Англіі, Іспаніі, ФРГ і інш.

Напісаннем «Зацюканага апостала» пачаўся новы этап у творчасці А. Макаёнка. Яго выяўленчая «палітра» ўзбагацілася прынцыпова новымі мастацкімі сродкамі, узмацнеў мысліцельны аспект у сюжэтна-фабульнай аснове п'ес.

## ТРЫБУНАЛ (с. 311—349)

Трагікамедыя напісана ў 1970 годзе. Упершыню надрукавана ў газеце «Звязда» (1970, 10, 11, 15, 16, 17 верасня, друкавалася таксама ў часопісе «Полымя» (1970, № 10). Неаднаразова публікавалася на рускай мове, але спачатку — у часопісе «Неман» (1971, № 6).

Пра гісторыю стварэння «Трыбунала» драматург расказваў наступнае: «Мяне доўгі час стрымлівала праблема жанру. Хацелася захаваць у п'есе гераічны, суровы пафас Вялікай Айчыннай вайны і адначасова застацца верным камедыйнаму жанру. Не здраджваць яму. Доўга не знаходзіў матэрыялу для сюжэта. Памятаю, заканчваў працу над «Зацюканым апосталам», рабіў апошнія ўдакладненні. І, як заўсёды, наступіў момант задавальнення — калі ўсё

выплюхнуў, што хвалявала, што прыводзіла ў азарт. Было гэта зімою, калі і ночы доўгія, а дні кароткія, па двары — сцюжа, выйсці няма куды... І вось тады прыйшоў на памяць эпізод ваеннага часу. Беларускія партызаны ў адной вёсцы ў час акупацыі вырашылі паставіць старастам свайго чалавека — патрэбна была сувязь з падполлем райцэнтра. Знайшлі старога, да якога адносіліся з даверам. Угаварылі. Укаранілі... А праз двое сутак з'яўляецца ён да партызан і просіць: «Браткі, больш туды не пайду. Збілі мяне дома жонка і дочка. Прымушаюць ісці і адмовіцца ад пасады». Выпадак гэты ўспомніўся мне таму, што там быў элемент гумару: новаспечанага старасту свае ж, родныя, жонка і дзеці, збілі, а стары не мог адкрыць свайго задання, таму што справа патрабавала строгай канспірацыі. Але ў гэтай жа сітуацыі закладзен і трагічны пачатак: сумленны чалавек можа загінуць ад рук сваіх жа грамадзян, якія не ведаюць тайну, ён рызыкуе жыццём. Так набыла контуры спалучэнне трагічнага і камічнага — трагікамедыйная аснова будучай п'есы. Хацеў запісаць гэты эпізод для памяці, а працаваў да раніцы» («Театральная жизнь», 1982, № 4, с. 21).

А наогул гэту п'есу драматург начарна напісаў за рэкордна кароткі тэрмін — за трое сутак. Потым былі, вядома, многія ўдакладненні, папраўкі, аднак датычыліся яны толькі нейкіх прыватных момантаў. Асноўныя ж калізіі, мастацкія рашэнні аўтар абараняў заўзята, нават зацята. Цікава, што «Трыбунал», які сёння па праву адносіцца да самых папулярных твораў савецкай драматургіі, спачатку ўспрыняты быў надзіва холадна. Многія даследчыкі палічылі эстэтычна неапраўданым пераплящэнне аўтарам гераічных і камічных пачаткаў. Толькі праз тры-чатыры гады пачалі з'яўляцца артыкулы, у якіх «Трыбунал» аналізаваўся з адпаведным разуменнем і грунтоўнасцю. Выказана нямала цікавых меркаванняў і вывадаў.

«У п'есе Андрэя Макаёнка «Трыбунал»,— пісаў крытык Л. Смірноў,— злучаны абедзве разнавіднасці трагікамедыі. З аднаго боку, гэта традыцыйны фарс на фальклорна-этнаграфічнай аснове, з грубым, «зямным» гумарам, з вострахарактарнымі народнымі персанажамі. З другога — гэта трагедыя канкрэтнай гістарычнай падзеі: фашысцкая акупацыя Беларусі. Два віды сплаўляюцца ў цалкам арганічны вобраз: пакуль народ смяецца, ён не толькі жывы, але і не пераможаны,— так можна вытлумачваць агульны сэнс трагікамедыі» («Театр», 1972, № 6, с. 42).

Літаратуразнаўца Якуб Усікаў спрабуе вызначыць жанравую прыналежнасць п'есы: «Цяжка, надзвычай складана сродкамі камедыйнага мастацтва стварыць гераічны характар. Да гонару Андрэя Макаёнка, ён паспяхова справіўся з найскладанейшай, шмат у чым рызыкоўнай задачай: гераічны характар у камедыі «Трыбунал» атрымаўся, і выпісаны ён з бляскам. Такое ў беларускай камедыяграфіі мы бачым упершыню. Вось чаму ёсць усе падставы назваць «Трыбунал» Андрэя Макаёнка першай у Беларусі гераічнай камедыяй» («Літаратура і мастацтва», 1973, 7 снежня).

Прыкладна такія ж погляды на «Трыбунал» выявіла крытык А. Дубінская:

«Вайна. Немцы занялі вёску. Па-звярынаму распраўляюцца з людзьмі... Здавалася б, адкуль тут узяцца смеху? Але ўспомнім неўтаймоўнага Васіля Цёркіна, хлёсткія народныя частушкі і карыкатуры на фашыстаў. Гумар, уменне завязаць гора вяровачкай, жыццялюбства — грунтоўныя рысы характару савецкага чалавека.

Яны дапамаглі народу выстаяць у самыя цяжкія дні. Уражальныя кантрасты драматычнага і камедыйнага, знешне смешнага і сапраўды гераічнага ў «Трыбунале». Усё гэта стварае вялікае эмацыянальнае напружанне, кідкую, вострую выразнасць» («Гудок», 1973, 28 кастрычніка).

Шмат крытычных коп'яў было зламана вакол пытання аб верагоднасці, жыццёвасці асноўнай калізіі твора. Знаходзілася нямала скептыкаў, якія сумняваліся ў рэальнасці, нават гіпатэтычнай магчымасці падобнага трыбунала. Аднак ім пярэчылі канкрэтныя факты мінулай вайны. Аднакласнік драматурга У. Сцепчанка згадваў: «Звяртаючыся да «Трыбунала», я не магу не прыгадаць спрэчку, якую пачуў аднойчы пасля спектакля па гэтай п'есе. Адзін малады чалавек горача даводзіў сваім таварышам, што неверагодна, каб сям'я самасудам магла прыгаварыць роднага бацьку да пакарання смерцю. Спрэчка была настолькі заўзятая, што прыцягнула не толькі маю ўвагу. Да маладых людзей падышоў чалавек на пратэзе і з ціхай усмешкай сказаў: «Гэта было ў нашай вёсцы». Мы разгаварыліся. Не, не гэта, а такое было ў іх вёсцы. А. Макаёнак дакладна вызначыў месца дзеяння — Гомельшчына, а мой субяседнік родам быў з Полаччыны. Але факт здаўся мне вельмі паказальным: гераізм савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны быў паўсюдным, і драматург зрабіў добрую справу, напісаўшы п'есу пра тое, што не павінна забыцца» («Звязда», 1973, 25 кастрычніка).

Драматург неаднойчы ўспамінаў, што завяршаў «Трыбунал» у поўнай перакананасці, што сцэнічны яго лёс будзе шчаслівым. У канчатковым выніку так яно і сталася, аднак напачатку ўзнікла шмат непаразуменняў. Прынамсі, прайшло нямала часу, пакуль знайшоўся рэжысёр, які рызыкнуў бы паставіць п'есу. Прычым паўтарылася гісторыя з «Зацюканым апосталам»: да беларускага гледача «Трыбунал» ішоў праз Маскву. Праўда, паралельна з Маскоўскім тэатрам на Малой Броннай, дзе ўпершыню пастаўлена трагікамедыя, рэпетыцыі вяліся Магілёўскім абласным тэатрам драмы і камедыі ў Бабруйску, аднак здача спектакля бабруйчанамі па розных прычынах некалькі разоў адкладвалася. Поспех прэм'ерных спектакляў у Маскве садзейнічаў павышэнню цікавасці да «Трыбунала». За адносна невялікі тэрмін п'есу беларускага драматурга ўключылі ў свой рэпертуар звыш 160 тэатраў, не лічачы самадзейных калектываў.

Спектакль Маскоўскага тэатра на Малой Броннай (рэжысёр А. Дунаеў) крытыка аднесла да сур'ёзных творчых удач сезона. Асабліва вылучалася работа Л. Дурава над вобразам Цярэшкі Калабка. «З выкапаўцаў вясёлую, жыццярадасную стыхію народнага лубка, своеасаблівасць яго трапнай рэалістычнасці найбольш жыва і тонка адчуў артыст Дураў у ролі калгаснага пастуха Цярэшкі. На сцэне жыве абаяльны народны характар, які захаваў у надзвычай драматычных абставінах цалкам натуральную хітравата-свавольную нязмушанасць паводзін. У акцёра ёсць тая сіла пераканаўчасці, якая не дае ні малейшых падстаў сумнявацца ў жыццёвасці, а разам з тым і ў мастацкай праўдзівасці характару...» (Н. Абалкин. Театральная хроника, с. 286).

Шмат цікавых спектакляў па «Трыбуналу» ажыццявілі беларускія тэатральныя калектывы. Адным з першых — тэатр імя Якуба Коласа (рэжысёр С. Казіміроўскі). Надзвычай арганічна праўдзіва ўвасабляў вобраз Цярэшкі народны артыст БССР І. Мату-

севіч. На добрым прафесійным узроўні выконвалі свае ролі З. Канапелька (Паліна), Я. Буракоў (камендант), Г. Бальчэўская (Надзя), Л. Трушко (Сырадоеў) і іншыя. І хоць спектакль коласаўцаў меў некаторыя мастацкія недахопы (залішняя акцэнтацыя на фарсавых момантах, спрашчэнне паасобных псіхалагічных хадоў), аднак поспехам у гледачоў ён карыстаўся поўным, бясспрэчным. Яшчэ большы поспех выпаў на долю «Трыбунала» ў тэатры імя Янкі Купалы. Калектыў тэатра (рэжысёр В. Раеўскі, артысты Г. Макарава — Паліна, Г. Аўсяннікаў — Цярэшка Калабок, Л. Давідовіч — Галя, В. Белахвосцік — Сырадоеў, Н. Піскарова — Надзя, П. Дубашынскі — Камендант, А. Мазлоўскі — Валодзька, З. Зубкова — Зіна і іншыя ўдзельнікі спектакля) з вялікай адказнасцю паставіліся да працы над п'есай. У выніку гэтага пастаноўка «Трыбунала» купалаўцамі аказалася ці не самай удалай. Крытыка надзвычай ухвальна пісала пра яе, звычайна вылучаючы Г. Макараву і Г. Аўсяннікава ў галоўных ролях.

«Спектакль карыстаецца вялікім поспехам,— зазначаў рэжысёр Беларускага радыё І. Лісвеўскі.— Яго вызначае і драматургія, і рэжысёрская вырашэнне, і дэкарацыйны фон з музыкай. Але часцей за ўсё зала апладзіруе двум выканаўцам: Генадзю Аўсяннікаву і Галіне Макаравай. Яны дэманструюць арганічнае і апраўданае ўнутраным жыццём персанажаў майстэрства высокага класа.

Каб пераканацца ў гэтым, спытайцеся ў саміх сябе: ці не здавалася вам, што іншымі Паліну і Цярэшку амаль немагчыма ўявіць сабе, што гэтыя ролі выглядаюць напісанымі спецыяльна для гэтых выканаўцаў. А калі такое адчуванне ў гледача з'яўляецца, гэта азначае выдатную творчую перамогу артыстаў рэалістычнага сцэнічнага мастацтва» («Літаратура і мастацтва», 1974, 15 лістапада).

Спектакль купалаўцаў высока ацэнены і ва ўсесаюзным перыядычным друку. У многіх рэцэнзіях і артыкулах падкрэслівалася сувязь п'есы з народнай філасофіяй, этыкай, указвалася на яе яркі нацыянальны каларыт.

«Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы,— пісала крытык Н. Барысава,— паказаў на гастролях у Маскве п'есу беларускага драматурга Андрэя Макаёнка «Трыбунал»...

Жыццёва верагодны характары герояў А. Макаёнка, надзеленыя невычэрпнай воляй да жыцця, аптымізмам, задушэўнасцю і прастатой. Тэатр выказаў гэту блізкасць да народных, нацыянальных крыніц і ў трактоўцы вобразаў, і ў стылёвым вырашэнні, ва ўсім эмацыянальным гучанні спектакля...» («Комсомольская правда», 1972, 3 верасня).

Ёсць звесткі аб паспяховых сцэнічных увасабленнях трагікамедыі тэатральнымі калектывамі замежных краін. Так, напрыклад, яшчэ ў 1973 годзе пастаноўку «Трыбунала» ажыццявіў Дзяржаўны драматычны тэатр імя А. Вянгеркі ў Беластоку. Польскі друк высока ацаніў пастаноўку беластоцкіх артыстаў.

Трагікамедыя «Трыбунал» уключана ў школьныя праграмы, яна па-ранейшаму шырока ставіцца прафесійнымі і самадзейнымі тэатральнымі калектывамі. У 1974 годзе яна адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа.

*Сцяпан Лаўшук*

## ЗМЕСТ

**Макаёнак А.**

М 15 Збор твораў. У 5-ці т. Т. 1. П'есы./Прадм., укладанне і камент. С. С. Лаўшука.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 367 с., 4 л. іл., 1 л. парт.

Імя народнага пісьменніка Беларусі Андрэя Ягоравіча Макаёнка (1920—1983) шырока вядома, як вядома і яго драматургія: злабадзённая, дынамічная, вострасюжэтная, з сакавітым па-народнаму гумарам. У Збор твораў уключана багатая літаратурная спадчына пісьменніка. Змест першага тома складаюць п'есы «На досвітку», «Выбачайце, калі ласка», «Каб людзі не журыліся», «Лявоніха на арбіце», «Зацюканы апостал», «Трыбунал».

$М\frac{4702120200-020}{М302(05)-87}107-86$ ББК 84Бел7

*Андрей Егорович Макаенок*

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ПЯТИ ТОМАХ

Том 1

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *П. З. Шаўцоў*. Мастак *Ю. М. Цюрын*. Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*. Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*. Карэктар *Т. В. Трубач*.

ІБ № 2468

Здадзена ў набор 11.02.86. Падп. да друку 12.11.86. АТ 00705. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 19,32+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 20,27. Ул.-выд. арк. 21,21. Тыраж 7000 экз. Зак. 2196. Цана 1 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.